УДК 392.51 (476.2)
ББК 63.521 (4Беі – 4 Гом) – 534
В99

Серыя заснавана ў 2008 г.

Рэцэнзенты:
загадчык аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў ДНУ “Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі”, доктар філалгічных навук, прафесар А.У. Марозаў, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела народазнаўства ДНУ “Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі”, доктар гістарычных навук Г.І. Каспяровіч

**Вясельная** традыцыя Гомельшчыны : фальклорна-этнаграфічны зборнік / Укладанне В.С. Новак; Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. – Мінск : Права і эканоміка, 2011. – 485 с. – (Серыя “Гуманітарныя навукі”)
ISBN 978-985-552-029-1.

У кнізе прадстаўлены атрыманыя ў палявых экспедыцыях сучасныя запісы па вясельнай абраднасці жыхароў Гомельшчыны.

Вяданне адрасуецца фалькларыстам, культуролагам, работнікам устаноў адукацыі, студэнтам філалгічных і іншых гуманітарных спецыяльнасцей.

**УДК 392.51 (476.2)**
**ББК 63.521 (4Беі – 4 Гом) – 534**

**ISBN 978-985-552-029-1**

## *Рэгіянальна-лакальныя асаблівасці вясельнай традыцыі Гомельшчыны: сватанне*

Яскравым узорам бытавання агульнаэтнічнага фальклору і яго ўзаемаадносін з рэгіянальнай фальклорнай традыцыяй з'яўляецца вяселле. Аб'ектыўны факт бытавання рэгіянальных асаблівасцей вясельных традыцый Беларусі дае падставы сцвярджаць, што гэта тая натуральная форма, у якой існуе агульнабеларускае вяселле. Рэгіянальныя адметнасці датычаць як у цэлым структуры вяселля беларусаў, так і асобных абрадавых момантаў песеннага суправаджэння, сістэмы міфалагічных прыкмет і павер'яў. Ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі традыцыйнае вяселле складаецца з такіх абрадавых момантаў, як сватанне, заручыны, зборная субота, пасад, каравай, вясельнае застолле ў хаце жаніха і нявесты, паслявясельная частка.

Вясельная традыцыя на Гомельшчыне адрозніваецца яркімі самабытнымі рысамі і надзвычай устойліва захоўваецца ў жывым бытаванні. Зробленыя запісы вясельнай абраднасці ў розных раёнах Гомельскай вобласці дазваляюць зрабіць вывад аб тыповым агульнапалескім характары вясельнага сцэнарыя і песеннага рэпертуару, а таксама аб спецыфічных лакальных праявах бытавання вясельнай традыцыі. Хоць агульная структура палескага вяселля не разыходзіцца з агульнабеларускім вяселлем, аднак назіраецца карціна багатай яго варыянтнасці не толькі ў межах асобных раёнаў, але і вёсак. Пярэсты характар бытавання вясельнай традыцыі, напоўненай у кожным канкрэтным выпадку непаўторным зместам, дазваляе сцвярджаць факт самабытнасці вясельнага жанру ў дачыненні да пэўнага геаграфічнага раёна.

Прывядзем прыклады рэгіянальна-лакальных адметнасцей такога абрадавага этапу беларускага вяселля, як сватанне. Напрыклад, своеасаблівым сімвалам згоды на шлюб на тэрыторыі Гомельшчыны былі наступныя абрадавыя дзеянні: дзяўчына калупала ў сцяне мох паміж бярвеннямі (Жыткавіцкі раён, в. Верасніца); адразу разам разразалі два боханы хлеба – той, што прынеслі з боку жаніха, і той, што быў прынесены з боку нявесты (Хойніцкі раён, в. Пагоннае); дзяўчына рассцілала перад сватамі вышыты ёю ручнік (Жлобінскі раён, в. Малыя Казловічы); маладая давала сватам ручнікі, якія сама вышывала (Акцябрскі раён, в. Лескі); сватоў запрашалі за стол і частавалі "першай чаркай з гарэлкі жаніха" (Кармянскі раён, в. Багданавічы); "дзяўчына павінна была прыняць ад свата хлеб і соль" (Акцябрскі раён, в. Ляскавічы); калі дзяўчына згодна на шлюб, то яна "дарыць бацькам жаніха ручнік і хустку, а жаніху – бутэльку з жытам" (Брагінскі раён, в. Буркі).

Сярод цікавых звычаяў, звязаных са сватаннем у вёсках Рэчыцкага раёна, можна вылучыць наступныя: калі маладая не давала згоды на шлюб, то ў час сватання выносілі гарбуз (в. Холмеч, Вятхінь, Капань), "вешалі гарбуз на плот" (в. Ровенская Слабада), вярталі назад прынесены сватамі хлеб (в. Левашы); калі сваты дасягнулі дамоўленасці аб вяселлі, то мяняліся хлебам (в. Холмеч), калі нявеста згодна выйсці замуж, то "падыходзіць да стала, на яком стаіць бутэлька з гарэлкай, прывезеная бацькамі жаніха, і развязвае красную лентачку" (в. Зашчоб'е); разразае хлеб сватоў (в. Ліскі), калі "ішлі ў сваты, то звязвалі вілкі, штоб жылі дружна" (в. Левашы). Іншы раз падчас сватання ў вёсцы Зашчоб'е, калі маладая не згодна на шлюб, то "ставяць сватам на стол гарбуз". У вёсцы ж Капань у такім выпадку "выстаўлялі гарбузу за парог".

Паводле экспедыцыйных запісаў, зробленых па сватанні як важным этапе вясельнай абраднасці ў г. Мазыр, калі маладая давала згоду на шлюб, то "ручнікі вешае сватам" (г. Мазыр), а калі не згодна, то выносяць сватам гарбуз: "во як не захоча, так гарбузу кладзе" (г. Мазыр); "выкачвалі цераз парог гарбуз" (г. Мазыр). Паводле ўспамінаў Таццяны Аляксандраўны Целяпун, 1916 г.н., гэта быў звычай "сыры гарбуз".

Адметная асаблівасць сватання на Лоеўшчыне – бутэлька гарэлкі, перавязаная "чырвонай або розавай лентай з бантам", якую прыносілі сваты. Як сведчаць жыхары, такі звычай быў шырока распаўсюджаны ў іх мясцовасці (вв. Сінск, Бывалькі, Дзяражычы, Вулкан, Каўпень і інш.).

Калі нявеста была згодна выйсці замуж, то выконвалі наступныя дзеянні: яна перараазала хлеб папалам (г.п. Лоеў, вв. Бывалькі, Вулкан), адорвала падарункамі сватоў (в. Дзяражычы), уласна вышытымі ручнікамі (в. Крупейкі), бацькі маладой запрашалі сватоў за стол (в. Каўпень), прымала хлеб ад хроснага бацькі жаніха (в. Пабядзіцель). Часам у знак згоды бацькі нявесты і сваты выпіваюць "па першай чарцы-заручыны" (Лоеўскі раён, в. Карпаўка). Калі ж дзяўчына не хацела ісці замуж, то яна выходзіла ў апранутым навыварат кажусе (в. Малінаўка), выносіла сватам "гарбузу вараную" (вв. Мохаў, Дзімамеркі і інш.) альбо пачынала месці падлогу ў хаце, што таксама сведчыла пра тое, што яна адмовіла сватам.

У в. Ляскавічы Петрыкаўскага раёна падчас сватання адбываліся сімвалічныя дзеянні з лапцямі: хлопец адкрываў дзверы сенцаў і кідаў лапці, прыгаворваючы: “Шуры-буры, лапці ў хату!” Калі дзяўчына была згодна выйсці замуж, то паднімала лапці і запрашала сватоў у хату.

Сватанне ў вёсках Нараўлянскага раёна таксама мае адметную мясцовую спецыфіку. Адзначым, што запоіны і сватанне ў в. Галоўчыцы Нараўлянскага р-на не адрозніваліся тэрміналагічна. Выпітая чарка гарэлкі найперш маладымі з’яўлялася сімвалам згоды на шлюб.

У в. Агароднікі Калінкавіцкага раёна сімвалам згоды на шлюб з боку нявесты з’яўляліся падарункі, якія “падае маладая бацькам, калі дае згоду (ручнік для бацькі, хустку для маці)”.

Сімвалам згоды на шлюб у в. Чыркавічы Светлагорскага раёна з’яўлялася такое сімвалічнае дзеянне, як “разразанне пірага нявестай”.

Адзначым, што ўмовай нязгоды на шлюб у в. Карма Добрушскага раёна з’яўлялася ступа, якую выкочвалі пад ногі сватоў: “Калі дзяўчына не хацела замуж, то давала хлопцу ступу. Яна валяла яе пад ногі сватам, каб яны выйшлі з дому”. У в. Жгунь пры ўмове нязгоды выходзіць замуж выносілі гарбуз: “Тут ужэ нявеста выхадзіла. Еслі заартачыцца, гарбуз выносіла”. У в. Крупец, калі была дасягнута згода паміж маладымі, то сватам падносілі каравай: “Теща пекла каравай и когда приходили сваты, то она подносила его зятю, а сваты пожимали один одному руки”. Калі ж будучы зяць не падабаўся, то “под ворота ложили гарбуз. Выпітая чарка гарэлкі і прынятыя ад сватоў вянок, хлеб-соль – сімвалы згоды на шлюб у в. Насовічы: “Я выпіла глыток з чаркі, адзелі мне вянок – гэта значыць, згодна ісці замуж. У гэтай мясцовасці выкінуты на вуліцу гарбуз – “значыць, не панравіўся жаніх”. У в. Стараселле, паводле сведчанняў інфарматараў, калі нявеста згодна выйсці замуж, то яна павінна разрэзаць прынесены сватамі хлеб: “Хлеб аддавалі нявесце. Калі нявеста разрэжа хлеб, значыць, яна згодна выйсці замуж”. Аналагічныя сімвалічныя дзеянні выконваліся пры ўмове згоды на шлюб і ў г.п. Терахоўка: “Сваты клалі хлеб на стол, звалі маладую: калі яна была сагласна на шлюб, то разразала булку папалам”. Сімвалам згоды на шлюб у в. Васільеўка падчас сватання з’яўляліся наступныя дзеянні: “калі ўжо сваты заходзяць у хату, то кладуць на стол хлеб, булку, як толькі цёшча возьме і адрэжа кусок, паложа, значыць, яна сагласна, а як хлеб забірае са стала і аддае ў рукі, значыць, усе сваты ідуць дамоў, не сядаўшы. Калі нявеста не згодна на шлюб, то жаніху прывязваюць чайнік, і той павінен выйсці з чайнікам, а тады ўжо хлопцы з яго смяюцца. Ну, хто што робіць. Хто з веніка матузку дае, хто чайнік, хто ступку”.

Як бачым, вясельная традыцыя Гомельшчыны, звязаная са сватаннем, – гэта ёсць не што іншае, як абагульненне лакальных асаблівасцей ў асобных вёсках і раёнах, што і стварае аб’ектыўную карціну сучаснага стану бытавання вясельнай абраднасці.

## *Мясцовая спецыфіка вясельнай абраднасці Гомельшчыны (на матэрыялах фальклору Гомельскага, Брагінскага і Веткаўскага раёнаў)*

Структура вясельнага абрадавага комплексу ў названых раёнах уключае кампаненты давясельнай, уласнавясельнай і паслявясельнай частак.

Варта адзначыць, што абавязковым этапам давясельнага перыяду ў вёсках Гомельскага раёна з’яўлялася сватанне, падчас якога адбываўся рытуальны дыялог паміж бацькамі нявесты і сватамі. У некаторых вёсках (напрыклад, Задораўка, Калініна) сватанне, запоіны і заручыны адбываліся, як адзначылі інфарматары, адначасова: “У нас запоіны, сваты і заручыны было адно і тое ж, усё было ўмесці” (запісана ў в. Калініна ад Хамяковай Анастасіі Васільеўны, 1927 г. н.).

У в. Аздзеліна, калі ўжо сватанне адбылося, то маладая абавязкова выконвала адметны рытуал – “дзелала рукапажацці і цалавала сватоў” (запісана ад Трышчанковай Домны Мітрафанаўны, 1921 г. н.). Затым яна перавязвала ручнікамі свёкра і іншых сватоў, што сімвалізавала яе згоду на шлюб. У в. Макаўе сімвалам згоды дзяўчыны на шлюб з’яўляўся разрэзаны ёй хлеб, прынесены сватамі: “Калі дзеўка была згодна, то яна разразала хлеб папалам” (запісана ад Сяргейчык Марыі Мікалаеўны, 1936 г.н.).

Калі дзяўчына не была згодна выходзіць замуж, то, напрыклад, у в. Калініна, яна павінна была вынесці гарбуз і пакласці на парог: “Ну, еслі, напрымер, дзеўка не хоча за гэтага хлопца замуж ісці, так яна – гарбузу. Яны як сталі на парог. Дак яна возьме гарбузу. Поўную гарбузу, абыкнавенную” (запісана ад Філонавай Ганны Фёдараўны).

Адметнай дэталлю ў сватанні на тэрыторыі Гомельскага раёна з’яўляўся рытуал выкупу “пеўня”, якога рыхтуюць спецыяльна, “шыюць із ленты такога, прышываюць, а тады ўжо закрыюць насавікам і выкупляюць, іхнія ўжэ сваты кідаюць грошы дзеўкам: «От колькі там ужэ

захадзіла, ну, таргуюцца, тады ўжэ кінуць яны, надзяюць маладому на галаву ета, свяцілка абрывае етага пеўня»" (запісана ў в. Грабаўка ад Каменка Маргарыты Міхайлаўны, 1944 г. н.).

Аналагічны рытуал з "пеўнем" падчас сватання адбываўся і ў в. Маркавічы: "… ужо "пятуха" бяруць пад паху, і дзеўкі гавораць: "Вот і купляйце ўжо петуха". Ну, і купляюць" (запісана ад Юрасёвай Анастасіі Яфімаўны, 1922 г. н.).

У в. Пракопаўка сватанне называлася магарычом: "Як выходзіць дзеўка замуж, прыходзяць піць магарыч увечары… Бацька, матка прыходзяць мужыковы і п'юць магарыч, сватаюць маладую" (запісана ад Мядзведзевай Любові Акімаўны, 1933 г. н.).

Зборная субота ў вёсках Гомельскага раёна мела назву "завіванне ёлачкі": "Увечары таго ж дня завівалі ёлачку. Падругі нявесціны вілі яе. Вешалі цвяты і другое што-нібудзь на ёлачку, украшалі яе, адным словам. Калі вілі ёлачку, то песні пелі… Калі свілі ёлачку, то яна аставалася ў хаце нявесты. Абязацельна, штоб ета ўсё дзелалі ў нявесцінай хаце" (запісана ў в. Калініна ад Хамяковай Анастасіі Васільеўны, 1927 г. н.).

Паводле сведчанняў жыхаркі в. Рудня Марымонава, перасяленкі з в. Халочча Чачэрскага р-на, рытуал выкупу маладой адбываецца менавіта ў становішчы пад ёлкай, пры гэтым дзяўчаты імкнуліся як мага хутчэй сесці на гэтае месца, дзе была маладая, каб "тожа пайсці замуж. Пад ёлкай садзілі толькі тую, якую вязлі к вянцу" (запісана ад Драбышэўскай Соф'і Трыфанаўны, 1939 г. н.).

У в. Урыцкае таксама рыхтавалі "ёлку" ("У лесе вырубілі ёлку, цвятоў надзелалі і цвятамі наражаюць") і ў хаце жаніха, і ў хаце нявесты: "Маладая і падружкі ставяць ёлку на стале, забіваюць яе ў калодку крэпка, каб яна стаяла, а тады ўжо збіраюцца каля стала і спяваюць песні маладой, пакуль жаніх прыедзе" (запісана ад Нядолі Марыі Паўлаўны, 1947 г. н.). Пры гэтым дзяўчаты стараліся хутчэй схапіць і адламаць вярхушку ёлкі: "Хто атламае, той быстрэй замуж выйдзе" (запісана ад Нядолі Марыі Паўлаўны, 1947 г. н.).

Важнымі момантамі ў комплексе вясельнай абраднасці Гомельскага раёна з'яўляюцца падрыхтоўка і дзяльба каравая. Апошні абрадавы этап адбываўся ў хаце маладой, дзе абавязкова павінны былі паставіць пасярод стала ёлку, якую напрыканцы вяселля, "раздаўшы каравай", "ламалі і якой білі маладых, штоб былі здаровымі, прыткімі ў рабоце і не былі лянцямі" (запісана ў в. Аздзеліна ад Грышчанковай Домны Мітрафанаўны, 1921 г. н.).

Паслявясельную частку ў вёсках Гомельскага раёна называлі па-рознаму: "вадзіць пярэзвы" ("Як дзень, сабіраюцца к нявесце, а тады назаўтра – к жаніху" (в. Бальшавік)), "пята" ("А калі ўжо последніх гасцей угасцілі, ідуць к дзеўцы, ловяць курыцу, скубуць, вараць. Называецца гэта пята") (в. Брылёва), "драць курыцу" ("На другі дзень свадзьбы дралі курыцу. Пераадзяюцца ўсе, ідуць па сялу, дзе курыцу паймалі, галаву адкруцілі ёй… Бяруць палку длінную такую, за ногі звяжуць, галаву скруцяць, павесяць…"), "на гарэлыя пірагі" ("Чэраз нядзелю после свадзьбы едуць, напрымер, я сына свайго жаніла, сваха прыгласіла, прыязжайце на "гарэлыя пірагі") (в. Глыбоцкае), "цыгане" ("У нас казалі – цыгане ходзяць: "Хавайце куры. Бо ўжо цыгане ходзяць") (в. Даўгалессе), "курыца" і "пярэзвы" ("Патом нявесціны госці едуць да жаніха. Гуляюць там. На другі дзень ловяць курыцу. Яе смаляць і вараць з яе суп. На трэці дзень збіраюцца і ходзяць у пярэзвы") (в. Задораўка), "банкеты" ("Калі два дні пагулялі, то пасля цэлую нядзелю вадзілі бяседу. Гэта калі хто-небудзь з жаніховай і нявесцінай радні шчэ гуляць хацелі, то дзелалі банкет") (в. Калініна), "разгрэбіны" ("На разгрэбіны гуляюць у гульні. Пяюць песні, танцуюць. Сваты гасцей запрашаюць у хату, за стол з пачастункамі і гарэлкай. З ліку гасцей выбіраюць жаніха і нявесту. Дзяўчына пераапранаецца ў мужчыну, а мужчына – наадварот") (в. Рудня-Марымонава), "атводзіны" ("Прыехалі к маткі. Матка зноў пасадзіла за стол. Яны прыйшлі, як кажуць, у атводзіны. Гулялі, танцавалі. Скублі ды варылі суп з кураціны. Раскладалі агонь і смалілі курыцу, і скакалі чэраз агонь") (в. Сямёнаўка) і інш.

Кожны з этапаў вясельнай абраднасці ў вёсках Гомельскага раёна вылучаецца адметнымі рытуаламі, разнастайнымі па тэматыцы і ў жанравых адносінах песнямі, багатай сістэмай міфалагічных уяўленняў, адлюстраваных у прыкметах і павер'ях.

Для структуры вясельнага абраду Брагінскага раёна (в. Савічы) характэрны такія этапы, як сватанне, магарыч, "оцьведы", змовіны, каравай, прыезд маладога да маладой, вянчанне, вясельнае застолле ў маладога, паслявясельная частка ("па бяседах"). Вясельныя этапы ў в. Залессе – гэта сватанне, другі дзень вяселля, прыезд маладога да маладой, завіванне маладой, трэці дзень вяселля; у в. Калыбань – сватанне, першы дзень вяселля, другі дзень вяселля, цыганы.

На тэрыторыі Брагіншчыны ў сваты прыходзілі ў суботу вечарам, праўда, колькасць сватоў у розных вёсках была неаднолькавай. Іншы раз колькасць удзельнікаў гэтага вясельнага этапу ахоплівала 15-40 чалавек: “Пасля вячэры сватоў перавязваюць палаценцамі, жанок перавязваюць платкамі, дзявок – плаццямі і дагаворваюцца аб вяселлі”. У вёсцы Калыбань Брагінскага раёна сваты прыходзілі звычайна ў пятніцу, сватанне ж называлася магарычом, на якім прысутнасць нявесты была абавязковай. Як паведаміла жыхарка гэтай вёскі Г. М. Лісіца, “у нядзелю маці маладога збірае кумоў, сясцёр і ідзе на пагляднае, нясуць падарункі нявесце і дагаворваюцца аб вяселлі”.

Своеасаблівым было сватанне і ў вёсцы Савічы Брагінскага раёна. Як адзначыла М. М. Кудан, у сваты хадзілі ўтраіх – жаніх і два добра знаёмыя мужчыны. Калі ж ужо высватаюць нявесту, то клікалі хросных. Дзяўчына не адразу давала згоду на шлюб, “дзеля смеху”, як растлумачыла інфарматар, “прычэплівалі да хлясціка фуфайкі жаніха коўш з вадой, штоб пацёг па хаце”, падкрэсліваючы гэтым, што “дзеўка не хацела ісці замуж”. Такое абрадавае дзеянне выконвалі ўсе тры сваты. Сімвалам жа згоды на шлюб з’яўляўся разрэзаны нявестай пірог. Паводле звестак М. М. Кудан, “як разрэжа адразу, добра жыць будуць маладыя, а калі там рэжа ды яшчэ падумае, да і зноў і другі, і трэці раз, то ўжэ кажуць, што пагана будуць жыці”. Лакальнай адметнасцю вясельнай традыцыі ў вёсцы Савічы з’яўляўся магарыч, калі ў хаце нявесты збіраліся яе блізкія родзічы (родныя цёткі, дзядзькі, хросная маці, хросны бацька) і частаваліся. Асобным этапам у давясельным перыядзе з’яўляліся “оцьведы”, калі ў госці да маладой прыходзілі родзічы жаніха і прыносілі падарункі. Паводле ўспамінаў М. Т. Кузьмянок з вёскі Міхнаўка Брагінскага раёна, жаніх і нявеста перад тым, як выпіць першую чарку, павінны былі сказаць: “Мама і папа, давайце вып’ем”. Гэта абазначала, што жаніх такім чынам звяртаўся да бацькоў нявесты, а нявеста – да бацькоў жаніха, выказваючы сваю згоду на шлюб. Калі нявеста была згодна на шлюб, то “пераразала хлеб, які прыносілі сваты, адну яго палавінку выносіла на вуліцу, дзе звычайна збіраліся яе сяброўкі, і кідала хлеб уверх. Было пакое павер’е: хто першы зловіць гэты хлеб, той наступны пойдзе замуж”.

Падчас сватання ў в. Пажаркі Брагінскага раёна адбываўся рытуал абменьвання хлебам паміж бацькамі маладых. Сімвалам згоды на шлюб з’яўляўся разрэзаны маладой “хлеб папалам”. Інфарматары пацвердзілі дзейснасць абраду дзяльбы каравая як сімвала замацавання шлюбу ў сістэме вясельнай абраднасці.

Асноўныя рытуалы вясельнага застолля ў маладой у в. Савічы – гэта завіванне маладой, благаслаўленне маладых. Паслявясельная частка ў в. Савічы мела назву “па бяседах” – удзельнікі вяселля прымалі на сваіх падвор’ях гасцей: “Спачатку ідуць к хросным, тады бяседа ўжо ідзе к бабам, а тады ўжэ к дзядзькам, цёткам і другім гасцям”. Песенныя тэксты, запісаныя ў в. Нудзічы Брагінскага раёна, ілюструюць асноўныя абрадавыя вясельныя моманты і рытуалы: напрыклад, заручынныя песні (“Заручаеш мяне, мамка, заручаеш”), песні на пасад (“Станавіся, радзіначка, уся ў рад”), каравайныя (“Караваю, караваю, я ля цябе добра йграю”) і інш.

У каравайнай абраднасці меў месца цікавы рытуал “пасыпання маладых шышачкамі з цеста”. Прыезд маладога да маладой вызначаўся рытуалам выбару сапраўднай маладой з ліку падстаўных нявест.

Падрыхтоўка каравая ў вёсках Брагінскага раёна суправаджалася кароценькімі песенькамі, якія ілюстравалі асноўныя абрадавыя этапы, напрыклад, калі рыхтуюць цеста для каравая “замужнія паважаныя шчаслівыя жанчыны, якія добра жывуць”, то прыгаворваюць:

*Із сямі крыніц вада,*
*Із сямі пшаніц мука,*
*Загранічнае масла*
*І яец паўтараста* (в. Савічы).

Каравайніцы, рашчыняючы цеста для абрадавага вясельнага хлеба, адносіліся да гэтай справы надзвычай адказна і сур’ёзна. Ад якасці выпечанага каравая залежаў лёс маладых, шчасце ў іх сямейным жыцці. Важнасць каравайных рытуалаў пацвярджалі і песенныя радкі, якія гучалі падчас самой выпечкі каравая:

*А, караваю-караваю,*
*Я ля цябе добра граю.*
*Хачу цябе не спаліці*
*Да ўвесь род абдзяліці* (в. Савічы).

Рытуал выкупу пасагу нявесты адбываецца напрыканцы вясельнага застолля ў хаце маладой, а ўжо на вяселлі ў хаце маладога “маладую пераводзяць у жаноцкі стан”: “Знімаюць з галавы маладой вянок з лентамі, вешаюць яго на ікону, а на галаву маладой адзяваюць хустку, стукаюць маладога з маладой галовамі, каб жылі

ў саглассі” (в. Пажаркі). Паслявясельная частка ў гэтай мясцовасці мае назву “цыганы”.

У структуры вясельнай абраднасці Веткаўшчыны выразна вылучаюцца давясельная, уласна вясельная і паслявясельная часткі. Давясельны перыяд, як сведчаць фактычныя матэрыялы, прадстаўлены такімі абрадавымі кампанентамі, як сватанне, заручыны. Сярод адметных абрадавых этапаў Веткаўшчыны вылучаюцца “прапыткі” (в. Казацкія Балсуны), а таксама сватанне ў в. Барталамееўка мела назву “піць магарыч”. Запоіны як абрадавы этап, паводле фактычных матэрыялаў, вылучаліся ў сістэме мясцовай вясельнай абраднасці толькі ў некалькіх локусах (г. Ветка, в. Старое Сяло).

У в. Старое Сяло пасля сватання адбываліся запоіны (“заповіны”), на якіх афіцыйна аб’яўлялася аб шлюбе маладых. Сімвалам згоды на шлюб з’яўляліся наступныя дзеянні: абвязванне ручнікамі сватоў (“Калі бацька і маці згодны на шлюб, то яны абвязвалі сватоў” (запісана ў в. Малыя Нямкі ад Азаранка Ганны Іванаўны, 1932 г.н.)); накрыванне на стол (“Ежалі нявеста сагласна, дак стол накрываюць” (запісана ў в. Радуга ад Рыбачкінай Пелагеі Рыгораўны, 1933 г.н.)). Згоду маладой на шлюб сімвалізуюць і выстаўленыя на стол сватамі (затым і бацькамі маладой) хлеб-соль, гарэлка (“Калі дзяўчына згодна, то сваты ставяць на стол хлеб-соль, гарэлку. Бацька і маці дзяўчыны таксама ставяць гарэлку і закуску” (запісана ў в. Казацкія Балсуны ад Каралёвай Валянціны Андрэеўны, 1928 г.н.)).

У в. Старое Сяло, калі прыходзілі сватаць дзяўчыну, то прыносілі з сабой вялікі гарбуз, і “як пусцяць у хату, а з той стараны нявеставы радзіцелі стаяць. І ежалі гарбуз схвацяць і паставяць на стол, то госці заходзяць” (запісана ад Малажэўскай Таісы Андрэеўны, 1934 г.н.).

Як бачым, прыняты бацькамі маладой падарунак у выглядзе гарбуза – сімвал згоды на шлюб у в. Старое Сяло. Аналагічныя дзеянні з гарбузом сімвалізавалі згоду на шлюб у в. Залаты Рог, пры гэтым “гарбуз кацяць ад парога к печы” (запісана ад Лук’яненка Вольгі Цімафееўны, 1935 г.н.). Калі ж нявеста не давала згоды на шлюб, то ў воз сватоў “лажылі звараны гарбуз” (запісана ў в. Старое Сяло ад Васільцовай Матроны Сяргееўны, 1925 г.н.) або “выкочвалі ці выносілі яго на вуліцу” (запісана ў в. Старое Сяло ад Мацюковай Ніны Данілаўны, 1930 г.н.), або гарбуз, які прыносілі сваты, “назад пусцяць, то ўсе расходзяцца і пара не састаіцца, значыць, ці нявеста не захацела, а ці, можа, і радзіцелі” (запісана ў в. Старое Сяло ад Малажэўскай Таісы Андрэеўны, 1934 г.н.).

Галоўным звычаем зборнай суботы на Веткаўшчыне было “завіванне ёлкі”: “Малады прыносіць у хату дзяўчыны дзве ёлкі і робіць крыжыкі, каб гэтыя ёлкі можна было паставіць… Дзяўчаты пачынаюць “віць” (упрыгожваць) ёлку. Упрыгожваюць рознакаляровай бумагай, шаўковымі лентамі, імкнуцца, каб ёлка была як мага больш прыгажэйшая і ярчэйшая” (запісана ў в. Казацкія Балсуны ад Каралёвай Валянціны Андрэеўны, 1928 г.н.). “Упрыгожаная ў зборную суботу “ёлачка” сімвалізавала дзявоцкасць маладой, яе харaство. Атрыбут уяўляў сабой невялікае дрэўца, нават яго вершаліну або галінку, прычым толькі зімой – яловую. Летам жа ў якасці “ёлачкі” выступалі галінкі пладовых дрэў” [1, с. 165].

Адзначым, што гэты прадметны атрыбут (ёлка) з’яўляецца ў цэнтры ўвагі сватоў, якія павінны былі яго выкупіць і якія ахоўвалі ёлку, імкнуліся, каб “маладая не зламала верх, а яна тады стараецца, штоб зламаць верх” (запісана ў в. Данілавічы ад Дзмітрачковай Тамары Кузьмінічны, 1936 г.н.). У дадзеным мясцовым этнаграфічным кантэксце зламаная вярхушка ёлкі сімвалізуе яе верхавенства ў сям’і: “Ёлку, як нявеста зламае, то будзе верх імець над мужыком” (запісана ў в. Данілавічы ад Дзмітрачковай Тамары Кузьмінічны, 1936 г.н.).

Паводле ўспамінаў Зоі Канстанцінаўны Кугаевай, 1938 г.н., з в. Стаўбун, “маладая ідзе ўжо замуж, сабірае сваіх падруг, і на той дзень вілі мы ёлку. Вот, як цяперака ўсюды на Новы год ёлкі ўкрашаюць цацкамі, а мы тады маладой украшалі із бумаг, усякія былі бумагі, прамакашкі ў цетрадзях усякія ж былі: і жоўтыя, і розавенькія, галубенькія, і трубачкамі такімі прадаваліся, бумага цвятная, і мы выразалі самі цвяты і ўкрашалі тую ёлку. А на вярху ёлкі дзелалі такі ладны крэст”. У в. Барталамееўка пасля таго, як адбыўся рытуал выкупу ёлкі, дружына жаніха забірала маладую і ад’язджала да маладога. У гэты час, каб засцерагчы маладую ад зглазу, бацькі павінны былі яе “ўкалоць іголкай” (запісана ад Лупекінай Арыны Яўцехаўны, 1923 г.н.).

У в. Вялікія Нямкі рытуал “выкупу ёлкі” адбываецца ў становішчы “пад ёлкай, дзе маладая. Выкуплівае ёлку і маладую жаніх. Даюць па чарцы і закуску” (запісана ад Дрыгуновай Анастасіі Канстанцінаўны, 1912 г.н.). У мясцовай традыцыі было вядома наступнае павер’е, звязанае з ёлкай: “Падругі прашчаюцца з маладой, працягі-

ваюць стол, на якім ёлка, каб не засядзецца ў дзеўках" (запісана ад Драгуновай Анастасіі Канстанцінаўны, 1912 г.н.). Іншы раз выкуп ёлкі нагадваў сабой своеасаблівы паядынак, які адбываўся паміж дружынай жаніха і падружкамі нявесты: "У нас як выкуплялі, дак сцякло пабілі, а во ў етай хаце – дзверы выбілі. Жаніх ідзе са сваімі хлопцамі аж да бітвы" (запісана ў в. Радуга ад Рыбакінай Пелагеі Рыгораўны, 1933 г.н.).

У структуры веткаўскага вяселля вылучаецца і такі абрадавы момант, як пасад, "адзін з самых старадаўніх вясельных абрадаў, саджэнне жаніха і нявесты на дзяжу, пакрытую вывернутым кажухом (пазней падушкай або ручніком). Абрад захаваў рэшткі язычніцкай рэлігіі, старажытных славян: пакланенне культу хатняга ачага, духам продкаў, богу пладавітасці і земляробства" [2, с. 390].

Звычайна, калі адбываўся пасад маладой, то вёў яе брат, пры гэтым выконвалі наступныя песенныя радкі:

Завядзі мяне, мая мамачка,
За сталы цясовыя,
Абсадзі мяне, мая мамачка,
Дружкамі-баярамі (запісана ў в. Барталамееўка ад Кузьмянковай Аляксандры Міхайлаўны, 1909 г.н.).

Прызначэнне рытуальных дзеянняў, звязаных з пасадам, – забеспячэнне дабрабыту і шчаслівага сямейнага жыцця маладых. Звычайна ў вёсках Веткаўскага раёна садзілі на кажух, вывернуты поўсцю наверх, і маладую, і маладога, пры гэтым сваякі маладой клалі кажух такім чынам, каб яго варатнік быў бліжэй да маладой, у такім выпадку, па народных павер'ях, яна будзе галоўнай у сям'і (запісана ў в. Шарсцін ад Гаўрыкавай Агаф'і Антонаўны, 1930 г.н.).

Каравайны абрад – адзін з важнейшых вясельных этапаў вяселля Веткаўшчыны. Рыхтавалі каравай (вясельнае абрадавае печыва) і ў хаце маладой, і ў хаце маладога. Паводле сведчанняў жыхароў в. Залаты Рог, Старое Сяло, звычайна сама "маці пекла каравай" (запісана ад Лук'яненка Вольгі Цімафееўны, 1935 г.н.), "каравай пяклі ў хаце нявесты. Ну, у мяне пекла сама мамка" (запісана ад Мацюковай Ніны Данілаўны, 1930 г.н.).

Абрад дзяльбы каравая адбываўся і ў маладой, і ў маладога. Першай да каравая падыходзіла маці і гаварыла:

Прызываю на Васяў каравай,
Прызываю на Танін каравай.
Маці Божая, прыйдзі первая
На нашых дзетак каравай
І ўзялі харошае шчасце і харошую долю.
Ай, нашым маладым Бог дарогу перайшоў,
Яркія свечы запаліў.
Шчасце-долечку ж удзяліў (запісана ад Кугаевай Зоі Канстанцінаўны, 1938 г.н.).

У шматлікіх каравайных пажаданнях знайшлі адлюстраванне народныя маральна-этычныя нормы, жыццёвыя філасофскія погляды: "Скольки ў лесе пенькоў, штоб у цябе стольки дочак. Бульбы падполле – дзяцей застолле. Бочку жаб, штоб не любіў другіх баб. Жалей, як душу, а калаці, як ігрушу" (запісана ў в. Неглюбка ад Саломеннай Ульяны Мікалаеўны, 1932 г.н.).

Калі дзеляць каравай, то спачатку першыя яго кавалкі даюць маладым і назіраюць за тым, "хто з іх, адкусіўшы каравай, будзе верхаводзіць у сям'і". У в. Данілавічы "каравай даюць маладым ламаць ілі кусаць. Хто больш укусіць, жаніх ці нявеста, той будзе больш верх імець" (запісана ад Дзмітрачковай Тамары Кузьмінічны, 1936 г.н.)

Паслявясельная частка ў вёсках Веткаўскага раёна была вядома пад рознымі назвамі: "курыца" (в. Малыя Нямкі), "драць курыцу" (в. Перадавец). "карэнне драць" (в. Данілавічы), "банкеты" ("банкеты вадзіць") (вв. Радуга, Неглюбка, Шарсцін, Казацкія Балсуны, г. Ветка). Змест паслявясельнай часткі складалі дзеянні жартоўна-парадыйнага характару, напрыклад, хадзілі па дварах і збіралі курэй, з якіх варылі суп. Як правіла, вяселле працягвалася яшчэ цэлы тыдзень, "ва ўсіх родзічэй гулялі" (запісана ў в. Барталамееўка ад Кузьмянковай Аляксандры Міхайлаўны, 1909 г.н.).

Як бачым, структура вясельнай абраднасці Веткаўшчыны мае агульнаэтнічную аснову, уключае тыя ж абрадавыя этапы, якія характэрны для класічнага беларускага вясельнага абраду, а таксама адметны характар маюць асобныя кампаненты і звязаныя з імі міфалагічныя ўяўленні ў сістэме мясцовых варыянтаў веткаўскага вяселля.

Літаратура

1. Міфалогія беларусаў: Энцыкл. слоўн. / склад. І. Клімковіч, В. Аўтушка; навук. рэд. Т. Валодзіна, С. Санько. – Мн. : Беларусь, 2011. – 607 с.
2. Этнаграфія Беларусі: Энцыкл. Беларус. Сав. Энцыкл.; Рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. – Мн. : БелСЭ, 1989. – 575 с.

## Паслявясельная частка Гомельшчыны: рэгіянальна-лакальныя асаблівасці

Адной з галоўных заканамернасцей сусветнага фальклору з’яўляецца бытаванне этнічных з’яў у іх шматварыянтнай тэматычнай і рэгіянальна-лакальнай разнастайнасці. Доказам прыведзенага тэзіса з’яўляюцца палявыя экспедыцыйныя матэрыялы, звязаныя з паслявясельнай часткай, якая вызначаецца адметнымі структурнымі кампанентамі. Запісы звестак па гэтым вясельным перыядзе дэманструюць варыянтнае багацце яго назваў: "гуляць разгуліны", "гуляць банкеты" (Кармянскі раён, вв. Багданавічы, Сямёнаўка), "вадзіць цыганаў" (Брагінскі раён, в. Калыбань; Гомельскі раён, вв. Маркавічы, Глыбоцкае), "пірагі, госці" (Жыткавіцкі раён, вв. Любавічы, Хільчыцы), "хвост" (Ельскі раён, в. Валаўск; Петрыкаўскі раён, в. Ляскавічы), "гуляць куру" (Нараўлянскі раён, в. Галоўчыцы), "крошкі", "гуляць пятухі" (Жлобінскі раён, вв. Малевічы, Чырвоны Бераг), "карэнне" і "банкет", "пята" (Веткаўскі раён, вв. Данілавічы, Стаўбун), "пярэзвы" (Добрушскі раён, в. Кругавец), "ламаць печ" (Буда-Кашалёўскі раён, в. Кашалёў), "збірацца на папялішча" (Хойніцкі раён, в. Дубровіца; Добрушскі раён, в. Васільеўка), "гуляць зайца" (Хойніцкі раён, в. Алексічы) і інш. Нават сам факт разнастайнасці прыведзеных назваў паслявясельнай часткі сведчыць, якім самабытным характарам сатырычных сродкаў, дасціпнасцю гумару, назіральнасцю вылучаліся беларусы, калі парадыйна ўзнаўлялі абрадавыя этапы вяселля ў яго заключным моманце. Адзначым, што мясцовай асаблівасцю паслявясельнай традыцыі на Ельшчыне з'яўляецца "хвост", сутнасць якога заключалася ў тым, што ў панядзелак пасля вяселля госці маладога збіраліся ў яго хаце, а госці маладой прыходзілі ў хату да яе. Пры гэтым яны звычайна пераапраналіся: мужчыны – у жаночае адзенне, а жанчыны – у мужчынскае. У якасці прадметнай вясельнай атрыбутыкі выкарыстоўваліся венік, які сімвалізаваў ёлку, спецыяльна падрыхтаваны каравай, а таксама прыносілі снеданне ("на жардзіну начапляюць і буракоў, і качаноў, і костак"). Удзельнікі паслявясельнай цырымоніі ўзнаўлялі асобныя вясельныя абрадавыя рытуалы, напрыклад, апявалі ёлку і завівалі мала-дых, выконвалі жартоўныя песні: “Под ёлкою спала, // Шышка туды ўпала. // Трэба коні нанімаці, // Стуль шышку выймаці (запісана ў в. Валаўск ад Жураўлёвай М.М., 1932 г.н.). Прыведзеная жартоўная частка вяселля ўзнаўляе асноўныя вясельныя этапы ў камічна-смяшлівай, іранічна-грубаватай форме. Карнавальны характар паслявясельнай цырымоніі меў на мэце абараніць маладых ад уздзеяння звышнатуральных сіл.

Для паслявясельнай часткі выселенай вёскі Галоўчыцы Нараўлянскага раёна характэрны быў звычай "гуляць куру". Сутнасць гэтага этнафразеалагічнага выразу, калі звярнуцца да абрадавага кантэксту, заключалася ў тым, што вясельнікі з боку маладога наведваюць падвор'е маладой: "Тую жывёліну, што ўкралі на падворку ў маладое, кладуць» на насілкі, і чатыры мужчыны нясуць яе да рэчкі, там забіваюць, абсмальваюць і зноў кладуць на насілкі і нясуць у двор. Гэта вельмі смешна, калі нясуць тую куру, яшчэ жывую, яна вылятае, а тыя, хто йдзе за мужчынамі, пачынаюць яе лавіць. Бывае проста носяць куру ўкруг двара, калі ён у дастаткі, а потым на двары і пякуць. Кожнаму з гасцей даюць кусочак тое "куры" (запісана ад Шыкун Л.Я., 1934 г.н.).

Паслявясельны перыяд у в. Данілавічы Веткаўскага раёна меў такія назвы, як "Банкет" і "Карэнне". Адметнасць другога дня вяселля і звязаных з ім рытуалаў заключалася ў тым, што яно працягвалася не ў хатах маладой і маладога, а ў хросных бацькоў і іншых гасцей. Невыпадкова, як адзначылі інфарматары, "банкет" мог працягвацца яшчэ тыдзень. Заключным вясельным этапам з'яўлялася "карэнне", калі госці збіраліся ў хаце маладой. Паводле ўспамінаў Т.І. Дзмітрачковай, 1913 г.н. з в. Данілавічы, пераапранутыя госці "раскладвалі вогнішча, ставілі чугун, лавілі курыцу, абдзіралі яе і варылі ў чугуне, пер'е жанчыны кідалі на галавы мужчынам". Пераапрананне ў жабракоў, звяроў – асаблівасць мясцовай паслявясельнай традыцыі.

Трэці дзень вяселля ў в. Стаўбун Веткаўскага раёна называлі "пята". Паводле тлумачэнняў інфарматараў, "малады і маладая даюць гасцям петуха, на вуліцы яго скубуць і вараць суп. Ён не паспел зварыцца, але яны ўсё роўна ядуць яго, і ўсё гэта з жартамі, са смехам" (запісана ад Кебікавай Марыі Фёдараўны, 1927 г.н.).

У панядзелак вечарам пасля вяселля ў в. Алексічы Хойніцкага раёна "гулялі зайца" ў хаце маладога. На вяселлі выкананне песень пра зайца нярэдка было звязана з абрадам шлюбнай ночы і вызначэннем "чэснасці нявесты". Прадуцыравальная і дзетанараджальная сімволіка зайца знаходзіць выразнае пацвярджэнне ў сатырычных акцыянальных кампанентах мясцовай гульні: "Адзяюцца некалькі чалавек ва ўсё

рванае, смешнае, чудзяць. Гэта цыгане. Бегаюць у розныя хаты, хватаюць, хто што: яечкі, хлеб, кур. Адзін чалавек перадзяваецца ў кажух – гэта заяц. Цыганцы круцяць ляльку. Бегаюць па двары, абліваюцца гарэлкай. Заяц уцякае, хто-небудзь страляе ў зайца, ён падае. Зайца кладуць на стол. Абліваюць гарэлкай. Потым лупяць, ён ляжыць. Скідаюць кажух, шапку (аблупліваюць). Заяц ускоквае і танцуе на століку. Госці ідуць у хату "есці зайчаціну" (запісана ад Бандарчук Алены Яраславаўны, 1928 г.н.).

У в. Савічы Брагінскага раёна пасля вяселля хадзілі "па бяседах": "А адусюль, дзе маладую забралі, так ужэ к цёшчы сабіраюцца да падаркі нясуць. Так, завушніцы навыразаюць з картоплі з рознай, наніжуць на нітку рабіны, бусы зробяць. Тады ўжэ прыходзяць і цёшчы вешаюць. Завушніцы з картоплі вешаюць, чаравікі дзіравыя нясуць да надзенуць на ногі" (запісана ад Кудан К.М., 1920 г.н.).

Паслявясельная частка ў вёсках Рэчыцкага раёна мела розныя назвы: гэта і “драць курэй” (вв. Азершчына, Ровенская Слабада), “пярэзвы” (вв. Будка, Заходы), “куры” (в. Зашчоб’е), “на пятуха” (в. Капань) і інш.

Трэці дзень вяселля ў г. Рэчыца называлі “курэй драць”: “Са стараны жаніха ідуць к бацькам нявесты, ловяць курэй, забіваюць іх, вешаюць на жэрдку і два чалавекі нясуць да таго месца, дзе збіраюцца гуляць, раскладваюць кастры, дзяруць курэй, пякуць на кастры”. Жыхары Рэчыцы адзначылі, што заўсёды пасля вяселля “з боку маладой бацькі, сваякі, кожны сам па сабе, завуць на пярэзву. Звалі тых, каго лічылі патрэбным, звалі на працягу месяца” (запісана ў г. Рэчыца ад Кузьмянок Веры Акімаўны, 1930 г.н.). У вёсцы Будка паслявясельная частка вядома пад назвай “куры”, праўда, ходзяць у госці да тых, хто “гуляў вяселле”. У вёсцы Броннае трэці дзень вяселля – гэта “цыгане”. Абавязковымі элементамі з’яўляюцца пераапрананне ў цыган, наведванне двароў удзельнікаў вяселля, збіранне прадуктаў, прыгатаванне ежы.

У вёсцы Зашчоб’е працяг вяселля ў панядзелак меў назву “куры”: “Раніцай госці ходзяць па дварам, крадуць курэй, тады іх вараць, ставяць на стол” (запісана ад Цайко Раісы Нікіфараўны, 1937 г.н.). У вёсцы Капань тыя ж паслявясельныя абрадавыя дзеянні, якія адбываліся ў хаце маладога, мелі назву “пеўня драць”. Абавязковым атрыбутам быў суп, звараны з пеўня.

Звычай “драць курэй”, які адбываўся на трэці дзень вяселля, характэрны і для паслявясельнага перыяду ў в. Ровенская Слабада: “І ў нявесты гуляюць, дзяруць курэй, і ў жаніха дзяруць курэй. Двары аддзельна гуляюць” (запісана ад Якавец Таццяны Уладзіміраўны, 1961 г.н.). У вёсцы Заходы праз тыдзень пасля вяселля адбываюцца “пярэзвы”, галоўная мэта якіх праведаць маладых. У вёсцы Будка “на пярэзвы” збіраліся госці і наведвалі ўсіх удзельнікаў вяселля, а на наступны дзень хадзілі па хатах і збіралі курэй, з якіх варылі суп і вечарам елі. У вёсцы Андрэеўка на трэці дзень пасля вяселля госці ішлі “галоўні разграбаць” або “курэй драць”. Наведванне маладымі і раднёй жаніха бацькоўскай хаты нявесты ў в. Азершчына называлася таксама “драць курэй”: “Госці ідуць на двор, ловяць курыцу, заб’юць, абскубуць, звараць – і на стол. І шуцюць: “Курыца ўкусная – нявеста будзе ўкусная” (запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на ад Цуранковай Соф’і Кандратаўны).

Паслявясельную частку пад назвай “хвост” на Мазыршчыне адзначалі звычайна на трэці дзень вяселля. Сярод рытуальных дзеянняў, якія мелі жартоўна-камічны характар, выконвалі наступныя: пераапраналіся ў цыган, выбіралі з ліку старэйшых удзельнікаў вясельнай цырымоніі нявесту і жаніха, рыхтавалі кашу і “разбівалі” гаршчок (названыя дзеянні мелі прадуцыравальнае значэнне, былі звязаны з магіяй дзетанараджэння).

Паслявясельная частка на Лоеўшчыне вядома пад рознымі назвамі: “куры” (“па ўсёй дзярэўні ў тых людзей, што булі на свадзьбе, збіраюць курэй і гуляюць”) – в. Дзімамеркі; “папялішча” (курэй, бутэлькі гарэлкі і інш., што збіраюць па дварах удзельнікаў вяселля, “зносяць у адзін двор к маладой ці к маладому. Папялішча дзелаюць такое”) – в. Вулкан; “збіраць курэй” (“У канцы вечара на жываце бацькі маладога білі гаршчок з попелам”, што абазначала канец вяселля) – в. Ліпнякі і інш.

Такім чынам, канкрэтныя геаграфічныя ўмовы бытавання напаўняюць вясельны абрад, у прыватнасці, паслявясельны перыяд, адметнымі мясцовымі асаблівасцямі, якія не толькі ствараюць яго шматколерны воблік, але і дазваляюць вызначыць у розных лакальных варыянтах ступень выкарыстання гумару, іроніі, сарказму не толькі на ўзроўні вербальнай і прадметна-атрыбутыўнай частак, але і на ўзроўні сімвалічных абрадавых дзеянняў, выразная семантыка якіх прадстаўлена з рознымі гумарыстычнымі адценнямі.

# *Акцябрскі раён*

## СВАТЫ

Сваха і маці хлопца прыносілі з сабой за пазухай некалькі пляшак гарэлкі. Ступаючы на парог хаты, здаровалісь: “Вечар добры”.

Гаспадары: “Вечар добры! Праходзьце, сядайце ў нашай хаце і будзьце гасцямі”.

Сваха: “Я прыйшла, каб што-небудзь украсці ці купіць які-небудзь тавар. Ляцела сарока, усё стракатала, казала, што вы дзяўчыну ў хаце трымаеце, ды на вуліцу гуляць не пускаеце”.

Маці: “А мой жа сыночак усю ночку не спаў, усё пра вашу дзяўчыну думаў і сумаваў. Да нас на даведкі ў гэту хату прыслаў. І казаў, каб дзяўчыну ў хаце не трымалі, а за яго аддалі”.

Гаспадар: “Ну, што ж ты, маці, стаіш? Пакліч нашу дачку, трэба ж у яе спытаці да добрым людзям адказ даці”.

Дачка: “Сумна адной вечарам сядзець, выйду за мілага, каб ён толькі мяне кахаў, шкадаваў”.

Гаспадар: “Калі дачка згодна, дык і мы не супраць”.

***Запісана ў в. Шкава Акцябрскага р-на***
***ад Бабініч Антаніны Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Максіменка Ю. (2005 г.)***

Хросны бацька маладога дзеліць каравай ад маладога. На каравай госці заўсёды што-небудзь дараць маладым ды пры гэтым прыгаворваючы:

*Дару вам грошы, каб дзеці былі харошы,*
*Дару вам па карове, каб жылі ў змове.*

Спявалі розныя песні. Усім было вельмі весела.

*Каравай прымаю і вас вітаю,*
*Каб жылося, каб вялося, каб пладзілася.*
*А з бутэлькі каб лілося, не цадзілася.*
*Каб гэтак жыццё пражывалі,*
*Як гарэлку распівалі.*

Падзяліўшы каравай, з песнямі ішлі дадому:

*Каўбасы з салам наеліся,*
*Удоваль наеліся,*
*Дзеўку з хлопцам прапілі,*
*Каб яны добра жылі.*

***Запісана ў в. Шкава Акцябрскага р-на***
***ад Гарэльчанка Ірыны Антонаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Максіменка Ю. (2005 г.)***

У сваты хадзілі мужчыны абавязкова жанатыя. Часцей за ўсё хадзілі сват з бацькам жаніха або сват з самім жаніхом і хросны бацька жаніха. Галоўнай асобай у сватанні, а потым ва ўсім вяселлі, быў старэйшы брат.

Калі да дзяўчыны прыходзяць сваты, то яна павінна прыняць ад свата хлеб і соль, калі яна згодна выйсці замуж. Для сватання бралі сваты пляшку гарэлкі, бохан хлеба і соль. Начас-таваўшыся і нагаманіўшыся, госці пачынаюць спяваць песні пра свата.

Заручыны адбываліся ў дзяўчыны ў суботу. Дзяўчына запрашае суседзяў, сваякоў, музыку і сваіх равесніц. Калі ўсе збіраюцца, то госці бяруцца за пастаўленыя на стол “Боскія дары”, п’юць гарэлку, частуюцца, хваляць сватоў і гаспадароў, маладыя танцуюць і пяюць. На заручынах маладая дарыць падарункі родным маладога. Пярсцёнак не надзявалі.

Вечар у дзяўчыны напярэдадні вяселля называўся дзявочнік, дзе збіраліся ўсе сяброўкі дзяўчыны і як бы развітваліся з ёю, сумавалі. Такі ж вечар быў і ў маладога, які ён праводзіў з дружкамі за чаркаю.

За два дні да вяселля, а менавіта ў пятніцу, сабіралі жанчын і выбіралі старшую каравайніцу. На каравай спачатку вызываюць бацьку і маці, потым усіх родных і гасцей. Калі дзеляць каравай, маладым гавораць розныя пажаданні. Сустрэча маладога з маладой адбываецца ў хаце маладой пасля таго, як выкупілі маладую.

У час сватання праходзіў абрад “злучэння маладых”. Бацька браў дачку за правую руку, а сват – хлопца і ў знак згоды звязваюць іх ручніком, каб яны ўвесь век былі разам.

Перад ад’ездам на двары маці маладой тройчы абыходзіць павозкі, а за ёю следам ходзіць бацька з вядром вады, якую ён потым вылівае пад калясо павозкі, каб была лёгкай дарога. Пасля маці абсыпае павозку жытам.

Пасля вянца маладых сустракае маці маладога. Сустракалі бацькі хлебам-соллю і мёдам. Па чарзе даюць паспрабаваць мёд тры разы. Маладая з тугою развітвалася з родным домам. Калі маладая ехала да маладога, маці давала ёй новыя падушкі як прыданае. У хаце маладога сустракаюць бацькі і ўсе родныя маладога. З радасцю вітаюць новага члена сям’і. Застолле праходзіць з песнямі і танцамі.

***Запісана ў в. Ляскавічы Акцябрскага р-на***
***ад Грыцыенка Надзеі Андрэеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Шамонінай В.***

Бацька з бацькам пазнакомяцца. А маладыя адзін аднаго яшчэ не бачылі. Малады бярэ хроснага бацьку, брата і ідзе ў сваты. Як едуць у сваты, пяюць такую песню:

*Ох, цёмная ды невідная ночачка,*
*Журылася Колечкі матачка:*
*– Чаму ж майго сына няма,*
*Ці там яго да й мяшчаначкі злюбілі,*
*Ці там яго мяшчаначкай дарылі?*

Зайшоўшы ў хату, гавораць: "Я хочу купіць у вас цялічку". Выходзіць дзеўка. Хай яна крывая ці сляпая, рашэнне жаніх прымаць не мае права – усё вырашае бацька. Маладыя адзін аднаму гавораць: "Дзякуй табе, мяшочак, што ўзяў". А ён: "Дзякуй табе, торбачка, што пайшла". Тады намячаюць дзень свадзьбы. Як багаты бацька маладой, дасць ён ёй прыданае: карову, свінню. Як бедны – нічога не дасць. Сват свату гаварыў:

*Калі, сват, гарэлкі не дасі,*
*Караваю трасцу ты з'ясі.*

Перад вяселлем падружкі нявесты збіраліся разам і рыхтавалі яе, спяваючы песню:

*Зборная нядзелечка, зборны дзянёчак,*
*Сабрала Танечка ўсіх дзевачак,*
*Пасадзіла ў радочак,*
*Сама села между ніх*
*І спусціла галовачку ніжэй усіх.*
*– Галоўка ж мая ў вяночку,*
*Як не сірата, дык ёсць мамачка ў радочку,*
*Як сіраціна – няма мамачкі.*

Вяселле святкавалі спачатку ў маладой. Затым уся радня ідзе да маладога і там працягваюць святкаваць. На вяселлі пелі такія песні:

*Ой, сваце, дадому, дадому,*
*Да паелі конікі салому.*
*Не то салому дай крапіву,*
*Пад плоцікам крапіву.*

* * *

*Камяная печанька*
*Вечар гарыць, дый не выгарыць.*
*Маладая Танечка вечар сядзіць,*
*Дый не заплача.*
*Ой, ды тады я заплачу,*
*Як за столікам сяду.*
*Касыначкай абмахнуся,*
*Слёзачкай я зальюся.*

Каравай на вяселле пячэ хросная маці ці маладой, ці маладога. Як саджаюць цеста ў печ, пяюць песню:

*Ой, ляцелі гускі з раю,*
*Пыталіся ды караваю:*
*– Ці ўжэ ды пасаджалі?*
*Чаму нас не падаждалі?*
*Мы б жа вам да пасаджалі,*
*Крыльцамі да папісалі,*
*Крыльцамі беленькімі,*
*Пёрцамі залаценькімі.*

Дзеліць каравай хросны бацька. Як раздае яго гасцям, дараць яны грошы, якія кладуць на ільняны платочак. Усе госці пелі песню:

*Выграбай, маці, попел,*
*Мы тваю дачку схопім.*
*Будзе табе жаль без дачкі,*
*Парастуць пад лаўкай казлячкі.*

*Надзею, надзею,*
*Што прыедзе Колечка ў нядзелю,*
*Калі не ў гэту, дык у тую,*
*Для яго снеданне гатую.*
*Маё снеданне дарагое,*
*Для майго Колечкі маладога.*

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Алейнік Марыі Міхайлаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Хурсевіч Г.***

## КАРАВАЙ

На вяселле гатавалі свой каравай, які пеклі ў печы. Яго ўчынялі і пеклі, а таксама ўпрыгожвалі тыя жанчыны, якія добра жылі з сваімі мужчынамі. Спявалі каравайную песню:

*Караваю, караваю,*
*Я для цябе добра граю,*
*І з скрыпкамі, і з дудкамі,*
*Каб цябе не спаліці,*
*Да ўвесь род надзяліці.*

Каравай звычайна дзяліў хросны бацька. Пры гэтым госці абдорвалі маладых падарункамі.

Пасля гэтага малады забіраў маладую да сваёй хаты і дружкі са старэйшым сватам выкуплівалі прыданае маладой і ад'язджалі да хаты маладога.

***Запісана ў в. Пратасы Акцябрскага р-на***
***ад Санцэвіч Паліны Юр'еўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Максіменка Ю. (2005 г.)***

## СВАТАННЕ

Калі хлопец і дзяўчына кахалі адзін аднаго і згодны былі на шлюб, то тады хлопец засылаў да дзяўчыны сватоў. Звычайна гэта былі бацькі хлопца і яго бліжэйшыя родзічы.

На сватанні бацькі дзяўчыны давалі згоду на выданне дзеўкі і пазначалі час вяселля. Пасля

гэтага пачыналі рыхтавацца да вяселля, запрашаліся госці, гатаваліся пачастункі і выпякаўся каравай.

***Запісана ў в. Пратасы Акцябрскага р-на ад Катляровай Раісы Пятроўны, 1946 г.н., студэнткай Максіменка Ю. (2005 г.)***

## СВАТАННЕ

Дружкі разам са сватам і жаніхом садзяцца на коніка і едуць да нявесты. Па дарозе пяюць песні:

*Прыляцеў варабейка, чэ-чэ-чэ,*
*Сеў на акенечка, шчэбячэ.*
*Скажу табе, дзевачка, надзею,*
*Што прыедзе Іванка ў нядзелю,*
*Скажу табе добрую весць,*
*Што Іванка твой на дварэ есць.*

Хлопец заўсёды вязе з сабою ласункі і пачастункі: цукеркі, булкі, абаранкі, гарбузікі. Гэта для таго, каб даць дзяўчатам, калі яны будуць патрабаваць выкуп за маладую.

Абавязкова бяруць гарэлку або віно самаробнае. Калі прыязджаюць у двор да маладой, то дзяўчаты стаяць на дзвярах і не пускаюць жаніха да маладой, патрабуюць ад яго выкуп: грошы, прысмакі, гарэлку. Калі хлопец выкупае сваю дзяўчыну, дык дружкі ўжо яго прапускаюць у той пакой, дзе сядзела маладая.

*Да хадзіла Манічка да па дваре,*
*Да сеяла вінаград з прыполу,*
*Расці, расці, сад, кустамі,*
*Бо Іванка будзе ісці з сватамі,*
*Да патопча сад-вінаград нагамі.*
*Ой, ляцелі гусачкі через сад*
*Ды крыкнулі, крыкнулі на ўвесь сад:*
*Пара табе, Манічка, сесці на пасад.*

Песень пелася шмат, пеліся розныя. Канешне, усе яны былі вясёлыя, жартоўныя. У асноўным у іх ішла размова пра маладую дзяўчыну і хлопца. Спявалі, танцавалі, елі розныя прысмакі, пілі гарэлку, весяліліся.

Калі дзяўчына не адмаўляла і згаджалася ісці замуж, то бацька браў дачку за правую руку і звязваў для таго, каб маладыя заўсёды былі разам і жылі ўвесь час у згодзе. Начаставаўшыся, нагаманіўшыся, госці позна вечарам спявалі песню пра свата і потым ад'язджалі да хаты.

*Ехалі сваты міма гая зялёнага,*
*Сад паламалі, сокала загналі,*
*Зялёную рутаньку коньмі стапталі,*
*У краснай паненкі праўду пыталі:*
*– Красна паненка, ці будзеш наша?*
*Калі будзеш наша, мы сад абсадзім,*
*Зялёну рутаньку сам Бог зародзіць.*

Пасля гэтага пачыналі рыхтавацца ўжо да самаго вяселля.

***Запісана ў в. Чырвоная Слабада Акцябрскага р-на ад Баркоўскай Зоі Міхайлаўны, 1936 г.н., студэнткай Максіменка Ю. (2005 г.)***

## ЗАПОІНЫ

Запоіны адбываюцца ў суботу. У гэты дзень прыбіраюць у дзяўчыны ў хаце і робяць смачныя пачастункі. Сваха, сват, маці, бацька, хлопец абавязкова нясуць хлеб і соль, іншыя прысмакі. Увайшоўшы ў хату, бацька хлопца кланяецца і падае свой хлеб і соль. Ён кажа: "Дзякуй вам, што вы не адмовілі нашай просьбе". Гаспадары потым запрашаюць усіх да стала. За сталамі пяюць песні:

*Пейце, ешце,*
*Бог нам даў, Бог нам даў.*
*А вы, маладыя, не завідуйце,*
*Будзе вам, будзе вам.*
*Будзеце рана ўставаць,*
*Кароў на ростань выганяць,*
*Дачушка будзе мая малако даіць*
*І багата жыць.*

Усе частуюцца, п'юць, жартуюць і спяваюць любоўныя песні:

*Ой, у полі пры даліне кучаравы дуб стаяў,*
*Пад тым дубам зеляненькім хлопец з дзеўкаю гуляў.*
*Дзяўчыненька маладая, прыгажуня, ветачка,*
*Паланіла ты хлапчынку, бэзавая кветачка.*
*Ой, у полі пры даліне кучаравы дуб стаяў,*
*Пад тым дубам зеляненькім хлопец дзеўку цалаваў.*

***Запісана ў в. Курын Акцябрскага р-на ад Адзінец Марыі Іванаўны, 1933 г.н., студэнткай Максіменка Ю. (2005 г.)***

У суботу маладую ўпрыгожваюць яе сяброўкі. Пакой у хаце, дзе будзе вяселле, прыгожа прыбіраюць рознымі стужкамі, кветкамі. Дружка заўсёды павінна знаходзіцца побач з маладой. Да прыезда маладога прыдумваюць розныя загадкі. Малады злуецца і загадвае сваім сябрам расплесці косы ў кожнай дзяўчыны.

Пасля гэтага моладзь і родныя ідуць у царкву. Пасля вянчання ўсіх запрашаюць за стол. Першым да стала праходзяць маладыя, за імі баба і дзед, а потым – усе астатнія.

Вяселлем кіруюць кума і кум. Дзяўчаты ў час вяселля спяваюць:

*Лес, за лесам ды мядзведзь рыкае:*

*– Будзе табе, дзеванька, свякроўка ліхая.*
*А ты таму мядзведзю саладзіну кінь,*
*Будзе мядзведзь саладзіну смактаць,*
*Будзе твая свякроўка пад пярынаю крактаць.*
*Як будзе варчаць, дык ты – маўчаць,*
*Як будзе гаварыць, дык ты – наравіць.*

Свякруха не крыўдзілася на дзевак. А ў адказ пела ім сваю песню:

*Першая дружка – стужка,*
*Другая дружка – каробачка,*
*Трэцяя – скалазубка,*
*Чацвёртая – па часах ходзіць,*
*Да вечара сына родзіць.*

* * *

*Да стаяла, буяла, да стаяла буяла*
*Канапелька ў агародзе,*
*Да не даў жа ёй ветрычак,*
*Да не даў жа ёй ветрычак*
*Яшчэ болей да пастаяці,*
*Яшчэ болей да пастаяці,*
*Лісцікам да памахаці.*
*Адарваў ёй лісточак,*
*Да на жоўты пясочак.*
*Гуляла, красавалася,*
*Гуляла, красавалася*
*Манечка ў сваёй матачкі,*
*Да не даў ёй Іванка*
*Яшчэ болей пагуляці,*
*Коскаю да памахаці,*
*Да распіліў ёй косачку,*
*Да распіліў ёй косачку,*
*Да разліў ёй слёзачку.*

Дзяленне каравая таксама суправаджалася песнямі:

*Наш каравай на веку, на веку,*
*Дай жа, Бог, да веку, да веку,*
*Наш каравай на жыццё, на жыццё,*
*Дай жа, Бог, спажыці, спажыці,*
*Выправім дзетак да шлюбу раненька,*
*Наш каравай дзялілі роўненька.*

***Запісана ў в. Курын Акцябрскага р-на***
***ад Валодзькі Зоі Раманаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Максіменка Ю. (2005 г.)***

## ЗАРУЧЫНЫ

На заручынах ета ж былі ўсе вясёлыя і шмат пелі, танцавалі, елі, пілі. Дзяўчаты дык жа вельмі цудоўныя і добрыя песенькі спявалі:

*Развіваецца, развіваецца ды ў дарозе зеллечка,*
*Зачынаецца, зачынаецца ды ў Ганулі вяселлечка.*
*Бог ёй дае, Бог ёй дае.*

Патомака дамаўляліся аб тым, калі вяселле гуляць будуць.

***Запісана ў в. Лескі Акцябрскага р-на***
***ад Вяршковай Валянціны Аляксееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Максіменка Ю. (2005 г.)***

## ВЯСЕЛЬНЫ КАРАВАЙ

Песні гучаць вясёлыя, прыносяць радасны настрой. Пад песні ставяць і каравай у печ. Пакуль каравай у пячы, дык жанчыны, тыя каравайніцы, могуць ісці дадому рабіць сваю работу, даглядаць гаспадарку. Але калі наступае час даставаць пірог з пячы, жанчыны павінны сабрацца ўсе і прысутнічаць пры гэтым.

Каравай з печы стараліся дастаць так, каб не сапсаваць яго. Старыя людзі гаварылі, што калі пірог зламаецца, то гэтым маладым шчасця не будзе ніколі. Здаралася такое, што мужыкі разбіралі печ, каб дастаць каравай, бо ён мог вырасці занадта вялікім. Калі пірог падымаўся высока, то лічылі гэта добрай прыкметай. Каравай даставалі з песняй:

*Караваю, раю, раю,*
*Я з табою пагуляю.*
*Ой, чэй-то братачка*
*Пад караваем гуляе,*
*Да новай каморанькі*
*Дарогу пытае?*
*Гэта Надзейчын братачка*
*Пад караваем гуляе,*
*Да новай каморанькі*
*Дарожанькі пытае.*
*Каравай гіча, гіча,*
*Каравай гіча, гіча,*
*Каравайнічак кліча:*
*– Дзе ж вы так забарыліся,*
*Што да мяне не з’явіліся?*
*Ой, гіча каравай у печы,*
*Каравайнічак кліча:*
*– Дзе ж вы, мае каравайнічкі,*
*Дзе ж вы, мае каравайнічкі?*
*Ці вы мёду напіліся,*
*Што пра мяне забыліся?*

* * *

*Плакала дзеванька ў святліцы,*
*Прылажыла галованьку да зямліцы.*
*– Зямліца сырая, сырая,*
*За што маю мамачку забрала?*
*Бедная мая галоўка ў вяночку,*
*Няма маёй мамачкі ў радочку.*

Такія сумныя песні пеліся толькі ў той момант, калі адзявалі дзяўчыну. А потым спявалі ўжо вясёлыя песні. Смяяліся з свякрухі і свата, пелі пра іх:

*У нашага свата пабелена хата,*
*Печ яго пабелена, чэсць яго даказана.*
*Кідай, сват, лапату ды бягі ў хату,*
*Вязем табе бярозачку, харошую да смелявую,*
*Цёмную да багатую.*
*Стаяла б яна, канапелька, ды ў агародзе,*
*Да не даў ёй Пецечка болей пагуляці,*
*Да гуляла, красавалася Леначка ў мамачкі.*
*Расплёў мілы яе косачку, развёў яе слёзачку.*

***Запісана ў в. Валосавічы Акцябрскага р-на***
***ад Юрчак Ніны Андрэеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Максіменка Ю. (2005 г.)***

## *Брагінскі раён*

### СВАТАННЕ

Браў малады хросну, хроснага, дзядзьку якога свайго роднага. Ну, й вот, прыхадзілі ўжэ к маладой. Но раньшэ не гулялі, не бачыў той нявесты жаніх сваёй, а ўжэ аццы дагавараліся, потым ужэ ішлі ў сваты. Вот, ужо возьмуць чацвярціны такія, сем бутылак самагону, віна, свайго хлебу, каравай бальшой. Ну, абвяжуць таку настойку красну, як віно, лентаю і ўжэ тое клалі ў каробку, і потым ужэ ішлі ў сваты. Прыходзяць абавязкова вечарам, каб ніхто не ўгледзіў, і кажуць:

– Можна к вам?

– Можна, можна! Добры вечар.

– Вот гаварылі, што ў вас прадаецца цялушка маладзенькая.

– Да-да, прадаецца, прадаецца.

– А мы пакупацелі, хочам купіць цялушку сабе. Давайце дагаварацца.

– Харашо, харашо.

А нявеста дзе-та ў спальні сядзіць, яе не відна, але ж ета й малады прыйшоў, узялі ж маладога.

– Ну, праходзьця, праходзьця. Стаўце падаркі на стол дый садзіцеся.

Паселі.

– Ну, так давайце дагаварацца будзем, як купляць. Дзе тая маладая ваша цялушка? Давайце пасмотрым, якая яна, ці панаравіцца яна нам.

Ну, бацька ўжэ ідзёт у спальню, бярэт дачку за руку, прыводзіць. Яна маладая, харошая, красівая, скромненькая дзевачка. Пасматрэлі, малады пасматрэў на яе, засмяяліся, друг на друга пасматрэлі. Ну, харошыя, красівыя, панаравіліся друг другу.

– Ну, што, упадабалі нашу цялушку?

– Да, упадабалі, упадабалі, хароша.

– Ну, дак вот, давайце, еслі ўжэ панаравілась яна, давайця будзем запіваць.

Ну, яны ўжэ гарэлкі свае дабаўляюць, стол накрываюць і запіваюць. Вот запілі, далей ужэ дагавараюцца, калі свадзьба. І зноў гуляюць, бабы над сватам смяюцца:

*А ў нашага свата*
*Галава кашлата,*
*Ні дроў, ні палена,*
*Гразі па калена.*

Сват абідзіцца, кажа:

– Хадзіце, паглядзіце, колькі ў мяне дроў, хадзіце, паглядзіце, як у мяне на дварэ.

Ну, ета ж шуткі булі. А бабы далей пяюць:

*Краем, борам рабіна цвіла,*
*Краем, борам рабіна цвіла.*
*Во, ехаў там дружыначка пеючы,*
*Пачуў ён сіву зязюлечку куючы.*
*То не зязюлечка сіва кувала,*
*Ганначка харошы песні спявала,*
*Пад акенцам на лаўцы седзячы,*
*Свайму мілу ды кашулю шыючы:*
*– Ой, дай, Божа, кашулю пашыці,*
*Майму міламу здаровеньку насіці.*

### ВЯНКІ

Як маладую прыбіралі, вяночкі дзелалі: дзевачак сабіралася багата, спявалі ўсякі разны песні, косу запляталі. Вяночкі дзелалі самі з красівых такіх бумажак. Такі вяночак сплятуць, а ззадзі нада, штоб многа-многа було лентаў. Тады ленты булі простыя, дык у людзей жа не булі, каб у аднаго чалавека ўзяць і купіць, няма було дзе. Ну, мы так у людзей, пойдзем па дзерэвне, маладая з дружкамі, і тых лентаў насабіраем. Потым на той вяночак іззадзі вешалі тыя лентачкі. Тады була такая вот цюль, хората называлася, тады ўжо на той вяночак, на ленты тую хорату вешалі.

На другі дзень дзевачкі з маладой ішлі запрашаць на вяселле. Ну, прыходзяць, ужо завуць:

– От, просім вас на свацьбу, каб прыходзілі.

– Спасіба, спасіба! Прыдэм на свацьбу.

Так і хадзілі цэлы дзень, запрашалі і саседзяў, і знакомых, усіх гасцёўнікаў. Усіх, каго нада пазваць звалі.

### КАРАВАЙ

Каравай пяклі: бралі тры жэншчыны, якія каравай пяклі. Эта нада, штоб булі яны не развядзённыя, штоб не ўдовы, штоб жылі харашо. Гэта, каб маладыя харашо жылі. Рашчыняюць каравай – спяюць, замесяць – спяюць. А тагда саджаюць у печ. Така лапата була, на лапату яго кладуць, украшаюць: бублікі разныя дзелаюць і абаранački ўсе, так, штоб ён ужэ буў красівы й нарадны. Ну, вот кладуць яго на лапату й спяюць:

*Каравай, караваю,*
*Для цябе добра йграю*
*І з скрыпкаю, і з музыкаю,*
*Штоб табе ўгадзіці,*
*Увесь род абдзяліці.*

Бяруцца за ету лапату ўтраіх і нясуць яго, у печку саджаюць. Ён там пячэцца, тады вынуць яго, з дзяжы бяруць вейка тое, што дзяжа

накрываецца, кладуць палаценца і на яго кладуць той каравай.

### ПАСАД

І вот, шчэ було, як маладую вялі вакол стала, потым там жа нада завіваць, дак ідуць і дружкі з ёю, за рукі пабяруцца й вядуць яе на пасад. І вот, пасядуць етыя дружкі вакол, а буў ад маладога такі чалавек, палаценцам перавязаны, браў кнут. І вот етыя дзевачкі ўжэ пасядзелі за сталом, а гэты дружок уганяе гэтых дзевачак з-за стала, сячэ іх пугаю. І іх крэпка паб'е, але ж такая вот мода була.

А маць хросна ўжэ стаіць за спіною, расплятае касу, чэша варалцом (грабяшком) валасы і гаворыць:

– Дайце ж памачыць касу. Ацец і маці, благаславіце касу расплятаці.

І так тры разы. І вот ету касу расплятаюць, маладая плача, а касу расплятаюць і спяваюць:

*Бегала сарока па страсе,*
*Плакала дзяўчына па касе:*
*– Косачка мая русая,*
*Не дзень я цябе часала,*
*Не адно ранейка гладзіла,*
*За адзін вечарок згубіла,*
*За аднаго хлопца прадала.*

* * *

*Выпляту я ўплёт з русых кос,*
*Павешу я ўплёт на прыплёт,*
*Куды мая мамачка ў клець ходзя.*
*У клець ідучы, забача,*
*А з клеці ідучы, заплача:*
*– Ета маёй дачушкі ўплёты,*
*Усе дзявоцкія работы.*
*Як яна ў дзевачках насіла,*
*Усё маё падвор'е красіла.*
*А цяпер не будзе насіць*
*І майго падвор'я красіць.*

Папяюць, потым лёну жменю ў валасы кладуць і яе ўжэ косы ў кружок абвернуць, шпулечкамі папрытыкаюць, платочак сіццавы заўвяжуць кругом шыі. Ну, й вот заплятуць, заўюць, паспяваюць.

На другі дзень малады з дружынай едзе глядзець, ці багата нявеста. Ну, так хросна матка ці там сёстры, братовыя звязваюць яе прыданае, адно прыданае: падушкі, пасцельнае адзіяла, усё тое, пярыну якую калючую. А тады ў другі клункі нада, штоб у маладой було не менш, як 15 рушнікоў. Ікон було багата, абразоў на сценах. І ета яна вешае, вешае… І набожнікі такія длінныя булі, а трэба ж ручнікі павесіць па два метра, булі тканыя, ушываныя ў крэсцікі. Трэба, штоб було штук 15 скацерак тканых. Скацеркі самадзельныя, красівыя такія, бялілі калісь мачкі, то такія ткалі крастом. Вот, дзе красівыя булі! І вот, ужо етыя скацеркі вешалі на вешалку, такая була вешалка на ўсю хату. А ета ўжэ й бягуць старыя й маладыя, шчытаюць, сколькі скацерак яна наткала, сколькі рушнікоў, шчытаюць. І гэта було, о-о, як інцярэсна. Вот маладая ўжэ сядзіць, смяецца за сталом, пра яе кажуць: "О, глядзі, якая рукадзельніца! Ты глянь, колькі яна наткала, наўшывала!"

А вот, ужо едуць вянчацца. О, вянчацца ездзілі на вазу. Було ў нас тры пары коней: першая, дзе маладыя сядзелі, тройка, а тады – па пары. Зімою дак вазок такі буў на санях. Ну, на санях ці вазу, як прыбяруць са званочкамі, дык ой-ой: "Маладыя едуць! Маладыя едуць!" Дзеткі ўбягаюць, маладыя й старыя, у-у-у, людзей жа многа. Ідуць туда, к вясельнаму двару, страчаюць, смяюцца.

Ну, свадзьба ж була такая тады, гулялі, рэзалі ж і бараны, і свінняў забівалі, і цялёнка рэзалі – всё тады було. Ну, павянчаюцца ўжэ ў цэркві, прыязжаюць к маладому, паабедаюць, на другі дзень едуць к маладой, каравай дзеляць, падаркі дараць, гарэлку п'юць.

Ну, каравай дзелюць на ўвесь род хросны бацька й матка, завязвалі ім палаценцы, яны ўжэ стаяць, дзержаць тарэлачку. Наліваюць у чарку гарэлку, адломліваюць кусок каравая, вызываюць: "Вызываем на хлеб, на соль, на каравай!" Ну, каго вызавуць, прыходзяць, даруць, на тарэлачку кладуць хто грошы, хто падарка: "Ну, даруем, Ганначка й Васілёк, вам шчасця, долі, хлеба ўволю, зялёнага дуба, штоб жылі люба". Выпіваюць з той чарачкі. А тады ўжэ ўзываюць родных, тых астальных, хто там буў.

### ЦЫГАНЫ

Ну, вот прабудзе ета першы дзень, другі дзень, а на трэці – хадзілі ў "цыганы". Жэншчыны надзяюцца ў мужское, а мужчыны ў жэнскае, паўмазваюцца, паўкрасваюцца. А возьмуць, тая адзене белы халат такі, гаворыць: "Я медсястра!" Набярэ ў тую сумку там чаго, гаворыць: "Я буду ўколы, таблеткі там даваць. Хто забалее на свадзьбе, там нап'ецца". І вот, ідуць па дзярэвне. Ідуць, дзе бяжыць курыца, яны тую курыцу "хлоп!" да ўб'юць яе, да ў торбу. Дажа було, што зайшлі, малое парася злавалі ў мяшок. Прыташчылі етае: й кур, й парася, і к маладому ці к маладой. І гэтае зноў пагатавалі. На трэці дзень зноў гулялі, спявалі. Шчэ старыя заводзілі за стол ды й казалі: "Мы маладыя!" Завівалі старую бабу, таму кветку прычапілі, ета, кажа малады.

Ну, вот такія шуткі булі, весяліліся, гулялі.

***Запісана ў в. Дуброўнае Брагінскага р-на***
***(перасяленка з в. Іванаўка Чачэрскага р-на),***
***студэнткамі Баўтручок Л., Судаленка Н.***

Свадзьбу гулялі і зімой, і летам. Толькі ў пост не гулялі (Спасаўскі, Пятроўскі, на Піліпаўку). Але некаторыя гулялі свадзьбу і ў пост, толькі тады нельга было вянчацца ў царкве.

Дык калі я выходзіла, была дзядовая нядзеля, я не вянчалася, але царква ўжо ў Брагіне была і ў ёй вянчаліся.

Свадзьбу гулялі тры дні. Мая свадзьба была зімой. Малады, бацькі і сваты прыехалі і гаварат:

– Ехалі мы на кірмаш купіць цёлачку ды заблудзіліся. Начаваць няма дзе, пусціце начаваць.

Калі іх пусцілі, яны кажуць:

– Ой, ды ў вас такая дзеўка харошая, а ў нас ёсць малады, прыгожы тожа.

Тады ставілі сваты на стол хлеб і гарэлку. Хлеб разразалі, пілі, елі і прызначалі дзень свадзьбы.

Перад свадзьбай, у суботу, былі заручыны. Прыходзілі да маладой папа і матка, 4 хлапцы і сястра ці дзеўчына – "свяцілка". Шаферкі сядалі за стол, елі, пілі, маладому потым падводзяць дзеўку. Ён кажа, што гэта не наша, потым другі раз – і гэта не наша, а на трэці раз падводзяць маладую. Той кажа, што во гэта ўжо наша, і яны ўжо садзяцца разам. За сталом было шафераў столькі і шаферак. Яны неслі ім зярняткі ў талерачках, пакрытых платочкамі, а тыя выкуплялі. Калі ўжо выкупілі, то шаферкі цаплялі ім на піджакі цвяточкі.

Потым ехалі ў царкву вянчаліся, пасля – да маладога на абед. Маладая адна едзе к сабе дадому. Малады з шаферамі прыязджаюць да яе і садзяцца за сталы. Паміж маладой і маладым сядзіць яе хросны бацька і гаворыць, каб той купіў маладую. Шафер дае грошы, тады яны ўжо садзяцца разам.

Шаферы выганяюць шаферак з-за стала, каб тыя хутчэй ішлі замуж, выганяюць іх рамнём. Маладую выводзілі на серадзіну хаты, і замужнія дзеўкі са стараны маладой расчэсвалі яе і спявалі: "Што мы захочым, тоя і зробім: з цеста – паляніцу, а з дзеўкі – маладзіцу". Знімалі фату, расчэсвалі і гаварылі. Гэта, каб лён радзіўся, у валасы закручвалі лён і адзявалі чапец.

Маладыя потым садзяцца на воз і едуць дамой да маладога вешаць ручнікі і ікону, якой благаславіў бацька. Сустракаюць іх бацькі маладога, яны бяруць крышку ад дзяжы і ставяць на яе маладых, каб тыя былі багатыя. Вешаюць ікону і ўпрыгожваюць рушнікамі. Затым малады едзе па цешчу з цесцем, прывозіць ім хлеб, бутылку і падарунак цешчы, а разам з імі прыязджаюць і астатнія.

Брат маладой вязе з сабой скрыню з прыданым маладой, а жаніх павінен яго выкупіць.

Пад канец вяселля варылася каша ў гаршку, кашу ставілі на стол, брат маладой выкупляе гаршчок і разбівае яго, дзеліць кашу между гасцямі, а чарапкі нежанатыя клалі сабе на галаву, каб хутчэй выйсці замуж ці жаніцца.

Таксама пеклі каравай. Адну часць дзялілі дома ў маладой, другую – перад гаршком з кашай.

Памятаю, што на трэці дзень ходзяць пераапранутыя і крадуць курэй, нясуць на двор, дзе свадзьба, а там іх ужо жараць. Ніхто нічога не гаварыў, бо так было заведзена.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Злыдзенка Любові Мікітаўны, 1928 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Новы Шлях***
***Брагінскага р-на),***
***студэнткамі Ліпавай К., Чарновай Л.***

Перад тым, як ажаніцца, хлопец ішоў у сваты да дзяўчыны, каб спрасіць дазволу бацькоў на жаніцьбу. Галоўным быў сват. Бо ўсё залежала ад яго – аддадуць дзяўчыну ці не. Калі дзяўчына згодна на шлюб, то яна дарыць бацькам жаніха ручнік і хустку, а жаніху бутэльку з жытам.

Само вяселле пачыналася з пасаду (збораў маладой). Нявесту падводзілі да бочкі, накрытай кажухом, і садзілі на яе. Нявеста прашчалася з сваімі падругамі. Яны расчэсвалі яе, дапамагалі надзецца. Яны спявалі частушкі:

*Каб ты, міленькі, ссінеў,*
*Як майка сіняя.*
*Я ішла, а ты сказаў,*
*Што я не красівая.*

*Я па берагу іду,*
*Берag асыпаецца.*
*Я бяззубага люблю:*
*Бяззубы не кусаецца.*

Пасля прыязжае жаніх са сваімі дружкамі выкупляць маладую. Смяяліся, весяліліся. Потым маладых благаслаўляюць бацькі. Пакуль маладыя былі ў царкве, пяклі каравай. Каравай пяклі толькі замужнія жанчыны.

Калі маладыя вярталіся з царквы, бацькі іх сустракалі з хлебам-соллю. Садзілі маладых абавязкова на падушку, каб жылі па душы.

Вяселлем правіў сват. У самы разгар вяселля сват грукаў чым-небудзь, гэта значыць – пара дарыць маладым падаркі. У хату ўносілі каравай і ставілі на стол.

Каравай дзяліў хросны бацька. Абязацельна мыў рукі, выціраў іх тым ручніком, на якім ляжаў каравай. Потым перавязваўся гэтым ручніком цераз плячо.

*Ой, не п’ецца гарэлка,*
*Ой, не п’ецца віно,*
*Хто жналье таго мёду,*
*Каб пілося яно?*
*Горка, горка гарэлка*
*За вясельным сталом,*
*Падсалодзяць нам чаркі*
*Маладыя віном.*
*Падсалодзяць нам шчасцем,*
*Што два сэрцы зліло,*
*Каб вясёлым, мядовым*
*Век жыццё іх было.*

***Запісана ў в. Буркі Брагінскага р-на***
***ад Раманюк Марыі Адамаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кашэвіч Людмілай***

Было гэта па восені. Як ка мне прыязджалі сваты, было мне 17 год. Была я на полі. Прыехала я дадому гразная, у лапцях. Суседка й мне кажа: “Ох, Саня, да цябе ж сваты прыехалі, а ты такая гразная, непрычэсаная!” Я вельмі тады, вай як спужалася! Чужыя хлопцы нейкія. Ён з Буркоў, а я сама з Астрагляд. Ой, Божа мой! Я ў рэчку, да памыла ногі, да ўмылася, да й стаю пад гумном. Маладая, ведама. Цётка ідзе да кажа: “Чаго ты стаіш? Сваты прышлі. Хадзі ў хату!”

А я ж босая! Праўда, пайшла. Прыйшла, а яны ўжо сядзяць на лаўках. Малады кажа да мяне: “Чаго ты саромеешся? Не ідзеш у хату?” А я гавару: “А я ж вас не знаю. Вы чужыя людзі”.

– Бачыш, як атвячае, яшчэ маладая!

Увечары сабраліся. Я села каля прыпечка, сяджу. Хлопец прынёс чарку:

– Будзь здарова!

Маўчу. А ён стаяў, стаяў, пайшоў, паставіў яе на стол, сеў, сядзіць. Зноў налівае гарэлку, палажыў 10 рублёў грошай на чарку і прыносіць.

– Будзь здарова!

А цётка кажа:

– Да што ета будзеш маўчаць? Мо ж ета чалавек! Атвячай!

Тады ён зноў:

– Будзь здарова!

Я кажу:

– Ну, то няхай!

Я ж не знала, што трэба казаць “На здароўе”. Госці кажуць: “Го-о! Як ета няхай? Кажы на здароўе”. Я кажу: “На здароўе”. Ён ета 10 рублёў аддаў, а чарку я ўзяла ў рукі да панесла к цётцы, цётка была ў мяне за матку. А далей панесла чарку к дзядзьку да й заплакала. Сабраліся мы, пайшлі ўдвох на першу чарку збіраць радню, ета ўжо заручыны тыя, запоіны. Прыходзім у хату і гаворым: “Просім вас на першую чарку!”

На другі дзень трэба ехаць запісвацца ў сельсавет. Я хацела ў тую нядзелю, думала, мо хто харашэйшы прыйдзе. А мой жаніх настоеў: “Нет, запішамся сёння!”

У нядзелю паехалі к вянцу. На адном вазу я з дзеўкамі, на другом – ён з хлопцамі. Мне дзеўка дзяржала вянка, а яму хлопец. Да й дзеўкі сказалі: “Цягай жа рушніка, каб мы замуж ішлі!”

Ад вянца паехалі на заручыны, да мяне, да дзеўкі. Прыехалі ўжо ўвечары і цэлу ноч гулялі да дня, спявалі песні. Усякіх песень спявалі:

*Вой, на моры да на камені* 2 р.
*Купаліся да два ангелы,* 2 р.
*Купаліся і гаварылі:* 2 р.
*Ходзем, браткі, на заручыны,*
*Там Санька заручаецца,* 2 р.
*Ад бацюхны сабіраецца* 2 р.
*Да к Івану прылучаецца.*

Гэта спяваюць дружкі (дзяўкі). У мяне іх было 10. Яны як закатаюць гэту песню! І жанкі спявалі:

*Каб я знала,*
*Ведаць ведала*
*Хуткія заручыны,* 2 р.
*То б я паслала*
*Свайго бацюхна*
*У цёмны луг па каліну.* 2 р.
*Бацюхна й пайшоў,*
*Весь луг абыйшоў,*
*Каліноньkі не знайшоў.* 2 р.
*Каб я знаць знала,*
*Ведаць ведала*
*Хуткія заручыны,*
*То б я паслала свайго*
*Іваночка-жаніха*
*У цёмны луг па каліну.* 2 р.
*Іваночка й пайшоў,*
*Увесь луг абыйшоў,*
*Каліноньку знайшоў*
*На заручыны.*

Спявалі і жаласныя. Во ету песню мне спявалі, як я сірата, без мацеры.

*Ой, ступіла дзевачка,*
*Усю сваю радзінаньку абыйшла,*
*Нідзе свае роднай мамкі не знайшла.*
*Расступіцеся, радзіна, уся ў рад,*

*Ідзе наша дзевачка на пасад.*

Пасля заручын разышліся дадому. А праз тыдзень свадзьба. Малады прыйшоў у чацвер і дагаварыўся, што ў нядзелю свадзьба.

Вось і ўсё. Усё маё сватанне.

***Запісана ў в. Буркі Брагінскага р-на ад Званок Аляксандры Мікалаеўны, 1927 г.н., студэнткай Даніленка Н. (2004 г.)***

Бацька з маткай дагаварваліся нашчот свадзьбы. Высватваць ішлі ў хату бацька, матка, кумы, бабка-сваха. Гавораць: “У вас есць цялічка, а ў нас бычок, дак мы хацелі б у вас цялічку купіць”. Неслі брагі, хлеб, соль. Калі маладая сагласна, то далжна перарэзаць хлеб. А дажа калі не хацела, то застаўлялі, таму што гэтага хацелі бацькі. Старыя наліваюць у чарку гарэлку і выпіваюць. Намячаюць, калі гуляць свадзьбу. Могуць пасватаць аднаго, а пасадзіць другога.

Свадзьбу пачыналі з суботы звечара. Маладзёж, дзеўкі і хлопцы, збіраліся і пачыналі гулянку. А назаўтра збіраліся старэйшыя. Там садзяцца за сталы. Маладыя едуць у цэркву, а старыя гуляюць дома. Маладую прывязуць к маладому і дзеляць каравай.

Каравай дзеляць старыя мужчыны, ад маладога і ад маладой асобна. Яны спрашвалі гасцей разрышэння. А тады б’юць кашу. Кашу б’юць для таго, каб малодшы брат выкупіў нявесту. Госці пачынаюць жалаць усяго.

***Запісана ў в. Вуглы Брагінскага р-на ад Найдзенка Клары Пятроўны, 1926 г.н., студэнтам Васілеўскім У.***

## СВАТЫ

Некалі вяселле гулялі не так, як цяпер. Калісь бацькі выбяруць жаніха, і хочаш ці не, але замуж за яго патрэбна ісці. У нас дзеўкі ніколі не шлі праціў волі бацькоў. Бацькі выбіралі жаніхоў багатых.

*Прыду позна, прыду рана,*
*Пачынае маць браніць.*
*Не ругай мяне, радная,*
*Што я позна пріхаджу.*

*А ў нядзелю рана-рана*
*Маць падаркі раздае.*
*За памешчыка старога*
*Дачку замуж аддае.*

*У памешчыка сядога*
*Многа грошай, серабра,*
*А ў парнішкі маладога*
*Толькі сэрца да душа.*

*Я памешчыка сядога*
*Ненавіжу, не люблю,*
*А парнішку маладога*
*Пазабыць я не магу.*

Бацькі заранне дагаворваюцца, калі малады прыдзе ў сваты. Малады бярэ з сабой сваіх бацькоў і хросных. Яны прыходзяць у двор і робяць від, што прышлі не ў сваты, а кажуць, што заблудзіліся і просяць пераначаваць. Бацькі маладой пускаюць іх у хату. Тыя нясуць з сабой піроґ хлеба, і маладая павінна разрэзаць гэты хлеб.

Затым садзілісь усе за стол і пілі па чарцы. Тады ж намячалі дзень вяселля. Маладая пела песні:

*За казака, за казачка*
*Замуж не пайду,*
*Чарнабрыўцаў насаджу.*

*Насеяла чарнабрыўцаў*
*Цэлую гару.*
*Расціце, чарнабрыўцы,*
*Да і не буяйце.*
*Да не ідзіце дзеўкі замуж – пагуляйце.*

*Усе мае чарнабрыўцы пазрывайце,*
*Кожная сабе па вяночку пазвівайце,*
*Тады мяне, маладую,*
*Успамінайце.*

Вяселле намячаюць на суботу. Нельга намячаць на пост. Прыязджае малады. У нас заўсёды некага пераадзяюць у нявесту і выводзяць к маладому. Затым вядуць маладую і яна спявае:

*У нашага свата*
*З лазы, вярбы хата,*
*А ні клеці, ні павеці,*
*Недзе скрыні дзеці.*

Маладых садзяць на кут, падкладваючы на лаву кажух. Увесь дзень гуляюць, спяваюць песні. Увечары жаніх павінен забраць нявесту. Ёй знімаюць вянкі і завязваюць платок, а яна спявае:

*Завівала мяне дзядна*
*Чорна, як гадзіна.*
*Косы расплятала,*
*Чэпчык адзявала.*

Увечары нявесту вязуць к маладому. Назаўтра вяселле працягваецца ўжо ў маладога. На другі дзень дзеляць каравай, маладым дораць падаркі. І, як заўсёды, са словамі:

*Дарую квактуху, каб пацалавала маладая свякруху.*

*Дарую каробку жаб, штоб малады не любіў чужых баб.*

*Дарую зялёнага дуба, штоб жылі люба.*

*Дарую карабля, штоб дзень каталісь, а ноч улюблялісь.*

*Дарую грошы, штоб былі заўсягда харошы.*

*Дарую бумажныя, штоб былі заўсягда паважныя.*

І гуляюць да вечара. На трэці апошні дзень зноў усе збіраюцца і гуляюць. Так як нявеста ішла замуж не па сваёй волі, то не ў кожнай сям'і складвалася ўсё добра, а ў некаторых і наадварот.

У мужыка пытаюць: "Чаго водку не п'еш, чаго жонку не б'еш?" А ён атвеціў: "Як жа я буду жонку біці, калі яна ўсё ўмее рабіці: і чытаць, і пісаць, і па садзіку гуляць."

Пра тое, як цяжка жылося маладой у чужой старонцы і з нелюбым мужам, складзена многа песень:

*На каліне чорны воран крача,*
*А на чужбіне сіраціна плача:*
*– Не даўно я сірацінай стала,*
*За тры года ўсё гора ўзнала.*

*Раз раілі мне добрыя людзі:*
*– Выйдзі замуж, добра табе будзе.*
*Я людзіную волечку чыніла,*
*Замуж вышла – галоўку ўтапіла.*

*Замуж вышла за горку п'яніцу,*
*Да ўтапіла галоўку ў крыніцу.*
*Я п'яніцу баюся не ўгадзіці,*
*Ляжа спаці – баюся будзіці.*

*Уставай, мілы, годзе табе спаці,*
*Ужо твой бацька паехаў араці,*
*Ужо твой бацька паехаў араці,*
*А брацішка валы паганяці.*

*Стаў мілы з пасцелі ўставаці,*
*Стала мілая ў вакенца ўцякаці.*
*Ты мае норавы не знаеш,*
*Дзверы маеш, а ў вакно ўцякаеш.*

*Знаю, мілы, твае нарованькі,*
*Да беражу свае галованькі.*

### РОЗА

*Напрасна я розу садзіла,*
*Напрасна яе зберагла,*
*А роза мая прызавяла,*
*Любоў наша прашла.*

*У саду дзве скамейкі стаяла,*
*Сядзелі мы з мілым удваём,*
*А лісце без ветру шумела,*
*Разлуку нам пеў салавей.*

*Не пей жа, саловушка, так рана,*
*Не пей жа так рана на зарэ,*
*Не надавай ты сэрцу печалі,*
*Бо я на чужой старане.*

*Чужая старонка нявесела,*
*І некаму гора расказаць.*
*Капайце, капайце магілу,*
*Заройце мяне, маладую.*
*А еслі мой мілый вернецца,*
*Спросіт, гдзе мілая мая?*
*А вы ему, дзевачкі, скажыце,*
*Дваццата магілка мая.*

Прыклад песні, як маладая пасля вяселля збіраецца да бацькоў:

*Не пайду я, маці, за твой стол,*
*Ой, спасіба табе, мамка, за хлеб, соль.*
*Не пайду я, маці, за твой стол,*
*Прыду к табе на часок,*
*Вазьму хлеба свой кусок.*

***Запісана ў в. Лубенікі Брагінскага р-на***
***ад Касцючэнка Вольгі Васільеўны, 1930 г.н.,***
***Хвост Сафіі Карнееўны, 1928 г.н.,***
***Захожай Ганны Паўлаўны, 1928 г.н.,***
***Касцючэнка Таццяны Сямёнаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Захожай Н.***

### СВАТЫ

Ходзяць у сваты ў суботу. Матка маладога сазывала замужніх жэншчын, яны пяклі пірог. Мужчыны-сваты бралі з сабой пірог і гарэлку, і ўсе яны ішлі да нявесты. Пыталіся:

– А праўда, што ў вас есць цёлачка?

Атвячаў бацька маладой:

– Не толькі цёлка, а і кароўка, выбірайце!

– Нам тую, што вы цёлачкай назвалі.

Еслі нявеста саглашалася, то пераразала пірог, і ўсе садзіліся за стол, давалі падарункі.

### ВЯСЕЛЛЕ Ў МАЛАДОЙ

Княжыя з маладым ехалі на конях да маладой. На дугу завязвалі лентачкі, вешалі калакольчыкі. Матка і бацька встрэчалі хеўру маладога з хлебам і соллю.

Маладую хавалі, а будушчы муж іскаў яе, потым іх саджалі за стол, княжыя выкуплялі ў дружак платочкі, каторыя былі вышыванымі. Гулялі некаторы час і ехалі ў цэркаўку.

### ВЯНЧАННЕ

Калі вянчаліся, то сестрыца маладога дзяржала ў руках па свечачцы. А первые дружка і княжы дзяржалі вянец над маладымі. Глядзелі за свечкамі, якія запальваў поп. Калі гарэлі ярка, то жыццё ў маладых будзе харошым, ладным. Абходзілі разам з папом тры разы вакруг стала і ехалі ад вянца да маладой.

Обычно тры замужнія жэншчыны ўвечары завівалі маладую: "Благаславі, маць і ацец, вашай дочцы косу расплесць". Матка і бацька атвячалі: "Бог благаславіць".

Жэншчыны выпівалі гарэлку, закусвалі, пелі песні, жэлалі ўсяго добрага маладым.

У втары дзень свадзьба ехала да маладога. Зяць палучаў іконку ад цёшчы і разам з жэной должэн быў яе пацалаваць. Сваты выкуплялі пасцельнае бяллё маладой і кучаю ішлі ўжэ ў хату жаніха.

### ВЯСЕЛЛЕ Ў МАЛАДОГА

Маладая вешала ў хаці свякрухі ручнікі, набожнікі. Садзіліся за стол і многа ўсякіх песень пелі, жадалі ўсяго:

– Даю вянок цыбулі, каб маладая не давала маладому дулі.

А то было такое, што передзяваліся ў "маладую" і "маладога", якія весялілі ўвесь народ. А потым ужэ і каравай начыналі дзяліць. Хто пробавал яго, той і падарачак даваў.

***Запісана ў в.Малажын Брагінскага р-на ад Калясан Клаўдзіі Сямёнаўны, 1932 г.н., студэнткай Калясан Л. (2004 г.)***

Жаніх з нявестай гуляюць, а патом дагаваруюцца і назначаюць дзень сватання. У сваты ішлі трое: бацька хросны, бацька родны жаніха і дзядзька. Баб у сваты вапшчэ не бралі. З сабой яны нясуць хлеб з палаценцам. Хадзілі скрозь у суботу. Перад тым, як ісці ў сваты, ішлі да суседзяў і перапытвалі, якая нявеста, што ўмее рабіць. І пасля етага ідуць у сваты. Прыходзілі, садзіліся за стол і запівалі маладую. Счыталася, што ета первая чарка свадзьбы. На сватах назначаўся дзень свадзьбы.

У нас каравай пеклі ў печы. Яго пекла замужняя жанчына, штоб толькі не ўдава. Яна ўчыняла, мясіла цеста адна ў доме нявесты. Калі мясіла, пела песні, штоб харашэ жылі жаніх і нявеста. Не даўжна была яна даваць другім пробаваць цеста, казала: "На чужы каравай рот не разяўляй". Яго пеклі за дзень да вяселля.

Маладую прыбіралі шахвіркі. Адзявалі ні хвату, а вянок з лентамі і марлечку цаплялі ззаду.

Малады з раднёй едуць па нявесту, забіраюць яе і едуць пісацца. У еты ж дзень і вянчаліся ў цэркві. Пасля гэтага ехалі к маладому на абед, а тады ўжэ маладая едзе дадому з усімі гасцямі без маладога.

Каравай дзялілі ў маладой, малады таксама прысутнічаў, пры етым дарылі падаркі. Калі дарылі падаркі, шмат чаго жадалі. Казалі так:

*Жадаю шчасця, долю і хлеба ўволю.*

*Дару вам зялёную рошчу, каб зяць пацалаваў цёшчу.*

*Дару куру квактуху, штоб маладая пацалавала свякруху.*

*Дару вам жменю проса, каб не хадзіла маладая боса.*

*Дару вам палаценца, каб жаніх пацалаваў у маладой каленца.*

Патом к маладой і маладому падсядала моладзь. За сталом спявалі разныя песні. Ну, вось такую помню:

*– Чаму ж не прыйшоў,*
*Як месяц узышоў?*
*Я цябе ждала.*
*Ці каня не маў,*
*Ці сцежкі не знаў,*
*Ці маці не пускала?*
*– Я ж коніка маў*
*І сцежачку знаў,*
*Яшчэ і маці пускала.*
*Младша сястра, штоб не вазрасла,*
*Сядзельца схавала.*
*Большая сястра сядзельца знайшла:*
*– Едзь жа, братка мой, да дзевачкі той,*
*Каторая ждала….*

Такую яшчэ помню застольную песню:

*Цячэ рэчка, цячэ быстрая, скочу, перескочу.*
*Ой, аддай мяне, мая маманька, за каго я хочу.*
*Як аддавала, прыказувала:*
*Госцем не бываці,*
*І жыві гадок, і жыві другі, не ідзі да маці.*
*І жыла гадок, і жыла другі,*
*Трэці не сцярпела,*
*Абярнулася шэраю зязюлькаю,*
*К маці паляцела.*

Пазней начынаецца завіванне маладой. Заходзяць тры бабы і кажуць: "Благаславі маладую зняць вянок! Первы раз зняць вянок, другі раз зняць вянок, трэці раз зняць вянок". А тады ўжэ знімаюць вянок з галавы і ложаць на тарэлку. Касу расплятаюць, расчэсваюць грабянцом косы, закручваюць іх, а патом адзяваюць ёй на

галаву хустку. Ета значыць, што яна ўжэ не дзеўка, а баба. І тады вязуць яе да жаніха жыць.

Ага, во яшчэ што! Калі начыналі дзяліць каравай, казалі: “Ацец і маць, благаславі каравай дзяліць!” Так казалі тры разы. Свадзьбу гулялі яшчэ і назаўтра, і на паслязаўтра.

***Запісана ў в. Малейкі Брагінскага р-на***
***ад Краўчанка Ганны Паўлаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Максімчык А.***

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ПАЖАДАННІ

*Колькі ў лесе пянёчкаў, столькі каб было і сыночкаў.*

*Дару 5 цвяточкаў, каб было 5 сыночкаў, дару 3 вяночкі, каб было 3 дочкі.*

*Дару кучу медзі, каб былі здаровы, як мядзведзі.*

*Дару цяліцу, што лазіць на паліцу (гэта значыць, ката).*

*Дару табе пеўня, табе мяса, а мне пер’я.*

*Дару беленькі платок, каб усё жыццё была, як цвяток.*

*Дару каробачку жаб, каб не бегаў да чужых баб.*

*А табе, нявеста, дару каробку павукоў, каб не бегала да чужых мужыкоў.*

*Дару вам кашэль гліны, штоб к году былі радзіны.*

Калі вядуць нявесту ў хату за стол, і заходзяць дружкі, то начынаюць так:

*Благаславіце, я вжэ іду,*
*Сцяліце кажух – я сяду*
*У шчаслівым месце на куце.*
*Будзе меня мой татачка дарыці,*
*Ой, якою да дарою, доляю,*
*Вялікім шчасцем талонам.*

Калі нявеста прыязджае на двор жаніха:

*– Гэй, …, куды ідзеш?*
*– На парог ступаю*
*І слова права маю.*
*Мая рэч, мая печ,*
*Мая лава, мая слава,*
*Маё вакно і мне відно.*

* * *

*Сені мае новенькія на памосце,*
*Прыехалі да нас, мамачка, усе чужыя людзі.*
*Прыехалі, паехалі, хочуць мяне ўзяць,*
*Хочуць маю галовачку навек завязаць.*
*Схавай мяне, мая мамка, в камоду,*
*Каб не ўзялі з сабою.*
*То ж не тыя, донька, госці прыехалі,*
*Каб без цябе, маладая, паехалі.*
*Няўжо табе, да, Ганначка, не жаль будзе,*
*Як дзевачкі вуліцаю ісці будуць.*
*Будуць да цябе пад акенца падбягаці,*
*Будуць цябе, маладую, гуляць зваці:*
*– Хадзем, хадзем, Ганначка, гуляць з намі,*
*Да сав’ем табе вяночак з перламі.*
*Ой, не хочу ні вяночка, ні перла,*
*Палюбіла я Іванку, як арла.*

* * *

*Стукнула, грукнула на дварэ,*
*– Паглядзі-ка, мамачка,*
*Ці не па міне?*
*– Па цібе, донька, па цібе.*
*– Гатуй, мамачка, кублік мне.*
*– Едзь, мая донечка, без кубліка,*
*Чаму ж ты кудзелечку не скубла?*
*– Я скубла, скубла, шамацела,*
*За такога п’яніцу не хацела.*
*Едзьце, сваточкі, дадому,*
*Паелі коні салому.*

***Запісана ў в. Марозавічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Казловай Праскоўі Рыгораўны, 1925 г.н.***
***(перасяленка з в. Новы Сцепаноў Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кастрыца А.***

Дзяўчаты выконвалі песню перад хатай падружкі, што ішла замуж. Выконваючы яе, яны станавіліся ў карагод вакол сяброўкі-заручонкі. Дзяўчына-нявеста імкнулася вырвацца з кола, таму што дзяўчаты імкнуліся адвесці яе як мага далей ад бацькоўскага дома. Лічылася, што калі дзяўчына не вырвецца з кола, то замужжа будзе нешчаслівым. Нярэдка дзяўчаты, што пелі, самі давалі дзяўчыне магчымасць выйсці з кола, размыкаючы рукі, як бы зычачы ёй шчасця ў новай сям’і.

*А ў маво таткі*
*Сад над ракою,*
*Ой-да, сад над ракою,*
*Над далінаю.*
*Пусці, татачка,*
*У сад пагуляці,*
*Ой-да, у сад пагуляці.*
*Ня буду, татачка,*
*Вішань я шчыпаці,*
*Ой-да, вішань шчыпаці.*
*А сарву я ветачку*
*Ды й пустацветачку,*
*Ой-да, пустацветачку.*
*Панясу я татку,*
*Я яе на парадку,*
*Ой-да, на парадку.*
*Парадзь, парадзь, татачка,*
*Што мне рабіці,*
*Ой-да, што мне рабіці.*

*Ці замуж ісці,*
*Ці дзеўкаю быці,*
*Ой-да, ці дзеўкаю быці.*
*Лепей у таткі чорны хлеб есці,*
*Ой-да, чорны хлеб есці,*
*Чым як з нялюбым*
*За стол сесці,*
*Ой-да, за стол сесці.*
*Лепей у таткі*
*Горы капаці,*
*Ой-да, горы капаці,*
*Чым як з нялюбым*
*У шлюбе стаці,*
*Ой-да, у шлюбе стаці.*
*А ў маво таткі*
*Сад над ракою,*
*Ой-да, сад над ракою.*
*Дай табе Бог, дружка,*
*Шчасця і долю,*
*Ой-да, шчасця і долю.*

Песню спявалі дружкі нявесты, калі маладую выпраўлялі ў дом мужа. Пасля першага радка, а таксама пасля апошняга бацькі нявесты нізка кланяліся сватам, гаворачы: “Просім, просім для дачкі шчасця й долі”.

*Вы, сваточкі-галубочкі, просім вас,*
*Каб не было нашай дзевачке плоха ў вас.*
*Каб не была на качарэжніку пасцеля,*
*Каб не была ў дарожанькі вячэра.*
*Каб не была ды паветачка хаткаю,*
*Каб не была ды суседачка маткаю.*
*Ай, каб была ў краватачкі пасцеля,*
*Ай, каб была за столікам вячэра.*
*Ай, каб была ваша комнатка хаткаю,*
*Ай, каб была свякровачка маткаю.*

* * *

*Ой, у полі два дубочка,*
*А там сядзелі, ой, два галубочка.*
*Ні сядзелі, ні пілі, ні елі,*
*Падняліся ўгару, паляцелі.*
*Ой-да, ой-да, паляцелі.*
*Яны селі ў лузе над таполяю,*
*Гаварылі самі між сабою,*
*Гаварылі самі між сабою:*
*– Худа жыці хлопцу халастому,*
*Ой-да, ой-да, хлопцу халастому.*
*Ой, у полі два дубочкі,*
*Гуляла ў сяле нашым свадзьба*
*Да й да самай ночкі.*

***Запісана ў в. Сялец Брагінскага р-на ад Бандарчук Алены Ерамееўны, 1917 г.н., студэнткай Коцур Н.***

*– Дзяўчыначка мая, заручоная,*
*Чаго ж ты такая засмучоная?*
*– Ой, як мне жыці, вясёлай быці,*
*Каго любіла – трэба забыці,*
*Каго не любіла – каб палюбіла,*
*Каго не знала – каб пакахала.*
*Каго любіла – не пазабыла,*
*Каго не знала – да шлюбу стала.*
*Пайду я ў лясы, лясы зялёныя,*
*Дзе я хадзіла, дзе гаварыла,*
*Асудзі, Божа, каго любіла,*
*Каго любіла – то пазабыла,*
*Каго не знала – то пакахала.*

***Запісана ў в. Сялец Брагінскага р-на ад Коцур Кацярыны Адамаўны, 1910 г.н., студэнткай Коцур Н.***

## СВАТАННЕ

Прыйдзе бацька хросны, прыйдзе там жа брат жаніха ці сястры мужык прыйдзе. Як заходзяць у хату, гавораць зразу: “Мы прыйшлі к вам купляць цёлку”. З пірагом прыходзілі. І гарэлка была. Стол ставіла нявеста. Ну, еслі не сагласна, дык не сагласна – стала не было. Ну, канешна, калі маладыя ўжо сагласяцца, тады і бацькі ўжэ. І заручыны былі.

## ЗАРУЧЫНЫ

Гэта “первая чарка” называлася. Гатовіліся на сталы, да ўсе выпівалі. Разам былі і сваты, і тыя, хто заручаў. Як у каго. А ў каго аддзельна: прыйдуць у сваты, а тады дзелаюць заручыны.

Дзелалі заручыны ў нявесты. Жаніх прыходзіў, а ў нявесты дзелалі. Запрашалі радню блізкую, песні пелі:

*Заручаеш мяне, да мой татка, заручаеш,*
*Чаму ж ты ў саседачак не пытаеш?*
*Ой, ці ціха свякруха ў етым доме?*
*Можа яна гордая мною, маладой?*

*Сабраўся ў збор поўны двор,*
*Насаджала дружачак поўны стол.*
*Схавалі мяне, татка мой, у камору,*
*Штоб ня ўзялі тыя госці й з сабою.*

А ён кажа:

*Ой! Не тыя, маё дзіця, наехалі,*
*Хто без цябе, маладой, паехалі.*

## ПЯРЭЗВЫ

Гэта пасля вяселля. А перад – жаніх едзе к нявесце. Едзе маладзёж. Гэта ж цяпер свідзецель, а калісь жа былі дружкі да дружкі. Як едзе, дык тады ўжэ паедуць у запісь ды й запішуць.

### ВЫКУП

Быў выкуп. Купляюць, грошыкі даюць. І ў вокны лазілі, кралі так нявесту. Як укралі тую нявесту, дык малады было рассердзіўся.

### ВЯНЧАННЕ

Вянчаліся з іконаю. З дома суправаджаюць да й усё. Бацька гаварыў і спявалі ж песню, штоб шчаслівай дарога была. Ікону цалавалі, з іконай і праваджалі, і сустракалі. Песні пелі:

*Пад’язджаюць пад сяло,*
*Зайграй, дудачка, весяло.*
*Ой! Падкіньце мяне вісако,*
*Штоб я пабачыў даляко,*
*І з кім мая нявеста гуляе,*
*Русаю касою махае.*

І о таке караценькія. Гэта як жаніх едзе па маладую. А як ужэ бацька адпраўляе з дому, яна кажа:

*Ой, чаго ж ты гоніш мяне, татка,*
*З дому ў ноч?*
*Дай жа ты, мой татка, мне праваднічка.*
*Хоць малога, хоць малога салавейку садовага.*
*Салавейка рана будзе ўлятаці,*
*Будзе мяне, маладзеньку, пабуджаці,*
*Бо свёкарку чужы татко не пабудзіць,*
*Выйдзе за вароты да й асудзіць:*
*Санлівае, драмлівае чужое дзіця,*
*Санлівая, драмлівая нявестка мая.*

Ето пелі ў Хойніцкім раёне. А ў Брагінскім, як забіралі нявесту, дак тожа ж бацька праваджаў. Дак пелі такія песні:

*Татка мой, да саколіку!*
*Татка мой, да саколіку!*
*Перайдзі жа мне дарожаньку*
*З Юр’ем, з Міколаю, з Юр’ем, з Міколаю.*
*Шчасця не здолей.*

У царкву ехалі, каму захочацца. Пасядуць. І радзіцелі ехалі. Мо матцы не палучыцца, дык бацька едзе.

У жаніха ці ў нявесты ўстрачалі. Паднос такі вялікі быў. У варотах выйдуць і з бутылкаю, і з закускаю і ўстрачаюць. А тады было ўжэ такое, што чарачкі, з каторых яны п’юць, штоб абязацельна разбівалі.

Завязваюць ужо платочак ці брат, ці хросны бацька, ці хто ета? Рука ў руку абводзяць круга стала. І ўжэ саджаюць маладых на кажух. А тады ўжэ брат прадае сястру. Садзяць тую сястру за стол, і брат ужэ таргуе, ён прадае яе. І ўжэ прадасць, дык тады спяваюць:

*Татарын, братка, татарын?*
*Ды й прадаў сястрыцу задарам!*
*Бела вішанька – за пятак,*
*Руса косанька пайшла так.*

Грошы давалі. Грошы, каторыя назбіраюць, нявесце за пазуху лажылі. А як сірата ідзе замуж, дык спяваюць:

*Станавіся, радзіначка, уся ў рад,*
*Ідзе наша дзевачка на парад.*

А яна кажа:

*Усю радзіначку абышла,*
*Нідзе свае мамачкі не знайшла.*
*Галоўка мая ў вяночку,*
*Німа мае мамачкі ў радочку.*
*Галоўка мая ў бярвенку,*
*Німа мае мамачкі на гарэлку.*
*Галоўка мая прыбрана,*
*Дзесь мая мамачка схавана.*

У нас, як ад’язджае маладая, дык пяюць:

*Ці Кацечка (ці хто яна) на адходзе*
*Пасадзіла арэх у гародзе.*
*Расце арэх да й хіляецца,*
*Расце да й жа і хіляецца,*
*А мой татка ўцяшаецца.*
*– Не ўцяшайся, татка, мною,*
*Не ўцяшайся, татка, мной,*
*Бо ня жыць мне з табой.*

Ето пяюць, як ад’язджае маладая ад маткі.

### КАРАВАЙ

Пеклі каравай толькі каторыя ў пары. Пеклі, спявалі, а каравайніцы былі ля печак:

*А каравай, караваю!*
*Я ля цябе добра йграю.*
*І з скрыпкамі, і з дудкамі.*
*І з скрыпкамі, і з дудкамі.*
*Да штоб цябе не спалілі,*
*Да ўвесь род абдзялілі.*

Яшчэ:

*А ў нашай печы – шырокія плечы:*
*Учатырох можна легці – каравай сцярэгці.*

Штось такое было: баяліся, штоб каравай не трэснуў, штоб быў гладзенькі. Гэтага баяліся. Еслі каравай няўдачны, то будзе жыць няўдачна. Так ужо берaглі яго.

Дзялілі калісь каравай на втары дзень. Бярэ яго бацька хросны са стараны жаніха і нявесты.

А да гэтага ж два караваі было: у нявесты – свой, а ў маладога – свой. У нявесты дзеляць нявесціна радня: там хросны ці брат, дзядзькі, мо, якія. А тады парэжуць ужэ на тарэлкі і нясуць. Рушнік засцілалі – на голым жа ня рэзалі. Чалавек браў каравай, і прыказвалі ўсё, ужэ жалалі.

**ПАЖАДАННІ**

*Дарую каробку жаб, штоб не любіў чужых баб.*
*Дарую каробачку гліны, штоб пазвалі на хрысціны.*
*Дарую ніткі, штоб не глядзеў на чужыя лыткі.*
*Дарую куру-квактуху, штоб цалавала свякруху.*

Дарылі грошы. "Гусь – на ўсю Беларусь", – гаварылі. Усякіх было. І грошы дзялілі. Бралі каравай у платочак. Кажды ў платочак браў.

Правяралі нявесту тады, як жаніх прывязе ва двор, ды яна злазіць з машыны ці каня – ставяць дзежу, і яна станавілася на дзежу еслі чэсная, а нячэсная – яна не стане.

На другі дзень раздзеляюць каравай ды тады ўжэ гуляюць увечары. А трэці дзень – збіраюць куры. Да, едуць і збіраюць куры. Прыязджаюць, патрашаць етыя куры, пякуць, і ўвечары – гульня. У жаніха хто надзенецца, хто зможа. Хто гуляе ў свадзьбе, давалі курэй па сагласію. Так не ездзілі, хто не гуляе, от гуляе – то яна сама ўжэ і аддае куры, а тады ўжэ от як аддае последняе дзіця, дык тады адзяюць матку і бацьку. Ужэ робяць вянок матцы і ето – яна ўжэ маладая. Ето як последняе дзіця аддаюць. Бацька адзяваецца жаніхом, а матка – нявестай, і саджаюць іх за стол, як маладых. Так такія прыйдуць ужэ на трэці дзень!

Там такія песні пяюць, што нялзья іх, ну іх. Ето Сямёнаўна, ета – дзействіцельна можна! Я тут за маладую сядзела. Пасадзілі мяне з яе мужыковым дзядзькам. У яго жонкі не было, а ў мяне – мужыка. Маладая я, а ён – малады. Ну, ужэ застаўлялі цалавацца і каравай дзяліці. Ды што там, я баялася, што сын мой быў, можа не захоча, будзе сцясняцца. Да й гаварыла: "Пеця, мяне за маладую саджаюць. Да не хачу я." А ён: "Мама, як давяраюць такое, дык ідзіце ўжэ". Я ўжэ песні пазабывалася. Цалавалася ж толькі на куце.

У трэці дзень ужэ дурэлі. Днём пераадзяваліся ў цыганей, а ўвечары сабяруцца ўжэ да пашуцяць.

**ПЯРЭЗВЫ**

Да нядзелі маладая не ішла і к бацьку, была ўсё ўрэмя ў маладога, а тады ўжэ бацька перазывае і к сабе.

Хадзілі ў пярэзвы. Перазывае і маладога, і маладую, і гасцей, і ўсё – адзін раз. На пярэзвах быў стол.

***Запісана ў в.Сялец Брагінскага р-на ад Цярэшчанка Ганны Васільеўны, 1929 г.н., Краўчанка Кацярыны Сямёнаўны, 1926 г.н., Новак В.С., Вяргеенка С.А., студэнткамі Арловай А., Сакаловай Ю.***

Калі ў нас прыходзілі ў сваты, казалі так: "Мы ішлі па дзярэўні і чулі, што ў вас прыгожая цёлачка прадаецца". А бацькі дзеўкі казалі: "Не цёлка, а дзеўка!". Ды яшчэ пыталі, ці сагласна янаісці замуж. Дзеўка доўга адпіралася, а тады саглашалася. У сваты ішлі хросныя, радзіцелі жаніха і жаніх. Падаркі неслі: як жэншчыне, дык саматканы адрэз давалі, а мужыку – сарочку. Калі ішлі ў сваты, то пелі так:

*Свашка свашку ждала,*
*Тры дні ў ступу клала,*
*Вынесла, замарозіла,*
*Еш, свашка, ета марозіва.*

У сваты малады браў пірог. Калі дзеўка была сагласна іці за яго, то яна брала пірог, калі не, то аддавала назад. Яшчэ маладая сыпала на тарэлку семачкі. Пірог рэзалі напапалам, назначаюць дзень свадзьбы. Тады ўсе гуляюць.

Перад свадзьбай у маладой быў прашчальны вечар. Падружкі маладой ламаюць галлё вішні і рабілі вельца, украшалі етую галлю рознымі бумажкамі, лентамі, і яна такая красівенная была. У нас ета галля называлася «вельцаю». Дзеўкі пякуць булку і ўсаджваюць у яе вельца, і тады ідуць да маладой гуляць. Выпівалі па чарцы, пелі песні, танцавалі, назаўтра ўжэ гулялі свадзьбу. Етае вельца стаяла на свадзьбе ўсе дні, як яна і гулялася.

У жаніха з хлопцамі было такое ж гулянне, як і ў нявесты.

Каравай пякуць родныя ў суботу. У яго тожа ўтыкалі вельца, шышачкі рабілі розныя. Каравай быў у жаніха аддзельны, а ў нявесты аддзельны. Нявесту прыбіралі дружкі. Адзявалі ёй на галаву вянок, плацце, запляталі адну коску і ленту ў яе. Прыказкі прыказвалі. Яшчэ падружкі цаплялі маладому кветку. Калі ехалі вянчацца, запрагалі коней, дугу ўкрашалі рознымі цвятамі, калакольчык вешалі. Воз засцілалі пасцілкаю. Тады малады з маладою садзяцца на воз і едуць у цэркву разам. У цэркві пад ногі маладых засцілалі палаценца, а над іх галовамі дзяржалі вянцы. Тады бацюшка кругом абводзіць маладых, і маладая етым часам цягне нагой палаценца, каб выцягці сваіх падружак следам замуж.

Патом абменьваюцца кольцамі і бацюшка адзяе іх маладым. Пасля ўсяе цэрымоніі выходзілі з цэрквы і на маладых сыпалі канфеты, каб ім салодка жылося. А тады, па закону, ехалі к маладому. Маладых сустракаюць бацька з маткай маладога на вуліцы з хлебам-соллю. Тады ўсе ішлі ў хату, садзіліся за сталы. Маладых саджалі на кажух для таго, каб не сядзелі на пустом, і каб ім не было пуста. Каля маладых сядзіць свяцілка. Жаніха сястра называлася свяцілкай. Яна сядзела за сталом і дзяржала дзве свечкі: адна свечка была маладой, другая – маладога.

Па тым, як гарэлі свечкі, судзілі пра лёс. Калі ў маладога пагана гарэла ці тухла, то казалі, што не вельмі добры будзе, а калі гарэла ці быстра, ці пагана ў маладой, то судзілі, якая будзе жонка. Пагуляюць у маладога, а тады едуць да маладой.

У суботу проста гулялі. Каравай дзялілі назаўтра, у нядзелю. Каравай дзяліў хросны бацька і тыя, хто прыходзіў у сваты. Маладым давалі падаркі. Калі сядзелі за сталом, то пелі такія песні:

*Як пасеялі чарнабрыўцы,*
*А хто ж тыя чарнабрыўцы паліваць будзе?*
*Расціце, чарнабрыўцы, ды не буяйце,*
*А не ідзіце, дзеўкі, замуж, а гуляйце.*

Жанчыны так яшчэ пелі:

*Ужо ў нашай свяцільніцы*
*Завяліся чэрві ў патыліцы,*
*А наш малады лупаты*
*Пабег кругом хаты*
*Да за вялікаю ламакаю,*
*Да за чорнаю сабакаю.*

А тады малады кажа так:

*Давай, мамка, павячэраем,*
*Павячэраўшы, падзелімся.*
*Табе, мамка, пасталы, аборы,*
*А мне, мамка, усе твае прыборы.*
*Табе, мамка, ніты, бердзечкі,*
*А мне, мамка, усе твае палаценечкі.*

А перад етай песняй знімалі вянок з галавы маладой. Знімалі жэншчыны, іх называюць "закасяне". Знімаюць і вешаюць на сцяну. Тады свякруха адзяе платок і пяе:

*Знялі вянок з дзявіцы,*
*А адзелі платок,*
*Із дзявіцы зрабілі маладзіцу.*

Тады вылазяць з-за стала і ідуць да воза. Маладая плача, прашчаецца з домам.

На трэці дзень ловяць куры. Гуляюць у асноўным ужэ родзічы і суседзі. Прывозяць маладую ад жаніха, адзяваюць яе ў цыганскае, даюць дзіця паддзельнае, і тады начынаюць шуціць. Кажуць, што не іхняя нявеста, што ўжо з дзіцям, што яна няўмека. А нявеста дзелае від, што плача. Гаворыць, што яны ашыбаюцца, што дзіця ета не яе. Ну, а тыя на яе ўсяк. Так і гуляюць увесь дзень і вечар. Чэраз нядзелю едуць к бацьку і матцы ў госці, ета "пярэзвы". І тожа збіраюцца родзічы і гуляюць.

***Запісана ў г. Хойнікі Гомельскай вобл.***
***ад Гуз Наталлі Нікіфараўны, 1929 г.н.***
***(перасяленка з в. Хракавічы Брагінскага р-на),***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г. (2003 г.)***

Перад тым, як ісці ў сваты, хлопцавыя бацькі хадзілі загадаваць, шоб дзеўчыная сям'я гатовілася.

У сваты прыходзілі бацькі жаніха, дзядзькі, дружкі, хросны бацька, сам жаніх. Галоўным сватом быў хросны бацька. Бралі з сабой хлеб, соль, гарэлку і ішлі.

Як прыйдуць да дзеўкі, дак у хату не заходзяць, а стануць на парозі дай пытаюцца: "Ці не загубіўся наш бычок? Мо ён к вам прыйшоў? Мы прыйшлі яго шукаць". А тыя кажуць: "Ну, заходзьця, пашукаем, мо і праўда дзе тутака". І прыглашалі сватоў за стол. Тады ўжэ палаценцамі вушыванымі пераўвязвувалі сватоў. Дагаваруваліся пра свадзьбу хлопцаў бацька і дзеўкін.

Тады садзіліся і пілі разам усе, песні пелі. Як сватаюць, песні любыя пяюць, толькі калі завіваюць, дак свадзябныя.

Пасля сватання дзеўка сабірала дружак, а хлопец – дружкоў, і гулялі разам перад свадзьбай. Маладую завівалі ў еты вечар. Дзеўкі завіваюць косу маладой і песні пяюць, а дружок маладога тады плоціць ім за ета.

Первы дзень свадзьбу ў маладой гулялі. Нявеста сабе тры княжы вубірала, а хлопец трох дружкоў.

Як жаніх са сваімі гасцямі едзя да нявесты, дак хто-нібудзь стаіць ля варот да ждзе іх, каб патом нявесту прадупрадзіць, а тая ўжэ бяжыць хавацца. Жаніх прыязджае і шукае яе. Як найдзе, дак тады маладая яму кветку і платок прышывала, а княжы дружкам прышывалі.

Тады садзяцца за стол усе, снедаюць. Паснедаюць і едуць вянчацца. У цэркву раздзельна едуць, а з цэрквы тады ўжэ ўмесці. Ездзілі на конях. Зачэплівалі да дугі званочкі, шоб чутна було, шо свадзьба едзя. Маладых ззадзі саджалі. Песянь па дарозі не пелі. Як ехалі, дак ім дарогу перагарожувалі вяроўкамі. Дружкі выходзілі

да расплачуваліся з імі. Як дзеці перагародзяць, дак давалі канфеты, а як узрослыя, дак гарэлкай расплачуваліся.

У нявесты іх устрачалі яе бацька з маткай і родныя. Як прывязуць маладых, дак яны выносяць на двор стулля да частуюць іх хлебам і соллю.

Тады за стол усіх прыглашалі. За стол усе разам садзіліся. Маладую ля маладога саджалі. Песні ўсякія за абедам пелі.

Тады падаркі маладым дарылі. Матка нявесты жаніху давала падарак дай казала: "Дару табе сарочку, каб любіў ты маю дочку". Бацька маладога кажа маладому: "Дару табе палена, ідзі цалуй цёшчу ў калена". Матка дочцы казала: "Дару табе квактуху, ідзі пацалуй свякруху".

Калі забірае жаніх нявесту дадому, дак ёй косу расплятаюць. Бацька хросны жаніха ўстае дай кажа: "Благаславі, ацец і маць, косу расплятаць". А тыя тры разы кажуць: "Бог благаславіць".

Косу брат доўжан расплятаць, а як няма, дак так якога-ліба хлопчыка просяць. Ён расплятая, а дзеўкі песні пяюць:

*Брат сястрыцу расплятаў,*
*Ды дзе тыя ўплёты падзяваў?*
*Ды меншай сястрыцы падараваў.*
*Да на ж табе, сястрыца, сястрын знак,*
*Да судзі ж, Божа, сястрыца, табе так.*

Тады маладой хустку на галаву завязуюць. Малады плаціць брату маладой і дзеўкам, якія песні пелі. Маладая з маладым едуць да маладога на каравай.

Каравай пеклі бацькі маладога. Каравай разразалі і давалі тым, хто дорыць падаркі і пажаланні гаворыць. Налівалі чарку гарэлкі, адразалі каравай і давалі.

На трэці дзень хто-нібудзь з хлопцаў перадзяваўся нявестай. Яго сажалі ў каляску і вазілі па хатах. Курэй сабіралі. Насабіраюць і вязуць да маладой дадому. Там іх ужэ гатовяць. І к абеду ўсе на куры з'язджаюцца.

Як дождж на свадзьбу ішоў, дак кажуць, шо маладыя багатыя будуць.

***Запісана ў в. Чамярысы Брагінскага р-на ад Сніцарэнка Марыі Андрэеўны, 1929 г.н., студэнткай Краўчанка Н.***

Сабіраюцца маці і бацька і ідуць у сваты за сына. Прыходзяць і начынают шуціць з бацькамі дзяўчыны. Гавораць так: "Мы слыхалі, што вы целічку прадаёце". Бацькі дзеўкі отвечают: "Есць у нас целічка ды не знаем, ці купцы нам падойдуць" – "Дык пакажыце нам сваю красавіцу, ці панравіцца яна нашаму жэніху". Паказываюць нявесту і спрашывают, ці панравіліся яны адзін аднаму. Калі панравіліся, то радзіцелі жаніха запрашаюць нявесту разрэзаць іх хлеб, які яны прынеслі. Потым бацькі нявесты сабіраюць на стол. Ставяць чаркі, закуску, і нявеста налівае ўсім па чаркі. Первыя чаркі бяруць жэніх з нявестай, стукаюцца, а за імі ўсе астатнія – значыць, сагласныя на вяселле. Садзяцца за стол і дагаварваюцца, у які дзень змовіны.

На змовіны ўсё прасцей. Уся радня з боку жэніха і нявесты збіраюцца разам і гуляюць. Потым дагаворваюцца, калі будзе вяселле.

На вяселле запрагаюць тройку коней, вешаюць харошы званочак, штоб красіва звінел. Сват садзіцца, ізвозчыкам садзіцца жаніх са сваімі дружкамі, маладымі хлопцамі. Едуць за маладой к вянцу ў цэркаў.

Маладая бярэ сабе чатыры дзяўчыны. З цэрквi едуць к маладому на абед. Там маладыя гуляюць. Маладую з жаніхом атвозяць дамой. Разам з імі ўся радня жаніхова едуць да нявесты. Потым забіраюць маладую, садзяць на воз і вязуць к маладому жэніху. Следам за імі едуць людзі і разам з сабой вязуць прыданае дзяўчыны: рушнікі, скацерці, падушкі – усё, што трэба для нявесты. Гуляюць у маладога. З маладой знімаюць вянчальнае, расчосваюць яе. Уплятаюць у косы нямножко льна і завязывают ей хустку – дзелаюць яе жанчынай. Потым доўга гуляюць, спяваюць песні, хто якія знае.

*Пайшла дзевачка па ваду,*
*Зачула госцікаў у бару.*
*А ў густым бару конь заржаў,*
*Музыкі заігралі,*
*Маладыя свачачкі заспявалі:*
*– Гатоўсь, мамка, гатоўсь,*
*Ужо нашы госцікі недалёка.*
*А ў шчырым бару конь заржаў,*
*Скрыпкі заігралі, музыкі заспявалі.*
*– Гатоўсь, мамка, гатоўсь,*
*Гатоў рыбачку шатрамі,*
*Едзе дзяцінка з сястрамі,*
*Яны тую рыбачку паядуць,*
*З сабой дзевачку павязуць.*

Потым маладым сцеляць пасцель у атдзельнай комнаце ці кладовкі.

Назаўтра сват, які сватаў маладую, ідзе іх будзіць. І правярае пасцель: ці маладая была дзеўкай.

Калі прыязжалі за дзеўкай, радня, друзья дарыць многа падаркаў – хто што мае.

На трэці дзень сабіраюцца ў дзеўкі сваі людзі, а ў хлопца – сваі. Маладыя едуць да баць-

коў нявесты і дзеляць там каравай, потым каравай дзялілі ў жэніха. Хто грошы кладзе, хто што мае, хто чым багаты. Прыказывалі пры гэтым:

*Дару вам грошы, штоб маладыя былі харошы.*

*Дару каробачку жаб, каб жаніх не любіў чужых баб.*

*Дару вуткі, штоб маладая пацалавала свякруху ў губкі.*

*Дару шчасця і сарочку, штоб маладыя радзілі сына і дочку.*

*Дару шчотку, штоб малады пацалаваў цёшчу ў шчочку.*

*Дару карабля, штоб маладыя днём каталіся, а ноччу цалаваліся.*

***Запісана ў в. Шкураты, в. Мікулічы Брагінскага р-на***
***ад Крывянчук Лідзіі Емяльянаўны, 1943 г.н., студэнткамі Чуйко Ж., Кавалец Г.***

Да мяне прыехалі сватацца зімой. Маладой, бацька і сваты пастукалі ў дзверы, мае бацькі адчынілі. Дык тыя кажуць: “Ехалі на кірмаш купіць цёлачку, ды заблудзіліся. Начаваць німа дзе, пусціце пераначаваць”. Мы іх пусцілі. Яны зараз жа кажуць: “Ой! Ды ў вас такая дзеўка харошая, а ў нас ёсць малады прыгожы. Мо, давайце іх пажэнім?”

Бацькі запрасілі іх за стол. Сваты паставілі гарэлку і хлеб, я гэты хлеб парэзала – значыць згода. Тут ужо елі, пілі і назначалі дзень свадзьбы. Перад свадзьбай у суботу былі заручыны. Прыязжалі да маладой у хату жаніх разам з бацькамі, 4 хлопцы-шаферы і сястра маладога – “свяцілка”. У маладой таксама было 4 шаферкі. Дык вось, шаферкі падводзяць маладому дзеўку (не нявесту). Жаніх з шаферамі кажуць: “Гэта не наша”. Тады дзеўкі яшчэ раз падводзяць дзеўчыну, пераапранутую русалкай. Жаніх таксама кажа, што гэта не яго нявеста. Потым ужо вядуць маладую, шаферы кажуць, што вось гэта ўжо яна. Маладыя садзіліся разам. Шаферкі станавілі чатыры талеркі (колькі хлопцаў), насыпалі ў іх зярняткі, накрывалі платочкамі. Шаферы павінны былі іх выкупіць. Калі ўжо выкупалі, то дзеўкі накалвалі цвяточкі ім на пінжакі, а галоўная шаферка наколвала жаніху і галоўнаму шаферу.

Ехалі ў царкву, вянчаліся. Пасля ехалі к маладому на абед. Бацькі выносілі хлеб, соль, гарэлку. Маладыя выпівалі гарэлку і кідалі чаркі. Маладая едзе адна к сабе дамоў. Малады з шаферамі прыязжаюць да яе, садзяцца за стол. Але паміж маладой і маладым садзіцца хросны бацька маладой, гаворыць жаніху, каб ён купіў маладую. Шафер дае грошы, тады яны садзяцца радам. Усе выпіваюць. Шаферы выганяюць шаферак з-за стала, нават рамнямі, каб хутчэй ішлі замуж. Маладую выводзяць на сярэдзіну хаты, замужнія дзеўкі з яе стараны здымаюць фату, расчэсваюць валасы, расплятаюць касу, просяць грошы ў жаніха, каб заплясці. Заплялі вакруг галавы касу і надзявалі платок, прыпявалі:

*Што мы хацелі, то зрабілі:*
*З цеста – паляніцу,*
*А з дзеўкі – маладзіцу.*

Маладых садзяць радам. Бацька прыносіць ікону і благаслаўляе, звязваюць ручніком рукі.

Садзяцца на воз і едуць у дом да маладога. У гэты час у доме маладой дзеляць 1-ю частку каравая.

Маладых у маладога сустракаюць бацькі. Яны кладуць крышку ад дзяжы, маладыя становяцца на яе – будуць багатымі. У доме маладога вешаюць ікону, якой іх благаслаўлялі, і ўпрыгожваюць ручнікамі.

Малады едзе па цешчу з цесцем і за ўсімі астатнімі. Яны вязуць “скрыню” – прыданае маладой. Брат маладой таргуецца, каб малады выкупіў скрыню. Малады выкупае. Усе садзяцца за стол. Празнуюць.

Варылі кашу ў гаршку. Кашу ставілі на стол. Брат маладой выкупляў яе і разбіваў гаршчок. Дзялілі кашу паміж гасцямі, а чарапкі клалі сабе на галаву нежанатыя хлопцы і дзеўкі. Яшчэ перад гаршком рэзалі другую часць каравая.

***Запісана ад Злыдзенка Любові Мікітаўны, 1927 г.н. (раней пражывала ў в. Шкураты Брагінскага р-на), студэнткай Ліпавай К.***

*Не плач, не плач,*
*Мая матуля, па мне.*
*Я ж буду далёка ад цябе,*
*Я ж буду далёка ад цябе.*
*Ты ж будзеш у хаце палатно ткаці,*
*Ты ж будзеш у хаце палатно ткаці,*
*А я буду ў полі жыта жаці,*
*А я буду ў полі жыта жаці,*
*Цябе ўспамінаці,*
*Цябе ўспамінаці.*

***Запісана ў г.п. Брагін***
***ад Яворскай Галіны Андрэеўны, студэнткай Лішанковай В.***

*Ай, не шум шуміць,*
*А зялёная дуброўка.*
*Ай, баліць, баліць*
*У мяне галоўка.*
*Ай, жэніць, жэніць*
*Мяне татка, маладога.*

*Ай, бярэць, бярэць*
*Нялюбую мне жонку.*
*А ў нялюбай жонкі*
*Печка топіцца не жарка.*
*А ў нялюбай жонкі*
*Мне пасцелька не мякка.*
*А ў нялюбай жонкі*
*Жыццё маё не сладка.*

***Запісана ў г.п. Брагін***
***ад Маргунова Пятра Гаўрылавіча,***
***студэнткай Лішанковай В.***

Звычайна вяселле гулялі ў суботу, у любы час, акрамя паста.

Сватанне. Ад маладога ішлі ў сваты бацька з маці, хросныя, хто-небудзь з родзічаў. Усяго ад 6 да 15 чалавек.

Пасля сватання малады шукае нявесту. А згодай на шлюб быў разрэзаны хлеб, якім нявеста сустракала сватоў. Хлеб трэба з'есці ўвесь. Ідзе застолле з песнямі. Бацькі дамаўляюцца аб вяселлі.

У пятніцу робяць вёльцы з грушы. Робяць звычайна жанчыны, якія добра жывуць у шлюбе, багатыя.

У суботу маладую апранаюць не ў сваёй хаце, а ў сяброўкі. Чакаюць. Потым прыязджае жаніх з маладымі хлопцамі. Заходзяць у хату, выкупаюць нявесту: "Шаг, другі і гаворыць малады ласкавыя словы аб нявесце"; кладзе самае дарагое для нявесты – гэта ён сам.

Потым абвязваюць сватоў. Забіраюць нявесту – і ў ЗАГС. Адтуль едуць да нявесты. Іх сустракаюць з іконамі, хлебам-соллю, благаслаўляюць. Жаніх і нявеста выпіваюць трохі шампанскага, астатняе кідаюць праз правае плячо так, каб бакалы разбіліся.

Хросны вядзе за стол маладых за насавы платок. Каля маладога – хросныя і сведкі. Потым ідзе прыглашэнне, маладых віншуюць бацькі.

Наступным этапам у вяселлі з'яўляецца каравай. Сваты заклікаюць хроснага для дзяльбы каравая. Хросны просіць благаслаўлення ў бацькі маладой унесці каравай. Пад музыку ўносяць з песнямі каравай, пляшуць. Хросны дзеліць каравай, сярэдзіну аддае маладым. Яны ложаць каравай на адчыненае акно, дзе стаіць румка. Маладыя дзяўчаты і хлопцы павінны выкрасці гэты каравай і каціць; пустую румку разбіць да першага перакрыжавання дарог.

Потым маладая разам з маці абдорваюць падарункамі родзічаў маладога. Калі падарункі раздораны, прыбіваюць вёльцы маладога. Пасля гэтага малады забірае нявесту і вязе на ноч да сябе. Прыязджаюць госці маладой і гуляюць у маладога з вёльцамі маладой.

Завіваюць маладую, бяруць века з дзяжы для выпечкі хлеба, жыта, хустку, грэбень. Бягуць дзве жанчыны: адна ад маладога, другая ад маладой. Просяць благаслаўлення зняць фату (3 разы). Знімаюць фату і апранаюць яе дружке, пастукалі веком па галаве, прычасалі маладую, адзелі хустку і спяваюць:

*Што хацелі, то зрабілі:*
*З цеста паляніцу,*
*Дзеўкі – маладзіцу.*
*Дай мне, матка, масла,*
*Бо я карову пасла*
*С утра до ночі,*
*Украсіці косы.*

Гэта спяваюць, калі завіваюць: "Мы ўсталі, дайце погрець рукі". Усем даюць выпіць румку. Яны выпіваюць. Потым уцякаюць. Хто хутчэй прыбяжыць, того будзе верх (жаніха ці нявесты). Ідзе гулянне. Зяць абувае цёшчу. Пераапранае ў што зра (для шуткі). Потым адзявае зяць у добры абутак, вымыўшы перад тым ногі. Госці спяваюць:

*Эта тыя чобаты,*
*Што зяць даў.*
*А за тыя чобаты*
*Дачку ўзяў.*
*Чобаты, чобаты вы мае,*
*Нарабілі клопату вы міне.*
*Палажу я чобаты на кручку,*
*Ліха вашай мацеры за дачку.*

Прыбіваюць вёльца. Сваты разбіваюць румкі і разыходзяцца.

Трэці дзень – "куры". "Куры" таму, што звычайна падстаўныя маладыя пераапранаюцца, бяруць з сабой цыган і ходзяць па дварах – крадуць курэй. Увечары з гэтых курэй варацца суп. Пасля гэтага адбываецца тэатралізаванае прадстаўленне, на якім паказваюць шлюбную ноч маладых.

***Запісана ў в. Камарын Брагінскага р-на***
***ад Глуўко Тамары Міхайлаўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Квятной М.***

## ТУМАН ЯРАМ

*Туман ярам, ярам-даліною,*
*Туман ярам, ярам-даліною.*

*За туманам нічога не відна,*
*Толькі відна дуба зелянога.*
*Пад тым дубам крыніца стаяла,*
*Там дзяўчына воду набірала.*

*Ды ўтапіла залато вядзерца,*

*Засмуціла казакова сэрца.*
*А хто ж тое вядзерца дастане,*
*Той са мною на ручніку стане.*

*Хлопец тое вядзерца дастане,*
*Ён з табою на ручніку стане.*

***Запісана ў Рагачоўскім р-не***
***ад Голік Ніны Мікалаеўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з Брагінскага р-на),***
***студэнткай Пятровай С.***

# Буда-Кашалёўскі раён

## СВАТЫ

У сваты хадзілі позна вечарам родзічы жаніха: родны ці хросны бацька жаніха. Часта ў сваты прыязджала многа народу, бывала і 12 чалавек. Нявесціны бацькі запрашалі сватоў у хату. Яны садзіліся за стол і дамаўляліся, калі будзе вяселле.

## ДЗЯВІЧНІК

На вечар напярэдадні вяселля ў нас казалі "дзявічнік". Вечарам прыходзілі дружкі нявесты. Дарылі нявесце падаркі, спявалі песні.

## КАРАВАЙ

Каравай пяклі ў хаце нявесты. Жанчына, якая рашчыняла цеста, прасіла на гэта дазволу ў бацькоў маладой. Перад тым, як паставіць каравай у печ, яе чыста вымятаюць. Нельга было чапаць каравай пасля выпечкі. Потым каравай вымалі з печы і клалі на ручнік. Спявалі песні. Першымі жадалі маладым шчасця бацька і маці. Затым сват клікаў на каравай хросную і хроснага. Яны кідалі грошы на каравай і казалі: "Бацьку, маці, каб к нашым маладым прыбылі і на каравай далі". На каравай давалі хто што: хто грошы, хто курыцу.

Было, маладых благаслаўлялі, жадалі ім шчасця. Звычайна садзілі на вывернуты кажух.

## ВЯНЧАННЕ

У царкву ездзілі на конях. Галінкамі ўкрашалі каня, дугу. Ехалі з музыкай, іграў гармонік. У царкве бацюшка запальваў свечкі і даваў іх маладым. Яны трымалі свечкі да таго часу, пакуль адна з іх не пагасне. Чыя раней пагасне, той раней памрэ, чыя даўжэй будзе гарэць, той будзе даўжэй жыць.

## СУСТРЭЧА МАЛАДЫХ

Сустракаюць маладых хлебам-соллю, гарэлкай, абсыпаюць жытам, каб маладым шчасліва жылося. У хаце жаніха маладая на вокны вешала ручнікі.

Паслявясельную частку называлі "пярэзвамі". Цэлы тыдзень вадзілі пярэзвы.

***Запісана ў в. Губічы Буда-Кашалёўскага р-на ад Краснабаевай Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н., студэнткай Старавойтавай Ю.***

## СВАТЫ

У сваты хадзілі дзядзька, бацька, малады. Нясуць з сабой кашолку. Стукаюць у дзверы, адчыняюць і кажуць:

– Можна к вам зайсці?

– Захадзіця. Па якой прычыне?

– Да вот, цёлачка наша бегла ды куды-та прыбілася. Сказалі, што ў еты двор пабегла.

– Прахадзіця, прахадзіця. Ё ў нас цёлачка. Якая ваша цёлачка? Ці пярвостачка, ці цельная?

– Хто яе знае. Не бачылі мы. А бычок наш дужа азартны.

Тут ужо кашолку ставяць на стол, закусь, выпіўку.

– Ну, і дзе ж ваша цёлачка?

Тыя выводзяць старую жэншчыну.

– Ой, не! Эта не наша цёлачка. Наша красівая, стройная, маладая.

Патом ізноў тое самае. І тут выводзяць яе.

– Да, вот ета наша ўжэ!

Калі прыходзілі сватаць дзеўку, пасярод хаты лаву ставілі, засцілалі яе ручнікамі. Дзяўчына павінна тройчы стаць на лаву і даць адказ сватам. А сваты казалі: "Стань, дзеўка, стань, красна. Дай адказ ясны". Дзяўчына адказвала: "Хочу – стану, хочу – не, хочу – дам згоду, хочу – не".

Калі дзяўчына давала згоду, то падавала свату ў рукі бутэльку з зярном. Значыць, яна згодна. Тады начыналі заручыны.

## ЗАРУЧЫНЫ

Заручыны былі ў адзін дзень. Вячэраюць, рашаюць, калі свадзьба. Сватоў падпярэзваюць намёткамі вышыванымі, доўгімі. Сватам прыкалывалі цветы з лент, якія мы абычна ў магазіне купляли. Простыя, краснага цвета. А калі і самі дзелалі. Як прыкалывалі, песню пелі:

*Прышывала кветачку шаферку,*
*Паламала голачку стальную.*
*А ты, шаферка, спагадай,*
*Мне на голачку рубля дай.*
*Не кладзі рубля – кладзі два,*
*Наша Маня – не ўдава,*
*Наша Маня – алый цвет,*
*А ваш Фёдар старый дзед.*

## ПАСАД

У ЗАГС ездзілі толькі маладзейшыя, старыя дома есці гатавалі.

Перад уваходам у хату, пасля ЗАГСу, слалі саматканы палавік і пасыпалі зярном, каб багаты былі.

Нявеста ўсю свадзьбу плакаць даўжна. Інагда ёй дажа вочы цыбуляй паціралі. Гулялі ў жаніха, тады ў нявесты, а трэці дзень – дзе надумаюць.

Пасад праходзіў так. Маладых садзіў на кажух бацька хросны і гаварыў: “Хай ваша сям’я будзе такой багатай, як еты кажух”.

Раней пяклі гасцінчыкі. Клалі кожнаму госцю па два на чарку. Калі елі іх, жадалі нешта маладым.

### КАРАВАЙ

Пазней, ды і шчас, пякуць каравай. Абычна рабіла матка. Патом хросны з хроснай дзялілі каравай. Первым давалі радзіцелям маладых. А самім маладым, як пакінуць. На стале былі і ладкі, і бульба, яблыкі, блінчыкі, свяжына. Ой, многа ўсяго.

Увечары слалі пасцель у хаце маладога.

### ДРУГІ ДЗЕНЬ

А ўтрам свякруха глядзела, ці “чыстая” нявеста. А потым паказвала ўсім. У еты дом прыходзілі бабы, заходзілі ў комнату маладых. Станавіліся па адной ля акна на слончыку. Закрывалі спадніцамі свет. Так было, пакуль гарэлкі не дадуць гасцям. Спявалі каля вакон: “Амуцяфнуця, вы нас не муцця”.

Бабы выпівалі, хвалілі маладую, якая яна гаспадынька добрая, рукадзельная.

Калі на каравай выходзілі, неслі хто што мог маладым: хто грошы, падарачкі, хто казаў, што скацінку дорыць.

### ТРЭЦІ ДЗЕНЬ

Тады яшчэ на трэці дзень гарох тапталі. Такая была завядзёнка. Наверна, каб слёз не было, гора, ругані. Таму і хацелі ў муку сцерці. За маладой не закрывалі дзвер на первый дзень, калі заходзіла к жаніху, штоб яе дружкі замуж удачна вышлі.

***Запісана ў в. Дзербічы Буда-Кашалёўскага р-на ад Здольнікавай Тацццяны Пілінаўны, 1927 г.н., студэнткай Самуйленка А.***

Раней вяселле пачыналі гуляць з нядзелі, гулялі некалькі дзён. Свадзьбу згуляюць, потым гуляюць у хроснай, у хроснага і ва ўсіх сваіх самых родных па аднаму дню. Гэта называлася “вадзіць пярэзвы”.

### СВАТЫ

Хлопец са сваёй раднёй прыходзіў да маладой у сваты, прасіў дазволу выкупіць “чырвоны тавар”, а бацькі маладой павінны ўсадзіць гасцей за стол і пачынаць частаваць з хлеба з соллю.

На самой свадзьбе пяклі каравай, потым дзялілі ўсім гасцям. Калі яго дзеляць, то маладым звязваюць рукі ручніком, і абсыпалі зярном.

Звычайна, у канцы вяселля маладая прымярала вянок свой ці фату сваім сяброўкам: лічылася, што калі каму-небудзь яна не надзела вянок ці забыла пра гэта, то тая дзяўчына не выйдзе замуж.

Вялікім грахом лічылася, калі жаніліся не па каханню. Лічылі, што Бог за гэта пакарае, і маладыя разам не застануцца.

***Запісана ў в. Івольск Буда-Кашалёўскага р-на ад Мартынавай Ганны Іванаўны, 1932 г.н., студэнткай Венскай М.***

### СВАТЫ

Жаніх разам са сваімі родзічамі (бацькамі, дзядзькамі) ідуць да нявесты. Кажуць: “Ну, вот мы хадзілі і заходзім туды, дзе цёлка прадаецца, нам казалі, што тут яе прадаюць, і нам патрэбна яе купіць”. Ім адказваюць: “Ё, садзіцеся, дагаворымся”.

Сваты ставяць сваю выпіўку, а бацькі нявесты тады таксама пачынаюць ставіць закуску, выпіўку. Выпіваюць, а потым ужо дагаварваюцца аб усім: роспісі, свадзьбе. Перад свадзьбай падружкі нявесты падушкі насыпалі, кружавы вязалі.

У суботу вечарам падружкі прыходзяць да нявесты, памагаюць кружавы прышываць, гатавалі ўбранне ў жаніховую хату.

У нядзелю жаніх збіраў сваіх шафераў, трохі ўкусяць і бралі свяцілку ад жаніха. Ад жаніха – кажух, садзяць яго на кажух, і бацька хросны тры разы абносіць свяцілку вакол галавы, і тады выпраўлялі. Нявеста ажыдае са сваімі падружкамі жаніха. Шафер выкуплевае нявесту, а падружкі просяць выкуп. Грошы трэбавалі, выпіўку, ставілі стол.

Жаніх бярэ нявесту, ідуць к нявесце ў хату, і там іх садзяць на кажух, і свяцілку абносяць тройчы вакол галавы, а пасля пасылаюць к вянцу ў царкву. Ставяць пад вянец, бацюшка дае сведкам ручнік, і яны трымаюць над галавамі жаніха і нявесты. Нявеста дае ручнік бацюшку, а ён звязвае рукі і водзіць па царкве, і той ручнік забірае сабе.

Пакатаюцца і едуць к нявесце на абед. Выходзяць ім насустрач з іконай і хлебам і вядуць у хату. Хто дае мёд, каб сладка жылі, хто зярном абсыпвае, каб багатымі былі. Гуляюць, п’юць, ядзяць, пляшуць. Бліжэ к вечару пачынаюць дзяліць каравай. Каравай рэзалі дружкі: адзін рэзаў, другі разносіў, ад жаніховай рукі дружкі. Спачатку дзялілі блізкім, а потым суседзям, моладзі.

На каравай давалі падарункі. Нявеста давала жаніховым бацькам падарункі. Бяруць пасцель дружкі, але спачатку яны павінны выкупіць яе, блізка нікога да яе не падпускалі, бераглі, і

едуць да жаніха. Зноў ім насустрач выходзяць з хлебам і іконай.

### ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

На другі дзень гуляюць у жаніха. У абеды жаніх разам з нявестай едуць да нявесты, дзе прыглашаюць усіх гасцей да жаніха. Тыя едуць з гардзінамі, платкамі, іх сустракаюць з гарэлкай, закускай. Потым госці заходзяць у хату і пачынаюць убіраць жаніхову хату. Потым садзіліся за стол. А вечарам пачынаюць дзяліць жаніховы каравай. Таксама рэзалі дружкі. Моладзь ідзе на гулі, а старыкі разыходзяцца.

### ТРЭЦІ ДЗЕНЬ

На трэці дзень збіраліся ў жаніха. Госці ў жаніха бралі пеўня, разам скублі яго, смалілі, варылі, а тады і разам зноў весяліліся. Жылі спачатку ў жаніха.

***Запісана ў в. Лозкі Буда-Кашалёўскага р-на ад Сюськінай Лідзіі Мікалаеўны, 1939 г.н., студэнткай Кавалёк Н.***

Я выйшла замуж у 35 год. У моладасці была баявая дзеўка. Вельмі любіла танцаваць і пець, асабліва частушкі. У меня ў сям'і ігралі і на скрыпке, і на гармошке браты і бацька. Работала я на спіртзаводзе, які стаіць у нас. І аднойчы, калі я шла дахаты, маці гаворыць, што прыйшлі 9 сватоў. Калі я зайшла ў хату, то сказала:

*Што, прыйшлі сватацца?*
*Я не стану пратацца.*
*Я нявеста не плаха,*
*Выбіраю жаніха.*

У тыя часы нада было ўсіх падвязаць белымі палаценцамі. А я гавору сватам, што ў мяне няма чым падвязаць вас (падвязвалі за рукі), а яны гавораць, што не трэба, нам трэба ты.

Затым я пайшла ў магазін, купіла палаценец і кожнага падвязала. А жаніх мой толькі прыйшоў з арміі. Малады зусім, звалі яго Толік. Свадзьба ў мяне была вельмі громкая. Тры браты і бацька гулялі на гармошке.

На свадзьбе абавязковых страў не было. Што мелі, то і елі, але тады быў модны такі салат – вінігрэт. Перад свадзьбай была вечарынка. Мы і спявалі, і танцавалі.

Каравай на вяселле пякла толькі маці, украшалі цвяточкамі, лістамі з цеста. Дзяліў каравай заўсёды сват.

На свадзьбе садзілі на кажух, каб багатыя былі. Ну, я і не жалуюсь, хоць муж быў і п'яніца, я радзіла двух сыноў, яны мне памагалі.

### ЗБОРЫ ДА ВЯНЦА

Ён, малады, прыязжае з бутылкай і канфетамі. А плацце ў мяне было з белага шоўку. Я сама яго пашыла. На галаве была хустка. Ездзілі на роспісь на канях. Вакруг сват насіў тры разы хлеб і соль. Людзі ждалі маладых, а затым сядалі за стол. Да маладога не ездзілі, таму што жылі ў бацькоў маіх.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на ад Сілінай Марыі Рыгораўны, 1920 г.н., студэнткай Краўчанка Н. (2003 г.)***

Гулялі вяселле ўвосень. У маі не гулялі. У Каляды гулялі. Маладая перад выкупам гаварыла: “Як я ў цябе, мая матка, загавела, штоб твая ладзенька звярэла”. На вечарынке дружкі расплятали маладой касу.

Сваты адбываліся так. Прыходзілі сваты, бралі з сабой гарэлку, сала, хлеб і гаварылі: “Сюды мы папалі ці не?”

Ім адказвалі, што яны папалі туды, і яны заходзілі. Першым дзелам спрашвалі маладую, ці згодна яна выйсці замуж. Налівалі ёй чарку, калі яна выпівала, усе садзіліся за стол. На сватанні дагаварываліся пра дзень свадзьбы.

Перад свадзьбай маладую ўпрыгожвалі. Вянок быў з цвятоў з тканіны, розамі. Іх аблівалі свечкамі, воскам. Вянкі былі белыя. Бралі цюль сетачкай і прыцэпвалі. Гэта ўсё падкрахмальвалі.

Калі дзеўка шла замуж чэсная, вянок быў абавязковым. Калі не – вянок не адзявалі. Прыбіраючы маладую, пелі песню (начала не помню):

*– Устань, мамачка,*
*Мяне благаславі.*
*– Рада бы я ўстаці,*
*Засыпаны вочы пяском,*
*Дубовыя досткі сціснулі,*
*Не ўстану.*
*Жоўтым пясочкам,*
*Засыпаны вочкі,*
*Не ўстану.*

Пры выпечцы каравая пелі:

*Каравай з печы не лезе,*
*Зяць з печы не злезе.*

Пяклі каравай сваткі.

Калі ехалі да вянца, з сценкі снімалі ікону, маладыя цалуюць ікону, і яе ставяць у вугал.

Сустракаюць маладых з хлебам-соллю. Пры сустрэчы даюць маладым тры румкі з гарэлкай. Першую яны адпіваюць і выліваюць. Другую таксама. Трэцюю выпіваюць да канца і закусываюць хлебам-соллю, чарку б'юць, каб добра жылося.

На першым вечары сваты дзялілі каравай.

На другі дзень – гэта дзень падстаўных маладых. Хто-небудзь перадзеваецца ў маладых. Мужчына – у маладую, жанчына – у маладога, і садзяцца на пасад маладых. Разыгрываюць свадзьбу.

На трэцці дзень свадзьбы малоцяць гарох. Рассыпаюць яго на пол і скачуць на ім.

Калі пасля першага дня свадзьбы ідуць маладыя да маладога, малады пра сябе кажа: "Я – кот, а ты – кошка".

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на ад Вараб'ёвай Паліны Ігнацьеўны, 1924 г.н., Вараб'ёвай Ганны Ігнацьеўны, 1920 г.н., студэнткай Краўчанка Н. (2003 г.)***

*Прыехалі сваты на двор,*
*Пусцілі стралу ў акно.*
*Страла мая, страла,*
*Па што ты прыйшла?*
*Чы па мёд, чы па гарэлку,*
*Чы па красну дзеўку?*
*У чужую старану аддаваць,*
*Будзя чужой мамачцы гадзіць,*
*Ад зары да зары рабіць.*
*Хмурыцца на двары, хмурыцца,*
*Татулька і матулька журацца:*
*Гадавалі дачушку на долю,*
*А цяпер аддаём у няволю.*

* * *

*Каля цесцева двара*
*Ды каменная гара.*
*Вой, як тую гору*
*Канём перасяку.*
*Каля цесцева двара*
*Ды зялёная хмара.*
*Вой, я тую хмару,*
*Хусткаю размахаю,*
*А сваю Настачку*
*Без дружак пазнаю.*

* * *

*Заручае мяне мамка, маладую,*
*Ой, да зязюлю лугавую,*
*Я яе пасаджу ў кравацi,*
*Яна будзе мяне рана прабуджацi,*
*Бо свякруха – яна не матуля,*
*Рана не пабудзе,*
*А выйдзе на вуліцу да і абсудзе.*
*Санлівае, драмлівае чужое дзіця,*
*Як прала белы кужаль, так драмала,*
*Як кросны ткала, дык зусім спала.*

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на ад Санчанка Ганны Пятроўны, 1923 г.н., студэнткай Хімачка А. (2000 г.)***

У сваты хадзілі радзіцелі, пагаворац, сабіраюцца жаніховы бацька і матка і ідуць к нявесціным родным, бяруць магарыча, закуску, ідуць дагаворвацца к свадзьбе.

На вянец, калі вянчаюцца, прыязджае жаніх, выкупляе нявесту, тады садзяцца на падводу, малады на сваю з дружком, а маладая на сваю падводу з дзеўкамі.

Едуць у цэркву. У цэркве тожа яна стаіць з падружкамі. Ля яе стаіць першая дружка, а ля жаніха – першы дружок. Тады бацюшка ставіць іх у пару і водзіць кругом стала. Дружкам дае іконкі ў рукі. Маладыя цалуюць іконы. Патом налівае бацюшка віна ў чашы і дае, каб тры разы глынулі жаніх і нявеста. Памоліцца бацюшка Богу. Дружкі іконы пацалуюць і аддадуць бацюшку. Жаніх бярэ нявесту пад ручкі, выводзіць з цэрквы, садзяцца разам, едуць дамоў у адной падводзе.

Тады іх устрачаюць матка і бацька з іконкай. Маладыя кланяюцца ім і цалуюць ікону. Выпіваюць віно і чаркі абязацельна разбіваюць. Ета так нада. Ета ў нявесты дома. Калі яны ўжэ ідуць у хату, то іх абсыпаюць зярном, каб шчасце было. Як пасадзяць маладых за стол, то пяюць розныя песні.

Во якую песню пелі мне, калі я ішла замуж, мая баба родная пела мне, сіраце, дык усе плакалі:

*– Не аддай, не аддай мяне, мамачка,*
*У чужы край.*
*Не аддай, не аддай мяне, родная,*
*У чужы край.*
*Я ў чужым краю*
*Нічагусенькі не знаю.*
*Я ў чужым краю*
*Нічагусенькі не знаю.*
*Пашлюць мяне рана*
*Па ваду к Дунаю.*
*Ой, там будзе грамада людзей*
*Стаяці.*
*Ой, там будзе грамада людзей*
*Стаяці.*
*– А ты, донечка, усім пакорненька*
*Укланіся.*
*А ты, мілая, усім пакорненька*
*Укланіся.*
*Скажуць людзі, што разумнай*
*Мамкі дочка,*
*Скажуць людзі,*
*Што багатага татачкі.*

І вось такую песню пелі мне на маёй свадзьбе:

*Пасадзіла я дружочкаў*

*Усіх за стол,*
*А то маё цела*
*Павышай усіх.*
*Ды задумала думачку*
*Паболей усіх.*
*Галовачка мая, бедная,*
*У вяночку,*
*Няма маёй роднай мамачкі*
*У радочку.*
*Галовачка мая бедная ў цвеце,*
*Няма маёй роднай мамачкі на свеце.*

На свадзьбе абязацельна ёсць каравай. Стараюцца пекці яго, штоб быў красівы, укусны. Абязацельна свечка даўжна быць. Як выцягваюць з печы, то ставяць на рушнік і свечку бяруць, запальваюць, Богу моляцца, штоб харашо жылі, не сварыліся, штоб здаровенькія былі.

Калі дзеляць каравай, вызываюць першымі бацьку і матку і кажуць: "Ці ёсць тут такія ацец і маці? Благаславіце дзіцяці каравай раздаці". Тады другі раз і трэці кажуць так. Тады рэжуць, вызываюць сваіх родных братоў, сясцёр. Тады каравай рэжуць па кусочкам, даюць якога квасу, кампоту ці гарэлкі, хто як, і выпіваюць, і жалаюць маладым усяго харошага, і дорацьшто-небудзь.

Маладых на кажух садзяць. Кажух – ета ўродзі бы, штоб ніякіх прысмутаў не было для маладых. Як канчаецца каравай, то нада маладых біць рушнікамі, штоб ім больна было, ета закон такі.

На другі дзень свадзьбы сабіраюцца госці маладой да яе, а жаніховы – да яго. А тады ўжэ ад маладой госці ідуць да жаніха.

Перадзяюцца хто-небудзь у нявесту, хто-небудзь у жаніха і хто ў што і ідуць па вуліцы, песні пяюць, іграюць на гармонях. Тады жаніхова радня ўстрачае і кажа, што гэта не тыя маладыя і не пускаюць іх. А патом госці маладой усё раўно ўрываюцца і ўжэ ўсе разам у жаніха гуляюць, дурэюць.

На трэці дзень абязацельна ідуць к маладой сваты, курэй ловяць, дзяруць, вараць суп ужэ, ета гульня такая.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на ад Цыбранковай Наталлі Іванаўны, 1928 г.н., студэнткай Галушкінай С.***

## СВАТАННЕ

Перад сватаннем хадзілі да бацькоў дзяўчыны прасіць рукі. У сваты ішлі ўсе родныя, асабліва мужчыны бліжэйшага роду, бацькі, хросныя, браты, дзядзькі. Выбіралі ў сваты куму, кума, дзядзяк родных. Яны павінны засватаць дзяўчыну, дагаварыцца аб вяселлі. У доме дзяўчыны спачатку шло прывітанне і пажаданні, а потым выкуп. Дзяўчына, калі адмаўляла, давала гарбуза. Частавалі тады, калі давала згоду, пілі гарэлку.

## ЗАПОІНЫ

Запоіны і заручыны – гэта адно і тое ж. Яшчэ называлі сватаўство. На заручынах пілася гарэлка і размаўлялі аб вяселлі.

## ЗБОРНАЯ СУБОТА

Вечар у дзяўчыны напярэдадні вяселля называўся дзяўчатнік або зборная субота. Збіраліся ўсе родныя, у асноўным сяброўкі. Дзяўчына прашчалася са свабодным жыццём.

***Запісана ў в. Сялец Буда-Кашалёўскага р-на ад Мяшковай Лісы Міхайлаўны, 1931 г.н., студэнткай Курачкінай І.***

## *Веткаўскі раён*

Свадзьбу можна завсегда гуляць, галоўнае, каб не на Вялікі пост. Ну, на маім вяку две бальшыя свадзьбы было. Мая і сына, кагда выдавала за яго ўдавіца чужая дочку. Сын прыйшоў з арміі, сказаў, што жаніцца на ёй будзе. А ў нас грошай няма. Ну, мы з мужам занялі трёшку, купілі гарэлкі ды пайшлі да нявесты. А ўжо тады всё не так было. Заручыны тут жа былі. Цераз две недзелі свадзьба была. Каравай пяклі за дзень. У нас тады было всё равно, хто пёк, толька б не ўдавіца. Гэта дрэнна. Добра, кагда матка хросная пяке, бо з яе рук Хрыстос свет ілье.

За дзень да свадзьбы маладая з падружкамі сабіраюцца і песні паюць, но так раньшэ было.

Свадзьбу гулялі адзін дзень, бо сваццця больш не давала, бо ана ўдавіца. Свадзьбу ў яе спраўлялі, а жыць ужо ка мне прышлі.

Песень мала пелі, толька дзеўкі, і ўжо пелі за сталом. Я мала іх помню.

*Чаму, салавейка, смуцён, невясёл?*
*Што павесіў галоўку, зярно не клюёт?*
*Кляваў бы я зёрна, да коласа нет,*
*Пеў бы я песню, да голасу нет.*
*Залатая клетка душыла меня,* *2 р.*
*Маладая дзеўка сабе гуляла,*
*Гуляла, гуляла, сдзелалась бальна.*
*Крычала, гукала: падай доктара!*
*Прыязджае доктар, парань маладой,*
*Пытаецца ў дзеўкі, чым дзеўка бальна,*
*Яна не здарова, сама чуць жыва.*
*Годзе табе, дзеўка, доктара займаць,*
*Пара табе, дзеўка, замуж ідці.*

* * *

*Выйшла з дому ў дом чужы,*
*За мужам я выйшла ў дом яго.*
*Два гады жыла нармальна я,*
*На трэці годзік зажурылася,* *2 р.*
*Да радзімай мамы запрасілася.*
*Сдзелаюсь кукушкай, дамоў палячу,*
*Сяду на калітку, буду кукаваць.*
*Выйдзе з дому маці ваду браць,*
*Мяне ўвідзе, возьме назад.*
*А не выйшла маці, выйшаў меншы брат.*
*Што й та кукушка жалабна пяе,*
*Так сэрца сжымае.*

***Запісана ў в. Грабаўка Гомельскага р-на (перасяленка з п. Гібкі Веткаўскага р-на), ад Чварковай Таццяны Паўлаўны, 1935 г.н., студэнткай Вальчанка В.***

Раньшэ свадзьба – красацішча была. Долга спраўлялі. Ка мне сваты прыхадзілі ад парня. Там хросны был ягоны, бацькі не было, а мо ззаду стаяў. Дружкі былі ягоныя. Я на печке сядзела, дык не баялася, мы з жаніхом даўно ўжо згаварыліся.

Сваты цялушку прасілі прадаць, а былі і другія прыгаворкі, а я іх не помню. У сватах песні пелі:

*Стаяла, буяла* 2 р.
*У полі канапелечка.*
*Не даў ёй ветрык* 2 р.
*Яшчэ болей пастаяці,* 2 р.
*Галінкамі памахаці.*
*Гуляла красавіца Маша,* 2 р.
*Не даў ёй парянь* 2 р.
*Яшчэ болей пагуляці,*
*Коскамі памахаці.*
*Расплёў ён ёй косачкі,* 2 р.
*Разліў ён ёй слёзачкі.*

Заручыны тут жа былі. Гарэлкай запівалі. Потым прыгатаўліваццa пачынаюць. Просяць жанчын прысці каравай пекці. Абязацельна маці хросную прасілі, падруг маці маладой. Не бралі ўдавіц, жанчын, у каторых сын ці дочка памерлі. Абязацельна песні над караваем пелі:

*Мар’іна маці просіць:*
*Вы, саседкі мае,*
*Вы, падругі, прыдзіце ка мне,*
*Не ка мне, а к дачке,*
*Каравай мясіці,*
*Каравай ляпіці,*
*У печ ставіці,*
*Каравай пекці,*
*Вяселле гуляці.*

Маладая з дзеўкамі сабіраліся перяд свадзьбай. Пелі песні, сабіралі всё, што нада было. Маці гаварыла, што раньшэ вянок пплялі. Не ведаю, мне не плялі.

Кагда маладую праважалі, дзеўкі маладыя песні пелі ёй:

*Як будзеш, Мар’я, з вянца ехаць,*
*Заедзь, Мар’я, к татку на могілкі,*
*Растапчы ножкамі траўку-мураўку,*
*Разграбі ручкамі дубовыя доскі,*
*Пакланісь татку нізка ў ножкі,*
*Пазаві татку ў госці:*
*– Прыедзь, татка, на свадзьбу,*

*А то без цябе не весела.*

Маглі ішчэ пра мамку так пець, тут ужо па абстаяцельствам.

Ехалі весела очэнь. Эта сейчас на машынах, а раньшэ – на конях. Паўкрашваюць дугі, коней паўкрашваюць і гоняць. Тая маладая еле сідзіць, еле ўдзержваецца за маладога. Яшчэ такую пелі:

*Матка пад вакенцам сядзела*
*Ды на зоры глядзела:*
*Зоры мае, ясненькія,*
*Не стухайце вы рана,*
*А свяціце позна,*
*Маё дзіця ў дарозе,*
*Дай на лютым марозе,*
*Дай не на родным парозе.*

Патом ужо да бацькоў маладога ехалі, после царквы. А тады не распісваліся. Ну не, распісваліся, а я не хадзіла, мой сам распісваўся.

Там ужо за сталом многа песень пелі, усіх не прыпомніш, і прыпеўкі пелі ўсялякія:

*Прыехалі сваты на сівай кабыле,*
*Маё прыданае забралі,*
*Пра мяне забылі.*

*Танцавала, танцавала*
*І зламала каблучок,*
*Я на мілага сматру,*
*Он стаіт, як дурачок.*

*Гарманіста я любіла,*
*Прыгласіла начаваць,*
*Стаў гармонік на аконца*
*І лажыся на кравацъ.*

***Запісана ў в. Грабаўка Гомельскага р-на***
***ад Арэшчанка Марыі Андрэеўны, 1944 г.н.***
***(перасяленка з п. Гібкі Веткаўскага р-на),***
***студэнткай Вальчанка В. (2003 г.)***

У сваты хадзілі ў суботу вечарам, часцей толькі мужчыны: сват, жаніх, бацька жаніха, хросны, брат і другія.

Сваты павінны былі паказаць жаніха з лучшага боку, даведацца ў дзяўчыны аб яе намеры. Пры размове дзяўчына не даўжна была прысутнічаць. Кагда сваты просяць паказаць нявесту, то да іх выходзіла спачатку падруга нявесты, але сваты не саглашаюцца на эту і тады выходзіла сапраўдная нявеста. У знак сагласія нявеста дарыць ручнік бацьку, а касынку – маці. Еслі дзяўчына не саглашалася, то яна выносіла гарбуз.

Заручыны праходзілі ў доме нявесты. Ад заручын да вяселля нявеста далжна насіць толькі заплеценую касу. Гэта значыла, што нявеста прашчалася са сваім дзявочым жыццём.

Вяселле назначалась праз дзень пасля заручын. Перад вяселлем пякуць каравай. У суботу дзяўчына запрашала падружак “на вянкі”. Падружкі шылі фату, рабілі цвяты для каравая, дружкоў жаніха.

Жаніх “на вянкі” прыязжаў з падаркамі. Ён павінен быў выкупіць фату. Потым усе садзіліся за стол, спявалі песні. З выпечкі каравая пачыналась вяселле. Каравай рабілі круглы, упрыгожвалі птушкамі, кветкамі, пляцёначкай.

Потым яго пасыпалі зернем. Каравай абвязваўся ручнікам. Каравай пяклі каравайніцы. Таму каравай павінны былі выкупаць брат жаніха ці нявесты. Потым было вяселле. Падаркі спачатку дарыў бацька, маці, потым усе. Жадалі шчасця, здароўя, любві.

Рэгістрацыя браку праводзіцца ў сельсавеце. Маладых сустракаюць хлебам-соллю. После слоў старшыні Сельсавета аб заключэнні браку маладыя абменьваліcь кольцамі, танцавалі вальс. Потым маладыя ехалі дахаты, дзе вяселле прадаўжалась. На вяселлі крычалі “горка”, пелі песні, танцавалі.

*Ой, ці жаль матулю, ці не жаль...*
*Ой, ці жаль матулю, ці не жаль,*
*Ці тваё сардэнько не вяне?*
*Ці тваё сардэнько не вяне,*
*Што тваё дзіцятка не гляне?*
*Як села ўчора звячора,*
*То сядзіць сягоння смучона.*
*Спусціла ачэнькі да зямлі,*
*Палажыла ручкі на прыпол.*
*Палажыла ручкі на прыпол,*
*Цяжка ўздыхнула: “Божа мой!”*

На другі дзень жаніх сабіраецца да нявесты. Бацькі нявесты даюць ёй прыданае. Потым апяць вяселле. После вяселля нявеста ехала да жаніха ў хату жыць.

*– Ты, дзевачка, малада,*
*Ты ўчора была весела,*
*А сёння стала смутна.*
*– Як жа мне, дзевачцы, вясёлай не быць?*
*Абсела чужына, уся хлопчыкава радзіна:*
*Па левы бачок – хлопчыкава залвіца,*
*А па правы бачок – хлопчыкава сястрыца.*
*Садзіцесь, дзевачкі, на вазы,*
*Пакідай мамаччыны наравы:*
*Адзін – вячоркі,*
*Другі нораў – вопраткі,*
*Трэці нораў – гулянкі,*

*Цяжкія, важкія ўздыханні.*

***Запісана ў в. Глухаўка Веткаўскага р-на ад Паўлючэнка Таццяны Міхайлаўны, 1953 г.н., студэнткай Стаўпец В.***

У сваты з жаніхом ехалі яго бацькі, хросныя, брацці ці сёстры. Свата выбіраў жаніх. Лічылася, што нельга гуляць вяселле ў маі, каб маладыя ўсё жыццё не маяліся.

Маладая павінна была дарыць падарункі блізкім родзічам жаніха. Гэта мог быць ці абрэз матэрыялу, палаценца, платок і г.д.

Каравай мясілі толькі пажылыя жанчыны, якія былі шчаслівыя ў браку. Калі каравай удаваўся, то лічылася, што жыццё ў маладых будзе добрае і багатае. Малады з сябрамі ехаў да дому маладой. Сяброўкі маладой прыдумвалі розныя перашкоды для маладога, які павінен быў адкупацца грашамі, канфетамі ці водкай за тое, што не мог пераадолець перашкоды.

Каравай выносіў сват, ставіў на стол перад маладымі. Купляць каравай прыходзілі спачатку радзіцелі і родственнікі маладой, а потым жаніха.

Пасля заканчэння свята дома фату маладой павінна была снімаць свякроў, а свадебнае плацце нельга было кідаць як зра, а вешаць на вешалку, каб уважаў муж.

Трэці дзень зваўся “пята”. К родзічам маладой прыходзілі госці і прыносілі з сабой курыцу, якую потым варылі і елі. Пелі песні:

*Сыпце пшаніцу ў новае карыта,*
*Карміце коні ў вялікую дарогу.*
*Паедзе хлопчык да новага роду,*
*У новым родзе трое варот новых.*
*Первые варота – што сонейка взойдзе,*
*Другіе варота – што месячык взойдзе,*
*Трэціе варота – што хлопчык взойдзе.*
*Як сонейко будзе – цёпленько будзе,*
*Месячык засвеціць – светленько будзе,*
*А хлопчык узыйдзе – веселенько будзе.*

* * *

*Там пасціла Ганночка гусі,*
*Там пасціла ў белым кажусі.*
*Пасціла – пагубіла,*
*І сама заблудзіла.*
*Заблудзіла ў бару,*
*Прыблудзілася к Іванкаваму двору,*
*Прыблудзіла к сеці, к Іванкавай клеці,*
*Там Іванко разуваецца,*
*І ена его да й пытаецца:*
*– Ці не место легці*
*Ў цесавай да й краваці.*
*– Йе место, хоць маленько,*
*Коле цябе, маладзеньке.*

* * *

*– Ці табе, Іванко, кот вочы выдраў,*
*Як ты плахую жонку выбраў?*
*– Я ехаў уночы,*
*Да не бачыў у вочы,*
*А яе стало відно,*
*Дык мне стало стыдно.*

* * *

*Ой, над калінаю мосцік,*
*Цераз цябе ехаў невядомы госцік.*
*Мосцікам ехаў – мост нагінаўся,*
*Лесам ехаў – лес угінаўся.*
*– Чый это сын едзе?*
*– Каму зяць будзе?*
*– Мой сын едзе, ваш зяць будзе!*

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на ад Рабікавай Еўдакіі Фёдараўны, 1935 г.н., студэнткай Тачылкінай Я.***

Свадзьбы звычайна гулялі на Каляды ці Тройцу. Тройца ета самыя свадзебныя дні.

**СВАТЫ**

У сваты жаніх ідзець, бацька, матка яго, бяруць з сабой сватоў штук двох, трох. Шуцюць так: “Заблудзіліся з дарогі, пусціце начаваць ці пагрэцца. Ці прадаецца ў вас цёлачка? У нас бычок ё”.

У сватах згаварваліся, калі свадзьбу дзелаць, калі што. Хадзілі ў сваты ў суботу. У той жа дзень і заручаліся, еслі сагласныя. Еслі не сагласныя, то бацька казаў, што не аддадзім ці – не пойдзе.

**ЗБОРНАЯ СУБОТА**

Зборная субота – ета перад свадзьбай. Для дзевак дзелалася вечарынка ўвечары. Ёлку дзелалі, прыбіралі. Іх частавалі, гармошку нанімалі, танцавалі, ета называлася зборная субота. А на свадзьбу ўжо дзяўчаты, пакуль нявесту на каравай вядуць, а тады ўжо бабы старыя пяюць:

*Дамоў, дзеўкі, дамоў, сучкі,*
*Ідзіця, прадзіця, на нас не глядзіця.*

Ёлку як нявеста зломя, то будзе верх імець над мужыком. Так, бывала, сваты ідуць ёлку выкупляць, а тады нявесту, дык сваты стараюцца, каб маладая не зламала верх, а яна тады стараецца, штоб зламіць верх.

Калі едуць з-пад вянца ці к маладому, маладых абсыпаюць жытам.

**ПАСАД**

На пасад кладуць кажух на кут вывернуты, касматы, содзюць маладых, пяюць:

*Шла Маша на пасад,*

*Махнула на падруг рукавом,*
*Падружкі мае, расступіцесь,*
*Будзе мяне мая мамачка дарам дарыць,*
*Во такім дарам – пасадам,*
*Во такім дружкам – Ванечкам.*

Калі на пасад содзюць, касу маладой расплятаюць. Расплятае брат, калі ёсць, калі не, то пляменнік, а жаніх ужо яму плоціць грошы, што касу расплёў. Свякруха ўжо тады, як касу расплялі, завязвае нявесце платок.

Сватоў перавязваюць, вызываюць каравай дзяліць. Спачатку бацька родны, матка, бліжэйшыя родственнікі, а тады ўжо дальніх вызываюць, друзей. Каравай даюць маладым ламаць ілі кусаць: хто больш укуся, жаніх ці нявеста, той будзе больш верх імець.

### ТРЭЦІ ДЗЕНЬ

На трэці дзень едуць на двор к бацькам нявесты і жаніха карэнне драць. Ловяць курэй, скубуць. Раскладаюць касцёр на дварэ, пер'е ета рассыпаюць па двару, а не, дык бацьку, маткі за пазуху сыпяць ета пер'е. Курыц варуць, разліваюць кусочкамі ў міску тую куру.

### АБРАД "ДРАЦЬ КАРЭННЕ"

Раскажу вам, як я драла карэнне. Канчаецца свадзьба – трэба карэнне драць. Надзяю штаны, надзяю лапці, дзелаю сабе горб на плячах, бараду прычаплю, шапку выварачваю і пайшла курэй лавіць. Паймаю курыцу за галаву, вазьму, як крутану, кіну. Ёсць такія бабы, якія скубуць. Гэта ўжо счыталася ўжо, што ў том дварэ адгулялі.

*Стукнулі, грукнулі ва дварэ.*
*– Паглядзі, мая мамка, ці не па мяне?*
*– Па цябе, мая донечка, па цябе.*
*– Гатуй, мая мамачка, кублік мне.*
*– Едзь, мая донька, без кубла,*
*Ты мне кудзельку не скубла.*
*– Скубла, мамачка, шамацела,*
*Ды і замуж даўно хацела.*

* * *

*Што з гары, гары крутыя*
*Беглі конікі вараныя,*
*Везлі карэту сіняю,*
*Венчалі Танечку сілаю.*
*Не так сілаю, як за грошы,*
*Што яе Ванечка харошы.*
*Ён харош, харош, невялік,*
*Купіў Танячцы чаравік.*

* * *

*Выйдзі, мамачка, паглядзі,*
*Што мы табе прывязлі.*
*Прывязлі табе варонку,*
*Ці падоена кароўка?*
*Прывязлі табе нежачку,*
*Ці замеся яна дзежачку?*

***Запісана ў в. Данілавічы Веткаўскага р-на***
***ад Дзмітрачковай Тамары Кузьмінічны, 1936 г.н.,***
***Чуяшковай Любові Кузьмінічны, 1933 г.н.,***
***студэнткамі Кушнаровай К. (2001 г.)***

### СВАТЫ

Прыходзяць сваты: бацька, матка, жаніх, хросны, бяруць з сабой хлеб-соль, гарэлку. Прыходзілі прыбраныя і пыталі: "Ці прадаецца тут якая авечка ў гэтым двары?" Сватам давалі падаркі, хто што. У жаніха быў старшы дружок, у нявесты – старшая падруга. Каравай абязацельна дзелалі ў дзень свадзьбы, дома пяклі. Кожу пераварачвалі і садзіліся, каб дзеці былі кучаравы. Ёлку прыбіралі, плялі, гэта значыць, нявеста была дзеўка. Ёлку ўюць, дзеўкі пяюць песні, а жаніх ім падаркі дае, каб тыя аддалі падругу. А нявеста сядзела пад ёлкай.

Матка сустракала з іконай, бацька з хлебам-соллю, хто болей адкусіць, той і гаспадар. Цалуюць ікону, благаслаўляюцца і ідуць у хату.

### ВЯНЧАННЕ. КАРАВАЙ. БЯСЕДЫ

На коні едуць да вянца. Цябе абсыпалі канхветамі, жытам, пшаніцай. Прыбіраюць нявесту і едуць к вянцу. Нявеста, на ёй плацце красівае, хвата длінная. У царкве бацюшка тры разы абводзіў маладых вакол стала. Свечкі паляць пры вянчанні, калі дзве роўненька гараць – усё добра будзе, няроўна – хтось пamрэ.

Падаркі дарылі, кагда каравай быў. Первых вызывалі на каравай бацьку з маткай. Маладыя бяруць пасцель, падарункі і едуць да жаніха. Нявеста там і застаецца.

После вяселля на втары дзень прыглашаюць, штоб на бяседы прыйшлі.

***Запісана ў в. Залаты Рог Веткаўскага р-на***
***ад Раманавай Марфы Іванаўны, 1913 г.н.,***
***студэнткамі Драбышэўскай М. (2005 г.)***

Вяселле ў Мясаед гулялі. Кроме пастоў, у любы час.

У сваты хадзілі бацька, матка, сват, браты і дзяды. Ішлі і к нявесце з гарэлкаю, з песнямі. Пагаворыць і ўсё. Калі нявеста не згодна, выносілі тыкву. Но ета было не часта.

У нявесты хвата была длінная. А вянок з цвятоў, лентаў было багата. Дзеўкі, калі яго рабілі, спявалі.

Калі нявеста была сірата, то пелі спецыяльныя песні. Гукалі матку, калі яе не было:

*Прыдзі, матка, да дзіцяці*

*Ў пуць праважаці,*
*Здароўя жадаці...*

Каравай на вяселлі быў красівы, бальшы. Украшаны рознымі птушкамі, кветачкамі. Яго заўсёды пеклі замужнія жанчыны. Дзялілі каравай ва врэмя гуляння. Дзяліў сват. Госці вадзілі банкеты, прыглашалі друг друга ў госці.

У час пасада спявалі. Нявеста плакала: “Ой, куды ж ты мяне адсылаеш ад сябе, ад сябе?”

Калі малады едзе да маладой, то многа песень пелі. І жаніха не пускалі ў пакой, а нявесту хавалі.

Калі маладыя ехалі да вянца, то ў доме спявалі, гатавалі ежу, чакалі маладых. Жалобныя песні выконваліся, і як вып’юць – таксама.

*Ой, аглянешся, маці,*
*Што не ўсе ў хаці...*

Песні на вяселлі прысвячалі маладым, а таксама іх бацькам.

***Запісана ў в.Палянаўка Веткаўскага р-на ад Целяпнёвай Е.С., 1931 г.н., Валасянкінай А.І., 1921 г.н., студэнткай Валасянкінай Ю.***

## СВАТЫ

Сваты прыходзілі і гаварылі: “Вот у ваш двор збегла аўца чужая, нам нада з ёй пазнаёміцца, можат вы аддасце?” Радзіцелі атвячають, еслі харошы пан, то аддадзім, і дагаварываюцца. Сваты прыносяць водку.

Ужо калі свадзьба назначана, убіралі елку (малую). Прадавалі елку-дзеўку. Тую елку сваты сватаюць. Дзеўкі сядзяць кругам елкі. Сваты даюць столькі дзеняг, а дзеўкі пяюць пад елкай песні і не аддаюць. Ну, яны ўжо якіх канфет дадуць. Елку ўжо прадаюць, а патом усе сядзяць за сталом, а елка стаіць аддзельна. Спяваюць дзеўкі:

*А ў барку, барку,*
*На жоўтым пяску,*
*Там стаяў явар тонкі высокі,* 2 р.
*Ай, тудой ішоў мальчышак з руж’ём,*
(называлі імя)
*Он ішоў, ішоў спатыкаючы,*
*Сваёй дзевачцы ўлыбаючы,*
*Ні бій орлічка, дзевачка,*
*Прымі да сябе ў госці яго.*

## КАРАВАЙ

Пяклі каравай. Падносілі на падносах. Вызываюць пару, становяць удваіх, наліваюць дзве румкі водкі. Разразаюць хросныя каравай, дзеляць, і па кусочкам на тарэлачке падносяць. Кладуць грошы тыя, хто каравай прынімают, і жадаюць: “Шчасця, долю, благапалучыя. Штоб бульбы цэлае падполле і дзяцей цэлае застолле”. Дарылі на каравai:

*Я дару табе зялёную рошчу,*
*Штоб зяць любіў цёшчу.*
*Дару табе курачку-квахтуху,*
*Штоб нявеста любіла свякруху.*

## СУСТРЭЧА МАЛАДЫХ

Пасля царквы маладых на варотах страчалі хросныя з іконай і водкай. Страчалі хросны і хросная, да толькі штобы неразвадныя. Наліваюць маладым чаркі. Яны б’юць, кідаюць румкі пад ногі і б’юць, штоб шчасце было. І водку, што наліваюць, б’юць. Маладыя водку не выпіваюць. А етыя людзі, што ззаду ідуць, – падвадныя, водку ўжо льюць на лошадзь, калі на лошадзі, а то – на машыну.

Нявесце заплятала косы ў дзве касы. Пелі песню:

*Тонечка, пастаі ў сяструцы,*
*Касачку распляці.*
*Устань, Ванячка, не пячалься,*
*Усё сястрыцы пажалай.*

## ТРЭЦІ ДЗЕНЬ

Сабіраліся ўжо на трэці дзень свадзьбы, хадзілі, хто ўчаствуе ў свадзьбе, сабіралі: хто кур дасць, хто сала. Сабіраюць і ў нявесты ўсё вараць. Сабіраюць усіх, маладога і маладую.

Калі праважалі нявесту да дому жаніха, то прашчаліся, плакалі. Песні не пелі. Жадалі ўсяго харошага, штобы малады любіў маладую: “Штоб ты, мая дочачка, гадзіла ўсім: і свякрусе, і свёкру”.

Еслі водзяць па дварах, то шла свадзьба і нядзелю. А вот так гаварылі: “Я, хросны, хачу свадзьбу к сабе прыгласіць ілі я, брат, сястра, дык прыглашаюць, у адным двары танцуюць, гуляюць, музыка грае, па ўліцы ходзяць, валачобныя пеяць ідуць:

*Валачобныя, людзі добрыя,*
*Хрыстос васкрос – сын Божы.*
*Валачыліся, замачыліся,*
*Хрыстос васкрос – сын Божы.*
*Не дасі коня – вылязе вока,*
*Хрыстос васкрос – сын Божы.*
*Не дасі яйца – іздохне аўца,*
*Хрыстос васкрос – сын Божы.*

У жаніха нявесту сустракалі так. З блюдам выхадзіла свякроў і хросная, на парозе палаценца рассцілалі і жадалі: “Мы цябе прыглашаем, чтобы дзяліцца ў гэтым двару з нашай сям’ёй, чтобы жылі крэпка з нашым сынам, чтоб не мелі

ні гора, ні бяды. Прынімаем цябе за родную дачку, сястру". Нявесту праводзілі к сталу, яна ідзе з малой іконай, ставіць ікону на кут, перахрысціцца, яе благаслаўляюць.

***Запісана ў в. Рудня Стаўбунская Веткаўскага р-на ад Гулевіч Франі Іванаўны, 1922 г.н., студэнткамі Драбышэўскай А., Прыходзька А.***

## ЗМОВІНЫ

Раней цікава праходзіла вяселле. Зараз таго нямашака. А жалка. Нельзя забываць на традзіцыі.

Палюбіліся хлопец з дзеўкай. Рашылі пажа-ніцца. Бацькі маладога ішлі да дзеўкі ў сваты. Як сям'я багацейшая, то бралі з сабой сваякоў ці дзядзек, цётак. Неслі з сабой хлеб ды соль. Тут праходзілі змовіны. Дагаварываліся, у які дзень будзе свадзьба. Патом накрывалі стол. Дзеўка адорвала сватоў падаркамі. Абычна бацьку жаніха давалі сарочку, а матцы – адрэз на плацце.

## ВЯСЕЛЛЕ

І вот настал дзень вяселля. Абычна пачыналі гуляць у суботу. Як толькі пачынала вечарэць, да нявесты збіраліся дружкі. Многа прыходзіла іх. Абычна чатырнаццаць дзяўчат. Тут яны дзяліліся на дзве групы. Адна з іх (сем чалавек) заставалася ў хаце нявесты, а астатнія ішлі ў хату да жаніха. Не з пустымі рукамі ішлі. Кажнай з дружак нявеста давала хатылёк – вузялок, куды паклала вышываныя ручнікі, саматканыя ручнікі і абрусы, сурвэткі, фіранкі на вокны, брыжы на абразы, брыжы на печ, шырмы (хаты часта не перагарожвалі сценамі, для гэтага вешалі шырмы). Усё гэта нявеста рабіла сваімі рукамі.

Кагда дружкі прыходзілі ў жаніхову хату, даставалі ўсё з вузялкоў і ўкрашалі хату. Тут жа, у хаце, быў сам жаніх і яго прыяцелі (столькі ж хлопцаў, колькі прыйшло дзяўчат). Хлопцы памагалі развешваць усё прынесенае ў хаце. Затым, як што робіцца ў хаце, пад вокны прыбягалі паглядзець суседкі. Нада ж усё абсудзіць, ацаніць, пахваліць нявесту-рукадзель-ніцу і дружак за іх умельства, усё добра ўкра-сіць. Калі хата была прыбрана, накрывалі на стол. Тут хлопцы з дзеўкамі частаваліся ўсякімі закускамі, выпівалі, спявалі песні, жартавалі, нават танцавалі. Потым, усе разам з жаніхом ішлі к нявесце, да яе хаты.

Дзяўчаты, якія засталіся ў хаце нявесты, займаліся сваімі дзеламі. Ім нада было прыбраць ёлку. Добра, калі была зіма, на Сожы быў лёд. Свайго ж лесу каля вёскі тады не было. Толькі за ракой, за тры кілометры. Дык перабег па лёдзе ў лес ды й прынёс ёлку. А як ёлкі не было, ссякалі проста вішаньку і прыбіралі яе. Цацак раней не было, таму рабілі ўсё самі. Склейвалі цэпачкі з цвятной бумагі. Вешалі на галінкі бублічкі, яблачкі – у каго што было. Потым прыбраную ёлку ставілі ў кут. Прыбраная ёлка, я думаю, сімвалізавала прыгажосць, а можа, дабрабыт нявесты. Для дзяўчат накрывалі стол, частавалі іх. Хутка прыходзілі хлопцы з дзеўкамі з хаты жаніха. Дзяўчаты, якія былі ў хаце і якія прыйшлі, станавіліся ланцужком, закрываючы сабой нараджаную елку і нявесту. Жаніху трэба было выкупіць сначала дрэва, а потым сужаную. Дзяўчаты з смехам жартавалі, таргаваліся з жаніхом, каб большы выкуп палучыць: "Ты паглядзі, якая прыгожая наша ёлка, такая ж прыгожая і нявеста. Плаці нам за яе". Жаніх упарціўся і кідаў пятачкі, мелкія грошыкі. Дзяўчатам таго было мала. Яны патрабавалі папяровыя грошы. Жаніх даваў рублёвыя грошы. Палучыўшы выкуп, дзяўчаты выносілі ёлку і ставілі яе на стол. Первая дружка выводзіла нявесту за руку, а дзяўчаты спявалі:

*Цераз сіняе мора ляжыць кладачка ялова,*
*Ой, люлюшкі, ой, люлю,*
*Ляжыць кладачка ялова.*
*Цераз тую кладачку ніхто не праходзіў,*
*Ой, люлюшкі, ой, люлю,*
*Ніхто не праходзіў.*
*Перайшоў, перайшоў малады Лявончык,*
*Перавёў, перавёў Настусю за ручку.*
*Ой, ты, Настачка-душа, да чаго ж ты хараша,*
*Ці ж ты пойдзеш за мяне,*
*За такога малайца, за Лявонку, за купца?*

Жаніх браў нявесту за руку. Да маладых падходзілі ўсе дру;´жкі і дру;´жкі. Дзяўчаты заводзілі новую песню. У песні яны пералічалі ўсю радню: тут быў зварот і да маці, і да братоў, і да сясцёр, колькі ў каго было.

*Ой, рута мая, дробна зелена,*
*Некаму падабраць,*
*Прасі, Настачка, мамачку*
*Дробную руту падабраць.*
*– Не буду мамку прасіці,*
*Не ўмела мяне расціці,*
*Ні расціці, ні гадаваці,*
*Ні ў сваім доме дзяржаці.*

Далей ішоў зварот да астатніх членаў сям'і: братоў, сясцёр. Спяваючы гэтую песню, нявеста ажно аблівалася слязамі, плакала. Песня працягвалася зваротам да маладога:

*Ой, рута мая, дробна зелена,*

*Некаму падабраць.*
*Прасі, Настачка, Лявонку*
*Дробную руту падабраць.*
*– Ой, буду Лявонку прасіці,*
*Ён мяне будзе расціці,*
*І расціці і гадаваць,*
*І ў сваёй хаце дзяржаць.*

Пасля пачыналіся жарты, гульні, танцы, расказвалі анякдоты, спявалі аж да самага рання. Пасля расхадзіліся па дамах. Жаніх тожа ішоў у сваю хату.

На другі дзень збіралася ўжо ўся радня і госці, але па розных хатах: жаніховы – у хаце жаніха, а ў хаце нявесты – яе радня. Стараліся накрыць добрыя сталы, каб лепш пачаставаць гасцей. После ўсе з хаты жаніха ішлі ў хату нявесты. Свадзьба прадалжалась тут. Нявеста дарыла ўсім з радні жаніха падаркі: хусткі, сукенкі, сарочкі, атрэзы. Дарыла бацькам, братам, сёстрам, родным дзядзькам ды цёткам. Усе садзіліся за сталы, выпівалі, частаваліся, танцавалі, спявалі. Пад канец вечара дзялілі каравай. Для гэтага старэйшы з жаніховай радні вызываў сваіх, а старэйшы з радні нявесты – сваіх. Гасцям падносілі чарку. Тыя выпівалі, віншавалі маладых, давалі напутствія, дарылі падаркі, грошы. Кагда каравай быў падзелены, да хаты пад'язджала падвода з канём. Дзяўчаты аглоблю, воз украшалі лентамі, цвятамі. Грузілі прыданае нявесты: падушкі, коўдры, абрусы, ручнікі, сурвэткі, даматканыя посцілкі, розныя транты. Садзіліся на падводу жаніх з нявестай і ехалі ў хату жаніха.

На гэтым вяселле не канчалася. Прадалжалась цэлую нядзелю. Кожны наступны дзень наладжвалі банкет родныя дзядзькі і цёткі. Бывала, што і па два банкеты за адзін дзень праходзілі. На банкеты ішлі маладыя, іх радня, госці. Па дарозе весяліліся, спявалі, гралі музыкі. Тут гармонік быў і гітара, і мандаліна.

Кагда адгульвалі ўжо паследні дзень, нада было вываляць маладых у пыле, у попеле, сажы. Чым больш грaзнымі яны будуць, тым багацейшая будзе іх жызнь. А яшчэ, пакуль нявеста не паднялася з зямлі, хапалі гаршок і білі яго над жыватом нявесты, каб была пладавітая і багатая.

Цэлы тыдзень па вёсцы чуліся песні, танцы, смех, жарты. Усе жадалі маладым шчасця, долі, багацця, дабрабыту. Было весела і цікава за ўсім назіраць. Добра было і ўчаствааць. Шкада, што зараз ужо няма такіх звычаяў і забываецца тое, што было раней.

***Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на ад Барсуковай Галіны Фёдараўны, 1937 г.н., студэнткамі Каляснёвай І., Ваўчок А.***

У сваты прыходзілі. Нявесту сваталі, а яна падаркі дарыла свацьям. Прыязджае жаніх, забірае нявесту, прыданае ў сундуках бяруць, калі багацейшая, і едуць у царкву. Пасля едуць да жаніха. У доме жаніха сваты развешваюць рушнікі па сценах, разлажвалі скацерць.

– О, багатая нявеста, – маглі сказаць, хто бачыў прыданае.

– О, не, бяднеханькая, – калі мала чаго было, лезлі ў дом прама з вуліцы ўсе, штоб хутчэй пабачыць усё.

З-пад вянца развязвалі касу вечарам, а назаўтра чапец адзявалі, чэпчык такі. У нас да вайны вянчаліся, а пасля – не. Я вянчалася яшчэ.

У мяне была не свадзьба, а кіно нейкае! Пры немцах, калі дзеўкай была, то маглі ў Германію паслаць, а калі замужам, то дома застацца магла. Быў у мене жаніх, але матка яму не разрэшвала жаніцца ў час вайны, толькі пасля. А да нас з Гомеля прыехала сям'я з двума сынаўямі, рабілі нейкую справу ў вёске за прадукты, ды там ня знаю. Як узналі пра гэтае, дык да мяне ажно прыйшло двое сватоў! Да, адзін мой жаніх з вёскі, а другі – гэты з Гомеля.

Спачатку прыйшлі сватацца з Гомеля. Ужо шумелі, танцавалі. А тый узнаў, што сваты ў мяне, ды пайшоў вешацца, а матка яго да суседзяў пайшла за дапамогай. Адбіралі мяне ад таго, такая была каніцель! Пасадзілі гомлянскага на гармошке іграць, забаялася ў Гомель ехаць, засталася ў вёскі і пражыла яшчэ трыццаць пяць гадоў у ёй. Вось, як мне чуць рукі па локаць не паадкусвалі яны!

***Запісана ў г. Гомель Кротавай Хрысціны Данілаўны, 1919 г.н. (перасяленка з в.Шарсцін Веткаўскага р-на), студэнткай Варанец К.***

Калі дзяўчына была згодна з жаніхом, штоб яны пажаніліся, прыходзіў чалавек, які называўся сватам, а калі ў дом прыходзіла жанчына, то яе называлі свахай. Яна заходзіла ў хату, дзе жыла гэта дзевушка, і пытала ў яе атца і мацеры:

– Наш пеўнік загнал к вам рыжаю курачку. Ці можна нам забраць яе назад? (Іменна рыжаю, таму што ў нас лічылась, што так трэба аб нявестцы гаварыць. Гэты колер сімвалізаваў печ і полымя, тую печ, якую яна будзе тапіць і свёкра са свякрухай карміць).

Калі паміж жаніхом і нявестай была поўная згода, ім нічога плахога не гаварылі і вялі іх у сарай. Так было трэба, гэта лічылася сімвалам

будучага дабрабыту маладых. Але маладая заставалася ў хаце. Калі свата і жаніха выводзілі з сарая, прыводзілі маладую. Яна была вельмі прыгожа наражана, абавязкова надзявалі ўсялякія лентачкі, абвязвалі імі валасы. Гэта рабілася для таго, каб дачка родны дом знала і будучага дома не цуралася. Калі ў сваты прыходзіў сват, тады ён громка стукаў у вароты, і ён павінен быў крычаць. Лічылася, чым грамчэй сват крычыць, тым болей шчасця будзе ў маладых. Сват яшчэ мог гаварыць так:

– Я сваю цёлачку гнаў дамоў, а яна да вас прыблудзілася.

Пасля выходзілі радзіцелі маладой, пака-звалі ўвесь двор, жывёлу, каб сват не сказаў, што маладая бедная. Потым вялі сватоў у хату і добра частавалі. Тут ужо выводзілі маладую. Як толькі сват уваходзіў у хату, з’яўляўся жаніх. Сват не павінен быў уваходзіць у хату без жаніха. Ён хаваўся каля дома нявесты. Было такое павер’е: калі бацька маладой і яе маці вывелі нявесту і ў гэты час не зайшоў жаніх, гаварылі, што ў іх не будзе дзетак ці яны не будуць разам жыць.

Калі ў сваты прыходзіў сам сват, то ён браў пугу і пасля сватання біў тры разы аб парог, каб маладая дом глядзела і з чужымі мужчынамі не гуляла. Калі ў сваты прыходзіла сваха, яна брала яічкі і клала іх у карзіну, і сыпала зерне для таго, каб у доме дзеткі радзіліся і ў доме ўсё вадзілась.

Калі сватанне заканчвалася, сват ці сваха пелі песню: “Мы прыйшлі к вам з добрым багацтвам, ад вас і пойдзем...” (гэтыя словы паўтараліся 3 разы). Пасля радзіцелі нявесты ставілі на стол розныя стравы і частавалі сватоў. Сваты павінны былі сядзець за сталом, пакуль сваха ці маці маладой не павяжа палаценца цераз плячо. Тады сваты развітваліся і дагаварваліся аб заручынах.

Калі прайшло сватанне, назначалася дата заручын. Заручыны ў нашай вёсцы называліся “ручнікі”. Ручнікі павязваліся куме з кумам. Гаварылі, што з гэтага моманту маладая ім радней за родную дачку. Жаніх павінен быў падарыць мацеры нявесты харошы прыгожы платок, а нявесце – пярсцёнак ці завушніцы, каб маладая не баялася яго крыка і яго громкага голаса. Калі жаніх дарыў вельмі дарагі падарунак, гэтым ён даваў ведаць, што ён горды, і тады дзяўчына баялася будучага мужа.

Самай абавязковай стравай на вяселлі быў “кісель-халадзец”. Кісель павінен быў быць густы і яго трэба было рэзаць нажом. Калі ён не быў парэзаны нажом, лічылася, што ў маладых не будзе шчасця ў будучай жызні.

Вечар напярэдадні вяселля ў дзяўчыны называўся “гаратнік”, таму што дзяўчына развітвалася назаўсёды з падружкамі, з маці, з родным дваром. Абавязкова будучая маладая плакала на гэтым вечары, а калі ёй было радасна і смешна, лічылася, што яна будзе дрэннай гаспадыняй.

Жаніх таксама святкаваў свой вечар. Ён сабіраў дружкоў, браў гармонь і хадзіў па вёсцы, у якой жыў, усе гуртам пелі песні. Так яны павінны былі абайсці ўсю вёску і вярнуцца да маста. Калі прыйшлі, жаніх крычаў:

– Жонка мая, добрая, жонка мая, верная, не хадзі нікуды.

Была яшчэ вельмі цікавая песня, у якой былі радкі са словамі:

*Ой, друзья-таварышчы,*
*Развітваюся з вамі,*
*Са сваёй хатай,*
*З роднай мамай і бацькам,*
*І, мілыя, з вамі.*

Напярэдадні вяселля калісь хадзіла ў баню тая дзеўка, якая была не на чэсці. Яна абмывала свае грахі, а часцівым нельга было іціць, таму што яна была “памытая” са сваім жаніхом пасля вяселля.

Каравай пяклі за дзень ці два да вяселля. Лічылася, што калі каравай будзе мяккі, калі будзе рассыпацца, то такой жа недаўгавечнай і рассыпчатай будзе іх каханне. Калі каравай цвёрды (але не зусім чэрствы), то і каханне будзе назаўсёды і маладыя будуць жыць разам усю жызнь.

Увесь час у нас у вёсцы каравай пякла маці маладой і кума, а памагаць магла сваха ці сват. Заўсёды каравай упрыгожвала маці маладой “хлебнымі цвятамі”. Рабіліся яны з цеста без усякіх дражжэй на бульбянай заквасцы. Паверху суцэльным слоем сыпалі сахар і пшаніцу, памочаную ў мёд.

Дзеляць каравай сваха ці сват. У нас каравай дзялілі, калі садзіліся ўсе за стол. Калі ўсе выпівалі па чарцы, пачыналася “адорванне”. Першых вызываюць “адорваць” бацьку і маці нявесты, а калі вяселле ішло ў хаце жаніха, то, паперш, яго радзіцелі дарылі падарункі. Калі вяселле ішло ў нявесты і яе была маці супраць, лажыла некалькі камяк (зусім мала грошай) і гаварыла:

– Мае дзеткі, я даю руб, а вы тысячу нажывіце.

Калі свякроў дала такой падарунак невестцы, ведала, што яна не хоча бачыць яе ў сваім доме.

***Запісана ў в. Янова Гомельскага р-на ад Цімашэнка Ганны Міхайлаўны, 1931 г.н. (перасяленка з в. Рэчкі Веткаўскага р-на), студэнткай Жарносенка І.***

Ездзілі к нявесце. Сваталі дзеўку. Згаваряюцца да свадзьбы, гатуюцца. Прыходзілі ў хату і казалі:

– У вас ёсць цёлачка прадажная?

– Ё.

– А ў нас бычок ёсць.

Сядуць, выпьюць. На заручынах усякія стравы былі: і рыба, і мяса, і сыры, і тварагі.

*Як пайду я ў новую канюшню,*
*Заседлаю каня варанога,*
*Прывяжу я каня і к тычыне,*
*Сам паеду да краснай дзявіцы.*
*– Добры вечар, красная дзяўчына,*
*Ай, дзе ж твая няшчасная долечка?*
*– Мая доля вячэрае дома,*
*Павячэраўшы, спацечкі лажыцца,*
*К сцяне каменнай ліцом вараціцца,*
*А мне, маладой, слова не прамове…*

**ЧЫЯ ЕТА РУТА-МЯТА?**

*Чыя ета рута-мята, эй, за гарою?*
*За гарою, ой, зарасла рута-мята, эй, лебядою.*
*Лебядою, ой, чаго й ты,*
*Манечка, эй, не палола,*
*Не палола, ой, чаго ты сваіх*
*Белых ручак не калола, эй, не калола?*
*– Ой, дзевачкі, падружачкі,*
*Не да мяты, не да мяты,*
*Бяруць мяне, маладую,*
*Эй, да ад мамкі, да й ад мамкі.*
*Ой, дзевачкі, падружачкі,*
*Не да лебяды, не да лебяды,*
*Ой, бяруць мяне, маладую,*
*Эй, на ўсе клапаты…*

Каравай учынялі, мясілі, печку тапілі, на хормах пяклі. А тады сваты на свадзьбе каравай дзялілі. Цвятамі якімі-небудзь украшалі. Маладых абводзілі паднявесніца і падджанішнік вакол стала тры разы. Садзілі на кажух, каб багатымі былі.

Радзіцелі маладых сустракалі пасля вянчання ў цэрквы. Зразу ў маладой гулялі, а на другі дзень – у маладога.

Абрад быў, што ў маладой куріцу бралі і вялі па сялу да маладога, круцілі яе, елі яе. Гулялі, пілі. Маладых абсыпалі аўсом, каб былі шчаслівыя.

***Запісана ў в. Янова Веткаўскага р-на ад Малашанка Сафіі Харытонаўна, 1924 г.н., студэнткай Малашанка С.***

# Гомельскі раён

Раней не пыталіся, ці любіць Васіль Ганну, ці Ганна – Васіля. Бацькі дагаварываліся самі. У асноўным багатыя бралі багатых.

Бралі куму, кума, там яко яшчэ дзядзьку і ехалі ў сваты да бацькоў нявесты. Там дагавар-ваюцца, хто што павінен даць, які пасаг.

Спачатку гулялі заручыны, а тады дагавар-валіся, калі вяселле. Гулялі ў Мясаед, гэта значыць, пасля Раждаства. Гулялі ўсім сялом. Спачатку ў доме нявесты. Потым везлі скрыню с прыданным да жаніха. Другі дзень вяселля гулялі ў хаце жаніха. Калі прыходзілі ў хату нявесты сваты, то спявалі:

*Ой, добры дзень,*
*Добрыя людзі,*
*Вось мы к вам.*
*Ці не заляцела*
*Наша вутачка к вам?*
*Ой, заляцела*
*Да на шасток села,*
*Мы рады вам.*

Было такое, што аддавалі замуж сірату, то спявалі:

*Ой, хадзіла наша Манечка,*
*Ой, па саду,*
*Ды гукала свайго татачку,*
*На параду.*
*Устань, устань, татачка,*
*З сырое зямелькі*
*Ды благаславі на шлюб*
*Мяне, молодзеньку.*

Пасля замовін дзяўчаты-дружкі сабіраліся ў хаце нявесты, а хлопцы – у хаце жаніха.

Перад вяселлем дзяўчаты завівалі велца. Гэта значыць, бралі маладую ёлачку або сасёнку. Ставілі яе ў вялікі бохан хлеба, каб не падала. Потым навешвалі на яе розныя ўпрыгожванні: бумажныя кветкі, стужкі, цукеркі, баранкі. Гэта, каб маладыя былі багатыя.

Калі прыязджалі на вяселле, то ставілі на стале перад маладымі ёлку. А маладых садзілі на покуце на вывернуты кажух. Гэта, каб былі багатыя. Да яшчэ і прыгаворвалі: “Каб і елась, і пілось, і наперадзе дулось”.

Калі маладую везлі на конях у дом маладога, то абавязкова перад хатай вывальвалі яе з саней у снег.

Маладых клалі спаці ў чулане на кажухах. Кажух ды пярыну – пад бок і кажухом накрываліся. Спалі ў чулане, пакуль не прыйдзе час нараджаць дзіця.

На вяселлі спявалі і жалобныя песні пра цяжкі гаротны лёс жанчыны:

*А свякруха, то не маці,*
*Выпраўляла жыта жаці,*
*Выпраўляла жыта жаці*
*Дай дзіціну с сабой браці.*
*А я, малада, жыта жала дапозна,*
*А ўвечары снапы зносіла,*
*Снапы зносіла, дзіця бросіла.*
*Калі дамоў ішла, то дзіціну не найшла.*
*Не пайшла я дамоў,*
*Да сустрэла трох ваўкоў.*
*Ой, вы волкі, мае волкі шэрыя,*
*Ці не бачылі вы, волкі, да дзіціны маёй?*
*Первы кажа: “Я дзіціну ўвідаў”.*
*Другі кажа: “Я дзіціну калыхаў”.*
*Трэці кажа: “Я дзіціну разарваў”.*
*Разарваў ты дзіціну,*
*Мне не быць без яе.*
*Разарваў ты дзіціну,*
*Разарві ты і мяне.*

***Запісана ў в. Глыбоцкае Гомельскага р-на ад Крукавай Таццяны Іванаўны, 1931 г.н., студэнткай Аўхуцкай С. (2001 г.)***

Жаніхоў бацька, матка збіраюцца, уся сям’я жаніхова: брат, сястра, еслі ё, і прыходзяць ужэ к нявесце. Нявесты матка ззывае сваю радню. І сватаюцца. З гарэлкай прыходзяць сваёй. Гэта ўжэ заручыны называецца. Высватаюць ужэ нявесту, тады дагаварваюцца, чераз каторае время свадзьба.

Каравай ужэ гуляюць. Патом вызываюць усіх сваіх на каравай, хто гуляе. Каравай дзяліў той, хто быў назначаны: дзядзька са стараны жаніха.

Тады свадзьбы па цэлай нядзеле гулялі. Патом бяседы вадзілі. Кажды дзядзька з дружкамі перавязваліся ручнікамі. У панядзельнік, вторнік ето ўжэ водзюць бяседы. Дружкі к сабе ўсё водзюць, кажды к сабе ў хату. Гатуюцца: кабаноў білі, каўбасу сваю дзелалі. Накрываюць сталы. Гуляюць, п’юць. Тры-чатыры дні гуляюць. Вечарам збіраюцца ўсе, курэй ужэ дзяруць. Кажды нясе па куры, рэжуць іх. Гатуюць абед і гуляюць ужэ апяць.

***Запісана ў в. Пакалюбічы Гомельскага р-на ад Скачковай Зінаіды Фёдараўны, 1939 г.н., студэнткамі Бакланавай А., Балакішыевай Ю. (2004 г.)***

## СВАТАННЕ

Вот у нашай дзярэўні сваты ідуць. Вот жыніхоў брат, калі ёсць, калі ёсць, то сістрын муж, шурын, бацька, матка і сястра ідзе. Прыходзяць у сваты: "Здраствуйце". Становяць хлеб і соль на стол і спрашываюць: "Сагласны вы, маладыя, быць замовіны?" – "Да". Вот мы тагда садзім іх за стол і п'ем за іх здароўе, і назначаем, кагда будзе свадзьба. Вот маладыя сагласны, назначаем чісло, калі яны будуць запісвацца ў сельсавеце. Через месяц – срок. Выдзержка ім месяц можа. А зараз такога нет. Маладыя гуляшчыя ўсе сталі. Раней было дабрэй жыць, чым цяпер. Вось. Канешне, дзевушка зразу вот не гаварыла, што згодна, пазней тады. Свадьбы гралі вот зараз 27 лістапада. Тоже гэта Піліпаўка, стараліся ўсегды больш у Каляды іл і пасля Пасхі.

Ну, у сваты прыходзілі і бралі гэтыя сваты, калі ідуць к дзевачкі, хлеб і соль, і водку. А ўже маладая і маць яе, і ацец гатуюць стол. Усяк жа было: і сала, і яйца вараныя, і якой салат, і капуста, і гуркі, памідоры.

*Запісана ў в. Раманавічы Гомельскага р-на*
*ад Шчыравай Надзеі Рыгораўны*
*студэнткай Анашкінай Н.*

## СВАТЫ

У сваты хадзілі ў Каляды. Два тыдні шлі святкі. Гэта был перыяд выбара нявест, да Вадохрышча. У сваты ішлі бацька, маці і сват – старэйшы паважаны чалавек. Ішлі яны ўвечары, з сабой неслі бохан хлеба, соль, рушнік і гарэлку. Прыйшоўшы да хаты, сваты стукалі ў вокны і прасіліся ўвайсці ў хату, выдаючы сябе за купцоў.

Зайшоўшы ў хату, пыталіся: "Ці тут можна цялушку купіць альбо не?". Гаспадары адказвалі, што тут можна купіць цялушку. Сваты клалі хлеб, соль, гарэлку на стол і пыталіся: "Ці прыміце вы наш хлеб-соль?" Калі гаспадары былі згодныя, то яны садзілі спачатку сватоў за стол, тады садзіліся самі. За сталом пілі, елі і дамаўляліся, у які дзень будуць заручыны.

## ЗАРУЧЫНЫ

Заручыны ўжо праводзілі з гасцямі. Гаспадары звалі і саседзей, і радню, і сябраў. Заручыны жаніх з нявестай гулялі паасобку.

Заручыны пачынаюць гуляць з вечара і гуляюць усю ноч. На заручынах будучая нявеста адорвае гасцей падарункамі. Дамаўляліся аб дні правядзення вяселля, дзе яго будуць праводзіць, колькі людзей будуць зваць гаспадары.

Спачатку маладыя рэгістравалі свой шлюб у царкве, рэгістраваў іх поп запісам у царкоўнай кніге і пазначаў вянчанне.

У дзень вяселля маладую наражалі яе дружкі ў хаце бацькоў дзяўчыны. Пелі песні, а старэйшыя жанчыны давалі настаўленні, як жыць маладой дзяўчыне ў шлюбе.

Маладога таксама наражалі дома ў яго бацькоў. Потым малады ехаў за нявестай да яе дому.

## ВЯНЧАННЕ

Пасля гэтага маладыя едуць у царкву вянчацца. У царкву бацькоў маладых не пускалі, яны павінны былі сустракаць іх дома. Пасля вянчання маладыя і іх госці павінны былі заехаць спачатку да дому маладой – гэта абазначала сімвал кальца. Т.е. маладыя рабілі такі сімвалічны круг: дом маладой – царква – дом маладой. Калі маладыя не зробяць такога, то як бы разарвуць абручальнае кальцо.

Пасля гэтага маладыя ехалі на месца свадьбы альбо заставаліся ў доме маладой, дзе і будзе праходзіць вяселле. Ад вянца маладых сустракаюць бацькі маладой. Спачатку абсыпаюць іх збожжам, збожжа кладуць у карманы маладому, каб грошай шмат было. Затым маці маладой дае пацалаваць ікону маладой і маладому. Затым даюць ім рукі памыць, каб яны рукі павыціралі адзін аднаму, і сажаюць іх за стол. Пасля ўжо запрашаюць гасцей за стол.

Рассажваюць гасцей так, каб яны не сядзелі адзін к аднаму спінамі, а то кажуць, калі спінамі пасадзіць, пасварацца сям'я маладога і сям'я маладой. З вясельнымі песнямі маладых і гасцей частуюць бацькі да вечара.

Каравай пякуць маці маладой, дружка маладой і бабуля – самая старэйшая і паважаная, к яе мненню ўсе прыслухаліся. Калі пеклі каравай, то бабуля над ім чытала малітву, але так, каб ніхто не чуў і не бачыў.

Потым, у канцы вясельнага вечара, сваты тройчы просяць дазволу ў маладых падаць каравай. Пасля трэццяга раза каравай выносяць, ставяць на стол і дзеляць. Спачатку маладым, тады іх бацькам, тады дружкам, сёстрам, брацці гасцям.

Ноччу, пасля таго, як падзялілі каравай, з маладой здымаюць фату і надзяваюць платок і хвартух. Гэта азначае, што дзяўчына не свабодная і хазяйка ў хаце. Потым дружкі збіраюць пасцель і вязуць да дому маладога.

На другі дзень вяселле гулялі ў маладога. На другі дзень жанілі свідзецеля і свідзецельніцу. Крычалі "горка" як маладым, так і свідзецелям.

На трэцці дзень прадаўжалась вяселле. Везлі сундук з дабром з двара нявесты. З сундуком не адпускаюць, а патрабуюць выкуп, перагарадзіўшы

дарогу. Выкуп аддаюць і едуць з сундуком да маладога. Сундук заносяць у хату, і ён усё дабро дастае з сундука і паказвае гасцям.

**РАЗГРЭБІНЫ**

На разгрэбіны гуляюць у гульні. Пяюць песні, танцуюць. Сваты гасцей запрашаюць у хату за стол з пачастункамі і гарэлкай. З ліку гасцей выбіраюць жаніха і нявесту. Дзяўчына пераапранаецца ў мужчыну, а мужчына – наадварот. Іх садзяць на красны кут і дзеляць каравай. Потым зноў пяюць песні і танцуюць.

***Запісана ў в. Рудня Марымонава Гомельскага р-на ад Камека Марыі Мікалаеўны, 1935 г.н., студэнткай Несцяровіч В.***

Спачатку сваталіся да маладой з такімі словамі: “У вас не прадаецца якая-небудзь козачка?” Калі дзяўчына згаджалася, рабілі вяселле. На вяселлі ёй распляталі косы, вянок рабілі з цвятной бумагі. Бралі платок, якой давала маладой будучая свякруха, лажылі ў дзеравянныя дзежы і спявалі маладой песні:

*Беражыся, Манечка, дружка наша,*
*А ўжо новая мамка з векам ідзе,*
*Маладое адзенне на веку нясе.*

Потым расплятаюць косу і надзяваюць платок:

*У кожнага свата з вярбы, з лазы хата,*
*А лаўкі з бярозы, закасянкі цвярозы.*

Потым даюць гарэлку:

*Як казала Манечка: “Замуж не пайду”.*
*Пасеяла чарнабрыўцаў цэлую граду,*
*А хто ж тыя чарнабрыўцы палaverbaць будзе,*
*А хто мяне, маладую, жалаваць будзе?*
*Абазваўся да Ванечка з зялёнага саду,*
*Я тыя чарнабрыўцы паліваць буду,*
*Я тыя чарнабрыўцы паліваць буду,*
*Я цябе, маладую, жалаваць буду.*

* * *

*Сядзь, мая мамка, павячэраем,*
*Павячэраўшы, падзелемся.*
*Табе, мамка, ніты да бердзечка,*
*А мне, мамка, палаценечка,*
*Табе, мамка, боршч да галушкі,*
*А мне, мамка, пуховы падушкі.*
*Стукнулі, грукнулі на двары.*
*Паглядзі, мамачка, да мяне?*

Маладому:

*Бацька лучыну рубае,*
*А сын з дзеўкай гуляе,*
*І едзе бацька па лучыну,*
*А сын едзе па дзяўчыну.*
*Едзе бацька з лучынаю,*
*А сын едзе з дзяўчынаю.*
*Пытаецца бацька ў сына,*
*Што каштуе – трэба даці,*
*Гаспадыня будзе ў хаце.*

Каравай заўсёды дзялілі ад маладой рукі – бацька ці маці. А потым, у канцы, госці перадзяваліся ў цыган, жартавалі.

***Запісана ў в. Сеўрукі Гомельскага р-на ад Сніцарэнка Наталлі Кірылаўны, 1935 г.н., студэнткай Кавалеўскай Т.***

**СВАТЫ**

У нашай вёске сваталі дзяўчыну. Прыходзілі сваты, прыносілі хлеба, бытылку. І астаўлялі гэтае ў маладой. Еслі маладая згодна, то етае ўсё астаецца тут і ўжо тады будуць дзелаць заручыны. А еслі не згодна, усё што прынеслі, нясуць назад. На сватах пелі песні:

*На вуліцу...*
*Туды дзевачку ведзём,*
*З тым панічом, што ўчора гуляў,*
*А сягоння ён за сябе ўзяў.*

**Малады едзе да маладой**

*Да й заржалі ярыя коні ў полі,*
*Да й зачула дзева, седзячы ў доме,*
*Да й кінулась свайму татачку ў ногі,*
*Да й у далёкі край замуж не аддай,*
*Ой, татачка, не лай да й мяне схавай.    2 р.*
*Да й у чужом сяле, там людзі чутлівы,*
*Асудзяці ўсю маю паходачку:*
*Ой, як робіш,*
*Ой, як ходзіш,*
*Ой, як з людзьмі ты гаворыш.*

А яшчэ як малады едзе, дык пяюць так:

*У Цярэнічах, варагі, не пераходзьце дарогу,*
*Няхай пярэйдзе радзіна, каб была добра гадзіна,*
*Штоб ціхі Дунай не шумеў,*
*Штоб наш Колечка не ўтануў.*

А калі малады прыехаў, яго сустракаюць словамі:

– Здароў былі, добрыя людзі!

– І мы к вам.

– Ці не заляцела к вам наша зязюлька ўчора?

– Ой, заляцела, не заляцела – няхай вам.

А як пачалі каравай дзяліць, сваты з дружкамі ругаліся, пака на пірагі памяняюцца. Вось пачынаюць дружкі ругацца:

– А ў бару сасна кілаватая,

Старшая свацья вінаватая.

А сваха ўжэ дружку абзывае:

– А вы, дружочкі, брэшаце, на кол языкі чэшаце.

Тады дружкі на свяцілку пачынаюць дражніцца:

– Сядзіць свяціла пры сцяне,
На ёй рубашка не яе,
На ёй рубашка сястрына,
Выганьце яе з-за стала.

Наступала свадзьба. Прыязжала свяцілка са свечкамі, жаніх, сястра. Моляцца Богу бацькі і садзяць маладых на кажух і абносяць свечкамі маладых, і гаворыць дружок: "Ці ёсць тут ацец і маці?"

Бацькі гавораць: "Ёсць. Благаславіце сваіх дзіцяці ў дарогу ўступаці" (3 р.).

**ВЯНЧАННЕ**

Маладыя едуць к вянцу. Як вянчаюць, дык свечкі, прывезеныя з цэрквы, ставяць на стол. На месцы свяцілкі садзіцца сястра маладога. І гэтыя свечкі стаўляюць на стале, і кусцік каліны, і пяюць песні:

*Годзі каліне, годзі маліне, у цёмным лесе стаяці.*
*Ужо каліну, а ўжо ж маліну салаўі паклявалі,*
*А ўжо ж дзевачку, а ўжо ж Надзячку людзі абгавораць,*
*Ой, не так яе да й саседачкі, як яе падружачкі,*
*Умесце былі, мёд, віно пілі да яшчэ абгаварылі.*

Пяюць песні маладой:

*Стаіць грушачка, распусціўшыся, некаму падрэзаць.*
*Стаіць Надзечка, расплакаўшыся, некаму сунімаць.*
*Сядзіць ля её Ванечка яе, ён яе сунімець.*
*Не сунімай, не ўнімай мяне, ты ж мяне не сунімеш.*
*Есць у мяне мамка родная,*
*Тая мяне суніме.*

Калі дзеўка была сірата, спявалі:

*А як жа мая галовачка, ой, уся ў цвяточку,*
*Няма маёй роднай мамачкі, ой, сем гадочкаў.*
*Як жа ж мая галовачка, ой, уся ў цвеце,*
*А родная мая мамачка, ой, на том свеце.*

***Запісана ў в. Цярэнічы Гомельскага р-на***
***ад Рубанавай Марыі Паўлаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Рубанавай Н. (2004 г.)***

Вяселле заўсёды гулялі пасля паста. У суботу ці ў нядзелю шлі ў сваты толькі адны мужчыны. Удаўцы не ходзяць у сваты і халасцякі таксама. Бяруць булку хлеба, графін гарэлкі. Хлеб заварочваюць у рушнік. Прыходзяць сваты і гавораць: "Мы чулі, што ў вас ёсць маладая кабыліца, а мы яе купцы. Ці згодны вы яе нам прадаць?" Ложаць булку хлеба на стол. Калі маладая згаджаецца, яна пераразае хлеб папалам. Сваты садзяцца за стол.

На заручыны завуць хросную маці, братоў з жонкамі, і пачынаецца вялікая гульня. Гуляюць да самой раніцы. Сватам вешаюць рушнікі, радню адорваюць падаркамі і дамаўляюцца, калі будзе вяселле.

Да маладой едзе малады. Яе дзе-небудзь хавалі ў другім пакоі, малады яе шукаў. І ішлі за стол садзіцца да маладой. А затым маці маладой з іконай у руках праводзіла іх да павозкі. Маладыя ехалі вянчацца ў царкву. Калі прыязджалі з царквы, малады вёз маладую да сябе ў госці. Садзіліся за стол, замачвалі. Адвозіць малады маладую дадому. Потым усе збіраюцца госці ў маладой. У гэты час дзялілі каравай маладой. На каравай лажылі толькі грошы. Потым госці маладога забіралі маладую і скрыню з прыданым і везлі да маладога. У скрыні павінен быць незамкнуты замок, каб дзеўкі хутка пасля гэтага вяселля выходзілі замуж. Усе госці маладой едуць у госці да маладога. Тут жа яны ўручаюць свае падаркі маладой, тая ходзіць і сама сабірае іх. Садзілі маладую за стол і завівалі яе, рабіла гэта хросная маці: "Ацец і маць, благаславіце вянок сняць?"

Потым хросная маці знімае вянок і ложыць яго за ікону. На галаву маладой адзяваюць платок. За пазуху ложаць бумажныя грошы і прыгаворваюць: "Лажу грошы бумажны, каб сама была паважна".

Дружкі маладога едуць за рушнікамі і пасцеллю да маладой. Маці хросная з дружкамі развешваюць хвіранкі, рушнікі ў свякрухі.

На другі дзень вяселля, раніцай, госці маладой прыносяць снеданне маладой да свякрухі. Прыносяць ёй бульбу сырую, косці, скарлупу з яйцаў і гавораць: "Ці ж кармілі цябе тут, ці паілі цябе тут? На вось, паеш, каб галодная не была".

Гасцей пачаставалі тут. У часоў 12, пасля таго, як госці пасядзелі ў маладога, некалькі жанчын і мужчын перапранаюцца ў цыганей. Робяць ляльку з трапак, надзяваюць жанчыну ў нарад нявесты і едуць усе да маці маладой і гавораць: "На, забірай сваю дачку, нам яна такая не патрэбна". Маці адказвае: "Я ж вам давала красавіцу, а гэта не мая дачка, што вы з ёй зрабілі?"

Усе смяюцца, шуткуюць. Усіх гасцей садзяць за стол, і вяселле працягваецца. Спяваліся песні.

***Запісана ў в. Старыя Цярэшкавічы***
***Гомельскага р-на***
***ад Барысенка Ганны Ануфрыеўны, 1929 г.н.,***

***(перасяленка з в. Мокіш Хойніцкага р-на), студэнткай Ахрэменка Т.***

Ну, тожа, канешна жэ, у пост не гулялі. О, еты месяц, то можно до 28-га гуляць свадзьбы, а патом ужэ да Ражэства, да Хрышчэння ўжэ не гуляюць. Строго было, саблюдалася. Ну, а цяпер як, я ўжо не знаю.

Шчас ідуць заручыны, у сваты ідуць. Так эта ўжо заручыны, хто хадзіў ў сваты.

**СВАТЫ**

Ну, у сваты, канешна, хадзіў бацька і матка, хросны з хроснай, дзед і баба. Ну, хадзілі ў сваты. Прыйшлі ўжэ ў сваты, іх ужэ ўгашчаць, тады, выводзяць дзеўку ўжэ на паказ.

Бывала, што бацькі давалі згоду на шлюб, а, бывала, і адмаўлялі сватам. Бывала і так, і так, маглі не. Скажуць, маладая ілі жэніх не дастойны, вы не такія. Бывала і такое. Ну, еслі, напрымер, дзеўка не хоча за гэтага хлопца замуж ідці, так яна гарбузу выносіла. Яны як сталі на парог, дак яна возьме гарбузу. Поўную гарбузу, абыкнавенную. Всё, яны заварачваюцца – нявеста адказала. І такое бывала.

**ВЯНОК МАЛАДОЙ**

Вянок маладой всегда был красівы, большэ белых цветоў. Рабілі яго ўжэ падружкі. Абязацельна ў нас было тры падружкі, дажэ і болей было, но эта тры – асноўнае. Тыя падружкі ўжэ дзелалі вянок з цветоў. Летам, так канешна із сваіх, а зімой – так ужэ купленыя.

**ПАСАД**

На вяселлі пелі спецыяльныя песні для нявесты-сіраты. Ну, які выгляд меў каравай? Бальшы быў, бальшы іспячэм так, патом ужэ такія шышкі там закручвалі. Ета ўжэ замужнія жанчыны выпякалі. Тады спявалі.

Ну, як ужэ на пасад ідуць, так канешна. Это яны ўжэ калі ў цэркву схадзілі. Прыходзюць, на пароге іх сустракаюць матка і бацька з хлебам на палаценцы, палаценца вышытае. І яны падыходзюць, і маладая кланяецца, на калені станавілась і кланялася. І яны ўжо, канешна, і цалавалі ікону. Садзілі іх на кажух.

Спяваць маладой нельзя было. Ета ўжэ не. Наабарот, маладыя всягда плакалі, плакалі... Ці хто з радасці, ці хто пячаліўся... Бальшынство плакалі маладыя.

Выкуплівалі маладую. Дзеўкі хадзілі ўжэ ў хату, там прыбіралі. А патом ужэ прыходзілі хлопцы, зваліся шафяры, дак яны выкупвалі.

Ну, як прыязжалі з цэрквы ілі загса, так абсыпалі: хто канфетамі абсыпае, хто жытам абсыпае, хто рысам. Усяк.

**ДЗЯЛЬБА КАРАВАЯ**

Ну, гэта выбіралі ад маладога харошага чалавека і ад маладой. Перавязвалі іх палаценцамі. Ну, і тады ўжэ рэзалі. І вызывалі ўжэ, напрымер, цётку: “Цёця Галя, гдзе б ты была, да сюда прыбыла, нашых маладых с чэсцю каравай прыняла”. Што-небудзь яна маладым падарыла.

Ну, як ужэ канчалася свадзьба, ну, благада-рылі ўсіх людзей. Ну, маладую з маладым у комнату другую завадзілі.

***Запісана ў в. Калініна Гомельскага р-на ад Філонавай Ганны Фёдараўны, студэнткай Калеснік Ю.***

Вяселле гулялася з восені пасля таго, калі на гародзе паўбіраям ураджай, і да Піліпаўскага паста.

**СВАТЫ**

Жаніх усягда засылаў сватоў. Сваты прыходзілі ў хату, гаспадары пыталіся: “За чым пажалавалі?” – Тыя адказвалі: “У вас тавар, у нас купец”. Пачыналіся таргі.

Калі бацькі са сватамі прыходзілі да згоды, тады назначалі дзень свадзьбы.

**ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ**

Падыходзіў ужо дзень свадзьбы, нявесту прыбіралі. Садзілі на дзяжу, распляталі касу і пелі:

*Косачка мая, кахана,*
*Цяжкае тваё ўздыханне,*
*Часта цябе, косачка, часта часала,*
*За адзін вечарочык касу прадала.*
*Прыехалі купчыкі касу таргаваць,*
*Што табе, дзевачка, за касу даць?*
*Старгавалі косачку ды й за сто рублёў,*
*Пасадзілі дзевачку з міленькім дружыком.*

У гэты дзень жаніх з дружыкамі ехаў да маладой і там шоў абрад выкупу. После выкупу маладыя вянчаліся ў царкве. Маладых з царквы сустракалі бацькі з іконай, з хлебам, з соллю.

У разгар свадзьбы выносілі каравай, які выпякалі замужнія жанчыны. За стол маладых садзілі на засланую кажухом лаўку, каб жылі багата. Госці дарылі падарункі, пелі песні, плясалі. Пасля вяселля маладыя ехалі да дому жаніха з прыданным.

*Зайшло сонца за ваконца,*
*За зялёны сад.*
*Узяла за ручэньку ды й павела ў сад.*
*Пасцяліла бел пасцелю,*

*Палажыла парня спаць,*
*Сама села ўкрай пасцелі, зажурылася,*
*Што з маладым казачэнькам ажанілася.*
*Не журыся, Марусенька,*
*Ты будзеш мая,*
*У меня ёсць бочка піва, а другая – віна.*
*А мы сядзем ды й паедзем с табой да вянца.*
*А ўчора рана вутрам ва ўсе звоны б'юць,*
*Маладога Івана, Йвана ва ў гробе нясуць,*
*А ўслед яго ацец, маці ўбіваецца,*
*А Маруся ў варот насміхаецца,*
*Нада было табе, Ваня, нас двох не любіць,*
*А цяпер жа табе, Ваня, табе двох пазабыць.*

* * *

*Все шумелі, куда-то спешылі,*
*А вакзал, точно ўлей жужжал,*
*Парынёк маладой у шынелі*
*Пятый раз дзевушке руку жал.*
*Как хацелась на вакзале мінутак на пяць,*
*Мы так мала друг другу сказалі,*
*Но хацелась так многа сказаць.*
*Паравоз загудзеў ва ўсе трубы,*
*Точно чуе пращальны он час,*
*Но і што ж, еслі ў самыя губы*
*Я цябе расцалую сейчас.*
*Падашол он, немножко смуцілся,*
*У неё шчочкі сталі, точно агонь,*
*Пацалаваў і ўскочыў на падножкі,*
*І пашоў, закачаўшысь, вагон.*
*Ехаў парань у паходнай шынелі,*
*Штобы драцца ў храбрам баю*
*За любоў, за Радзіму ў родным краю.*

* * *

*Як заржалі сівыя коні ў полі,*
*Як пачула маладая дзяўчына ў каморы,*
*Ды й кінулась бацьку і маці ў ногі.*
*Не дай, не дай, мая мамачка, ат сябе,*
*Астанецца рута-мятачка ў цябе,*
*А хто ж яе палівацьу цябе будзе,*
*Устань, устань, мая дочачка, раненька,*
*Дый палівай маю руту-мятачку часценька.*

***Запісана ў в. Калініна Гомельскага р-на***
***ад Стасенка Галіны Рыгораўны, 1928 г.н.,***
***Ісачанка Любові Аляксееўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Каржовай Н.***

Когда приходили в сваты, если невеста не хотела выходить замуж за этого жениха, она выставляла во двор гарбуз.

Жених после венчания должен придти в свою хату. Предворительно бабки стелят ручник через порог. Одни из бабок незаметно ложат замок открытый под ручник. Жених должен перенести невесту через порог, не наступая на порог. После того, как переступили, бабка берёт замок, замыкает его, а ключ обычно выбрасывали в колодец. Приговаривали:

*Пока замок не открыт ключом,*
*Будут жить в мире и счастлива.*

Звучит песня-обряд, свекровь снимает у невесты фату и одевает ей платок (молча). Невеста платок сбрасывает. После того, как свекровь одевает ей платок второй раз, говорит: «Дарю тебе платочек и беру тебя в дочки». Невеста завязывает платок, потом берёт свою фату и по очереди обходит своих подруг, накидывает на них фату. А самой лучшей подруге одевает на голову и оставляет. Это значит, что она после нее выйдет замуж.

Вечером, когда невесту забирали, везли приданое. Невесту привозили в дом жениха. Свекровь и бабки готовили постель и приговаривали, крутя подушку: «Как подушка в моих руках вертится, так чтобы и ты своим мужем вертела. Как простыня ровно ложится, так и жизнь будет ровной. Как одеяло толстое и лёгкое, так и жизнь будет богатой и лёгкой».

На второй день утром подружки собирались и шли пешком, пели песни и несли завтрак невесте. Подружки были вместе с невестой до прихода гостей.

***Запісана ў в.Каранёўка Гомельскага р-на***
***ад Раманавай Ганны Пятроўны, 1934 г.н.,***
***(перасяленка з Бранскай вобл.),***
***студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І.***

В нашай меснасці праісхадзіла свадзьба такая.

Тады ж была ў скорасці послі вайны, ды і ў вайну гулялі. Ліпёшак, гнілушак натаўкём у ступі, у печы напяком і свадзьбу згуляім.

Ліпёшачкі дзелаліс з бульбы, якую сабіралі на полі, памёрзшую, усякую там, і не было тады мукі, патаму шта эта вайна была. Так этых ліпёшачак перамоям у вадзе, тады ў ступу, патаўкём её і тут ужэ, і так выпякаім. Узвар варылі ды кісель. Узвар варылі з яблак, каша называецца. Эта ўсё на свадзьбу, патаму што ж нічога не было.

І жылі харашо-прыхарашо, дабрэнна жылі, как мы січас жывём, ні жылі, а мірна і дружна. Січас туды-сюды ды і разводы, разводы, а тады ж была очынь харашо. Цвяты тады былі не такія шыкарныя, как січас, а тады во такія васількі, да нізабудачкі, да рамашачкі, адуванчыкі. Січас у нас німа такога старыннага абрада, патаму што тут січас усё новае і пановай. Хоць у нас у сіле старыкоў мала очынь, то і

празнуюць мала, очынь мала. Маладыя не пачытаюць і гаворацць: "Ваша ета ўжэ аджытае, а ў нас січас новае ўсё".

У сваты ішлі асобыя людзі, наражаныя, мужчыны ішлі, брацья яго, маладога, мамачка яго, хросная, хросны, саседзі ідуць. Яны неслі гарэлку. Тады ж гарэлка ў магазіне якая была? З буракоў гналі гарэлку. Буракоў здзелаюць, нацяруць на цёрку, усё вычысцяць, сок выціснуць і дзелаюць. І жыта вот росткі надзелают, росткі з жыта прарастуць, і тады на сваю такую вот мельніцу, яна круціцца, мука тая сыпіцца, і тады дзелают самагонку. Гэта бралі з сабой у сваты. А дзевачка ўжэ, мама нівесты дык гатовіла закускі. Тады ж кабаноў можа якіх дзяржалі, цяпер жа іх рэдка дзержуць, кабана ўб'юці і окаркаў сваіх парэжуць, калбасак начынюць, вот эта было так. Халоднае варылі, а цяпер ужо сільна знатна. Ідзець сват з жаніхом сваім і гавораць: "Ці заблудзілася наша цялушачка? Мы прышлі яе ўжэ звацць". А сваха: "Тут, тут, ё такая, зашла, пашла, жыла, тут яна такая". А дзеўка ўжэ выходзя, а сваты адны, другія, і за стол іх садзюць, а тады ўжэ сватоў этых перавязваюць рушнікамі вышыванымі, такімі красівымі, да кален рушнікі вышывалі. І тады яны ўжо выпіваюць, частуюць, сальца ядуць. У дзевачкі спрашываюць: "Ці любіш ты нашага хлопчыка?". А яна: "Ну, так ні так, а ўжэ ж так нада, ды ўжо ж так?". Іна ўжэ і выходзіць замуж, дзевачка тое сагласіе дае.

Было такое, што і радзіцелі выбіралі, і дзевачка дружыць с парнем, дык яны ўжо сагласуюць. А радзіцелі выбіралі ў таком случаі: "Ні бяры дзевачку такую бедную, а бяры багатую, штоб і нам трошкі ўжэ памагала. Тады бедна жылі. Да працавітая была, штоб яна работала, да жала, да вышывала, ды на полі капала, ды і дзетачак сваіх гадавала, ды штоб харашэнька жыла і любіла цібе".

Песні спявалі такія, што як едуць на коніках, дык ужэ гавораць: "А ў нашага свата некрытая хата". Як дзеўка бедная, дык гавораць: "У яе няма ні скрыні, ні пярыны".

Сваты і заручаны – эта адно і то жа. Як быў багаты, так было калечка, а як бедны, тады калечка не адзівалі, тады і хлеба не было за што купіць, магазінаў тады не было з залатым кальцом. А былі вянцы, ой, дарагія, харошыя былі. Парэнь дзержа дзевачку сваю, рушнік кладуць пад ногі, пад чатыры ўглы кладуць залатыя капейкі, старынныя былі такія капейкі – эта пад венец у цэркві. Дзевачку з хлопцам звязвалі рукамі палаценцамі, і бацюшка водзя іх кругам там такога століка, і даваў ім такое віно піць, а тады ўжо бацюшка пасвеціць этыя калечкі, а ўжо жэніх даўжон дзевачкі надзець калечка, а дзевачка даўжна жаніху надзець калечка.

Былі па-настаяшчэму дзівішнікі. Ужэ дзевачкі прашчаліся з нявестай са сваёй, с падругай сваёй. А баню тапілі, і ўжэ дзевачкі тыя плакалі, і ўжэ не пускалі яе гуляць, а жаніх усё дабіваўся, што "пусціце мне нівесту". Тады ж ужэ прыдзя мамачка яго ці яе і ці няхай ужэ дзевачка пабудзе са сваімі ўжэ дзевачкамі, а табе ўжэ, штоб ты быў адзельна ад дзевачак, штоб нараднай дзелалі, штоб вечар дзелалі, прашчаліся. І хлопцы хадзілі аддзельна ад дзевачак. Эта было абязацельна, эта был закон, хоць тады і баняў не было нікакіх, а такія ўжэ здзелаюць пліцяную лазяначку, залезуць туды, памыюцца трошачкі, папарышся, тады Гасподзь Бог благаславіць. Штоб Гасподзь Бог адарыў і радасці, і здароўя.

У маладога тожа быў вечар-мальчышнік.

Пяклі каравай у печы: "Каравай, каравай, каго хочаш – выбірай". І такі ўжэ бальшушчы каравай, што ўжэ нясуць яго на дзве рукі: разукрашаны, красівы. І так ужэ шышачкамі рознымі, ёлачкамі ўсякімі ўкрасяць.

У склад каравайшчыкаў уваходзіў той, хто багачы: "Любіш нівесту?". Сваха біднейшай: "Памагі каравай спекць". Так ужэ і складвалісь усе, какія ўжэ маглі, таму што тады ж не было с чаго, дастаць не было як. Муку ўжо ету, пшаніцу, аббіралі, абталківалі яе, тады мельніцамі малолі і са сваёй пшаніцы, тады не было мукі, штоб спекць каравай.

Каравай должны дзіліць дзеці з другой стараны – з нівесты, з жаніха – хросныя с двух старон. І іх перавязваюць і дзеляць каравай.

Быў пасад маладых. Во свадзьба ідзеці, первую румачку выпілі, і дзеткі пашлі пагуляці, а кагда яны гуляюць, танцуюці, іх садзюць на шубу.

Шубы шырсцяныя такія былі, эта, штоб дзеткі багата жылі, багатыя, крэпкія і дружныя. На пасад вялі радзіцелі са стараны жаніха і са стараны нівесты. Там жа мамачкі дзве і кажуць: "Вы садзіцесь, дзеткі, за стол", і садзяць іх, сваткоў. Валасы не састрыгалі і не падпальвалі – яны баяліся.

Калі малады ехаў да маладой, благаслаўлялі: "Да благаславіць цібе Гасподзь Бог, мацер Бож'я і ўсе святыя, штоб цібе ў дарогі было крэпка, дружна і здарова". І так жа мамачка благаслаўляла і нівесту. І кады іны ўжэ прышлі, тут жа іх тожа ўжэ благаслаўлялі такімі ж словамі.

Еслі няма вінца, то маладых дома абводзяць кругаля стала, штоб дружна жылі, крэпка.

Дзевачкі нівесту да таго праталі. Дык еслі жыніх ужэ зная, што дзевачка яго сагласна, яна нідзе ні дзеніцца, а другі расціраіцца хлопчык і тожа ні будзя знаць, што сказаць: “Ты хавайся, а я пайду другую сабе найду”. А іна хавалася. Абізацельна нада схавацца, штоб жаніх пашукаў нівесту. Эта штоб усю жызнь хадзіў за табой па пітам, штоб такую найці ластачку, красавіцу, штоб добрая была і харошынькая.

Нарадзяць якую-небудзь старушку, накінуць на яе фату з гардзіны, цвецікаў наторкалі і прышлі ўжэ: “Вот наша маладая”. А ён жа бача, што там другая: “Не, эта не наша маладая. Наша ні такая, наша малодзінькая, а эта ўжэ старая”. І цяпер такое ё!

Радзіцелі нівесты плакалі і далжны прашчацца. А на втары дзень свадзьбы далжна падайці нівеста з жаніхом сваім, пакланіцца ў пояс радзіцелям: адным радзіцелям і другім радзіцелям, штоб кланяліся тры разы. А тады ўжо радзіцелі і цалуюцца. Эта ўсё для ўкрыплення сімейных благ, штоб іны жылі харашэнька, мірна, штоб любілі друг друга, штоб ні аскарблялі ні свякруху, ні свёкра.

Послі вінца далжны родныя радзіцелі встрычаць, а калі німа родных, дык кросны тады, штоб былі пара. Тых людзей браць нада, каторыя мірна і харашо жывуць, штоб ні алкаш был ні какой, а штоб верушчый был чалавек, штоб Божыньку малілісь – такой штоб быў чалавек – абязацельна, абязацельна. І з солькай і з хлебам устрычаюць іх. Цэркаў у нас тады была адна па ўсіму міру, а цяпер, во слава табе, Госпадзі, у каждым вугле, у каждым перавулачку.

Дарылі ў каго што ё. У каго грошы, у каго мацер’ял, пасцельныя прынадлежнасці, пасуду хто-та дара. На каравай дараць, дык тожа гавораць: “За еты кусочык – свой угалочык, а за ету чарачку – дзіцей парачку”. Усякае людзі гавораць. І пелі песні. Када дзеўка прашчалася з домам, то яна плакала і прашчалася са ўсімі: і с брацьямі, і с сёстрамі, і с суседзямі, і кароўку гладзіла і гаварыла: “Я цябе любіла, я цібе даіла і любіла, і жалела”.

Застолье ў доме маладога праходзіла весела, хараша. Ставяць на стол і яду, і піцьё, садзяць маладых на кут, і тады ўжо выпіюць і песні ўжэ пеюць.

***Запісана ў п. Новае Жыццё Гомельскага р-на ад Гаўрыленка Любові Іванаўны, 1927 г.н., студэнткай Тараненька А.***

# Добрушскі раён

## СВАТЫ

У сваты прыходзілі да міне бацька жаніха, матка, прыходзілі два браты з жонкамі, дваюродны брат яго бацькі з жонкай. Прыносілі лусту хлеба і ў бумажкі трохі солі.

Каб даць згоду ісці замуж, мяла я з парога пад кут, каб даў Бог добрага жаніха.

## ЗАРУЧЫНЫ

А як прыходзілі ў заручыны, то прыносілі літру гарэлкі, болей не нада було, то будуць п'яныя. Пілі стаканамі ды патрохі. На заручыны я давала падаркі: свёкру – сарочку, свякрусе – плацце.

## КАРАВАЙ

Яда бела на свадзьбі такая: абязацельна було халоднае, ета самае першае блюда, патом рыба, жаранка з мясам, сялёдка, узвар (скрылькі з яблык і груш). Пяклі ішчэ піражкі з тварагом, ладкі, блінцы.

У нас замест каравая пяклі маленькія пампушкі, шчыталі як каравай. Хто пёк? Пяклі мая мачыха, а ў каго матка родная, то матка. Пяклі ў той дзень, калі свадзьба.

Дзялілі каравай жаніха родныя дзядзькі па маткінай і бацькінай лініі. Іх перавязвалі рушнікамі наўхрэсцю. Станавіліся і казалі: "Цётка родная, просім на каравай, каб маладым што-небудзь падаравала". Було 40 чалавек і прасілі 40 на каравай іх. Давалі хто што. Хто парасёнка, хто цялёнка, хто і хустку палажа.

## ПАСАД

Садзілі і міне на пасад. Рабілі лаўку. Наскрозь хаты клалі кажух і садзілі. А калі вялі да пасада, то пелі песню:

*Расступіцеся, падружкі,*
*З мае торныя дарожкі.*
*Станавіцеся ўсе ў рад,*
*Вядом Валʼчку на пасад.*
*Ой, хадзіла Валечка ды й па саду,*
*Гукала свайго татку на параду.:*
*– Прыйдзі, мой татка,*
*У госцейкі ка мне,*
*А як мне прывыкаці*
*У чужой чужыне.*
*А чужая да старонка,*
*Ой, ад ветру шуміць,*
*А чужая да мамачка,*
*Ой, да словам карыць.*
*Заплакала Валечка,*
*Сені мятучы.*
*Ой, убачыў Ванечка,*
*Ды коней вядучы.*
*– Ой, чаго ж ты, Валечка,*
*Горка плачыш?*
*– Як жа мне й, Ванечка,*
*Ды й не плакаць?*
*У цябе, у маладога,*
*Ой, ды роду многа.*
*А ў мяне, у маладјя,*
*Нет нікога.*
*Ёсць татка,*
*Ды й той далёка.*
*Паслала б малога –*
*Не пайдзе.*
*А паслала старога –*
*Не дайдзе.*
*– Ой, прашчай жа, Валечка,*
*Сястра наша.*
*Ой, цяпер мы не твае,*
*Ты не наша.*

Пасадзілі і пайшлі. Як мzне выводзілі, развіталася з домам, ды давалі мне 4 падушкі, 2 посцілкі, 2 радны (тканыя палотны), пярыны, штукі тры рушнікі палатняныя.

## ТРЭЦІ ДЗЕНЬ

На апошні дзень свадзьбы запрагалі тройку коней, гармонь, бубен і па сялу каталіся. Смалілі куру. Смаляць, патрашаць, а патом у сажу рукі і каго сустрэнуць, мажаць шчокі. За ета не абіжаліся.

***Запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на ад Грудавенка Валянціны Гаўрылаўны, 1930 г.н., студэнтам Давыдавым А. (2005 г.)***

Свадзьба гулялася тры дні: субота, нядзеля і панядзелак. Былі і сваты, і атводзіны. Назначалі сваты, хадзілі дагаварваліся пра свадзьбу. Хадзілі там бацька жаніха, можа, які там таварыш маладога, хросны.

На первы дзень свадзьба была. На другі – дзялілі каравай. Каравай пякла хросная. На другі дзень "сабіралі курэй". Ужэ, хто свадзьбу гуляе, той курку нясе.

Варылі крупнік. Яшчэ на свадзьбу ставілі "ёлачку" з якой-небудзь галінкі. Украшалі яе каласамі жыта, ячменя. І "ёлачка" гэта стаяла ўсю свадзьбу. Атводзіны дзелалі нявесты матка і татачка туды, куды забралі яе. А ўжэ на трэці дзень прыходзілі ўсякія. Як ужэ сільна панапіваюцца – ета "Масква". Крычаць тады: "Масква!", выходзяць з-за стала і пяюць непрыстойныя мацюжныя песні. На первы і на другі дзень ставілі качэргі і пры-

галі, штоб тады ўзнаць, хто п’яны, а хто і не. Што зра дзелалі! І гаршкі, случалось, білі, хата ходарам хадзіла. Ета такі быў страшны трэці дзень. А тыя дні, дык добра.

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на ад Варганавай Ніны Ільінічны, 1933 г.н., і Дубаўцовай Аніссі Восіпаўны, 1922 г.н., студэнткай Кушняровай К.***

У сваты хадзілі не ў пост. Ішлі родныя жаніха, а таксама яго хросныя. З сабою абавязкова бралі хлеб з соллю на ручніку. Павітаўшыся, сваха ці сват пыталіся ў гаспадароў, ці няма ў гэтым доме цёлачкі, якую яны шукаюць да свайго бычка. А нявеста ад жаніха павінна была схавацца. Жаніх находзіў нявесту, і ў знак таго, што дзве стараны прыйшлі да згоды, абменьваліся хлебам і соллю (аддаюць з ручніком). Усіх запрашаюць за стол і за чacтаваннем дамаўляюцца аб дні вяселля. У гэты дзень свякрусе маладая давала падарунак, а свякруха ёй.

***Запісана ў в. Васільеўка Добрушскага р-на ад Цуканавай Надзеі Уладзіміраўны, 1945 г.н., студэнткай Камок А. (1998 г.)***

## ЗАРУЧЫНЫ

Малады з бацькамі выбіраюць дзень і едуць да нявесты і яе бацькоў. З сабою бяруць хлеб, соль, гарэлку, ручнік. Заходзяць у хату. Адразу не гавораць, чаго прыехалі, а кажуць, што прыехалі купляць цялушку. Бацькі нявесты адказваюць:

– Наша цялушка бадліва, брыклiва, крыклiва, калюча.

Сваты згаджаюцца і на такую. Ставяць гарэлку на стол, хлеб, соль. Запіваюць нявесту. На заручынах дамаўляюцца пра дзень вяселля. Нявеста падносіць маладому ручнік з хлебам-соллю.

***Запісана ў в. Дубраўка Добрушскага р-на ад Буднікавай Варвары Мамантаўны, 1914 г.н., студэнткай Мальцавай Н. (1998 г.)***

Вяселле ніколі не гулялі ў пост, у маі таксама, бо ўсё жыццё маіцца будзіш. Стараліся на свята якое ці ў выхадны.

У сваты ішлі бацька з маткай, хросны, хросная і дзядзькі – эта ўжо ў каго харашо языкі падвешаны. Бралі з сабой самагонку, хлеб-соль, сала, хто багацейшы – ішлі з калбасой. У хату заходзілі і так гаварылі:

– О, тут, мы чулі, прадаецца кароўка маладая. Нельзя нам яе паглядзець?

Тут ужэ нявеста выхадзіла. Еслі заартачыцца – гарбуз выносіла. У маю бытнасць жэніх з нявестай дагаварваліся і ўжо назначаўся дзень вяселля. У нас дзень свадзьбы назначалі, толькі калі ўжэ распісаліся.

Вяселле тры дні гулялі. Первы дзень у нявесты. Маладых на кут садзілі, дзе іконы стаяць, пад іх лажылі шубу аўчынай уверх, штоб багатыя былі. Калі каравай дзялілі, сватоў перавязвалі ручнікамі і яны ўжо вызывалі:

*– Ці ёсць тут ацец і маці*
*Благаславіць сваё дзіцяці,*
*Шчасця, долі пажылаці*
*І на каравай падараваці.*

Тады ўжо падаркі дарылі і паздраўлялі:

– Скольке ў лесе ёлачак, штоб столькі было дочачак, скольке пянькоў – столькі сынкоў.

Пятакі давалі ды казалі:

– Дару жменю медзі, штоб дзеці былі здаровы, як мядзведзі.

– Дару дубовую рошчу, штоб зяць пацалаваў цёшчу.

– Нявесце дару курку-квактуху, штоб пацалавала свякруху.

Другі дзень у жэніха гулялі. Зноў каравай дзялілі ды пілі, гулялі. Трэці дзень сабіраліся на папялішча, збіралі курэй з усіх, хто гуляе. Кібітку цыганскую дзелалі. Бралі цялегу, дугу ў кветкі ўбіралі, запрагалі каня ўсяго ў кветках ці самі запрагаліся. Садзілі на цялегу свата са свахай, падвозілі к калодцу, бралі венікі і пачыналі парыць. Увесь час вяселля маладыя далжны быць вмесце, штоб пасярод іх ніхто ні прайшоў, каб усё жыццё былі вмесце.

***Запісана ў в. Жгунь Добрушскага р-на ад Шабалінай Веры Ільінічны, 1936 г.н. студэнткай Жаўновай В. (2002 г.)***

Калі маці выходзіла сустракаць маладых з іконай з царквы, дзяўчаты пелі:

*Мамачка мая, вішанька,*
*Прытулісь да мяне блізенька.*
*Сукланяюсь табе нізенька,*
*Коскамі зямельку ўсцялю,*
*Слёзкамі ножачкі абаллю.*

Як ехалі з вянца і пад’язжалі да дома нявесты, дзеўкі пелі песню:

*Ой, мамачка, з Божа*
*Чырвоная рожа,*
*Чаго не выходзіш, чаго не пытаеш,*
*Ой, дзе мы бывалі, ой, што мы відалі?*
*Бывалі, мамачка, з добрым малайцом пад вянцом,*
*Часалі касу грабянцом,*
*Упаў грабянец пад вянец,*
(нявеста кажа на жаніха):

*– Ой, Колечка, падай грабянец.*
(а жаніх кажа):
*– Я табе, Галечка, не слуга,*

*У цябе падружкі грабянец пададуць,*
*Касу расчэшуць.*

Калі хадзілі вакол "ёлкі", пелі песні:

*Ой, я не купалася, мяне аблілі,*
*Ой, я не влюблялася, мяне празвалі (засваталі),*
*Сілаю, сілаю к вянцу падвялі,*
*У леваю ручачку свечку далі,*
*У левай жа ручачцы свечка гарыць,*
*Мілы некрасівы, сярдэчка баліць.*

***Запісана ў в. Жгунь Добрушскага р-на ад Смяглікавай Марыі Захараўны, 1914 г.н., студэнткай Жаўновай В. (1998 г.)***

У паследнія дні перад пастом, да Пасхі, на хвацеры, калі гулялі, хто не жаніўся, яму прывязвалі ззаду ступу. Пры ўсіх ён яе цягае. А ўсе астальныя смяюцца з яго. У пост на хвацеры не збіраюцца і не гуляюць да Пасхі. Пасля Пасхі начынаюць гуляць вяселлі. У суботу не гулялі. Гулялі тры дні: нядзелю, панядзельнік, вторнік. Свадзьбу гуляюць у нявесты, а патом у жэніха. У нявесцінай хаце пякуць паляніцу (хлеб), у яго тыркаюць ёлку, тады ўкрашаюць яе лентамі-строчкамі (рознымі). Калі ўкрасілі дзеўкі ёлку, тады праводзяць нявесту. Дружкі крадуць яе, бяруць падушкі, пярыну, даўжна быць ікона ў яе руках – благаславенства яе. На кане яе з жэніхом абвозяць вакруг калодца разы тры, калі едуць к жэніху. Калі яны ўпадуць, тады будуць жыць плоха, а калі не – тады добра. Прывозяць нявесту к жэніху, там гуляюць у яго хаце яго і яе родзічы. Калі гуляюць у яе хаце, госці дараць ім падаркі: хто палаценца, хто грошы, хто пасталы. Кажуць: "Пасталы, анучы, штоб жылі ў кучы". Стаяць удвух з палаценцам і вызываюць родзічаў блізкіх і далёкіх, каб тыя выпілі за іх шчасце. Яны выпіваюць чарку і закусываюць пампушкай. Тады ўсе садзяцца за стол, п'юць, гуляюць, хто танцуе пад гармонь з барабанам.

На другі дзень смаляць курыцу. Перадзяюцца, шукаюць жэрдку, прывязваюць к ёй курыцу. На ўліцу выносяць сухія саломы. Абсмаляць, павымазуюцца ў сажу і ядзяць курыцу. Каб усе смяяліся, прыдзелаюць вусы з воўны (шэрсці) сабе, смешаць гасцей. На другі і трэці дзень водзяць пярэзвы.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на ад Казаннікава Івана Іванавіча, 1931 г.н., студэнткай Макеевай С. (2001 г.)***

У сваты сабіраюцца жаніх, яго бацькі і хросныя. Уваходзяць у хату са словамі: "Добры вечар! У вас тавар, а ў нас купец, сабой наш хлопец маладзец!" Ці з такімі словамі: "Птушка заляцела к вам у двор, а мы прыйшлі яе выпусціць". Калі дзяўчына не хацела замуж, то давала хлопцу ступу. Яна валяла яе пад ногі сватам, каб яны выйшлі з дому. Але гэта было рэдка. Калі адказу не было, то бацькі дзяўчыны і бацькі хлопца давалі згоду на шлюб. А пасля гэтага дзяўчына прыглашала ўсіх гасцей да стала і частавала іх. Дзяўчына апасля гэтага лічылася засватанай. У час запоін яна адарывала бацькоў жаніха падарункамі, зробленымі сваімі рукамі. Таксама назначалі чысло, калі будзе вяселле.

У назначаны дзень жаніх з дружкамі едзе да нявесты. На вуліцы, дзе жыве нявеста, людзі некалькі разоў перакрывалі яе вяроўкай і прасілі выкуп, каб жаніх мог праехаць далей. Дружок жаніха выносіў ім розныя пачастункі, а таксама гарэлку. Пакуль жаніха не было, дружкі нявесты ў хлеб тыркалі маленькую ёлачку і ўпрыгожвалі яе кветкамі, стужкамі. Малады хлопчык прывязваў да яе крыж. Пры гэтым яны гаварылі такія словы: "Родная маці, благаславі сваё дзіцяці на ёлачку крыж прывязаці". Маці адказвае: "Бог благаславіць". Так гаварылі тры разы. Дзяўчаты садзіліся вакол ёлкі і спявалі песні ("Ох, мамка-галубка").

Вось жаніх прыехаў да нявесты. Але яе нідзе няма, а яе схавалі дружкі. На кожныя дзверы ставілі стол і прасілі выкуп за нявесту. У паследнім пакоі нявесту садзілі на вывернуты кажух, каб жыццё было багатае і шчаслівае. У дружка павінна быць шмат усяго, каб выкупіць нявесту. Нарэшце, нявесту выкупілі. Яна разам з жаніхом і дружкамі едуць у царкву. У царкве маладых ставілі на рушнік. Бацькі благаслаўлялі іх, але ў царкву не ехалі. Пасля вянчання ўсе цянулі да сябе рушнік, але дружок не даваў яго выцянуць з-пад ног. Але хто гэта змог зрабіць, у гэтым годзе пойдзе замуж ці жэніцца. Пасля вянчання ўсе едуць дадому. Там падружкі бяруць нявесту за рукі, вядуць яе і пяюць песню. Падыходзячы да маці, нявеста таксама спявае песню. Спачатку маладыя едуць да маладога. Там ім насустрач рассцілалі дыван. Ставілі стол, лажылі на яго хлеб і соль, а таксама выпіць. Маладых сустракалі іконай. Звычайна маладога благаслаўлялі мужской іконай яго бацькі, а маладую – жаночай іконай яе бацькі. Таксама маладыя павінны былі адкусіць ад караваю. Па народным прыкметах, той, хто больш адкусіць, будзе ў доме галоўны. Налівалі патрошкі выпіць, а потым білі чаркі аб падлогу. Хто разаб'е, той будзе галоўным у доме.

Першы дзень гуляюць у маладой. Госці весяліліся, частаваліся пачастункамі, спявалі. У гэты дзень госці жадалі ўсяго найлепшага для маладых. Дарылі ім самаробныя вырабы, жывёлу – хто што зможа. Гулялі да самай ночы. Вечарам маладыя едуць у дом маладога. Перад свадзьбай нявеста ўпрыгожвала сваімі вырабамі хату маладога.

На другі дзень малады вешаў каля хаты чырвоны сцяг, калі нявеста была дзяўчынай. У першы дзень дзяўчаты заплятал́і нявесце касу, а на другі дзень жанчыны расплятал́і гэту касу і захіхлівалі яе.

Другі дзень гулялі ў маладога. У нявесты кралі туфель, а потым прасілі ў маладога выкуп. Маглі схаваць маладую, а атдаць за выкуп.

Некалькі чалавек перадзяваліся ў розныя смяшныя адзенні і весялілі ўсіх. Яны бралі вялікі мех і хадзілі па дварах тых людзей, якія былі на свадзьбе, кралі ў іх курэй. Калі гаспадары курэй хавалі, то маглі ўзяць цялушку ці парсючка. Тады гаспадары павінны былі выкупіць іх і давалі ў замен курэй. Курэй гэтых рэзалі, скублі іх ад пер'я, потым прывязвалі іх на жэрдку, і смажылі над агнём. З гэтых курэй варылі крупнік і частавалі ім усіх гасцей. А маглі замест курэй прывесіць пераадзетага чалавека. Ён вельмі смяшыў усіх. І так гулялі да самай ночы.

Трэці дзень называўся "Пярозва". Усю свадзьбу запрашалі к сабе хросныя, кумаўя і другія родзічы. Хто хацеў, той і запрошваў. Яны гатавалі пачастункі і частавалі імі гасцей. Так вяселле магло працягвацца цэлы тыдзень.

Песня маладой пасля вянчання:

*Мамка мая, родненькая,*
*Падыйдзі-ка ка мне блізенька,*
*Пакланюсь табе я нізенька,*
*Коскамі зямельку ўсцялю,*
*Слёзкамі ножкі абалью.*
*Калі б я знала, што ў мамкі не быць,*
*А ў таткі не жыць,*
*То б я, маладая, тыны паламала,*
*Кароў напускала.*
*Пасіцесь, каровы, што есць у гародзе,*
*Што есць у гародзе, мая рута-мята.*
*Мая рута-мята, усё дробнае зелле,*
*Усё дробнае зелле, а ў хаце вяселле.*

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Аламп́іевай Марыі Пятроўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Парукавай В. (1998 г.)***

Песня падружак перад прыездам жаніха:

*На дварэ баяры, як мак зацвіталі,*
*Як мак зацвіталі, як цёмна рожа,*
*А наша (імя нявесты) вельмі прыгожа.*
*Малады (імя жаніха) на коніку едзе,*
*На коніку едзе, пужачкай махае,*
*Пужачкай махае, (імя нявесты) гукае.*
*Ехаў, ехаў (імя жаніха) цераз цёшчын двор,*
*Ударыўся конь вараны аб цёшчын забор.*
*Калі б (імя нявесты) гэта знала,*
*Тады б з казакамі не гуляла,*
*А цябе, (імя жаніха), заўсёды дажыдала.*

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Хацковай Ганны Рыгораўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Парукавай В. (1998 г.)***

Песня пасля вянца. Спяваюць сяброўкі:

*Адчыняй, маці, варата,*
*Вядуць дачку з-пад вянца.*
*Палі, маці, свечы,*
*Выходзь на сустрэчу.*
*Угадай-ка, маці,*
*Дзе тваё дзіцяці.*

Вясельныя пажаданні маладым:

– Жадаем шчасця, любові. На чужое не ўпаваць, а сваё нажываць.

– Жадаем двое двайнят, трое трайнят, чэцвера па адном: Апанас і Валас, ну, і даволі з вас.

– Дарую вам загон пшаніцы, каб вы жалі – не дажалі, а да года мяне кумой пазвалі.

– Дарую качан капусты, каб малады не даваў жане распусты.

– Дарую карзіну буракоў, каб твая жана не любіла чужых мужыкоў.

– Дарую тапор і пілку, каб малады любіў сваю мілку.

– Дарую маладому сінічку, каб не лазіў пад чужую спадн́ічку.

– Дарую маладой цыбулю, каб не давала свякрухі дулю.

– Дарую маладому іголку і нітку, каб не глядзеў на чужую лытку.

– Дарую маладым лапці і анучы, каб спалі ўсе да кучы.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Кажамякінай Марыі Фёдараўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Парукавай В. (1998 г.)***

*Ох, мамка-галубка,*
*Мяне муж не любя,*
*Мяне муж не любя,*
*К сабе не галубя.*
*Як лажымся спаці,*
*Ды ўпоперак краваці,*
*Ды ўпоперак краваці,*

*Ка мне плячамі,*
*К сцяне вачамі.*

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на ад Малачовай Еўдакіі Васільеўны, 1938 г.н., Парукавай В. (1998 г.)***

Сустракалася я з Толікам год, можа, трохі болей. Ён быў хлапец прыгожы, разумны, вясёлы. Кахала я яго, ён мяне такжа. Нечакана ў нядзелю прыходзяць сваты. Ён такі прыгожы-прыгожы, як зараз помню, з кветкамі палявымі, з караваем, свахаю была наша суседка, шчэбятуха такая. Селі за стол. Я выпіла глыток з чаркі, адзелі мне вянок (гэта значыць, згодна ісці замуж). Калі дзеўка не хацела ісці ў замужжа, то клала на стол гарбуз і ўцякала ці замятала хату да парога. Так пасваталі мяне.

Затым былі заручаны. Прыйшлі Толік, бацькі ягоныя, сват са свахаю. Бацькі нашыя ўзяліся за рукі, гэта значыць, будзе вяселле. Дагаварваліся, калі будзе вяселле, як будзе прыходзіць, каго будзем зваці і г.д.

Вяселле адбывалася ў жніўні, мабыць, сёмага, ужо не памятаю. Першы дзень гулялі ў мяне дома, другі – у яго. Упрыгожвалі мяне сяброўкі, сядзела я на падушцы, каб сяброўкі павыходзілі замуж. Малады ехаў на канях за мною. Сяброўкі ставілі яму розныя перашкоды, каб памятаў, што ў сямейным жыцці не ўсё будзе добра і лёгка. Прыйшоў да мяне, пацалаваў у шчаку, падарыў кветкі, узяў за руку і павёў да цялегі. На дарозе ў царкву не павінны былі распрэгціся коні. Гэта не да добрага. Калі маладая залазіла на воз, нельга було станавіцца на калясо, а то дзяцей не будзе.

Пасля царквы паехалі да бацькоў. Сустракалі з хлебам-соллю, пасыпалі жытам, гэта сімвал жыцця. Калі ехалі з царквы, сярод дарогі людзі расклалі касцёр. Мы павінны булі праз яго пераехаць. Гэта рабілі, каб адагнаць злыя сілы, каб було шчаслівае жыццё. У хаце нас пасадзілі ў куце, гэта лічылася самым пачэсным месцам. Сядзелі на кажуху, каб була добрае жыццё.

Каравай павінна була пекці жанчына, якая нядаўна выйшла замуж, каб рана не аўдавець. Яго ўпрыгожвалі пяццю шышкамі ці рагалікамі. Каравай не павінен буў трэснуць. Казалі, калі каравай прыгожы, будзе добрае жыццё. Спявалі песні пра маладых, сватоў.

Другі дзень вяселля буў у хаце маладога. Свякроў зняла з мяне вянок, павязала хустку. Госці бялілі печку, каб жыццё маладых було светлае і чыстае, як пабеленая печ. Сватоў каталі на кані, забаўлялі гасцей.

***Запісана ў в. Насовічы Добрушскага р-на ад Сімута П.Д., 1924 г.н., студэнткай Корж Т. (1999 г.)***

Вяселле пачынаецца з таго, што перш за ўсё малады павінен схадзіць у сваты да маладой. Ідуць да маладой сваты: малады, бацькі і яшчэ хто-небудзь са сваякоў маладога. Падыходзяць да хаты нявесты і спяваюць:

*Пусці, сваха, у хату,*
*Тут нас небагата,*
*Чацвёра ды пяцёра,*
*Ды ўсяго дзевяцёра.*

Калі сваха пусціла ў хату, то сваты пачынаюць сватаць нявесту:

– А, прыйшла гуска-лябедзіку! Дачакаўся гусачок малады час залаты! Круціў галоўкаю, гусачку-лябедзіку выглядаў, лепшага часу чакаў, баяцца пачаў – няма і няма. А яна от паявілася, аж хата ўся засвяцілася.

– Не чакалі, значыць. Не ведалі, не гадалі, як у хату гусачка прычакалі. З якога боку прыплывае шчасце-багацце! А яно от, не з-за поля шырокага, не з-за лесу высокага, а са свайго сяла. Прыйшоў малады хлапец – вельмі ж добры купец!

– Нам тавар. Вам купец!

– Купец, усім купцам купец! Сам малады, чуб залаты, дабра поўныя клеці – лепшы на свеце.

– Купца не ганім. Толькі дзеўка гадамі не ў пары. Пагуляць бы ёй яшчэ.

– Э, што з той гуляцьбы. Ад гуляцьбы конь псуецца, а дзеўка таксама.

– Васемнаццаць гадкоў усяго!

– Самы час, самы лепшы раз. А то пераспее, закісне, стане ўсім ненавісна. Стане, як тая макуха – будзе векавуха. Шкадаваць будзе, бацьку, матку клясці, што не далі замуж пайсці. Жаніх то які: што славай, што красой, што справай.

– Наша, канешне, не багатая.

– Не багатая, затое з рукамі. Лепш быць працаўніцай, чым з поўнай скрыняй лянівай маладзіцай. І зварыць, і спячэ, і сарочку чалавеку пашые. І свінча, і дзіця даглядзіць, вішчаць ад голаду не будуць.

Затым маладая, калі адмаўляе, сватам прыносіць гарбуз, а калі згаджаецца, то хлеб-соль. Потым бацькі, сваты і ўсе госці сядаюць за стол, выпіваюць гарэлку, дамаўляюцца пра тое, калі будуць гуляць вяселле і як.

Спачатку вяселле адбываецца ў маладой. Яно пачынаецца ў суботу. Дзяўчаты-дружкі ідуць у лес зраніцы і высякаюць ёлку, затым упрыгожваюць і спяваюць:

*У лесе ёлка была зелена,*
*А ў хаце агнямі заззяла яна.*

Калі ёлку ўпрыгожаць, то нясуць у хату да маладой і ставяць на покуце, вешаюць на ёй цану і абпяваюць маладую і ёлку:

*Ёлка, ёлка барава,*
*Ты ў бары расла,*
*Зелена была,*
*А на стале стукнула,*
*Сваіх дружачак згукнула.*

Затым усе госці, якіх запрасіла маладая, сядаюць за стол, частуюцца, чым Бог паслаў. А маладая плача і разам з дружкамі спявае:

*– Не плач, Волечка, не сядзі,*
*Адкрый акенца і паглядзі,*
*Ці ясны месяц на зары,*
*Ці любы міленькі на кані.*
*– Ой, харош, дзеванькі, шчэй харош,*
*Бо яго мне Бог прынёс.*
*Ой, харош, дзеванькі, чарнабрыў,*
*Бо такога мне Бог судзіў.*

І вось пад’язджае малады са сваімі сватамі і гасцямі і спяваюць:

*Ох, мы едам, едам*
*Чорнага каня следам,*
*І дзе ж мы пастанам,*
*Там сваіх пазнаем.*

Заходзяць у хату свяцілка (маладая дзяўчына са свечкай у руках і хлебам-паўмесяцам) і малады. У гэты час падыходзіць свяцілка ад боку маладой і маладая. Малады і маладая становяцца побач, а свяцілкі падымаюць свечкі высока пад месяц і запальваюць над маладымі. Пасля гэтага ўся радня з аднаго і другога бакоў абдымаюцца і цалуюцца. А ў гэты час свяцілкі нясуць свечкі і хлеб-паўмесяц за стол на покуць.

Калі ўсе сядуць за сталы, малады і сваты пачынаюць выкупляць ёлку і месца для маладога. Пачынаецца торг:

*Сват кішэню верне,*
*Сват кішэню верне,*
*Знайшоў ячна зерне,*
*Палажыў на талерцы,*
*А сам плача па гарэлцы.*

Сваты ўтаргавалі ёлку і месца маладому, а дружкі дружкам прышываюць на грудзь кветачкі, за кожную дружка плаціць, чым можа. Затым усім дружкам даюць гарэлку і пірог, і дружкі перастаюць таргавацца. Вяселле працягваецца ў маладой.

*Вадзіла Валечка па ночы,*
*Шукала цыбульку пад вочы,*
*Не нашла цыбулькі-часначок,*
*Заплач, Валечка, на часок.*
*Найшла цыбульку не ў час,*
*Будзеш плакаць не ў нас,*
*Будзеш плакаць пад хляўцом,*
*Выціраць слёзкі рукаўцом.*
*Будзе паветка за хатку,*
*Будзе суседка за матку.*
*Павет за хатку – не цёпла,*
*Суседка за матку – не добра.*

У нядзелю вяселле працягваецца ў маладой. Усе сядаюць за стол і пачынаюць спяваць каравайнечкі:

*Ой, дзе ж тыя кавалі,*
*Што стальныя тапары!*
*Трэба печ рубаці,*
*Каравай выймаці.*

Уносяць каравай. Нясе над галавой малады хлапчына, за ім ідуць сваты. Свяцілкі запальваюць свечкі і трымаюць да таго часу, пакуль не падзеляць каравай. Сваты просяць благаславення ў бацькі і маці на дзяленне караваю:

– Благаславі, бацька і маці, каравай раздаці (3 разы).

Бацька і маці адказваюць:

– Хай Бог благаславіць (3 разы).

Выклікаюць на каравай спачатку самых блізкіх, потым усіх астатніх. Кожны павінен штонебудзь пажадаць:

– Дарую лапці і анучы, каб маладыя ўвесь час жылі ў кучы;

– Жадаю пары маладой дажыць да свадзьбы залатой;

– Дарую зялёную рошчу, каб зяць пацалаваў цёшчу;

– Дарую маладым палена, каб маладой пацалаваў маладую ў калена.

Калі падзялілі каравай, то малады цёшчы дарыць чобаты. Яна павінна абуць іх, скачучы, спяваюць:

*Чобаты, чобаты вы мае,*
*Нарабілі клопату для мяне.*

Потым госці збіраюцца да маладога. Забіраюць з сабой маладую і ёлку. Вяселле працягваецца ў маладога. Пад’язджаючы да хаты, госці спяваюць:

*Закідай, свякруха, у печ трэскі*
*Ды хутчэй сустракайся з нявесткай.*

Свякруха сустракае маладых, корміць іх мёдам. Затым абсыпае іх зернем, бярэ рушнік,

звязвае рукі і вядзе ў хату. Пачынаюць дзяліць каравай маладога. Маладая дае падарункі ўсім сваякам маладога.

*– Дарую вянок цыбулі, каб маладая не давала свякрусе дулі;*
*– Жадаю, каб нявестка ўмела ткаці і праці,*
*І ад свякрухі ўмела ўкрасці,*
*Бо ў свякрухі така ўласць,*
*Як не ўкрадзеш, дык мыш дасць.*

Пасля каравая завівалкі завіваюць маладую. Знімаюць фату і ложаць на галаву першай дружцы, каб хутчэй выйшла замуж. Завівалкі бяруць за рогі хустку, трасуць над маладой і спяваюць:

*Я цябе, Валечка, завіваю,*
*Дзетак харошых жадаю.*
*Будзь багата, як зямля,*
*Будзь бягуча, як вада,*
*Будзь шчаслівa, як зара.*
*Ой, што мы хацелі,*
*Тое мы і зрабілі:*
*З цеста – пеляніцу,*
*З дзеўкі – маладзіцу,*
*З добрага цеста – добра пеляніца,*
*З добрае дзеўкі – добра маладзіца.*

Завівалкі стукаюць ілбамі маладых і бягуць кругом сталоў. Хто першы прыбяжыць, той у хаце будзе камандаваць.

Цэлы тыдзень маладая не едзе да маці дамоў. Праз тыдзень едуць у госці да маці нявесты, вечарам вяртаюцца дамоў. На наступныя выхадныя маці маладой бярэ падарункі і едзе ў госці да дачкі.

***Запісана ў в. Насовічы Добрушскага раёна ад Старошчанка Вольгі Пятроўны, 1925 г.н., студэнткай Калуба Е.***

Абычна свадзьбу гулялі ў нядзелю. Сначала свадзьба была ў хаце маладой, тады ўжо к маладому ехалі.

**СВАТЫ**

Ну, канешне, хадзілі ў сваты. Бацька з маткай, хросныя бацька з маткай, брат, сястра. Абычна старшым сватам выбіралі кума. Ён усё там гаварыў. Стараліся хадзіць у сваты ў суботу ці ў нядзелю, бо ж выхадныя. З сабою бралі бутылку гарэлкі і закусіць што-небудзь. Кум заходзя: “Мір хаце вашай ад нашай. За таварам прыйшлі, свой прынеслі”. І далей разгавор сам сабой шоў, а дзеўка, да якой прышлі, на печы сядзела і не вылазіла, прысматрывалася да хлопца.

А як называлі яшчэ? Успомню... Запоіны, заручыны, змовіны. Калі сваты ўваходзілі, гаварылі: “Мы купцы заморскія, шукаем тавару неляжачага, а хадзячага. Калі ў вас ёсць, пакажыце ліцом, а мы пахвастаемся сваім таварцом”.

Тады хлопец браў папіросіну, калі дзеўка дасць прыкурыць, значыць, сагласная, а еслі не, тады ідзіце. Бывала, што і гарбуз выкідвалі на вуліцу, значыць, не панаравіўся жаніх.

Перад свадзьбай пеклі каравай. Пеклі замужнія, матка хросная маладой. Каравай быў круглы, каб жыццё гладка шло і не разыходзілася. Выпікалі на ім звяроў, каб скаціна ў маладых добра вялася, каласы былі, каб хлеб у хаце быў.

Выпікалі на кляновых лістах, тады брат маладой, а калі брата не было, то бацька хросны выносілі каравай у клець і ставілі на зярно, каб багаціўся каравай. Ну, канешне, пелі песні. Ці запомніш іх усе? Прыгаворвалі, калі мяшалі:

*Выпякайце каравай,*
*У хаце шчасце будзе хай!*

Дружкі нявесту збіралі, ладзілі вянок. У мяне вянок быў з белай бумагі, фата з марлі, у каго грошы былі, у таго і шоўкавая была. Песні пелі пра вяночак:

*Не доўга вяночку на ступне вісець,*
*Не доўга Галінке ў дзеўках сядзець,*
*Не доўга Макараўне русу косу плесці.*
*Вечар цэлы касу дзеўкі плялі, плялі,*
*Патом вілі, вілі, вілі золатцэм,*
*Жэмчуг утыкалі.*

Раніцай коні ўкрашаныя ехалі, красівыя былі. Гармонік граў! Нявесту выкупалі, падаркі дарылі. Першы падарак – пярсцёнак, другі – вяночак, трэці – конь вараны, чацвёрты – сам малады.

Як грошы былі, дык і кольца былі.

Сустракаюць з хлебам-соллю. Хвёдар Геблеў на бубні граў. Маладзец такі быў!

Раней не так, як зараз. На свадзьбу шлі, неслі ўсё: хто рыбу, гарэлку, кароча, у каго што было, нічога не жалелі.

Маладых садзілі на шубу, каб багатыя былі, зярном абсыпалі.

У канцы свадзьбы свякруха фату знімала, адзявала хустку, значыць, хазяйка ўжо. Тады шлі ў дом маладога, дзеўка ўсё па хазяйству рабіла. Тады ўжо там, у яго свадзьбу гулялі.

Ну, вось так во і гулялі. Весела было!

***Запісана ў в. Насовічы Добрушскага р-на ад Сітняковай Галіны Сцяпанаўны, 1928 г.н., студэнткай Лапцевай С.***

Жылі мы тагда не багата, але ж замуж ісці трэба было. Прыехалі на канях з дабром. А дабро было тады: простыні да адзеялы. Бацькі сустрэлі з іконай, засцілалі кавёр, мы з каней злазілі і шлі па гэтаму каўру, з боку дзяўчаты-падружкі пасыпалі кавёр жытам, каб добрая была жызнь, а канфетамі – каб салодкая. Потым садзіліся ўсе за стол, віншавалі маладых, жадалі ім шчасця, грошай і жызні харошай.

На вяселлі пераапраналіся ў цыганей, яны хадзілі, гадалі, прадсказвалі лёс, танцавалі, весялілі гасцей. Тамада падзываў да маладых родзічаў і гасцей, яны дарылі ім падарункі і жадалі добрага. Мы гулялі вяселле ў жаніха толькі адзін дзень, госці разыходзіліся, а маладыя заставаліся адны.

***Запісана ў в. Ачоса-Рудня Добрушскага р-на ад Шкаруба Марыі Яфімаўны, 1927 г.н., студэнткай Агеевай Г. (2000 г.)***

Гулялі на хаце, дзеўкі (падружкі нявесты) сабіраліся разам і ждалі, пакуль прыдзе жаніх выкупаць. Прыдзе жаніх са сваімі хлопцамі і кажа: “Пакажыце нам нявесту”. Ну, яны пакажаць, выкуп аддадуць жаніх з друзьямі і гуляюць.

Пасля сватоў дагаворваюцца аб выкупе. Нявесту забіраюць дзеўкі і вядуць з песнямі туды, у якой хаце яны дагаварылісь гуляць свадзьбу. Тады ж не было ні дзіскацек, нічога. Сабяруцца пад гармонік і ўсё. А сваты, калі нявесту дзеўкі ўвялі, уходзяць.

Памятаю некалькі стоўбікаў адной песні:

*Ці я ў табе, мамка, ні дзіцятка,*
*Што ты мяне супраць ночкі гоніш упрочкі,*
*І ні даеш мне праваднога ніякога,*
*Толькі дала салавейку садовага.*
*Салавейка будзе рана шчабятаці,*
*(імя) прабуджаці.*

Замуж пашоўшы, свякруха рана ўстае, і нявеста будзе порацца (спраўляцца па гаспадарцы).

На свадзьбе быў і дружка, і дружок. Дружка дзелае кветку (цвяток з лентай) і вешае дружку, толькі дружку, і пры гэтым крычаць:

– Ці ёсць айцец ці маці, благаславіце свайму дзіцяці кветку прышываці.

А яна ўжэ гаворыць:

– Есць.

Дзеўкі з хлопцамі і з дружкамі пайшлі гуляці, а свадзьба далей ідзе, і маладыя на свадзьбе.

Варылі ўзвар (кампот з сушоных скрылькоў яблак, вады), каша, боршч і ўсё. Патаму што раней не было такіх вялікіх свадзеб, і яшчэ была самагонка.

***Запісана ў в.Крупец Добрушскага р-на ад Свірыдэнка Аляксандры Пятроўны, студэнткай Мельнік Т. (2002 г.)***

Раней жа было так: за каго бацька і матка захочуць, за таго і аддадуць замуж. А мы ўжо ішлі, як то кажуць, па любві. Гуляем, а патом жэнімся.

Перад свадзьбай прыходзяць у сваты. Збіралася радня жаніха і ішла да нявесты. Бацькі маладой ужо знаюць, што прыдуць сваты, і таму ўжо гатовяцца прымаць гасцей. Сваты прыходяць з хлебам і соллю: калі хлеб прымаюць, то сваты заходзяць у хату, а калі не, то яны едуць ці ідуць назад. Бывала ж усякае, бывала, нявеста перадумае, бывала, што бацькі нявесты процiў.

Сватоў садзілі за стол, угашчалі. На сватах згаварваліся, калі ўжо тую свадзьбу дзелаць, каб было добра для двух старон. Калі ўжо згаворацца, то тады родзічы жаніха едуць дамоў.

Послі сватаў гатовяцца к свадзьбі. Абычна первы дзень свадзьбы гулялі ў маладой, другі дзень – у маладога, а трэці ўжо родзічы жаніха ў жаніха гуляюць, а родзічы нявесты – у нявесты дома.

Перад свадзьбай дзелалі вечарынку. Дзеўкі і хлопцы сабіраліся летам на вуліцы, зімой – дзета на кварціры. Нанімалі гарманіста. Пяюць, гуляюць, танцуюць, а назаўтра ўжо свадзьба.

Гатовіць прыходзілі памагаць родзічы. Каравай пяклі бальшы. Украшалі яго рознымі фігурамі, птушачкамі, рысавалі на ім пальцы. Глядзелі, каб каравай не падгарэў і, не дай Бог, не лопнуў. Гэта прадвяшчала няшчасце.

У дзень свадзьбы малады прыязджаў да маладой, і яны ехалі распісвацца ў сельсавет. Абычна ездзілі на конях. Коней украшалі рознымі лентачкамі і вешалі калакольчыкі, каб было чутна, што едзе свадзьба. Тады жаніліся ў той адзежы, якая была. Такіх жа плаццяў, як ціпер, не было. Як ужо распішацца, то едуць да нявесты.

Гасцей рассодзяць, выпіваюць, танцуюць, а тады ўжо падругі маладой садзяцца за стол і пяюць ёй пасад. За сталом пяюць, а тады ўжо начынаюць, то ёй за плечы ставяць ці брата меншага, ці проста малога хлопчыка, і ад жаніха ўжо ходзяць скупшчыкі. Грошы даюць таму малому, а дзеўкам ужо наліваюць віно па чарцы. І тады ўжо зноў пяюць:

*Стукнула, грукнула ва дварэ,*

*– Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?*
*– Па цібе, донька, па цібе.*
*– Гатуй, мамка, кублік мне.*
*– А ты, донечка, мычкі не скубла,*
*Едзь жа, донечка, без кубла.*
*– Я скубла, скубла, шамацела,*
*За такога сленцюя не хацела.*

Ужо скупілі маладую і збіраюцца ехаць да жаніха. На воз ці на сані ставяць нявесцін сундук з прыданым, а на яго садзяцца родзічы ад нявесцінае рукі і так едуць да жаніха. У жаніха ўжо нехта ждзе іх. Як уязджаюць у двор к жаніху, пачынаюць пець:

*Выйдзі, мамачка, паглядзі,*
*А што мы табе прывязлі.*
*Прывязлі скрыню, пярыну,*
*Прывязлі дзевачку (імя).*

Тыя ўжо выходзяць, угашчаюць етых, што на сундуку сядзяць. Як ужо ўгасцілі, ідуць у хату з сундуком. Тады, што сядзелі на сундуку, пачынаюць прыбіраць у хаце жаніха: на вокны вешаюць з нявесцінага сундука занавескі, перасцілаюць пасцель, каб маладым добра спалася, засцілаюць стол новай скацеркай, на Бога вешаюць рушнік. Усё ета прыданае нявесты.

Маладыя застаюцца тут начаваць. Другі дзень гуляюць ужо ў маладога.

Послі свадзьбы маладыя астаюцца жыць у бацькоў маладога. Ну, а калі жаніх багаты, тады ідуць у аддзельную хату.

***Запісана ў в. Усохская Буда Добрушскага р-на***
***ад Касцюковай Яўгеніі Аляксандраўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Бярозкі Добрушскага р-на),***
***студэнткай Мохаравай Н.***

Вяселле ладзілі ў любы час, толькі не ў пост, нельзя было, гэта зараз, калі захочуць, тады і выскачаць. Здарылася такое, што хлопец з дзеўкай закахаліся, далі адзін аднаму слова, дык яна ўжо чакае сватоў. Бывала, што каторая дзеўка дазнавалася, што некаму падабаецца, толькі калі сваты прыходзілі.

У сваты шоў бацька маладога, матка таксама, і яшчэ каго бралі з сабой. У сваты не з пустымі рукамі ішлі, бралі з сабой водку, хлеб-соль – гэта значыць, прыходзілі дагаворвацца. На заручыны прыходзілі, ужо вызначалі дзень вяселля і канчаткова дагаворваліся. Нявеста дарыла ўсім падаркі: каму тканіну, каму што.

Як везлі маладых у царкву, абсыпалі жытам, штоб багата жылі. Благаслаўлялі ў дарогу, шчасця жадалі. Яшчэ перад тым, як ехаць за маладой, жаніху давалі настаўленія ў дарогу.

Вяселле гулялі два дні: первый – у маладой, другой – у маладога. Шатры ставілі на вуліцы, там і вяселле спраўлялі. Як жаніх прыязджаў за маладой, каб у царкву ехаць, дак дружкі маладой бралі выкуп за сяброўку, загадвалі рабіць розныя заданні – выпрабоўвалі, ці падыходзіць жаніх для іх сяброўкі. Калі ўжо ехалі з царквы, перавязвалі дарогу, дажэ ў некалькіх местах, прасілі выкуп за праезд, часцей за ўсё жаніх адкупаўся гарэлкай. Ля хаты маладых сустракалі хлебам-соллю, благаслаўлялі на сямейную жызнь. Потым давалі маладым адначасова кусаць хлеб: хто адкусіць большы кусок, той і будзе ў доме гаспадаром. Кармілі маладых мёдам, штоб была сямейная жызнь салодкая, как мёд. Тут жа маладыя пілі і білі чаркі на шчасце. Потым усе дарылі падаркі і паздраўлялі маладых. Пачыналі гуляць. Пілі і елі. Крычалі: “Горка”, штоб пацалункамі маладых падсаладзіць гарэлку. А як нап’юцца, пачынаюць спяваць.

У канцы вяселля з маладой сымалі фату, на галаву адзівалі платок, бо яна ўжо стала жанчынай. Фату маладой прымяралі ўсім маладым дзеўкам, каму яна больш падыдзе, тая наступная пойдзе замуж.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Грамыка Ганны Серафімаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Жаўновай В. (2001 г.)***

Свата выбіраў жаніх. Бацькі разам з сватам ішлі да хаты маладой.

*Адчыняй дзверы, сваток,*
*Адчыняй, сваток, вароты,*
*Едзе (ідзе) дружба да цябе,*
*Паглядзець красу-дзявіцу,*
*І аддай за нашага маладца.*
*У хату ўваходзяць, за стол сядаюць,*
*Маладую вызываюць.*
*Маладая паглядзела на казака,*
*Панаравілась, і замуж пайшла.*

Уваходзяць у хату, садзяцца за стол. Завуць маладую. Яна кланяецца гасцям. На стол клалі хлеб – маці, а бацька запальваў свечкі. Дагаварваліся аб свадзьбе. Маладая дарыла падаркі свёкру і свякрусе. Абавязкова вянчаліся ў царкве. У першы дзень вяселля падаркі дарылі маладой. Дарылі ў каго што было: хто грошы, хто хустку, хто курыцу.

На другі дзень вяселля маладая дарыла падаркі радне маладога. Брат маладой ці другі хлопец з радні маладой расплятаў касу, а старшая дружка надзявала на галаву навой – шапачку з чырвонага матэрыялу.

Трэці дзень называўся "Драць куру". У гэты дзень вадзілі "пярэзвы". Збіраліся радня маладога і маладой і паасобку хадзілі да сваёй радні з хаты ў хату.

Бралі курыцу, прывязвалі яе да жэрдкі і нясלі ў край сяла з песнямі. Курыцу скублі, смалілі, зноў прывязвалі да жэрдкі і неслі ў другі край сяла. Распальвалі агонь, варылі курыцу, елі і гулялі.

***Запісана ў в. Стэп Добрушскага р-на ад Мінковай Ефрасінні Міронаўны, 1916 г.н., студэнткай Краўцовай Л.***

## Ельскі раён

У сваты шлі ў суботу вечарам, абычна мужчынкі: сват, сваха (хросная маці), жаніх, бацько жаніха, хросны бацько, швагер, брат, дзядзько і другія родныя. Сваты даўжны быць гаваркія, каб паказаць жаніха з добрага боку. Сваты вязуць з сабой хлебушак і шкелікі гарэлкі. Па прыезду заходзя ў хату старшы сват, кажа такі слова:

– Мы – людзі з далёкага краю, дужо ж стаміліся. Ці не пусціце, людцы добрыя, параначаваці?

Бацькі маладой разрашаюць. Тагда ж сваты апяць-такі спрашваюць:

– Мы чуліса, шо ў васака есць цялічка. Мо прададзіце нам жо яе?

Ім атвячаюць, што нету цялічкі. Тагда сваты апяць-такі гаворацъ:

– Не, людцы добрыя, нам ужэ не цялічка нужна. Мы слышалі многа доброго пра вашу дачушку, шо яна красавіца і хазяйка добрая. А ў нас есць галубочок, і красівы, і гаворкі, і ў поле добры работнік. Мо, нам нашых галубочкаў спараваць? Каб яны ўмесце жылі, дзетак гадавалі, нас не забывалі.

Цяпер у сваты ходзяць па-іншаму. Больша па-простаму. Еслі нявеста сагласна на свадзьбу, то тады дарыцьса бацьку жаніха вышываны рушнік, а мацяры – хустку. Раней спявалі пры сватанні песні, а ўжо ж цяперко ня пяюць. Але, к сажаленню, я не помню ніводной песенкі.

Мо заручыны пасля сватання булі, але ж я не помню. Скарэй усяго ні було.

Малады з маладой злазяць з вазоў і песнямі пакзваюць, шо яны ўжэ прыехалі. Тогда выхо-дзіцьса бацько маладой і просіць сватоў у хату:

– Прашу, сваты, да хаты.

У хату первым заходзіць хрышчоны бацька, а за нім жаніх і ўсе астатнія. Садзяць гасцей за сталы, а жаніха з дружкамі на пачотнае месца – кут.

Покуль госці са стараны сядзяцьса за сталом, маладую вядуць у другую хату апранаць. Маладая адзяе белае плацце. Брат расплятае ёй касу. А ета значыць, прашчанне з дзявочай воляй. Затым надзяюць ей вэлюм перед свадзьбай. Я не помню, было ілі не, але ж когда я выходзіла замуж, то не було і ў паміне.

Абязацельнай яды на свадзьбе не було. Ну, калі ж не шчытаць гарэлкі, хлеба, каравая і мёда.

У суботу вечарам перад свадзьбай маладая сазывала сваіх падружак на вянкі. Еты вечар так і называўся: “Вянкі”. Еты вечар буў больша сумны, чым вясело, бо вясёлую песню пелі толька после выкупа вэлюма, а ўвесь астальны час пеліса лірычныя песенкі. Малады ўмесце з братамі, сёстрамі і дружкамі на вянкі прыязджал да маладой. А лічна ў самога маладога не було етого вечора.

У суботу перад свадзьбай пякуць каравай і ў маладога, і ў маладой. Старшой каравайніцай була хрышчоная маці, якая адказвала за каравай. У склад каравайніц уваходзіліса замуж-нія, каторыя былі шчаслівы з сваімі муж’ямі. Гатовы каравай украшаўся галінкамі ёлкі, цвяточкамі, лісточкамі ліпы, клёна, мяты і ешо засушанымі зялёнымі ветачкамі аўса. Каравай дзеляць пасля пасаду маладой, а дзеліць яго хрышчоны бацько. Ён рэжа на кусочкі каравай і просіць, кеб да стала падходзілі родныя маладой па двое. Первымі да стала падходзяць бацько і матко маладой. Маладая бярэ місачку, засланую хустачкай, куды ложацца каравай і ставяцца чаркі з гарэлкай. Маладая краем хусткі бярэцца за міску і бацькам падае. А хтось з бацькоў тожа ж бярэ краем хустачкі за міску, забіраюць каравай тожэ ж хусткай, дораць маладым грошы і жалаюць ім шчасця. Бацько хрышчоны падзывае ўсіх гасцей па вочарадзі. Другіх абрадаў з караваем не помню.

Буў пасад маладога. Еслі я не ашыбаюсь, то пасад адбываўся перад ад’ездам маладога да маладой. На пасад маладога вёў дружка. Вялі за рушнік. А чаму, я дажа не знаю. У нас у дзярэўні не застрыгалі і не падпальвалі валасы маладому. Не було ў нас такога абраду. Перад ад’ездам маладога да маладой бацько маладога бярэць вядро вады, хлеб і тры разы абходзіць воз, дзе малады сядзець. Гэта було своеабразнае благаславенне маладога перад дарогай. У нас у дзярэўні маладога вакруг стала не абводзілі.

Маладую садзяць на пасад ужэ пасля таго, як яе прыбралі, і ў хаце знаходзіўся малады. Гетае робіць брат ілі жо дзядзька. Да рукі да маладой быў прывязаны рушнік, за канец якога браўса брат ілі дзядзько і прасіў разрашэння:

– Разрашыце, родныя, пасадзіць гетае дзіця на пасад.

Бацькі дазваляюць, маладая садзіцца, але сразу ж устае. І толькі после трэцьяго раза она садзіцца. Пра астатняя я не помню. Мо гета і було, а мо і не.

Прыязжаюць малады з сваей дружынай і ўжэ толькі после етага вянок з цвятоў. Пасля прыбірання маладая ўстае і кланяецца ўсім тры раза. После гетага она ідзе да сваёй хаты. Первымі яе встречают маці і бацько. Маладая так жо ж ім кланяецца тры раза. После гетага дружкі вядуць маладую да маладога, але ж перад етым ад-

бываецца пасад, і ўжэ после пасада маладая садзіцца за стол на падушкі возле маладога.

Сабіраюцца да вянца ўсе разам. У нас малады абыходзіць тры раза стол па сонцу, кеб маладым у будушчым добра жылося. Нявеста прашчаецца з сяброўкамі. Бацько маладой абходзіць воз з вядром вады, а маці абсыпае маладых жытам.

Возле хаты маладога маладых сустракаюць бацько жаніха і другія родзічы. После выходзіт маці, нясет на падносе, пакрытым рушніком, хлеб, чарку з гарэлкай і міску з мёдам. После застолля ўжэ і ў маладога начынаюцьса дзяліць каравай. Гета дзелае хрышчоны бацька. Ён каравай разразае на кавалкі, і маладыя прадуюць іх толькі гасцям маладога. Госці бяруць каравай хусткамі, желают ім усяго добрага і дорацьса хто дзеньгі, а хто і другія падаркі. Усе гасцююць. После маці жаніха снімае вэлюм з маладой і надзяе хустку. І ўсе ідут у хату. Калі маладая ўходзіць у хату, абсыпае жытам і абвязвае родных жаніха кусочкамі ткані. После гетага ўсе госці снова садзяццаса за стол разам з жаніхом і нявестай. Прычом маладых садзяць на падушку ілі аўчыну. Первую чарку з маладымі выпівае бацька. После выпіваюць усе госці, крычаць "горка" і маладыя цалуюцца. У канцы свадзьбы нявеста пераадзявалася, но хустку не скідала.

Пасля свадзьбы адбываўся хвост. У ім удзел прымалі ўжэ хрышчоны бацько і хрышчоная маці. Хрышчонага бацько пераадзявалі ў нявесту, а хрышчоную маці – у жаніха. У час етага маскараду пеліся вясёлыя песні. А так званыя жаніх і нявеста, сыплючы рознымі жартамі, збіралі з гасцей дзеньгі для настаяшчых маладых. У канцы ўсё етае і аддаваласа маладым. Настаяшчым.

***Запісана ў в. Зашыр'е Ельскага р-на ад Глюзы Мар'і, 1940 г.н., студэнткай Сухой Ю. (2005 г.)***

У суботу, калі пачалося вяселле, нявеста і яе бацькі сустракаюць гасцей.

Сабраўшыся, усе госці, бацькі нявесты запрашаюць сядаць за сталы. Нявеста і яе дружкі не сядаюць, ждуць жаніха. Калі прыязджае жаніх, усе госці сустракаюць гасцей жаніха. Гасцей з боку жаніха называюць "баярэ".

Са стараны жаніха выпраўляюць адну з жанчын (хрышчоную маці або так каго з блізкіх родзічаў). Таксама са стараны нявесты, каб злучыць свечкі. Бяруць неразведзеных, не ўдоў, каб маладыя шчасліва жылі. Свечкі злучаюць на парозе. Адна сваха стаіць на адным баку, а другая – на другім. Парог застаецца пасярэдзіне. І яны спяваюць, ім дапамагаюць усе госці:

*Мір з мірам да міруецца,*
*Мір з мірам да міруецца.*
*Сваха з свахаю цалуюцца,*
*Да на лютым марозі,*
*Да на сенечным парозі.*

Калі свахі злучылі свечкі, яны павінны пацалавацца тры разы. І сваха са стараны нявесты бярэ абедзьве свечкі і вешае каля абраза, дзе будуць сядзець маладыя.

Пасля таго, як свечкі павесілі на сваё месца, маці нявесты бярэ абодвух – дачку і зяця за рукі. Бярэ за рукі рушніком і вядзе маладых за стол на покуць. Маладым насцілаюць на лаўцы вывярнуты кажух. У гэты момант усе госці спяваюць такія песні:

*Засцілайце сталы, бо я іду,*
*Благаславіце мяне, я сяду.*
*Запалі, маці, свечку,*
*Пастаў на стале,*
*А я стану, падзіўлюся,*
*Ці пара мне.*
*Запаліла маці свечку,*
*Яна не гарыць,*
*З якім хацела,*
*З тым не села,*
*Сардэнька баліць.*
*Запаліла маці свечку,*
*Запалі другую,*
*Гарніся, доню, вернаму другу.*
*Ой, гарнуся, мамка, гарнуся,*
*Не раз, не два слёзанькай абаллюся.*

Так спявалі жанчыны, калі маладыя ішлі да стала.

Павячэраўшы, пачынаюць дзяліць каравай нявесты. З боку жаніха бяруць свяцілку, якая павінна была прыехаць з жаніхом разам і ў яе павінна быць свечка, якую злучалі на парозе. Яе ахраняюць дружкі, каб ніхто са сватоў маладой не ўкраў яе, а то пасля будуць плаціць выкуп за яе. Свяцілку садзяць з боку жаніха і, благаславіўшы бацькамі, запальваюць свечкі. Свяцілка іх дзержыць. У гэты час выносяць сваты каравай. Той, хто выносіць, пад музыку кружыцца, дзержачы каравай над галавой. Каравай ложаць на крышку з дзяжы, у якой пякуць хлеб. На крышку ложаць медныя манеты і жыта, засцілаюць крышку саматканым рушніком, каб маладыя былі здаровыя, шчаслівыя і багатыя. У гэты момант жанчыны спяваюць:

*Старшы дружок каравай нясе,*
*Чырвонцамі трасе,*
*Пірагамі папірае,*

*Бог яму памагае.*

Паблагаславіўшы, пачынаюць спяваць каравай:

*Ой, за гарою новы двор,*
*– А што ў таму дворыку?*
*– Вяселле.*
*– Што на таму вяселлі?*
*– Да стаіць столік цясовы.*
*– А што на таму століку?*
*– Да ляжыць каравай, Божы дар.*
*– Рано, да рано, да каму гэты каравай?*
*Кроіці, старшаму дружку, кроіці.*
*– Я да гэтага дзела не ўмею.*
*Рано, да рано, я да гэтага дзела не смею,*
*– Рано, да рано, меншаму дружку кроіці.*
*– Е ў мяне ножык залаценькі,*
*Рано, да рано, я да сёга дзела гатовенькі.*
*Я на цябе, дружко, назіраю,*
*– Ці не ўтоіла мне караваю?*
*– Ты ж у мяне нічого не прасі,*
*Ты ж у мене трасцу з'ясі.*

Калі сват пачынае разразаць каравай, спачатку ён зразае ўсе шышкі зверху на каравае. Потым, зрэзаўшы ў платочак, аддае маладой, каб дзеці вяліся. Пасля запрашаюць на каравай. Спачатку бацькоў маладых, а пасля хрышчоных і блізкіх родзічаў. А затым усіх прысутнічаючых на вяселлі.

Нявеста, калі дзеляць маладога каравай, абдарвае падаркамі блізкіх родзічаў. З боку хлопца дарацъ цёшчы чаботы.

Калі падзеляць каравай, сваты ў апошні момант ідуць да музык.

Пасля заканчэння тушаць свечкі і вешаюць таксама пад іконы. Пасля ўсяго, зноў з двух бакоў, дзве жанчыны ідуць завіваць нявесту. У кожнай завіванніцы павінна быць па адной хустачцы, якія ім даюць маці маладых. Стаўшы па баках каля маладых, яны просяць благаславення тры разы: "Благаславі, ацец, маці, вянкі знімаці, першы раз". Ім адказваюць таксама тры разы: "Хай Бог благаслявіць".

Зняўшы вянка, вешаюць яго на ікону і бяруць спачатку хустачку маці маладой і спяваюць, размахваючы над галавамі маладых тры разы:

*Завівала мяне дзядзіна,*
*Рвала косы, як гадзіна.*
*А сястрыца прывілася,*
*Дай слязамі аблілася.*

Праспяваўшы, бяруць і завязваюць гэту хусцінку маладой на галаву. Таксама бяруць і другую хусцінку, якую дала свякруха. Памахаўшы над галавамі маладых, звязваюць і другую хустачку маладой. Таксама спяваюць:

*Ой, што мы захацелі, то і зрабілі:*
*З цеста – пеленіцу, а з дзеўкі – маладзіцу.*

Ім сваты наліваюць па чарцы, яны п'юць, тры разы цалуюцца, перамяняўшы месцамі, сядаюць хто хутчэй.

Па абычаю, сваха, якая хутчэй сядзе, той у сям'і будзе галоўны ў хаце.

Пасля завівання маладых выводзяць з-за стала. Усе родзічы надзяюць падарункі і танцуюць. А малады бярэ цёшчу, садзіць яе на табурэтку і мые ёй ногі гарэлкай, а затым прымярае чаботы. Іграе музыка. "Чаботы" музыканты спяваюць:

*Чобаты, чобаты ва мае,*
*Нарабілі клопату вы мне.*
*Ой, за тыя чобаты, што зяць даў,*
*Ён у мяне дочачку ўзяў.*
*Чобаты, чобаты із бычка,*
*Дайце зяцю,*
*Урэжам мы гапачка.*

Пасля чаго госці ідуць за сталы, замачваюць падарункі. І на гэтым вяселле ў нядзелю заканчваецца.

***Запісана ў в. Падгалле Ельскага р-на***
***ад Каваленка Ганны Сафронаўны 1921 г.н.,***
***студэнткай Сяргеенка В. (2005 г.)***

## СВАТЫ

У сваты ішлі ў суботу, парабіўшы дамашнія работы. На двары цёмна. Ішлі мужчыны (пяць, сем, дзевяць або адзінаццаць). Сваты бяруць з сабой хлеб, гарэлку. Ідуць, каб людзі не бачылі, калі нявеста адкажа і не дасць згоды на шлюб. Ідзе родны бацька, жаніх, хрышчоны бацька, брат і іншыя сваякі. У размове сваякоў дзяўчына (нявеста) не прысутнічае. Калі дзяўчына згодна, яна дарыць бацькам жаніха ручнік: бацьку, а матцы – хустку. Сваты ідуць з перавязанымі ручнікамі. Бацькі і сваты дамаўляюцца на дзень вяселля. А калі дзяўчына не згодна – лажыла гарбуз на стол.

## ЗАПОІНЫ

Пасля сватання ў доме нявесты праходзяць запоіны. Але гэта не адразу, прахадзіла некалькі дзён. Запоіны праходзяць таксама ў суботу. Два чалавека сваякоў і жаніх з бацькам, калі заходзяць у хату, то нявеста хаваецца. Пасля выходзіць і вітаецца. Госці снедаюць, а нявеста з жаніхом ідуць і клічуць яшчэ сваякоў нявесты. Вяселле назначалі праз некаторы час, трэба было падрыхтавацца. Ежу на вяселле рыхтавалі хто якую мог,

але гэта як закон быў – халадзец, сыр, мяса, агуркі, капуста, каша, вараныя грушы. Бяднейшым дапамагалі суседзі. З пітва была гарэлка.

Адзенне маладой рыхтуюць сяброўкі, робяць кветкі для каравая, жаніха і дружкоў. Яны спявалі пры гэтым песню. Гэты вечар называўся “Дзявішнік”. Адзяваць нявесту памагала першая дружка, яна ж і рыхтавала адзенне, а астатнія дружкі дапамагалі ў гэтым.

**КАРАВАЙ**

Каравай пеклі ў доме жаніха і нявесты або ў доме хрышчонай маці. За яго выпячку адказвала хрышчоная маці, яна была старэйшай. Яшчэ пяклі шышкі, птушкі, тры кветкі. Спявалі песню:

*Печ наша рагоча,*
*Печ наша рагоча,*
*Печ наша рагоча,*
*Чаго яна хоча?*
*Печ наша выхваляецца,*
*Караваю спадзяваецца.*
*Печ наша пабялёная,*
*Чэсць наша выхвалёная.*

Каравай даставалі з печы і лажылі на века з дзяжы, засцілалі белым абрусам, насыпалі на яго зерно, на зерне і ставілі каравай. Маладога выпраўлялі з хлебам, соллю і тры сваты без жанок. Перад адпраўленнем у доме маладога вячэралі. Едуць хрышчоны бацька, акрамя сватоў едуць дружкі нежанатыя, іх перавязваюць ручнікамі. Хрышчоны бацька бярэ хлеб, узяўшы жаніха за руку, абводзіць яго тры разы па ходу сонца вакол стала, за якім сядзелі, абыходзяць таксама і дружкі.

Жаніха запрашаюць у дом, яго адразу не пускаюць да нявесты, трэбуюць выкуп. Дружкі выкупляюць, а калі выкупілі ёлку, то малады садзіўся за стол. Маці з бацькам запрашалі і жадалі шчасця маладым, дзякавалі гасцей, што прыйшлі на вяселле, і запрашалі ўсіх выпіць. Сёстры абвязвалі сватоў ручнікамі. Свах абвязваюць тканінай. Дружкі нявесты прымацоўваюць на грудзі жаніха і яго дружкоў каляровыя кветкі. Брат або які-небудзь хлопчык расплятаюць нявесце касу, у якой уплецена лента. Ленту заплятала жанчына загадзя. У гэты час спявалі песню, але маладая не спявала. Накрывалі хусткай дзве жанчыны (адна са стараны нявесты, другая – ад жаніха), і якая першая завяжа хусту (хадзіла такое павер’е), таго і верх у доме будзе. Пасля гэтага нявеста кланяецца тры разы той жанчыне, што ёй уплятала ленту ў касу і цалавалася з ёю. Потым кланяецца па тры разы ўсім гасцям.

Затым збіраліся да вянца, цяпер у сельскі савет. Там стаіць стол, накрыты вышытым абрусам і двума ручнікамі. На яго ставяць хлеб з соллю. Перад сталом на падлозе разасланы ручнік. Праходзіць традыцыйная шлюбная цэрымонія. Сведкі праводзяць маладых на ручнік. Маладая сядае ў першую машыну, а малады – у другую. Віншуюць сваякі. А як няма машыны, то на вазе.

Каля хаты маладых сустракае маці, якая трымае хлеб з соллю. Маладыя цалуюць хлеб, выпіваюць чаркі. Маці запрашае ў хату. За імі пасыпае зернем і цукеркамі. Усе ідуць за стол і дзеляць каравай. Пасля гэтага запіваюць і ідуць на вуліцу танцаваць, або ў другі свабодны дом. Музыканты граюць на гармошцы і барабане. Ігралі “сірбіянку” ці “цыганачку”, вальс і польку. Танцуюць “сірбіяначку” і спяваюць частушкі.

Калі маладая ад’язджае, то яна развітваецца з маці:

*Дай, мамко, масла,*
*Я твае каровкі пасла*
*От росы да росы*
*Памазаці косы.*
*Падзякуй нам, свату,*
*На паўнесенькую хату.*

Развітваецца з сяброўкамі, з гасцямі, з лаўкай, з домам, са сцежкамі. Хрышчоны бацька жаніха выводзіць маладых з-за стала. Маладых тройчы абводзяць кругом стала, яны кланяюцца. Разам з нявестаю едуць і сяброўкі, хлопцы і госці. Маці жаніха сустракае з хлебам і соллю. Запрашае маладых і гасцей у хату. Тут частуюць і дзеляць каравай, і танцуюць. У канцы першага дня жанчыны рыхтуюць пасцель у другім асобным пакоі. А раніцай, пасля вяселля, маладая пекла бліны, уставала рана.

**ПЯРЭЗВА**

Пярэзва – родзічы нявесты ідуць на снеданне. Бяруць буханку хлеба, ручнікі, занавескі на вокны. Заходзяць у хату, вешаюць ручнікі, занавескі, потым выходзіць нявеста, кланяецца бацькам, гасцям. Садзяцца за стол, снедаюць. А як ідуць дадому, павінны што-небудзь украсці (вышыўку ці куру).

Цыганская свадзьба. Жанчына апранаецца ў мужчынскае адзенне, а мужчына – у жаночае. Адзенне старое, падранае. Запрашаюць да стала, таксама дзеляць каравай, возяць на санках вянчаць летам і зімой. Па дарозе выдумляюць і

спяваюць вясельныя песні. Тут жа прысутнічае поп, хрышчоны бацька і маці маладых. Маладую выкуплялі так: сват браў міску, клаў пяць капеек, накрываў хлебам, ставіў чарку гарэлкі і падносіў брату маладой, гаворачы яму, каб ён забраў усё гэта за сваю сястру. Але той не згаджаецца, пакуль сват не дасць больш грошай.

***Запісана ў в. Роза-Люксембург Ельскага р-на ад Вярбіцкай Евы Васільеўны 1927 г.н., студэнткай Сяргеенка В.***

На Пакроў быў дзявішнік. Пасля сватання было сабіранне, якое называлася “Чарка”. Спявалі песні, весяліліся. Перавязвалі рушнікі сватам. Пасля “Чаркі” быў этап назначэння свадзьбы. Ехалі ў цэркаў, дома заставаліся радзіцелі. У цэркаў ехалі маладыя, дружкі.

Як едуць да маладой, спяваюць песню:

*Ой, ехалі, мы ехалі полем, як долам,*
*– Штосьці дол, – другі кажа, – разлом:*
*– Едзьце, не стойце, то маёй цёшчы двор.*

Пад’ехалі да хаты, просяцца ў хату:

*– Пусці, сваце, у хату*
*Ручкі пагрэці, маладую паглядзеці.*

Калі яны прыходзяць у хату, так дружкі сядзяць з маладою. Яны спяваюць песню для дружак.

*Птушачкі, шчабятаці*
*Ідзіце на вуліцу гуляці.*
*Музыкі іграюць,*
*Вас хлопцы ажыдаюць.*

А дружкі, якія прыехалі сватаць маладых, спяваюць такую песню:

*Ой, брала Танечка белы лён,*
*Ды зганяла дружачак з-за стала.*
*– Дружачкі, ад мяне,*
*Пусць сядзе Колечка ля мяне,*
*Слёзаньку маю выцерэ,*
*Ён маю косаньку распляце.*
*Нашто было той лён браці,*
*Што не думала слаці,*
*Дружак зваці,*
*Не думала частаваці.*

Потым кажуць: “Як лён брала я, думала слаці, дружак мела, а застаюцца свахі”.

Калі знімаюць фату, то косы расчэсваюць, калі была адна каса, заплятаюць дзве касы. Валасы змазвалі маслам. Песню спяваюць:

*Ой, дай, мамка, масла,*
*Я кароўку пасла,*
*Я ж кароўку пасла*
*Ад расы да расы,*
*Дай памазаці косы.*

Потым знімаюць фату, бяруць хусткі, адна хустка ад радні маладога, другая – ад радні маладой. Адна жанчына ад маладога, другая – ад маладой. Гэтыя хусткі бяруць і махаюць над маладымі. А ў гэты час другія жанчыны спяваюць песні:

*Мы ж табе, Таня, завіваем,*
*Шчасцем, долею абсыпаем.*
*Ой, будзь да багатаю, як зямля,*
*Будзь багатая, як вада,*
*Гэтак прыгожа, як чырвона роза.*

Патрэбна іх потым моцна стукнуць галовамі, каб лепей жылі. Бяруць жанчын, якія добра жывуць у замужжстве, у якіх удалы шлюб. І потым, калі заканчваюць завіванне, вешаюць хустку на плечы, другую хустку завязваюць маладой і цалуюцца свахі, і патрэбна, каб скокнулі цераз стол. Калі госці збіраюцца ехаць, заспяваюць такую песню:

*Ой, ужо на двары світае,*
*Колечка Таню таўхае:*
*– Едзьмо, едзьмо, Таня, дадому,*
*Ды не заяджая нікому,*
*Толькі заедам аднаму,*
*Майму Танюшку роднаму,*
*А ўжо на двары белы дзень,*
*Ды свякруха цябе ўжо даўно ждзе.*
*– А ты, мая маладая,*
*Я цябе не год аглядала,*
*Каб ты мене*
*Мамкаю назвала.*

Калі маладая ад’язджала, павінна ёй маці даць пасаг. Потым спяваюць:

*Ой, пойдзем, мамка, у камору*
*Ды падзелім дабро з табою.*
*Табе, мамка, ніты і бярдо паложым (ткацкі станок),*
*А мене палаценечка паложы.*

І вось ужо свахі спяваюць песню для свата:

*Ды падзякуем свату,*
*Ды падзякуем свату*
*Паўнюткую хату.*
*Да судзі яму, Божа,*
*Да судзі яму, Божа, сыноў жаніці,*
*Дочак аддаваць, а нас на вяселле зваці.*
*Едам, сватачкі, дадому,*

*Едам, сватачкі, дадому,*
*Паелі коні салому,*
*Паелі коні салому,*
*Ды не завязуць нас дадому.*

Каравай пякуць жанчыны, якія добра жывуць у шлюбе, якія незамужнія. За стол садзяць тых жанчын, якія загадваюць, як правільна пякці каравай. Замешваюць цеста. Калі замешваюць, спяваюць:

*Ой, рана, рана штосьці ў лесе звучала,*
*Ой, рана, рана штосьці ў лесе звучала.*
*Ой, рана, рана, да сямі кур яечак,*
*Ой, рана, рана, да сямі крыніц вадзіцы.*

Вось на “рана, рана” ды за гарою новы двор. І вось у тым двары было вяселле. Дык на “рана, рана” каравай пякуць, дак што ў тым каравае. Потым пералічваюць: “Да сямі кароў масліца, да сямі крыніц вадзіца, да сямі палёў пшаніца”. Калі каравай у печ пасадзяць, дык бяруць свечку, запальваюць, махаюць і спяваюць перад старымі жанчынамі, якія камандвалі. Яны спяваюць і хваляцца:

*Вы, панове, старыя,*
*Вы, панове, старыя, –*
*Хваліліся маладыя.*
*Мы ўсё дзела зрабілі,*
*Мы ўсё дзела зрабілі:*
*І каравай пасадзілі,*
*І ружу, і мяту, зялёных барвінок,*
*Каб любіліся дзеткі.*

Калі каравай дзеляць, каравай нясе малодшы брат нявесты. Калі брата няма, то нясе які-небудзь блізкі хлопчык. Хлопчыку кладуць на галаву ў разнос ручнік і каравай. І ён ідзе, і бабы спяваюць:

*Запрагайце, запрагайце валы да каровы,*
*Ой, уносьце, ой, уносьце каравай з каморы.*
*Запрагайце, запрагайце валы да цяліцы,*
*Ой, уносьце, ой, уносьце каравай з святліцы.*

Калі каравай паложаць, спяваюць:

*А якому дружку краіць?*
*А якому дзяліць?*
*А старэйшы кажа – маладзейшаму,*
*Я ў кузніца пабываў, я свой ножычак накаваў.*

І старшы сват пачынае дзяліць каравай. Суправаджаецца гэта такімі словамі:

*– Ой, сваце, сваце, дайце нам гарэлачкі,*
*Да хоць капельку, каб прагнаць смагаванне.*
*Ой, сват ідзе, каравай нясе.*
*Каравай нясе, яйцамі трасе.*
*А ў нашага свата, а ў нашага свата*
*Добрая хата, печ яго пабялёная,*
*Чэсць яго закаханая.*

Ужо каравай даюць цэлы і запрашаюць тых, хто больш дасць. Запрашаюць свата:

*Сватко гнецца, гнецца,*
*Як лісіца ў лесе,*
*Як салавей у стрэсе,*
*Як мыш над крупамі,*
*Так сват над грошамі.*
*Ты не гніся, стары, не гніся,*
*А кладзі чырвонец ды садзіся.*
*Кладзі ўслед адзін ды другі чырвонец,*
*Казаў Колечка малады.*

Калі прывезлі маладую, спяваюць:

*Выйдзі, мамка, паглядзі,*
*Што табе баяры прывязлі:*
*І адыяло, і белую пярыну,*
*І яшчэ маладую дзяўчыну.*

Калі тыдзень праходзіць, калі жыве маладая, то ў госці едзе маці к маладому.

***Запісана ў в. Санюкі Ельскага р-на ад Ласневіч Ніны Фёдараўны, 1931 г.н., студэнткай Волкавай І.***

## СВАТАННЕ

У сваты шло непарнэ колічаство мужыкоў. Жанкам не разрэшалось хадзіць, але, бувало, што шлі і жанкі. Заходзілі ў хату да і казалі: “Мы чулі, што вы прадаеце цёлку?” А ім казалі: “Можа, вы не туды папалі, бо ў нас не цёлка прадаецца, а слаўна дзявіца, красна маладзіца”. Або яшчэ магглі казаць і таке: “Мы папалі ў ту хату ці не ў ту? Нам казалі, што вы прадаеце слаўную гусыню, бо ў нас ёсць красавец-гусак”. От як да мене прыходзілі ў сваты, то казалі: “Мы чулі, што ў гэтай хаце ёсць добры тавар, а ў нас да тавару ёсць добры купец”. Значыць, сваты праходзілі ў хату, даставалі сваю гарэлку і чаркавалі.

У сваты хадзілі толькі ўвечары, каб менш хто ведаў, бо раптам дзяўчына дала гарбуза (адказала), каб менш хто знаў і ведаў. Значыць, сядзелі, чаркавалі і вырашалі, калі ж будзе вяселле. Бацькі маладых успаміналі, якія іх дзеці былі маленькія, якія працавітыя. Калі маладая добрэ знала радню маладога, то яна магла сядзець за сталом. Калі ж яна іх не ведала або

ведала пагано, то яна не паказвалася на вочы да канца вячэры.

### ПЕРШЫ ДЗЕНЬ

Вяселле пачыналі гуляць у суботу ўвечары. Малады пачынаў гуляць у сябе, маладая – у сябе. Значыць, пасядзелі за сталамі, выпілі, прыкусілі, і малады разам са сватамі і старшым дружкам едзе выкупляць маладую. Значыць, выкупілі маладую і вязуць да маладога. У маладога перад варотамі стаяла ўжэ пажылая жанчына, пераадзетая ў мядзведзя. На ёй быў адзеты вывернуты кажух і шапка-ўшанка. Перад варотамі стаяў стол, на ём стаяў мёд, хлеб і соль. Маладыя падходзяць да стала, прычым маладая дзержыць ікону (ето значыць, што маладыя веруючыя, пахрышчаныя). Баба-мядзведзь дае старшаму дружку мёд, першы раз, другі раз дурыць, а на трэці дружка доўжэн выхваціць ложку, пераламаць і перакінуць цераз хату (ето шоб маладыя былі ж такія здаровыя, як хата, і каб былі ўвішнымі). Пасля гэтага маць маладога бярэ маладых за рукі рушніком і вядзе ў хату, і садзяць за стол. Маладых садзяць не на голае места, а засцілаюць звычайна кажух (ето шоб маладыя булі багатымі). За сталамі п’юць, ядзяць, потым танцуюць.

### ДРУГІ ДЗЕНЬ

На другі дзень ехалі распісвацца. Перад маладымі на роспісі быў разасланы вышыты льняны рушнік. І хто першы ступіць на рушнік, той і будзе галоўным у сям’і. Еты рушнік трэба було храніць да залатога вяселля. Маладыя абменьваліся кольцамі. Ім давалі заданне: маладому – запеленаць дзіця, а маладой – прышыць гузік. Потым хросная маць маладога ставіла на стол хлеб-соль і давала ўкусіць маладым. Хто з маладых укусіць большы кусок, той і будзе галоўным у сям’і.

Пасля таго, як распісаліся, едуць кругом вёскі. Маладых абавязкова перапіналі. Ставілі пасярод дарогі ўслон, засланы рушніком. На ўслоне ставілі ваду, хлеб і соль. Аб’язджаць тое места, дзе перапінаюць, вялікі грэх (ето значыць, шо маладыя будуць пагана жыць). Патрэбна было тым, хто перапінае, даць гарэлкі. Потым ужэ шлі сядаць за сталы. Пасядзелі, выпілі і пачынаюць дзяліць каравай.

Першы каравай дзеляць дзяўчыны. Каравай нясуць на крышцы з дзежкі, накрытай ільняным палатном, наверсе палатна рушнік. Каравай нясе хлопчык-падростак, таму што каравай, як замешваюць цеста, тожэ расце, таму і падростак. Як нясуць каравай, то спяваюць такую песню:

*Дружко каравай нясе,*
*Чырвонцамі трасе,*
*Пірагамі папірае,*
*Бог яму памагае.*

*Рано да рано,*
*Штось у лесі говорыло,*
*Рано да рано,*
*Не звінело – говорыло.*

*Рано да рано,*
*У нашым дварэ вяселле.*
*Рано да рано,*
*Што ў гэтым дворыку?*

*Рано да рано,*
*Да стаіць столік дубовы.*
*Рано да рано,*
*А што на тым століку?*

*Рано да рано,*
*Да ляжыць каравай –*
*Божы дар.*

*Рано да рано,*
*А што ў гэтым караваю?*
*Рано да рано,*
*Да сямі палёў пшаніца.*

*Рано да рано*
*Да сямі крыніц вадзіца.*
*Рано да рано*
*Да сямі кароў маслечко.*

*Рано да рано,*
*Ды сямі курак яечко,*
*Рано да рано,*
*Да каму каравай кроіці?*

*Рано да рано,*
*Старшаму дружку кроіці,*
*Рано да рано,*
*Іе ў мяне ножык залаценькі,*
*Рано да рано,*
*Я до сего дзела готовенькі.*

*Рано да рано,*
*Да на золотые тарэлкі,*
*Рано да рано,*
*Да нап’ёмся гарэлкі.*

Як прынеслі і паставілі каравай, старшы сват кажэ: “Благаславіце, ацец і маць, каравай пачынаць?” Яму адказваюць: “Бог благаславіць”. І так тры разы. Старшы сват зразае шышачкі з

караваю, ложыць іх у платочак і аддае маладым. Етые шышачкі маладыя далжны дзяржаць у сябе. Калі ў іх народзяцца дзеткі, дык ім даюць шышачкі, то дзеткі добрэ спаць будуць. Як дзеляць каравай, то каля маладога сядзіць свацілка і дзержыць свечкі маладых. Потым старшы сват запрашае на “дар Божы”. Спачатку бацькоў, братоў, сясцёр, радню і ўсіх астатніх.

Так само дзеляць каравай і маладога.

Пасля таго як падзялілі каравай, завуць двух маладых замужніх жанок са стараны маладога і са стараны маладой. Етые жанкі стаюць на ўслон каля маладых і гавораць: “Благаславіце, ацец і маць, вянок знімаць“. Адказваюць ім: “Бог благаславіць”. І так тры разы. Знімаюць з маладой фату і стараюцца адзець на галаву яшчэ незамужняй дзяўчыны, каб тая хутчэй выйшла замуж. Потым вешаюць фату на покуці, над галовамі маладых.

Етые дзве жанчыны то завіваюць. Бяруць дзве хусцінкі: адну дае маці маладога, а другую – маці маладой. Бяруць етыя хусцінкі і махаюць над галовамі маладых, спяваюць песню:

*Завівала мяне дзядзіна,*
*Рвала косы, як та гадзіна,*
*А сястрыца крывілася,*
*Слёзкамі аблівалася.*

Пасля песні адну хустку завязваюць у бабачку (кругом шыі), а другую проста і кажуць: “Была наша (імя) дзявіца, а стала маладзіца”.

Калі завіваюць маладых, то стараюцца іх стукнуць тры разы галавой, ето каб у іх галовы не балелі. Бяруць свечку, якую дзержыць свацілка, саедзіняюць косы маладых умесьці і чуць падсмальваюць, ето для таго, каб маладыя не баяліся грому.

Потым пачынаюць ужэ мачыць каравай, танцаваць.

**АБРАД “ХВОСТ”**

Хвост ужэ начыналі гуляць у панядзелак увечары. Прыходзяць людзі, ужэ, значыць, павячэралі, пасядзелі. Потым выбіраюць двух смешных людзей і пераадзяваюць іх у маладых. У маладога звычайна пераадзявалі жанчыну, а ў маладую – мужчыну. І пачыналі гуляць вяселле. Ето рабілі для таго, каб маладым было добрэ жыць, вясёла.

На гэтым вяселле заканчвалася.

***Запісана ў в. Скароднае Ельскага р-на ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1927 г.н., студэнткай Сітаеўскай М. (2005 г.)***

## Жлобінскі раён

Мы ў суботу не гулялі як цяпер, а пачыналі з нядзелі. Пярэзвы вадзілі, колькі чалавек участвавала ў свадзьбе, у кожнага стараліся пабыць у хаце. Дык свадзьба была доўгая.

У сваты ішло тры-чатыры чалавека: хросны бацька, брат жаніхоў, друг жаніхоў і жаніх, еслі жаніх дагаварыўся з маладой. Сваты прыходзяць з бутылкай і ставяць на стол, прыносяць пірог ці лусту хлеба. Завуць маладых к сталу, яны падходзяць і выпіваюць па чарцы гарэлкі, значыць, згодны. Сваты потым сабіраюць на стол, дагаварываюцца на дзень свадзьбы.

Калі жаніх не дагаварыўся з нявестай, дык сваты ідуць у хату без жаніха. Калі нявеста не сагласна, падыдзе да стала, псіхане і пашла. Дык бацькі то ўгаворваюць, то ругаюцца. Тут баба мо раз пяць к сталу падходзіла, псіхане і пашла, але жыве і цяпер з тым мужыком.

На зборную суботу сабіраюць нявесціна прыданае, гатовяць падаркі. Дарылі звычайна кусок палатна, яшчэ што сабіралі. Як сагласна дзеўка, дык ідзе замуж, але і сілком аддавалі. Было, што сваты дзевяць раз бутылку прыносілі, а дзеўка ўсё ўрэмя назад адносіла ў суседнюю дзярэўню, а бацька ўсё раўно аддаў. У яго былі адзін сын і чатыры дзеўкі, дык быў рад, што каб узялі. Дык гэта дзеўка яму кажа, што не стане пад вянец, а на дзяжу яе ўжо сілком садзілі, касу распляталі. Бацька сказаў, калі не станеш, дык едзь на масток ды і ў канаву, а дамоў не едзь. Вось прышлося выйсці замуж, але жыла ж.

Вянок у нас называўся хвата, кісея, і быў на ўсю дзярэўню адзін. Абработаны мо марляй якой, былі цвяты, адзяваўся трошкі на вочы.

Бедныя тады былі, караваяў не пяклі. Ладак сухіх напячэш, хрушчы называліся, возьмеш той хрушчычак для закону. Жаніхова матка свой хрушч пячэ, а нявесціна матка – свой.

Калі маладая ў сваёй хаце сядзіць, то ёй трэба было плакаць, прашчацца з маткай. Яна песні пела:

*Сядзіць голуб на пераплёце, боб клюе,*
*А галубка – пшанічку.*
*Сядзіць Грышка за столікам, мядок п’е,*
*А яго Мар’ечка слёзкі лье:*
*– Лучшэй табе, мой галубок, чым мне.*

А калі яна не плача, дык падсміхне хто:

*Сядзіць Мар’ечка да за столікам,*
*Дайце Мар’ечцы цыбулькі памазаць пад вочкамі,*
*Каб слёзкі капалі.*

Перад гэтым нявесту вялі на пасад падружкі, старэйшая сястра. Жаніх прыходзіў толькі выкупляць нявесту, браў бутылку, нёс “паперадам”, так называліся тыя, што перагарожывалі дарогу да маладой.

Пасля вянчання вязуць да маладой, а ўвечары вязуць да маладога. Павяжуць пасцель, вязуць на конях.

*Садзісь, Ганначка, на вазы,*
*Пакідай таткавы наравы*
*Доўга спаць, позна ўставаць.*

Калі ў дзеўкі быў хлопец, а яе аддавалі за другога, дык хлопец падгаворыць другіх хлопцаў, стануць на вароты і не выпускаюць маладых к жаніху, яшчэ і бой паднімуць. А калі ўсё мірна, то стануць свае на вароты і трэбуюць магарыч за маладую, па-харошаму, ды адпускаюць.

Калі мая адна сястра замуж выходзіла, дык помню, у бацькі два акна выбілі, як маладую сталі сабіраць. У другой сястры быў жаніх, ды бацька яго не ўзлюбіў. Прыехалі яны ў сваты, а бацька адказаў, аддаў за другога. Дык гэты падгаварыў хлопцаў, ды ўсталі на вароты і ні ў якую. Маладыя ўжо на вазы паселі, а ён не пускае. У жаніха айчым быў росту метра два, вылез як-та за вароты на вуліцу, як упёрся ў вароты, дык і паваліў, а етых усіх ад каліткі адваліў, на конях і паехалі.

У двары жаніха пелі песню:

*Выйдзі, яка мамачка, паглядзі,*
*Што табе баяры прывезлі:*
*Прыгожую скрыню, пярыну,*
*Маладую дзевачку-княгіню.*

Ужо ў жаніховай хаце ставяць стол, абсыпаюць жытам, каб дабрабыт быў. Наліваюць ім віно, маладыя цераз сябе льюць і ў душы чаго жадаюць ці гавораць.

Калі нявеста прашчалася з маці ў сваім двары, дык пела:

*Спасіба, яка мамачка, за хлеб,*
*Цяпер я ўжо не пайду за твой стол,*
*А калі прыйду, дык прынясу*
*Хлеба лусцінец-гасцінец.*
*Сюды, сюды, верабейкі, на таткавы канапелькі,*
*На свекарковы не пайду, а я ў яго жыць буду.*

Каравай дзялілі, як маладыя сядуць вячэраць, пасля вячэры ўсім спявалі:

*Дзе былі, не былі,*
*Штоб на каравай прыбылі.*

*Ад нашых маладых*
*Штоб хлеб-соль прынімалі*
*І штоб ласку маладым даравалі.*

Прыглашаюць усю радню на каравай, спяваюць песні.

У жаніхаканчалася вяселле, як у нядзелю ўязджалі ў яго хату. Назаўтрага прыглашалі ўсю нявесціну радню ў хату маладога, працягвалася вяселле. Пасля застолля нявеста заставалася жыць ужо ў гэтай хаце, работаць на яго нада.

Калі выходзіла замуж сірата, спявалі:

*Не стой, Госпадзі, пад вакном,*
*Сядзь, Госпадзі, на куце,*
*Блаславі долечку сіраце.*

***Запісана ў в. Верхняя Алба Жлобінскага р-на ад Валчанковай Марыі Фёдараўны, 1919 г.н., студэнткай Глушаковай В.***

### ПАД ВЯНЕЦ

*З'езджала Валечка са двара,*
*Вяршок бярозы зламала.*
*Стой, мая бяроза, без вярху,*
*Жыві, мая мамачка, без мяне,*
*Без русы касы без мае,*
*Без ціхіх маіх паходаў,*
*Без нізкіх маіх паклонаў.*
*Ціхія паходы па двары,*
*Нізкія паклоны ў цэркаўцы.*

### ПАЖАДАННІ НА ВЯСЕЛЛІ

*Дару каробачку жукоў,*
*Каб не любіла чужых мужыкоў.*
*Дару серабро,*
*Каб жылі дабро.*
*Дару каробачку медзі,*
*Каб дзеці былі, як мядзведзі.*

### ВЯСЕЛЬНАЯ ПЕСНЯ

*Ой, добры дзень, добрыя людзі,*
*І мы к вам.*
*Ці не заляцела наша чырачка*
*Сюды к вам?*
*Хоць заляцела ці не заляцела,*
*То не скажам вам.*
*В нашай чырачке*
*Пазалочэны крылушкі.*

***Запісана ў в. Майскае Жлобінскага р-на ад Фаліянавай Марыі Мікалаеўны, 1908 г.н., студэнткай Нікалаенка Н.***

Былі ў нас заручыны. Ну, значыць, прыходзіць жаніх з бацькам сваім хросным. І пытаюцца ўжо: "Ці ёсць у вас цялушка, у нас бычок вырас". Усе так саромеюцца. Ну, ужо дагаворваюцца, калі то свадзьба, калі што. Бацькі вось усе тое гавораць. А нявеста і жаніх маўчаць, нічога не робяць. Ну, вот ўжо дагаварыліся, устаюць, прашчаюцца. Падаркі маглі шчэ прыносіць. Ну, прыносілі гарэлку ці то яшчэ што.

Вот ўжо ў дзень свадзьбы нявеста ўстае і ўжо гатовіцца пачынае. Толькі сама нічога не робіць. У яе падружкі ёсць. Ну, значыць, дзеўкі, з катарымі яна дружыць. Вот яны прыходзяць, яе і нараджаюць, і плацце ёй гладзяць, і косы ёй плятуць. Вочы красяць, губы ды шчокі. Прыгожая яна ўжо такая жаніха ждзець. Жаніх той ужо прыязджае з друзьямі і з бацькам сваім хросным. Ну, ужо ж нявесту так не аддаюць. Пачынаюць гаварыць: "Нявеста ў нас самая прыгожая, самая харошая, мы яе так не аддадзім. Давайце выкуп за нашу красуню!" Гэта ўсё падружкі робяць, а нявеста ціхонечка яшчэ ў комнаце сваёй сядзіць. Яе яшчэ ніхто не бачыць. Ну, вось, значыць, таргуюцца яны, таргуюцца. Дае ўжо жаніх выкуп. Ці то грошы, ці то канфеты. Ці то можа яго папросяць што зрабіць, дык ён усё і робіць. Ну, от ён ужо ўсё кагда здзелаў і ўсе ўжэ давольныя, дык тут і нявеста выходзіць. Яны там ужо ці цалуюцца, ці абнімаюцца. І ўжо ўмесце, значыць, едуць у царкву вянчацца.

Сразу ўжо з царквы разам жаніх з нявестаю да бацькоў едуць. Сначала едуць абавязкова да радзіцелей нявесты. Тут ужо іх сустракаюць. Матка з бацькаю выходзяць. Выносяць маладым румачку з гарэлкай і мёду, каб салодка ім жылося. Матка хлеб у руках дзержыць, і яны ўжо, значыцца, кусаюць. Хто болей адкусіць, той будзе ўжо і ў доме галоўны.

Потым яны ў дом заходзяць. Тут ужо і стол накрыты. Усе садзяцца, п'юць, ядзяць. Матка і бацька нявесты жалаюць ім добрага жыцця, каб ўсё ў іх было і адзін аднаго штоб не абіжалі. Вось пасядзелі, значыць, у бацькоў нявесты і едуць да жаніха. Тут таксама бацькі іх каля хаты ўжо ждуць, выносяць чарку, хлеб, соль. Маладыя ўжо і ўсе госці ў дом заходзяць, садзяцца за сталы. І ўжо вяселле ўсё пачынаецца. Хлопцы, дзеўкі танцуюць, маладых паздраўляюць. Розныя гульні гуляюць. Друзья жаніха хочуць нявесту ўкрасці, а падружкі нявесціны ўжо глядзяць за імі, штоб нічога не здзелалі. Але ж яны могуць ці то нявесту ўкрасці, ці то што-небудзь з яе вяшчэй. І тады ўжо падружкі далжны выкупаць. І ўжо робяць, што ім скажуць. Можа грошы ім гавораць сабраць, можа так што: спляcаць ці спець, ці гарэлкі выпіць чарку вялікую. Потым ужо ноччу пасля дванаццаці часоў падружкі нявесту садзяць і косу ёй расплятаюць, знімаюць фату з галавы і надзяваюць хустку. Ці то, можа, матка нявесты што робіць, калі як то было. Ну,

вось, хустку адзелі, гэта значыцца, яна ўжо не дзеўка, нявеста. Пяюць песні дзеўкі, харавод водзяць. Потым яшчэ гуляюць амаль да ўтра, танцуюць і разыходзяцца. Нявеста ў хату к жаніху ідзе.

Потым ужо, на ўтра, другі дзень свадзьбы – друзья жаніха хочуць пашуціць. Ды, значыць, адзяваюцца: хлопец плацце нявесты адзявае, а дзеўка касцюм жаніха цапляе і ідуць да бацькоў нявесты. "Вось, кажуць, матка, нас сустракай". Матка кажа: "Гэта не мая дачка, мая красівейшая была". Тыя кажуць: "Мы таксама думалі, што ў цябе дачка красівая, а ты каго падсунула". Ну, то ўжо так пажартуюць ды разыходзяцца. На другі дзень таксама ў хаце жаніха гуляюць. Матка нявесты прыходзіць, пытаецца, а ці не крыўдзяць яе дачку, калі не, дык бласлаўляе маладых.

Потым з гасцей грошы сабіраюць хлопцы да дзеўкі. Хлопцы збіраюць, каб у маладых сын нарадзіўся, а дзеўкі, каб дачка была. А калі роўна сабраць, дык і двойня будзе. Ну, падаркі, канешне, госці ўжо дараць ды жалаюць маладым, штоб шчаслівыя ды здаровыя былі і дзяцей многа наражалі.

***Запісана ў в. Марусенька Жлобінскага р-на ад Асташкевіч Ганны Адамаўны, студэнткай Прыбышэня Ж.***

## СВАТЫ

Раней у сваты ішло пяць і менш чалавек. Калі нявеста сірата, то шло менш чалавек. Аб сватах з бацькамі нявесты калі дагаворваліся, а калі і не. Бывала, што маладыя самі гаварылі сваім бацькам. Ішлі звычайна толькі мужчыны, жанчыны ў сваты не хадзілі. Шоў жаніх, бацька, бацька хросны і яшчэ хто. Хадзілі ў сваты вечарам.

Калі прыходзілі да бацькоў нявесты, заходзілі ўсе ў хату. Гаварылі такія словы: "Добры вечар! Казалі, што ў вас прадаецца цяліца, а мой сын хоча жаніцца. "Ставілі на стол гарэлку, хлеб, соль.

– Будзем дагаварвацца. Сагласны вы аддаць сваю дачку за нашага сына ці не?

Калі былі згодны, то накрывалі стол, прыглашалі гасцей, звычайна родственнікаў, суседзяў, бабак шутлівых. Садзяцца ўсе за стол. Спярва наліваюць жаніху і нявесце. Выпіваюць, патом усе ядуць, гуляюць, танцуюць.

Адразу выбіраюць галоўнага свата, таго, хто ўмее гаварыць, абвязвалі яго ручніком через плячо. Затым матка нявесты вынімае вышываны ручнік. Добра пацягаюць сватоў палаценцамі. Спяваюць:

*А не пеняйце, сваточкі,*
*За кароткія платочкі,*
*А Бог не ўгадзіў:*
*У нас лён не ўрадзіў*
*І платочкам укараціў.*

Дагаварываліся, на які дзень зазываць гасцей ды свадзьбу спраўляць.

А было і так, што прыйшоўшы ў сваты, заставалі там другіх сватоў. Тады дзяўчына плакала, прасіла бацьку, каб не аддаваў за нялюбага, а аддаў за таго, каго любіць. Бацька згаджаўся і выправажваў нежаданых сватоў. Дамаўляўся з тымі, што толькі прыйшлі.

Заручыны праходзілі разам са сватамі. Нявеста аддавала падарунак сватам, каб тыя перадалі яго маці жаніха. Падарунак дарыла толькі ёй, астатнім – не.

Потым ужо перад свадзьбай у нявесты "вечар". Да нявесты прыходзяць падружкі, пяюць песні, размаўляюць аб тым жыцці, якое зараз у дзяўчыны, і аб тым, якое будзіць пасля замужжа, мечтаюць. Крыху пазней прыязжае жаніх са сваімі дружкамі. Калі з другога сяла, то знаёміць сваіх друзей з дзяўчатамі, назначаюць шафераў і шафярыц. Потым гуляюць, танцуюць, пяюць усю ноч.

Каравай да свадзьбы пяклі блізкія нявесты. Пеклі на круглай бальшой скаварадзе ілі на процьвіні. Каравай быў ці круглы, ці квадратны. Эта як захоча пекарка. Абычна ўпрыгожвалі шышкамі, рознымі зорачкамі, ёлачкамі з цеста. Быў і такі абычай: калі ўжэ спекся каравай, яго ўпрыгожылі, яго трэба было абязацельна перавязаць лентай. Перад гэтым дзяўчына даўжна была прызнацца – "чэсная" ілі не. Еслі "чэсная", то каравай абвязвалі краснай лентай. А калі дзяўчына ідзець "нячэснай" за хлопца, то каравай абвязвалі чорнай лентай. Усім блізкім нявесты абмазывалі дзёгцем дзверы і вокны, каб усе ведалі. Былі і такія, якія ўтойвалі. Тады дзяўчыну пугалі, што дзіця, якое яна родзіць, будзе калекам. Тады ўсім гэтым прыбаўткам верылі. У дзень свадзьбы, зраніцы, трэба было ехаць за нявестай. Упрыгожваюць коней лентачкамі, на дугі вешаюць званкі. У кожнага свой конь. Едуць к нявесце. Но за нявестай ідзе не жаніх, а яго брат родны. Содзіць нявесту да сябе і вязе ў царкву. Нявесту да гэтага збірала шафярыца з падружкамі. Абавязкова запляталі ёй касу, вяночак, фату. Па дарозе ў цэркаў кожны хлопец вёз у сябе на вазу па дзяўчыне, заязжалі ў магазін. Там хлопцы куплялі дзяўчатам канфеты. Бывала, хлопцы, якія жалеюць грошай, куплялі карамелькі ці ледзянцы, а другія куплялі харошыя канфеты. І тады смяяліся, што пажалеў грошы.

Калі прыязжалі ў цэркаў, бацюшка вянчаў маладых, а шаферы дзяржалі над галавой маладых нейкія кароны. Так дзяржалі да самага канца вянчання. Цяжка, рукі пазамлеюць.

Нявеста і жаніх яшчэ дома адзяваюць каждый сабе кальцо, якія купіў жаніх. А ўжэ ў цэркві бацюшка, калі гаворыць, што яны ўжо муж і жана, мяняе ім кольцы. Да таго, як бацюшка памяняў ім кольцы, яны ў левай руцэ дзяржалі свечку, а правай хрысціліся.

Пасля вянчання нявесту жаніх садзіць на свае калёсы і ўсе едуць к жаніху. У жаніха дома маладых сустракае маці жаніха з абразом. Яны цалуюць ікону, а потым ідуць у хату, там ужо прыгатаваны сталы з ежай. Гатуюць многа рознай яды. Жаніх і нявеста садзяцца дзе-небудзь у сярэдзіне, на самым добрым месцы. П'юць, ядуць, гуляюць. Танцуюць пад гармонік, пяюць розныя народныя песні, вясёлыя і сумныя:

*Па Дону гуляе, па Дону гуляе,*
*Па Дону гуляе казак маладой,*
*А дзева там плачет*
*Над быстрой рэкой…*

Потым едуць к нявесце. Там тое ж самое. Гуляюць. Тады хросная маці нявесты дзеліць каравай, адразае па маленькаму кусочку, штоб усім хваціла, заве к сабе ўсіх гасцей, каб яны паздравілі маладых і што-небудзь падарылі.

Гавораць: "Бацька есць? Маці есць? Дазвольце ж каравай паднесць? Мы хочам, каб яны ласкавы былі, на каравай прыбылі ды нашым маладым што-небудзь падарылі".

Пасля гуляюць да позняй ночы. Усе госці гуляюць, а нявеста ідзе з падружкамі ў які-небудзь пусты пакой. Там падружкі нявесты сімаюць ёй фату, вяночак, расплятаюць касу і пяюць:

*Расчэшам касу з шчоткамі,*
*Памочам касу слёзкамі,*
*Павесім уплёт на прыплот.*
*Будзе матка ў клецъ ідці, пабача,*
*А з клеці будзе ідці – заплача:*
*– Гэта ж маёй дочачкі ўборы,*
*Усе дзявоцкія прыборы.*

Расплёўшы касу, нявесце з валос рабілі абручык, адзявалі чапец, які шылі загадзя, а наверх – платок. Гэта азначала, што дзяўчына цяпер стала дамай і не мае права больш насіць касу. Гэта лічылася грэхом. У сукенку дзяўчына перапраналася не белага колеру, а якога-не-будзь іншага. Гэта таксама было знакам таго, што дзяўчына становіцца жанчынай.

Патом маці нявесты звязвае пасцель нявесты ў вузел і ложыць на калёсы к жаніху. Дае нявесце ў рукі ікону і садзіць яе на воз. Плачуцца, пращчаюцца дачка з маці, з роднымі.

А назаўтра ўсе блізкія нявесціны вязуць яе сундук, прыданае к жаніху, машынку шыйную, калі партніха. Едуць з краснымі флагамі. Калі пад'язжаюць, пяюць:

*Выйдзі, мамачка, паглядзі,*
*Што мы табе прывязлі.*
*Прывязлі скрыну-пярыну*
*Шчэ й маладую княгіну.*
*Пярыну будзеш падсцілаць,*
*Княгіну на работу адпраўляць.*

Бывалі такія выпадкі, што па дарозе ім перагароджвалі дарогу. Тады яны страляліся бульбай, шуцілі.

Калі прыязжалі, родныя жаніха маглі не пусціць іх, патрабавалі выкупа. Бацькі нявесты адкупаліся гарэлкай, грошамі. Тады іх пускалі ў двор. Пачыналі пецъ і плясаць ва двары. Патом ішлі ў дом і там ужо весяліліся да вечара.

Цераз нядзелю бацькі нявесты едуць к нявесце "раскідваць галавешкі". Водзяць пярэзвы. Дзядзька вядзе спачатку ўсіх к сабе дадому, там гуляюць, угашчаюцца, выпіваюць.

Потым цётка – к сабе. І так маглі абайці ўсю дзярэўню. Так свадзьба і завяршалася.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Сасна Елізаветы Карпаўны, 1912 г.н.,***
***студэнткай Марусавай Д.***

Вяселле пачынаецца ў суботу, а ў пятніцу вечарам збіраюцца дзяўчаты, плятуць вянок для маладой, а потым уюць в'ёльца (ёлку). Калі украшаюць ёлку, пяюць:

*Ой, хвоя, хвоя зелена,*
*Ты ў бару расла, шумела.*
*Ты ў бару расла, шумела,*
*На стале стала, заззяла.*
*Ты ў бару расла, шумела,*
*З кораня ўпала, завяла.*

З гэтай ёлкай ідуць у баяры і бяруць яе з сабою. У маладога тожа ўюць такую ёлку, і яго баяры ідуць з ёй да маладой і закідваюць яе на крышу хаты для дабрабыта.

У пятніцу збіраюцца жанкі ў маладой і маладога, пякуць каравай і пампушкі. Пампушкі раздаюць дзецям, якія стаяць пад вокнамі і ждуць, пака ім іх вынясуць.

У першы дзень вяселля, калі малады ідзе да маладой, ён должан везці цёшчы боты і пірагі. Жанчыны спяваюць:

*Дзеравенскія варогі,*
*Не пераходзьце дарогі,*
*Не пераходзьце дарогі,*
*Вязе зяць цёшчы пірагі,*
*Вязе зяць цёшчы пірагі,*
*І чырвоныя чабаты.*

На вяселлі зяць абязацельна доўжан абуць цёшчу. Перад етым цёшчу ў шутку абуваюць у пасталы, зяць знімае пасталы і абувае боты. Цёшчу садзяць на стула, а кругом яе водзяць харавод і пяюць:

*А то ж тыя чобаты,*
*Што зяць даў.*
*Ён за тыя чобаты*
*Дачку ўзяў.*
*Павешу я чобаты*
*На кручку,*
*Няхай робяць дзелачка за дачку.*
*Чобаты, чобаты вы мае,*
*Нарабілі клопату да вы мне.*
*А то тыя чаботы з бугая*
*Не баяцца холаду нічарта.*

На вяселлі нявеста даўжна абдзяліць падаркамі ўсіх родных і дваюрадных жаніха. Малады доўжан адкупіцца грашыма ад радні маладой.

На другі дзень вяселля дзеляць каравай. Калі выносяць каравай, то спяваюць:

*Ой, па рэчцы, па Днявры*
*Там плавалі два бабры.*
*Рана, раненька, ранюсенька*
*Там плавалі два бабры.*
*Яны плылі, выплывалі,*
*Між сабою размаўлялі.*
*Рана раненька, ранюсенька*
*Між сабою размаўлялі.*
*З чаго спечаны каравай?*
*З сямі бочак мучыца,*
*З сямі рэчак вадзіца,*
*З сямі курак-шчабятурак яйца.*
*Каму ж дзяліць каравай?*
*Брату! Ён у горадзі не бываў,*
*Залатыя нажы не купаваў.*
*Хросны! Гэты ў горадзі бываў,*
*Залатыя нажы купаваў.*
*Яму дзяліць каравай.*

Хроснага перавязваюць рушніком, і ён пачынае дзяліць каравай і гаворыць: "За кім пілі, гулялі, усім дабра жадалі. У нашых маладых ёсць хросныя бацька і маці, каб яны ласкавы былі ды на каравай прыбылі, і каравай адарылі".

Так перазывалі ўсіх прыглашоных, яны дарацць маладым падаркі і гавораць розныя шутлівыя пажаданні:

*Дарую каробачку гліны,*
*Каб чэраз год пазвалі на хрэсціны.*
*Дарую вянок цыбулі,*
*Каб не сувалі адзін аднаму дулі.*
*Дарую прыпол буракоў,*
*Каб нявеста не любіла чужых мужыкоў.*

Пасля каравая маладую завіваюць, свякруха дае маладой сваю хустку. Падбіраюць мамак з благапалучных сем'яў, каб былі ў пары. Дзве жанчыны ад маладой. Дзве – ад маладога. Яны знімаюць фату з маладой і вешаюць на ікону. Яе расчосваюць і плятуць касу. Завівальнай хусткай махаюць тры разы, потым тры разы стукаюць галавой маладых, абсыпаюць іх жытам. Два разы маладыя не саглашаюцца развязываць хустку, а на трэцці раз саглашаюцца. Жанкі спяваюць:

*Што ж мы нарабілі,*
*Што ж мы нарабілі,*
*З хлеба – паляніцу,*
*З дзеўкі – маладзіцу.*

Дзяўчаты пяюць для яе пращчальныя песні:

*Ці ж не будзеш ты, Маруся, жалкаваці,*
*Як мы будам па вуліцы пахажаці?*
*Ой, не буду я, дзевачкі, ой, не буду,*
*Пагляжу я ў акеначка – да й забуду.*
*Ці ж не будзеш ты, Маруся, жалкаваці,*
*Як мы будам пад вакеначкам гуляці?*
*Ой, не буду я, дзевачкі, ой, не буду,*
*Будзе малое дзіцятка, глядзець буду.*

Як вядуць маладую да маладога, выходзячы з хаты, спяваюць:

*Закідай, мамка, дрова,*
*Да бувай жа здарова.*

А перад хатай маладога пяюць:

*Закідай, мамка, трэскі,*
*Дажыдайся нявесткі.*

Маладая астаецца ў маладога. І ёй на другі дзень яе радня прыносіць есці.

### ТРЭЦІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

У маладога збіраецца свая радня. У маладой – свая радня і гуяюць у "Пятухі". У еты дзень наражаюцца ў цыган і ходзяць па тых хатах, хто

гуляў на вяселлі. Уперадзі ў іх ідзе запрэ-жаны пятух. Кожна хата далжна падарыць куру або пятуха. Людзі даюць, а як няма – плацяць грошы за яго. В еты дзень гарэлку людзі прыносяць самі. А пішча – етыя пятухі. Іх скубуць, вараць, жараць. Тут ужэ падстаўляюць другіх маладых з жанатых пар і прадаўжаецца такое вяселле.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на ад Саханчук Ганны Андрэеўны, 1936 г.н., студэнткай Казачэнка А.***

**ПЕРАПЫТЫ**

Вяселле пачынаецца з перапытаў. Па просьбе хлопца, жаніха, маці жаніха, хросная маці і яго сястра, абавязкова замужняя, ідуць у хату нявесты, каб перапытаць яе, ці згодна яна выйсці замуж. У нас гавораць: "Пайшлі на перапыты". Маладыя ўжо дамовіліся аб свадзьбе, радзіцелі далі згоду, але маці жаніха ідзе аглядзець сваю будучую нявестку, перапытаць, ці згодна яна выйсці замуж за яе сына. Трэба, каб сама дзяўчына сказала аб гэтым. Маці жаніха пячэ хлеб і нясе яго, калі ідзе на перапыты. Пры згодзе дзяўчыны маці жаніха і нявесты абменьваюцца хлябамі. Потым маці нявесты збірае на стол. Гэта называецца "абмяняць хлеб".

**СВАТАННЕ**

Выбар сватоў абсуждаюць жаніх, яго радзіцелі і таварышы. У сваты звычайна ідуць вечарам у суботу і толькі мужчыны – сват, жаніх, бацька жаніха, хросны бацька, брат яго або другія сваякі (лік толькі няцотны). Сваты павінны быць жартаўлівыя, паказаць жаніха з лучшага бока. Сваты адразу не кажуць, чаго яны прыйшлі, а гавораць: "Мы – людзі з далёкага краю, прытаміліся. Ці пусціце пераначаваць?" Бацька маладой адказвае: "Заходзьце, госці дарагія". Тады сват гаворыць: "Мы чулі, у вас дачка ёсць. Ваш тавар, наш купец". Пры гэтай размове дзяўчыне нельзя прысутнічаць. Потым сваты просяць паказаць ім дзяўчыну. Яе адразу не паказваюць, а прыводзяць другіх дзяўчат. Сваты кажуць: "Гэта не тая, нам не гэта патрэбна". Тады выходзіць сапраўдная нявеста. Сваты хваляць яе. Калі дзяўчына згодна выйсці замуж, то дарыць радзіцелям жаніха ручнік, а маці – хустку.

*Прыехалі сваты на двор,*
*Пусцілі стралу ў акно.*
*– Страла мая, страла,*
*Па што ты прыйшла?*
*Ці па мёд, ці па гарэлку,*
*Ці па нашу дзеўку?*
*Будзе чужой мамачцы гадзіці,*
*Ад зары да зары рабіці.*
*Татулька і матулька журацца:*
*–Гадавалі дачушку на долю,*
*А цяпер аддалі ў няволю.*

**ЗРУЧЫНЫ**

Праз некаторы час пасля сватання прыходзяць заручыны ў дом нявесты. Пасля заручын яна не може ўжо адказаць жаніху. Адбываюцца заручыны вечарам у суботу ці ў нядзелю. Жаніх, яго радзіцелі, бліжэйшыя сваякі ідуць да нявесты ў хату. Калі бачаць, што жаніх са сваякамі заходзіць на двор, то нявеста хаваецца. Потым выходзіць да гасцей і кожнаму падае руку – гаворыць гэта аб тым, што яна сагласна парадніцца з імі. У хаце прыгатаваны сталы, але ніхто не садзіцца. Нявеста і жаніх завуць сваякоў нявесты. Калі ўсе прыйшлі, сядаюць за сталы. За сталом пяюць песню:

*Ой, цвіціце, каліначкі, рабіначкі,*
*Мне пад вамі не хадзіць,*
*Мне з вас вяночка не віць.*
*Добра было, мая матухна,*
*Да заручыны мець,*
*Ой, пазналі, пазналі,*
*Як без мяне жыць.*

Калі ўсе разыходзяцца, то нявеста дае зерне маці жаніха, гэта значыць, аддае сябе ім.

**ВЯНОЧКІ**

Нявеста заве да сябе ў хату падружак, каб шыць фату. Жаніх, разам з сябрамі ідзе да нявесты з падружкамі. Дзяўчыны, калі зробяць фату, ставяць на стол талерку з зернем, а наверх кладуць фату. Жаніх выкупляе фату. Пасля выкупу ўсе садзяцца за сталы.

**ВЫКУП КАРАВАЯ**

Пякуць два караваі: адзін у хаце нявесты, другі – у жаніха. Робяць на ім тры кветкі. Каравай, калі пёкся, мог так падняцца, што выцягнуць яго з печы нельзя. Тады разбіралі печ, а каравай нельзя бурыць. Стол пасцілаюць белым абрусам, пасыпаюць жытам і ставяць каравай. Прыходзіць брат жаніха выкупляць каравай. Ён кладзе на стол грошы, бярэ каравай і нясе, прыгаворваючы:

*Караваю, раю, раю,*
*Я з табою пагуляю.*

**ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ**

Гасцей запрашаюць бацькі. Госці сабіраюцца і ў жаніха, і ў нявесты. Жаніх збіраецца са сватамі ехаць да нявесты. Яму пяюць:

*Федзечка збіраецца,*
*Баценьку пытаецца:*
*– Мой жа татачка,*

*Мой жа родненькі,*
*Што мне там гаварыць?*
*– Не гавары, сынку, нічога,*
*Ёсць у цябе дружок для таго,*
*Што маць будзе,*
*Гаворыць будзе*
*За цябе.*

Хросны бацька бярэ хлеб на ручніку, абводзіць жаніха вакол стала тры раза і выходзіць на вуліцу, каб ехаць. Усе павінны ўступаць ім дарогу, нікуды не зварочваць, а ехаць прама да нявесты. Калі пад’язджаюць да хаты, выходзіць бацька нявесты, ён запрашае іх у хату. Адразу садзяцца за сталы. Праз некаторы час прыводзяць нявесту. Яна нясе падарунак жаніху. Адбываецца абмен падарункамі паміж імі. Пасля нявеста ідзе перадзявацца. Хросная маці нявесты абвязвае сватоў ручнікамі, падружкі нявесты жаніху і сябрам прыколвалі папяровыя кветкі. У жаніха кветка самая бальшая. Калі нявеста адзенецца, то сядае на стул, накрыты падушкай (каб яна была багатая). Хлопчык расплятал ёй касу, адзявал вянок і фату. Ад жаніха ідуць дружкі і адводзяць нявесту дамоў. Яна садзіцца за стол. Потым едуць вянчацца ў царкву. Калі яны едуць дамоў, ім перагароджваюць дарогу і патрабуюць выкуп.

**ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ**

У хаце жаніха зраніцы збіраюцца госці. Калі прыходзіць нявеста, яе абсыпаюць зернем. Пачынаецца дзяльба каравая. Хросны бацька кажа: “Жылі-былі і на каравай прыбылі (імя)“. Кожны бярэ кавалак каравая і кладзе грошы. Пры гэтым кажа: “Каравай прымаю і вас вітаю. Каб жылося і каб вялося”. Усе садзяцца за сталы. Госці гавораць розныя зычанні жаніху і нявесце: “Дару жаніха міскай, каб не сядзеў з чужымі блізка”. “Дару цябе талеркамі, каб не хадзіў за другімі дзеўкамі”. “Дару пятаком, каб каля жонкі хадзіў пятухом. Жадаю маладым дзевяць сынкоў, а дзесятую дачку – швачку. Колькі ў сцяне сучочкаў, каб столькі было сыночкаў, а колькі шчэлачак – каб столькі дзевачак”.

Заканчваецца вяселле “цыганамі“. Жадаючыя з гасцей ідуць у хату жаніха і перадзяваюцца ў старую адзежу, трапкі. Цыган – пераадзетая жанчына, цыганка – мужчына. Ходзяць разам, танцуюць, пяюць. Таксама ёсць людзі, пераадзетыя ў жаніха і нявесту. Яны патрабуюць, каб іх пасадзілі за стол і пачаставалі. Усе весяляцца і танцуюць.

Але вяселле яшчэ не заканчваецца. На другі дзень у госці да бацькоў нявесты ідуць у адведкі сваякі жаніха з маладымі. На наступны дзень ужо бацькі нявесты ідуць у адведкі ў хату маладога.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Савіцкай Таццяны Сцяпанаўны,***
***студэнткамі Казятнікавай С., Цікавец Д.***

**ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ**

**Не аддай мяне, мамачка**

*Не аддай, не аддай*
*Мяне, мамачка, у чужы край.*
*Што я ў чужыне*
*Нічагусенькі не знаю.*
*Пашлюць мяне рана*
*Па ваду к Дунаю.*
*Там будзе стаяць*
*Ды старых людзей грамада.*
*Ты, донечка, усім пакорненька*
*Укланяйся.*
*Скажуць людзі,*
*Што разумнае мамачкі.*
*Скажуць людзі,*
*Што багатага татачкі.*

**Пара, маці**

*Пара, маці, да вячэраці.*
*Павячэраўшы, дзяліціся.*
*Табе маці, – што ў хаце,*
*А мне, маці, – што ў клеці.*
*Табе, маці, – кубел і каробка,*
*А мне, маці – сундук да кароўка.*

**Вышайце пеньковыя**

*Вышайце пеньковыя,*
*Да вышайце шаўковыя.*
*Пеньковыя навіселіся,*
*Шаўковыя наляжаліся.*

**Пусці, сватачка**

*Пусці, сватачка, у хатачку,*
*Будзеш сядзець у запечку.*
*Не будзеш лучыну паліці,*
*Толькі будзеш вачамі свяціці.*

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Калупаха Праскоўі Афанасьеўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Некрашэвіч А.***

*Воля любым дзеўчынам,*
*Як лазоравы цвет.*
*Ой, красуйце, дзеўчыны,*
*Пакуль воля ёсць.*
*У атца і мацеры*
*Жыла ў незе і дабрэ,*
*Пойце вы, птушкі пеўчыя,*
*У садзе і вадзе.*
*А к нам прыйдзе суджаны,*
*Трэба расплятаць*

*Маладу нашу дзеўчыну,*
*Маладу нашу дзеўчыну*
*Трэба замуж выдаваць.*

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Савіцкай Марыі Сцяпанаўны***
***студэнткай Казятнікавай С.***

**АРАД “ПЕТУХІ”**

“Петухі” рабіліся на трэці дзень вяселля. Госці: жанчыны і мужчыны – прыбіраюцца ў цыган. Убіраюць маладых: маладога – у дзеўку, маладую – у хлопца і ходзяць па дварах. І гаспадар, к якому завітаюць госці, павінен даць куру ці петуха. Можна даваць мяса ці сала, але пажаданей петуха. Гасцей частуюць, спяваюць розныя песні. Прыносяць куру дамоў, і з гэтымі курамі работаюць: скубуць, гатовяць. А цыганы ходзяць і збіраюць пачастункі.

У доме маладых сталы ўбіраюць, як на вяселле. Куры вараць з юшкай, гэта абавязковы пачастунак, разліваюць юшку ў міскі і частуюць гасцей.

Тады госці дараць падарункі маладым: “Я дару сваім маладым кірпічыну, штоб яны пастроілі вялікую даміну.

**ВЯСЕЛЬНАЯ ПЕСНЯ**

*Гаварыла Танечка замуж не пайду,*
*Насеяла чарнабрыўцаў цэлую граду.*
*Ой, хто тыя чарнабрыўцы паліваць будзе?*
*Ой, хто мяне, маладую, шанаваць будзе?*
*Адазваўся Колечка ў вішнёвым садзе:*
*Ой, я твае чарнабрыўцы паліваць буду,*
*Ой, я цябе, маладую, шанаваць буду.*

*Няпраўдзівая каліна,*
*Няпраўдзівая каліна,*
*Няпраўдзівая Галіна,*
*Няпраўдзівая Галіна,*
*Казала, цвесці не буду,*
*Казала, цвесці не буду.*
*Казала, замуж не пайду,*
*Казала, замуж не пайду.*
*Як прыйшла пара, расцвіла,*
*Як прыйшла пара, расцвіла.*
*Як прыйшла пара, дык пайшла,*
*Як прыйшла пара, дык пайшла.*

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Зінчанка Лідзіі Трафімаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Драздовай Л.***

На второй дзень, когда молодая ўже переехала жить к свекрови, она обязательно должна была рано утром встать, напечь блинов и угостить гостей блинами, а если проспит молодая, то за стол сядут подставные молодые.

Каравай делили на первый день свадьбы. И делал это крёстный отец. К невесте он обращался со словами:

*Госценькі дарагія,*
*Сярэбраныя, залатыя.*
*Наша маладая – кветачка палявая,*
*Зорачка яснавокая,*
*Крынічка глубокая,*
*Ночкі не дасыпала,*
*Каравай рыхтавала,*
*Сама яна сеяла,*
*Сама яна веяла,*
*Сама выпякала,*
*Сама ж і гасцей склікала,*
*Дазвольце нам каравая.*

Коровайницы несли коровай с песнями:

*А паднімем каравай*
*Высока, высока,*
*А паднясём яго далёка-далёка,*
*А паставім на жыце,*
*Каб добра жыць,*
*Дай, Бог, маладым*
*Добра жыццё пражыць.*

После этого крёстный отец должен был каравай выкупить. И все пели:

*Прыйшоў на вяселле наш сваток,*
*Калі, сват, чырвонца (або гарэлкі) не дасі,*
*Каравай трасцы з’ясі.*

Сват должен был заплатить за каравай. Когда привозили молодую к молодому, то на ширму от занавески вывешивали приданое невесты.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Андрэйчыкавай Ларысы Паўлаўны, 1949 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Антонаўка Жлобінскага р-на),***
***студэнткай Мельнікавай Л.***

**СВАТЫ**

Спачатку былі сваты. Хросны бацька і матка прыходзілі на дагавор, таксама брацья і сёстры. Дагаворваліся на свадзьбу. Нічога не пелі. Прыходзілі і гаварылі: “Мы чулі, што прадаецца цёлачка”. Сватоў перавязвалі ручніком. Галоўны быў карэнны сват, ён потым вёў свадзьбу. Сваты павінны былі прынесці бутылку і хлеб, перавязаныя краснай лентай. Пярсцёнкамі маладыя не абменьваліся. Потым была свадзьба.

**ПЕРШЫ ДЗЕНЬ**

З самага утра гатовіліся. У суботу едуць к маладой. Ноч яны ўгашчаюць. Калі гульня канча-лася, дагаворваліся, ва сколькі прыдзе малады.

**ДРУГІ ДЗЕНЬ**

У васкрасенне гулялі ў маладога, ад маладога едуць на роспісь. Бралі гарэлку і падарункі. Па дарозе заязджалі ў лес. Пасля роспісі малады з маладой прыходзілі дамоў. Там стаіць стол з іконай і хлебам-соллю. Матка благаслаўляе іконай, яны цалуюць ікону, ядуць хлеб і соль. Потым заходзяць, садзяцца на кут, кажух. На кажух садзіліся для таго, каб дзеці былі кучаравыя і багатыя.

Пры ўстрачанні маладой пелі песні:

*Гаварыла Танечка: "Замуж не пайду".*
*Насеяла чарнабрыўцаў цэлую граду.*
*– А хто ж гэтыя чарнабрыўцы ды палівацъ будзе?*
*А хто ж мяне, маладую, жалаваць будзе?*

**КАРАВАЙ**

Каравай дзеляць бацька хросны з мужыковай рукі і бацька хросны з жэнскай рукі. Хтосьці стаіць з падносам і чаркай. Жалалі, хто што.

Калі каравай яшчэ толькі выпякалі, пелі песні, маліліся Богу. Удовы не пяклі каравай, толькі тыя, хто з мужыком жыве. Лічылі гэта дрэннай прыкметай.

*Як даруеш, няхай Бог пасе,*
*А як не даруеш, няхай воўк нясе.*

Пасля таго, як падзеляць каравай, з нявесты знімалі вянок. На дзяжу маладую не садзілі. Меншы брат заводзіў маладую ўздоўж сцяны на кут. Сабіраліся жанчыны-закасянкі і расплятаі косу. Спявалі песні. Потым малады адзяваў цёшчы лапці ці чобаты і спявалі песню "Чобаты":

*Чобаты, чобаты вы мае,*
*Нарабілі клопату вы мене.*

**"ПЕТУХІ"**

Заканчвалася вяселле "петухамі".

На трэці дзень сабіраліся цыгане. Мужчыну перадзявалі ў нявесту, а жанчыну – мужыком. Потым хадзілі па хатах. Там давалі курэй або індзюкоў.

Ва ўторнік прыходзілі яшчэ за стол. А ў суботу цёшча гатовілася ждаць зяця з дачкой і сватоў і ўгашчаць іх.

***Запісана ў в. Машава Чарнобыльскага р-на Кіеўскай вобл.***
***ад Снітко Ніны Вікенцьеўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Казіміраўская Слабодка Жлобінскага р-на),***
***студэнткай Снітко М.***

Прыходзяць у сваты з дагаворанасцю. Прывозяць графін водкі і булку хлеба. З хлебам прыходзяць абязацельна і шуцяць: "Мы прыйшлі пакупаць цёлку". Таргуюцца. Торг вядуць, шуцяць. Ідзе, збірае сваіх падружак маладая. І ўжэ гуляюць усю ноч. А ён – свайго дружка.

Свадзьбу назначаюць. Еслі свадзьба ў адной дзярэўні, то збіраюцца ў маладога і гуляюць у маладое. З вельцам ідуць да маладое, і гэтая ёлачка ў куту стаіць ля маладых. Яе закідвалі на крышу. Ёлка была ўбрана бумажкамі, як навагодняя ёлачка.

*Дзеўка Насця пасадзіла*
*Чарнабрыўцаў граду,*
*А хто ж тыя чарнабрыўцы*
*Паліваць будзе?*

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Талкачовай Марыі Сцяпанаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Свадзьбы ў наш час спраўляліся ў каго як. Калі сям'я маладой мела добры пасаг ці ў маладога была заможнай, то на свята запрашалась амаль уся вёска. Але і калі сям'я была беднай, то звычаі стараліся саблюдаць. У наш час у маладой не было белага плацця, толькі зрэдку, а большасць шыла плацце з лёгкага краму. Свята праводзілася звычайна ўвосень, калі маглі накрыць стол з таго, што паспелі зжаць, сабраць у полі, лесе.

Перад святам ішлі спачатку ў сватанне. Бацькі маладога бралі з сабою свата. Свата выбіралі гаваркога, вясёлага чалавека, і яго вельмі паважалі і цанілі. З сабою сваты бралі гарэлку.

Сям'я маладой таксама рыхтавалася, бо хлопец з дзяўчынай дагаворваліся аб усім зараней.

У час сватання дамаўляліся пра пасаг нявесты і аглядвалі гаспадарку жаніха. Нярэдка, калі бацькі не маглі дамовіцца ў час сватання, вяселле магло і не адбыцца. Бывала, што не падабалася гаспадарка жаніха або пасаг нявесты.

Пра тое, калі праводзіць свадзьбу, які пасаг даць маладой, дамаўляліся ў час запоін. На запоіны збіраліся сваты, сяброўкі маладой, хрышчоныя бацька і матка маладых. Маладая прыгожа апраналася, сядзела прыбраная, прыгожая.

Перад святам у адзін з вечароў да маладой прыязджаў малады з сябрамі, а да нявесты прыходзілі сяброўкі. Жаніх дарыў маладой абутак і ткань на плацце. Усе спявалі песні, танцавалі, весяліліся.

Ужо перад самым святам хрышчоная маці разам са сталымі жанчынамі пекла каравай. Яны стараліся, каб каравай быў вялікім, пышным, удаўся, бо каравай абазначаў далейшае жыццё маладых. Калі ён будзе добры, то і жыццё ў іх

будзе добрае, а калі ападзе ці ўзнімецца, то нешчаслівае. Пры выпечцы, а пеклі ў хаце хрышчонай маці, звычайна спявалі песню:

*Ой, каравай, наш каравай,*
*Ты вялікі вырастай,*
*Як зярняткі, узрастай,*
*Сокам жытнім налівай,*
*Памагай ты маладым,*
*Каб жылося добра,*
*Каб вялося добра,*
*І ў хаце, і ў хляве, і ў чрэве...*

У той дзень, калі адбывалася свадзьба, да нявесты прыходзілі сяброўкі наражаць яе. Потым нявесту благаслаўлялі бацькі. Першым благаслаўляў бацька, а маці з маладой галасілі. Маці, бо было шкода вольнага жыцця дачкі, а маладая баялася невядомага. Потым бацькі налівалі чарку суседкам, якія дапамагалі гатаваць ежу, а таксама сяброўкам маладой. Малады прыязджаў дзесьці ў абед ці крыху раней. Сяброўкі наражалі коней і павозкі кветкамі, гірляндамі, і маладыя ехалі вянчацца. Малады ехаў разам з сябрамі, маладая з дружкаю следам за ім у наступнай павозцы. Бывала, і часта, што па дарозе пачыналі абганяць адзін аднаго. Пасля царквы звычайна ехалі да маладой, дзе яе бацькі сустракалі з караваем. Малады з маладою выпівалі па чарцы, адкусвалі каравай і садзіліся за стол.

Спачатку да свайго месца ішоў малады, потым маладая, сяброўкі і сябры і, нарэшце, усе астатнія госці. Асобна ставіўся стол для старых і пажылых людзей. Дзеля свадзьбы нанімаўся чалавек з гармонікам, які за жыта ці за што іншае граў на вяселлі. Першую чарку падносілі да маладых, потым усе астатнія віншавалі іх.

Ужо ноччу сват пачынаў дзяліць каравай. Каравай першым павінны былі браць бацькі маладых, потым хрышчоныя бацькі, блізкія родзічы і ўсе астатнія госці. За стол садзіліся тры разы. На першы стол падавалі халодную закусь, на другі – усё мясное, а на трэці – салодкае. Дзесьці каля трох гадзін усе адпраўляліся па дамам.

Назаўтра свадзьба спраўлялася ў маладога. Над галовамі маладых увесь час павінна была вісець ікона.

На трэці дзень у хаце маладой спраўляліся крошкі. Лічылася, што гэта ўжо маладая хазяйка частуе гасцей.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Грышкевіч Надзеі Сцяпанаўны, 1921 г.н.***
***(перасяленка з в. Малевічы Жлобінскага р-на)***

Найшоўшы сабе дзяўчыну, хлопец ідзе да бацькі і кажа, што ён хоча жаніцца.

Каб паглядзець на будушчую жонку сына, бацька разам з кумам і сватам йшлі ў сваты.

У сваты йшлі ў суботу вечарам. Заходзілі ў хату яны з такімі словамі: “Добры вечар вам у хату!” Бацькі дзяўчыны адказвалі: “Добры вечар добрым людзям”. “Кажуць, у вас тавар есць, а ў нас жа есць купец!” – кажуць сваты. – “Дык прахоцця, мо згаворымся”, – адказваюць хазяева.

Пакуль маці дзеўчыны накрывае на стол угашчаць сватоў, тыя глядзяць на чысціню ў хаце. Калі ім спадабалася, як вядзе хазяйка хазяйства, то яны садзяцца за стол, частуюцца і абгаварваюць дзень, месца і колькасць людзей на свацьбе.

После сватання хлопец купляў кольца, а нявеста шыла белае плацце. У гэты час у бацькоў свае заботы. Яны думаюць, чым угашчаць гасцей на свацьбе. Хто б’е парася, хто цяля, збіраюць яйкі, гоняць гарэлку і г.д.

У суботу перад свацьбай у жаніха і нявесты была зборная субота. Жаніх сабіраўся ў сваёй хаце, а нявеста – у сваёй. Хлопцы гатовілісь да сваццбы: наражалі коней ці машыну прыбіралі. Садзілісь за стол, елі, выпівалі. Так хлопец прашчаўся са сваёй халасцяцкай жызняй.

У хаце дзеўкі сабіраліся сёстры, падругі. Яны гатовілі нарад нявесты. Дзелалі цвяточкі для жаніха і нявесты, гатовілі галаўны ўбор і расплятали ёй касу. Пры етым яны пелі сумныя песні, у якіх прашчаліся са сваёй падругай, што выходзіла замуж.

У назначаны дзень жаніх са сваімі роднымі і друзямі едуць па нявесту. Жаніх выбірае сабе старшага друга – шафера, які і выкупае нявесту ў старшай падругі нявесты.

После выкупа ехалі ў сельсавет і рэгістрыравалі брак.

После сельсавету іх ждалі с хлебам і соллю дома бацькі нявесты. Каля хаты яны рассцілалі тканую дарожку, на якую станавіліся маладыя. Перад уваходам у хату яны цалавалі ікону, частаваліся хлебам і соллю, мёдам. А яшчэ мёдам угашчалі ўсіх маладых, якія былі на свацьбе.

После таго, як бацькі маладых абсыпалі пшаніцай (для ўдачы ў жыцці), усе йшлі за сталы. Первую чарку выпівалі за бацькоў маладых і для іх пелі песні, а патом йшлі танцаваць пад гармонік.

Калі садзяцца за трэці стол, трое незамужніх дзяўчын, падняўшы каравай уверх, нясуць яго да маладых. Яны ідуць, кружацца і гаворацць тры разы: “Ацец і маць, благаславі каравай несьці”. Бацькі адказваюць: “Благаслаўляем”. Тады каравай, які спекла замужняя жанчына, ставяць

перад жаніхом і нявестай, але яго дзеляць не маладыя, а хросныя.

Першыя паздраўляюць і бяруць каравай бацькі, а патом усе госці. Нявеста адорвае ўсіх блізкіх, родных жаніха падаркамі. После таго, як падзялілі каравай, усе выходзяць з-за стала пець і плясаць. Песні пелі разныя, напрымер, пра ружу-кветку.

*Ой, сарву я ружу-кветку*
*Дай пушчу на воду.*
*– Плыві, плыві, ружа-кветка,*
*Дай да самога броду.* (2 р.)
*Плыла, плыла ружа-кветка*
*Дай стала кружыцца.*
*Выйшла маці воду браці*
*Дай стала дзівіцца.* (2 р.)
*– Ой, пі, маці, ту вадзіцу,*
*Што я нанасіла,*
*Любі, маці, таго зяця,*
*Што я, што я палюбіла.* (2 р.)
*– Ой, не буду вады піці,*
*Буду разліваці,*
*Не буду зяця любіці,*
*Буду, буду забываці.* (2 р.)

Маці жаніха завязвае платок нявестцы, а сват гавора, каб нявестка сабіралася ў дом жаніха. Пры выхадзе з хаты радзіцелей і пры захадзе ў дом жаніха нявеста даўжна пакланіцца перад парогам тры разы.

На следушчы дзень да іх прыязджаюць бацькі нявесты, а за імі ўсе госці. Са стараны нявесты пажылыя людзі перадзяюцца і ў маладых, і ў цыганей, і ў каго толькі хочаш. Перадзетыя маладыя, як і перадзетыя цыгане, ходзяць па гасцям і збіраюць, хто што дасьць.

После яны пляшуць і пяюць песні. Так гуляюць да вечара. После таго, як усе госці расходзяцца, маці нявесты прыглашае чэраз нядзелю маладых на бліны.

**_Запісана ў в. Мормаль Жлобінскага р-на ад Шабека Людмілы Фёдараўны, 1927 г.н., студэнткай Аўсяннікавай С._**

Сват кажа: “Добры вечар, добрыя людзі”. А ўжо калі песні начынаюць спяваць, трэба сказаць: “Ішла я ды з вячурачак, ды загубіла свой пачыначак”. Сядаюць за стол. Каравай бярэ дружок. Хто жыто под каравай клаў, калі было пасвяцоное, дык пасвяцоное, няма етого – ето і серыя копейкі, а не белыя і накрываецца полоценцэм каравай. Дружок каравай вешае на сябе, нясе, а музыка грае, а мы спяваем:

*Да дружок каравай нясе,*
*Да дружок каравай нясе,*
*Каблукамі крышэ.*
*Ой, крашы не крашы,*
*Нам караваю дасць.*

Прыйшоў дружок, ужо каравай трэба ставіць. Просіць богословення: “Оцец, маць, богословіце на каравай”. 1 раз, 2 раз і 3-ці раз. І ён ставіць каравай, а тады ўжэ спяваюць усе астатнія:

*Рано да рано,*
*Да на высоком бору,*
*Рано да рано,*
*Да стояць дубовы столы.*
*Рано да рано,*
*Да што на тых столах стоіць?*
*Рано да рано,*
*Да каравай стоіць.*
*Рано да рано,*
*Да сем крыніц водзіца.*
*Рано да рано,*
*Да сем палёў пшаніца.*
*Рано да рано,*
*Да сем кароў масліцо.*
*Рано да рано,*
*Да сем ку;´раў яйцо.*
*Рано да рано,*
*Да пора дружку каравай кроіці.*
*Рано да рано,*
*Да пора дружку каравай кроіці.*
*Рано да рано,*
*Да дружок на базаре не бываў.*
*Рано да рано*
*Да ножа не куповаў.*

Дружок адказвае:

*Рано да рано,*
*Дружок на базаре бываў.*
*Рано да рано,*
*Да ножа куповаў.*

Спеў тры разы, што ён кажа купіў: “Оцец і маці, богословіці каравай начаці”. І тры разы. Так начынаецца ў нас каравай. Дзелят по отдзельно ў каждого. Подзеляет той коровай. На двоіх рогах (углах) яе родня становіцца, а на двоіх рогах яго родня ўчатырох і кажуць:

*Дзе ж твая, Наташка, маці?*
*Дзе ж твая, Наташка, маці?*
*Дзе ж твая, Наташка, маці?*
*Час пора завіваці.*

Адказвае:

*Да пошла маць туды нішчэ.*
*Да пошла маць туды нішчэ.*

*Пошла, куды вечар чышчэ.*
*Ой, дай, мамко, масло.*
*Я ж кароўку пасла.*
*Ой, дай, мамко, масло.*
*Я ж кароўку пасла.*

На стуле платок ляжыць, каб завіваць, бярэм етого платка, становімся ды спяваем:

*Мы цябе, Наташко, завіваемо,*
*Шчасцем, долею надзяляемо.*
*Ой, будзь богата, як зямля,*
*Ой, будзь здорова, як вода,*
*Ой, будзь прыгожа*
*Да старасці, як ружа.*
*А Сярожку маці родзіла,*
*Месяцам обгородзіла.*
*А зарою падперазала,*
*Нам дорожку ўказала.*

Праспявалі ета мы, расказалі, а потом ужо і кажам: “Оцец і маці, богословіце з молодою вянка зняці”. Нам отвячаюць тры разы: “Богославляем”. Каля камянка вісіць Бог, на тога Бога вешаем вянка, а яе платком завязваем ды спяваем:

*Ой, што мы схоцелі,*
*Тое ж мы зробілі:*
*З дзеўкі молодзіцу.*
*Мы цябе, Сярожка, подмонілі:*
*Са старой бабай посадзілі.*
*А ў нашага свата,*
*А ў нашага свата*
*Да харошая хата:*
*Печ у яго малёваная,*
*Печ у яго малёваная*
*І чэсць яго кохана.*
*Да судзі ж яму, Божа,*
*Да судзі ж яму, Божа,*
*Да сыноў жаніці,*
*Да сыноў жаніці,*
*Дочак отдаваці,*
*Нас на вяселле зваці.*

Нам трэба да дому ад’язжаць, ды мы кажам:

*Да свістом, коні, свістом,*
*Свістом, коні, свістом,*
*Штоб не прыпалі мы лістом.*
*Бягом, коні, бягом,*
*Бягом, коні, бягом,*
*Штоб не прыпалі мы тут снегом.*

Як прыязджае молоды да молодое, зразу ў нас просіць, штоб пусцілі яго за стол. А дзеўкі сядзяць у нас, спяваюць песні. У маладой песня спяваецца:

*Да хадзіла Наташко*
*Да по саду,*
*Да заблудзіла ў вінограду.*
*Хто ж мяне найдзе ў вінаграду,*
*З тым я сяду на пасаду.*
*Пайшоў бацько,*
*Не знайшоў,*
*Заплакаўшы, да прыйшоў.*
*Дочка моя роджаная,*
*Да кому ж ты суджаная?*
*Да ходзіла ж Наташко*
*Да по саду,*
*Да заблудзіла ў вінограду.*
*Хто ж мяне найдзе ў вінограду,*
*З тым я сяду на пасаду.*
*Пойшла матуля,*
*Не знайшла.*
*Заплакала, дый прыйшла.*
*Дочка моя роджаная,*
*Да кому ж ты суджаная?*
*Да ходзіла Наташко*
*Да по саду,*
*Да заблудзіла ў вінограду.*
*Хто ж мяне найдзе ў вінаграду,*
*З тым я сяду на пасаду.*
*Пайшоў Сяргейко*
*Да знайшоў,*
*Да за ручэньку дай прывёў.*
*Она ж моя роджаная,*
*От мене ж ты суджаная.*

Там у нас спяваюць ужо матцы:

*Закідай, мамко, дрова,*
*Закідай, мамко, дрова.*
*Оставайся здорова.*
*А ты, свякруха, мо трэсні,*
*А ты, свякруха, мо трэсні,*
*Дажыдайся нявесткі.*

Молоды должан цёшчы чобаты купіць, а нявесце – начнушку. Яна з чобатамі:

*За етыя чобаты,*
*Што аддаў,*
*За етыя чобаты,*
*Дачку ўзяў.*
*Чобаты, чобаты вы мое,*
*Наробілі клопату*
*Вы мяне.*
*Да постаўлю чобаты*
*На віду.*
*Да поперак укладзейку*
*Давяду.*
*Чобаты, чобаты вы мае,*

*Наробілі клопату*
*Вы мяне.*

Вот так у нас канчаўся каравай.

***Запісана ў в. Радуша Жлобінскага р-на ад Дземідзенка Кацярыны Міхайлаўны, 1924 г.н., студэнткай Скобелевай Т.***

**ЗАПОІНЫ**

Хата маладой. У хаце стаяць услоны, стол, ложак з падушкамі. У хаце находзяцца гаспадыня, гаспадар, старэйшая дачка, сярэдняя і меншая дочкі, суседкі, сяброўкі старэйшай дочкі, блізкая радня. Гаспадыня прыносіць ручнікі і палатно.

Гавораць між сабою гаспадар з гаспадыняй:

Гаспадар:

– Цяпер у нас запоіны, зараз першу дачку аддамо, то гэта добра, і не знаю, што рабіці, да чаго рукі прыкласці. Памажыце хоць з падарункамі разабрацца.

Гаспадыня:

– Паможам, хто маладзейшы, той хай падарункі ладкуе, а я што-небудзь на стол паднясу.

Гаспадар:

– Але, нешта доўга сватоў няма. Можа яшчэ пойдуць да Кацярыны. За яе ж бацька дае паўдзесяціны поля, а я за сваю – чацвёртую частку.

Суседка (1):

– То ж Кацярына ў бацькі адна, а ў вас аж трое дачок.

Суседка (2):

– Напэўна, з красаты вады не піці, а з гаспадыняю трэба жыці.

Суседка (1):

– Не пуражывай, Насця (гаспадыня), тваe дочкі харошы, забяруць і без грошай.

У хату ўваходзяць малады, яго бацька і маці, старшы сват, малодшы сват, хросны, брат маладога. У свата ў руках хлеб і бутылка водкі. У маці карзіна.

Старшы сват:

– Добры вечар у хату!

Малодшы:

– Добрага здароўечка!

Старшы:

– Нешта вас багата сабралася.

Гаспадыня:

– Добрых людзей у добрую пару чакаем.

– Мы прыйшлі ў вашу хату, прынеслі вам вестку добрую і багатую. Мы прыйшлі да вас усёй сям'ёю, каб вы нам сталі раднёю. Вось сваты, жаніх, бацька і маці, просім вас наш хлеб прыняці.

– Мы ваш хлеб бяром, а вас за стол завём. Сядайце, сваточкі, за стол, за сталом будзем весці разгавор.

Старшы сват, ідучы да стала, прыпадымае кухра: "Цяжкі кухар".

Гаспадыня гаворыць:

– Кухар поўны, мая дачка не лянівая, да работы руплівая.

Усе садзяцца за стол. Жанчыны спяваюць:

*Наляцелі арлы да калодзежа,*
*Чулі яны, што вада халадна.*
*Наехалі сваты да Алесі,*
*Чулі яны, што работніца ды красавіца.*

Гаспадыня гаворыць:

– Частуйцеся, дарагія госцейкі, жывём мы з запасам і частуем вас мёдам і салодкім квасам.

Жанчыны спяваюць прыпеўкі:

*Колі піці, то піці да дна,*
*Колі спаці, то да дня.*
*А хто мяне верна любіць,*
*Той мяне прыгалубіць, душачка мая,*
*Ой, чарка мая, палова солі,*
*А хто гэту чарку вып'е, той будзе вясёлым.*

Старшы сват гаворыць брату маладога:

– Добры квас.

– Не хвалі разліўшы, а хвалі распіўшы.

Старшы сват, выпіўшы квас, гаворыць:

– Квасок халодны, як лядок, а салодкі, як мядок.

Гаспадыня гаворыць бацьку:

– Частуй, бацька, гасцей, а самаму трэба не выпіваці, а гасцей частаваці. А вы яму, жанчынкі, песню заспявайце.

Жанчыны спяваюць песню:

*За сенечкамі, за дзверачкамі*
*Гаварыла Алесечка з дзяўчатамі:*
*– Дзяўчаты мае, сястрыцы мае,*
*Мой татачка п'е, мяне прапівае,*
*Ды ні аб чым не дбае.*

Тады старшы сват гаворыць жанчынам:

– Жоначкі, галубачкі. Праспявалі, як зязюля ў садочку пяе. А дзе ж маці і бацька, просім іх дачку паказаці. Бо мы прыйшлі сарваць кветку, што цвіце зімою і ўлетку.

Гаспадыня звяртаецца да жанчын:

– Вы, жанчынкі, ідзіце і дзеўку прывядзіце.

Жанчыны вядуць маладую і спяваюць песню:

*Чырвона, чырвона да каліна ў лузе,*
*А Алесечка ў бацькі найпрыгажэйшая,*
*Па двару хадзіла, увесь двор упрыгожыла,*
*За стол села, як ружа спелая,*

*За ёю дзяўчаты да ў тры радочкі.*

Дзяўчаты звяртаюцца да сватоў:

– Добры дзень, сваточкі! Я вам дзеўку прыняла, як трэба, то за стол пасаджу, а як не трэба, то назад павяду.

Старшы сват адказвае:

– Мы ж за гэтым і прыйшлі.

Малады:

– Я ж яе і забяру, бо я з малых гадоў яе люблю.

Старшы сват звяртаецца да маладой:

– А што наша маладая скажа?

Маладая:

– Як без сонца няма святла, так без мілага няма жыцця. Я за яго пайду, бо я яго люблю, – і падае жаніху платок.

Маці маладога:

– Як сыну падабаецца, то і нам добра. – Налівае квас сабе і маладой і гаворыць:

– Як я цябе не ведала, то і нявесткаю не звала, а як цябе пазнала, то і нявесткаю назвала.

Маладая адказывае:

– Як я вас не ведала, то і маці не звала, а як вас пазнала, то і маці назвала.

Потым маці з маладою стукаюцца, выпіваюць, цалуюцца тры разы, маці жаніха завязвае маладой хустку.

Бацька жаніха:

– Як я цябе не ведаў, то і нявесткаю не зваў, а як я цябе пазнаў, то і нявесткаю назваў.

Маладая адказвае:

– Як я вас не ведала, то і татом не звала, а як я вас пазнала, то і татом назвала.

Затым разам стукаюцца, выпіваюць і маладая садзіцца побач з жаніхом. Жанчыны спяваюць песню:

*Да запіта наша Алесечка, да запіта,*
*Шоўкам яе хустачка вышыта.*
*Той, хто хустачку дараваў, дараваў,*
*Той яе і запіваў, запіваў.*

Потым гаворыць сваха:

– А малады наш сур'ёзны сядзіць, не гудзі, муха, каля вуха. Жанчынкі, давайце яго развесялім і яму песню заспяваем.

*Ой, хацелі мяне замуж аддаці,*
*Не было ў бацькі мне пасага даці.*
*Ой, ты пасаг самы, як у садзе вішня чырвона.*
*Пачалі дзяўчаты ручанькі вязаці,*
*Пачала дзяўчына ўсю праўду казаці:*
*У мяне пасага няма,*
*Возьмуць мяне і так людзі.*
*Ой, ты пасаг самы, як у садзе вішня чырвона.*

Бацька жаніха гаворыць:

– Вось, сват, і пра пасаг праспявалі, а што за дачкою дасі?

– Так сваё дзіця не аддам, дам поля, карову і авечку, а далей няхай пражываюць ды самі сабе набываюць, – адказвае бацька маладой.

– А яшчэ дам скрыню, пярыну і дачку-княгіню, а якая ж добрая мая дачка, што чырвона ружа ў садочку, – дадае гаспадыня.

– А я не за пасагам прыйшоў, а за жонкаю, – гаворыць жаніх.

– Думаеце, тых бяруць, што пасаг даюць, і тых забіраюць, што любяць ды кахаюць, – дадае адна з жанчын.

Жанчыны спяваюць:

*Маладая Алесечка русу касу чэша*
*Ды на ціхую ваду нясе.*
*Плыві, плыві, мая русая каса,*
*Прайшла ўся мая дзявочая краса.*

Бацька жаніха і маладой гавораць між сабой:

– Так давай, сват, гаварыці, калі вяселле будзем рабіці.

– Адклад не ідзе на лад, я думаю, у другую нядзелю пасля Каляд.

– А за Піліпаўку добра прасьці і ткані ды падаркі складаці, – гаворыць маці маладога.

Сваха звяртаецца да гаспадыні:

– Дачку замуж аддаці – трэба не адну ночку не даспаці.

Гаспадыня гаворыць жанчынам:

– Хоча сваха, каб панавязвала, – і потым звяртаецца да сватоў:

– Ах, сваточкі, панавязваю, я гэтага дня чакала і падарункі прыгатавала.

Жанчыны спяваюць:

*Выбегла мурашачка, вынесла падаруначак.*
*Тоненькі, роўненькі, як папера беленькі.*

Гаспадыня павязвае старшага і другога сватоў і прыказвае:

– Трэба першым свату навязаці, штоб нашы маладыя былі багаты, – навязвае маці жаніха і бацьку. Цалуецца са свахаю.

– А другім трэба павязаць старых, штоб не сварыліся на маладых. А табе, сваха, яшчэ хустку завязала, каб ты нашым маладым дзетак калыхала.

Адказвае маці жаніха:

– Каб даждаці, то буду калыхаці.

Жанчыны гавораць да маладых:

– Каб яны адзін аднаго шанавалі ды нас старых не забывалі.

– Штоб цераз гадок ды быў сынок, а цераз два была дачка.

– Як будуць адзін аднаго любіці, то добра будуць жыці.

Гаспадыня гаворыць да свахі:

– Вось у мяне сваха ўсю сям’ю прывяла, гэта ж мне столькі падарункаў трэба.

– Выцярпіш, дасі не багаты, а векавата.

Гаспадыня павязвае брата жаніха і кажа:

– А ты, братка, павяжыся да сам скарэй ажаніся.

– Добра было б ажаніцца, ды з такою цешчаю парадніцца, у вас дзве дачкі ё, я бачыў і адну, і другую, каб каторая пайшла, то забраў бы любую.

Гаспадыня павязвае хроснага:

– Памылку я, жанчыны, панесла, гэта ж трэба, каб хроснага першым павязаць, ён жа майго зяця ў царкве на руках дзяржаў.

– На руках дзяржаў, а цяпер падаруначка дачакаўся.

Жанчыны спяваюць:

*Полем, полем, краменцам,*
*Звязалі свацейка палаценцам,*
*Ой, за што ён звязаны?*
*Ці ў яго ў каморы спаймалі?*
*Чаго яго рушніком звязалі?*

Сваха бярэ шапку і падыходзіць да сватоў, спявае, а жонкі ёй памагаюць:

*Падзівіся, свату, на мяне,*
*Я хароша за цябе.*
*На мне каўпак шыты,*
*Прашу, сватка, доляр біты.*

Старшы сват кідае капейку. Сваха кідае капейку назад:

– Не шкадуй, сват, грошай за тавар харошы, ды ўжо вельмі не трасіся, усё роўна ты паддасіся.

Жанчыны спяваюць:

*Ой, навошта мне гэта, забяры сабе гэта*
*Ды купі сабе мыла, ды памый сабе твар,*
*Каб жонка любіла ды дзетак вадзіла.*
*Падзівіся, свату, на мяне,*
*Я хароша за цябе.*
*На мне каўпак шыты,*
*Прашу, сватка, доляр біты!*

Старшы сват ложыць грошы.

– Дзякуй вам, сватачкі, каб у вас усё вялося, пладзілася, пілося і ялося, і каб усё збылося, што вам хацелася.

– Жанкі, давайце што вясёлае заспяваем. Сваха, мы як маладыя былі, то разам такія песні спявалі. Зайграй нам, музыкант!

Спяваюць песню:

*Каб для мяне пятухі, каб для мяне куры,*
*Каб для мяне чалавек добры ў натуры,*
*Штоб ён водкі не піў, табаку не нюхаў,*
*Чужых жонак не любіў, адну мяне слухаў.*
*Як пайшла я да кума, глянула ў акенца,*
*Сядзіць мілы, чарнабровы, як ясна сонца.*
*Нясе кума пляшку, аконца пабіла.*

Старшы сват гаворыць:

– Годзе нас ужо частаваці, пусціце нас пагуляці.

Спявае:

*Ой, сваткі, мае сыраежачкі,*
*Пасаліў бы я вас, няма дзежачкі.*

Гаспадыня ў адказ спявае:

*Нашы сваты хварсуны,*
*На сямёх адны штаны.*
*У сваты сабіраюцца,*
*За штаны ругаюцца.*

Сват:

*Ой, ты, сваха мая, ты ходзь на вуліцу,*
*Прынясі мне кусок сала, жараную курыцу.*

Зноў спявае гаспадыня:

*А сват сеў на курыцу, паехаў на вуліцу,*
*Яго людзі не пазналі, усе шапкі пазнімалі.*

Сват:

*Мая сваха гопнула, на ёй спадніца лопнула,*
*Яна хацела залатаць, ды не знала як пачаць.*

Гаспадыня:

*А сват гоп, штаны лоп, гузік адарваўся,*
*А чаго ж ты, сват, да мяне прывязаўся.*

Старшы сват потым гаворыць:

– А цяпер, гарманіст, зайграй нам польку, ды няхай і маладыя з намі паскачуць.

Усе гуляюць. Другі сват гаворыць:

– Хваціць усім нам тут гуляці, нам трэба ўжо дахаты.

Жанчыны спяваюць:

Ч*асала Алесечка белы лён*
*Да гнала з хаты свацейкаў вон.*
*Ідзіце, сватачкі, з хаты вон,*
*Дайце мне дачасаці лён.*

Гаспадыня з гаспадаром падыходзяць да сватоў, падаюць бутылку, павязаную чырвонай лентаю, і пірог на ручніку. Гаспадар гаворыць:

– Дзякуй, сваточкі, што павесялілі ды нашых дзетак заручылі.

– Мы ваш хлеб бяром, а вам свой пірог даём, а ў бутылку я насыпала жыта, каб нашым дзет-

кам была добрая жытка, – дадае гаспадыня. Старшы сват гаворыць:

– Раз на бутылкі лента чырвона, то наша маладая чыста заручона. Мы гэтага не забудзем і да вяселля рыхтавацца будзем.

Сваты выходзяць з хаты.

***Запісана ў в. Рэкта Жлобінскага р-на ад Сніткова Уладзіміра Іосіфавіча, 1948 г.н., студэнткай Шайдаковай А.***

У сваты да маладой прыязджалі маці з бацькам жаніха і хросныя, а таксама браты з сёстрамі (калі яны былі). Вось яны збіраюцца і п'юць змовіны. Тады і пазначаюць цераз 2-3 нядзелі свадзьбу. Пасля гэтага пачынаюць рыхтавацца: гарэлку гоняць, прадукты рыхтуюць.

Свадзьбу гуляюць нядзелю і панядзелак (так па старінке ішло). У суботу прыяжжае жаніх з шахвярамі к маладой. Таксама збіраліся шахвяркі нявесты і гулялі з музыкай, з танцамі – называлася "вечар".

Тады ўжо маці ставіць сталы і садзіць маладога з маладой. Усе частуюцца.

Утрам прыбіраюць маладую і ўсе едуць у царкву, там павянчаліся. Потым едуць да маладога. Тут гуляюць, сядзяць за сталом, пашлі танцаваць. Паселі старыя за стол, пасядзелі. Тады завуць маладых дзяліць каравай. Пасля едуць к маладой дамой. Сядзяць, гуляюць. Маці сабірае пасцель (падушкі, адзеяла і г.д.), дае сваё благаславенне векова. І вязуць маладую да хаты маладога. За маладой едуць касянкі (старыя з боку нявесты), песні пяюць, пасцель вязуць. Маці жаніха встрячае з іконай.

У панядзелак едуць гуляць на хату к маладой. Гуляюць. Пасля грузяць шкаф і вязуць у хату к маладому. Яна ў свякрухі жыве нядзелю.

На другую нядзелю маці маладой заве ўсіх родзічаў да сябе. А на трэцюю – маці жаніха. Называліся "госці".

***Запісана ў в. Шыхаў Жлобінскага р-на ад Ганжуравай Раісы Міхайлаўны, студэнткай Удодавай Н.***

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

### На двары

*На двары ўжо цямнеецца,*
*Дзень канчаецца, вечарэецца.*
*Сонейка знікае,*
*Дзявочы век убягае.*
*Каса расплятаецца,*
*Русы валасы рассыпаюцца.*
*Ох, і цяжка мне на чужой старонушке,*
*Будзе цяжка ды не соладка*
*Без маёй матулечкі,*
*Без майго татулечкі.*

### Родны ты мой

*Родны ты мой брацік!*
*Куды ты мяне абуваеш?*
*Куды ты мяне адзяваеш?*
*Абуваеце мяне, адзяваеце*
*У далёкую старонушку,*
*К чужой матулечке,*
*К чужому татулечке.*
*Ах, ці я не работніца?*
*Ах, ці я не заботніца?*

***Запісана ў г. Жлобін ад Баранавай Надзеі Уладзіміраўны, 1932 г.н., студэнтам Давыдавым В.***

Хадзілі ў сваты вечарам і звычайна толькі мужчыны: бацька хросны, бацька родны, жаніх ішлі. Бяруць з сабой каравай, гарэлку. Калі сваты жаданыя, то хросная маці нявесты абвязвае іх рушнікамі. Калі сваты нежаданыя, то звычайна ветліва адказваюць або кладуць на стол гарбуз і каравай не прымаюць. Бацькі дагаварваюцца аб вяселлі.

Маладых садзяць на дзяжу, каб жылі багата. У маладой расплятаюць касу і завязваюць хустку. Увесь час прысутныя спяваюць песні.

Каравай пячэ шчаслівая, удачлівая, здаровая жанчына, каб жыццё маладых было шчаслівым.

Існаваў такі звычай, што калі выходзіць замуж цяжарнай, то ў час вяселля яе маці адзявалі хамут і запрагалі ў сані за тое, што не зберагла дачку.

Дзеліць каравай толькі хросны. Спачатку да караваяя запрашаюць родных, а потым знаёмых, блізкіх, сяброў.

Існавалі розныя звычаі сустрэчы маладых: сустракалі бацькі з хлебам-соллю, іконай, а таксама трымалі ў руцэ і перадавалі маладым звязаны букет з кветак, калосся, каб добра, дружна жылі, абсыпалі маладых манетамі і цукеркамі, каб жылі салодка і багата.

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

*Прыехаў сват*
*Ды і хваліцца, што ён багат:*
*– Маю чатыры гумна, малацілку,*
*Дзве лаўкі і мельніцу.*
*Паедзем паглядзеці,*
*Як наш сват жывеці.*
*Глядзім мы, а ў нашага свата*
*Ня крытая хата,*
*Няма ні клеці, ні павеці,*
*Недзе кубла дзеці.*

* * *

*Прапою, прапою,*
*Прапіў бацька дачку.*
*На салодкім мядочку,*

*На горкай гарэлцы,*
*На белай талерцы.*
*Не абіжайцеся, сваточкі,*
*Што кароткія платочкі.*
*Бог не ўгадзіў,*
*Лён не ўрадзіў,*
*Сватам платочкі пакараціў.*
*Маці стара, дачка мала*
*Усю жызнь прагуляла,*
*Сватам платочкаў не наткала.*

* * *

*Добры дзень, добрыя людзі!*
*Мы да вас.*
*Ці заляцела наша галачка ўчора*
*Да вас?*
*– Заляцела, але ж не ўзяці вам!*
*Ды дайце нам.*
*– Не будзем пёрачкі рваці,*
*А будзем у госці да вас пускаці.*
*Прыйдзе да вас у гасціну,*
*Навяжам хлеба ёй хусціну.*

* * *

*Сіне мора грала,*
*Там дзяўчына ваду брала,*
*Ваду брала,*
*У свой край пазірала:*
*– Ці не будзе хто ехаці?*
*Так спытаю татачку,*
*Ці я сюды запрададзена,*
*Ці дарам аддадзена.*
*Хай прыедзе мяне выкупляці.*

***Запісана ў Жлобінскім р-не***

# Жыткавіцкі раён

## СВАТЫ

Колісь маці дочцэ после дваццаці годоў казала: “Ты мне ўжэ не сем’янін”. У пост не гулялі вяселляў, на масленай нядзелі, і ў Пятровіцу – не. Само на Троіцу – чотыры святых дня. По лету на Петра навек рабілі вяселле, на жніво. От Роздва до Крэшчэння – не. Которые хочуць жэніцца, то ек Крышчэнне да ў цэркву пойдуць ці коньмі поедуць на Ёрдань, дзе воду свецяць. Дзеўкі поўхорошваные стануць на беразі, берагвусокі. А хлопцы на лёду, коло крэста вугледаюць. Да вугледзяць да ўжэ ідуць у сваты, ек святое воды коўценуць, послі Крэшчэння.

У нядзелю ходзілі. Йдзе вон, маці й бацько, і хросных шчэ беруць. Бацько пірога несе ў вереньцы, а то і ў торбі. Обматаны рушніком пірог. І пляшку гарэлкі ці квасу несе. У хату заходзяць: “Дзень добры. Прышлі к вам куповаць цялушку”. А хатніе отказваюць: “Е цялушка маленька. Таку мо не й захочэце”. А тыя: “Чого? Дзеўка е ў вас. Ек на дзелечко охочая да оддасце, то годоваціме”. А хатніе: “Е дзеўка ў нас, глядзеце. Ек наравіцца (ек хороша вам), то седаймо да поговорэмо”. Такое шо-небудзь кажуць, сядаюць за стол да ўжэ договораюцца.

Путалі ж і дзеўкі, ці пойдзе. От ек договораюцца, то тые кажуць: “Цяпер ужэ наша дзеўка”. Да вуп’юць з тое пляшкі кажнэ по чарцы да пірогом тым закусяць. Да пойдуць сваты з хлопцэм. Шо останецца, на поліцу ставяць. З некім другім разом шчэ вуп’юць да закусяць. Ек не договораюцца, то сваты пірога і пляшку не несуць. Дзеўка назаўтра ці позаўтра относіць. Ці ека друга дзеўка.

Пры нашых дзедох не ходзілі молодые ў сваты. Ек у другом селе дзеўка, то вона не знае, за кого йдзе, а той не ведае, кого бярэ. Прывядуць молодого на запоіны, не знае, котора молода. Его не путалі і дзеўкі не путалі.

## ЗАПОІНЫ

А ўжэ ў ту суботу ўвечар у ее запоіны. Запівалі дзеўку. Людзей не багато було, роднейшые которые. Да хросные, да старшы маршалок, старша дружка. Сталоў тры-чатыры ўсіх. Зноў і з пірогом, і з гарэлкою йдуць. Занесуць яе больш, у пляшках, ці ў барылі, ето ж запоіны. І кусок сала неслі. Его гарэлка перва, ее потом.

Молоды коло молодое садзіўса. Песён багато спявалі, только не вясельные. Молода дарыла наметкамі, полотном. Сама ткала к вяселлю. Полотно, полотно колісь давалі! Колісь краму етого не було. Вон буў, але ж не було грошай яго купіць. Ек расходзіліса, то спевалі:

*На заручынах булі*  
*Да гарэлачку пілі.*  
*Гарэлачка солодзенька,*  
*А дзевочка молодзенька.*

Дружкі прыдуць на запоіны, помераюць молодого да, ой, цэлы тыдзень шыюць! Трэ ж нашыць п’яцеро сорочок да п’яцеро штаноў, сподне. Да дзежаўку, да шчэ мо. І перкалёву ж сорочку. Молода сама нашывала – на пазухі, коўнерыкі, чохлы.

Венка молодой робілі. Скруцяць дроціну. З бумагі ўсякого цвету шышкі зробяць да на яе чэпляюць. Ленты чырвоные, вішнёвые, голубовые. Навешаюць іх. Бувало, дроціну з шышкамі куповалі готову. Да багато дзевок пользуюцца. А ленты свое вешалі. Дружкі вешалі.

Колісь дзяк з Пасекі жонку браў да ў капліцы погосцкой венчаўса. То на ёй венок з цветочкамі, як на церну. І лісцейко зелёнэ, і белэ, больш ніякого.

Молодого маці з госцінцэм ходзіла к молодой серэд тыжня. Ето ўжэ у чацвер ці ў п’ятніцу, проці вяселля. Пірога рушніком обмотае. Шчэ там якого м’яса зварыць, рыбу ці шо ўжэ там. Холоднэ, пампушок спечэ. І молодой несе, на плацце мо. А та ўжэ свойго подарка дасць – наметку ці полотна отрэжэ.

У п’ятніцу строяцца кажнэ к своёй беседзі. Вараць, пякуць. П’ятніца-почынальніца, казалі.

## СУБОТА-КОРОВАЙНІЦА

А субота ето ўжэ коровайніца. Коровай пякуць. На Тройцу – то первого дня пеклі, у нядзелю, а так у суботу ўвечар, перэд нядзелею. От поснедаюць, сонцэ трохі вушэй да старша коровайніца прыдзе. Рошчыніць у дзежцы да домоў пойдзе. Жытнім рашчынялі. Упорану – не, прокісне ж до вечора. Ек не ўдова, то хросна маці была за старшу коровайніцу.

Под вечор молода ідзе по хатах, трэ ж на коровая і на вяселле позваць. Ек ідзе на Тройцу, людзей на селе, то ўсіх борукаецца. Дзве дружкі з ёю шлі, старша – сперэду, а друга – ззаду. Шоб не молода дзверы отчыняла й зачыняла – а дружкі. Воны стояць коло порога, а молода подыйдзе да й борукаецца: “Прыдзеце на коровая”. А та ўжэ хрысціць ладонею: “Шчасце, долю і век доўгі”. Котора кожухом накрые. Наборукаецца. На вяселле звала, то не борукаталаса і не хрысцілі яе. Сусед на коровая звала з кажное хаты, своіх і так екіх жонок. Дзевок – не. І от молодого звалі, яго дружкі, вона не йшла ў его хату. К ёму на коровая мо сястра е, мо хто там, дзеўкі звалі. Вон не ходзіў.

От подояць короў, устрояцца да ўжэ на коровая йдуць. Сонейко на нізу, як у полету. І ўдовы шлі, ек звала, только воны коровая не пеклі. От его к ёй прыдуць там брацiха, сястра, да ўжэ к ёму от ее йдуць, прыглашоные которые. Кажнэ нясе місу мукі, на муку дзве ейцэ ці кусок сала покладзе.

Старша коровайніца месіць цеста з пшанічнай мукі. Сыроводкі лье ў цесто, яец, шчэ чаго там. Да возьме двома рукамі з дзежкі да на стол да й качае. Одзін раз брала. Коровая робіць. Да й сяваюць коровайніцы:

*Ніхто не ўгадае,*
*Шо ў нашом да короваі:*
*З трох нівок пшаніца,*
*З трох бочок мучыца,*
*З трох рэчок водзіца*
*І дзве кваскі масла,*
*А трэцяя – доля шчасна.*

І коровайніцы цесто з дзежкі бяруць помало, да дна дзежку вускрэбуць. Шышкі роб'яць. Вуплетаюць, качаюць. Накачаюць, ек кулачок, кругленькіе. І баранкі робілі. Цестом пооблепваюць хусткі одна другой, смяюцца. Дома обцiралі хусткі, на коровае не. Да спеваюць:

*Нашы коровайніцы п'яны*
*Да ўсё цесто покралі,*
*По кішэням да поховалі.*

Ека свечку на коровая сучэ хросны бацько, свецёлцы свечку сучэ, веліку. Шоб не ўдовец буў бацько хросны ці брат, але шоб мужчына. У сад ідзе да з яблуні розкі вурэзвае, тры, кажна з трома ролцамі. А хто, бувало, адну з трома ролцамі, а дзве розкі з двома. Прынесе, да ўжэ коровайніцы на іх цесто матаюць, матаюць скрозь до конца і знізу цестом облепваюць.

І печ топілі. Тры разы закідалі дрова. Перву раз – бярэмок, шоб жа быў. Згорацц етые – дзветры полені ўкінуць. Зноў агонь у печэ… Старша коровайніца ўжо коровая зробіць. Круглы, вялікі. Стаканом кружкі на ём поробіць, ладонею крэст. От прочахне печ да ў ее розкі садзяць. Прыпекуць, выймуць. Да така ўжэ песня гучыць коровайна:

*Прачыстая Маці,*
*Прыдзі к нашай хаці*
*Веселле зачынаці,*
*Коровая ў печ сажаці.*

Да хросна маці бярэ лопату, сцены ею хрысціць, адну сцену на поўнач, у порозі – другу (на поўдзень), дале з вокнамі – трэйцю (на ўсход), дале – чацвёртую (дзе печ). Которые, то хрысцілі перэдпечне окно і дзверы, больш – не. На лопату жыто сыплюць, шоб жытка ў молодых добра була, хмель, шоб дзеці вяліса. Коровая хросна маці клала з стола на лопату. Да ішлі до печэ. Коровайніцы да йдуць, сяваюць:

*Наша печ крокочэ,*
*Коровая хочэ,*
*А прыпечок коловаецца,*
*Коровая спадзеваецца.*
*А коровай ножкі гібле*
*Да до печонькі дыбле.*

Заспеваюць:

*Благословi, оцец і маці,*
*Благославі, уся родзіна ў хаці,*
*Коровая ў печ саджаці.*

Да ўсадзіць хросна ў печ, на чэрэн, очэлье заслонкою закрые. Да ўжэ молоду по голове лопатою тоею б'е, тры раз біла. І молодого білі. Б'е й прыказвае: "Дай, Бог, шчасця". А ека прыказвала: "Ето на сына, ето на дочку". Да колько разоў ударыць, то ето шоб столькі дзяцей у яе було. Да ўжэ будуць стола муць, то сяваюць:

*Мішу, наш Мішу,*
*Да нальёмо воды ў місу,*
*Да будом ручкі муці*
*Да на вішэнькі ліці,*
*Шоб вішэнькі розвіваліса,*
*Шоб молодые красоваліса.*

Змуюць тэ цесто й муку, вуцеруць стола. У сад пойдуць да лінуць там ету воду под яблыню ці там под грушу. Да ўжэ йдуць з сада, сяваюць:

*Мы на сад воду носілі,*
*Соловейка просілі:*
*– Леці, соловей, з намі,*
*Ужэ коровая згібалі.*
У хату зайдуць, заспеваюць:
*Му на сад воду носілі,*
*То ж му дзело зробілі.*
*От то ву это знайце,*
*Нам гарэлочкі дайце.*

То ўжэ за столы саджаюць коровайных, столоў тры ці чатыры іх назбіралосо. Квас п'юць, трохі гарэлкі хто коўцене. Мало тое горэлкі колісь було. Едзяць, гомоняць. После песню коровайну заспяваюць коровайніцы:

*Наша печ пошпаклёвана,*
*У серэдзіні помулёвана,*

*На золотых стоўпах стоіць,*
*У сярэдзіне коровай сядзіць.*

Два часы седзіць коровай у печы да вуймаць трэ. То ўжэ спяваюць:

*Ох, у печэ коровай гічэ,*
*Коровайнічок клічэ:*
*– Дзе ж нашы коровайночкі,*
*Дзе ж нашы недбайночкі?*
*Ці на меду да запіліса,*
*Што про мене да забуліса?*

З-за сталоў выходзяць, до печы йдуць. Маці хросна коровая з печы вуйме да кладзе на веко з дзежкі, шо цесто рошчыняла. То ўжэ така песня:

*Жаловаўса коровай свечы:*
*– Ой, буў жэ я ў печы,*
*Засмаліў плечы.*
*Ой, коб жэ сыр да масло,*
*То б усё етэ згасло.*

Да мажуць короўячым маслом, шоб блішчэў. Старша коровайніца берэ веко з короваем да по хаці ўкружкі нясе – у одзін бок, у другі бок. Коровайніцы за короваем ідуць. Да за веко одноею рукою дзержацца. Спяваюць:

*Коровай клубком, клубком,*
*Под зелёненькім дубком*
*Да у чысценьком полі,*
*Да на вороненьком коні.*

Ставяць коровая на столе коло вугла, дзе вісіць вобраз.

Шышэчкі ў печ послі коровая саджалі, баранкі. Воны хутко пекліса. Шышкі пеклі ячныя, з картопляў, абу-екія тые шышкі, шо іх есці не можна. То, што на коровае, кладуць ў рэшэто іх, вусып'юць за порог у сенях, да дзеці хапаюць.

Да ўжэ радзяць коровая, сад роб'яць. Розкі нарадзяць лентамі, бумагою крашэнаю. Шышэчкі з бумагі крашэнае поўязваюць, до розок ніткамі прывязваюць да растрыкаюць тры розкі по боках у коровай. Лентою красною обоўяжуць іх разом. Которые, то одну розку ў цэнтры, то ета з тройма ролцамі, а дзве по боках, то етые з двойма. І лентою одноею обоўязвалі. І спяваюць:

*Короваю, наш раю,*
*Коло цябе хорошэ граю*
*Да з дудкамі і з скрыпкамі,*
*Да з молодымі молодкамі.*

Молода не радзіла. Коло пола стояла ці сядзела там. Ей зелле чэплялі яке зімою і барвенак, бувало. І ўсё-ўсяке. І веткі, спявалі ж:

*Му свойго коровая радзілі,*
*У луг по каліну сходзілі.*
*Половіну луга сходзілі,*
*Покуль свого коровая нарадзілі.*

Такое було, шо ёлочку ўвоткнуць, з ёлкі обломяць. Свечку станоўлялі ў цэнтры. І яе радзілі. От нарадзяць да спяваюць:

*– Короваеньку нараджоны,*
*Да хто ж цябе нарадзіў?*
*– Нарадзіла мяне маці*
*Ручкамі да беленькімі,*
*З перснямі золоценькімі.*

Найстрояць, шо й глядзі. Ек нарадзяць, да хто падходзіць к коровою, спяваюць:

*Не йдзіце, молодзіцы,*
*Коровая радзіці.*
*Му ж радзілі самі*
*Да яснымі свечамі.*

Да ўжэ другі раз за столы садзяцца. Вупіваюць. Колісь не вельмі коровайніц напойвалі. Квас больш пілі. Закусваюць там екімі пампушкамі. Песні спяваюць. Старшой коровайніцы пелі от таку:

*Старша коровайніца,*
*Да не садзіса на покуці,*
*Да сядзь собе на порозе,*
*Да на бітой дорозі,*
*Шоб хлопчыкі не надпілі*
*Да коровая не ўхопілі.*

Так коровайніцы спяваюць:

*Хваліласа коровайніца,*
*Шо веліка да работніца,*
*Шо ў мене сем сорочок –*
*Одна на мне,*
*Дзве – у пранні,*
*А чотыры – у кудзелі.*

Трэцёй екой:

*Наша коровайніца п'яна*
*Да на порозі ўпала.*
*Да чого вона п'яна,*
*Чого вона ўпала,*
*Да ногі задзірала?*
*По чарочцы, по поўненькой*
*До дна вупівала.*

І таку спявалі:

*За колодою за дубовою*
*Да там баранову рогі,*
*Так наша коровайніца*

*Да задзірае ногі.*
*Да чого вона*
*Да ногі задзірае?*
*Шо по чарочцы, по поўнай*
*До дна вупівае.*

Смяюцца, рогочуць. Танцоваць у другу хату шлі, ек ета мала. Смук граў ці гармонь, барабан біў. До часоў чотырох гулялі. Ек по лету, то днело, ек домоў шлі. Зара на небі. Міскі бралі, шышкі ім у міскі клалі, шо на коровае пеклі. Без гармоні йдуць і без смука. Спяваюць:

*Мы ж булі на короваі,*
*Там нас частовалі*
*Куркамі печонымі,*
*Гускамі смажонымі.*

І ету:

*Коровайніцы грозны*
*Расходзіліса позно.*
*Як сонейко ўзойдзе,*
*Кажна свой дом нойдзе.*

Прыдуць дахаты ды кароў дояць.

***Запісана ў в. Крэмнае Жыткавіцкага р-на ад Чарнушэвіч Марты Гаўрылаўны, 1915 г.н., студэнткай Івановай Т. (1993 г.)***

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

### ДЗЯКУЙ БОГУ, СЫНА АЖАНІЛА

*Дзякуй Богу, сына ажаніла,*
*Ды й нявестку дочакала.*
*Ды й не буду воду носіці,*
*Ды й не буду хлеба мясіці,*
*Да й не буду хату мясці,*
*А буду парадочок весці.*
*Дай, Божа, ляльку,*
*То буду за няньку.*

### СВЯКРОЎ НЯВЕСТКУ ДЫЙ ПЕРАПІВАЛА

*Свякроў нявестку дый перапівала,*
*Дый перапівала, дый паздраўляла:*
*– Будзь жа ты, нявестка,*
*Як зіма, здорова,*
*Як вясна, прыгожа ды вясёла,*
*Як лета, шчасліва,*
*Як восень, багата.*
*Учора была ночанька, а цяпер дзень,*
*Ужо свякроўка нявестку даўно чакае.*
*Шыла яна шубу да долу,*
*Дый прыбудзь, нявестка, дадому.*
*Шыла яна шубу да зямлі,*
*Дый прыбудзть, нявестка, да сям'і.*
*Шыла яна шубу па пяты,*
*Ды й прыбудзь, нявестка, дахаты.*

### У НЯДЗЕЛЮ РАНО

*У нядзелю рано,*
*Чуць сонейко ўзыходзіць,*
*Мужыкова маці*
*Ужо по хаце ходзіць.*
*Усё по хаце ходзіць,*
*Лучыну ломае.*
*Свёкар яшчэ горшы,*
*Вочмі маргае.*
*Мае залавіцы*
*Ходзяць, як звярыцы,*
*Слова не скажуць,*
*А ўсё кругом ходзяць.*
*Мая братавая*
*Хараша гуляе,*
*А я, молодзенька,*
*Слёзы проліваю.*

* * *

*У нядзелю рано,*
*Чуць сонейко ўзыходзіць,*
*Мужыкова маці*
*Ды й нявестку будзіць:*
*– Ці ты спіш, ці не спіш,*
*Бадай ты не ўстала.*
*Ідзі, выгоні тое,*
*Што з дому прыгнала.*
*А я, молодзенька,*
*Рано ўсхапілася,*
*Слязамі без воды ўмылася.*
*Ой, нашто ж ты мяне браў*
*З чорнымі вочыма?*
*Трэба было браці*
*З вялікімі грошыма!*
*Ой, нашто ж ты браў мяне*
*З чорнымі брывамі?*
*Трэба было браці з коньмі, з коровамі!*

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, СЯСТРЫЦА!

*– Добры дзень, сястрыца,*
*Ці жыва, здорова?*
*Ці жыва, здорова,*
*Ці добрая доля?*
*– Добрая, братко, доля,*
*Што не зычу нікому,*
*Нават ворагу свайму,*
*Хвартушок тоненькі,*
*Слёзак поўненькі.*
*– Не плач жа, сястрыца,*
*Ты ж сама таго хацела.*
*Я ж хоцеў жы й не даці,*
*Ты ж стала плакаці.*

## АДДАЛА МЯНЕ МАЦІ

*Аддала мяне маці*
*На чужую зямлю*
*Ды й у вялікую сям'ю.*
*Сям'я посела вячэраць,*
*А мяне адправілі по воду.*
*Гора высока, вода далёка,*
*Хутка не вярнуся.*
*Я крынічку знайшла,*
*Зачарпнула поў вядра,*
*Пакуль да хаты прышла,*
*То й слязьмі доліла.*
*А вялікая сям'я*
*Поучае мужыка:*
*– Чаму жонкі не б'еш,*
*Чаго волю даеш?*
*– А за што ж яе біць?*
*Яна ўмее ўсё рабіць:*
*Пісаць, чытаць,*
*Па садочку гуляць.*

## КАЛІНА-МАЛІНА ГАЛЛЁ ПОЛОМАЛА

*Каліна-маліна галлё поломала,*
*Як я была ў маці, то й гора не знала.*
*Як замуж я пойшла, той свякруха ліхая*
*Сама рано ўстала, мяне не разбудзіла*
*Ды й пашла па суседзях, мяне осудзіла.*
*– Уставай, нявестка,*
*Уставай, молодая.*
*Ідзі даі корову, што ад бацькі прыгнала.*
*– Не, не пойду доіць корову,*
*Што ад бацькі прыгнала,*
*Пойду доіць корову, што ад свёкра достала.*
*– Чужыя коровы гуляюць у дуброве,*
*А моя нявестка ўсё спіць у каморы.*

## МЫ ЦЯБЕ, ДЗЕВАНЬКА, ЗАВІВАЕМ

*Мы цябе, дзеванька, завіваем,*
*Мы цябе, дзеванька, завіваем,*
*Шчасцем, долей абсыпаем.*

*Ой, будзь богата, як зямля,*
*Ой, будзь прыгожа, як кветка,*
*Ой, будзь здарова, як вода.*

## ІШЛІ ДЫМЫ ПА-ЗА ЛУГАМІ

*Ішлі дымы па-за лугамі,*
*Ой, то не дымы, а пара коней ідзе,*
*Молоды Ванюшка жаночку вядзе.*
*– На табе, бацько, пару коней на двор,*
*А табе, маці, нявестку за стол.*
*Ды й вучы яе, як сама знаеш,*
*Каб шоўкам шыла, ды й не памыліла,*
*А дротам ткала, ды й не ўкрала.*

## А Ў НЯДЗЕЛЬКУ РАНО

*А ў нядзельку рано*
*Дзеванько говорыла:*
*– Ой, мамочко моя родная,*
*Сасніўся мне сон дзіўненькі:*
*Сівыя сокалы наляцелі,*
*За столом поселі,*
*Чорны шоўк распусцілі,*
*Золата рассыпалі.*
*– Моё ж дзіцятко роднае,*
*Молодзенькі розум маеш,*
*Своёго сну не разгадаеш:*
*Сівыя сокалы – сваты твое,*
*Чорны шоўк – коскі твое,*
*А золото – слёзкі твое.*

## КРАЕМ, БОРОМ КАЛІНАНЬКА ЗАЦВІЛА

*Краем, бором калінанька зацвіла,*
*Краем, бором чырвоная зацвіла.*
*Ой, ехаў там пан, пяючы,*
*Пачуў ён сіву зязюленьку, куючы.*
*То не зязюленька сівая кувала,*
*Волечка прыгожыя песні спявала,*
*Пад акенцам седзячы,*
*Сваёму міленькаму сорочку шыючы:*
*– Ой, дай, Божа, сорочку пошыці,*
*Мойму міленькому здорову зносіці!*

## МЕСЯЦ УЗЫХОДЗІЦЬ

*Месяц узыходзіць,*
*А зара зарыцца.*
*Молода Волечка*
*Ды й на воз садзіцца.*

*– Подыйдзі, мамонько,*
*Да мяне блізенько,*
*Да мяне блізенько,*
*Поклонюся табе нізенько.*

*– Не хочу, дзіцятко,*
*Я твойго поклону.*
*Ступай ад возу*
*Ды й ходзі дадому.*

*– Рада б я,мамонько,*
*З возу ступіці,*
*Ды й сядзіць Ванечка,*
*Будзе сварыці.*
*Рада б я, мамонько,*
*З возу ступіці,*
*Ды й баюся, што Ванечка*
*Будзе крычаці.*

## МЫМНА Ў ПОЛІ, ДЫМНА

Дымна ў полі, дымна

*Ды й нікого не відно.*
*Чуць завівае –*
*Сівы конь выбягае,*
*Ванечка, Ванечка выязджае*
*З роднаю сястрыцаю.*
*– Сястрыца-парадніца,*
*Ды й парадзь ты мне:*
*Як цесця зваці, ваяваці,*
*Як сабе Волечку ўзяці?*
*– Ды й ваюй, братка, ваюй,*
*Сівых коней на двор вярні,*
*Сабе Волечку бяры.*

### СЯГОННЯ СУБОТА – СВЯТЫ ДЗЯНЁК

*Сягоння субота – святы дзянёк,*
*Сягоння субота – святы дзянёк.*
*Звілі Вольцы з руты вянок.*
*Ой, вілі, вілі, ды й говорылі:*
*– Чым жа яна табе, маці, дочка не міла,*
*Ці яна работы не робіла?*
*Позна клалася, рано ўставала,*
*Собе работку сама шукала.*

### ДЫ Й ХОДЗІЛА ВОЛЕЧКА ПА ПОЛЮ

*Ды й ходзіла Волечка па полю,*
*Звіла яна вяночак з куколю.*
*Ды й просіла маці, просіла,*
*Штоб того й вяночка зносіла.*
*– Ды й поносі, дочачка, поносі,*
*А потым падружанькам аддасі.*

### ОЙ, СТУПІЛА ВОЛЕЧКА НА ПАРОГ

*Ой, ступіла Волечка на парог*
*Ды й зломіла з калінкі вяршок.*
*– Ой, жыві, жыві, калінка, без вяршка,*
*Ой, жыві, жыві, мамочка, без меня.*
*Як калінка без верха,*
*Так будзе мамочка без меня.*

### ОЙ, У ЛУЗЕ ДЫ КАЛІНА СТОЯЛА

*Ой, у лузе ды каліна стояла,*
*Ой, у лузе ды каліна стояла,*
*Молода Волечка яе ломала,*
*Да свайго белага лічыку каліну раўнавала:*
*– Каб я была такая, як тая каліна чырвоная!*
*– Маё дзіця, такая й будзеш,*
*Калі да мяне яшчэ гадок паходзіш.*
*А калі пойдзеш ад мяне,*
*То завянеш, як рыбка,*
*А збялееш, як ліпка.*

### НЕ КУЙ, ЗЯЗЮЛЬКА, У ЗЯЛЁНЫМ ЛЕСЕ

*Не куй, зязюлька, у зялёным лесе,*
*Яшчэ накуешся ў зялёнай дуброве.*
*Не плач, Волечка, у свайго бацькі,*
*Яшчэ наплачашся ў свякроўкі,*
*Яе парогі пераступаючы*
*І яе наровы пераймаючы.*

### ЗЯЛЁНЫ САДОЧАК, ЗЯЛЁНЫ

*Зялёны садочак, зялёны,*
*Вакол рутай аплецёны.*
*Ніхто ў тым садочку не бываў,*
*Адзін Ванюша ў карты граў,*
*Ён сабе Волечку намаляваў:*
*– Поедом, Волечка, з намі,*
*З молодымі сватамі.*
*– Як мне ехаць з вамі,*
*З молодымі сватамі?*
*Шкода мне маці кідаці,*
*Бо мая маці старэнькая,*
*Як галубка сівенькая.*
*Ня будзе кому ёй посцельку послаці,*
*А як устане – прыбраці.*

### ДЗЕ Ж ТЫ, ВОЛЕЧКА, ХАДЗІЛА?

*Дзе ж ты, Волечка, хадзіла,*
*Што голоўка твоя збялела?*
*– Да й ходзіла, дзеванькі, у вішнёвы сад,*
*Да й на мою голоўку цвет упаў,*
*Хоць вецер повее – не звее,*
*Хоць сонейко засвеціць – не звяне.*
*Ходзіла Волечка по лузе,*
*Носіла каліну ў хвартуху.*
*За ею дзевонькі ходзілі,*
*У яе каліны просілі.*
*Яна ім каліны не дала,*
*А сабе вяночак звіла.*
*Хадзіла Волечка ў вішнёвы сад,*
*Да на яе галоўку цвет упаў,*
*Да й на яе галоўцы зацвітаў,*
*Да яе Ванечка спадабаў.*
*Захоцела Воленька калінавага вяночка*
*Да й послала свою маценьку*
*Да й по каліну.*
*Покуль маценька да луга,*
*То каліна зацвіла.*

### ЧУЦІ, ЧУЦІ Ў ЗЯЛЁНАЙ РУЦЕ

*Чуці, чуці ў зялёнай руце*
*Плакала Волечка, вяночка ўючы.*
*Пачуў Ванечка, па каня ідучы.*
*– Чаго, Волечка, плачаш?*
*– А таго плачу, шо сама бачу:*
*У цябе, молодого, родзіны много,*
*У мяне, молодой, падарункаў мало.*
*У цябе родзіны, як у лесе ляшчыны,*
*У мяне падарункаў, як у лесе гаёчкаў.*
*– Блізкую родзіну ўсю обдары,*

*А дальнюю – перапросі.*

### ЗБОРНАЯ СУБОТА, ЗБОРНЫ ДЗЕНЬ

*Зборная субота, зборны дзень,*
*Ды й сабрала Волечка ўсіх гасцей,*
*Ды й садзіла ўсіх іх у рад,*
*А сама села між усіх*
*Ды й склоніла галоўку ніжэй усіх,*
*Задумала думачку больш усіх.*
*– Ды й не думай, Волечка, не думай,*
*Пераедом рэчку ды й Дунай.*
*– А як жа мне, молодой, не думаці,*
*Ды не знала свякроўкі, а трэба знаці,*
*Я сама, не знаю, як назваці.*
*Назвала б свякроўкай – не смею,*
*Назвала б маці – так не будзе,*
*Толькі мойму сэрцу жаль будзе.*

### СВАХА СВАСЕ ДЫ ПОКОРЫЛАСЯ

*Сваха свасе ды покорылася,*
*Каб на нашу Волечку не сварылася,*
*Бо наша Волечка вельмі молодзенька.*
*Не будзі яе, як певень пяе,*
*Будзі яе, як пастух ідзе.*
*Певень пяе рано з поўначы,*
*А пастух ідзе, рано поснедаўшы.*

### ЗАЕХАЎ ЗЯЦЬ НА ЦЕСЦЕЎ ДВОР

*Заехаў зяць на цесцеў двор,*
*Побіў мосты жалезныя,*
*Разліў віно зялёнае.*
*А цёшча зяця спужалася,*
*За новы сені сховалася.*
*– Постой, цёшча, не пужайся,*
*За новы сені не хавайся.*
*Не багато нас наехало:*
*Семсот сватоў, акрамя братоў.*
*А свашачка-семілетачка*
*Між сватамі, як кветачка.*
*Ой, не сядзі, Волечка, не сядзі,*
*Адчыні акенцо да й поглядзі.*
*– Ой, не сядзі, Ванечка, не сядзі,*
*Адчыні акенцо*
*Да й бяры вішанькі з кішэні.*

### ТАМ НА ВОЗЕРЫ ПЛАВАЛІ КАЧАНЯТЫ

*Там на возеры плавалі качаняты,*
*Ужо там, Волечка, мінуцца дзяўчаты.*
*Там на возеры плавалі індыкі,*
*Ужо табе, Волечка, мінуцца музыкі.*
*Там на возеры плавалі качоры,*
*Ужо табе, Волечка, мінуцца вячоры.*

***Запісана ў в. Крэмнае Жыткавіцкага р-на***
***ад Івановай Вольгі Гаўрылаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Івановай Т. (1993 г.)***

### НА ЗАРУЧЫНАХ МЫ БУЛІ

*На заручынах мы булі,*
*На заручынах мы булі,*
*Гарэлачку пілі.*
*Гарэлачку солодзеньку,*
*Гарэлачку солодзеньку*
*За Танечку молодзеньку.*

* * *

*– Ой, белая да бярозонько* 2 р.
*Ой, чого ты не зелена?*
*– Як жэ мне зелёное буці,* 2 р.
*Шчо да мяне купцы едуць,*
*Едуць, шчо да мяне купцы едуць.*
*– Молодая Танечко,* 2 р.
*Ой, чого ты не весела?*
*– Ой, як жэ мне весёлое буты,* 2 р.
*Шчо ды ў мене сваты ў хаце,*
*У хаце, шчо ды ў мене сваты ў хаце.*
*Хочуць мене, молоду, взяці,*
*Да не дають косы, косы плесці,*
*Да не дають косы, косы плесці,*
*Да мне дають бальшую грусць.*

### КАРАВАЙ

*Да Таненчына мамонька,*
*Да Таненчына мамонька*
*Ходзіць да соседочок просіць:*
*– Да соседочкі мое,*
*Да соседочкі мое,*
*Да ходзеце ко мне,*
*К моему дзіцяці.*
*Ко мне, моему дзіцяці*
*Коровай да веселля робіць.*

### ЯК РАШЧЫНЯЮЦЬ КАРАВАЙ

*Да не хто жэ не ўгадае,*
*Што ў нашым караваі:*
*З трох рэчок вадзіца,*
*З трох рэзок пшаніца.*

### ЯК ПАСАДЗІЛІ КАРАВАЙ У ПЕЧ

*Ой, вечо, наш вечо,*
*Да наліла вады ў місу,*
*Да будземо рукі муці,*
*Да на вішэнькі ліці,*
*Штоб вішэнькі развіваліся,*
*Молодыя красоваліся.*

### ВЫМАЮЦЬ КАРАВАЙ З ПЕЧЫ

*Ой, у печы коровай з яечэк,*
*Ой, у печы коровай з яечэк,*
*Коровайнічэк кліча.*
*– Дзе жэ мое породзіночкі,*
*Ці ў лесе заблудзіліся,*
*Мене ў печы да забуліся.*

### УПРЫГОЖВАЮЦЬ КАРАВАЙ

*Як мы свого коровая*
*Радзілі лета на лугу,*
*По каліну хадзілі,*
*Половіну луга зламалі,*
*Покуль з малаком убралі.*

### ХЛОПЕЦ ЕДЗЕ ЗА МАЛАДОЙ

*Вой, ей там на дворэ, на дворэ*
*Там рано, там засвечано.*
*Там ўражаецца, собіраецца*
*Іваночко ў дорогу.*
*Уражаецца да путаецца:*
*– Кого мне за сватоў браці?*
*– Ой, ей, мой сынонько-лебедзенонько,*
*Бяры свою сердзеноньку,*
*Бяры, браценько, ды за сваточка.*
*Браценько замашэ головочку.*
*Во я, сястрыцы, да й за сваточка,*
*Штоб болей спяваць.*

### ВЯСЕЛЬНЫ ПОЕЗД

*Да Галенчына мамонька,* 2 р.
*Ек дарогі да прылегай,*
*Ці стогне дорога* 2 р.
*Да ці шуміць дуброва?*
*Ці слышан чачот нагайкі,* 2 р.
*Ці гукаюць марша,*
*Ці музычэнькі граюць,* 2 р.
*Ці самі спяваюць?*
*І дорожэнька стогне,* 2 р.
*І дубровонька шуміць,*
*І слышан чачот нагайкі,* 2 р.
*І гукаюць марша,*
*І музычанькі граюць,* 2 р.
*І самі спяваюць.*

### ПРЫЕЗД ДА ХАТЫ МАЛАДОЙ

*Да будзем біці, воеваці*
*Да Танечку не даваці.*

### ПАСАД

*Да ляцелі гусонькі на леса,*
*Да гукалі Танечку на пасад.*
*Ночовалі гусонькі по друго.*
*Ёсць у мене мамонько,*
*Она ў мене хорошэнейко.*
*Нарадзіць она мене, молодзенько,*
*Жэ на посадзе.*

### ДА КАМЕННАЯ ПЕЧЭНЬКО

*Да каменная печэнько,* 2 р.
*Вечор горыш, да не ўгорыш,*
*Вечор горыш, да не ўгорыш,* 2 р.
*Камней да не рассыпеш.*
*Молодая Танечко,* 2 р.
*Вечор сідзі да не заплач,*
*Да не заплачэць,* 2 р.
*Да мамонько да не розжаліць.*
*Роднае мамонько,*
*Як я пойду по застолье?*
*Косы мое да по шчаках,*
*Слёзы мое дробненькія,*
*Лета мое молодзенькія.*

### ПОБІРАЙСЯ, ТАНЕЧКО

*Побірайся, Танечко,* 2 р.
*Побірайся, моё дзіця.*
*Ой, як жэ мне побіраціся,* 2 р.
*Не могу буваць у хаце,*
*У хаце, не могу буваць у хаце.*
*Да некому парадак даць.*
*Только тые, што нап'ецеся,* 2 р.
*А некому пожурыціся.*
*Только тыя, што піці да есці,* 2 р.
*А некому парадак весці.*

### КОРОВАЙНІЦЫ ЕДКІ

*Коровайніцы едкі*
*Да цэлого да вола з'елі,*
*До столу да качаючы,*
*Да ў солі да мочаюць.*
*На столе да ні крошачкі,*
*Под столом да ні косточкі.*

### У ДОМЕ МАЛАДОГА

*А ў нашага свата*
*Да хорошая хата.*
*Печ у яго побелёна,*
*Яна ў яго ўмалёвана.*
*А ў нашага свата*
*Да дубовая хата,*
*А сенечкі да бярозавы,*
*А сваточкі да цвярозы.*

### У ДОМЕ МАЛАДОЙ

*А ў нашага пана-свата*
*Кудравая галава.*
*Ён кудрамі потрасе,*
*Нам гарэлкі прынясе.*
*А ў нашай пані свахі*
*Кудравая галава.*
*Ена кудрамі потрасе,*
*Нам закускі прынясе.*
*Свеце на рогожа, подушок няма.*
*Ой, штоб наша беседонька*
*Уся была весяленька*
*У пана-свата за сталом* 2 р.

### СВАТОЧКІ-ПАНОЧКІ

*Да сваточкі-паночкі,*
*Да сваточкі-паночкі,*
*Пора ехаць дадому.*
*Бо ў нас дома да по дзіцяці,*
*Да некому дапомогаць,*
*Да ні мамкі, ні нянькі,* 2 р.
*Да нікого ў хаце няма.*

## МАЛАДАЯ ЕДЗЕ ДА ЖАНІХА

*Ужэ Танечка на дорожэньцы,*
*Кланяйся ты на порожэньцы.*
*Она ўстала да говорыла:* 2 р.
*– Ек мой бацько да багаты будзе,*
*Будзе, як мой бацько да багаты будзе,*
*Бо хто ему да родзіці будзе.*
*– Не журыся, Танечко,* 2 р.
*Ек зародзіць Бог жыто.*
*Жыто, ек зародзіць Бог жыто*
*То на новое лето,*
*То я жанцоў да понаймаю,* 2 р.
*Свое добро позбіраю.*
*Жонцы мое молодзенькія,* 2 р.
*Як цветанькі золоценькія.*
*Жонцы мое потоміліся,* 2 р.
*А серпікі поломаліся.*

## ВЫЙДЗІ, МАМОНЬКО, ПОГЛЯДЗІ

*Выйдзі, выйдзі, мамонько, поглядзі,*
*Бо шчэ цебе прывелі,*
*Да цялёнечку,*
*Ці позор, ці хорошу,*
*Не відно молоду,*
*Да авечачку.*
*Не позор, а хорошу,*
*Не відно молоду.*

## ЯК ТАНЕНЧЫНА МАМОНЬКА ПО ДВОРЫ ДА ПОХАЖАЕ

*Як Таненчына мамонька* 2 р.
*По дворы да похажае,* 2 р.
*Да похажае по дворы,*
*Да в огород да зазірае.*
*Ой, Божэ, мое Божэ,* 2 р.
*Бо й рвала ў мяне рожу,*
*Рожу, ой, рвала ў мяне рожу.*
*Цебе нарву.*
*Да Іванкова мамонька* 2 р.
*По дворы да похажае,*
*Да похажае по дворы,*
*В огород да зазірае.*
*Ой, Божэ, мое Божэ,*
*Посаджоная, не веру.*

* * *

*Ой, прыехал додому*
*Да парень со своею жэною.*
*Моя жона каліна-маліна,*
*Высокая, як рабіначка,*
*Чырвоная, як каліначка.*

**Развітанне маці з дачкой**

*Ой, ты свацейка,*
*Да мая ты пташэчка,*
*Ой, штобы не було моему*
*Дзіцяці век горovаці,*
*Штобы не стояло цёмное*
*Ночэнькі жэ под окном,*
*Штобы не ўцірало дробных*
*Слёзочок рукавом.*
*Ой, штоб не було,*
*Ой, штоб не було,*
*Вы соседонькі, вы мамонькі.*

## ЗАПРАШЭННЕ НЯВЕСТЫ ЕХАЦЬ ДА ДОМУ

*Едзьмо, Танечко, з намі,* 2 р.
*У нас тобе добра будзе.* 2 р.
*Нашы сені да вецер мяце,* 2 р.
*А сонейко пірогі печэ,*
*А ты только да сідзеці, мяшаці,* 2 р.
*На то дзіво да глядзеці.*

Вясельныя пажаданні:

Дарую цябе шчасце і долю, і век доўгі, і дарую стакан суніц, каб не хадзіў да чужых маладзіц.

Перапіваю воўка, каб была жонка лоўка.

Перапіваю кошэль длінны, каб до году былі родзіны.

Перапіваю дзве козе ў доўгай лозе, поймайце і корысць майце.

Перапіваю вам грошы, каб былі дзеці хорошы.

Перапіваю вам стакан медзі, каб былі дзеці, як мядзведзі.

Перапіваю вам зялёную рошчу, каб зяць пацалаваў цёшчу.

Перапіваю вам куру-квактуху, каб молода поцэловала свякруху.

Перапіваю вам уласны канапель, каб да году быў сын, як пень.

Перапіваю вам жывотворяшчэго креста, з севера до юга, штоб любілі друг друга.

***Запісана ў в. Рычоў Жыткавіцкага р-на ад Рыдзецкай Вольгі Андрэеўны, 1939 г.н., Рыдзецкай Ганны Рыгораўны, 1932 г.н.***
***Новак В.С.***

## МЕРАННЕ САРОЧАК

Сутнасць гэтага абрада ў тым, што перад вяселлем маладая павінна пашыць (разам з дружкай) маладому тры пары споднягa бялля, а

свякрусе вышыць сарочку-перкалёўку. Праз некаторы час маці маладой заве куму (хросну маці маладой), сястру ці брацiху і яшчэ каго раднейшага, і ідуць да маладога мераць сарочкі. Маладую з сабой не бяруць. Прыйшоўшы ў хату, вітаюцца, кажуць, чаго прыйшлі:

– Дзень добры, вам, спадары! Ай, да гаспадыня! Не дом, а церам! А гаспадар! Усё ў двары ладна ды прыгожа. Ай, да працаўнікі! Мы да вас завіталі са справаю важнай. Адаслала нас маладзіца, каб сарочкі мы памералі. Ці не малыя будуць? Ці дазволіце?

Гаспадары запрашаюць гасцей у хату. Хросна маці выцягвае наметку. Наметка – гэта палатна кусок з ператыканнем. Кума пачынае абмяраць першага свата, які жартуе:

– Ты ж, свашка, мерай з прыпускам, а то шчыгульна так мераеш, што матня парвецца (матня – гэта клінкі ў штанах паміж ног). Напусці шчэ трохі на матню, а то, як нагнуся, дык штаны разарвуцца.

Пасля таго, як абмералі свата, пачынаюць мераць сваху. Круцяць яе ва ўсе бакі і прыгаворваюць:

– Ой, наша сваха тоўстая, як бочка! На яе ж трэба цэлы сувой палатна!

Палатно мераюць на локці і лічаць, колькі локцяў патрэбна. Адна жанчына з прыйшоўшых абмярае вокны і дзверы. Потым гаворыць:

– Мы вам, сваха, з газеты выразкі выражам, а не занавескі за тое, што вы нас не частуеце.

Сваха запрашае censors сватоў за стол. Седзячы за сталом, частуюцца ўсімі стравамі, размаўляюць аб надыходзячым вяселлі. Пасля пачастункаў, цешча з хроснай маці хапаюць маладога, ложаць у ночвы з падушкай і качаюць. Робяць гэта дзеля таго, каб малады заўсёды быў лагодны да маладой і цешчы, каб быў паслухмяны. Калі качаюць, могуць прыгаворваць, спяваць, жадаць лепшае долі.

Позна ўвечары ўсе разыходзяцца па хатах. Калі сядзелі за сталом, то спявалі песні, але ж не вясельныя, таму што да вяселля нельга спяваць вясельныя песні.

**АБРАД "Сустрэча маладой са свякрухай"**

Забраўшы маладую, поезд, вясельны поезд (гэта конныя павозкі ці машыны, якія везлі ўсіх вясельных людзей) ехаў да маладога.

У парозе сяней стаяла свякроў, накрыўшыся кажухом поўсцю наверх, са стаканам мёду, хросная маці маладога з хлебам. Вітае сына першага, потым нявестку тры разы. Жанчыны спяваюць:

*Ой, ой, ой! Ой, чужая маці*
*Надзела кажух, каб дзеўку спужаці!*

Маладыя рабілі тры паклоны перад свякрухай, а яна частуе іх мёдам. Пасля мёду свякроў налівала па чарцы гарэлкі. Выпіўшы, маладыя б'юць чаркі аб зямлю.

Потым маладая, ішоўшы ў хату, абсыпае крыжам усіх паверх сваёй галавы хмелем і жытам. Гэта дзеля таго, каб у хаце быў дастатак і мір. Усё гэта суправаджаецца песнямі, жартамі.

У хаце, у парозе, свякроў ставіць дзяжу, у якой робяць цеста для хлеба, накрытую накідкай. Маладая павінна стаць на дзяжу, калі чэсная дзеўка, а калі нячэсная, то павінна пераскочыць яе, бо калі стане, то не ўдавацімецца хлеб, каб падыходзіла цеста добра.

Пасля малады вядзе за платок маладую за стол, садзяцца на покуце, пад абразы. Свякроў падыходзіць да стала і маладую накрывае вялікай хусткай. Гэта не падарунак, а хаванне свякроўю нявесткі. У гэтай хусце маладая павінна на другі дзень быць увесь час, накрыўшы ёю галаву.

***Запісана ў в. Буразь Жыткавіцкага р-на***
***ад Блоцкай Кацярыны Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шандыба В. (1998 г.)***

Прыехаўшы ад вянца, дзяўчаты спявалі:

*Да прыляцела шэрая зязюля з ялаўца,* 2 р.
*Да прыехала маладая Ганначка з-пад вянца,*
*Да стала яе мамонька путацца:*
*– Да ці ўмела, мая дочанька, вянчацца?*
*– Не путайся, моя мамонька, у мяне,*
*Путайся, моя мамонька, у свашэчок.*
*Яны коло мяне стоялі,*
*Яны бачылі, як нас, молодых, вянчалі.*
*Яны бачылі, як мы пярсні мянялі,*
*Яны бачылі, яе белы ручанькі звязалі.*

Перад ад'ездам маладога за маладой спявалі:

У *нядзельку рана сонейка йграе,*
*Молоды Васілька коніка сядлае,*
*Не так сядлае, як навучае:*
*– Ой, ты, коню, коню мой ты, вороненькі,*
*Не будзь ты, коню, у людзях дурненькі.*
*Ой, будуць там цябе навучаці,*
*Будуць пад ножкі табе страляці,*
*Нясі ты ножкі вышэй дарожкі,*
*Нясі галоўку, як ясны сокал.*

Малады выбіраецца ехаць па маладую, яму спяваюць:

*З дворыка Васілько з'язджае,*
*Саколіка з рукава выпускае.*
*Не ляці, саколік, пасярод,*
*А ляці, саколік, напярод.*

*Не ляці, саколік, дзе мёд п'юць,*
*А ляці, саколік, дзе нас ждуць,*
*І нашу Ганначку аддадуць.*

Малады пад музыку заязджаў на падворак маладой, дзяўчаты ў гэты час спявалі:

*Выйдзі, мамонько, на ганочок, поглядзі*
*Ці хорошого тобе зяця прывезлі,*
*Ці ёсць у яго за свацейку сяструца?*
*Няма ў яго на шапцы росіцы,*
*Няма ў яго за свацейку сяструцы.*

Перад ад'ездам да маладога:

*Усядай, Ганначка, на вазы,*
*Пакідай матуліны наравы.*
*А дзякуй, матачка,*
*За хлеб, соль,*
*Не пайду цяпер за твой стол.*

Спяваюць на пірагах:

*Вецер вее, павявае,*
*Маці ў дачушкі пра жыццё пытае:*
*– Пытай, маці, у шэрай вуці,*
*Шэрая вуці на моры начуе,*
*На моры начуе – усё горачка чуе.*

***Запісана ў в. Буразь Жыткавіцкага р-на***
***ад Ракавец М.М., 1927 г.н., Дарошка К.С., 1932 г.н.,***
***Рыдзецкай М.Р., 1927 г.н.***
***студэнткай Русай Л. (1992 г.)***

**СВАТЫ**

У сваты да дзяўчыны ішла маці, бацька і малады. У каго не было бацькі, то ішоў брат. Маці хлопца пякла вялікі пшанічны пірог і бралі пляшку гарэлкі. Зайшоўшы ў хату да дзяўчыны, віталіся.

У сваты ішлі вечарам, каб меней людзей бачыла, а то людскія вочы бываюць ліхія.

Бацька, зайшоўшы ў хату, пытаўся: "Ці прадаеце вы цялушку? Нам людзі казалі, што ў вас ёсць на продаж. Мы будзем купляць". Бацька дзяўчыны адказвае, што ёсць, купляйце, калі згаворымся ў цане: "Мая цялушка не цельная, не дойная, я за яе хачу вялікі выкуп". Бацька хлопца: "Ну, колькі загадаеце, столькі дадзім". Маладыя ў гэты момант паглядаюць адзін на аднаго. Бацька хлопца ставіць на стол пляшку гарэлкі, хлеб, кажа: "Вось мая цана". Тады бацька пытае ў дзяўчыны, ці згодна. Калі скажа дзяўчына, што згодна, то бацька ставіць сваю пляшку і запрашае за стол. Маладых садзяць поруч.

Бацькі дагаваруюцца калі рабіць запоіны (гэта пасля сватоў праз два тыдні). У сватах людзей не сабіраюць, толькі бацькі дзяўчыны і хлопца.

**ЗАПОІНЫ**

На запоіны да дзяўчыны ідуць ужо блізкія маладому родзічы: бацькі, сёстры з чалавекамі ці браты з жонкамі, хросныя бацька і маці і хлапец, якога бярэ малады за маршалка. Маладая таксама бярэ дружку і заве таксама сваіх блізкіх родзічаў.

На запоіны маці маладога нясе нявестцы ў падарунак хустку і накрывае маладую. Маладая перавязвае рушнікамі ўсіх родзічаў маладога, якія прыйшлі на запоіны. Родзічы, якіх перавязалі на запоінах, ложаць маладой грошы, хто колькі, але без прыказак, толькі дзякуюць. Тут ужо пяюць песні, але не вясельныя, бо да вяселля не спяваюць вясельных песень.

*Да памерзлі, пачэзлі,*
*Да памерзлі, пачэзлі*
*У велікой дарозе,* 2 р.
*Да на лютым морозе.*
*Да хто ж нас пожалее,* 2 р.
*Да хто ж нас да разогрее.*
*Да поймаймо цецеру* 2 р.
*Свойму свату да на вячэру,*
*Што й цецера да на сошэчку,* 2 р.
*А пер'ейко на подушэчку.*

Тут ужо згаворваюцца, калі і як рабіць вяселле, можа, у каго чого няма, то дапамагаюць адзін другому, каб было ўсё добра. А калі пара выходзіць з-за сталоў, то пяюць:

*На заручынах былі*
*Да гарэлачку пілі,*
*Гарэлачку салодзенькую* 2 р.
*За Галечку малодзенькую.*

Усе развітваюцца з сватамі. Усе ідуць дадому, а сват сватоў праводзіць да вешніцы.

Згаворваюцца, калі вяселле і перад вяселлем ідуць да маладога мераць сарочкі.

**КАРАВАЙ**

Першым быў каравай. Яго рашчынялі ў суботу вечарам, звалі хросную маці, а калі хросна ўдава ці разводная, то рашчыняла браціха ці другая кума, бо кумоў было 3 пары. Хросная ўсё роўна прысутнічала пры гэтым.

Раніцой каравай мясілі і саджалі ў печ. У посуд на дно, у якім пёкся каравай, сыпалі жменю жыта і клалі капейкі. Пасадзіўшы ў печ, мылі рукі ў місцы, а ваду неслі і аблівалі вішню ці яблыню, пры гэтым пелі:

*Ой, вісу, мой вісу,* 2 р.
*Да нальемо да воды ў місу,*
*Да будомо ручкі мыці,* 2 р.

*Да на вішэньку ліці,*
*Каб вішэнькі развіваліся,* 2 р.
*Маладыя красаваліся.*

Каравайніцы чакаюць, пакуль не спячэцца каравай, і зазіраюць у печ, і пяюць:

*А ў печы коровай гіча,* 2 р.
*Коровайнічок кліча.*
*А прыпечак коловаецца,*
*Коровайніц дожыдаецца.*

Каравай выцягваюць з печы і ўпрыгожваюць кветкамі, і пяюць:

*Да ніхто не ўгадае, 2 р.*
*Ой, што ў нашым да короваі.*
*А ў нашым да короваі*
*З трох рэзок пшэніца*
*І дзве долечкі масла,*
*І дзве долечкі шчасця.*
*Коровaю да наражаны,* 2 р.
*Ой, хто цябе да наражае?*
*Наражае мене Ганночка,* 2 р.
*Ручкамі да беленькімі,* 2 р.
*Перстнямі золоценькімі.*

Калі каравай нарадзяць, ставяць на покуце і саджаюць усю радню і частуюцца. Калі ў маладой, то радня сядзіць за сталом да тых пор, пакуль не прыедзе жаніх па нявесту са сваёй раднёй. Тут пяюць песню маладой і маладому:

*Да Галеньчына мамонька* 2 р.
*Да по елоньцы ходзіць,*
*Да суседочок просіць:*
*– Да суседонькі мое,* 2 р.
*Да прыедзьце вы ко мне,*
*Да к моему дзіцяці* 2 р.
*Коровая згібаці,*
*Коровая згіблемо,* 2 р.
*Да вяселле зроблемо.*

### АБРАД “ПОЕЗД”

Пасля малады са сваёй раднёй едуць да маладой. Бярэ маршалак раджаны каравай і выносіць з хаты. Едуць коньмі ці машынай, а калі блізка ў сяле, то пешшу. Гэта ўжо называюць “поезд едзе да маладой”, тут пяюць песню:

*З-под белага да бярэзнічку* 2 р.
*Сівы конік да выбягае,*
*Да не сам жэ ён бяжыць,* 2 р.
*На ім Коленька сядзіць.*
*Он коніка да паганяе* 2 р.
*І з конікам да размаўляе.*
*– Ой, коню мой, коню,* 2 р.
*Ухвалонько моя, ухвалі ты мяне.* 2 р.
*Коло цесцевого двора* 2 р.
*Да высокая гора,*
*Нельга к горэ прыступіці,* 2 р.
*Конічэнька да напоіці.*
*Вот вышла, выбегла* 2 р.
*Молодзенькая Галечка,*
*Узяла коніка за грывоньку,* 2 р.
*Ой, а Колечку за ручэньку,*
*Дала коню овса, сена,* 2 р.
*Сама пошла, на пасад села.*
*Дала коню овса, бруку,* 2 р.
*Сама села да коло боку.*

Калі хлапеча радня прыехала да маладой, то іх адразу не пускаюць ў хату. У сенях на парозе сядзіць раджаная мужчынам жанчына і падбірае чобаты, і кажа, што людцы добрыя чобаты адбілі, шо такая чарга да мяне? Усе жартуюць, ёй даюць выкуп.

Тут выкупляюць маршалкі маладую, бо дружкі маладой паставілі стол і не пускаюць маладога да маладой у хату, ідуць таргі, а на дварэ пяюць песню, запрашаючы гасцей да столоў.

*Зелёное жыто, зеленэ,*
*Зелёное жыто, зеленэ.*
*Зелёное жыто за сялом,*
*Харошые госці за столом.*
*Зеленое жыто, зеленэ,*
*Зеленое жыто і овёс,*
*Дорогіе госці, род увесь.*
*Не машы мне, мілы, рукою,*
*Бо не лягу спаці з тобою,*
*А я лягу спаці з казаком*
*Под зялёным явором.*
*Под явором вецер не вее,*
*Под явором сонцэ не грэе,*
*Под явором сонцэ не грэе,*
*Под явором дробны дождж ідзе,*
*Моя міла замуж ідзе.*
*Зелёное жыто, зеленэ,*
*Хорошые госці ў мене.*
*Зелёное жыто за селом,*
*Хорошые госці за столом.*

Пасля таргоў заходзяць у хату, і сваты запрашаюць садзіцца за сталы. Каравай маладога ставяць на покуць, а за стол садзіцца малады сам.

### ЗАЗЫВАННЕ МАЛАДОЙ НА ПАСАД

Пасля трох чарак выклікаюць маладую на пасад песняй:

*Ой, ляцелі гусонькі цераз сад,*
*Да гукнулі Галечку на пасад.*

*Да лецеў саловейко, сеў на суку,*
*Ой, скучненько мне самому,*
*Каб быў соловушка са мною,*
*Шчабятаў бы ўсю ночку я з ёю.*

Маладую адразу не падводзілі да маладога, а падводзілі дружку ў вянку, а другога падводзілі хлопца, таксама радзілі маладой, на трэці раз падводзілі маладую. Жаніх усіх адпраўляў назад, гаворачы, што не мая. Налівае чарку гарэлкі, яны выпівалі і адыходзілі. Калі падводзілі маладую, то малады запрашаў яе за стол на пасад. Дружка маладой старалася сесці да маладога, займае месца маладой. Тады жаніх выкупляе месца для нявесты. Пасля выкупа маладых саджаюць на кажух.

### АБРАД “ЗРАЗАЦЬ СВЕЧКУ”

Як малады прыедзе па маладу, то адразу садзяцца за стол. І малады патрабуе свечку маладой. У маладога свяцёлка (дзяўчына, якая дзержыць свечку).

Ён нясе свечку, а маладое свечка дома. Тады бацька маладой бярэ хлеб і зразае верх, робіць 2 дырочкі, у якія ўсоджваюць свечкі. Свечкі ўпрыгожваюць кветкамі. Потым свечкі абгортваюць ручніком ці матэрыяй і падаюць запаленыя свечкі свяцёлцы, якая іх дзержыць усё вяселле. З гэтымі свечкамі ехалі да вянца, калі хто вянчаўся.

Гэтыя свечкі бераглі ўсё жыццё. Іх свяцілі ў царкве на Стрэчанне і запальвалі, калі грымела і бліскала, гэта каб гром не ўдарыў у хату. Пасля зразання свечак падводзілі маладую да жаніха.

### ЕДУЦЬ ДА МАЛАДОГА

Пагуляўшы ў маладой, малады забіраў свой род і пара было ехаць дамоў, везлі да сябе маладую.

Калі маладая пращчалась са сваёй маці, пелі песню:

*Да каменная печэнько,* 2 р.
*Вечар гарыш да не выгарыш.*
*Молодзенькая Галечка, вечор сідзіш,*
*Да не заплачэш.*
*Ой, тады я заплачу,* 2 р.
*Як я пойду по застольейку,*
*Песенькою обгорнуса,* 2 р.
*Слёзонькою обольюса.*

Малады бярэ молодую платочком за руку, а іх вядзе маршалак, таксама платочкам вакол стала вядзе, садзіць на покуці. У маладой у руках – ікона з ручніком. Абышоўшы тры разы маці і бацьку, просіць благаславення. Маці тры разы перахрышчвае дачку і гаворыць: “Бог благаславіць, і я благаслаўляю”. Цалуе тры разы. Пасля гэтага ідзе з хаты.

Тут пяюць:

*Давай, мамко, повячэраймо,* 2 р.
*Повечэрав, подзелемося.*
*Тобе, мамко, ніт і бердзечко,* 2 р.
*А мне, мамко, полоценечко.*
*Тобе, мамко, да ўсе харомы,* 2 р.
*А мне, мамко, волы да коровы.*

Калі маладыя садзіліся на коні, то бацька з хлебам абыходзіў воз з маладымі 3 разы і тады маладыя ехалі да маладога. Спявалі песню:

*Ой, ворагі, ворожэнькі,*
*Да не пераходзьце дарожэнькі.*
*Да няхай перейдзе Господ Бог,*
*Да няхай перейдзе бацько свой.*

Па дарозе пяюць:

*Ужо Галенька на дарожэньцы,* 2 р.
*Кладзе серпік на парожэньцы,*
*А кладучы, гаварыла:* 2 р.
*– Як мой бацько да багаты будзе,*
*Ой, хто ему горовацъ будзе?*
*– Не журыся, Галочко,* 2 р.
*Не журыся, моя дочэнько.*
*Як зародзіць Бог жыто* 2 р.
*Да на новае лето,*
*То мы жней да понаймаем,* 2 р.
*Своё добро да позжынаем.*

***Запісана ў в. Буразь Жыткавіцкага р-на ад Блоцкай Кацярыны Сцяпанаўны, 1940 г.н., студэнткай Землянік Л. (2000 г.)***

*Ой, каравай, каравай садзілі,*
*Будом каравай вынімаць*
*Ды маладога гукаць.*
*Там на моры ды на дошчачцы,*
*Там жа Валька ды палошчыцца.*
*Палошчыцца, заліваецца,*
*Слёзкамі ды ўмываецца.*

Уязджае маладая к маладому:

*– Бі коня, паганяй коня,*
*Да, да бацькавага двара.*
*А на бацькавым дварэ*
*Стаіць маці ды ўстрачае,*
*Ды й маладых не забывае.*

Здымае вянок маці ў нявесты і завязвае ёй хустку:

*Хадзіла Волечка па гарэ,*
*Патоптвала ножкамі па траве.*

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на ад Данілевіч Ганны Барысаўны, 1931 г.н., студэнткай Шчур А.***

Раней на Тураўшчыне вяселле рабіласа так.

Каравай пяклі ў суботу вечарам. У нядзелю да абедня маладая хадзіла ў царкву пад вянец, а потым, прыйшоўшы ад вянца, радня жаніха ішла да нявесты. Начаставаўшыся ў нявесты, ехалі да жаніха, але бацькі за дачкою да жаніха не ехалі, а іх прыходзілі запрашаць у панядзелак ісці да сватоў к сваёй дочцы. Вось гэтая бяседа ў панядзелак і называлася "пярэзвы".

Стаяць сталы, накрытыя абрусамі, відаць, што тут было вяселле. Уваходзяць у хату гаспадыня з гаспадаром і раяцца паміж сабой, што патрэбна ўжо ісці зваць на пярэзвы і будзіць маладых патрэбна, а няма ні хроснай, ні завіцы (завіца – сястра гаспадара).

Прыходзіць завіца, і яны раяцца, што патрэбна ісці зваць на пярэзвы.

Гаспадыня дае хлеба, уматанага ў ручнік, соль, і паказвае, што як прыйдзеш у хату, то скажы: "Прыйшла я к свасе і свату да добры дзень у вашу хату. Хлеб і соль на стол кладу, да на пярэзвы вас усіх вашым слаўным родам заву. Будам вашу дочку будзіць да парадочнасць ее хваліць". Як завіца пайшла з хаты зваць сватоў, то зайшла хросная жаніха. Хросная слала пасцель маладым у першую іх брачную ноч у клеці (клець – гэта памяшканне, дзе спалі маладыя). Хросная павінна была іх і будзіць і знаць, ці зберагла маладая сваю дзявочасць.

Гаспадыня (маці жаніха) кажа: "Ідзі, кумочко, до клеці, дзе спяць нашы дзеці, одной тобе знаць, якую пасцель ты слала, то цяпер тобе і довераем, шоб ты ее проверала".

Праз некаторы час выходзяць з клеці маладажоны, а за імі ішла хросная з бутылкай водкі ў руках. Навязаны быў красны каснік на бутылцы.

Красны каснік на бутылцы – гэта сімвал таго, што зберагла маладая сваю дзявочасць. А калі маладая не зберагла сваёй дзявочасці, то ўсклалі б хамут на шыю свасе (маці нявесты).

У панядзелак пасля вяселля, на пярэзвах, нявестка клала на галаву хустку, складзеную ў серпаночак. Завіхалася разам са свякрухай каля сталоў, таму што з мінуты на мінуту павінны былі прыйсці госці. А свякруха вельмі задаволеная нявесткай, што пайшла за яе сына, захаваўшы дзявочасць, прыказвае: "Памагай, нявестачка, на стол накрываць, да тваю мамку з татом па пляшцы з красным каснікам сустракаць. Да хвала будзе ўсему вашаму роду, што догледзелі сваю дочку змолоду". У дзеры ўваходзяць завіца са сватамі. На стале стаіць пляшка з красным каснікам. Усе вельмі задаволены. Зяць падыходзіць да цёшчы. Нізка ёй кланяецца і дае ёй падарунак. Накідае на плечы вялікую красную хустку як сімвал парадачнасці яе дачкі. Запрашаюць сватоў садзіцца за стол такой песняй:

*Ой, зяць цёшчы просіць,* 2 р.
*У руках шапку носіць,*
*Ой, цёшчанька моя,* 2 р.
*Ой, матухна добра,*
*Учыні добру волю* 2 р.
*Да пабудзь ты са мною.*

За сталом частуюцца. Хваляць смачную яду, слаўную гаспадыню і потым спяваюць песню:

*Да познай свою дочку,*
*Да познай свою дочку.* 2 р.
*Учора була ў веночку,*
*Учора була ў веночку,* 2 р.
*А цяпер у серпаночку.*

Сваты дзякуюць адзін аднаго і за дзяцей слаўных, і за пачастунак добры, і здароўя адзін аднаму жадаюць, а потым ізноў спяваюць песню:

*Свахна свахне паклонісь,* 2 р.
*Шоб на Ольку не сварылась,*
*Бо Олечка молодзенька* 2 р.
*Да на сон она радзенька.*
*Не будзіце яе, як певень пяе,* 2 р.
*Бо што рано будзе,*
*А будзіце, як пастух коні жэне,* 2 р.
*То што ж добре будзе.*

Наспяваўшыса і натанцаваўшыса, сваты ідуць дамоў і пляшку з красным каснікам абавязкова з сабою бяруць. І ўмудраюцца яе несці так, каб усім было відно, які ім гонар за іхнюю дачку. Ці кладуць у карман, ці ў руках нясуць, таму што па вуліцы людзі будуць абавязкова выглядаць, ці будуць ісці сваты з пляшкамі, бутэлькай, на якой красны каснік, ці з хамутом. І пасля гэтага ў кожнага свае перасуды. І добра дзяўчына, і прыгожая, да яшчэ і захавала сваю маладосць. Пярэзвы – гэта завяршэнне ўсіх вясельных звычаяў.

Ну, а калі б дзяўчына не захавала сваёй маладосці, то песні спявалі б наступныя:

*Зяць цёшчу вядзе,*
*Да на дарозе кладзе,*
*Да лежы, цёшча тута,*
*А я пайду да прута,*
*Да буду цябе біці,*
*Што не ўмела дочку глядзеці,*
*Ганьба маёй цёшчы, ганьба,* 2 р.

*Не ўгледзела свою дочку зрання,*
*Аганьбіла ўвесь наш род,* 2 р.
*Што страшно ісці во двор.*
*Уцірай, цёшча, слёзы, уцірай* 2 р.
*Да смела на людзей не паглядай.*

Вось што спяваюць, калі жаніх з нявестаю сядзяць на пасадзі:

*Сядзьмо, мамко, повечэраймо,* 2 р.
*Повечэраймо – подзелемось.*
*Тобе, мамко, уся худобенька,* 2 р.
*А мне – скрыня і коровенька.*
*Тобе, мамко, ніт, бердзечко,* 2 р.
*А мне – усе полоценечко.*
*Тобе, мамко, хустка з вугламі,* 2 р.
*А мне з хаткі побрацісь.*
*Побірайся, Олечко,* 2 р.
*І з хаты да іголкою,*
*І з хаты да іголкою,* 2 р.
*І з двора да мецёлкою.*
*До вороцечок бежкі,* 2 р.
*За вороцечкі бежкі.*
*По вуліцы – куніцою,* 2 р.
*А ў Іванка – молодзіцою.*

Калі нявестку прыводзяць у двор жаніха, спяваюць:

*Выйдзі, сваце, паглядзі,*
*Шо мы тобе прывезлі,*
*Ці овечку, ці козу,*
*Ці невестку молоду?*
*Ні овечку, ні козу,*
*А невестку молоду.*

Спяваюць, калі нявеста ідзе да вянца:

*До венца, до венца,*
*До божого слоўца,* 3 р.
*До божого храма*
*У нядзельку рана,*

Як прыйдзе ад вянца:

*Прышла Олечка от венца,*
*Пад каліною стала,*
*Слёзонькі роніць,*
*Ручэнькі ломіць,*
*У Бога долечкі просіць.*
*Прышла до ее мамонька ее.*
*– Чого, дочэнька, плачэш?*
*Шо сама маю,*
*То і тобе даю,*
*А долечку не ўгадаю.*

Спяваюць, калі малады пад'язджае да двара нявесты:

*Каля цесцёва двора* 2 р.
*Там крутая гора,*
*Нельга к горэ прыступіцца* 2 р.
*Конічэнька да напоіці.*
*Откуль вышла малада Олечка,* 2 р.
*Узяла коня да за повода,*
*Узяла коня да за повода,* 2 р.
*А Іванка да за ручаньку,*
*Дала коням оўса і сена,* 2 р.
*Сама пошла на пасад села.*
*Дала коням пшэніцы,* 2 р.
*Сама пошла да віно піці.*

Спяваюць на запоінах:

*Ой, на моры да й на камені,* 2 р.
*Там седзелі два ангелы.*
*Оны, седзя, да й говорылі:* 2 р.
*– Да лецемо на заручыны,*
*Да лецемо на заручыны,* 2 р.
*Да і к Ольцы на разлучыны,*
*Бо там Ольку да заручваюць* 2 р.
*Да і з матухнай разлучваюць.*
*Да і з матухнай разлучваюць,* 2 р.
*Да і к свекрові да прылучваюць,*
*Бо там Ольку да заручваюць,* 2 р.
*Да і з бацюхном разлучваюць,*
*Да і з бацюхном разлучваюць,* 2 р.
*Да і к свёкру да прылучваюць.*

**КАРАВАЙНІК**

*Да месілі коровая, месілі*
*Да ў Дунай по водзіцу ходзілі.*
*А той Дунай отказаў:*
*– Да ідзіце по водзіцу ў крыніцу,*
*Да ідзіце по водзіцу ў крыніцу,*
*Да несіце коровая ў светліцу.*
*Наша печэнька рогочэ*
*Да коровая хочэ.*
*А прыпечок колываецца,*
*Коровая дожыдаецца.*
*За колодою за дубовою,*
*Там баранні рогі,*
*Там старшая каравайніца*
*Задзірала ногі.*
*Да чого ж вона, да чого ж вона,*
*Да ногі задзірала,*
*Да по чарочцы, да по поўненькай*
*До дна допівала.*

***Запісана ў в. Вароніна, Жыткавіцкага р-на ад Лузай Марыі Уладзіміраўны, студэнткай Пенчык Л. (2004 г.)***

**СВАТАННЕ**

Перш, чым ажаніцца, хлопец знаходзіў сабе нявесту. І тут ужэ начынаецца сватанне. У сваты хадзілі толькі жанатыя мужыкі. Жаніх абязацельна доўжан быць. Галоўнай асобай у сватанні быў старшы сват. На гэты пост выбіралі такога мужчыну, штоб ён быў вясёлы, гаваркі, каб пры выпадку не лез у карман за словам, як кажуць.

Дагаварыўшыся аб задуманым у доме жаніха, сваты адпраўляліся ў дом, дзе жыла дзяўчына.

У сваты едуць абычна ўвечары і прытом у суботу. Увайдзя ў дом, сваты і хлопец вітаюцца з бацькамі дзяўчыны. Калі ў хату прыходзілі сваты, дзяўчына сходзіла з хаты. Бацькі хоць і хацелі аддаць дочку замуж, але ж не паказвалі гэта сватам. Сват даставаў з-за пазухі хлеб і бутылку гарэлкі і ставіў іх на стале. После гэтага маці дзяўчыны ставіла на стол закуску і сваю бутылку гарэлкі. Начыналася выпіўка. Гаварылі сразу на паўсядзённыя тэмы. А ужо потым сват начынаў угаворваць бацькоў дзяўчыны, штоб яны далі саглассе на шлюб. Тагды бацькі звалі сваю дачку, штоб паследняе слова сказала яна. Калі яна саглашаецца, дазваляе піць за яе і сама чуць выпівае. Калі сваты ўжо збіраюцца ісці дамоў, дзяўчына дае свайму хлопцу ў падарак бутылку, поўную жыта. Яна завёртвае яго ў кусок палатна і завязвае поясам сваёй работы.

### ЗАПОІНЫ

После таго, як бацькі і іх дачка саглашаліся на шлюб, начыналіся запоіны, на якіх украплялася гэта згода. На другі дзень, пад вечар, зноў у хату дзяўчыны прыходзілі хлопец, сват, бацькі хлопца. Бацькі дзяўчыны звалі сваю радню і суседзей, а дзяўчына звала сваіх самых блізкіх падруг. Тут ужэ прысутнічаў і музыкант. Бацькі дзяўчыны гатуюць угашчэння на стол і гарэлку. П'юць у асноўным за здароўе маладых. Нявесце прэдлагаюць таксама выпіць. Тая адпівае чуць і ставіць стакан на стол. Сват ложыць туды некалькі манет. Дзяўчына гэту гарэлку з манетамі вылівае на край хусткі, кланяецца свату, а яму ўзамен дае падарак. Падаркі даюцца і бацькам хлопца. Сваты ў час выпіўкі дагаворваліся аб дні заручын. А патом ехалі дадому.

После запоін дзяўчына шчыталася засватанай, запітай.

### ЗАРУЧЫНЫ

Іх задача – заручыцца згодай радні жаніха і радні нявесты на шлюб. Тут ужэ канкрэтна замацоўваюць згоду, дагаворваюцца пра ўсі падробнасці вяселля.

На заручыны прыглашалі больш людзей, чым на запоіны. Усе яны былі сведкамі згоды з двух бакоў. Маладыя абменьваліся кольцамі. После заручын ні аб якіх адмаўленнях нашчот шлюбу не магло і быць. Заручыны спраўлялі ў суботу. Бацькі хлопца і дзяўчыны абменьваліся падаркамі. За сталом спявалі, жартавалі, а пасля вячэры танцавалі. Закончвалася ўсё познім вечарам.

### ЗБОРНАЯ СУБОТА, ЦІ ДЗЯВОЧЫ ВЕЧАР

Перад вяселлем у суботу вечарам у маладой сабіраліса яе падружкі на дзявочы вечар. Гэта было прашчанне нявесты з сваім дзявоцтвам, з падружкамі. З імі после замужжа яна ўжэ не мела праў хадзіць на гулянкі. Хлопцаў у хату не пускалі, дажэ жэніха.

Дзяўчаты вілі вянкі, а галоўнае – вянок для маладой. Вянкі сімвалізавалі дзявочую чыстату, маладосць. Рабілі кветкі для дружак. Уючы вянкі, дзяўчаты спявалі песні, але не пад музыку. У эты вечар не танцавалі. Падружкі як бы прашчаліса з нявестаю, праводзілі з ёю паследні іх сумесны вечар, спяваючы жаласлівыя песні.

Калі вянок для маладой быў гатовы, ана падыходзіла да сваіх падружак і дзякавала іх з паклонам.

### КАРАВАЙ

Каждый мамент падгатоўкі і выпечкі каравая (замешванне цеста, сажанне каравая ў печ, выманне з печы) саправаджалася і песнямі.

Напярэдадні вяселля вечарам і ў доме жаніха, і ў доме нявесты ў прысутствіі многіх сваякоў і знакомых праводзілася выпечка каравая. Для пячэння каравая запрашаюць 3 жанчыны, адна з іх хросная маці. Начыная кажды этап падгатоўкі каравая, прасілі ў бацькоў благаславення. Жанчыны начыналі рыхтаваць цеста для каравая. Адна сее праз сіта муку, другая сыпле муку ў дзяжу, а трэцяя, звычайна хросная маці, размешвае муку ў дзяжы.

Месяць цеста паціху, не спяша. Замешваючы цеста, рукі мачылі ў гарэлцы, каб цеста не ліпла к пальцам. Замясіўшы цеста, яго ставілі на прыпечак, штоб яно быстрэй падыйшло. Як цеста падыйдзе, ляпілі каравай і саджалі яго ў печ.

Пасля этага каравайніцы мылі рукі. Воду, у якой мылі рукі, вылівалі пад яблыню ці грушу на вуліцы. Гападары ставілі гарэлку і закуску, і ўсе, хто прысутнічаў, частаваліса. Сажая каравай у печ, спявалі, штоб ён высокі рос, пры этым хлопалі ў ладошы і падскоквалі. На караваі рабілі разные ўкрашэнні. Калі каравай ужэ гатовы, каравайніцы падходзілі к печы і спявалі, пры гэтым вынімалі каравай з печы. Выймаюць каравай таксама сваеасабліва і стукаюць 3 разы лапа-

тай у паталок. Каравай ставяць на стол і замачваюць яго. Патом хросная маці нясе яго ў сені, за ёю ідуць і другія жанчыны, якія пяклі каравай. Пры гэтым спяваюць і танцуюць.

Калі каравай удаваўса, то лічылі, што гэта на шчасце. Было многа радасці, калі каравай намнога вырастаў. Каравай – гэта хлеб. А хлеб – гэта сімвал шчасця, дабрабыту, сімвал жызні. Прысутнасць каравая на вяселлі азначала пажаланне шчасця і дабрабыту маладой сям'і.

### ПАСАД

Пасад – гэта благаслаўленне жэніха і нявесты на шлюб, пажэланні ім шчаслівага жыцця.

Падругі адзяюць на голаву маладой вянок. Бацька ў гэты час укочвае дзяжу з сеней, тую самую, у якой мясілі цеста на каравай. Маці кладзе на дзяжу кажух, каб іхняя дачка багатая была. Хросная маці бярэ нявесту за руку, абводзіць яе вакруг дзяжы 3 разы і садзіць на дзяжу. На калені дзяўчыне бацька ложыць хлеб і соль. Бацькі, хросныя бацькі і ўсе, хто сабраўся, абходзяць маладую 3 разы. На пасадзе брат нявесты расплятаў ёй касу і расчэсваў іх. После этого падружкі падпальвалі воласы з чатырох бакоў, дружка дзержала свечку, а падружка чэраз калечка працягвала невялікую колькасць валос і падносілі іх к агню. Пры ўсіх гэтых дзействіях спявалі песні.

На дзяжу сажалі толькі тых маладых, якія былі яшчэ дзяўчынамі. Перад вяселлем дзеўкі прызнаваліся ва ўсём. У адваротным выпадку пасад мог бы наклікаць на будучую сям'ю бяду.

У доме маладога адбываецца пачці што тое ж самае. Малады кланяецца ўсім, хто прысутнічае на этым абрадзе. Патом яго сажалі на дзяжу і падстрыгалі. Бацькі благаслаўлялі яго. Но ў хлопца эта царымонія канчалася быстрэй, чым у дзяўчыны.

### ПРЫЕЗД ЖАНІХА ПА НЯВЕСТУ

Ехаў малады ад маладой на конях, якіх заранеей упрыгожвалі лентачкамі, званочкамі, галінкамі з дрэў. Калі ўсё было гатова к ат'езду, бацькі жэніха з стаканам гарэлкі ў руцэ і маці з жытам абходзілі 3 раза вакруг вазоў, пасля чаго маці абсыпала вазы і ўсіх, хто прысутнічаў, жытам. Жанчыны спявалі. Бацька вылівае гарэлку ўверх над вазамі.

Едучы да маладой, маладога могуць астанаўліваць. Для этага рабілі загарожу. Ставілі стол ці стул пасярод вуліцы, на яго лажылі хлеб і соль. Перад кожнай загарожай трэба было астанавіцца. Тым, хто спыняў вяселле, давалі выкуп: гарэлку, канфеты, а калі і грошы. Вяселле астанаўліваць можна некалькі раз. Раньшэ людзі верылі, чым больш перашкод на шляху ў вяселля, тым лучшэ будуць жыць маладыя. А калі ніхто іх не астанаўліваў, то это плохо, дажэ й вельмі.

Па дарозе спяваюць песні. Калі пад'язджаюць да дому нявесты, вароты зачынены. Эту прэграду ім устройваюць хлопцы са стараны нявесты. Пачынаецца торг. Звычайна адкупліваюцца гарэлкай. Увайшоўшы ў двор, іх жджэ яшчэ адна прэграда, но ўжэ на гэты раз яе ўстрайваюць дзяўчыны, падругі маладой. З імі нялёгка справіцца. Ім даюць і грошы, і канфеты, і пірагі. Але дзяўчыны на гэтым не спыняліся. Яны прыдумлялі розныя заданні, якія павінен быў рабіць жэніх. Пасля ўсіх этых іспытанняў жэніх са сваімі суправаджальнымі маглі ўвайсці ў хату. Тут іх сустракалі бацькі нявесты з хлебам і соллю. Галоўнага свата і хлопцаў са стараны маладога, якія не былі жанатыя, маці нявесты перавязвала палаценцамі. Дзяўчыны чаплялі на адзежу на грудзі хлопцам кветкі, якія самі зрабілі ў дзявочы вечар. Жаніху таксама прыкраплялі кветкі на адзенне і на шапку.

Бацькі запрашаюць усіх к сталу. За сталом доўга не засіджваюцца. Маладыя нічога не п'юць і не ядзяць, бо ім нельга, так як іх у цэркві поп будзе прычашчаць. Жанчыны спяваюць песні. Затым выходзяць на вуліцу і ўсаджваюцца ў вазы. Маладыя сядзяць, едучы ў царкву, поразь. У першым возе едзе жаніх, а ў другім – нявеста. Калі ўсе пасядуць у вазы, маці маладой бярэ з хустачкі жыта з грашамі і абсыпае ім усе вазы, абыходзячы 3 разы вакол іх. Бацька маладой аблівае вазы гарэлкаю. Затым бацькі перакрэшчваюць усі вазы і перад імі дарогу. Стараюцца, штоб добра заехаць да вянца і з вянца прыехаць. А калі распражэцца конь па дарозе, то не будзе шчасця маладым, разойдуцца.

У час вянчання таксама глядзяць, штоб у гэты час не патухла свечка ў маладога ці ў маладой, то той раньшэ ўмрэ. І наогул глядзяць, як гараць свечкі.

После вянчання ўсе віншуюць маладых і едуць да хаты к маладой. Цяпер ужэ едуць усі па парам: малады з маладою, сват з сваццяю...

Калі прыяжжаюць к дому, то ніхто не злазіць з вазоў. Ждалі запрашэння са стараны бацькоў. Толькі тады ішлі ў хату.

На парозе маладых устрэчалі бацькі нявесты. У руках дзве чаркі гарэлкі, два кускі сахару, дзве лусты хлеба. Маладыя бралі ў рукі чаркі, прыгублялі іх, тое, што засталося ў чарцы, вылівалі за спіну, а чаркі папярод сябе разбівалі і тапталі нагамі на шчасце. Закусвалі хлебам з сахарам. Затым ішлі ў хату. Усе, хто прысутнічаў тут, паздраўлялі іх з законным шлюбам.

Пры гэтым спяваюць. Маладыя кланяюцца ў ногі па 3 раза.

### ЗАСТОЛЬЕ

Бацькі запрашалі ўсіх гасцей за стол. Маладых сажалі на покуце пад абразамі. Каля маладой сядзела дружка, а каля маладога яго дружок. Усе пілі і елі, толькі маладыя часта не елі і не пілі. Іх кармілі после вясельнага застолля. Спявалі песні, гучалі вясёлыя тосты, жарты, пажаданні маладой сям'і. Госці за сталом крычалі "горка", пасля чаго жаніх і нявеста цалаваліся.

### ДЗЯЛЬБА КАРАВАЯ

Каравай прыносяць у хату, у гэты момант іграе музыка. У хаце маладой каравай дзяліўся паміж яе раднёй, а ў маладога – паміж яго. У гэты момант адбываўся перапой: сват разрэзваў каравай на кускі і запрашаў гасцей на каравай. Гэта перапой. Першымі падходзілі бацькі, лажылі перад маладымі падарунак (грошы, жывёлу ці яшчэ што-нібудзь), бралі стаканы з гарэлкаю і выпівалі, затым бралі па куску каравая і адыходзілі ў старану. Сват зноў прыглашаў к караваю гасцей (хросных, сясцёр, братоў, дзядзек, цётак, бабуль, дзядуль). Яны таксама выпівалі гарэлку і дарылі, перапівалі маладым падарункі. Закусвалі караваем. Пры перапоі маладых надзялялі рознымі пажаданнямі. Усім, хто падносіў падаркі, маладыя дзякавалі паклонам. Звалі. За стол садзіліся 2 разы. Паміж застолля маладыя танцавалі пад гармошку і спявалі песні і частушкі, разгаварвалі.

### АД'ЕЗД ДА ДОМУ МАЛАДОГА

За этым наступае самы хвалюючы мамент – дачка пакідае бацькаўскую хату, штоб стварыць сваю сям'ю. Тут не абыходзіцца без слёз. Бацькі дзяўчыны збіраюць яе прыданае, і яна вязе яго з сабою. Але малады доўжан быў выкупіць і саму нявесту, і пасцель, і даць выкуп падружкам маладой, якія не хацелі з ёю расставацца. На воз, на каторым маладыя паедуць дадому, клалі падушкі. Перад тым, як ехаць, перад першым возам запальвалі вязку саломы. Коні далжны былі пераскочыць чэраз агонь. Эта рабілася для таго, штоб сваркі і калатня асталіса пазадзі. Калі коні паехалі, то бацькі тры разы перакрэшчывалі вазы ў дарозе. Па дарозе іх зноў пераймалі і прасілі гарэлкі.

### СУСТРЭЧА МАЛАДЫХ

Ля двара жэніха маладых устрачалі з вялікай урачыстасцю. Было многа музыкі, песень, паздраўленняў. На парогу хаты іх устрачалі бацькі маладога. Маладыя нізка кланяліся ім. Маці карміла адразу маладых, а патом і ўсіх другіх мёдам. Гэта было пажаланне шчаслівага, салодкага жыцця маладым і ўсім астатнім. А маладая аддавала мацеры маладога пірог, загорнуты ў палаценца. Маці брала іх за рукі і праводзіла ў хату. Спявалі песні.

### ДРУГІ ДЗЕНЬ. ВЯСЕЛЛЕ Ў ХАЦЕ МАЛАДОГА

Усё праходзіла таксама, як і ў доме маладой. Садзіліся за сталы і ўгашчаліся. Было адно тое, чаго не было ў доме маладой. Маці маладога знімала з галавы нявесты вянок і адзявала ёй на галаву хустку. З дзяўчыны яе пераводзілі ў жанчыну. Калі дзялілі каравай, перапівалі, то маладая дарыла ўзамен падаркі радні маладога. За сталамі яшчэ трохі сядзелі і пачыналі разыходзіцца па дамам. Маладзёж спявала і танцавала пад гармошку. Маладых праводзілі ў комнату, дзе ім была паслана пасцель.

Утром маладых будзілі, а после этаго адбываўся агляд пасцелі. Калі маладая да вяселля была яшчэ дзяўчынай, то на другі дзень вяселле праходзіла яшчэ больш весела і закончвалася шчаслівa для ўсіх.

На другі дзень у хату бацькоў маладога прыязжалі бацькі з раднёю маладой. Вяселле працягвалася. Многа спявалі і танцавалі. Бацькі маладой прасілі ў бацькоў маладога, штоб яны не абіжалі іх дачку.

Пры канцы вяселля правяралі ўменні нявесты як гаспадыні, як работніцы. Ад гэтага залежала, як складуцца атнашэння между маладой і свякрухай.

Чэраз нядзелю маладыя і бацькі маладога прыходзяць у госці да бацькоў маладой. А яшчэ праз нядзелю бацькі маладой прыходзяць у госці да маладых і да бацькоў маладога. Тут яны зноў п'юць, ядзяць, спяваюць і танцуюць.

На гэтым і сканчваецца ўвесь цыкл вясельнай абраднасці.

### ПАЖАДАННІ Ў ЧАС ДЗЯЛЕННЯ КАРАВАЮ ЦІ «ПЕРАПОЮ»

Дару ніткі, штоб малады не заглядваў на чужыя лыткі.

Штоб ваш ложак скрыпеў, а да года сынок выпаў.

Штоб нявеста была багата, а з пераду гарбата.

Жэлаю столькі сынкоў, сколькі ў лесе пяньков.

Жэлаю столькі дочак, сколькі ў лесе кочак.

Штоб у вашам дамочку, у вашам хлявочку, у вашам садочку ўсё радзілася і пладзілася.

Дару чатыры падушкі, штоб мелі чатыры дачушкі.

Сколькі ў доме сталоў, сколькі ў сталах дошчак, штоб столькі вам сынкоў і дочак.

Дару картопляў падполле і дзетак застолле.

Дару вам пару галубоў, штоб была ў вас крэпкая любоў.

Дару вам дзве анучы, штоб усё жыццё былі ўкучы.

Дару вам кошку, штоб ніхто не перабягаў вам дарожку.

Дару вам грошы, штоб дзеці былі харошы.

Дару скрынку мукі, штоб ражаліся сынкі.

Дару віна бочку – на сына і на дочку.

Дару вязку цыбулі, штоб не тыцкалі адно другому дулі.

Дару грошы бумажныя, штоб маладыя былі паважныя.

Дару грошы медныя, штоб ніколі не былі бедныя.

Дару жменю медзі, штоб дзеці былі, як мядзведзі.

Дару каробку жукоў, штоб не называлі адно другога дураком.

Дару торбу грэчкі, штоб не было паміж маладымі ніколі спрэчкі.

Дару цябе дугой, штоб не хадзіў да другой.

### ПАЖАДАННІ МАЛАДЫМ

Са шлюбам законным вас (імёны). І вам пажаданне сярдзечнае наша. Жывіце ў любові, жывіце ў згодзе. Хай сонейка-шчасце для вас не заходзіць.

Працуйце са смакам, і ешце, і піце. А ноччу адзін аднаго вы будзіце, бо кажуць старыя ды мудрыя людзі: той сільно кахае, хто часценька будзіць.

Хай будзе ў вас пяцісценная хата, вялікая пуня, жывёлы багата: каза, казляняты, кабанчык, кароўка, штоб вам пра абед не балела галоўка.

Яшчэ жадаем вам дзетак бярэма: Івана, Пятра, Халімона, Ахрэма, Настулю, Аўдулю, Хадору і Свету, Паліну, Галіну, Агату, Сыклету. Жалалі б і далей, бо мы не скупыя, ды пальцаў, як бачыце, у нас не хапіла. Дык будзьце здаровы, у шчасці жывіце і на хрэсьбіны яшчэ прыгласіце.

Паміж нас маладыя за вясельным сталом,
Павянчалася шчасце ды пад шлюбным вянком.
Горка, горка гарэлка за вясельнай гульбой,
Падсалодзяць нам чаркі малады з маладой.

Падсалодзяць тым шчасцем, што два сэрцы зліло, каб вясёлым, мядовым век жыццё іх было!

*Запісана ў в. Вароніна Жыткавіцкага р-на*
*ад Галец Тамары Якаўлеўны, 1913 г.н.,*
*студэнткай Аксёнчык Ж.*

### АБРАД "ДЗЕД НА ВЯСЕЛЛІ"

Абрад прыйшоў з тых далёкіх часоў, але ж ён ніколі не знікаў, жыве і зараз, праводзіцца на кожным вяселлі.

На першы дзень вяселля робяць двух падстаўных. Жанчыну малога росту апранаюць у адзенне жаніха, а мужчыну высокага – у адзенне нявесты. У той момант, калі маладыя падыходзілі да хаты жаніха, іх сустракалі падстаўныя жаніх і нявеста. Яны з маладымі жартавалі, маладому падстаўлялі яго падстаўную нявесту, а нявесце – падстаўнога жаніха.

На другі дзень вяселля ў хаце жаніха рыхталіся да прыходу прыданых – радні маладое. Мужчынскія штаны і сарочку набівалі саломай. У патрэбным месце прычаплялі два чырвоныя буракі і маркоўку, рабілі таксама ляльку. Сустракаючы прыданых, паказвалі тым ляльку і казалі: "Паглядзіце ж, сваточкі, што за дзіва! Ваша дачка мала таго, што глухая, дык паглядзіце, якое ж дзіця за ноч нам нарадзіла!" Паказвае ляльку, якую зрабілі з самай раніцы.

На варотах вешалі чучала дзеда. Прыданыя павінны сарваць гэтага дзеда, адвезці і пакласці на печ гаспадыні вяселля.

Сваты са стараны маладога не даюць магчымасці сарваць, і паміж прыданымі і раднёй маладога адбываецца спаборніцтва за дзеда. Падстаўныя жаніх і нявеста выконваюць сваю ролю, яны, размаляваныя, прывітаюць прыданых, абдымаючы і вымазваючы сватоў тым, чым намаляваныя самі. Потым, калі раздзеляць каравай, то бралі века з дзежкі і астаткі каравая клалі на века. Выносяць на вуліцу і частуюць дзяцей, якія стаяць на вуліцы.

Дзяўчаты-дружкі павінны асцерагаць века, каб яго не перакінулі цераз хату. Калі перакінуць, то не пойдуць дзеўкі замуж, а калі зберагуць, то выйдуць у гэтым годзе.

*Запісана ў в. Дзякавічы Жыткавіцкага р-на*
*ад Рагалевіч Вольгі Сяргееўна, 1936 г.н.,*
*Рагалевіч Кацярыны Аляксееўны, 1934 г.н.,*
*студэнткамі Толкач М., Дзяйкун М. (2003 г).*

### ЗАПОІНЫ

Перад запоінамі, у той дзень, калі іх рабілі, з хаты не можна нікому нічога даваць.

Як едзе молоды з свадзьбаю, штоб ніхто голы насустрэчу не выйшаў.

*Запісана ў в.Запясочча Жыткавіцкага р-на*
*ад Шантар Марыі Пятроўны, 1928 г.н.*
*студэнткай Бярдзічавец С.*

### ЗАРУЧЫНЫ

На заручынах спяваюць:

*Ой, чэкель, чэкель,*

*Пакрой дарогі.* 2 р.
*У нашага Васенькі*
*Крывыя ногі.*
*Подай кульбачку падпірацconfigurationся,*
*Штоб да Валечкі дабірацца.* 2 р.
*Як пабегла Валечка па двары,*
*Два мінаючы, на трэці ды ступаючы.*
*Ой, я стану ды паслухаю,* 2 р.
*Што й людзі і гавораць.*
*А цяпер і не кажыце,* 2 р.
*Сэрца маё да не сушыце,*
*Сэрцу жалю да не задавайце,* 2 р.
*Да от мамкі да не отлучайце.*

Як прыйдуць на свадзьбу, то спяваюць. Як пасядуць за стол і ждуць гарэлкі, спяваюць:

*А ў нашага пана-свата*
*Кучерава голова.*
*Он кудрямі потрасе,*
*Нам гарэлкі прынясе.*
*Ему насіці маркотна,*
*А нам піці ахвотна.*
*А ў нашага пана-свата*
*Кучерава голова.*
*Он кудрямі потрасе,*
*Нам закускі прынясе.*
*Ему насіці маркотна,*
*А нам есці ахвотна.*

Спявалі маладым:

*Із-пад новага млына*
*Сера вутайко плыла,*
*А за ёю серы селезень,*
*Падплываючы,* 2 р.
*У вутаўкі пытаючы:*
*– Ты, вутаўка, да серэнькая,* 2 р.
*Ці полеціш ты з намі, селезнямі?*

А яна кажа:

*– Каб моіх вуцянятак воля,*
*То я з вамі, селязнямі,*
*Паляцеці ды радзесенька.*
*Адкуль выйшла малада Валечка,*
*А за ёю малады Васілька,* 2 р.
*На сукенку наступаючы,* 2 р.
*У Валечкі да путаючы:*
*– Ты, Валечко, молодзенькая,* 2 р.
*Ці пойдзеш з намі?* 2 р.
*І з намі да бояраня.*
*– Каб маіх бацькоў іх воля,* 2 р.
*Поехаці да радзесенька.*

Усе госці вылазяць з-за стала. На адном стале ставяць вячэру маладому з маладой і мічалка з свечкамі застаецца з імі. Мічалка – гэта дзеўка з рукі маладого. Яна на вянцы дзержыць свечкі. Адпраўляюць з хаты ды й спяваюць:

*Поглянь, мамко, ды на мой пасад,* 2 р.
*Усе дзявочкі ды й у косах сядзяць,*
*А на маю імша ўпала,* 2 р.
*Русу косу да рашчасала,*
*Рашчасала русу косаньку*
*Да й праліла горку слёзаньку.*
*Як вязуць молоду к молодому:*
*– Да на бок, да на бок, урагі,*
*Да і не пераходзьце дарогі,*
*Да няхай перайдзе Гаспод Бог,*
*Да няхай перайдзе бацько твой,*
*І з усею да радзінаю,*
*І з долькаю да шчасліваю.*

**КАРАВАЙ**

Вяселле пачынаецца ў суботу з караваю. Спяваюць:

*Ды месілі каравая, месілі,*
*Ды на Дунаі по водзіцу хадзілі,*

Ой, той Дунаю адказаў:

*– Ой, ідзіце по водзіцу ў крыніцу.*

Ужо месяць і спяваюць:

*Ой, ніхто ж і таго не угадае,*
*Што ў нашым караваі:*
*З трох рэчок водзіца,*
*З трох нівок пшаніца,*
*У тры долечкі масла,*
*У тры долечкі шчасна.*

Глаўну каравайніцу білі лопатай по плячах, пасля таго, як ўсадзілі ў печ каравай (хрышчона маці). Каравай мясіць не разрашалася ўдаве, разводнай. Можна толькі той жанчыне, што жыве ў пары.

Вяселле як було? Моё вяселле було ўжо по новым порадкам. А от колі я прыйшла замуж, то моя свякруха расказвала про своё вяселле. Я стою каля вешніцы, а ідзе по вуліцы хлопец. Я поглядзела на яго: ён быў нізкі ростам, худзенькі, світка з плеч з’ехала, чубаты. У зборку хлопец незавідны. Я подумала, кому гэта доля попадзе. Каб хто сказаў, шо тобе, я б з ім спрачацца стала.

**СВАТЫ**

От, праз некаторы час прыходзяць да маіх бацькоў сваты. Сватаюць мяне за іх сына (а ў іх было восем сыноў). Імя жаніха не ўпаміналася.

Я думала, мяне засваталі за Пракопа (малодшага сына), з якім я пасла з дзяцінства коней ды кароў, а мне падсунулі Рыгора. Калі я на яго глянула, то гэто буў мой хлопец, што ішоў по вуліцы".

Вяселле почыналоса з сватання дзеўчыны. Хлопец з бацькамі выбіраюць дзень і едуць до дзеўчыны і яе бацькоў у сваты.

Ідуць у мясоедныя дні. У пост і посныя дні не ідуць. Звычайна ідуць у суботу ці ў нідзелю. Бяруць з собою хлеб, соль і горелку. Заматваюць у рушнік. Шчэ з собою бяруць старшого свата, то бувае ці хросны бацько, ці дзядзько. Выходзячы з хаты, глядзяць на абразы ды хрысцяцца: "Дай, Божа, час добры, пору добру".

Калі молода жыве далеко, то едуць, а колі блізко, то ідуць пешшу. Як заходзяць у хату, адразу не кажуць, чого зайшлі, а гаворaць, што прыехалі купляць цялушку. Бацькі маладой адказваюць: "Наша цялушка бодліва, крыклівa". Але сваты згоджаюцца. Тоды ставяць на стол гарэлку, кладуць хлеб, соль, п'юць, гуляюць. Подпіўшы, спяваюць:

*На заручынах былі,*
*Мёд, гарэлочку пілі,*
*Дваіх дзеток заручалі.*
*Одно дзіця да рожонае,*
*А другое да сужонае.*
*На заручынах бывалі*
*Да гарэлочку ўлівалі.*
*Гарэлочка солодзенька,*
*А дзеўчынонька молодзенька.*

**ЗАПОІНЫ**

А далe булі запоіны (ці хто заве заручыны).

На запоінах договорваліса, колі робіць вяселле. Пілі, гулялі. Затым нявеста подносіць молодому рушнік з хлебом і соллю. Сярэд нядзелі посылаюць от молодой у хату жаніха двух жанчын, каб яны памералі скацерць на стол, рушнік на ікону, уціральнік ды колькі падарункаў дарыць. У молодого іх частaвалі.

**КАРАВАЙ**

Вяселле пачынаецца ў суботу з коровая. Собіраліса жонкі і тая, шо жыве з мужыком і не ўдова, пячэ коровай. Зваласа вона старша коровайніца. Вона рашчыняла коровай, а іншыя коровайніцы пелі:

*Тройца по цэркві ходзіла, Спаса за руку водзіла.*
*Прэчыста маці, прыйдзі к нашай хаці*
*Коровай рашчыняці, вяселле почынаці.*
*Ніхто не ўгадае, што ў нашым да короваі.*
*З трох нівок пшеніца, з трох речок водзіца,*
*Дзьве дзежкі масла і дзьве долечкі шчасця.*

Потом месяць коровай і пяюць:

*Сам Бог коровай месіць, а Прэчыстая свеціць.*
*Ангелы воду носяць, а пророкі Бога просяць.*
*Хрыстос подлівае, хусткою накрывае.*

Сажаюць коровай у печ на лопаці і тою лопатою робяць на столі накрэст. А ўсіх, хто ў хаце, лопатою по голове стукаюць. Затым муюць рукі, нясуць воду ў сад і пяюць:

*Ой, вішу, наш вішу, нальемо воды ў місу,*
*Ручкі помыймо да на вішэнькі злеймо,*
*Каб вішэнькі развіваліса, а молодыя красоваліса.*
*Мы ўсё дзело зробілі, коровай у печ усадзілі,*
*А вы, сватове, знайце, нам гарэлочкі налівайце.*

Шчэ пякуць маленькія шышачкі, шоб подзеліць коровайніцам. На коровай ішлі толькі жонкі, чоловекі на коровай не ішлі. Коровай пеклі ў молодой і ў молодого. У молодой своя родня, а ў молодого своя. Вынімаюць коровай з печы да й спяваюць:

*Старша коровайніца, не садзіса на покуці,*
*А садзіса на порозі да на бітой дорозі,*
*Каб хлопчыкі не поднялі, коровая не ўхопілі.*

Коровайніц саджаюць за стол і частуюць, пьюць, ядзяць, пяюць:

*Коровайночкі п'яны да ўсё цесто покралі*
*Да ў кішэнечкі схавалі,*
*А кішэнечкі оторваліса, а мы сорому набраліса.*
*Старша коровайніца да на порозі ўпала*
*І ногі задрала.*
*Смеяліса хлопцы, што ў чорной сорочцы,*
*Чорна да полотняна, пробачайце, я п'яна.*
*А за коровая ўкуса ўсю ноч тоўкуса,*
*Дайце мне хоця шышачку, коровая крышачку.*

У суботу ішлі зазывальнікі: пара – мужык і жонка. От молодого звалі родню молодога, а от молодой – родню молодой. Потым пара молодой ідуць к молодому, а молодого – к молодой і кажуць: "На хлеб, на соль, просім на вяселле".

Увечары ў суботу к молодой ідуць молоды з маршалкамі і мічалка со свечкамі. Гэта дзеўчына, котора нясе свечкі, якія сучуць за молодым. А сучуць іх у молодого. Молода загортвае іх у мацерыю і лентою обвязвае. Шчэ ідзе з молодым старшый сват. Молоды нясе, у хусточку белу завязваюць перніка, семкі, цукеркі і молодой хустку. Молода дае молодому рубашку. І воны адзяюць на вяселлі хустку і рубашку. І саджаюц-

ца за стол, частуюцца, п’юць, гуляюць. Гарманіста молоды прыводзіць, і хлопцы пяюць, жартуюць:

*Старшая дружка да цыцатая,*
*А другая череватая,*
*Трэця на днях ходзіць,*
*А чацвёрта дзіця родзіць.*

**ВЯНЧАННЕ**

Пагулялі ў суботу. А ў нядзелю ідуць ці едуць к вянцу: молоды са сваёю роднёю, з маршалкамі, мічалкою, молода з своёю роднёю, з дружкамі. Стояць у цэркві перэд вянцом і подходзіць старшы маршалок к молодой, расплетае косу. Затым ідуць молоды з молодою к іконі Спасіцеля, патом – к іконі Божай мацеры, станоўляцца на калені і тры разы поклоняюцца, цэлуюць іконы. Затым бацюшко закончыць службу, сцелюць рушнік коло прастола, кладуць грошы, абвязваюць бацюшку рушніком. Становяцца молодые ногамі на грошы, мічалка дае молодым свечкі, бярэ пярсцёнкі маладых, кладзе на місочку. Затым подае венец молодого маршалку, той бярэ платком, дружка бярэ платком і дзержаць над головамі. Помоліўшыса, тры разы абводзіць бацюшка вокруг прастола, прытым молодые беруцца за рукі, а бацюшко платком звязвае. Бацюшко вядзе, а пеўчыя с кліраса пяюць:

*Положыў есі на головы ім венцы*
*От каменя чесных, от каменя чесных.*
*Жывота просіўшаго ў цябе і даў есі ім.*

Ставіць зноў на рушнік. Кончылоса венчанне, молода цягне рушнік до дзьвярэй, каб дзеўкі ішлі замуж, не заседжваліся доўга. Молоды ідзе з раднёю своёю домоў к собе, а молода – к собе. Садзяцца снедаць за стол і спяваюць:

*От венца, венца Божого слоўца,*
*От Божого храма ў нядзельку рана*
*Пайшла дзевонька із венчанья,*
*Под каліною стала,*
*Ручанькі ломіць, слёзанькі роніць,*
*У Бога долечкі просіць яе.*
*Прыйшоў до яе бацюхно:*
*Чого, дочачко, плачаш?*
*Што самі маем, то і табе даём,*
*Долечкі не ўгадаеш.*

Потым прыходзіць молоды з роднёю, пірогі нясуць. Молода сядзіць за столом на кожусі і дружкі коло яе. Молоды пералазіць цераз стол к молодой. Потым сядаюць маршалкі і мічалка коло молодого, і ўся родня. Подходзяць к столу жанчыны і пяюць:

*Зародзі, Божэ, жыто да на новае лето.*
*Наша Олечка мала, каб у яе да жыто жала.*

Потым усі пяюць песні:

*Мы думалі, шо сваты едуць,*
*Аж яны да пяшком ідуць,*
*Маладога ў мяшку нясуць.*
*І ногі торчалі, і собакі ворчалі,*
*Ой, чыкель, чыкель по край дорогі,*
*У нашого молодого крывые ногі.*
*Дайце кульбочкі подпіраціся,*
*До молодой добіраціся.*
*А ты, молода, заганяй гусі,*
*Поцолуй молодого ў чорные вусы.*
*Шо вам за дзело, я поцалую*
*У яго бородку шчэ й золотую.*
*Ещце палюшкі, рошчыны няма,*
*Спіце на рагожах, падушак няма.*
*Каб наша беседонька*
*Да ўсё была веселенька*
*У пана-свата за сталом.*
*Дзе ж наш пан-сват дзеўся?*
*Ці ў клоч’е ўверцеўся?*
*Ці на полі да баранує?*
*Чаму сватоў да не частує?*
*Ой, у нашага пана-свата*
*Кучарава галава.*
*Ён кудрамі патрасе,*
*Нам гарэлкі прынясе.*
*Ему носіць маркотно,*
*А нам піці весело.*
*А ў нашай пані-свахі кучарава голова.*
*Яна кудрамі патрасе,*
*Нам закуску поднясе.*
*Ой, выпіла, выхіліла,*
*Сама сябе пахваліла,*
*Бо богатого роду,*
*П’ю гарэлку, як воду,*
*Завернуўшыся ў куток,*
*По тры чаркі ў радок.*

* * *

*І шуміць, і гудзе, дробны дождзік ідзе.*
*Хто мяне, маладую, да дому правядзе?*
*Отозваўся козак на солодком меду:*
*– Гуляй, гуляй, дзеўчыночко, я до дому доведу.*
*– Не вядзі ты мяне, не прошу я цябе.*
*Бо ў мяне ліха маці, будзе біці, ругаці.*
*Хай бы біла і ругала, як я мала была,*
*А цяпер я вяліка, знайшла сабе чалавека.*

Пасядзелі за сталамі, попілі, поспявалі, як выйдуць з-за сталоў, ідуць спяваць. Бяруць хусточку, бяруцца рукамі. Кружкамі ходзяць і пяюць:

*Ой, не пойдзе дробен дожджык без цёмное хмары,*
*Ой, не возьме козак дзеўкі без людское славы.*

І ўжэ молодого родня ідуць домоў, а молодой родня вязуць к молодому посцель і скрыню. Садзяцца жанчыны і пяюць. Прывезлі к молодому, просяць выкупа. Ім нясуць гарэлку, закуску. Разгрузяць і едуць по молодых. Іх садзяць на пасад, пяюць песні жалобные, ці будзе жыто, шоб сыпала кружкі.

*Становіся, родзіночка, усе ў рад,*
*Бо ідзе молода на пасад.*
*Усю родзіночку обышла,*
*Нідзе свойго бацюхна не знайшла,*
*Заплакала горэнько і пойшла.*
*– Устань, устань, бацюхно, годзі спаць,*
*Пора своё дзіцятко отпраўляць.*
*Ці я тобе, матухно, надаела,*
*Што мяне аддаеш за дзеда?*
*Ці я тобе кошулечкі не прала?*
*Ці я тобе посцелечкі не слала?*
*Прала тобе кошулечку на моры,*
*Слала тобе посцелечку ў коморы,*
*Прала тобе кошулечку беленько,*
*Слала тобе посцелечку мякенько.*

Молода сядзіць на посадзі, ёй спяваюць:

*Сядзьмо, мамко, повячэраемо,*
*За вячэраю подзелімоса.*
*Тобе, мамко, уся худобенька,*
*А мне скрыня да коровонька.*
*Тобе, мамко, хата з вуглamі,*
*А мне скрыня з посталамі.*
*Тобе, мамко, ніт бердзечко,*
*А мне только полоценечко.*
*Тобе, мамко, остоваціса,*
*А мне от цябе ўбіраціса.*
*– Не журыса, молода дочачко,*
*Там тобе добрэ будзе,*
*Буйны вецер да сені мяце,*
*А сонейко пірогі пячэ,*
*А свякроўка вячэры наварыць,*
*Пасадзіць за скамею,*
*Мёд, віно перад ею...*
*Посадзіць за століком*
*Со своім соколіком.*
*У нашого молодого чорные очы,*
*Вон не боіцца цёмное ночы.*
*Як жа мне, молодому, да ночы не бояцца?*
*Бог надо мною, коні подо мною,*
*Уся родзінонька моя ідзе со мною.*

Даюць молодым по буханцы хлеба і солі, молодой – ікону, мічалка со свечкамі, старшую дружку і маршалок вядзе бацько платком. Садзяцца на воз, молода посыпае хмелем і жытом усіх. Бацько з хлебам обходзіць тры разы воз, а жонкі спяваюць:

*Выкоцілі, выкоцілі бочку медочку,*
*Высваталі, высваталі ў пана-свата дочку.*
*Дай повезом, дай повезом до свойго домочку,*
*Дай посадзім, дай посадзім на новой кроваці,*
*Што захочам, то й зробім з чужого дзіцяці.*

Ад'язджаюць і пяюць:

*На бок, на бок, ворогі,*
*Да не пераходзьце дорогі.*
*Да нехай перэйдзе Господ Бог,*
*А нехай перэйдзе бацько свой,*
*Із месяцам, із зоркою, із долькою.*

Пад'язджаюць к молодого хаці, то спяваюць:

*Гукнем нізко, бо ўжэ нашэ село блізко.*
*Хай пан-сват наш гарэлку гатуе,*
*Гарэлочку солодзеньку за дзевоньку молодзеньку.*
*Отчыняй, бацько, новы двор,*
*Бо едзе к тобе сын твой*
*Із своею верною жонкою,*
*Із своею верною супругою.*

Выходзіць бацько, бярэ платком, вядзе до хаты. Коло дзьверэй маці молодого накрываецца кожухом і дае молодым мёд. А вясельныя пяюць:

*Знаці, дзевочко, знаці,*
*Шо ў цябе не своя маці.*
*Накрыласа кожухом,*
*Хацела спужаці.*

Молодые хапаюць мёд у мацеры і самі едзяць. Прывядуць у хату, покладзе молода ікону, хлеб, да вядуць у клець завіваць косы, рабіць коўба, і спяваюць:

*Зародзі, Божэ, жыто да на новэ лето*
*Зверху колосісто, а ў сярэдзіне ядрэністо.*
*Наша Олечка мала, шоб у яе да жыта жала.*

Прывозяць коровай молодой і пірогі ў скацерці і кладуць на стол перніка і цукеркі. Маці молодого забірае со стола пірогі, подымае тры разы і кажа: "Благословіце, сваты". А сваты: "Бог благословіць". Сядзяць за столамі, п'юць, гуляюць. Потом молода ходзіць з жончынаю перапіваць. Бяруць сподок, шклянкі. Жанчына налівае піво, а молода подае ўсім по чарзе. Усім, хто сядзіць за столамі. Первым подаюць

бацькам. Перап'е бацько корову, то ўся беседа шукае. Спявае:

*Перапіў бацько короўку*
*На мою бедну голоўку,*
*Каб рано ўстовала да корову даіла.*

Расходзяцца ў нядзелю вясельныя. У панядзелак пасылаюць жонку ад молодой будзіць молодых. Саджаюць яе за стол, частуюць, потым ідзе воно домоў. А от молодого ідуць маршалкі к родным молодой, нясуць пірога і бутылку. Сажаюць іх за стол, абвязваюць рушнікамі. Ідуць к молодому маршалкі. Ім таксамо даюць пірога, бутылку. Молоды ідзе зваць радзіну молодой. Гето "пярэзвы" называюцца.

*Чэшчэнько, наша матухно,*
*Учыні добру волю,*
*Поедомо со мною.*

Едуць к молодому. Молода кланяецца бацьку, мацеры, вешае ікону, рушнік на ікону накрывае, скацерць на стол сцеле, садзяцца за стол, п'юць, гуляюць, дзеляць коровай. Первы ковалочок даюць молодым, затым – усёй беседзі.

Падаркі радне молодого дае маці молодой, подаркі носіць маршалок родне молодой.

Подзелілі подаркі, замочваюць, спяваюць:

*Свахна свахне поклоніласа,*
*Каб на яе дзетонько не сварыласа.*
*Бо наша дочачка молодзенька*
*На сон радзенька.*
*Не будзіце яе, як певень пяе,*
*А будзіце яе, як пастух устане,*
*Той добра будзе.*

Разыходзяцца сваты і спяваюць:

*Дай булі мы ў свата,*
*Да була нам повага.*
*Да елі мы барана,*
*Чорнаго да рогатого,*
*У пана-свата да богатого,*
*Чорного, рогаценького,*
*У пана-свата богаценького.*
*Бывайце здоровы,*
*Бацьковы коровы,*
*Да ўжэ не ходзіці*
*Мне вас доіці.*
*Да ўжэ не стояці*
*Ранкам над ганком,*
*Да не говорыці з козаком Іванам.*
*Кого я любіла, стоіць за плячыма,*
*А кого не знала, з тым на шлюб стала.*

Дай жывуць, як у кого складзецца. От, як тоды бувало.

***Запісана ў в. Запясочча Жыткавіцкага р-на***
***ад Русай М.І.,***
***студэнтам Кувікам А.***

Спяваюць у сватах:

*– Ой, белая берозонько,*
*Да чому ж ты не зялёная?*
*– Ой, як жа мне зялёной быць,*
*Што дзянёчка купцы едуць,*
*Да із мене дубцы рэжуць,*
*На коранях огонь кладуць,*
*Лісцейко падпальваюць.*
*– Ой, молодая дзевонько,*
*Да чому ж ты не весёлая?*
*– Ой, як жа мне весёлой быць?*
*Што вечор сваты едуць,*
*Да не даюць бацьку спаць,*
*Да хочуць мене, молодую, узяць.*

У час рашчынення каравая спяваюць:

*Благаславіце, людзі, блізкія суседзі,*
*Каравай замясіць ручкамі беленькімі,*
*Перснямі золоценькімі, песнямі весяленькімі.*

Замешваючы цеста на каравай:

*А ніхто не ўгадае, што ў нашым караваі.*
*А сямі крыніц вада,*
*А сямі пшаніц мука,*
*А сямі кароў масла –*
*Дай, Божа, маладым шчасця!*

Калі садзяць каравай у печ:

*Ой, вічу, вічу, коровая клічу.*
*Наша печачка рогочэ,*
*Короваенька хочэ.*
*А прыпечок коловаецца,*
*Коровая сподзяваецца.*

Калі каравай павінен быць гатовы, каравайніцы падходзяць да печы і спяваюць:

*Яшчэ, каравайку, яшчэ!*
*Каравайчык кліча, засланкі адбівае*
*Да каравайніц гукае:*
*– Ой, дзе ж нашы каравайніцы?*
*Ці на мяду запіліся,*
*Шо про мяне забыліся.*

Вымаючы каравай з печы, пяюць:

*Да бярыце меч, да рубіце печ.*
*Каравай з печы не лезе.*
*Ці ён багат, ці ён рагат?*

*Нельга к яму прыстаці,*
*Ён іграе ў пячы.*
*– Як жа мне не іграці,*
*Што на мяне часта пазіраюць,*
*А сырам, маслам паліваюць.*

Прыбіраючы каравай, спяваюць:

*– Ой, короваю, наш нараджоны,*
*Да хто цябе нарадзіў?*
*– Нарадзіла мяне пані-королеўна*
*Ручкамі беленькімі, перснямі золоценькімі,*
*Да песнямі веселенькімі.*
*Покуль коровая свойго нарадзілі,*
*То поўлуга каліны зломілі.*

* * *

*Убірайся, коровай, то ў мяту, то ў руту,*
*То ў ружовыя кветкі, шоб любілі дзеткі.*
*Старшая коровайніца по лугу ходзіла,*
*Да каліну ломіла, коровая квяціла,*
*Увесь род звесяліла.*

Прымаючы спечаны каравай, каравайніцы звяртаюцца да гаспадара з наступнаю песняю:

*Дзе падзеўся гаспадар?*
*Няхай выкупіць каравай,*
*Няхай вязе бочку мядочку, а віна дзве,*
*Да выкупіць каравайку увесь сабе.*

Выконваецца, як просяць каравай:

*Да няма дзевонькі ні тут, ні там.*
*Пойшла дзевонька до могілонькі,*
*Да дому родзіноньки.*
*– Прошу, прошу, мамонько, к собе на вяселле.*
*– Да й ідзі жаніся, дочэнько, як сама знаеш,*
*Бо не можна ўстаці, камянёў подняці,*
*Бо я каменем прылажоная,*
*А вечнымі замкамі замкнёная.*
*Першы замочак – зялёны дзярночок,*
*Другі замочок – жоўты пясочок,*
*Трэці замочок – цесовая дошка.*
*– Зялёны дзерночок, ты отверніся,*
*Жоўты пясочок, ты отсыпніся,*
*Цесовая дошка, подыміся,*
*А ты, моя мамонько, хоця одзовіся.*

Выконваецца перад пасадам маладой:

*Каменная печачка, каменная печачка,*
*Вечар гарыш – не выгарыш,*
*Вечар гарыш – не выгарыш,*
*Каменейка да й не распаліш.*
*Маладая дзеванька, маладая дзеванька,*
*Зрання сядзіш, да й не заплачаш,*
*Зрання сядзіш – не заплачаш,*
*Родзіноньку да й не разжаліш.*
*Ой, тоды разжалю, як пойду я по застолейку,*
*Коскамі распушчуся, слёзкамі обольюся.*

Як сірату-нявесту на пасад вядуць:

*Станавіся, родзіноньќо, уся ў рад,*
*Бо іціме Ганночка на пасад,*
*Бо іціме Ганночка ў радочку,*
*Усю родзіноньку обышла,*
*Нідзе свое мамонькі не знайшла.*
*А галоўка моя ў квеце,*
*Няма моей мамонькі на свеце,*
*А головонька моя ў вяночку,*
*Няма моей мамонькі ў радочку.*

Як нявесту на пасад вядуць:

*Ой, ляцелі гусонькі цераз сад*
*Да клікнулі Ганусеньку на посад.*
*– Што ж вам, гусонькі, до того?*
*Е ў мяне мамонька для того,*
*Она мяне хорошэнько нарадзіць*
*Да мяне на посад посадзіць.*

* * *

*Туман яром, туман доліною,*
*За туманом нічого не відно,*
*Только відно дуба зеленого,*
*Под тым дубом крыніца стояла,*
*З той крыніцы Галя воду брала,*
*Дэ й спусціла золотэ ведзерцэ.* 2 р.
*– Ой, хто тое ведзерцэ достане,*
*Той со мною на рушніку стане.*
*Отозваўся Васіль молодзенькі:*
*– Я ведзерцэ золотэ достану,*
*Дэ й с тобою на рушніку стану.*

* * *

*Аддала мяне маці ў далёку сторону,*
*У далёку сторону шчэ й вялікую сям'ю.*
*А вяліка сям'я ўся вячэраць посела,*
*А мяне, молоду, посылаюць по воду.*
*Я вядзерцэ ўзяла ды по воду пойшла,*
*Ды по воду пойшла, крынічэнькі не знайшла.*
*Як крыніцу знайшла, зачэрпнула поўвядра,*
*Як дадому ішла, то слезамі доліла.*
*Поставіла ў сяней, сама стала ў дзвярэй,*
*Ды послухаю я, шо гаворыць сям'я.*
*А вяліка сям'я навучае мужыка:*
*– Чаму жонкі не б'еш, на што волю даеш?*
*– А на што яе біць, она ўмее ўсё рабіць*
*І са мною гаварыць.*

Перад развітаннем маладой з бацькамі свахі спяваюць:

*Хоць я ночкі не спала,*

*Я свою свахночку ошукала,*
*Собе нявехночку дождала*
*Да к сцюдзёнай зіме плацце прасці,*
*А к краснай вясне кросны ткаці,*
*А к ціхаму лету жыта жаць,*
*А к цёмнай ночы на таку малаціць.*

Чакаюць маладых у доме маладога, спяваюць:

*Выйшла мамонько на дорожэньку*
*Ды й слухае, ці шуміць дубровонька,*
*Ці стогне дорожэнька,*
*Ці музычэнькі йграюць,*
*Ці свахны спяваюць.*
*І шуміць дубровонька,*
*І стогне дорожэнька,*
*А музычэнькі йграюць,*
*І свахны спяваюць.*

Пад'язджаючы да двара свякрухі:

*Выйдзі, выйдзі, мамонько, поглядзі,*
*Да шо тобе бояры прывезлі.*
*Да ці овечку, ці козу,*
*Да ці невехночку молоду.*

Калі прыязджаюць да маладога, жанчыны спяваюць:

*Ой, маці, маці, вывернула кожух,*
*Хоча спужаці.*
*Не пужай, маці, я ж не боюся,*
*За Васількову ручэньку моцненько дзяржуся.*

Выконваецца пры ад'ездзе радні маладой дадому:

*Ой, ты, свашэчка, моя пташэчко,*
*Прошу вас, шоб не було мойму дзіцяці*
*Глуму ў вас, шоб не стояла ўсю ночэньку под окном*
*Да не вуцірала дробных слёзочок рукавом,*
*Шоб не було з лешчыноньکі хаты,*
*Шоб не було з суседонькі мамонькі.*
*Лешчынонька – не цёплая хатонька,*
*Суседонька – не родная мамонька!*

***Запісана ў в. Любавічы Жыткавіцкага р-на ад Ракавец М.М., 1927 г.н., Каралец К.А., 1942 г.н., Матарас С.П., 1912 г.н., студэнткай Русай Л. (1992 г.)***

Каб дамовіцца аб шлюбе, хадзілі ў сваты к дзяўчыне. У сваты хадзілі бацькі маладога, хросныя бацькі і пазней прыходзіў малады. Дзяўчына не ведала, што к ёй прыдуць сватацца, а прыходзілі часцей позна. Сваякі маладога бралі з сабой хлеб, соль, гарэлку. Хросны бацька маладога браў торбу, палку, плоха апранаўся і прыходзіў першы ў хату. Ён пытаў:

– Я чуў, хазяечка, што ў гэтай хаце цёлка харошая для продажу ёсць.

Хазяйка адказвала яму:

– Я цёлкі не прадаю, а ёсць у мяне дачка. Я яе замуж выдаю.

Сват гаварыў:

– Я – гэты купец, што хоча купіць цёлку і дачку ў нявесткі ўзяць.

Калі дзеўка не хацела ісці за гэтага хлопца замуж, то яна лажыла яму ў воз вараны гарбуз. А калі хлопец нравіўся дзяўчыне, а дзяўчына – хлопцу, то садзіліся за стол, елі, пілі.

*Кругла мала балоценька.*
*Ды хоць яна малюсенька,*
*Але птушачак у ім поўна.*
*Адны птушачкі адлятаюць,*
*А другія птушачкі прылятаюць.*
*Маладая дзеванька*
*Ды хоць яна малодзенька,*
*Сватоў у яе поўна.*
*Адны сваты прыязджаюць,*
*А другія – ад'язджаюць.*

* * *

*Як прыехаў казачэнька з поля,*
*Прывязаў ён каня да явара.*
*Дай заплакаў, каля коня стоя,*
*Забалела галованька мая.*
*– Ой, дай, Божа, вечара даждаці,*
*Пашлю сватоў дзяўчыну сватаці,*
*А сам буду пад акном стаяць,*
*Паслухаю, што будуць казаць.*
*А дзяўчына па святліцы ходзіць,*
*Яна свае белы ручкі ломіць.*
*Маці, маці, парадніца ў хаце,*
*Скажы, маці, што сватам казаці.*
*Ці мне, маці, прыданне гатовіці,*
*Ці мне, маці, шчэ й год пагуляці.*

* * *

*Салавей у саду спявае,*
*Як на дудцы йграе.*
*Аддай мяне, мая маці,*
*Дзе хараша ў хаце.*
*Дзе залвіцы, як сястрыцы,*
*Свякроўка, як маці.*
*Дзе дзеверы маладыя*
*Любяць жартаваці.*
*Адзін кіўне, другі маргне,*
*Трэці пацалуе.*
*А мой мілы чарнабрывы*
*Да ўсё гэта чуе.*
*А мой мілы чарнабрывы*

*Усё гэта чуе*
*Да на маё бела цела*
*Нагайку гатуе.*
*Нагаечка драцяная*
*Высока ўзлятае,*
*Сарочачка палатняна*
*Ў цела ўліпае.*
*Сарочачка палатняна*
*Ў цела ўліпае,*
*Фартушына вышывана*
*Ад слёз не ўсыхае.*
*Салавей у саду спявае,*
*Як на дудцы йграе.*
*Аддай мяне, мая маці,*
*Дзе хораша ў хаце,*
*Дзе залвіцы, як сястрыцы,*
*Свякруха, як маці.*
*Дзе дзеверы маладыя*
*Любяць жартаваці.*

* * *

*Ці знаеш ты, дзеванька,*
*Што ў вас людзі начуюць,*
*Цябе таргуюць.*
*Аддае цябе мамачка,*
*Бярэ чару залатую.*
*Мілей ей чара залатая,*
*Чым дачка родная.*

За тыдзень да вяселля прыходзілі к маладой самыя блізкія сваякі. Бацькі абменьваліся хлебам, соллю. Хросная маці нявесты перавязвала сватоў і жаніха ручнікамі. А дзяўчына дарыла ўсім сваякам маладога падаркі. Дамаўляліся, калі будзе свадзьба.

*Гарэла сасна, палала,*
*Пад ёй дзеўка стаяла,*
*Пад ёй дзеўка стаяла,*
*Русую косу чэсала.*
*– Ой, косы, косы, вы мае,*
*Доўга служылі вы ў мяне.*
*Ой, больш служыць не будзеце,*
*Бо ўжо пад вянок пойдзеце.*
*Гарэла сасна, палала,*
*Пад ёй дзеўка стаяла.*

Вечарам напярэдадні вяселля рашчынялі каравай. Рашчынялі і ў хаце жаніха, і ў хаце нявесты. Прыходзіла хросная маці маладой і прыносіла з сабой дзяжу. Раніцай маладая ішла за сяброўкамі, каб яны таксама рашчынялі каравай. Сколькі было жанчын, столькі звалі і мужчын. Хросную маці называлі старэйшай каравайніцай. Пелі песні:

*Ішлі і беглі каравайначкі*
*Чэраз гару высокую,*
*Няслі муку пшанічную*
*І яйца курэй маладых.*
*Памыйце рукі беленька,*
*Замясіце каравай харашэнька.*

Калі рашчынялі каравай, то тапілі печ:

*У нашым караваі*
*Сямі крыніц вада,*
*Сямі пшаніц мука,*
*Сямі кароў масла –*
*Дай, Божа, маладым шчасця.*

Калі печ разгаралася, ставілі ў яе каравай. Спявалі:

*Печ караваю хоча.*
*Караваю, мой раю,*
*Каля цябе хораша я іграю.*
*Расці, расці, каравай.*

У маладога дома пяклі каравай таксама. Пелі песні:

*Наша печка рагоча,*
*Караваю хоча.*
*Наша печка калаваецца,*
*Караваю набіваецца.*

Калі каравай быў гатовы, то свахі ў шутку абмазвалі ўсіх мукой.

Калі прыходзіў дзень вяселля, то да маладой прыязджалі сябры маладога. А перад гэтым маладую прачуць, і выходзяць сяброўкі маладой. Сваха пытае, сколькі дадуць дружкі за маладую. Дружкі гаварылі, што многа. У гэты час адзін дружок хоча пралезці і ўкрасці ў маладой туфлі. Калі ён украдзе, то за маладую хлопцы ўжо не плацяць. А калі туфель не ўкрадуць, то сколькі сваха скажа, столькі за маладую і заплацяць. Грошы брала старэйшая дружка. Потым садзіліся за стол, пілі, елі, гулялі, пелі песні:

*Жыта ў полі,*
*Жыта ў полі людзі засявалі,*
*Ну, а маці з сваім сынам*
*Ціха размаўлялі.*
*Жыта, маці, жыта, маці,*
*Жыта не пшаніца,*
*Як мне дзеўку не любіць –*
*Яна чарнаброва.*
*Жыта, сынку, жыта, сынку,*
*Жыта не пшаніца,*
*Як ту дзеўку не хваліць,*
*Яна – чараўніца.*

*Жыта, маці, жыта, маці,*
*Жыта каласочкі,*
*Як ту дзеўку не любіці,*
*У яе чорны вочкі.*
*Жыта, сынку, жыта, сынку,*
*Жыта пара жаці,*
*Калі дзеўку вельмі любіш,*
*То хадзема ў сваты.*
*Жыта ў полі, жыта ў полі,*
*Жыта ўсе пажалі,*
*А ў нашым ў сяле*
*Вяселле згулялі.*

* * *

*Ой, нашыя сваты елі, елі*
*Да цэлага каня з'елі,*
*Па сталу качалі.*
*На стале – ні костачкі,*
*Пад сталом – ні крошачкі.*

*Сакатала курка, сакатала,*
*Чула вяселле – не сказала.*
*А мы тую курку – на юшку,*
*Пер'е – на падушку.*

Маладыя на вяселлі не елі, не пілі. І пад вечар пачыналі дзяліць каравай маладой. Першымі вызывалі бацькоў і сваякоў, потым дружак маладой. Каравай выносілі і дзялілі пад музыку. Дзялілі старшы сват і маршалак. Калі каравай уносілі, свахі пелі песні. Сваякі давалі падарункі маладым.

*Сівы конь,*
*Сівы конь,*
*Залатая грыва,*
*Няхай наша маладая*
*Любіць маладога,*
*Пака будзе жыва.*

Калі падзеляць каравай, маладую забіралі к маладому. У маладога таксама напярэдадні шлюбу пякуць каравай. Перад ад'ездам маладая пяе:

*Выгрэбай, маці, жар, жар,*
*Будзе табе дочкі жаль, жаль.*
*Будзе жаль, да не вернецца,*
*Твае сэрца перавернецца*
*Да із хаты да іголкаю,*
*Да із дому да мяцёлкаю.*

Едуць к маладому і пяюць:

*Адчыняй, матка, новы двор,*
*Едзе к табе нявестачка, сынок твой.*

Дома ў бацькоў маладога сустракаюць перад сталом на дварэ. Маладых прымае маці, яна пераварачвае кажух і адзявае яго, потым яна дае з ложачкі маладым мёд і абсыпае іх жытам, каб жылі багата. Усе заходзілі ў хату, і маладыя садзіліся на лаву, на якой ляжаў перавёрнуты кажух. Маладую за стол вёў брат і пеў:

*Брат сястру за ручку водзіць,*
*А сястрыца ўпіраецца,*
*Слязамі заліваецца.*

За сталом гулялі, елі, пілі, весяліліся, танцавалі ўсю ноч. Пад вечар пад гармошку ўносілі каравай маладога. Калі яго дзялілі, то першымі вызывалі бацькоў маладога, а потым блізкіх сваякоў. Маладая ўсім дарыць падарункі, і за каравай сваякі кладуць на талерку грошы і гавораць маладым пажаданні. Пасля таго, як падзеляць каравай, свякруха знімае з маладой вяночак і адзявае ёй хустку. Увесь час весяляцца і пяюць песні.

*Ой, у полі стаяла вежа,*
*Стаяла вежа муравана.*
*Ой, у той вежы*
*Дружок ляжыць.*
*Устань, дружок, не ляжы,*
*Каравай ты падзялі.*

***Запісана ў в. Людзяневічы Жыткавіцкага р-на ад Макарэвіч Марыі Аляксееўны, 1925 г.н., студэнткай Ярмош Н. (1996 г.)***

Пачынаецца вяселле з выпечкі каравая і "месяца". Збіраюцца каравайніцы. Хросная маці вымешвае і сажае ў печ каравай і "месяц". Усе мыюць рукі і выносяць ваду, выліваюць на вішню з песняй:

*Ой, вісу, нам вісу,*
*Да нальемо да воды ў місу.*
*Да ручанькі памыймо,*
*На вішаньку залеймо.*
*Каб вішанькі развіваліся,*
*Маладыя красаваліся.*

Так спяваюць тры разы. Затым усе садзяцца за стол і частуюцца за тое, каб спёкся добры каравай. Каравайніцы вартуюць каравай у печы, каб яго ніхто не ўкраў. Каравай і "месяц" хросная вынімае з печы і прыказвае: "Быў я ў печы, асмаліў сабе плечы. Каб сыр да масла, то ўсё б пагасла". Каравай і месяц ставяць на века з дзежкі і абвязваюць белай хусткай. Каравайніцы радзяць каравай і спяваюць:

*Да ніхто з вас не знае,*
*Што ў гэтым да каравае:*
*Сем рэчак вадзіца,*
*Сем рэзак пшаніца*
*І бачоначак масла,*

*Штоб было жыццё красна.*

* * *

*Як мы свайго каравая радзілі*
*Да ў бор па зелле хадзілі.*
*Нам зялёны бор адказаў:*
*– Я вашага каравая не знаю,*
*Я для вас зеллейка не маю.*

Як нарадзяць каравай, раднейшыя ідуць да маладой зрэзваць свечкі. З булкі хлеба зразаюць верх і ставяць дзве свечкі: свечку маладога і маладой. Маці маладой знізу абвязвае свечкі ручніком. Свечкі дзяржыць старшая сваха, абавязкова дзяўчына. Маці нявесты абвязвае іх усіх ручнікамі. Усе вяртаюцца да маладога і садзяцца за сталы частавацца. У гэты час бацькі маладога пасылаюць дваіх гасцей да маладой з мукой і яйцамі з абвяшчэннем, што вяселле пачалося. Ад маладога таксама ідуць двое з абвяшчэннем вяселля. Іх там частуюць. Каравайніцы вяртаюцца ад нявесты, і за імі скора ідзе поезд маладога па маладую. Ідуць з караваем. Калі блізка – ідуць пяшком, а далёка – едуць на вазах, запрэжаных коньмі, і спяваюць:

*Адступіцеся, варажэнькі, з дарогі,*
*Да не пераходзьце дарогі,*
*Да нехай перэйдзе Госпад Бог,*
*Да нехай перэйдзе бацька твой.*

Спяваюць тры разы:

*Насыпайце жыта поўныя карыта,*
*Карміце коні ў доўгую дарогу.*
*Што ў вялікай дарожаньцы*
*Трое варот стаіць,*
*Што ў адные вароцейкі*
*Месячык засвеціць,*
*А ў другія вароцейкі сонейка засвеціць,*
*А ў трэція – малады (Іванко) уедзе.*
*Месячык засвеціць – відненька будзе.*
*Сонейка ўзойдзе – цёпленька будзе,*
*Іванко ўедзе – вяселлейка будзе.*

Заехалі к маладой. Іх не пускаюць у хату. Дзядзька маладой адзяецца ў шаўца і шые боты. Гаворыць, што вы не туды заехалі, тут няма ніякага вяселля. Маладога радня спявае:

Ой*, памерзлі, пачэзлі* 2 р.
*У вялікай дарозе.*
*Ой, хто тута да падабрэ,* 2 р.
*Ён нас да разагрэе.*
*Што Насценька да падабрэ,* *2 р.*
*Яна нас да разагрэе.*

* * *

*Каля цесцева двара*
*Там вялікая гара.*
*Нельга к гары прыступіці,*
*Канячэньку да напаіці.*
*Адтуль выйшла, выбегла*
*Маладзенькая Насценька,*
*Яна к коню прыступіла,*
*Канячэньку да напаіла,*
*Дала коню аўса, сена,*
*Сама пайшла, на пасад села.*
*Дала коню аброку,*
*Сама села каля яго боку.*

Маршалкі таргуюцца, даюць выкуп, і іх пускаюць у хату нявесты. Малады дае маладой хустачку з падарункамі. Сажаюць за стол, п’юць, едзяць і песняй гукаюць нявесту:

*– Сівы, белы селязенчыку,*
*Ці быў жа ты на Дунайчыку?*
*Ці бачыў жа ты сваю вутаньку?*
*– Ой, не то ж я яе бачыў,*
*Я з ёю наплаваўся.*
*Ой, скоро я на Дунай заплыў,*
*Аж яна па вірах плыве,*
*А на ёй пер’е сіяе,*
*А пад ёю вада іграе.*
*– Ой, серая вутаўка,*
*Ці палеціш ты з намі,*
*І з намі, селезнямі?*
*– Як будзе пагода,*
*То я з вамі гатова.*
*Як будзе дожджык ісці,*
*То я буду на вірах плаваць.*
*– Маладзенькі Іваночка,*
*Ці бачыў ты сваю Насцечку.*
*– Да й не то ж я яе бачыў,*
*Я з ёю да нагаварыўся.*
*Ой, скоро я на двор заехаў,*
*А яна ў клець бяжыць,*
*А на ёй плацце шуршыць.*
*Я – за ёю, даганяючы,*
*На сукенку наступаючы.*
*– Маладзенькая Насцечка,*
*Ці паедзеш ты з намі*
*І з намі да баярамі?*
*– Як будзе пагода,*
*Я з вамі гатова.*

***

*Да прыляцеў соловейко,*
*Сеў на лому.*
*Ой, скучненько мне самому.*
*Каб моя голубонька со мною,*
*Шчабятаў бы ўсю ночку я з ёю.*

*Да прыехаў Іваночку,*
*Сеў за столом.*
*Ой, скучненько мне самому.*
*Каб мая Насточка со мною,*
*Гаварыў бы ўсю ночку я з ёю.*

*Ой, ляцелі гусонькі через сад,*
*Гукнулі Насцечку на пасад.*
*– Што ж вам, гусонькі, до того,*
*Ёсць у мяне бацюхно для того,*
*Ён мяне харашэнько нарадзіць,*
*Ён мяне на пасадзік пасадзіць.*

Пасля песень пачынаюць падводзіць к маладому маладую (нявесту). Паляўнічы са стрэльбай падводзіць два разы падстаўных нявест. Паляўнічы хваліць падстаўную маладую. Госці яе не прымаюць, даюць паляўнічаму чарку гарэлкі і просяць найці ім іхнюю нявесту. За трэцім разам ён прыводзіць нявесту. Нявеста пачынае развітвацца, кланяецца тры раза і цалуецца з маткай, бацькам і родзічамі. Бацькі з іконай благаслаўляюць маладую на пасад ісці. Сажаюць за стол. К маладому садзяцца тры дружкі, а нявеста садзіцца за імі (на лаве падасланы кажух для маладога і маладой). Маршалкі скупоўваюць дружок, каб уступілі месца маладой ля маладога. Пачынаецца пераклічка песнямі: Госці маладога спяваюць:

*У вашае дружкі паршывыя ручкі,*
*Із кішэні да не выймае,*
*Нашых грошай не прымае.*

Госці нявесты:

*А ў нашае дружкі залатыя ручкі,*
*Яна шыла да вышывала,*
*По чырвончыку брала.*
Госці маладога:
*Адна дружка цыцатая,*
*А другая – чараватая,*
*А трэцяя на днях ходзіць,*
*Да вечара сына родзіць.*

Госці нявесты:

*А ў маршалка барада, як лапата,*
*Шапка цяляча, шубка свіняча,*
*А чаботы ды авечыя.*
*Шапка рыкнула, шубка віскнула,*
*А чаботы ды бекалі.*

Госці маладога:

*А ў вашае дружкі цыцкі, як падушкі.*
*Цыцкаю парася ўбіла,*
*На прыпечку асмаліла,*
*А на печы разбіла,*
*Гасцей частавала.*

Дружкі бяруць выкуп (гарэлку, грошы) і ўступаюць месца маладой каля маладога. Дружкі ставяць маршалкам гасцінец: талерку з гарбузікамі і арэхамі. Усе частуюцца і выходзяць гуляць. Малады з маладой, дружкі і маршалкі застаюцца за сталом. Старшы маршалак і брат маладой мяняюцца “месяцамі” і “месяц” аб “месяц” стукаюць, хто каго пераможа, чый будзе верх: маладой ці маладога. Старэйшы маршалак бярэ маладую за платочак, а маладая бярэ за платочак маладога, і ўсе бяруцца за рукі і абходзяць вакол стала тры разы. Маладая падходзіць к іконам, становіцца на лаву, цалуе ікону маці, а сваю забірае з сабой і едзе к маладому. Забіраюць пасцель маладое і скрыню. Пасцель і скрыню таксама выкупліваюць.

На двары ў бацькоў маладога сустракаюць маладых бацька і маці з хлебам і соллю, абсыпаюць іх тры разы жытам і хмелем, каб у іх жыццё ладна звілося. А ў сенцах маладая (калі яна яшчэ дзяўчына) ступае на дзежку, а свякруха, пераадзетая ў вывернуты кажух, прывітае іх мёдам і віном і запрашае ўсіх у хату. Заходзячы ў хату, госці спяваюць:

*А мы сюды да не ведалі,*
*Самі коні заехалі.*
*Дарогаю-таптанкаю*
*За своею каханкаю,*
*Дарогаю-тапатухаю*
*За своею маладухаю.*

Садзяцца за стол і спяваюць:

*Тут нас не прымаюць,*
*Тут намі ганьбуюць,*
*Тут нас не частуюць.*

Бацька і маці, і ўсе раднейшыя маладога падходзяць к маладым і іх прыветствуюць, дараць падарункі, а маладая абдарывае іх таксама падарункамі. Усе частуюцца. Пачынаецца перапой радні маладой.

Госці спяваюць:

*На дабранач, маці, не лажыся спаці,*
*Давай, мамка, павячэрайма,*
*Павячэраўшы, падзелімся.*
*Табе, мамка, уся худобонька,*
*А мне – скрыня да коровонька.*
*Табе, мамка, конёчок,*
*А мне – Іванка-голубочок.*

Дарыць бацька і маці маладой. Госці спяваюць:

*Перапіў бацька кароўку*
*Ды на маю бедну галоўку.*
*Трэба рана ўставаці*
*Ды кароўку даіці.*

Госці частуюцца і пяюць:

*Ой, ковалю, ковалюсенька,* 2 р.
*Да скуй жа мне да сокероньку,*
*Да зрабі мне да кроватоньку,*
*Да прыкуй мене, зоўзуленьку,*
*Штоб рано ковала* 2 р.
*Да мяне побужала.*
*Бо ў мяне не свая маці,* 2 р.
*Не будзе побужаці.*
*Да не будзе побужаці,*
*Па суседах судзіці.*
*Ой, суседонькі мое,* 2 р.
*Ой, што ў мяне за невестонька,*
*Сонліва, дрэмліва.* 2 р.
*Сонца не зайдзе – ляжа,*
*Сонца ўзойдзе – устане.*
*А ўстане да паснедае,*
*І мамоньку да отведае.*

* * *

*У нового да колодзежа*
*Там Настонька да воду брала*
*Да ў край свой паглядала,*
*Ці не едзе мой бацюхно,*
*Ці не везе мне госцінчыка,*
*Чырвоного да Васільчыка.*
*Не так рада я Васільчыку,*
*Як я рада свайму бацюхну.*

* * *

*Да хіліцеся, лугі, і з горы ў доліну,*
*Да нехай будзе відно,*
*Да кого мне жалко.*
*Ой, жалко мне да*
*Бацюхна свайго.*
*Куда едзе – не заедзе,*
*Калі ідзе – не зайдзе.*
*І варота мінае, ко мне не заезджае.*
*А я, малодзенька, бачу,*
*Сільненька плачу.*
*Плачу, плачу да ўтруся,*
*Да бацюхны не вярнуся.*

* * *

*– Ой, белая ты бярозанька,*
*Ой, чаму ты не зялёная.*
*– Ой, як жа мне зялёнай быць,*
*Праз мяне шлях-дарога ляжыць,*
*Каля мяне купцы ідуць,*
*Із мяне дубцы рэжуць,*
*На карэньчыках агонь кладуць,*
*А ветачкі падкладваюць.*

* * *

*– Ой, мамонько родная,* 2 р.
*Ратуй ты мяне з гора,*
*Із вялікага мора.*
*– Ой, рада б я да ратаваці,* 2 р.
*Не ўмею поплаваці.*
*А ні чоўна, ні вясла –* 2 р.
*Усё бура разнесла.*
*Чоўны мае да дубовыя,*
*Веселлечка веселёвае.*

Вечар канчаецца, госці выходзяць з-за стала:

*Разганяйся, маці, па вялікай хаце,*
*То ў той куток, то ў запечак,*
*Галавою аб прыпечак.*

* * *

*Прапіў бацька дочку*
*На салодкім мядочку.*
*Напіўшыся – скача,*
*Праспаўшыся – плача.*

Свякроў бярэ чапялу і ёю знімае вянок з галавы нявесткі і атдае дружцы, надзяе ёй на голаву, каб яна скора пайшла замуж. Расплятае нявестцы касу, закручвае каўпак з кос і надзяе хустку. Госці спяваюць:

*Маладзенькая Насцечка,* 2 р.
*Ужо табе да мінаецца*
*Дзявочае дзевованьейка,*
*Руса каса зачэсаньейка.*
*Хоць будзеш чэсаці,*
*То не будзеш заплетаці,*
*Хоць будзеш заплетаці,*
*То не будзеш каснік уплетаці.*

На другі дзень вяселля рэжуць каравай. Хросны бацька ўстае і кажа: “Бацька, маці, уся радзіна ў хаце, дазвольце першы, другі, трэці раз каравай разразаці”. Каравай паднімае ўгару і так паўтарае тры разы. Бацькі адказваюць: “Бог благаславіць, і мы благаслаўляем. Пачынайце”. Кветкі з каравая ставяць на покуце. Века качаюць у парог, каб дзяўчаты і хлопцы жаніліся. Каравай разразаюць, падзываюць родных і даюць каравай і чарку. Родныя выпіваюць чарку, дораць маладым падарункі і віншаванні:

– Дару бульбы падполье, штоб было дзяцей поўнае застолле.

– Дару вядро суніц, каб не хадзіў да другіх маладзіц.

– Дару цыбулю, штоб нявестка не давала свякрыве дулю.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***

***ад Кошман Валянціны Міхайлаўны, студэнткай Клімовіч І.***

Веселле гулялось, гледзячы на посты, на высокосны год, на год удавы, калі етые настаюць дні, то веселля ніхто дажэй і не пачуе, і не пабачыць, бо калі хто і выходзіў замуж, жэніўса, то жылі недоўго, ето буў векікі грэх – робіць веселле ў пост, у высокосны год, а ешчэ лучшэй – у год удавы. Ніводная маці не разрашала сыну жэніцца, бо знала, шо ўмрэ, колі жэніцца ў год удавы.

Веселле робілі, калі ўжэ засватаюць молодую. Жэніх з своімі бацькамі і роднымі людзьмі шлі до невесты ў хату. Ужэ ў хаці оны не говорылі, шо прышлі сватацца, а говорылі:

– Шлі цераз вашу хату – свет горыць, рэшылі зайці. Говораць, у вас голубка жыве, а ў нас голубок е для яе. Мо, спаруём іх як-небудзь?

Так, бацькі, поговорыўшы пра хозяйство, соглашаюцца. Маці жэніха отдае хлеб-соль, з екім прышлі, і ўсё остальнэ, шо прынеслі.

На сватах дагаварваюцца, у які дзень будзе свадзьба, прыгледаючы ўсе празнікі, посты.

Во і настае дзень веселля. Дзеўкі адзеваюць невесту ў белэе плацце, а фату на голову доўжна адзець толькі дружка молодой. Колі фата була ўжэ на голове ў молодой, то ўсе садзілісь і начыналі говорыць об весёлых гісторыях, якія булі, калі дружылі до замужэства. Етые гісторыі означалі, шо больш такіх гулянок не будзе і дзяўчына, екая выходзіць замуж, убывае з кругу сваіх подружок. Она доўжна ўжэ будзе думаць об хозяйстві, а гулянкі ўсе толькі ўспамінаць.

Тут маладой завязваюць красны пояс, каб не наговорылі і даюць свечану соль. Соль доўжны освеціць на Велікдзень або ў Чысты чэцвер.

Потом пачынаюць збірацца госці, якіх невеста з дружкою прыглашала перэд веселлем. Оны заходзілі ў хату з хлебам-сольлю і не сразу говарылі аб веселлі, а путалісь, як жывуць, чым занімаюцца, і толькі тогда звалі на веселле.

Во і чутно, ек і жэніх з своімі роднымі і госцямі ідзе выкупляць свою хорошуху. Госці ў молодого собіраюцца трохі раней, бо шчэ перэд выходом до невесты садзяцца за столы і навучаюць жэніха, ето тожэ означало, шо молоды хлопец становіцца хозяіном і не доўжон ходзіць на гулянку, ек ето робіў перэд веселлем.

Выкуп проводзяць у дзверах, поставіўшы ў дзверах стол, дружка з другом таргуюца. Дружка доўжна ўзяць ек больш грошэй і ўсего, шо ў іх е. Прыдумваецца багато разных прычын, шоб выцягнуць грошы. Потом, колі ўжэ выкупілі молодых, госці едуць у сельсавет на рэгістрацыю і сразу ў цэркву на венчанне. От'езжаючы от хаты, маці чытае заговор на добрую жытку і дае нацельные хрэсцікі, бо ў цэркву ўсягда трэба. Колі вертаюцца з венчання, то едуць сразу до невесты, дома ждуць маці і бацько. Перэд порогом маці і бацько дзержаць піроГ, молодые доўжны ўкусіць еты піроГ, так узнаюць, хто будзе больш командоваць у хаці. Затым молодых обсыпаюць цветамі з сахарам, тожэ на добрую жызню.

Усе садзяцца за столы, гуляюць, спеваюць, танцуюць. Тут і коровай до стола подносяць. Коровай печэ хросна молодого, колі хросной молодога нема, то хросна молодой. На руцэ хросной доўжно буць абручальнэ кольцо, колі вона будзе замешваць цесто.

Коровай украшаецца вылепкамі з цеста і зробленымі з бумагі цветамі. Коровай подносіцца на полотняном рушніку і отдаецца хросному молодой, вон і заведуе короваем, пока ўсіх не обойдзе і не заберэ подаркі для молодых.

Сразу ж после падзелу каравая маці жэніха падходзіць да молодой, знімае з невесты фату і завязвае ёй хустку і фартух – сімвол жаночай долі. Фату хавала і не давала нікому мераць.

Потом брала рушнік, на еком молодые стоялі ў цэркві, колі венчалісь, на столе рассоўвае тарэлкі і ложыць рушнік, на рушнік кладзе тарэлкі, вілкі, ложкі, фужэры, якімі пользавалісь молодые (усё выцірае). Снімае цветочкі жэніха і невесты, перэплетае іх поміж собой і тожэ ложыць на рушнік. Сюды ж она складвала венчальные свечкі і ту частку коровая, ека прынадлежала молодым. Потом усё, шо сопровождало молодых у час веселля, маці згортвала ў рушнік і перэвязвала красным поясом – оберэгом. Колі веселле заканчвалось, то ўсё гета хавала ў скрыню, робілось етэ для шчаслівого семейного жыцця.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на ад Шаўчук Кацярыны Селееўны, 1931 г.н., студэнткай Шаўчук Т.***

## ПЕРАДВЯСЕЛЬНЫ АБРАД “ПРЫМЯРЭННЕ САРОЧАК”

После запоін ішлі к маладому мераць сарочкі. Бралі хросну мацер і хроснага бацькі жонку і ехалі.

Мералі маладога, абмяралі дзверы, окны, мералі, сколько рушнікоў трэба павесіць у хаце.

І ўжэ як дружка шыла маладому штаны, то зашывала калошы, шоб яны не бачылі (маладыя). Да ў первую брачну ноч малады должан адзець маладое бяльё, каб быць у хаце хазяінам. Гэта была як і шутка. Сарочкі абавязкова шылі з палатна, каб на полі рос добра лён. Бабе маладога давалі кохту. Гэта быў жартоўны абрад.

### АБРАД "ПІРАГІ"

Яго спраўлялі цераз нядзелю пасля вяселля. Первую нядзелю ішлі да мацеры маладой, а цераз тыдзень ішлі ўжэ к маладому. Але самыя глаўныя пірагі былі ў мацеры маладой, таму што зяць ехаў у госці і глядзеў, дачка чэсная, значыць зяць купляе падарка харошага цешчы, а як не, то прывозіў хамута. І цэлую нядзелю дачка не павінна ісці к мацеры, шоб прывыкала к сям'е маладога. І ўжо цешча збіраласа з сёстрамі, дзецьмі (калі жанатыя) і спявала:

*Цешча зяця дажыдаецца,*
*Цешча зяця дажыдаецца,*
*На дарогу прыглядаецца*
*Ці не едзе яе дочэнька,*
*Ці не едзе яе дочэнька,*
*Ці не прывязалі ёй фартушынку.*

А фартуха, еслі нечэсна дзеўка выйшла за хлопца і ідзе к мацеры, яка не павінна прыпінаць фартуха чырвонага, ідзе ці без фартуха, ці ў белым.

Еслі дзеўка без фартуха, маці чуе тады неладнае. Зяць тады адзявае цешчы хамута і ўсе тады пачынаюць спяваць:

*Зяць на цешчы капусту вазіў,*
*Маладую на паказку вадзіў.*
*Вон із дому, цешча мая,*
*Пру, стой, маладая жына.*

І тады зяць хлешча нагайкаю цешчу і жонку. А калі прывозіў чэсную, то дорыць чобаты (выцяжкі), і тажы спяваюць:

*Чобаты, чобаты вы мае,*
*Нарабілі клопату да вы мне.*
*За гэтыя чобаты дачку ўзяў,*
*Я пастаўлю чобаты, хай стаяць,*
*Буду я на чобаты паглядаць,*
*Пра дачушку ўспамінаць.*
*Чобаты, чобаты вы мае,*
*Нарабілі клопату вы мне.*

Патом абменьваліся пірагамі: зяцева маці вязе свахі свае пірагі, а гэтая цешча пяке свае пірагі і абязацельно стол з хлебам, шоб так была багата маладых хата здароўем і хлебам.

На пірагі звалі сугубо родзічаў. Хросныя былі обязацельно, патаму што хросныя мянялі хлеб.

***Запісана ў в. Пагост Жыткавіцкага р-на***
***ад Паньчэні Кацярыны Аляксееўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Толкач М. (2002 г.)***

Цераз нядзелю пасля свадзьбы зяць ехаў у госці да цешчы. Калі нявеста была чэсная, то зяць вёз добры падарак, а калі не, то хамут.

Цэлую нядзелю маладая не ішла да маці, бо павінна была прывыкнуць да новай сям'і.

На пірагі збіраліся цешча і яе родныя сёстры і спявалі такую песню:

*Цешча зяця дажыдае, цешча зяця дажыдае,*
*На дарогу прыглядае, ці не едзе яе дочэнька,*
*Ці не едзе яе дочэнька,*
*Ці прыпнула фартуха, ці прыпнула фартуха.*

Калі вышла замуж нячэсная, то дочка не надзявае краснага фартуха на пірагі да маці. А маці прыглядаецца і чакае, што зробіць зяць. Калі маці бачыць, што дачка без фартуха або фартух не красны, то ўжо чакае неладнага. Зяць вешае на шыю цешчы хамут і тады пачынаюць спяваць:

*Ой, зяць на цешчы капусту вазіў,*
*Маладую жану ў прыпражцы вазіў.*
*Ой, не галуба цешча мая,*
*Пру, стой, маладая жана.*

Зяць жонку і цешчу хлешча нагайкаю, а калі чэсная нявеста была, то зяць прывозіць цешчы чобаты. Усе тады спяваюць:

*Чобаты, чобаты, вы мае,*
*Нарабілі клопату вы мне.*
*За гэтыя чобаты дачку ўзялі,*
*Я пастаўлю чобаты, хай стаяць,*
*Буду я на чобаты паглядаць.*
*Чобаты, чобаты, вы мае,*
*Нарабілі клопату вы мне.*

Тады ўжо гуляюць, абменьваюцца пірагамі. У гэты дзень абавязкова зяць прывозіць сваі пірагі.

Існуюць некалькі павер'яў: калі багаты стол, тады добра жыць будуць. Звалі ў гэты дзень сугуба родзічэй і хросных бацькоў. Хросныя бацькі мелі асабістую ролю ў гэты дзень: яны мянялі пірагі.

На першую брачную ноч абавязкова шылі новае бяллё для маладых. Гэта перадвясельны абрад. Маладыя пасля запоін ішлі мераць сарочкі, бралі хроснага бацьку і маці, якія абмервалі маладога. Таксама абмервалі і для свякрові сарочкі. Яшчэ абмервалі дзверы, вокны. Для маладога шылі ўсё: і бяллё, і штаны, і сарочкі.

На першую брачную ноч малады павінен адзець усё новае бяллё. Шылі сарочкі з палатна. Гэта быў перадвясельны абрад, які тычыўся толькі маладога.

***Запісана ў в. Старажоўцы Жыткавіцкага р-на***
***ад Блоцкай Кацярыны Сцяпанаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткамі Толкач М., Дзяйкун М.,***
***Рымашэўскай Н. (2003 г.)***

### СВАТЫ

Прыходзяць у сваты к дзяўчыне і пытаюць:

– Ці можна зайсці ў хату?

А затым пытаюць таксама:

– Ці ў вас прадаецца цяліца?

Яны адказваюць:

– У нас не цяліца, а красная дзявіца. Мы яе не прадаём, а замуж аддаём.

Садзяцца за стол, калі сагласны на вяселле. Пьюць чарку і дамаўляюцца пра вяселле.

### КАРАВАЙ

Прыходзяць свахі і рашчыняюць каравай. Пасля памылі рукі і вынеслі воду пад вішню і спяваюць:

*Ой, вісу, наш вісу,*
*Да налеймо воды ў місу,*
*Да памыймо ручанькі,*
*Да залеймо да на вішаньку.*
*Няхай вішанькі развіваюцца,*
*А маладыя насладжаюцца.*

Выймаюць каравай з печы:

*Ніхто не ўгадае, што ў нашым караваі.*
*З трох рэчок вадзіца,*
*З трох рэзак пшаніца*
*І грудачка масла,*
*Штоб долечка была шчасна.*

Старэйшая каравайніца пяе:

*Не садзіся да на покуце,*
*Сядзь сабе на парозе,*
*Да на бітай дарозе,*
*Шоб хлопчыкі не падышлі,*
*Каравая не ўхапілі.*

Каравайніца хвалілася, што ў яе 7 сарочак: “Адна – на мне, дзве – у пранні, чатыры – у кудзелі”.

### ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

Вось пачынаецца вяселле і пяюць:

*Ой, на страсе парасло зелле,*
*А ў хаце вяселле.*
*Ходзем зелле позрываймо,*
*Ды вяселле начынаймо.*
У дзеўкі спяваюць:
*Летняя зяўзюленько,*
*Ужо ж табе да мінаецца*
*Летняе куковайнейко,*
*Высокае полетайнейко,*
*Хоць будзем летаці,*
*То не будзем куковаці,*
*А хоць будзем куковаці,*
*То не будзем гнязда маці.*
*Маладая (імя), ужо табе да мінаецца*
*Дзявочае дзеваванейко,*
*Русо косо да часанейко,*
*Хоць будзеш заплятаці,*
*То не будзеш косніка маці,*
*То не будуць дзеўкай зваці.*
Калі сірата замуж ідзе, то так спяваюць:

*Зялёная дуброванько,*
*Чаго ў цябе пянькоў многа,*
*Паростачкаў да нігодненького.*

Калі няма бацькі, спяваюць так:

*Маладя (імя), чаму ў цябе бацькоў многа,*
*А роднага да нігодного.*
*Одно тая, што піці да есці,*
*Да некаму парадак весці.*
*Одно тая, што напіціся,*
*А некаму пажурычыся.*

***Запісана ў в. Хільчыцы Жыткавіцкага р-на***
***ад Шруб Марыі Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Бярдзічавец С.***

У нядзелю ўпарану прыедзе молоды і к молодой, маршалок, сват. Прыедуць по молоду к венцу ехаць. І ўжэ кладуць хлеб на стол. Не пірог – хлеб. Ёго ў молодое пеклі. Чырвоны такі, круглы. Старшы маршалок ці хто, шоб з ёго рукі мужчына, церэз усю боханку зрэжэ ножэм корку ету зверху, вурэжэ дзірку. Да свечкі ўставіць – ёго, ее, тоўстыя, іх на коровае мужчыны сучылі. Дружка горыном обоўяжэ, шоб не россоўваліса. Звяжэ старша сваха от ее свечкі полотном унізу да нарадзяць етымі бумагамі, да свецёлцы даюць. На рукі ён – перкаль, а на перкаль – хлеб. У молодое ў косе лента. Одзежу вона сама шыла да на венец одзевала. А платок мацерын. Венок на ее голове з цветамі да лентамі, богато лентоў. Даўно колісь венка не було. Хустку заўязвалі – два рогі на шыі і два – на лоб, гузом. Да ўжэ йдуць молодые на возы садзіцца, вона на свой, а вон – на свой. Потом едуць і к венцу. Дружкі поўхорошваюць дугі кветкамі, шамшэлі коням на шыі повесяць. Да едуць у село, дзе цэркоў. А ек у своём селе цэркоў, то, бувало, і не ехалі, шлі. На венчанне ёго і ее мацерэ не едуць. І бацькі не едуць. Едуць маршалкі, дружкі, цёткі, дзядзькі которые. Хросные мо і ехалі, але ў цэркаў не шлі. Прыедуць у село, дзе цэркоў, постаўяць коні ў екого хозяіна да пешкі ў цэркаў. Молоды под руку молоду – да ў цэркоў, да там розыйдуцца, вон у одзін бок, вона – у другі. А то маршалкі молодого ведуць, а дружкі – молоду. Людзей чужых у цэркві поўно. Стануць. Поп свечкі паліць, дае ім у рукі.

Просцілку перэд прэстолом просцілаюць, полотно бяруць за просцілку. Бувало, одну наметку просцілалі свахі ці то дружкі. Маршалкі копейкі клалі. Постануць молодые на подножку. Наметка ее, копейкі його. Маршалок над ім венца дзержыць, дружка над ею. Венцэ колерыстые булі, а на версі крэшчыкі позолочаные. Ек одным днём венчаліся, то на кажну пару свое венцэ. Поп знімае з пальцоў кольца, ложыць на прэстол, почытае, поспевае, берэ тые кольца да ўжэ путае: "Не обешчаўся другой?" – "Не". – "Не обешчалася другому?" – "Не". Мо і обешчаліся, але ж так казалі. Дае ёй його кольцо, дае ёму её, подзержаць еку мінуту на своіх пальцах іх да ўжэ назад мяняюцца. Тры разы меняліся. Пітнуць віна даваў ёму-ёй, ёму-ёй, ёму-ёй. Одным бокам шоб пілі. Звяжуць молодым рукі платочком, поп рызаю рукі накрывае да кругом прэстола водзіць по сонцу, тры разы обуходзяць. Ззаду свецёлка хлеб з свечкамі несе. Да ўжэ к царскім вороцям молодые йдуць, вон кланяецца тры раз тым вороцям да цалуе іх, а дале вона. Свецёлка не шла к вороцям. От вуходзяць з цэрквы, да молода тэ полотно поцягла за ногою ў порог, до звонніцы, а катора то й на двор, шоб ето дзеўкі замуж хутка шлі. А катора і к прэстолу полотно тэ ці рушнік ногою грэбене, шоб не йшлі дзеўкі хутко замуж. Смехом. Дзеці хапаюць копейкі, да перву тую, на екуй молода стояла. Староста тэе полотно бярэ собе, а просцілку свахі ложаць на воз, на ёй молодые садзіліса. Вуводзіць молоды молоду под руку з цэрквы. Ек з цэрквы вуходзяць, то свахі подойдуць к цэркві, спеваюць, мо то і дружкі з імі:

*Да мецёна ёлонька дзеркачэм,*
*Да звеньчона наша дзевонька з панічэм.*
*Да з тым панічэм, шо ўчора буў*
*Да нашу дзевоньку полюбіў,*
*Да з правое ручэнькі персня зняў,*
*Да занёс матухні показаў:*
*– Ето тобе, матухно, подаркі*
*От мое Галі-каханкі.*

Пешкі йдуць до воза, а воз на дворэ стояў чыём-то. Спяваюць:

*Му ў цэркві бувалі,*
*Трое зеллёў відалі.*
*Однэ зелле – рута,*
*А другое – м'ята,*
*А трэйцяе – кветкі.*
*Звенчоные дзеткі.*

На його воз сядуць да к ёй поехалі. На еты воз шчэ маршалок, дружка і свецёлка садзіліса, а на ее – остатніе. Гуляюць ек од венца. Спевалі:

*Подзякуймо Богу,*
*Погосцкому попу,*
*Шо двое дзеток звеньчаў,*
*Небогато за венец узяў:*
*Двоіх молодзенькіх*
*За чотыры золоценькіх.*

Спевалі й таке:

*От венца, от венца,*
*От божого слоўца,*
*От божого краю*
*Да ў недзелечку рано.*

А шчэ так:

*Ішло дзіця от венца,*
*Не промовім слоўца.*
*Руса коса до пояса,*
*Коснічок до долу,*
*Не говорыш со мною.*
*Поясок жывоток ломіць,*
*Слоўца не промовіць.*

І етак спевалі:

*От венца ідучы,*
*Загубіў Іванко онучы.*
*А Галочка збірала*
*Да Іванку оддавала.*

І музыка была ек от венца ішлі. Колісь не гармонь, да смук. Хорошэ граў. І барабан буў. Танцуюць. До самое хаты гуляюць. На покуці посадзяць молодых. Поедзяць, шо на венцэ булі, да ўжэ вон собіраецца до себе – з роднёю, маршалком, свецёлкою. Едзе по свой воз, за короваем. Прыедзе ці там прыйдзе, да ўжэ сыходзіцца його род по молоду ехаць, боярые. Спяваюць:

*Ой, там боярые, на горэ, на новом дворэ,*
*Там рано засвечэно.*
*Ой, там радзіцца, нараджаецца,*
*Іванко ў дорогу пабіраецца.*
*Вон радзіцца, нараджаецца,*
*І бацюхна путаецца:*
*– Ці мне ў парочку,*
*Ці одного коня вороного,*
*Шоб завезці мене, молодого,*
*Ой, до мое Галочкі на размову?*

От таку шчэ:

*Да не куй, хлопчынку, золотого ножа,*
*Да подкуй вороного коня.*
*Бо тобе прыехаць к цесцю ў госці*
*Да лугамі, борамі,*
*Каменнымі мостамі.*

*Да луг будзе шумеці,*
*А камень звінеці,*
*Да золотая збруя*
*Да будзе врашчэці.*
*Ек зачуюць людзі,*
*То нам слава будзе,*
*Ек зачуюць лепшой,*
*То нам будзе слаўней жэ.*

Подводы под’едуць. На іх сена ці солому кінуць багато, вушэй за дравцы. На первой попонку просцелюць. Молоды з хаты выходзіць. У руцэ госцінец молодой у платочок заўязаны. Канхветы, коржыкі, шчэ ека прысмака. Колісь рубашка навыпуск, доўгая, поесом переўязвалі. Бувало, шо рубашка і ў штаны ўвобрана. Штаны ў чоботы ўвобраные. Чоботы хромовуе. На заворочках да з подковочкамі. Бувало, у одных чобоцях п’яць пар повеньчаецца. І ў яловуе чоботы обуваліса, дзёгцём мазалі. Ек беднота, то і ў лапцях былі, новух, а як жэ. Маршалок коровая несе, нараджаного, свечкі на палочках. Тры пірогі ў корзіні ці вереньцы несуць. І гарэлку. Свецёлка – хлеб з свечкамі. Спеваюць:

*Едзь, едзь, Іванко, да не вечорыса,*
*Под каліною не становіса,*
*Бо ўжэ твою Галоньку*
*Дружкі обселі, свахны обпелі.*
*По ліцу слёзінка,*
*По плечу хусцінка*
*От слёз мокрэнька.*
*Нехай сядуць, опеваюць,*
*Як самі знаюць.*
*Я свою Галоньку*
*Між імі познаю.*

І ету, калі на возы посядуць, да спяваюць:

*Ану-це, собірайцеся, бо ўжэ свет,*
*Поедом у королёўшчыну на отвед,*
*Да розоб’ёмо каменну сцену мечамі,*
*Да й возьмомо сабе дзевоньку з свечамі.*

Поселі да й поехалі. Бацько й мацер не едуць. У дорозі заспяваюць:

*Да не лекайса, цесю,*
*Немногі зяць едзе,*
*Небагато баяр везе –*
*Восьмеро, дзевяцеро,*
*Усіх дзесяцеро,*
*Два конічэнькі збродных,*
*Два браценькі родных,*
*А трэйця сестрыца,*
*Молодой зовіца.*

А ек скоро ўжэ хата молодое, то от таку:

*З-под белого да берэзнічку*
*Сіву конік да й вубегае.*
*Ой, не сам жэ вон бяжыць,*
*На ём Іванку сядзіць.*
*Ой, коню мой, коню,*
*Похваляйса ты мною.*
*Перэд цесцёвум двором*
*Перэскоч да вороцечка,*
*Да не вубі да копыцечка,*
*Да не вуломі драночкі,*
*Не зробі неславочкі.*
*Да дай цесцю знаці,*
*Шо му едом да воёваці,*
*Два дворэ звоюём*
*І комору зграбуём.*
*Комороньку да новенькую,*
*А дзевоньку молодзенькую.*

А ек ужэ к хаці под’езджаюць, то пелі:

*Бразнулі тарэлочкі на столе,*
*Топнулі конючэнькі на дворэ,*
*Ой, мой Іванко едзе ко мне,*
*Готуй кубелечко для мяне.*

Ето, шоб готовілі скрыню ці ободню. Вечорэе ўжэ. Молода коло окна сядзіць да вуглядае молодого. От ужэ ідуць по двору з короваём. Под дзверыма на порозі стануць. Заспеваюць:

*У гордового цесця*
*Стоіць зяць за воротамі.*
*Шо на зяця да мецёл меце,*
*Да дробны дожджык ідзе.*
*Ой, крыўса я, крыўса,*
*Покі не намочыўса.*
*Коні мое понамокалі,*
*А собулі позвісалі,*
*А свашэчкі поохрыпалі.*

Цесць отчыняе дзверы, да хатніе путаюць:

*Дзе ж ву, свахі, волочыліса,*
*Шо по пояс намочыліса?*
*Ці на грэблі лапці плелі,*
*Ці на мосту ворсалі,*
*Шо к нам да прычасалі:*

То боярые так ужэ просяцца:

*Пусці, сваце, у хату,*
*Му ж цебе не згубімо,*
*Возьмомо, кого любімо.*
*Вуп’ёмо да по кубочку,*
*Возьмомо да голубочку.*
*Вуп’ёмо да подскочымо,*

*Возьмом кого хочымо.*

А з хаты:

*Шо ето на порог лезе,*
*Чорные, кудлатые,*
*Хлебные да богатые?*

Да цесць ужэ кажэ: “Просім, сваты, у хату, просім, сваты, у хату”. На руках у його пірог, на тарэлцы. Да молоды і род його ў хату йдуць. Поперэду коровая неслі. Спяваюць:

*Коло цесцёвого двору*
*Да вусокая гора.*
*Нельга к горэ прыступіці,*
*Конічэнька да напоіці.*
*Аж вуйшла, вубегла*
*Молодая Галонька.*
*Вона к горэ прыступіла,*
*Конічэнька да напоіла,*
*Узяла коня за грывоньку,*
*А Іванка за ручэньку*
*Да повела да й у светліцоньку.*
*Дала коню оўса і сена,*
*Сама коло його села.*
*Дала коню оўса і броку,*
*Да сама села коло боку.*

Коло порога з маршалкамі становіцца молоды і коровай тут. Молода з дружкамі особно сядзіць на лаві ці на ўслоні. Ее коровай – на столе. На ёй кохта з рукавамі, назад зашпільваецца. Сперэду шытые брыжкі, сподніца з паскамі краснымі, усякімі. Хвартух з плацу красны, вішнёвы, зялёны, сіні, екі буў з паскамі. Сподніца колерыста, вішнёва ці голубова, ці зелёна, ці ека там. З сукна, бувало, да важка. Перкалёўка на ёй, вушэй грудзей перкалёва, з-под кохты бачно, ніжэй полотняна, подстанік полотняны. На ногах боцінкі з вусокімі каблукамі ці чэрэвікі з халяўкамі на шнурках. Хустка веліка назад заўязана, церноўка колеру ўсякого, только не чорного, поверх вянок. А даўно колісь, головушка, на голове обруч з берэсніцы наметкаю об’ўязаны. У косу одзін коснік уплеталі, на обручэ коснікі доўгіе ўсякого колеру – чырвоные, вішнёвуе. Іх вешалі, як молоды шоў к хаці.

Ек заходзяць тые ў хату, от молодое бягуць да за стол садзяцца. Небогато, душ п’яць, шэсць. Да спяваюць:

*Не наступай, Літва,*
*Бо будзе ў нас бітва,*
*Будом біці да воёваці,*
*Да свое Галонькі не оддаваці.*

А боярые ім:

*Вон, вон, казакі, з хаты,*
*Хочэ тут комусар стаці*
*Да з своею комусаркаю,*
*Да з кудравою да голоўкою.*

Да ўцякаюць тые з-за столоў. Мужчына, екі от молодое, берэ ее коровая, а от молодого – його коровая да ўжэ подымаюць, вушаюць. От ее хросны бацько, от його маршалок. Уверх подымуць його вушэй. По хаці ідуць. На короваёх свечкі горадь. От молодое спяваюць:

*– Да наша свечка ясна,*
*Да наша Галонька красна.*
От молодого одказваюць:

*– Да наша свечка ясна,*
*Да наш Іванко красны.*

От ее ўжэ так:

*– Чый, чый коровай вушэй?*
*– Наш, наш коровай вушэй.*
А боярые:
*– Чый, чый коровай вушэй?*
*– Наш, наш коровай вушэй.*

Да ўжэ коровай молодое – на поліцу ці на печ, а молодого – на стол, дзе ў молодое буў проці покута. Спяваюць боярые стоя:

*Да ў нашого свата*
*Хорошая хата,*
*Чырчыком абсыпана,*
*Каліною да обтыкана.*

Да за столы садзяцца. Первуе молодые. Ек зусім колісь, то на полу іх саджалі, а то ўжэ на покуці. На кожуху сядзелі, маці просцілала. Коровай перэд імі. Свецёлка коло молодого, вона сестра ёму ці так дзеўка, шоб незамужам. Ек мала сестра, то й мала свецёлка. Свечкі на окно ставіць. Саджаюць блізкіх молодого за етые столы, а далёкіх – за тые. Спявалі:

*Сядзь, свахо, да й не верціса.*
*Есьцека место, да й садзіса,*
*Бо нашые кошкі ласы,*
*Вурвалі кубло свасі.*

Його беседу садзілі, а от ее только дружок. Спявалі:

*Прыехалі вулёўцы,*
*Просыпалі на столе чырвонцы.*
*Да погордуй, бацюхно, погордуй,*
*Хоць зімоньку мене погодуй.*
*Да не буду, дзіця моё, гордоваць,*
*Прыехалі госценькі, трэба оддаць.*

На столах ужэ ўсё стоіць. Вупіваюць. Усім носяць еднаково есці. Людзей чужых на дворэ поўно, шыюцца, аж вокна открываюцца. Боярые посядуць, поедзяць. Спяваюць:

*Да суха каша, суха,*
*А наша сваха глуха.*
*Затым вона не чуе,*
*Шо з сватом ночуе.*

У Перэрові була на веселлі, і там спявалі:

*Да хорошая ж хата,*
*Печ её побелёная,*
*Чэсць её отхвалёная.*
*Да хорошая свашка,*
*Да помазана кашка.*
*Комара затрошчылі,*
*Свахам кашу засмачылі.*

І от таке:

*Да паставілі юху,*
*Да вуцяг да комар муху.*
*Да поселі на крысі,*
*Да потопіліса ў місі.*

Поспяваюць етэ, поедзяць да дружок скупоўвацімуць. Бо воны ж шылі молодому тыдзень сподне, перкалёўку. Тоўклі, шоб на стол з того поставіць. Спяваюць:

*У старшого маршалка*
*Золотая ручка,*
*З кішэні да не вуймае*
*Дружок не скупляе.*

Дружка ека тарэлку дзержыць, а етые кладуць копейкі ці мо так смехом, чэрэпкі екіе, бувало. Спяваюць:

*Старшы маршалок Нікон*
*По сметнічку нікаў*
*Да чэрэпочкі збірае,*
*Да дружэчок скупляе.*

Еке зерне сыпнуць, то спяваюць:

*Старшы маршалок кішэню верне,*
*Знайшоў ячне зерне*
*Да кладзе на тарэлцы,*
*Да плачэ по гарэлцы,*
*Да не так по гарэлцы,*
*Ек по красной дзеўцы.*

Рубля паложаць на ту тарэлку, спяваюць:

*Маршалочкі молодые,*
*Вашы грошы золотые,*
*Нашы дружкі хорошы*
*Да не беруць вашы грошы.*

А етые ўжо й не ведають, як скупіць. То тут песня:

*Старша дружка да цыцата,*
*Другая чэрэвата,*
*А трэйця на дню ходзіць*
*Да ўвечары сына родзіць.*

А ета ўжэ про маршалкоў:

*А наш маршалок хорош,*
*Ек яблуко, вочы,*
*Ек гарбуза, нос,*
*Ледзьві чэрэво ў хату ўнёс.*

То ўжэ таку заспеваюць дружкам:

*А дружэчкі не дорожэце,*
*Дорого не берэце,*
*Бо дорога веліка,*
*Трэ сено купіці,*
*Конікі покорміці.*

Песён, шо Господзі, Господзі! Да ўжэ ек дружкі согласны, то сыплюць гарбузянкі на тарэлку. А маршалкі ўжэ бутылку станоўляць, пірога кладуць. Бувало, усё сало нарэжуць у тарэлочку да станоўляць. Да дружкі перэўязваюць маршалкоў наметкамі, кветкі почэпляюць кажна сваёму. Колісь трох маршалкоў обоўязвалі. Ек скупяць, чуць поедзяць, улазяць з-за стала, гуляюць. У час, два ці тры ночы садзяцца за стол. Зноў вупіваюць, едзяць.

Гарэлкі колісь мало було. Бувало, жытню муку з картоплямі ў цэбер велізны, стоўкуць, на печ, тыдзень стоіць, укісне, сахарыною подсолодзяць да на вяселлі п’юць.Сахарыну перэжараць, шоб жоўты квас буў. Одным келюшочком, шо на раз коўценуць, усе столы обойдуць. Одна дружка коўценула да ўжэ танцуе ў сенях, прыпеўвае: “На горэ куры несуцца”. То за её да ў сцёпку схавалі, сорам.

Перва закуска була сало сырэ. Елі боршч з мясом, яешню, коўбасу, юху, рыбу і жарану, і падзелану, коржыкі пшэнічные, пампушкі мочаные ў сыр. Ек бедные булі, то й мало тое закускі. Казалі: “Да каша, да пампушка, да ўся наша закуска”. Жытнім рошчыняць, а пшанічным замесілі. І ячным мясілі. То тыя пампушкі ўжэ з осцюкамі. Последня закуска була каша з пшона на молоцэ і компот з груш. Казалі: “Ужэ послі кашы няма пашы” і “После груш нічого не воруш”. Ек скуповалі дружок, погулялі да зноў за сталы, то спявалі:

*Да ў Іванка за гумном*

*Да й стаяць стогі радом,*
*Да й усе пшэнічные.*
*А ў Галонькі за столом*
*Да й сядзяць сваты ўсе радом,*
*Да й усе ж воны да молодые.*

Отспеваюць етэ ўсе. Да ўжэ музыкі будуць. Була гармонь, смук, барабан. Кветкамі іх народжвалі. Смуком хорошчэ мог вуйграць, чым гормонею. А шчэ ж перэпой буў. Молодому ў ее хаці перэпівалі боярые. Хлопцу мало перэпівалі. Хто рубля, хто копейкі. Квасом перепівалі, компотом ці з груш, ці з яблук. Молоды седзіць. Екі мужчына поўз столы йдзе з чаркою. Становіцца, кажэ: “Перэпівае сусед” ці хто там. А той кажэ: “Перэпіваю шчасце, долю і век доўгі”. Ці так: “Перэпіваю ту целіцу, шо скачэ з печы на поліцу”. І так: “Перэпіваю кошэль гліны, шоб не прошло году да булі ў вас родзіны”. Адна баба казала: “Перэпіваю жэробчыка і поўжэробчыка, шоб прывозіў бабі дрова”. Бувало, бацько коня хлопцу перэп’е. Одзін бацько казаў: “І себе перэпіваю, шоб глядзеў”. Даўно колісь хлопцу не перэпівалі, толькі дзеўцы. Прыданые перэп’юць да ўжэ кончаюць. Ек розыходзяцца, песню еку невесельну заспеваюць. Позно розыходзіліся.

***Запісана ў г.п. Тураў Жыткавіцкага р-на***
***ад Гаршкалеп Усціны Адамаўны, 1913 г.н.,***
***студэнтам Яворскім С. (1996 г.)***

Я вуходзіла замуж, дзецятко, по неволі, да не по любові. Мене сілою оддавалі. Прышлі сваты ко мне із Тонеж. Я согласілаcа йці. І мене ўдвох маці з бабою отнялі за рукі от жэніха. Не отдалі. Ой, вона куды замуж зайдзе. А я буду хворэць, а вона там будзе, а я тут, да я не знаціму. Ох, еке ж мне було сватоўство. Ну, не отдалі мене за того. А тут от сусед быў, сірота, годованік у бацька. Ужэ гэты прыйшоў у сваты. А я за гэтого не хоцела, а хоцела за другого. Так бацько й мацер: “То бедны, а ў гэтого поле, а ў того поля нема”. Колісь за гэтым полем млелі. У гэтого поле, да будзе за чым жыць. А за того бедного пойдзеш, так шо ты там будзеш робіць? Не оддалі мене, оддаюць за гэтого. Ужэ свадзьба, роб’яць свадзьбу. Ужэ йдуць гэто од молодого по мене. А гэты, шо мене хоцеў, то я вуйшла на двор по воду ці шчо, вон за мене. А ў нас тут сад буў большой, тут хата стояла колісь наша. А вон за мене да ў той сад. Да поселі мы ў кутку там у саду. І вон рэве, і я рэву. І нас шукаюць. Тут одна старуха подказала мацер, а маці кажэ: “Ну, а шо я зраблю? Точно пошлі да потоп’яцца”. Это ж було так. Не по любові жэніліса, пошлі да потопіліса. Ох, да тут крык, да зык, да суматоха, пока мене не трапілі да не посадзілі за стол. Да от ека була мне свадзьба.

От ужэ заўтра вяселле. От прыходзіць хросна маці. Ужэ вона этого коровая строіць. Вон у місі ў такой велікой рошчынены. Хросна маці сама рошчыняла. Ужэ подходзіць вечор. Ужэ коровайніц поззывалі. Это молода ходзіла, на коровай звала. А ў печэ трэба на коровай тры раз закідваць дрова. Не по багато, але ж трэба, шоб було тры разы. Згорaць, а далей зноў раз закінуць, згораць, зноў раз закінуць. Ну, ужэ зовуць: “А дзе ж та маці, ужэ пора коровая саджаці”. Ужэ йдзе та маці, берэ гэту місу з этым цестам, і ўжэ вона стаўляе і кажэ: “Благослові, оцец і маці, уся родзіна ў хаці, коровая ў печ саджаці”. Вона ўжэ берэ гэтэ цесто, качае й качае. І жонкі коло ее стояць. Тожэ по трошку беруць да качаюць. Да одные зробілі месеца, а тые роб’яць такіе бараночкі маленькіе, шчоб попекці да на этого коровая понізаць. А сад ужэ саджаюць, як спечэцца. Ужэ ж посылаюць маршалок: “Ідзіце ж, нарэжце росох із саду ў коровай”. Ну, ужэ гэта маці, як начынае качаць, ужэ вона й почынае песню:

*Тройца по цэркві ходзіла,*
*Спаса за ручку водзіла.*
*Прэчыстая ж маці,*
*Прыдзі к нашой хаці*
*Веселье зачынаці,*
*Коровая ў печ саджаці.*

Ну, а потом ужэ й зноў. Воны і месяць, і спяваюць:

*Дробна пшонка, дробна,*
*На ўсе ж вона згодна:*
*Куркі клююць,*
*Гускі шчыплюць,*
*На столе коровай.*

Ото гэто песні такіе спяваюць. Ну, й шчэ ж багато песень, то шчо ж вам спяваць усе? Ці хваціць дзве? Замесілі ўжэ коровая, ужэ ўсе пострoілі, ужэ хлопцы прынеслі эты “сад”. Эты “сад” ужэ бяруць бабы от так о цесто роскачваюць. Некоторые і гэтые росохі пообматваюць этым цестом тоненько-тоненько. І гэтыя росошкі трэба ў печ, як шчэ не саджаюць коровая, шоб оны запекліса. От тогды ўжэ коровая ў печ саджаюць, як ужэ гэтэ ўсе поготовілі. Ужэ спяваюць:

*Росці, короваю,*
*На столе ж вусокі*
*Да й у печы ж шырокі,*
*Бо й наш род вялікі,*

*Трэба ёго обдзеліць.*

От ужэ маці та хросна за этого коровая і понесла ў печ. Посадзіла ўжэ ёго ў печэ. Ужэ й печэцца эты коровай. Ужэ муюць рукі, муюць этого стола. І несуць ужэ эту воду. От як у мене от садок, то под грушу, под яблуню лінуць да й назад ідуць. Да ўжэ й зноў песню співаюць:

*Мы на сад воду носілі,*
*Соловейка просілі:*
*– Леці, соловейка, з намі,*
*Мы коровай згібалі.*
*А ву на это знайце*
*Да нам горэлочкі дайце.*

Ужэ мы седзімо, ждом, а коровай жэ печэцца, а боімоса, шоб коровай не вусох, шоб не засушыўса. Ужэ ек вуймом коровай, то ўжэ тогды саджаюць усіх за стол. Да ўжэ коровай за столом, а дружкі роб’яць этые цацкі на коровай, шоб ёго ўжэ нарадзіць, шоб вон ужэ стояў, ночоваў нараджоны. Бо ўзаўтра ж ужэ трэба готовіцца, ужэ ж узаўтра прыдуць госці. Это ў дзеўкі, а ў хлопца тожэ ж.

***Запісана ў г.п. Тураў Жыткавіцкага р-на***
***ад Дамашкевіч Праскоўі Цярэнцьеўны, 1921 г.н.,***
***студэнтам Яворскім С. (1996 г.)***

## Калінкавіцкі раён

Сваты ідуць з хлебам, соллю, гарэлкай. Увах-одзяць у хату, вітаюцца, прыгаворваючы: “Добры дзень у гэту хату! Мы – купцы заморскія, шукаем тавару добрага, не заляжалага. Калі ў вас ёсць што паказаць, калі ласка, пакажыце ліцом, а мы пахвастаем сваім таварам”. Ставяць на стол гарэлку, просяць паказаць нявесту: “У вас тавар – у нас купец”. Выводзяць нявесту: “Ваш тавар харошы і наш купец прыгожы”.

– Благаславіця, бацька й маці, каравай раздаваці. А ў нашага маладога ёсць бацька з маці. Каб яны ласкавы былі, на каравай прыбылі.

Пажаданні:

Жадаю шчасця, долю і век доўгі. Дарую мяшок буракоў, каб не бегала да чужых мужыкоў.

Дарую каробачку гліны, каб пазвалі на хрысціны.

Дарую меднымі, каб не былі беднымі.

Дарую рубель, каб купілі карабель, днём – каталіся, а ноччу – цалаваліся.

Дарую калоду мёду, каб дзеці былі да году. Столькі сынкоў, колькі ў лесу пянькоў, столькі дочак, колькі ў балоце кочак.

Замуж ідзеш – трэба знаць: позна легці – рана ўстаць.

***Запісана ў в. Антонаўка Калінкавіцкага р-на ад Мінчанка Ганны Аляксееўны, студэнткай Страха М.***

У сваты вялікая кучка не ідзе, тры сваты да дружок, ды і малады. Прыходзяць да дзяўчыны ў суботу з пірагом, з гарэлкаю. Садзяцца за стол. На першым плане сваты і бацькі дзяўчыны, малады сядзіць з краечку, а дзяўчына стаіць пааддалі з дружкай. Сват налівае ў чарку гарэлку і падае дзяўчыне, і прыказвае: “Як вып’еш, то і пойдзеш за нашага хлопца замуж, а як не вып’еш, то не пойдзеш”. Калі яна выпівае, значыць, згода ёсць. А калі не выпівае, тады магла іх (сватоў) адправіць разам з гарэлкаю з хаты.

Калі згода ёсць, назаўтра бацькі дзяўчыны рыхтуюцца ў хаце чарку піць. Дзяўчына бярэ з сабой дружку і ідуць па вёсцы сазываць “на чарку”, а не – дык і замовіны пап’юць. Пап’юць замовіны, дагаварваюцца, калі вяселле гуляць.

Перад вяселлем пякуць каравай. Сазываюць старэйшых баб, каб учынілі каравай, свечку шукалі. Як пякуць каравай, спяваюць:

*Наша печ рагоча,* 2 р.
*Караваенька хоча.*
*А прыпечак заліваецца,* 2 р.
*Каравая спадзяваецца.*
*А ў нашай печы* 2 р.
*Да шырокія плечы.*
*Можна чатырох легчы,* 2 р.
*Каравай сцярэгчы.*
*Каравай мой, караваю,* 2 р.
*Каля цябе добра іграю.*

Пасадзілі каравай у печ, наразаюць тры бабы воск, ставяць яго ў печ, ён растае, бяруць кажуха і табурэтку і ідуць у сенцы, замыкаюцца, нікога не пускаюць, як свечку выліваюць. Ставяць табурэтку, ложаць на яе кажуха, дзве бабы дзержаць кужаль, адна дзержыць міску з воскам. Калі воск прапускаюць цераз кужаль, адна баба жытам пасыпае тры разы патрошку. Пакуль воск застыне, баба праспявае:

*Троіца па цэркві хадзіла,*
*Госпада за ручкі вадзіла.*
*Госпадзі, Госпадзі, прыходзь,*
*Прыходзь к майму вяселеньку*
*Утрох зелле капаці,*
*Першае зелле – рута,*
*А другое – мята,*
*А трэцяе – веткі,*
*Каб любіліся дзеткі.*

* * *

*Ехалі купцы ўсе не знатныя, Божа, мой Божа.*
*Ехалі купцы ўсе не ка мне, мой міласцівы Божа.*
*Масцілі масты ўсе цярновыя, Божа, мой Божа,*
*Да клалі агні ўсе цярновыя, Божа, мой Божа,*
*Да клалі агні ўсе цярновыя, мой міласцівы Божа,*
*Вешалі катлы ўсе медзяныя, Божа, мой Божа,*
*Вешалі катлы ўсе медзяныя, мой міласцівы Божа,*
*Варылі воск, усе звяры чулі, Божа, мой Божа,*
*Варылі воск, усе звяры чулі, мой міласцівы Божа,*
*Да ўсё Колячка да на свечачку, Божа, мой Божа,*
*Да ўсё Колячка да на свечачку, мой міласцівы Божа.*
*Чыя свяча ясней гарыць, Божа, мой Божа,*
*Чыя свяча ясней гарыць, мой міласцівы Божа,*
*Да Колечына ясненька гарыць, Божа, мой Божа,*
*Да Калечына ясней гарыць, мой міласцівы Божа.*
*А Танячына ўсё патухае, Божа, мой Божа,*
*А Танячына ўсё патухае, мой міласцівы Божа.*
*Яна слёзкамі ўсё залівае, Божа, мой Божа,*
*Яна слёзкамі ўсё залівае, мой міласцівы Божа.*

Праспявалі гэтую песню, за гэты час застывае воск, бяруць воск і пераварачваюць на платок і разглядаюць. Калі жыта павытыкаецца насочкамі ўверх, то будзе дзетак багата жывучых, была такая прымета. Потым бяруць гэты воск і ідуць жанчыны прадаваць яго, каб была капейка ўваткнуць у свечку, пры гэтым спяваюць:

*Паглядзіце, пасвяціце, мы ж вам не старыя,*
*Просяць маладыя.*
*Пасвяціце, паглядзіце, ці хороша вянца звілі,*
*Як не будзе купаваць, панясём на месца прадаваць.*
(песню спяваюць тры разы)

Потым разлажваюць гэты воск на тры часткі, змешваюць яго і сучаць свечку, і 20 капеек у гэтую свечку таксама сучаць. Ставяць свечку на падаконнік, прыбіраюць яе. Затым усіх каравайнікаў запрашаюць за стол, частуюцца яны, пасля каравай вымаюць з печы і заносяць яго ў клець і пяюць пры гэтым:

*Перад печчу караваенка,*
*Ці масенька да клеці?*
*Яе сцежачка да пянька,*
*На ёй траванька зяляненька.*

К вечару каравайніцы прыходзяць на вяселле. За сталом сядзяць маладыя і іх дружкі. Старэйшыя бабы пяюць песні:

*Ці я табе, мамко, надаела,*
*Што ты мяне заручыла.*
*Як аддаеш мяне, мамко, маладую,*
*Ой, ты мяне ўжо, зязюленьку баравую.*
*Баравая зязюленька раненька куе,*
*Яна мяне, маладую, работаць будзе,*
*Чужая матухна роднай не будзе,*
*Толькі выйдзе за варота дай асудзіць:*
*– Санлівае, драмлівае чужое дзіця.*
*Як прала белы кужаль, да й драмала,*
*Пайшла ў поле за варота, да й заснула.*
* * *
*Ой, ты, дзевачка, ой, ты маладая,*
*Гордыя мыслі маеш.*
*У цябе мамка да вельмі старая,*
*Ты яе пакідаеш.*
*Па ваду ідзе, зязюля куе,*
*Ці табе не жаль будзе.*
*З кім сустрэнецца, не размінецца,*
*Слёзкамі абальецца.*
*Ой, было ж у мяне любае дзіця,*
*Дзе ж яно падзелася?*
*Ці пайшло яно к броду па воду,*
*Ці ў сад вяночку віці?*
*Каб пайшло яно к броду па воду,*
*Вядзерка б пабрала,*
*А каб пайшло яно ў сад вяночку віці,*
*Дзевачак пазвала б.*
*Вядзерцы стаяць, дзевачкі сядзяць,*
*А маёй, нямашака.*
*Ой, няма дзіцяці да й не будзе,*
*Да й забралі маё дзіця да добрыя людзі.*

Як вядуць маладую за стол, у парозе пяюць:

*Ой, збор вялікі, збор не малая, не ўся мая радзіна.*
*Я сакаліна з вышняга неба, бо мне матухна трэба.*
*Пашлю зязюленьку на Украіньку, па сваю радзіначку.*
*Ой, ты, зязюленька, не даляцела ці радзіна не схацела,*
*Ішчэй саколік не далятае, аж мамка прамаўляе:*
*Ці трэба было майму дзіцяці сокала прысылаці?*
*Ох, трэба ж было майму дзіцяці парачку шукаці?*

Сядзяць дружкі, дажыдаюцца, спяваюць маладой і чакаюць, пакуль прыйдуць “баярэ”, калі “баярэ” ідуць, дружкі пяюць:

*Баярэ мае любыя, шугніце мяне высока,*
*Высока, штоб я пабачыў далёка,*
*З кім мая Танечка шугае,*
*Краснае яблачка шугае,*
*Русаю косанькай махае.*

Баярэ прыйшлі к парогу. Выносяць да іх стол, аббягаюць дружыну да і ходзяць сваты адзін за адным і прыгаварваюць: “Наш каравай вышэй”. Дружкі кажуць: “Наш каравай вышэй”. Трэці раз абягаюць дружыну, шышкамі, жытам абсыпаюцца. Адна з баб адзеня кажух і аббяжыць дружыну. Даюць маладому ў лыжцы гарэлку, каб ён выпіў з лыжкі і гэту лыжку пераламаў да і на крышу закінуў. Госці заходзяць у хату, садзяцца маладыя за стол. Дружкі маладой пяюць:

*Беражыся, Танечка, беражыся,*
*Каля цябе перапой ходзіць.*
*Хочуць цябе перапіці,*
*Хочуць цябе перапіці,*
*Каля Колі пасадзіці.*

Потым дружкі пачынаюць са сватамі дражніцца, пяюць:

*А нашы ж сваты не ведалі*
*Ды ў хлеў заехалі,*
*Ды і казу прывіталі,*
*Ды казе руку далі,*
*Ды каза здзівілася,*
*Са смеху павалілася.*
*А нашы ж сваты і ўбогія,*
*У іх коні бязногія,*
*Аж самі яны пешком ішлі,*
*Маладога ў мяшку няслі,*
*Ды й палкі тырчалі,*
*Да сабакі гырчалі.*

Сваты адказ даюць:

*Ідзіце, шэльмы, прасці,*
*Штоб было ў кубель класці.*
Адказ дзяўчат:

*Штоб вас так чэрці скублі,*
*Як у нас поўна ў кублє.*

Сват налівае гарэлку, падносіць чарку маладой. Маладая раздае чарку дружкам, кладзе платок, пасылае к маладому, а потым малады адпраўляе ёй грошы, а далей другога платка маладая адпраўляе шаферу (першаму дружку маладога), а дружкі наліваюць гарэлку гасцям, садзяць за стол.

***Запісана ў в. Вадовічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Камарэнка Анастасіі Ісакаўны,***
***Кашпур Сафіі Рыгораўны,***
***студэнткай Страха М.***

У сваты бяруць тры чалавека і ідуць у дом нявесты. Спрашваюць у хазяіна, нет лі ў прадажэ цёлкі ілі кароўкі. Хазяін атвячает, што карова старая, а цёлка сабе нада. Тагда сваты дапытваюцца: "Можат есць у вас куніца?" – "Нет куніцы", – атвячает хазяін. – "Тагда ці ёсць у вас дзявіца?" Хазяін атвячает: "Да, ёсць у нас дзявіца".

Сваты гаварат, што ў іх ёсць князь, і яму нада княгіня, маладая дзяўчына, што еслі князю нада княгіня і яму люба наша дзяўчына, то пусць раскажат пра свае храмы і бярот да сябе маладую княгіню.

Адзін із сватоў расказвает, што ёсць за хазяйства ў маладога князя. Просяць выйсці нявесту для паказа. Адзетая дзевушка ў праздпічнае выходзіць з другой комнаты і на падносе, на ручніке нясёт хлеб і соль. Сваты прынімаюць, хваляць нявесту, благадараць за ўгашчэнне. Дагаварваюцца аб дне свадзьбы.

За стол к жаніху вядуць нявесту дзевачкі, а жанчыны прынімаюць её на сваі скам'і. Тут праходзіць працэс завівання.

Хросная маць запалівае дзве свечкі, каторые ваткнуты ў верхнюю корку хлеба, дзержыць іх младшая сястронка жаніха – свяцілка. Хросная бярот кальцо і саедзіняе галовы маладых, бярот па іх локану, уцягівае ў кальцо, падсмалівае валасы зажжонымі свячамі, што ў свяцілкі. Жалае жыць маладым век доўгі і добры.

Пасля трох заходаў (чарак) сват прыступае к дзяленню каравая.

Сначала пачціцельна вызываюцца на каравай радзіцелі маладых. Сват прызывае прыняць каравай і маладым дараваць. Затым вызываюцца хросныя, дзядзькі, браты, добрыя суседзі, сябры. Кажды, бярушчы каравай, гаворыць добрыя пажаланні і прыпадносіць свой падарак:

– Дарую вам грошы медзі, штоб былі дзеці, як мядзведзі.

Нявесце дару жарабца, штоб не заглядывалась на чужога малайца.

Жаніху дару сініцу, штоб не сматрэў на чужую маладзіцу.

Нявесце дарую казу, штоб не балела ні вверху, ні внізу.

Маладым дару пару галубоў, штоб была ў ніх вечная любоў.

Суседзі дараць маладым на новае хазяйства курэй, утак, гуся, парася, ката, казла і г.д. Усё гэта адна із сваіх пішат углём на грубачке.

**АБРАД "ЦЫГАНЕ"**

На другі дзень свадзьбы сабіраецца група "цыган". Яны па спіску ўсё даўжны сабраць і прынесці ў дом к маладым. З музыкай і песнямі праводзіцца гэта цырымонія завядзення хазяйства.

Затым нявеста, ужо адзетая ў плацце маладзіцы (завязана галава платком, фартук падпаясан), даўжна пабяліць грубку, на каторай пісалася хазяйства. Давалі маладзіцы венік, яна даўжна падмесці пол, а знатакі падсказвалі, якая будзет із яе хазяйка. Еслі нявеста начала падмятаць пол ад парога, то будзет у доме дастатак і багацтва.

***Запісана ў в. Залатуха Калінкавіцкага р-на***
***ад Шульга Еўдакіі Міхайлаўны,***
***студэнткай Страха М.***

Сваталіся звычайна восенню, пасля збору ўраджаю. Лепей усяго было ў Мясаед ці пасля Крашчэння. Ідуць у першую нядзелю маладзіка, бо лічылі, што будзе ў маладых добрае шчасце. Хадзілі ў суботу вечарам. Збіраліся жаніх, яго бацька і маці, хросны і хросная, першы дружка. Прыходзілі пад хату маладой, пелі:

*Пусці, свацейка, в хаточку,*
*Мы пасядзем у запечку.*
*А мы, свахі, з дарогі,*
*Памарозілі ногі.*
*Пусці, сваццяя, у хатачку,*
*Хаця ручкі пагрэці,*
*Каб на маладую паглядзеці.*
*Дайце свасе качана,*
*Каб нам песню спела.*
*Сваха качана з'ела*
*Ды песню не запела,*
*Каб яна анямела!*
*Наш сват на парог лезе,*
*А па спіне качарга рэжа,*
*Наш сват іспугаўся*

*І пад печ схаваўся.*

Іх пускалі ў хату. Галоўны сват – хросны пытаў: "От мы чулі, што есць у вас маладая цёлка. А ў нас – добры бычок, мо б вы яму гэту цёлку прадалі?" Калі дзяўчына была супраць, то яна ці сразу ж выбягала з хаты ці пачынала галасіць.

Калі яна саглашалася, то звала гасцей у хату да стала. Маці жаніха клала на стол прынесеную з дому скацерць, рассцілала яе, наверх лажыла свой хлеб, ставіла соль і гарэлку. Хлеб рэзаў сват, саліў, даваў усім па кусочку. Гарэлку выпівалі, хлеб з'ядалі. Затым усе сядалі за стол, і маладая з маці частавалі іх. Пад'еўшы, папіўшы, сваты ішлі дадому.

Еслі ж ім адказвалі, то яны ішлі дамоў агародамі, абыходзячы ўсе людныя месцы, штоб іх ніхто не бачыў. Тады гэта лічылася стыдна, калі дзеўка адмаўляла.

Запоіны былі на другі дзень пасля сватання. На іх сабіралі ўсю радню. Маладая з маладым і бацькі маладой аб'яўлялі ўсім прысутным аб шлюбе. Тут жа вызначаўся дзень і час свадзьбы. Госці садзіліся за стол, выпівалі. Пасля маладая дарыла сватам ручнікі, а яе маці мянялася хлебам са сватамі. Тут звычайна спявалі народныя песні, спявалі, хто што знае. Ну, вот:

*За сонцам – не бачу,*
*За ветрам – не чую,*
*За нядобрым мужам –*
*Дома не начую.*

*Пусці мяне, мілы, па ваду да броду,*
*Па ваду да броду, да маяго роду.*
*Не пушчу я, міла, па воду да броду,*
*Бо ты там па броду да свайго роду,*
*Бо ты там раскажаш пра сваю нядолю.*
*Не буду, мой мілы, не буду казаці,*
*Стану пад сцяною, зраблюся нямою.*
*О, што б табе, мілы, гадзюка шыпела,*
*Я сваёй мамцы праўды не сказала!*
*Ой, пайду я ў лес па дровы,*
*Ды наламлю лому,*
*Цяжка жыці на чужбіне,*
*Не маючы роду.*
*Забалела галовачка,*
*Нечым завязаці.*
*Завяжу галовачку сінім платочкам,*
*Накажу на радзіну сізым галубочкам.*
*А той сізы галубочак*
*Радзіне не скажа,*
*А той сіні платочак*
*Галавы не звяжа.*

Ці шчэ:

*Во городзе верба росла.*
*Там стаяла дзевка красна.*
*Яна красна ды красіва,*
*Толькі доля нешчаслівa.*
*Толькі доля нешчаслівa:*
*Няма таго, што любіла.*
*Разлучылі злые людзі,*
*Разлучылі, рассудзілі,*
*Штоб мы в паре не хадзілі.*
*А мы в паре хадзіць будзем*
*І друг друга любіць будзем.*

Ці шчэ:

*Серая ўтка на море начует,*
*Яна мае горачка чует.*
*Первое гора – дзеціна малая,*
*А другое – свякруха ліхая,*
*Трэцье гора – муж не любіць.*
*Ой, запрагае сівы валы в ёрма,*
*Ды едзе ў поле араці,*
*А мяне бярэ валы паганяці.*
*Нуце! Нуце! Валы полавые,*
*Ой, верніцеся, гады маладыя.*
*Трэба было валы не паганяці,*
*Трэба было гады шанаваці.*

Заручын не было. Зборнай суботы не было.

Пеклі каравай тыя, хто жыў у пары, жыў добра з мужам, не ругаўся. Пеклі яго тры чалавекі, зачыніўшыся ў хаце маладой, каб ніхто не бачыў. Пелі:

*Тройца па цэркві хадзіла,*
*Спаса за ручку вадзіла.*
*– Прачыстая Маці,*
*Прыйдзі к нашай хаце.*
*Вяселле зачыналі,*
*Каравай рашчынялі.*

Так яны пелі і пеклі каравай. На ім рабілі месяц, які пасля аддавалі гарманісту, верабейкі, якіх адразалі дружкам, бочкі і шышкі – усім астатнім. Ставілі ў печ. Пакуль каравай пекся, каравайніцы рабілі дзве свечкі з воску. Адну – маладому, калі будзе ехаць па маладую, а другую робяць для маці маладога, каб запаліла, калі з вянца будзет встречаць.

Калі каравай спекся, яго з печы вымае хросная маладой, перад гэтым пытаючыся ў бацькоў маладой: "Благаславі, ацец і маці, каго Бог спарадзіў у хаце каравай вынімаці". Бацькі павінны адказаць у адзін голас: "Благаслаўляю". Хросна вымала яго і тры разы разам з ім вярцелась. На

стол клалі скацерць, на яе сыпалі жыта і ставілі каравай. Пасля каравайніцы пачыналі яго апяваць:

*Да рано, рано, да за гарою новы двор,*
*Да рано, рано в том дворе светліца.*
*Да рано, рано в той светліце стол,*
*Да рано, рано на том стале скацерць,*
*Да на той скацерке каравай.*
*Да рано, рано адгадайце, баяры,*
*Што в нашем каравае?*
*Да рано, рано семі крыніц вадзіца,*
*Да рано, рано семі млынов мучіца,*
*Да рано, рано семі курок яічка,*
*Да рано, рано семі каровак маслечко.*
*Мы каравай месілі,*
*Ды з Дуная ваду насілі.*
*Каравай месілі сестрыцы,*
*Да насілі ваду з крыніцы.*
*Ой, месілі, ой, месілі,*
*Ой, насілі, ой, насілі,*
*Каб маладыя добра жылі.*

Апелі, і хросна бярэ яго і нясе ў кладоўку, кладзе яго там. Як там палажылі, яго адтуль да вяселля больш не бяруць і з месца не кранаюць. Бацькі маладой угашчаюць каравайніц, запрашаюць на вяселле, дзякуюць за працу, дораць ручнікі ці што яшчэ.

У час вясельнага застолля дзялілі гэты каравай. Яго выносіў сват, трымаючы над галавой малога хлопчыка. Перш выразалі сярэдзіну каравая нявесце, якая брала яе ў платок і забірала ў хату к маладому. Ёй жа аддавалі жыта, на якім ляжаў каравай. У хаце маладога яна павінна была яго з парога накрэст сыпаць, гаворачы: “Каб багатыя былі, каб шчаслівыя былі”. А потым хросныя жаніха і нявесты пачыналі ўзываць гасцей, каб яны адарылі маладых, пажадалі ім чаго-небудзь. Калі дарылі, то шмат чаго казалі:

*Дару сноп канапель, каб да году быў сын, як пень.*
*Дару тую цяліцу, што скача з печы на паліцу.*
*Дару вам грошы, каб дзеці былі харошы.*

Так павінны былі што-небудзь падараваць і сказаць усе госці. Калі каравай заставаўся, то маці маладой несла яго на вуліцу і раздавала там.

У нядзелю зранння збіраліся дзяўчаты ў хаце маладой. Яны запляталі касу маладой, а яна пела:

*Завівайлочко сцерла,*
*Маю косачку сцерла,*
*Сцерло, сам’яла*
*І пад чэпчык схавала.*

Нявесту адзявалі, сястра вадзіла яе па хаце. Затым прыносілі дзяжу, ставілі пасярод хаты, абкрывалі кажухом і садзілі на дзяжу маладую. Сястра расплятала ёй касу, расчэсвала грэбнем, мочаным у масле, і адзявала на галаву вянок, які сплялі дружкі. Пасля маладую пераводзілі за стол, садзілі на падушку і чакалі жаніха.

У той жа дзень хлопцы збіраліся ў маладога і збіраліся да маладой. Калі ехалі да яе, то спявалі песню:

*А Сярожку мамачка радзіла,*
*Ды месяцам абгарадзіла,*
*Ды ў дарожку адпраўляла,*
*Да ў дарожку шчаслівую*
*Па Танечку красівую.*
*Расступіцеся, ворагі,*
*Ды не пераходзьце дарогі.*
*Да няхай перайдзе мамка мая,*
*Каб нам дарожка гладка была.*
*Да няхай пяройдзе сам Гаспод,*
*А мой татка напярод.*

Дружкі жаніха ўрываюцца ў хату, забіраюць нявесту. Вянчацца ехалі на трох вазах. На першым возе сядзеў малады, на другім – маладая, на трэцім – дружкі. Назад ехалі маладая разам з маладым.

З-пад вянца маладыя вярталіся разам на адным возе. Ехалі да дому жаніха, каля якога пелі, звяртаючыся да маці маладога:

*Выйдзі, мамачка, паглядзі,*
*Што табе баяры прывезлі.*
*А прывезлі баяры скрыню, пярыну,*
*Маладую Танечку-княгіню.*
*Кідай, мамка, памяло, выходзь з хаты,*
*Бо вязом табе дзеразу ў хату,*
*Красівую да рабочую,*
*Да дзела ахочую.*
*Выйдзі, мамачка, з свячамі,*
*Ужо тваё дзіцятка звянчалі*
*Пад галоснымі званамі,*
*Пад яснымі свячамі.*

Уваходзіла маці жаніха са свечкай, выбягалі дзеці і абсыпалі маладых жытам. Прыносілі стол, на якім былі хлеб, соль і гарэлка. Налівалі маладым па чарцы, салілі хлеб. Маладыя выпівалі, разбівалі стаканы, адкусвалі хлеб. Спачатку – маладая, а потым у том жа месцы – малады.

Потым усе госці сядалі за сталы, елі і пілі, гулялі да ўтра. Песні спявалі ўсялякія, хто што хацеў. Ну, вось:

*Сіне морачка глыбока,*

*Дай не відна в море дна.*
*Я от мамачкі далёка,*
*Не відала года два.*
*Выйдзі, маманька радная,*
*Выйдзі рана на заре,*
*Не твая лі донька плача*
*В чужой дальней старане?*
*Не таго я, мамка, плачу,*
*Што чужая старана,*
*А таго я, мамка, плачу,*
*Прашла моладасць мая.*
*Мая моладасць праходзіць,*
*Як з высокай трубы дым,*
*А я сохну, а я вяну*
*З сваім серцэм маладым.*

Ці шчэ:

*В концэ грэблі раслі вербы,*
*Што я пасадзіла,*
*Няма таго казаченька,*
*Што я палюбіла.*
*Няма яго і шчэ не будзе:*
*Паехаў у Адэсу*
*І сказаў мне: “Расці, дзеўка,*
*На другую весну”.*
*Ждала, ждала казаченька,*
*Да й плакаці стала.*
*Плачце, очі, плачце карі,*
*Така ваша доля.*
*Палюбіла казаченька,*
*Пры месяцы стоя.*
*Не я адна палюбіла,*
*Палюбіла маці.*
*Дай сказала,*
*– Мая доню,*
*Трэба шанаваці.*
*Шанавала ручкі, ножкі,*
*А шчэ карі очі,*
*Штобы не хадзілі да другое,*
*А ні в дзень, а ні ў ночі.*

У канцы свадзьбы хросна матка нявесты снімала з яе вянок і завязвала на галаву касынку, якую дала маці жаніха. Эта значыла, што дзеўка стала жанчынай, жонкай. Нявеста кідала свой вянок дзяўчатам, хто зловіць, той і замуж пойдзе першы.

Госці раз’язджаліся, маладая ехала да мужа. Раніцай усе сабіраліся і ішлі ў хату да бацькоў маладой. Па дарозе дзеўкі спявалі:

*Танечка ваду брала,*
*Да ў свой край паглядала:*
*Ці не ідзе яе мамачка,*
*Ці не нясе ей падарачка.*
*Падарачка даражэнька*
*Для Танечкі маладзенькай.*
*Пасадзіла Танечка ўсіх дружак за стол,*
*Памажыце, дружачкі, мне,*
*Як мне свякруху назваці.*
*Назаву свякруху мамачка,*
*А свёкра – татачка,*
*А дзевера – брацік,*
*А залвіцы – сястрыцы,*
*А чужыну – радзіма.*

У гэты дзень гулялі ў бацькоў нявесты. Трэці дзень вяселля называўся “пакрышнік”. Збіраліся маладыя, хадзілі паліць вогнішчы, вадзіць карагоды. Праз нядзелю былі вясельныя госці, на іх збіралі сватоў і блізкую радню. На першай нядзелі збіраліся ў маладой, на другой – у маладога, яшчэ гэта называлі пярэзвамі.

***Запісана ў в. Рудня Гарбавіцкая Калінкавіцкага р-на ад Зубец К.М., 1930 г.н., Салаўян Т.З., 1939 г.н., студэнткай Зубец Т.А.***

Спярва сваталі нявесту. Пелі песні:

*Ці я ў цябе, мамка, не гарую,*
*Што аддаш ты мяне замуж, маладую.*
*Дай купі мне зязюлячку баравую,*
*Хай мяне прабуджае, маладую,*
*Бо свякруха – не матухна, не пабудзіць,*
*Толькі выйдзе за варота ды й абсудзіць.*
*Стаіць явар тонкі, высокі, на бок нахіліўся,*
*Сядзіць Віця ў канцы стала,*
*У дарожку нараджаецца.*
*Нараджаецца, у бацюхны пытаецца:*
*– Скажы, бацюхна, скажы, родненькі,*
*Што за дружыну ўзяць?*
*– Бяры, сыночак, сіраціначку,*
*Усю сваю адну радзіначку.*
*Радзіначку на падарачак,*
*А суседзі на помачы.*

На трэці дзень свадзьбы пераадзяваліся, калі прыглашалі на замеціны. Радзіцелі пераадзяваліся ў маладых, а маладыя былі гасцямі. Дзялілі каравай, но ў вясёлай форме.

Калі ў маладой ці маладога памерлі радзіцелі, то хадзілі на кладбішча і прыгаварвалі:

*– Прашу цябе, мая мамка, татка, на вяселле к сабе.*

*– Весяліся, дзіцятка, весяліся, роднае,*
*Бо я ў Бога гадна пад трыма замкамі.*
*Першы замок – жоўценькі пясок,*
*Другі замок – цясовая труна на грудзь палегла,*
*Трэці замок – Бога парок.*

*Не магу ўстаці к сваему дзіцяці,*
*Парадачку даці.*
*Весяліся, дзіцятка, весяліся, роднае.*

Калі маладую забіралі ў дом да свякрухі, то пелі песню:

*Да вецер вее, да вароты рыпяць,*
*Да едзе маці дзіцяці шукаць.*
*– Ды ці ты маё дзіця піло, ела?*
*– Каб я піла, ела, дак не змарнела,*
*Каб спала, дак не драмала.*

***Запісана ў в. Сырод Калінкавіцкага р-на***
***ад Века Вольгі Мікалаеўны,***
***студэнткамі Страха М., Сакаловай Ю.***

# Кармянскі раён

## ВЯСЕЛЛЕ

У нас дык простая свадзьба была. Ну, праўда, бедная ці не, а гулялі некалькі дзён. Сразу дык сваты прыходзілі, гаварылі, калі будзе свадзьба. Прыходзілі бацька хлопца, можа, шчэ браты. І первы дзень дружкі збіраюць нявесту, косы плятуць, спадніцу адзяваюць. Потым прыязджаў жаніх, яны садзіліся на воз ці як я, дык у санкі, бо зімой было, і едуць вянчацца. Пасля бацькі іх ужо сустракаюць з іконай, з хлебам, соллю. Ну, маладых садзілі на шкуру, як во кажух, каб ім добра было жыць. Ну, а госці, што гэта пілі ды елі, маладым налівалі ды жадалі ўсяго, хто што. Дружкі песні пелі, бабы старыя тожа.

Едучы да маладога, спявалі:

*З гары, з гары, з даліны*
*Беглі конікі чатыры,*
*Везлі карэту сінюю.*
*Звянчалі Манечку сілаю,*
*Звянчалі за грошы,*
*Штоб быў Іванечка харошы.*

У першы дзень вяселля маці з дачкою дзеляць прыданае, спяваючы:

*Сядзем, мамка, павячэраем,*
*Павячэраўшы, падзелімся.*
*Табе, мамка, ніты, бердзечка,*
*А мне, мамка, палаценечка.*
*Табе, мамка, усе навойчыкі,*
*А мне, мамка, усе сувойчыкі.*
*Табе, мамка, волік і вяроўка,*
*А мне, мамка, кубел і кароўка.*

Песня дзеўкі да маці:

*– Скажы, мамачка, скажы, родная,*
*Як свёкру гадзіці.*
*– Гадзі, донечка, гадзі, родненька,*
*Як свайму бацьку:*
*Раненька ўстань, ды добры дзень дай,*
*Нізенька пакланіся...*

***Запісана ў в. Бярозаўка Кармянскага р-на ад Рыжанковай Кацярыны Пятроўны, 1928 г.н. (ураджэнка в. Топкі Лог)***

У асноўным вяселле гулялася пасля заканчэння земляробчых работ: на Масленіцу, на Троіцу і інш. Ну, у нас сватанне і заручыны лічыцца аднолькавым, потым ідзе само вяселле.

## СВАТЫ

У сваты хадзілі хросны бацька, родны бацька, браты, дзядзькі і сам жаніх, а яшчэ, абавязкова, бралі з сабой гарманіста. Ідучы ў сваты, бралі з сабой хлеб-соль, сала і гарэлку. Перад тым, як зайці ў хату да бацькоў дзяўчыны, сваты пыталіся ў гаспадароў: “Ці пусціце вы пераначаваць нас, мы заблудзіліся”. Потым гаспадар кажа: “Ну, калі ласка, пераначуйце”. Потым сваты і кажуць: “Мы чулі, што ў вас ёсць дзеўка красная, а ў нас добры-моладзец”. Калі бацькі давалі згоду на шлюб, то тады прасілі сватоў сесці. У гэты час бацька хросны ложыць на стол хлеб-соль, сала і ставіць гарэлку. Потым маці прыводзіць дзеўку да стала, выпіваюць усе па чарцы і адпраўляюць маладых, каб яны пазвалі радню і суседаў. У гэты час бацькі нявесты накрываюць сталы. Потым дагаварываюцца, у які час будзе вяселле.

Ну, вянок тады меў просценькі від. Фата была зроблена з марлі, а вянок рабілі із рознакаляровай бумагі.

Ёсць такая песня, якая прысвячаецца для нявесты-сіраты:

*Станавіцеся рад у рад,*
*Будзе наша Люба мамку шукаць.*
*А няма мамкі на свеце.*

*Не стой, Божачка, у парозе,*
*А стань, Божачка, на куце,*
*І дай долечкі сіраце,*
*Бо ў сіроткі няма ні маткі, ні таткі.*

## КАРАВАЙ

Каравай меў круглую форму. Выпякалі яго замужнія жанчыны, маці хросная.

Вечарам, перад вяселлем, нявеста сабірала сваіх падружак. Яны прыносілі ёлку, рабілі цвяты із бумагі і ўкрашалі яе. Спявалі вясельныя песні:

*Стукнулі, грукнулі на дварэ.*
*– Ці ж, мая мамачка, па мяне?*
*– Па цябе, дачушка, па цябе.*
*– Гатуй, мамачка, кублік мне.* 2 р.
*– Няма, донечка, кубліка,*
*Ты ж мне пер’ейка не скубла.*
*– Ой, скубла, скубла, шамацела,*
*Ба за Ванечку замуж захацела.*

Калі малады збіраецца ад’язджаць да нявесты:

*Пусці, сватачка, у хатачку,*
*Мы не будзем прасіць гарэлачкі,*
*А будзем прасіць у цябе дзевачкі.*

Маці нявесты спявае:

*Наша Любачка, як сыр з маслам,*
*А ваш Колечка, як чорт з-пад прасла.*

Пасля вяртання ад вянца маці і бацька нявесты і ўся радня выходзіць сустракаць маладых. Маці адзяе шубу навыварат з іконай, а бацька нясе гарэлку і чаркі. Маладыя выпіваюць па тры раза і разбіваюць чаркі на шчасце. Потым усе садзяцца за стол і прадаўжаецца вяселле.

Калі пасля ночы нявеста аказваецца цнатлівай, дык на дварэ вывешваюць чырвоны сцяг. Маладзіцы б'юць посуд, і гаспадар за гэта не гневаецца. Калі ж выявіцца, што нявеста не цнатлівая, тады яе родным надзяваюць хамут.

Пасля вяселля нявеста едзе да жаніха. А на другі дзень бацькі нявесты прыязджаюць у дом жаніха і спяваюць:

*– А дзе ж нашу маладую дзелі,*
*Хоць мы б на яе паглядзелі.*
*– У каморы сядзіць, каралечкі ніжа,*
*Не чорныя, а чырвоненькія.*

На вяселлі магло быць і так, што пераадзеваліся ў цыган.

***Запісана ў в. Ліцвінавічы Кармянскага р-на ад Цімашэнка Святланы Уладзіміраўны, 1937 г.н., студэнткай Цімашэнка В.***

Колісь веселья робілі осенью, як ужэ ўсе поробяць: картоплі выберуць, буракі звезуць. Это цепер робяць, колі захочуць, толькі не ў пост. Сначала збіраюцца сваты і договарваюцца, калі назначыць дзень сватоў. Раней у сваты шлі толькі самые родные і дружок тожэ шоў у сваты.

После сватоў родня молодое ідзе до молодого по сорочкі. Беруць меркі з родні, екую трэба одарыць, размер окон, шоб повесіць гардзіны і шторы. Договорваюцца і позначаюць дзень свадзьбы. Свадзьба була ў двух хатах, это цепер робяць у адной, а раней не. Пекла каровай маці хросна, но трэба, шоб она була не ўдова. Каравай быў як свой печаны хлеб, его наражалі саморобнымі цветамі і ставілі дзве велікіе свечкі. Шоб спекці каравай, трэба было обязацельно ўзяць столькі мукі, шоб хватало для замесу, і больш мукі не добаўляць. Бо говорылі, шо сколько раз будзе добаўляць муку, столько раз будзе замуж іці або жэніцца. Калі ўжэ поставяць пекці каравай, а міску помылі і эту воду вылівалі на вішню, спяваюць песню:

*Ой, вісу, мой вісу,*
*Да наліце воду ў місу,*
*Да ручанькі помоймо,*
*Да на вішэньку злеймо,*
*Шоб вішэнька развіваласа,*
*Молодые красоваліса.*

Як прыбіралі ўжэ молодую ў вэлюм, то тожэ спявалі:

*Молодзенька (імя),*
*Ужэ тобе да мінаецца,*
*Ужэ тобе да мінаецца*
*Дзевоцкае дзевованейко,*
*Дзевоцкое дзевованейко.*
*Русы косы зачэсанейко,*
*Хоць і будзеш чэсаці,*
*Но не будзеш заплетаці.*

Потом прыезджае поезд молодого і выкупаюць молоду. Молоду выкупае дружок, жэніх стоіць у стороне. Як выкупілі, родня молодое перэвязвае сватоў наміткамі: бацька, маці, брата, сестру, бабу, дзеда, цёток, дзядзькоў родных, хросного і хросну, дружка. І садзяцца ў машыны, а колісь на возах ездзілі ў сельсовет. Колі ўсе посядуць, бацько і маці молодое обходзяць машыны тры разы с хлебом у руках. Эты обрад называецца бацьково бласлаўленне. Як молодые едуць у ЗАГС і после его, у іх адбіраюць перэпой. Посерэд шляху становяць стул, а на ём лежыць хлеб і соль. Машыны останаўліваюцца і ўгошчаюць перэпоем. І кажуць, шо чым больш перэпоя адберуць, тым будуць молодые шчаслівейшые. После ЗАГСа молоды везе молоду назад домоў, і там ее маці дае ім мёд і чарку гарэлкі, і молодые розбіваюць чаркі, шоб ушчэнт разбілі. Потом осыпаюць іх хмелем і жытам, шоб булі багаты і шчаслівы. После этого молоды едзе домоў і кажды гуляе отдзельно: жэніх собе, невеста собе.

Потом прыходзіць поезд от жэніха, зноў ідзе выкуп, толькі ўжэ между сватамі, і после начынаецца гулянне. Это цепер молодые п'юць, едзяць, спеваюць, танцуюць. А колісь этого не было. Молодой дажэ есці не можно було. Ее сповівалі наміткой, она так і седзела накрыта. Ужэ калі молоды ведзе её к собе домоў, там его маці росповівае молодую, тожэ прывітвае молодых і дорыць молодой хустку, т.е. накрывае ёй на голову. Этым она показвае, шо она ўжэ не дзеўка, а молодзіца. І ўжэ цепер молода можэ і есці і спеваць. Калі молодые ідуць у хату, то не трэба, шоб ім переходзілі дорогу, особенно одзінокіе і ўдовы. Сначала дзеляць каравай у молодое её родня і её беседа. Пры этом одорваюць молодых і говорац разные пожэланія:

*– Дару кошэль гліны, шоб чэрэз год позвалі на хрысціны.*

*– Дару куру-квоктуху, шоб невестка поцоловала свекруху.*

*– Дару грошы, которые сама зарабляла, шоб молодая молодого поцоловала.*

*– Дару дубовую рошчу, шоб зяць поцоловаў цёшчу.*

*– Дару полено, шоб молоды поцоловаў молоду ў колено.*

На этом веселле ў молодой канчаецца, а ў молодого начынаецца гулянне ўжэ з молодой. Потом тожэ дзеляць каравай і могуць гуляць хоць усю ноч. Потом сваты гуляюць пірогі, на следуюшчые выходные после свадзьбы. Гуляюць тые, хто на вяселлі ходзіў з тарэлкамі, і сваты, екія перэжывалі, шоб хватало еды і гарэлкі. Песні спявалі разные, хто яку прыдумае: і весёлые, і грусные, і частушкі.

*– Стукнула, грукнула на дварэ...*
*Стукнула, грукнула на дварэ.*
*– Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?*
*– Па цябе, дачушка, па цябе!*
*– Накладай, мамка, кублік мне.*
*– А едзь, мая дачушка, без кубла,*
*Ты ў мяне кудзелькі не скубла.*
*Было табе за снапамі не сядзець,*
*Ды было на хлопцаў не глядзець,*
*Ды было кудзельку скубаць,*
*Было б што ў кублік складаць.*

* * *

*Татачка, мой родненькі...*
*– Татачка мой родненькі,*
*Да нашто ты піва варыш,*
*Гарэлачку гоніш? Ці ты мяне*
*Дай аддаць хочаш?*
*– Да, дзіцятка, дзевачка!*
*Мalады розум маеш.*
*Ці таго не знаеш,*
*Што мой двор пры дарозе,*
*У мяне госці на парозе,*
*Просяць мёду і гарэлачкі,*
*Гарэлачкі самадзельнай*
*Да дзевачкі маладзенькай.*

* * *

*Дзяўчына Галя ў саду гуляла,*
*Дзяўчына Галя ў саду гуляла,*
*Каго любіла – прычаравала.*
*Прычаравала сэрца і душу,*
*Прычаравала сэрца і душу,*
*Цяпер до цебе ходзіць мушу.*
*Ходзіць мушу, ходзіць буду,*
*Ходзіць мушу, ходзіць буду,*
*Скажу по праўдзе – браці не буду.*
*Я больш не выйду, с тобой не стану,*
*Я больш не выйду, с тобой не стану,*
*Я вышлю сестру такую саму.*
*А я з сестрою ўсю ноч простою,*
*А я з сестрою ўсю ноч простою –*
*Не тые рэчы, шо і с тобою.*
*Не тые рэчы, не та розмова,*
*Не тые рэчы, не та розмова,*
*Не белэ лічко, не чорноброва.*
*Дзеўчына Галя ў саду гуляла,*
*Дзеўчына Галя ў саду гуляла,*
*Каго любіла – прычаравала.*

* * *

*Цераз рэчаньку, цераз быструю*
*Гібка кладачка ляжыць,*
*А на той жа кладочцы,*
*Там Іваначка сядзіць,*
*За сабой Алёначку ведзець*
*Ён Алёначку-душу:*
*– Ах, ты, кладачка, ты цясовая,*
*Ты не гніся пада мной.*
*Ай, не півушка, зелена віна,*
*Не ўпівайся, маладая.*
*Радзі дзетачак, радзі дробненькіх,*
*Не старэйся, маладая!*
*– Ах, ты, Іваначка, ты душа мая,*
*Усе непраўдачка твая.*
*Піўшы півушка, зелена віна,*
*Я ўвап'юся, малада.*
*Радзі дзетачак, радзі дробненькіх*
*Састаруся, малада...*
*Ой, у полі тры дубкі,*
*Ой, у полі тры дубкі,*
*Ой, у полі тры дубкі, тры дубкі*
*Схіліліся до купкі.*

* * *

*– Ой, дзеўчына, чыя ты?*
*Ой, дзеўчына, чыя ты?*
*Ой, дзеўчына, чыя ты, чыя ты?*
*Ці не выйдзеш гуляці?*
*– Не пытайся, чыя я,*
*Не пытайся, чыя я ,*
*Не пытайся, чыя я, чыя я,*
*Як ты выйдзеш, выйду й я.*
*– А я ў бацькі адзін сын,*
*А я ў бацькі адзін сын,*
*А я ў бацькі адзін сын, адзін сын,*
*Цалавацца хоць бы з кім.*
*– А я дочка мамчына,*
*А я дочка мамчына,*
*А я дочка мамчына, мамчына,*
*Цалавацца наўчона.*
*Ой, у полі тры дубкі,*
*Ой, у полі тры дукі,*

*Ой, у полі тры дубкі, тры дубкі,*
*Схіліліся да купкі.*

* * *

*Каханка, дзеванька, каханка,*
*А ў ёй касынка кованка.*
*Не было каваля – раскаваць,*
*Не было грабляцоў – расчасаць.*
*Былі кавалі ў дарозе,*
*А былі граблецы ў возе.*
*Прыехалі кавалі*
*З чужой старany,*
*Дзевіцы косынкі раскавалі,*
*А сужанькі коніка падкавалі.*
*Былі ў дзеўчыны істужкі,*
*То мо коніка падпружкі.*
*Былі ў яе, молады, пярсцёнкі,*
*То яго коніка падкоўкі.*

* * *

*Ой, оралі хлопцы ніву,*
*Поламалі ярмо.*
*Ой, оралі хлопцы ніву,*
*Поламалі ярмо.*
*– Заплаці ты нам, дзеўчыно,*
*Шо я ходзіў дармо.*
*– Ой, я тобе, мой козачэ,*
*Плаціла, плаціла.*
*Ой, я тобе, мой козачэ,*
*Плаціла, плаціла.*
*Цэловаў мое лічэнько,*
*Я не перэчыла.*
*Шчэ й пры сонцу, шчэ й пры зорах,*
*Шчэ й пры месячыку.*
*Шчэ й пры сонцу, шчэ й пры зорах,*
*Шчэ й пры месячыку,*
*Цэловаў мое лічэнько*
*Бравы козачыку.*
*Ой, оралі хлопцы ніву,*
*Поламалі ярмо,*
*Ой, оралі хлопцы ніву,*
*Поламалі ярмо.*
*– Заплаці ты нам, дзеўчына,*
*Шо я ходзіў дармо.*

* * *

*Мое вочы чорные, чорные, чорные,*
*Мое вочы чорные, чорные,*
*Кепска мне з вамі, кепска мне з вамі,*
*Кепска мне.*
*Як радзіла мене маці, мене маці, мене маці,*
*Як радзіла мене маці, мене маці,*
*Долечкі не дала, долечкі не дала,*
*Долечкі не дала, не дала.*
*Як возьму я свою долю, свою долю, свою долю,*
*Як возьму я свою долю, свою долю,*
*У лузе закопаю, у лузе закопаю,*
*У лузе закопаю, у лузе я.*
*Не чэпайце мене, хлопцы, мене, хлопцы,*
*Не чэпайце мене, хлопцы, мене, хлопцы,*
*Посагу не маю, посагу не маю,*
*Посагу не маю, не маю.*
*Мое вочы чорные, чорные, чорные,*
*Мое вочы чорные, чорные,*
*Кепска мне з вамі, кепска мне з вамі,*
*Кепска мне.*

* * *

*Выйду за Анісіма.*
*Як хацела мене маці*
*За Івана замуж аддаці,*
*А Івану, а Івану*
*Трэба ў ногі кланяцца.*
*Як хацела мене маці*
*За Лявонушку аддаці,*
*А ў таго Лявонушкі*
*Ёсць свая Алёнушка.*
*Як хацела мене маці*
*За Міхайла аддаці,*
*А таго Міхайла*
*Уся дзярэўня хаяла.*
*Як хацела мене маці*
*За Грыгорыя аддаці,*
*Не люблю Грыгорыя –*
*Вот і ўся гісторыя.*
*Як хацела мене маці*
*За Анісіма аддаці,*
*Выйду за Анісіма –*
*Буду незавісіма.*

* * *

*Маладзіцы маладыя...*
*Маладзіцы маладыя, маладзіцы маладыя,*
*Ці добрыя мужыкі, ці ліхія?*
*А ў мене мужычышча, а ў мене мужычышча*
*Не пускае на вуліцу, на ігрышча.*
*А я его абдурыла, а я его абдурыла,*
*Несалёного боршчу наварыла.*
*Наварыла, пакарміла, наварыла, пакарміла,*
*Сама выйшла на вуліцу, пагуляла.*
*Пагуляўшы, шла дадому, пагуляўшы, шла дадому,*
*Сустракае стары дзед з барадою:*
*– Дзе ж ты была, мая жонка,*
*Што ўчора і звечора прывезена?*
*– Я ў каморы начавала, я ў каморы начавала,*
*Усю твою худобоньку даглядала.*
*– Гуляй, мілка, як гуляла,*
*Гуляй, мілка, як гуляла,*

*Абы маю худобаньку даглядала.*

* * *

*Ой, доля мая.*
*Сонейка заходзіць, у акно паглядае,*
*Паўлюк на Ганулю скоса паглядае.*
*– Ой, доля моя, сіні вочы твое,*
*Як цебе не бачу, боліць сэрца мое,*
*Як тая цяцерка, што ляцець не хоча,*
*Ой, як мое сэрца за тобой лякоча.*
*Ой, доля моя, сіні вочы твое,*
*Як цебе не бачу, боліць сэрца мое,*
*Як тые колёса, шо рыпяць без мазі,*
*Я до цебе прыліп, як свіньня до гразі.*
*Ой, як моя доля, сіні вочы твое,*
*Як цебе не бачу, боліць сэрца мое.*
*Ох, высох я, высох, як лапаць на печы,*
*А ты мне ўсё кажэш, шо я не дарэчы.*
*Ой, доля моя, сіні вочы твое,*
*Як цебе не бачу, боліць сэрца мое.*
*Куплю тобе цэбар, постаўлю ля хаты,*
*А ты ўсё кажэш, шо я не жанаты.*
*Ой, доля моя, сіні вочы твое,*
*Як цебе не бачу, боліць сэрца мое.*

* * *

*Каля рэчкі, каля броду*
*Дзеўчына стаіць,*
*Она дзівіцца на воду,*
*Як вода бежыць.*
*– Ой, чо ж, чо ж, чо ж,*
*Чо ж я нешчаслівa?*
*Ой, чож, чож, чаму*
*Некрасіва, нешчаслівa?*
*Бо цябе люблю.*
*Месяц ходзіць і заходзіць,*
*Я одна стою,*
*І не прыйдзеш, не спытаеш,*
*Кого я люблю.*
*– Ой, чо ж, чо ж, чо ж,*
*Чо ж я нешчаслівa?*
*Ой, чож, чож, чаму*
*Некрасіва, нешчаслівa?*
*Бо цябе люблю.*
*Прыйшоў козак до дзеўчыны*
*Дэ й пытаецца: “Кого любіш*
*Дэ й кохаеш?” – пасмехаецца.*
*– Ой, чо ж, чо ж чо ж,*
*Чо ж я нешчаслівa?*
*Ой, чож, чож, чаму*
*Некрасіва, нешчаслівa?*
*Бо цябе люблю.*

* * *

*Звёздочка тучку задела,*
*Росы роняет туман,*
*Песня вдали пролетела*
*И подпевал ей баян.*
*Тут ничего не поделать,*
*Каждому в жизни своё,*
*Звёздочка тучку задела,*
*Сердце задела моё.*
*Ивушка клонит под ветром*
*Тонкие ветви свои.*
*Если любовь безответна,*
*Верить, не верить любви?*
*Пусть пронесут по заречью*
*Песню свою соловьи.*
*Если тебя я не встречу,*
*Значит, не встречу любви.*

* * *

*В небе звёздочка сияет,*
*Как далёкий огонёк,*
*За полями, за лесами,*
*Между трёх больших дорог.*
*Ой, подружка, я грущу,*
*Свойго милого я жду.*
*За полями, за лесами,*
*У студёного ручья,*
*Тракториста молодого*
*Повстречала как-то я.*
*Ой, подружка, грустно мне,*
*Не придёт ли он ко мне.*
*Тракторист мой и не знает,*
*Что ночами я не сплю.*
*Тракторист мой и не знает,*
*Что его я так люблю.*
*Ой, подружка, не того*
*Тракториста я люблю.*

* * *

*Косіў козак сено, як была погода,*
*Плакала дзеўчына, як была молода.*
*Плакала, рыдала, лічком побелела,*
*Наверно, дзеўчына козака жалела.*
*Козака жалела, шчэ й розныя рэчы,*
*Косу распусціла на ўсе свае плечы.*
*Косу распусціла, жалю парабіла:*
*– Ой, жалю, мой жалю, велікі печалю.*
*Ой, жалю, мой жалю, велікі печалю,*
*Любіў козак дзеўку, цепер покідае.*
*Нехай покідае, я плакаць не буду,*
*Я – дзеўка молода, без пары не буду.*

***Запісана ў в. Лужок Кармянскага р-на***
***ад Бобрык Таццяны Максімаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Блоцкай В.***

# *Лельчыцкі раён*

Ішлі ў 12 часоў ночы, каб ніхто не ведаў. Ішлі жаніх, дзядзька, брат, бацька хросны. Бралі з сабою пірог і гарэлку. Заходзілі ў хату і гаварылі шуткамі: “Чулі, што вы цёлку прадаеце, а ў нас е купец”. Малада пытала разрашэнне, ці дазволяць бацькі ісці замуж. Потым старшы сват налівае ў чарку гарэлку. Малады падносіць маладой, калі п’е, дык згодна. Потым малада дае чарку свайму бацьку, той п’е. Маладыя ідуць на перву чарку зваць. Калі высваталі сваты дзеўку і ішлі дамой, то ім лажылі ў сумку пірог і гарэлку, клалі калбасу.

Удзень завуць маладыя ўсю дзявочу радню і п’юць, гуляюць, спяваюць.

Вілі вянка дружкі з бумажных цвяточкаў. Потым ішлі ў лес за ёлкай з песнямі.

Каравай мясілі 7 замужніх жонак і не ўдовы. Стаюць кругом стала, дзеляць цеста і месяць, а потым зложваюць уместо і зноў месяць па чарзе па сонцу. Потым ложаць на бляху, украшаюць і сажаюць у печ. Перад тым, як сажаць каравай у печ, завуць хлопчыка. Ён выграбае жар з печы так, каб ляцеў аж на пол, каб дзеўкі замуж ішлі. Рабілі малыя каравайчыкі і давалі іх далёкай радне. Воду вылівалі пад салодку яблыню, каб маладым салодка жылося.

После караваю робяць жанкі свечку і ўкрашаюць яе. Пры дзяльбе каравая яе запальвае князёк. Адной спічкай павінен запаліць 2 свечкі. Свечкі ў маладога і маладой. Іх злучаюць на парозе, калі малады прыязджае да маладой. Іх бярэ свацілка і дзержыць, пока будуць дзяліць каравай. Потым іх ставяць на акно. Калі рабілі свечку, умывалі мужчын вадою, а яны ўцякалі.

Перад тым, як ехаць да маладой, выходзяць з хаты. Бярэ бацька жаніха пірог у хустцы і 3 разы абходзіць вакруг людзей свадзьбенных. А малада дома чакае. Такую песню пелі:

*Зялёненькая рутанька, жоўты цвет,*
*Чаго цябе доўга нет.*
*Напісала б пісьміцо – не ўмею,*
*Паслала б пасланца – не смею,*
*Пашла б сама – баюся,*
*У быстрой рэчанькі ўтаплюся.*
*У быстрой рэчанькі сторожы,*
*Яны ж мяне, молоду, сцерэгуць*
*Да й спаймаюць.*

Калі прыехалі да маладой, яе маці абсыпае маладога жытам. Заходзяць у хату і пакупаюць ёлку сваты. Дружкі ўстаюць на лаву і спяваюць:

*Вы, сватове-панове,*
*Не стойце далеко,*
*Прыступайце блізенько,*
*Штоб было хорошэнько,*
*А мы будзем знаці,*
*Чым вас частаваці,*
*Чы мёдом саладзенькім,*
*Чы перцэм.*
*Просім вас шчырым сэрцэм.*

Сваты:

*– Вон, сарокі, з хаты,*
*Хваціць вам шкрыгатаці.*

Дружкі:

*Не самі мы прыйшлі,*
*Не самі мы пойдам.*
*Найміце нам наймічэнькі,*
*Штоб велі нас под ручэнькі.*

Сваты:

*– Старша дружка рэзва,*
*Да на сабаку спужаўся,*
*Ды на старшу сваху забраўся.*

Дружкі:

*– Мы думалі: сваты багаты,*
*Аж яны скупаваты,*
*По сметніцах хадзілі,*
*Чарапкі збіралі*
*Ды дружак скуплялі.*

Куплялі ёлку грашыма. Калі купяць ёлку, то купляе малады сабе места ў князька маладое.

Дружкі:

*Наш князёк харошы, харошы,*
*Дайце яму грошы.*
*А ваш, валахаты,*
*Ды пабег кругом хаты*
*З вялікай лапатаю*
*За сераю сабакаю.*

Князёк маладога заводзіць яго за стол за платочак па сонцу да маладой. Перад гэтым просіць благаславення: “Благаславіце, оцец і маці, за стол завесці маладога” (3 разы).

Калі князёк маладой вёў яе за стол, то спявалі:

*Брат сястру за стол вядзе,*
*Да ведучы, павучае:*
*Будзь, сястрыца, разумная,*
*Май свякорка за татачку,*
*А свякруху за матухну,*
*А дзяверка за брацейка,*
*А залвіцу за сястрыцу.*

Сядаюць за стол і вячэраюць. После вячэры рабілі пярэзву. То частуе хазяін, потым усё са сталоў убіралі і ставілі ўжо людзі сваю еду, кожны па 15 тарэлак і гарэлку. Садзілі баяраў – гасцей маладога. После гэтага збіраюцца, забіраюць прыданнэ, маладую і вязуць да маладога.

Адпраўлялі закасьянак з маладой, каб яны прыбралі хаты: вешалі гардзіны на окна, рушнікі, просцілкі на вешалку, койку засцілалі маладым. Гэта 3 або 5 замужніх цётак, сёстры. Маці маладога выходзіць у каптусе, абсыпае жытам, каб маладыя былі багатыя. Госці заходзяць у хаты, іх садзяць за стол. Павячэраюць і ідуць дахаты.

**ДЗЯЛЬБА КАРАВАЯ**

Дзялілі спачатку ў маладое. Бацька хросны рэжэ, а сваты носяць. “Благаславі, оцец і маці. каравай у хату прынесці” (3 разы). Потым: “Благаславі, оцец і маці, каравай на стол паставіць” (3 разы). Сярэдзіну аддаюць маладым. Вызываюць само первых бацьку з мацер’ю, а потым сясцёр і братоў, а потым усіх родных: “Дай, Божа, не маўчаць, да ўсё добра пачаць. Дзе-то ў нашай маладой (маладога) е... Адзавіцесь, мае каханыя!” Ніз каравая аддаюць музыканту. Жадаюць:

*Дару палена, каб малады маладу пацалаваў у калена.*

*Дару куру-квактуху, шоб малада пацалавала свякруху.*

*Дарым зялёную рошчу, каб малады пацалаваў цёшчу.*

*Дару каробачку маку, каб малады маладу пацалаваў у с...*

**АБРАД “ЦЫГАНЕ”**

На трэці дзень людзі прыходзілі да маладой (маладога). Сядаюць за стол. Потым пераадзеюцца і ідуць у цыганы. Абавязковымі былі хірург, малада, малады. З цыганоў прыносяць куры, вараць іх і вечар гуляюць.

Былі шуткі. Замест маладых сажалі мужчыну з жанчынай, якія былі “маладымі”. Дзялілі каравай-капусту. Жадалі:

*Дару зялёны гай.*
*Дзе малады захоча,*
*То ты, малада, і лягай.*
*Дару машыну з тросам,*
*Не можаш...,*
*То рабі носам.*

***Запісана ў в. Буда-Лельчыцкая Лельчыцкага р-на ад Дашкевіч Ганны Яўгенаўны, 1934 г.н., студэнткай Дашкевіч А. (2005 г.)***

Вяселле пачыналася ў суботу ўвечары з васьмі гадзін. Радзяць каравай, а затым ідуць за маладою. Сватаць дзяўчыну хадзілі маці і бацька хлопца. Калі маладая дзяўчына згодна выйсці замуж за хлопца, то і бацькі давалі згоду. Вянок маладой быў зроблены з прыгожых кветак.

Затыкалі ў каравай пяць свечак, пяклі шышкі, а таксама ставілі рожкі з дрэва. Калі пяклі каравай, то гаварылі:

– Губатая мясіла, рылатая ўбірала, а трэцяя, прыгожая, у печ сажала.

У час пасада маладая хавалася. Калі яе знаходзілі, то садзілі за стол разам з маладым, давалі мёд, мазалі косу маслам і адразалі яе другім бокам нажа. Спяваць маладой не дазволена. Сяброўкі маладой спявалі:

*Ты, Ганначка, не пужайся,*
*Да за Іванкам пабірайся*
*Раненька.*

Як радзяць каравай, то спяваюць:

*У агародзе ліпа, у агародзе ліпа*
*Золатам абліта.*
*Хадзем абламем,*
*Каравай нарадзем.*

Каравай дзяліў хросны.

Калі збіраюцца ехаць па маладую, то хлопцава маці бярэ жыта і сыпле яго нахрэст і спявае:

*А нашы ворагі,*
*Не пераходзьце дарогі,*
*Бо ў нас коні вараныя*
*Бягуць пад ногі.*

Асыпалі маладых на двары. Калі едуць з маладою, то спяваюць:

*Чый-то бацечка прылягае к дарозе:*
*Ці не шуміт дуброва,*
*Ці не стогне дарога?*
*У шчэліну пазірае,*
*Ці багата гасцей мае.*

Калі маладога садзяць за стол:

*– Зыйдзі, Божа, з неба,*
*Цяпер ты мне трэба.*
*Буду сына жаніці,*
*На пасаду садзіці.*
*А Бог кажа:*
*– Я сам не сыйду,*
*Два ангела пашлю,*
*Яны табе парадзяць*
*І на пасад пасадзяць.*

У час застолля песні прысвячаліся маладым, свату, іх бацькам.

***Запісана ў в. Глушкавічы Лельчыцкага р-на ад Зубрэй Настассі Васільеўны, 1945 г.н., студэнткай Міхалевіч Н.***

Вяселле звычайна гулялі летам ці восенню.

Сватаць дзяўчыну прыходзіў малады са сваімі родзічамі. Пасля таго, як дзяўчына дала згоду на шлюб, яны ішлі збіраць родзічаў маладых. Сабраўшы іх, яны ішлі да маладога і там святкавалі.

Вянок маладой спераду быў з кветак, а далей былі рознакаляровыя ленты. У час падрыхтоўкі маладой яе сяброўкі спявалі песні:

*– Ой, не сядзі, (імя маладой), не сядзі,*
*Прыскоч к акенцу, (імя маладога), на кані.*
*– Ой, харош, чарнабрыў,*
*Судзі, Божа, мне жыці з ім.*

Калі дзяўчына была сіратой, то для яе спявалі спецыяльныя песні:

*Упала (імя маладой) крыжам*
*Да зямлі,*
*Прасіла мамачку*
*На вяселье к сабе.*
*– Прасі, дзіця, Госпада Бога,*
*Каб схадзіліся буйныя ветры,*
*Каб разарвалі зялёныя мурагі,*
*Каб рассыпалі жоўтыя пяскі,*
*Каб адмукнулі цісавую труну,*
*Тады я на вяселле к табе прыду.*

Каравай выпякалі хросныя бацькі, яго ўпрыгожвалі кветкамі, шышкамі з цеста. Брат, а калі няма, то нехта з родзічаў маладой, вёў яе да стала і прасіў бацькоў благаслаўлення. А ў гэты час старыя жанчыны спявалі:

*Ой, брат сястрыцу за стол заводзіць*
*Ды і ружу (кветка) ўспамінае:*
*– Ой, не йдзі, сястра,*
*Проціў лецечка, як ружа зацвітае,*
*А барвіначак, шырокі лісточак,*
*Садочкі ўсцілае.*

За сталом таксама спявалі песні:

*А (імя нявесты) маці*
*Па суседачках просіць:*
*– Ой, суседачкі мае,*
*Хадзіце да мяне,*
*Майму дзіцяці каравай гібаці.*

Калі выносілі каравай, то спявалі:

*Старшы дружа каравай нясе,*
*Туфлямі крэша (стукае),*
*Хоць крашы, хоць не крашы,*
*Сам каравай нясі.*

Ён падымае каравай над галавой і танцуе.

Маладых асыпалі пасля каравая хмелем і жытам. Калі малады прыходзіў да маладой, то яе маці асыпала яго і налівала яму чарку. Заканчвалася вяселле пераапрананнем у цыганоў. Яны хадзілі па дварах тых людзей, якія былі на вяселлі і збіралі ў іх ежу. Потым гатавалі яе і яшчэ гулялі.

***Запісана ў в. Дуброва Лельчыцкага р-на ад Ляхавец Марыі Якаўлеўны, студэнткай Ляхавец В.***

Сватаюць дзяўчыну, калі нячотная колькасць сватоў. У сваты ідуць бацька і сын, які хоча жаніцца. Таксама ідзе кросны бацька, ён – галоўны сват. Сваталі дзевак да Пакровы. Сватанне пачынаецца пасля заходу сонца. Маці хлопца клала на стол хусцінку, клала на яе бохан хлеба, святую соль і бутылку гарэлкі. Яна гэта завязвала і запрашала ўсіх пасядзець на дарожку. Ехалі сватаць на конях. Прыехаўшы да дзяўчыны, сваты гаманілі на двары, каб гаспадар пачуў, але ў хату не заходзілі. Гаспадар выходзіў і запрашаў усіх у хату. Сваты ўваходзілі ў хату і ставілі на стол хлеб-соль і гарэлку. Вялі размову, сват частаваў сваёй гарэлкай, а калі бацькі дзеўкі паставілі сваю гарэлку, то гэта лічылася згодай бацькоў на выданне дачкі. Калі гаспадар падаваў на стол сваю гарэлку, то маці дзеўкі абвязвала сватоў ручнікамі. Лічылася, што ў сваты лепш выязджаць маладзіком.

***Запісана ў в. Мілашавічы Лельчыцкага р-на ад Вайценка Варвары Мітрафанаўны, 1942 г.н., студэнткай Лісіцкай А.***

У сваты ідуць сваха, бацько, молоды, блізкія сваякі. Сваха гаворыць: “Вось мы ішлі да заблудзіліся, да к вам папалі. Едом тавар купляць, да ваш тавар нам панравіўся, і мы хочам его купіць”. Яшчэ ідуць у сваты хросны і хросна маладога. Беруць з собою хлеб, замотваюць яго ў ручнік, беруць бутылку гарэлкі.

Сват налівае чарку гарэлкі і подае молодой, і яна павінна яе ўзяць. Гэтую чарку яна перадае бацьку. Бацько бярэ яе ці п’е, ці ставіць на стол. Гэтым дзяўчына выказвае сваю згоду выйсці замуж за хлопца, які прыйшоў да яе ў сваты.

Потым бацька дзяўчыны запрашае ўсіх сватоў за стол і прымаецца частаваць сватоў.

***Запісана ў в. Мілашавічы Лельчыцкага р-на ад Астаповіч Алены Мікалаеўны, 1940 г.н., студэнткай Лісіцкай А.***

Прышлі сваты, посваталі дзеўку. Ужэ запойны то робяць. Запойны то робяць як? Запілі, ужэ на ту нядзелю та будом свадзьбу робіцьмо і к венцу пой-

едом. У суботу ўвэчоры збіраюцца дай каровай рашчыняюць. Рашчыняюць, а которы прыяцялкі, та ходзяцьмо па сялу да збіраюць коснікі, да к венку прышываюць. Прышываюць ленты тыя дай коснікі к вянку попрышываюць, вянка то самі пошыюць, і гэто ўжо з вянком то тымо дай коснікамі ў нядзелю рано ейдзе молода вянчацца.

Прыедуцьмо додому, нівеста ўваходзіцьмо в хату, тай яе то свякров сустракаіць у кажуху вывернатам з булкай хлеба та іконай. Нівеста з жаніхом кланяюцца, абаі то нясуць ікону, свякрова садзіць за стол, а сваці то пяюць. Гарацьмо дзве свечкі над жаніхом і нівестай. Тады ей то прыносяць кашу, йна церпаець ту кашу да ложку кідаецьмо ў парог.

Поцьмо песні то пелі, дай всёгды былі грусны, то калі за нялюба шла дзеўка. А то ж усі пра клопаты булі, та пра жыццё іх, та маладых. А пасля той здзіваюць цвіты, садзяць то нявесту на дзежку, навязваюць ей то чапец дай палатном пакрываюцьмо, а жаніх то радом стаіць.

*Запісана ў в. Салагубаў Лельчыцкага р-на ад Бех Аляксандры Іванаўны, 1913 г.н., студэнткай Журавай Г.*

Там, адкуль мы прыехалі, быў очень хорошый абряд: запоіны, свадзьбы, а яшчэ радзіны і хрэсьбіны. Нявесту сперва запіваюць. Парень з дзевушкой дружаць, а потым, когда преждзе с ней жаніцца, радзіцелі ідут дагаварывацься.

Собірают от парня сваіх родственніков: маць, оцец, там крёстные і ідуць к дзевушке ў сваты. Сватаюць, дагаварваюцца, кагда свадзьба, там жа і запіваюць, і ў гэтае время палучаецца, што гэта як запоіны. Называецца – запілі дзевушку. Грае музыка, і ўже дзевушку вродзе как засваталі.

Через недзелі дзве гатоўляцца к свадзьбе. Уже свадзьба.

Свадзьба – гэта так: сперва дзевушкі ёлачку дзелают з сасны. Вырубаюць у лесе друзья, падружкі красівую такую маленькую ёлачку, пышную вырубаюць. Дзелаюць на яе самі цвяточкі, свечачкі цапляюць на кожную галінку. Свечачкі дзелалі самі з воску. Пяклі хлеб. І ёлачку тыкалі ў хлеб, каб стала хораша. І кагда ўжо начынаецца свадзьба, прыходзілі ўсе падружкі. Начынаецца сперва застолье ў дзевушкі, са стараны дзевушкі. І тут садзяцца ўсе за стол і пачынаюць ужо гасціць, піць водку і паздравляць нявесту. А пад ето ўрэмя там ужэ дзе парань, там тожа сабіраюцца і сперва, як ідці па дзевушку, яны тожа садзяцца за стол, вып'юць па чарцы, гасцяць і ўжэ ідуць ці едуць. Гэта кагда-та ездзілі на конях. У нас ужо хадзілі пяшка, дзярэўні блізка, там недалёка.

І вось ідуць яны к нявесце, заходзяць у хату і жаніх, і госці ўсе. А дзевушкі дзелалі спецыяльна для парня, для маладога, цвяток такой, такія розачкі красівыя, такі банцік. І етым свацціям на запоінах давалі бальшыя падаркі. Все былі даматканыя палаценцы. Атцу і мацеры, там і кроснай давалі ўжо мацерыялы на плацце, рубашку, а свату ўжэ там, мужчынам давалі палаценца, перавязвалі так во, накраст, красіво. І етыя ўсе сваці з гэтымі палаценцамі прыходзілі, і ўсе стаялі ўперадзе і вукуплялі ў дзевушэк гэтую ёлку. Плацілі дзеньгі. Когда молодыя хлопцы выкупяць гэтую ёлку, тогда молодыя дзевушкі выходзяць із-за стала, прашчаюцца з нявестай. За стол жаніха заводзіць маленькі мальчык за платочак, садзяць на кажух жаніха і нявесту, каб багатая сям'я была. Дзевушку заводзіць за стол маленькая дзевочка. Эта такой абряд.

Вот, садзяць ужэ за сталом, гасцяць, садзяцца і тыя госці, і з гэтай стараны, і обшчая ўжэ свадзьба. Гуляюць, танцуюць, п'юць.

Адгулялі. Нада нявесту ўжэ забіраць. Усе сабіраюцца блізкія родственніцы дзевушкі браць прыданае: палаценцэ, скацерць, падушка, адзеяло, простыня. Эта ўсё такое звязваюць у пакрывала. Яны, гэтыя родственніцы, называюцца пасцельніцы. Яны забіраюць нявесту, вядуць яе к жаніху, усю пасцель прасцілаюць на кравацъ. Аддаюць жаніху і нявесце і ікону. І тутака ўжо запілі і аддыхаюць, ложацца спаць.

## ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

На другі дзень, у васкрасенне, апяць жа сабіраюцца. Ідуць к жаніху яго прыглашоныя, а к нявесце – яе прыглашоныя, кожны ў сваю хату. Яны сабраліся, вупілі па чаркі, наражаюць жэншчыну ў мужское – брукі, шапку, маркоўку прывязваюць, гэта жаніх. А нявестай здаровага мужыка выбіраюць, наражаюць у нявесту, і гэтыя дзевушкі ідуць к жаніху ў отведы, глядзець, как пераначавала нявеста. Ці ніхто нічога з яе не здзелаў? Ідуць яе атведаць. А етыя ўжэ, ад жаніха, каля варот падгатовілі там загарадзі, жэрдкі панакладвалі, панабіралі вады ў вёдра, каб калі гэтыя прыйдуць, начнецца вайна. Тыя будуць наступаць, а гэтыя будуць кідаць у іх мусарам такім і вадой абліваюць, а ані прабіраюцца. І вот, кагда ўжэ гэтая барацьба пераборецца, заходзяць у хату гэтая нявеста і гэты жаніх, і тут ужо іх правяраюць, хто е хто. І вот яны там твораць, танцуюць, прыдумляюць. Эта такая свадзьба, вялікая, очань харошы абрад.

Забыла, кагда перад етым забіралі нявесту, сразу з этай стараны, ад нявесты, дзялілі каравай. У нявесты дзеляць каравай, ложаць, хто што можа: парасят, вулі з пчоламі, курэй і дараць з усякімі прыбавуткамі, з прыказкамі.

*Дару табе кош луку, штоб муж не падымаў на жонку руку.*
*Дару сноп жыта, каб жонка была не біта.*
*Дару кашэль лучыны, штоб не бегаў мужык да чужой жанчыны.*
*Дару вядро суніц, каб малады не хадзіў да чужых маладзіц.*
*Дару клубок нітак, каб не блытаўся возле чужых лытак.*
*Дару пакрывала, каб сын быў генералам.*
*Дару пук бярозы, штоб мужык прыходзіў да жонкі цвярозы.*
*Дару пучок цыбулі, штоб маладая маладому не давала дулі.*
*Дару грошы і галоўку капусты, штоб маладая не давала маладому распусты.*
*Дару грошы і зялёнага дуба, штоб маладая была ўсю жызнь люба.*
*Дару маладым пісталет, штоб маладыя пражылі сто лет.*

А вот к ім частушка:
*Ка мне сваты прыязжалі*
*На серай кабыле.*
*Усё прыданае забралі,*
*А мяне забылі.*

*Ка мне сваты прыязжалі*
*На сівай кабыле.*
*Мяне з прыданым забралі,*
*А мілага забылі.*

*Выхажу я на парог,*
*Два падкідыша ляжаць.*
*Аднаму сорак, а другому*
*Пад пяцьдзесят.*

То ўжо ў нявесты падзялілі каравай і гэтыя ўсе прыбаўткі сказалі. А гэта ўжо ў маладога каравай дзеляць. Там тожа такія ўсе харашуны, усе частушкі, усе прыбаўткі, усе дарэнні ад маладога радні.

Два каравая: у суботу ў маладое дарылі, а ў васкрасенне – у маладога. У маладога смотраць, што ў маладое дарылі, хто больш.

Там ужо ўмесце пагулялі яны, ужэ расходзяцца, і ім ужэ што-нібудзь ложаць у карзіну, як гасцям.

## ТРЭЦІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

На трэці дзень сабіраюцца самыя родныя, сабіраюцца на пасашок, і зноў гульня. Гармошка, песні, частушкі. Гэта было не наглядзецца на гэтую свадзьбу.

***Запісана ў г. Петрыкаў***
***ад Ліпскай Марыі Рыгораўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Ібарская Рудня Лельчыцкага р-на),***
***студэнткай Бельковец Т. (2002 г.)***

# Лоеўскі раён

Прыйшлі ў сваты. Сваты ўвайшлі ў хату, пашуцілі. Абычна бацька йшоў, хросная матка, хросны бацька, дзядзька родны. Бралі хлеб, гарэлку. Маладой нада разрэзаць хлеб. Пелі старыя: "Ці цёлачка прадаецца?" Мы кажам: "Вот мы заблудзіліся. Шлі, мо ў вас дзяўчына е такая. Пусціце пераначаваць". А тады спрашуем у маладой: "Ты сагласна выйсці за нашага парня?". Яна сагласіе даёт. Ложаць хлеб на стол, нож. Яна пераразае хлеб напалам. І эта ўжо яна высватана. З яе рукі, хто на свадзьбе будзе гуляць, іх завуць на "первую чарку". Патом сваты дагаваруюцца, када ўжо свадзьба. Дружкі былі. Маладая сваіх падружак бярэ, 4-5 дзяўчынак. А ён бярэ шаферэй такое калічэства, сколькі дружак. Тыя ўжо купляюць кветкі ў маладые. Дружкі ўжэ з шаферамі этымі кветкі прышываюць. Этыя ўжо выкупліваюць тыя кветкі. Садзяцца і едуць у цэркву. Вечар перад свадзьбай называўся заручыны. Каравай украшалі цвяточкамі. Первоначально гулялі ў маладой. У маладой каравай падзялілі. І дзеляць толькі каравай ад маладой рукі. Тамако ўжо хросны бацька ў аснаўном дзеліць каравай. Сначала маладым даюць. Просяць прыйці каравай прыняці і што-небудзь падараваць". На следуюшчы дзень ужо ў маладога гуляюць. Эта ўжо каравай дзеляць у маладога. Маладога ўжо дзеліцца каравай. На пасад маладую вядуць падружкі ў асноўным. Маладых садзілі на кажух, штоб багатымі былі. У царкве поп вянчаў іх, кольца адзяваў. Када маладыя едуць, у нас абычна дарогу вяроўкай перацягваюць. Яны ўжо зацапіліся. І тыя магарыч просяць.

Дзелаюць папялішча, када ўжо ў маладога адгулялі. Трэці дзень прыбіраюцца ў цыган. Праязджаюць па дварах: "Давай куру, а не куру, значыць, давай бутылку". І эта ўжо зносяць у адзін двор к маладой ці к маладому. Папялішча дзелаюць такое.

***Запісана ў в. Вулкан Лоеўскага р-на ад Пратасава Арсенція Дзмітрыевіча, 1932 г.н. (нарадзіўся ў в. Дубрава Лоеўскага р-на), студэнткамі Бакланавай А., Рабой С. (2005 г.)***

### СВАТЫ

У сваты ідуць бацька, маці, хросная маці, хросны бацька, яшчэ якія родныя. Бяруць з сабой хлеб-соль, бутылку, перавязаную чырвонай або розавай лентай з бантам. Заходзячы ў хату да маладой, сваты гаварылі: "Кажуць, у вас ёсць цялушка, а ў нас бычок. Ці не прадасце нам сваю цялушку?"

Бацькі нявесты адказваюць: "А наша цялушка бадлівая, брыклівая". Але сваты не здаюцца. Ставяць на стол хлеб-соль, гарэлку і гавораць: "А як згодна ваша цёлачка з намі, то няхай перарэжа хлеб". Нявеста, калі згодная, то перарэзае хлеб папалам. І тут пачынаюцца запоіны або заручыны.

### ЗАРУЧЫНЫ

На заручынах дамаўляюцца пра дзень вяселля. Маладая дорыць сватам падарункі. Калі на заручынах былі сяброўкі маладой, то яны спявалі сватам:

*Нашы свахі немы,*
*Дохлага каня з'елі.*
*Па палу качалі,*
*У попел мачалі.*

Вяселле пачыналася звычайна ў суботу. Маладую прыбіраюць. Дружкі пяюць песні:

*Дай плавала шчука-рыба*
*Па дну, па вадзе.*
*Дай клікала Манечка*
*К сабе татку.*
*– Прыйдзі, прыйдзі, татка,*
*Ка мне, к маладзе,*
*Да дай жа мне падарачак*
*Беднай сіраце.*
*Да казала дай Верачка,*
*Што замуж не пайду.*
*Пасеяла чарнабрыўцаў*
*Цэлую граду.*
*Вы расціце, чарнабрыўцы,*
*Не буяйце.*
*Вы не йдзіце, дзеўкі, замуж,*
*Пагуляйце.*
*Раслі, раслі чарнабрыўцы*
*Дай забуялі.*
*Ды пайшлі ўсе дзеўкі замуж,*
*Не гулялі.*

Маладую адзяваюць у спадніцу, вышываную кофту, на шыю адзяюць многа маністаў, валасы заплятаюць лентамі і на галаву адзяюць вянок з лентамі, чым іх болей, тым лепш.

Малады з дружкамі прыязджае да маладой. Дружок маладога выкупляе нявесту, а затым едуць ужо ў царкву вянчацца. Едучы з царквы да маладой, вяселле могуць колькі разоў астанавіць, каб узяць выкуп за праезд па дарозе.

Дома маладых сустракае бацька і маці, кормяць іх мёдам, каб соладка было жыць. Маладых садзілі на покуце на кажух, каб багатыя былі. На вяселле гатавалі боршч, аладкі, калі хто багацейшы, то каржы, картоплі, сыровадку і кашу.

Бацькі налівалі гарэлку, і пачыналася вяселле. Маладыя сядзяць на покуце: яны не ядзяць, не п'юць, не танцуюць, каб пасуда не білася.

## КАРАВАЙ

Калі пяклі каравай, то каравайніцы спявалі:

*Ляцелі гусачкі з-пад гаю,*
*А пыталіся ў нас караваю:*
*– Ці ўжо каравай замясілі?*
*Мы б вам каравай замясілі*
*Сваімі дзюбкамі вострымі,*
*Сваімі лапкамі быстрымі.*

*На мора ў красачкі зляталі,*
*Мы б вам каравай убралі,*
*Каб вам каравай ясен быў,*
*Каб вам каравай весел быў.*

*Каравайнічкі, пачынайнічкі,*
*Ды не стойце ў запечку,*
*Выйдзіце на хатачку,*
*Пачніце вяселейка, вяселейка вясёлае.*
*Дзевачкі – у песенькі,*
*Музычкі – у скрыпачкі,*
*А мамачка – у мысенькі.*

Грае вясёлая музыка. Усе танцуюць. Калі каравай вымаюць з печы, вяртаюцца маладыя з царквы. Іх сустракаюць бацькі. Маці кажа: "Благаслаўляю і сустракаю вас, дзеткі, жытам, бытам, доўгім векам, добрым здароўем, каб доўга жылі, мяне не забылі, адно адно шанавалі, што маю, тым сустракаю і на быт, і на век доўгі".

Пры гэтых словах маці тры разы абыходзіць маладых і пасыпае іх жытам, кветкамі. Потым трымае хлеб, а маладыя п'юць па чарцы гарэлкі, пасля закусваюць хлебам-соллю. У гэты час бацькі і госці глядзяць, якія будуць маладыя: пражорлівыя ці не. Хто з іх хлеба болей адкусіць.

Пасля прывітання маці запрашае ўсіх у хату. Маладыя садзяцца побач на кажух, каб жылі па душы і былі заўсёды радам. Сват і сваха запрашаюць за стол гасцей. Госці садзяцца за стол. Сват кіруе вяселлем:

– Налівайце чаркі поўныя да вып'ем за нашых маладых!

Адзін з гасцей гаворыць: «Давайце вып'ем настойкі горкай!", каб усе закрычалі "горка!"

Усе госці выпіваюць і крычаць: "Горка!" Усе госці частуюцца, ідзе вясельная размова. У гэты час сваха звяртаецца да гасцей: "Госці, чаму вы прыціхлі? Заспявайце што-небудзь вясёлае!" Госці спяваюць песні, частушкі, танцуюць.

У самы разгар вяселля ад дому нявесты раздаецца страшэнны грукат. Гэта галоўны сват, хросны бацька нявесты хапае качаргу ці ўхват, барабаніць ім па сценах і моцным голасам заклікае: "На ўспамаганне!" Гэта значыць, што пара "дарыць" маладых. Усе спяшаюць ў хату, але сват не супакойваецца і працягвае крычаць:

*Хто не падарыць,*
*У таго воўк свінню задавіць.*
*Калі няма чым дарыць,*
*Я буду хату валіць.*

У хату ўносяць каравай, ставяць на стол. У маладой каравай дзеляць хросныя бацька і маці або хто другі з радні. Але толькі, каб яны былі не ўдаўцы і не разведзеныя, прыносяць да маладых каравай і даюць ім яго рэзаць. Хросны пачынае дзяліць каравай: "Благаславі, айцец і маць, вашага дзіцяці каравай раздаць". У адказ чуе: "Бог благаславіць". І так тры разы. А потым ужо вызывае дзеда з бабай, бацьку з маткай і потым усіх астатніх словамі: "У нашай маладой ёсць дзед і баба, просім прыняць каравай і маладым што-небудзь падараваць". Хто бярэ каравай, той жадае маладым: "Даю рубель, каб купіў карабель. А к вясне і сына-марака", "Сыплю вам сто рублёў, каб былі дзеці, як мядзведзі" і г.д.

Потым каравай замочваюць, а маладую ў гэты час замотваюць. Косы расплятаюць і кідаюць ленты. Калі ленты схопіць дружка, то нявеста будзе шчаслівая, а калі дружок, то мужык будзе біцца. Косы расплялі і раскладваюць іх вакол галавы, адзяюць хустку, і маладым на галаву ложаць века з дзяжы і харашэнька цісkануць, каб дружна жылі.

Маладая сабірае свой пасаг. Дружкі лічаць, колькі ў яе набожнікаў: калі іх да пары, то маладыя будуць жыць у пары.

Вечарам маладая ідзе да хаты маладога.

На другі дзень каравай дзеляць у маладога. Госці спяваюць песні, танцуюць.

На трэці дзень "на галаўні" жараць пятухі, куры.

***Запісана ў в. Бывалькі Лоеўскага р-на ад Сідарэнка Ганны Дзмітрыеўны, 1936 г.н., студэнткай Тарашковай А. (2004 г.)***

## СВАТЫ

Свадзьбу спраўлялі пасля пакопвання картошкі. Нельзя было спраўляць у пасты. У выхадныя дні ехалі сваты да дзеўкі (абычна гэта былі бацька і брат, ці хросны). Яны са сваёй гарэлкай уваходзілі ў хату і прасілі ў старых бацькоў рукі дзеўкі, бацькі садзілі сватоў за стол і расказвалі пра дзеўку, а патом звалі дзеўку, дарылі ёй падаркі, а яна, калі сагласна, то тожа дарыць ім падаркі, а не сагласна – выносіла гарбуз. У гэты вечар на-

значалі дату свадзьбы, гаварылі аб прыглашонных, гулялі, спявалі песні.

### ДЗЕВІШНІК

Перад свадзьбай дзеўкі збіраліся ў пятніцу на дзявішнік. Там даўжны быць адны дзеўкі, яны спявалі песні, гаварылі, успаміналі врэмя, што былі ўмесце.

Перад свадзьбай пеклі каравай. Пеклі замужнія жанчыны, бо пражылі ўжо ў сям'і, не пеклі, што разышліся са сваім чалавекам.

Вянок нявесце рабілі дзеўкі з цвяточкаў. Раней не было, як шчас, і вянок быў з жывых цвятоў ці з лентачак.

Перад тым, як ехаць у ЗАГС, малады даваў выкуп за дзеўку. Шукаў яе. Хавалі маладую незамужнія дзеўкі, ім давалі выкуп.

Пасля ЗАГСа маладых устрачалі радзіцелі, толькі якія адзін раз жаніліся і не расходзіліся, бо такая судзьба будзе ў маладых. Раней машын не було і, калі жаніліся, ездзілі на конях, нявеста не даўжна з жаніхом сыйці на голую зямлю, зямлю пакрываюць чым-небудзь. Маладыя ішлі да парога, там стаялі радзіцелі з хлебам-соллю, хто больш адкусіць хлеба, той і будзе хазяінам у доме.

Маладая даўжна разбіць тарэлку, а патом пер態 растуніць з мужам чэраз асколкі, каб не было между імі ссор, а патом пераступаюць парог: хто первый пераступіць, той і хазяін у доме. Яшчэ давалі чаркі з гарэлкай, маладыя выпівалі і разбівалі чаркі. Абсыпалі зярном маладых, каб былі багатымі і здаровымі.

Патом начыналісь гулянкі, спявалі песні, танцавалі госці.

За сталом маладых садзілі на вывернуты кажух, што азначала багацтва, а ў чаркі клалі манеты, якія патом хранілі пад скацеркай, каб быў дастатак у доме.

Калі дзеляць каравай, выходзяць перавязаныя рушнікамі сваты з гарэлкай і караваем. Сначала падхадзілі самыя родныя, клалі грошы на каравай, жалалі што-небудзь, выпівалі гарэлку і бралі каравай, толькі не голай рукой, нявеста падаркі давала.

Як маладыя ехалі да мужа, нявесце адзявалі платок на галаву, бо яна стала замужняй, і яна брала свае падушкі, адзеялы і ехала да свякрові. Везлі маладую хросныя. Там свякроў і свёкар устрачалі маладых. Нявеста, уваходзячы первы раз у дом свякрові, становіцца на парог і спрыгвае з яго, каб яе любілі ў этым доме. Тут тожа садзяцца за стол, п'юць гарэлку. А патом маладыя ідуць спаць. Раней маладых клалі на аржаныя снапы, іх не даўжно быць, каб дзяліліся папалам, тады ні маладыя, ні іх дзеці не будуць ні ў чом нуждацца, а шчас такое не дзелаюць, а шчас хаця б клалі падушкі, штоб разрэзы навалочак былі павернуты адна да адной, каб маладыя неругаліся.

### АБРАД "КУРЫ"

На трэці дзень было прыгатаванне "курэй". На ўсёй дзярэўні ў тых людзей, што булі на свадзьбе, збіраюць курэй і гуляюць. А нявеста ў новым доме аставалася нядзелю ў свёкраў: падмятала пол, мыла пасуду, памагала хазяйке.

Чэраз нядзелю вязуць нявестку дадому і зноў гуляюць.

***Запісана ў в. Дзімамеркі Лоеўскага р-на ад Булацкай Марыі Дзмітрыеўны, 1936 г.н., студэнткай Шэўчык Н. (2002 г.)***

### ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

*З гары, з гары, з даліны*
*Беглі конікі чатыры,*
*Везлі карэту сінюю,*
*Звенчалі Манечку сілаю,*
*Звенчалі яе за грошы,*
*Штоб быў Іванечка харошы.*

*Расступіцеся, варагі,*
*Не пераходзьце дарогі,*
*Няхай перайдзе радзіна,*
*Каб была дарожачка шчасліва,*
*Шчаслівa дарожачка, шчаслівa,*
*Каралямі цэркаўку масціла,*
*А чырвонцамі набівала,*
*Свайму Іванечку прысягала.*

* * *

*Пусці, сваточку, у хатачку,*
*Мы ў тваёй хатачцы век не бывалі,*
*Мы тваёй гарэлачкі век не півалі,*
*Хваліліся, што багатыя,*
*Аж яны скупаватыя,*
*Самі пяшком ішлі,*
*Маладога ў мяшку вязлі,*
*Сабакі гірчалі,*
*Ногі стырчалі.*

***Запісана ў в. Дзяражычы Лоеўскага р-на ад Шкаляр М.А., 1922 г.н.***

Сваты, як шо скажуць, то і добра. Цяпер так сваты і калісь сваты. Дзе дзеўка харошая, так тую забяруць і без сватоў, а дзе плашэйшая, так от тых хоць і сваты…

Сразу высватают дзеўку. Прыедзе маладой з бацькам, з маткай і хросный, і хросная, ну, і яшчэ там родныя. Проста так заходзілі: "Мы к вам, вашу дзевачку хочам".

Прыносілі з сабой хлеб і гарэлку. Дак раней жа такога не было: сагласна, не сагласна. Сілай аддаюць. Ну, а тады ўжо садзяцца за стол. От, эта ж і ёсць і сваты, і заручыны. А тады ўжо вяселле.

Малады прыязджае к маладой і забірае маладую. І дружкі маладой. Адзета, ну, адзета: юбка, кохта, плацце. І ўжэ тады маладую прывязуць. Яна тады набожнікі вешае, не маладая, а яе дружкі – падружкі. Вешаюць ужэ набожнікі на іконы там, на вокны.

Ну, маладая ж ў касе ходзіць, а ўжэ як эта, дык дзевачка расплятае малая, 5-6 лет.

Садзілі маладога з маладой на кажух.

Пеклі каравай. Каравай жэ – эта як свадзьба, тады ўжо каравай раздаюць, сват разносіць. Ходзяць ужэ з падносам, на ім каравай ляжыць, а там на падносе бутылка, стакан. Ён к кожнаму падходзіць. Наразаюць, ён выпівае, бярэ каравай, там дзеньгі ложаць, падаркі: мацерыял ці што яшчэ.

Каравай пеклі радзіцелі. От, вярхушку, наверна, аддавалі маладым.

Свадзьба длілась дня тры. Ідуць сразу к маладой. Малады прыязджае са сваімі дружкамі к маладой. Там госці, а тады ўжо адпразнуюць, і тады малады вядзе маладую к сабе, і тады ўжо – у маладога. А касу расплятаюць у дзявоцкай хаце. А бабы, дружкі выкупляюць. Каней украшалі, абсыпалі зернем, як толькі павянчаліс. Прыязджаюць радзіцелі з іконай, хлебам-соллю страчаюць, штоб багатыя былі, абсыпалі жытам.

*Запісана ў г. Лоеў*
*ад Шынкарэнка Марыі Прохараўны, 1921 г.н.,*
*(нарадзілася ў в. Дзяражычы Лоеўскага р-на),*
*студэнткамі Бяляевай В., Агеевай Ю. (2005 г.)*

Парынь із дзевушкай дружыць, ну а патом ужэ дагаваруяцца і прыходзяць у сваты.

Жаніх ужэ сваю радню бярэ: дзядзькі, еслі маладыя, браты жанатыя. Тры чалавекі, два, чатыры – колькі ў сіле. Ну, і ідуць жа к нявесці. Ідуць увечары, так паложана, дзе-та часоў у двянаццаць. Там ужэ дагаваруяцца.

Заходзяць у хату, паздароваюцца. Патом кажуць:

– Можа прадаеце што вы: карову ілі авечку.

Патом ужэ пагавораць, дагаворацца. Ета к маладой прыходзяць сваты. І тады ўжэ завуць хросных і маладога, і маладой. Прыходзяць тыя, моляцца Богу. Тады ідуць ужэ і адну дружку первую завуць, падругу і парня. Ідуць і к радзіцелям жаніха, у той самы вечар ці ноч. Выпілі, закусілі. Ну, па етым ужэ ўсё. Пашлі дадому.

Патом, чэраз сколькі дней, эта ўжэ па дастатках, калі падгатуяцца – заручыны. На заручыны ў маладой толькі гуляяць. Ну, ужэ вячэру вараць. І еслі ў каторай німа падгатоўленага полоценца, вышываных набожнікаў, то дзеўкі кружава мялі, вышывалі – памагалі нявесці. Песні пелі.

Патом сабіраюцца ні толькі дружкі, а ўся маладзёж сабіраіцца і шахвяра. А тады ўжэ дагаваруяцца, калі вянчацца ехаць. А радзіцялі не ўчаствуяць у етым. Заручыны – ета толькі маладзёж. Дагаваруяцца ў цэркві з бацюшкам, калі ехаць вянчацца.

Вот у той назначаны дзень сабіраюцца там падводамі: і дзве, і пяць, і тры, і восім, ета ўжэ па дастатку. У еты дзень, як едуць к вянцу, то дзеўкі прыходзяць і заплятаяць косу, прыбіраяць маладую. У касу плялі ленты, на галаву адзявалі вянок і хвату. Як касу плялі, ніякіх песень не пелі, маўчалі. Ну, вот жаніх едзе к нявесце с шахвярамі і с падводамі. Яны заварачуяцца каля двара, выходзіць жаніх, і там ужэ радзіцелі нявесты благаслаўляяць, і яны ўжэ едуць у цэркву. А як ад хаты ад'яжжалі, дык зярном абсыпалі, штоб жылі багата, добра.

У нас нявесту не выкупалі. А сватам перавязуяць платкамі рукі, такі абычай.

Павянчаліс і едуць ужэ к жаніху. Маладых сустракае бацька і матка. Бацька з іконай, а матка з хлебам. Прыехалі дружкі – адна маладзёж толькі гуляе. Паабедалі і ідуць ужэ к маладой. Ета як цямнецца начынае. Сват ужэ – "каронны", гаворацъ, едзе с падводай дамоў. Там маладой ужэ расплятаюць косу, ад жаніха як прышлі. Тожа ўжэ садзяцца за стол: дружкі, шахвяра і ўжэ штук тры жэншчыны. А брат маладой, як е, а калі німа, дык так каго просяць, расплятае косу. Расплятае косу і магарыч спраўляе. Трохі папляце, а тады кажа: "Сват, сват, рукі памерзлі!" Ну, еты ўжэ налівае. Расплялі косу. Тады бабы начынаюць замотуваць косу. Ну, і чапец надзяюць. Ета ўжэ "прыданкі" называюцца, тыя, што дзеўцы косы зачэшуць у чапец. І яны тады лён паляць на куце. Патом сыпяць па людзях жыта і гавораць:

Сыплю жыта відно, штоб усім завідна.
Кідаю жыта ўночы, засыпаю ўрагом вочы.

Так тры разы яны сказалі. Ну, а дзевачкі етыя ўжэ пяюць:

*А мы што захочым,*
*Тое і запрочым.*
*Завядом за лозу,*
*Заплятом косу.*

Дзеўкам-шахвяркам тожа магарыч за тое, што кветку прышываюць шахвяру перваму, што вянец дзяржаў, калі касу расплятали. І сватам прышываюць. Гавораць:

*Мы кветачку шылі,*
*Іголачку зламалі.*
*Нада сватам знаці,*
*Што за іголку даці.*

А патом жа не даюць, таргуюцца, дык гавораць:

*Нашы сваты хваліліся,*
*Што багатыя,*
*А яны скупаватыя.*
*Самі пяшком ішлі,*
*Жаніха ў мяшку няслі,*
*Ногі тырчалі – сабакі гірчалі.*

Ну, там ужэ капейку даюць, ну, і магарыч ставяці.

Калі ўжэ кончыўся еты абрад, дзеўкі і парні – ўсе выходзяць. Садзяцца ўжэ “прыданкі”, сваты і вячэра ўжэ паследняя ў нявесты. Павячэралі, сабіраяць маладой пасцелю, набожнікі – прыданае, звязваюць. Маладая ўжэ адкланяецца радзіцелям, цалуюцца, паплачаці, усяго бывае. Адкланілася маладая. Маладому даюць ікону, маладой – хлеб. Едуць ужэ к маладому. У маладога ўжэ пасцелю сцелюці. Малады дае бацьку ікону, штоб павесіў, а свякруха ўжэ бярэ хлеб. Прыданкі ўжэ заходзяць, усё вешаюць, прыбіраюць. Павячэралі, пашлі маладыя аддыхаць.

Назаўтра брат маладой нясе ёй есць, снеданне. У той дзень ужэ ідзе свадзьба. Пякуць каравай. Караваі пякуць два. Пякуць тыя жэншчыны, што замужам і што харошыя хазяйкі. У еты дзень малады едзе по цешчу, прывозіць цешчу. Каравай ўжэ спечаны. На караваі шышкі с цеста, ета як хто сумее выдзелаць. Ну, ужэ радня маладой і маладога сабіраіцца. Сабіраяцца, садзяцца за стол, выпіваюць. Маладыя не садзяцца, яны так, дзе прытуляцца, там і сядзяць.

А далей дзеляць каравай. Уходзіць сват, говорыць:

*Благаславі, айцец і маці,*
*Сваім дзецям каравай раздаваці.*

Тры разы так гавораць. Тады зразае верх і малады з маладой ядуць верх. І даюць у платочак дружкам, штоб скора замуж ішлі. А так жа маладых німа, толькі ўзрослыя. За каравай даюць падарак, гавораць маладому:

*Маладому даю каробку шпонак,*
*Штоб не любіў чужых жонак.*
*Пасталы і анучы,штоб жылі ўкучы.*

Ну, раздалі тут ужэ каравай, тады едуць к маладой. Там гуляяць. Зноў гуляяць толькі старыя, узрослыя людзі. Маладзёха первы дзень пагуляла і большы не гуляе.

Там тожа пачынаяць другі каравай, і ўжэ гавораць маладой:

*Дару каробку буракоў,*
*Штоб не любіла чужых мужыкоў.*

Патом ужэ ідуць на бяседу. Ідуць к хроснаму ілі к хроснай, у каго ўжэ памяшчэніе дазволіць. І там ужэ гуляюць. Эта ўжэ так: ілі прыглосяць маладых ілі не. Як хочаць. На етым ужо і вяселле кончылась.

А на пасад саджаюць, як і к вянцу ідуць, і як ад вянца, і ў маткі ўжэ, як паследняя вячэра. Садзілі на лаву на кут. Падсцілалі кажух, штоб добра жылі.

Штоб не сурочылі (не зглазілі) маладых, дык нявесце затыкалі ў плацце іголку. А то шчэ хросная так дзелала: як вянчацца ехаць, дык яна палку возьме паміж ног і кругом машыны аббягіць тры разы. А што яна гаворыць, я не знаю.

***Запісана ў в. Казярогі Лоеўскага р-на ад Карась Ксеніі Іванаўны, 1922 г.н., студэнткамі Елавой Т., Таргоняй А.***

**ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ**

*Каля майго церама,* 2 р.
*Каля майго новага,*
*Бітая дарожачка,*
*Таптаная сцежачка.*
*Туды ішлі малайцы*
*У гусенькі йграць.* 2 р.
*Як зачула дзевіца,*
*Як зачула красная,*
*У цераме седзячы,*
*Кашулечку шыючы.*
*Прасілася дзевіца*
*А ў роднай маманькі:*
*– Пусці мяне, маманька,*
*Пусці мяне, родная,*
*З церамка на ганачак,*
*Гуселек паслухаці,* 2 р.
*Песенак наўчыцца.*

**А ЧЫЙ ГЭТА ГОЛАС?**

*А чый гэта голас*
*Раздаецца ў полі?*
*То мая падруга*
*Расстаецца з Колем.*
*Праважала яго*
*Па чыстаму полю,*
*Гаварыла яму*
*Патайныя рэчы.*
*– Куды, мілы, едзеш,*
*Куды ад’язджаеш?*
*На каго, мой мілы,*
*Мяне пакідаеш?*

*– Пакідаю цябе*
*На людзей, на Бога,*
*Нас на свеце многа –*
*Выбірай другога.*
*– Выбіраці буду,*
*Ды любіць не буду,*
*Пра цябе, мой мілы,*
*Вавек не забуду.*

**ОЙ, ЧАГО Я СОХНУ**

*Ой, чаго я сохну,*
*Ой, чаго я вяну,*
*Прыйдзе вечарочак –*
*На каго я гляну?* 2 р.
*Гляну на калечка,*
*Забаліць сардэчка,*
*Гляну на другое –*
*Забаліць, заное.* 2 р.
*Дзесь паехаў міленькі*
*Ў Крым на вайну,*
*А мяне пакінуў*
*Гараваць адну.*
*Ой, вярніся, міленькі,*
*Не трывож мяне,*
*Успомні, што тут сохнут,*
*Вянут па табе.*

**СТУКНУЛА, ГРУКНУЛА НА ДВАРЭ**

*Стукнула, грукнула на дварэ,*
*– Ой, паглядзі, маманька,*
*Ці не па мяне?*
*– Па цябе, дачушка, па цябе,*
*– Схавай мяне, маманька,*
*За сябе!*
*– Не буду, дачушка, хаваці,*
*Трэба цябе сёлета аддаці.*
*Та-ра-ра калёсачкі, та-ра-ра,*
*Ой, павезлі Леначку са двара.*

***Запісана ў в. Каменка Лоеўскага р-на ад Кавалёвай Алены Палікарпаўны, Астапавай Алены Мікалаеўны, студэнткай Літвінавай А. (1992 г.)***

Суджанага мужа свайго маладая не ведала. Прыходзяць сваты ў хату з хлебам, з соллю, сядаюць за стол і дамаўляюцца пра свадзьбу.

Едуць у царкву вянчацца і распісвацца.

Спачатку свадзьба ў маладой. Дзеляць каравай. Вечарам вязуць к мужу з прыданым. Завіваюць маладую:

*Завівае мяне дзядніца,*
*Чорная, да як чарніца,*
*Слёзачкі не ўраніла,*
*Штоб яе пераламіла.*

*Да як заржалі сівыя коні ў полі,*
*Да кінулася свайму татачку ў ногі,*
*Да не аддай мяне ў чужы край,*
*Чужыя людзі судлівыя,*
*Дай асудзяць маю гаворачку, маю паходачку.*

*Дай не журыся, дзіця маё,*
*Будзем па воду ісці, будуць людзі стаяць,*
*Ты да іх дайдзі, ціхенька ўкланісь.*
*Ой, чыё ж то дзіця па воду пайшло,*
*Што такое дзіця ды прыветлівае.*

Калі сірата, спявалі:

*Станавісь, радзіначка, уся ў рад,*
*Вядуць сіраціначку на пасад.*
*Да кругом радзіначкі яна абыйшла,*
*Сваёй мамачкі не знайшла.*
*А ўжо ж мая галовачка ўся ў цвеце,*
*А мая мамачка на том свеце.*

На каравай дружкі пяюць:

*У бару сасна крывая,*
*Старшая свацця сляпая.*

У адказ свацця:

*Брашыце, дружкі, брашыце,*
*На кол языкі цяшыце.*
*А нашы сваты скупыя,*
*Самі йішлі, жаніха ў мяшку няслі.*
*Ногі тырчалі, сабакі брахалі.*

*Нашай свацілкі кофта з брыжамі,*
*На ёй кароста струпамі,*
*На ёй сарочка сестрына,*
*Выганяйце яе з-за стала.*

*А мы, дружачкі, да іх не майцеся,*
*Караваямі памяняйцеся.*

**ПАЖАДАННІ**

Дарую сарочку, штоб радзілі дочку.

Дару замок, штоб на другі год быў сынок.

Дарую маладым медзь, штоб малады быў, як мядзведзь, а маладой серабро, штоб было ёй жыць з маладым дабро, штоб хлеб-соль малі і радню шанавалі.

***Запісана ў в. Карпаўка Лоеўскага р-на ад Карнаушанка Хрысціны Анісімаўны, 1904 г.н., студэнткай Мяньковай С. (1995 г.)***

**СВАТАННЕ**

Бацькі жаніха рыхтуюцца: маці пячэ пірог, бацька дагаворваецца з хросным. У назначаны дзень яны з хлебам, соллю ідуць к нявесце. Увайшоўшы ў хату, сваты пяюць: “Мы прыйшлі купляць цялушку маладзенькую да прыгажэнькую, да працавітую. Казалі, прадаеце такую”.

Калі бацькі нявесты згодны, то запрашаюць сватоў за стол, а калі не згодны, то гавораць, што ніякай цялушкі мы не прадаём, адкуль прыйшлі, туда і ідзіце або пытайце ў другім двары.

Потым, калі згодны, то гавораць аб жаніцьбе дзяцей. Сваты кладуць на стол хлеб-соль або пірог, выпіваюць з бацькамі нявесты па першай чарцы.

### ЗАРУЧЫНЫ

Прыходзяць маладыя, блізкія. Пякуць пірагі з двух бакоў: бацькі жаніха і нявесты. Садзяцца за стол і пяюць песню:

*Што ў агародзе капуста кілаватая,*
*Што першая сваха галаватая, ня ўмее рабіць,*
*З людзьмі гаманіць.*
*Толькі знае спаць ды людзей абсуждаць...*

Сваха гаворыць свасе: “Давай, свашачка, не ламайся, на пірагі памяняймася. Пірагі нашы пячоныя, нашы дзеткі заручоныя”.

Потым весяляцца, пяюць песні, танцуюць.

Гатовяцца да свадзьбы. Прыходзяць малады з дружкамі і з бацькамі выкупляць маладую. Доўга таргуюцца, пака ўсе грошы з карманаў не павысыпаюць за маладую.

После выкупа бацькі бяруць маладых і паводзяць іх кругом стала ў хаце (маладыя бяруцца за рукі і бацька іх таксама).

### ВЯНЧАННЕ

Потым сабіраюцца ехаць к вянцу ў царкву. Маладая бярэ ікону з дома і ўсе едуць у царкву. Ад маладой едзе сваха, бярэ кусок палатна і дзве свечкі. Гэта палатно сцеле ім пад ногі, называюць іх падножнікі. На гэта палатно становяцца маладыя, праходзіць вянчанне, бацюшка бярэ сваім фартухом за рукі маладых і водзіць іх вакол іконы. Маладыя цягнуць палатно за сабою, а сваха ідзе следам і рассцілае яго зноў пад ногі. Палатно цягаюць, каб усе дзеўкі пайшлі замуж.

### СУСТРЭЧА МАЛАДЫХ

Пасля вянчання едуць дамоў. На варотах не пускаюць маладых у двор, ставяць стол, угашчаюць выпіўкай. На парозе стаяць бацька і матка з іконай у руках. Маладыя кланяюцца ім і цалуюць ікону. Ідуць у хату за стол, садзяцца на скамейку, засланую кажухом. Ставяць у стакан свечкі, прынесеныя з цэрквы, а таксама веткі каліны. Пяюць дружкі песню:

*Годзі каліне, годзі маліне*
*У цёмным лесе стаяці.*
*Годзі, дзевачкі, годзі Манечкі*
*У сваёй маці гуляці.*
*А ўжо ж каліну, а ўжо ж маліну*
*Салаўі паклявалі.*
*А ўжо ж дзевачку, а ўжо ж Манечку*
*Суседзі абгаварылі.*
*Ой, не так яе, ой, суседачкі,*
*Як падружанькі.*
*Умесці былі, мёд пілі,*
*Да й шчэ й абгаварылі.*

Пасля вяселля нявесце расплятаюць касу браты. Трошкі расплятуць і крычаць, што замлелі рукі, дайце замачыць. Расплеценыя ленты вешаюць на вакно на шторкі. Каля маладых сядзіць свяцілка. Свахі пяюць:

*Свяцілка-шпылька пры сцяне,*
*На ёй сарочка не яе.*
*На ёй сарочка свякрына,*
*Нада выгнаць яе з-за стала.*

Дзядзьна маладога завівае маладой валасы. Яна бярэ века (крышка з хлебнай дзежкі) і на яго ставіць два полустаканчыкі з водкай. Гэтай водкай яна мочыць галаву і пяе:

*Ой, што мы хацелі,*
*То мы і зрабілі.*
*З хлеба паляніцу,*
*З дзеўкі маладзіцу.*

Маладую забіраюць к маладому.

***Запісана ў в. Карпаўка Лоеўскага р-на***
***ад Зязюлі Наталлі Пятроўны, 1949 г.н.,***
***студэнткай Нікіценка Н. (1993 г.)***

### СВАТАННЕ

Ідуць у сваты да маладой бацька, матка, хросная і сваты. Калі прыходзяць, пяюць песню:

*Сваха свасе пакарылася,*
*Нізенька ў ногі пакланілася,*
*Штоб з маего дзіцяці не глумілася.*

Сваты прыходзяць з бутылкай, абвязанай краснай лентай, хлебам, соллю і з сенам, таргуюць “цёлку”, прыходзяць із сваім “бычком”.

### ЗАРУЧЫНЫ

Завуць ужо болей людзей: усіх братоў, сясцёр... На заручыны перавязваюць ручнікамі сватоў. Сваты пяюць:

*Кукавала зязюлечка ў саду на памосце,*
*Прыехалі да дзевачкі 3 казакі ў госці.*
*Адзін ідзе – каня вядзе,*
*Другі сядло вяжа,*
*Трэці стаіць пад акошкам,*
*“Добры вечар”, – кажа.*
*– Добры вечар, маць-старушка,*

*Дай вады напіцца,*
*На тваю дачушку трохі падзівіцца.*
*– Ты ідзі, напіся,*
*Сядзіць дочка на кравацi,*
*Ідзі, падзівіся.*

Хлопцы запрагалі тройку коней, украшалі дугу, вешая калаколы, каб звінелі. Страчалі з хлебам і соллю. Потым маладых сажалі назад. На первы воз бралі лучшых дружак, княжога, свяцілку. На другім возе таксама ехалі дружкі, а трэцім возе – сваты, старэйшыя. Нельзя, штоб людзі пераходзілі дарогу. Калі едуць вянчацца, маўчаць усе, а ад вянца – пяюць:

*Выйдзі, мамачка, з свячамі,*
*Мы тваіх дзяцей звянчалі,*
*Вянчалі недарам, за грошы,*
*Штоб быў малады (імя) харошы.*

Едуць з вянца к жаніху, у яго частуюцца, пагуляюць нямнога, а потым вязуць маладую дамой, саджаюць за стол, на кажух, каб былі багатыя. Патом прышываюць кветку княжому і пяюць:

*Мы кветачку шылі, іголку зламалі,*
*Трэба свату знаць, што за іголку даць.*

Сват налівае па румачцы дружкам, трохі каўтануць, а трохі ў стол выльюць. Патом маладой расплятаюць косу, замотваюць, надзяюць чапец і пяюць:

*Што жа мы хацелі,*
*Тое мы зрабілі:*
*З цеста паляніцу,*
*З дзеўкі маладзіцу.*

Надзелі чапец і абапнулі платок. Гуляюць, весяляцца. Пад вечар застаецца толькі радня, яны з маткай пачынаюць збіраць маладую, яе багацце: пасцель, вышываныя ручнікі, полкі тканыя, радны і пры гэтым пелі:

*Давай, мамка, павячэраем,*
*Павячэраўшы, падзелімся.*
*Табе, мамка, тарэлкі, міскі,*
*А мне, мамка, падушкі-пярынкі.*
*Табе, мамка, бердзечка,*
*А мне, мамка, палаценечка.*

Грузяць усё гэта і вязуць к маладому. Патом вешаюць ручнікі і сцеляць пасцель, пры гэтым снімаюць свякрушыны ручнікі і пяюць:

*Пяньковыя ізнімайцеся,*
*Шаўковыя адзявайцеся,*
*Пяньковыя навіселіся,*
*Шаўковыя наляжаліся.*

**ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ**

Назаўтра пачынаецца вяселле ў маладога. Прывозяць цешчу і скрыню з падаркамі. Раздаюць падаркі і дзеляць каравай. На пачатак кажуць сваты: "Благаславі, ацец, маці, сваім дзецям каравай раздаці". Яму атвечаюць: "Бог благаславіт". Ён кажа другі раз і ў трэці раз. І ўсе кажуць: "Бог благаславіт". І пачынаюць дзяліць каравай, жадаючы шчасця. Пяюць вясельныя песні:

*Нашы сваты хваліліся, што багатыя,*
*Аж яны скупаватыя,*
*Самі пяшком ішлі,*
*Жаніха ў мяшку няслі,*
*А ногі тырчалі, сабакі гірчалі.*
*У нашага свата някрытая хата,*
*У сенцах бярозы, усе людзі цвярозы.*
*Вяселейка Бог даў,*
*Ажаніў статуй, торбу ўзяў.*

**ТРЭЦІ ДЗЕНЬ. АБРАД "ГАЛОЎНІ"**

Збіраюць курэй у тых людзей, хто ўдзельнічаў у вяселлі. Увечары ўсе збіраюцца і вяселле працягваецца.

Некаторыя людзі задзелываюцца пагана: жэншчына ў мужчыну, мужчына ў жэншчыну, прыходзяць летам на коньках, зімой – босыя, каб было смешна.

***Запісана ў в. Каўпень Лоеўскага р-на***
***ад Анікеенка Кацярыны Пятроўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Анікеенка А. (1998 г.)***

У нас усягда дагаваруваліся, што прыдуць у сваты. У сваты хадзілі хросны з хроснай і родственнікі маладога. Прыходзяць і кажуць: "Добры вечар! Мы чулі, што ў вас цёлка прадаецца?" Ну, а тыя казалі: "Да! Можам прадаць! Заходзьце ў хату". Ну, а патом, калі зайшлі, садзяцца ўсе за стол. Тады нявеста дорыць усім падаркі. Усягда дарылі ручнікі, вышытыя нявестаю. У еты ж дзень дагаварваюцца пра дзень свадзьбы.

У нас, еслі вянчаліся ў цэркві, то бралі шахвіра і шахвірку. Шахвірка дзяржыць вянок над маладою, а шахвір – над маладым. Калі бацюшка водзіць маладых кругом вянца, дак маладая цягне правай нагой палаценца па палу, штоб уцягваць сваіх падружак замуж.

Прыехалі ат вянца. Садзяць маладую і маладога на кут і ложаць пад іх кажуха. Ля іх садзяцца дружкі (хлопцы), а дзеўкі-дружкі становяцца на лаўку, бяруць у дружкоў шапкі і прышываюць к ім цвяты. У ета ўрэмя сват стаіць ля стала і дзеўкі пяюць:

*Выкупляй, сваток, шапаньку,*
*Калі не будзеш выкупляць,*
*Дык будзеш столлю выціраць,*
*Ветрам столлю-сталяну*

*За (імя) маладу.*

Сват даваў ім капейкі, а яны прадаўжалі гаварыць:

*– Хваліўся наш сват, што багат,*
*Што ў яго грошай повен мех,*
*А кінуў нам капеечку, як на смех.*

Сват у тарэлку далей кідае грошы. І так даляй спяваюць усякія песні.

Сначала ўсе гуляюць свадзьбу ў маладой, і там дзеляць каравай. Каравай пеклі хросныя, каб толькі жанчына была не ўдава. Каравай рэзалі сваты. Первыя кускі каравая давалі маладым, тады родственнікам і гасцям. Калі дарылі падаркі, казалі:

*Дорым зялёнага дуба, штоб жылі люба.*
*Дорым пасталы і анучы, штоб жылі ўсё жыццё ў кучы.*
*Дорым штаны і сарочку, штоб радзілі сына і дочку.*

Пасля, як падзеляць каравай, пагуляюць трохі і начынаюць завіваць маладую. Маладая адна сядзіць на куце, яе становяцца завіваць дзве жанчыны. Знімаюць з галавы вянок, расплятаюць косу і адзяюць хустку. Надзелі хустку, а тады спяваюць:

*Як жа мы хацелі,*
*Так жа мы зрабілі:*
*З хлеба – паляніцу,*
*З дзеўкі – маладзіцу.*

А жэншчыны стаяць збоку і пяюць:

*Як жа мы захочам,*
*Так жа мы і зробім,*
*Павядом за лозу,*
*Дай заплятом косу.*

Тады пела маці маладой:

*Устану паранесеньку,*
*А шчарбіна ў хаце,*
*Няма ўжэ майго дзіцяці.*

На втары дзень прадаўжаюць гуляць у маладога.

На трэці дзень перадзяваліся ў цыганскае і ішлі па хатах збіраць курэй у людзей. Ета называлася “на куры”. Гулянка начыналася звечара. Жанчына перадзявалася ў маладога, а мужчына – у маладую, едуць к цёшчы і кажуць: “Прымі сваю дачку. Я не буду з ёй жыць”. А цёшча кажа: “Я сваю дачку забяру назад у любы дзень, як табе не нравіцца”. Ну, а тады яшчэ смяяліся, шуцілі і ўходзілі. Дзесь да поўначы гулялі яшчэ ў жаніха і расходзіліся. І на етым у нас свадзьба канчалася.

***Запісана ў в. Катловіца Брагінскага р-на ад Максімчык Алены Уладзіміраўны, 1932 г.н. (перасяленка з в. Крупейкі Лоеўскага р-на), студэнткай Максімчык А.***

Хадзілі ў сваты. Адзяюць маладую. Калі прыязджаюць сваты, хавалі, каб не бачылі маладую. Дзеўку маладую дзяўчаты закрывалі, а хлопцы павінны ўжо даваць выкуп: гарэлку, канфеткі давалі. Тады ўжо маладую выкупяць, а тады ўжо глядзі, каб тухфель не ўкралі. А як украдуць тухфель, тады ўжо шафер должэн выкупляць. У цэркву ехалі на конях. Маладая едзе ўперадзе на конях, а тады – малады. А калі ўжо павянчаліся, то ўжо ехалі на адным каню. Тады каталіся па дзярэўні. Вярба стаяла пасярэдзіне, дык паездзілі вакруг вярбы. Як прыехалі, то злазілі маладыя, а бацька і матка ідуць сустракаць маладых, з іконай, тарэлкай, хлебам, соллю. Паздраўляюць, штоб добра жылі, і грошы вадзіліся. Тры чаркі выпівалі, а трэцюю разбівалі. А хіба тры вып’еш, выльеш за плечы. Гулялі тры дні. Дзень – у маладой, тады – у маладога, а тады ўжо курэй ездзіш збіраеш. Вось колькі было гасцей, столькі бралі і курэй. Цаплялі на палку, украшалі, лентачку вешалі. Называлася “куры”.

***Запісана ў в. Ліпнякі Лоеўскага р-на ад Каўтуновай Юліі Іванаўны, 1932 г.н., студэнткамі Бялько І., Захаравай А. (2005 г.)***

**БАЛАДА**
***(выконвалі на вяселлі)***

*Ажаніла маці маладога сына,*
*Маладу нявесту ана не ўзлюбіла.*
*Выпраўляла маці ў поле лёну брацi,*
*Не ўбярэш лёну, не ідзі дадому,*
*Ана брала, ана брала,*
*Трохі не дабрала*
*І ў чыстым полі таполяю стала.*
*Вот праходзіць годзік і другой канчае,*
*На парозе сына маці ўстрачае.*
*– Ой, маці, ты маці, што й гэта за навіна,*
*Што ў нашым полі стаіць таполіна?*
*– Не пытайся, сынку, пра гэту навінку,*
*Бяры тапарочак, срубай тапалінку.*
*Рубануў адзін раз – ана пашатнулась,*
*Рубануў другі раз – ана загаварыла:*
*– Не рубі ты, Яська, я – твая Паліна,*
*Развярні лісточкі, там твая дзяціна.*
*– Ой, маці, ты, маці, што ж ты нарабіла,*
*А мы так кахалі, а ты пагубіла.*

***Запісана ў в. Ліпнякі Лоеўскага р-на ад Лявоненка Феафаніі Трафімаўны, 1917 г.н., студэнткамі Навумчык Т., Бандзюк А., Швед В., Клімашэўскай Т. (2002 г.)***

У першы дзень, помню, песні добрыя пелі, прыгожа, а ў другі дзень – ужо абы як. Каравай, канешне, быў. Прыказваюць там ужо хто таку прыказку, хто таку прыказку. Інцерэсна было. Ужо жалаюць, жалаюць. У нас во адзін мужык быў, ужо памер, дык смяяліся ўсе з яго, такі шутлівы быў, дык ён ужо жалаў:

– Калі будзеце ругацца між сабой там, дык накрываёцеся падушкамі з адзеялам, каб мухі не слыхалі, бо будуць сплетні расходзіцца па ўсёй дзярэўне. Там, хто хоча, гаварыў. Хто інцярэсна што прыкажа. І песні паюць, а я ўжо старая стала, і гэта не памятаю. Маладую выкупалі. Юнакі з дзеўкамі ідуць ужо да нявесты ў хату. У нас жа малады жыве на адной, а нявеста – на другой вуліцы. Сватам крычаць:

*Пусці, пусці, сваце, у хату,*
*Тут нас небагата.*
*Чацвёра ды пяцёра, ды ўсе дзевяцёра.*
*Пусці хаця ручкі пагрэці,*
*Маладу паглядзеці.*

Ды ўсё гавораць, а іх ужо ў хату пусцяць, нявесту нешта схаваюць. І просяць, каб плацілі. Малады ўжо знае, што дзеньгі нада плаціць. А дружкі ўсе: “Ой, мала, мала! Нада больша”.

Малады ўжо бутылку ставіць і гаворыць: “Дык хваціць вам ужо. І дзенег далі, і бутылку паставілі, а вы ўсё просіце яшчэ”. Ну, гэта ж шутка. Всегда-всегда шуцілі ж мы. Калі ехалі па дарозе, таксама песні пелі, дрэнна, што не помню іх ужо. “Ворагі, ворагі, не пераходзьце дарогі, няхай пярэйдзе…, каб было ўсё шчасліва”, – гэтак гаварылі, калі ўжо за маладой ехалі.

Калі яшчэ каравай дзялілі, шуцілі, калі хто не прыйшоў: “Дзядзькі, цёткі, дзе вы? Ці вы па грыбы пайшлі?”

Калі цёшча прыязжае, нібы з голай дарогі, дык ужо зяць купляе тухлі, плацце. На ўліцы ўжо гармошка грала, танцуюць усе, а яе адзяюць. Ужо прынясуць тухлі тыя, адзяюць. Яшчэ, каб зяць прыйшоў, цёшча на печку лезе, чакае, а потым гаворыць:

*– Прынясі мне чобаты на печку,*
*Прынясі за дачку…*
Гэта, каб яна ўжо дачку аддала.
*За ўсе хлопаты*
*Нарабілі плоха вы мне.*
*А зяць мне чобаты даў,*
*А потым дачку маю ўзяў.*

Ужо адзяюць тую цёшчу – плацце новае, тухлі новыя. Ужо яна танцуе так. На ўліцы ўжо танцавалі, бо добра так было. Гармошка грала, пад гармошку танцавалі. Цёшча яшчэ прыбядннялася, каб падаркі палучыць: “Няма ва што ўжо абуцца мне”. Шуцілі так. А зяць: “Я ж табе купіў – ідзі, адзявайся, будзем гуляць, піць, танцаваць”.

***Запісана ў в. Ліпнякі Лоеўскага р-на***
***ад Агалец Тамары Карпаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Чарновай Л.***

**ЗАРУЧЫНЫ**

Прыходзілі ў сваты бацька і маці, жаніх, хлопцы-шаферы. Маладая звала дзевак-шаферак. Калі сваты заходзілі ў хату, яны гаварылі: “Добры вечар вам! Ці ёсць у вас цёлачка? Мы свайго бычка к вашай цёлачцы прывялі”. Калі дзяўчына была сагласна, яна выносіла сватам хлеб-соль. Сватоў садзілі на першы стол, у кут, а маладых за апошні стол, у парозе. Дамаўляліся на заручынах аб вяселлі, аб пасаду, пелі песні:

*Як пойдзем на заручыны,*
*А там дзверы закручаны,*
*Пакуль дзверы адкруцілі,*
*А ўжо (імя дзяўчыны) заручылі.*

У суботу пеклі каравай. Пекла каравай матка.

**ВЯСЕЛЬНАЯ ЧАСТКА**

Пачыналі гуляць вяселле ў нядзелю. Жаніх прыязджае за нявестай разам з шаферамі і прывозіць бутылку, перавязаную лентай. Нявесту хавалі ў пярэднюю хату, а жаніх разам з первым шаферам выкупваў яе. Потым жаніх забіраў нявесту і ехаў у цэркаў. Пасля вянчання маладыя едуць да маладой. Там іх сустракаюць бацька і маць з іконай, хлебам-соллю. Яны перавязваюць маладым рукі палаценцам. Маладой даюць хлеб, маладому ікону. Потым маладых садзяць за стол на перавернуты кажух. Гуляюць, танцуюць, спяваюць песні:

*Каціласся ігрушачка із-за гор’я,*
*Прасцілася Манечка із застолля:*
*– Пусці, пусці, Ванечка, пагуляці,*
*У сенечках на дзверачках пастаяці.*

*Ой, не жаласлівы судар-бацюшка*
*На мяне, на мяне.*
*Аддае ён мяне, маладзенькую,*
*Ад сябе, ад сябе.*
*А каму ж я свае цвяты алыя*
*Прыкажу, прыкажу?*
*Прыкажу ж я свае цвяты алыя*
*Маменьке, маменьке.*
*– Уставай жа, мая родна маменька,*
*Раненька, раненька,*
*Палівай жа мае цвяты алыя*
*Часценька, часценька*

*Слязою, слязою.*

*На каго ж ты, Манечка, паўнавала,*
*Ой, якога ты сабе негадзяя спадабала.*
*Ці ты будзеш у полачцы спавіваці?*
*Ці ты будзеш у люлечцы калыхаці?*
*У полачцы спавіваці – полкі падзярэ,*
*У люльцы калыхаці – вожачкі парве.*
*Ой, дзевачкі-галубачкі, куда ж вы ідзеце,*
*Чаму ж мае Манечкі ўслед не вядзеце?*
*Хадзем, хадзем, Манечка, услед за намі,*
*Саўём табе два вяночкі, усе з цвятамі.*
*Ой, дзевачкі-галубачкі, зачым мне вянок?*
*Ёсць у мяне Ванечка, ясны сакалок.*

У канцы вечара дзялілі каравай. Выходзілі сваты і гаварылі: “Ці ёсць у нашых маладых ацец і маць, благаславіце каравай раздаць”. Бацька і матка атвячаюць: “Бог благаславіць”. І так тры разы. Выходзілі ўсе і дарылі падарункі, і віншавалі:

Дарую маладым грошы, каб малады быў харошы.
Дарую маладым грошы, штоб купілі гектар жыта.
А вы, маладыя, хочаце жніце, хочаце не жніце,
А ў бабы мяне вазьміце.

Дарую маладой каробачку жучкоў, каб маладая не любіла чужых мужычкоў.

Калі маладым нада было ад’язджаць, маці маладога знімала з маладой вянок і павязвала на галаву хустку. У доме маладога маладых сустракаюць бацька і маці з іконай. Маладыя кланяліся ім. Начавалі маладыя ў клецях. Другі дзень гулялі ў маладога. Тожа каравай дзялілі.

### АБРАД “ПАПЯЛІШЧА”

На трэці дзень, зраніцы, госці перадзяваліся і хадзілі па дварах, сабіралі курэй. А вечарам сабіраліся ўжэ ў госці. Таксама пераадзяваліся. У канцы вечара на жываце бацькі маладога білі гаршчок з попелам, што сімвалізавала канец вясelля.

У другое васкрасенне пасля вяселля прыязджалі маладыя к бацькам маладой і прыглашалі на гулянне. Гулялі ў бацькоў маладога.

***Запісана ў в. Ліпнякі Лоеўскага р-на***
***ад Драмач Ірыны Яфрэмаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Рагачовай Т. (2004 г.)***

### СВАТЫ

Вяселле гулялі ў нас цікава. Спачатку ішлі ў сваты. У сваты ішлі ў суботу вечарам, каб ніхто не ведаў, бо было б саромна, калі дзеўка адмовіць. Зайшоўшы ў хату, сваты здаровалiся з гаспадарамі і гаварылі: “Ці не прадаецца ў вас цялушка?” Ім адказвалі: “Ёсць у нас цялушка, ёсць і дзяўчушка”. Сваты: “А ў нас хлопец ёсць. Ці не пажаніць нам іх?”

Гаварылі ці так, ці хто як умеў. Потым ставілі бутылку на стол і ежу і дамаўляліся, калі гуляць вяселле.

А нявеста не паказвалася. А калі бацькі ўжо дагаварыліся, то толькі тады выводзілі маладуху паказаць. І песню спявалі:

*Ніхто нічога не ведаў,*
*Куды Міцечка наш паехаў.*
*Стукнула, грукнула на дварэ,*
*– Выйдзі, мамачка, паглядзі, ці не па мяне?*
*– Па цябе, дочачка, па цябе,*
*– Гатуй, мамачка, кубел мне.*
*– Едзь, мая донька, без кубла,*
*Ты маёй кудзелькі не скубла.*
*– А я скубла, скубла шчэ й хацела,*
*А за такога негадзяя замуж не хацела.*

А калі бацькі не хацелі выдаваць дзеўку замуж, то выкочвалі сватам пад ногі гарбузу.

Потым праз некалькі дзён, калі яшчэ не перадумалі гуляць вяселле, збіраюцца ўсе тыя, хто будуць гуляць вяселле з боку маладой, на магарычы. Там прысутнічаюць і сваты. Вып’юць людзі, паядзяць, Богу памолюцца і расходзяцца. А бацькі маладых на магарычах ужо канчаткова дамаўляюцца аб вяселлі.

Потым ужо гулялі вяселле. Звянчаюцца ў царкве маладыя, прыедуць, бацька з маці маладых благаслаўяць. Абавязкова бацькі дарацъ маладым ікону і даюць чаркі з гарэлкай, якую трэба выпіць, а чаркі разбіць. Калі чарка не разаб’ецца, то дрэнна будуць жыць. Разбіваць чарку трэба не пад ногі, гэта значыць – шчасце пад ногі, а праз плячо.

Потым усе садзяцца за стол. Маладых садзяць у куце на шубу, каб багатыя былі. А людзі гуляюць, песні пяюць, танцуюць.

*Ой, каму ж я свае цвяты алыя прыкажу?*
*Прыкажу ж я свае цвяты алыя роднай мамцы,*
*Палівай жа мае цвяты алыя раненька,*
*Шчэ й утранняй і вячэрняй зарою,*
*Шчэ й утранняй і вячэрняй слязою.*

Гарманіста на вяселлі вельмі паважалі: садзілі на добрую падушку, частавалі самым смачным, што было на стале.

### ДЗЯЛЬБА КАРАВАЯ

Калі дзялілі каравай, то сярэдзіну давалі маладым, каб іх жыццё было такім жа мяккім.

Перад тым, як пачаць дзяліць каравай, сваты пытаюцца дазволу ў бацькоў: “Ацец і маць, разрашыце каравай раздаць”.

Пасля дазволу сваты пачынаюць вызываць гасцей на каравай:

– Дзе б вы ні былі, а к нам на каравай прыбылі і што-небудзь падаравалі.

Госці ў адказ дарылі нешта і пры гэтым гаварылі:

*Дару вам грошаў, каб былі харошы.*
*Дару вам медзі, каб былі дзеці, як мядзведзі.*
*Дару каробачку жаб, каб малады не любіў чужых баб, а маладой павучкоў, каб не любіла чужых мужычкоў.*
*Сколькі ў полі кочак, столькі вам і дочак.*
*Сколькі ў лесе пянькоў, столькі вам і сынкоў.*

Пасля караваю яшчэ трохі пагуляюць і збіраюцца ехаць да маладога.

*Выйдзі, мамачка, з свячамі,*
*Ужо ж тваю дачку звянчалі.*
*Выйдзі, мамачка, паглядзі,*
*Каго ад цябе павязлі.*

Дружкі маладой развітваюцца з ёй, жадаюць шчасця і вельмі шмат спяваюць:

*Заграбай, мамка, жар,*
*Будзе табе доньki жаль.*

Прыехаўшы к маладому, брат маладой расплятае ёй касу і закручвае гулю. Разам з маладой прывозяць і сундук з дабром. Усё, што ёсць у ім, развешваюць, раскладваюць. Усе людзі з вёскі прыходзяць і глядзяць, якая маладая.

### ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

На другі дзень вяселля гуляюць ужо ў маладога. Усё так гуляюць, як і ў першы дзень, толькі маладая за сталом сядзіць ужо ў хустцы. Але ўсё роўна весела.

*Насадзілі чарнабрыўцаў цэлую граду.*
*Вы расціце, чарнабрыўцы, не буяйце,*
*Вы не ідзіце, дзеўкі, замуж, шчэ й пагуляйце.*

### ТРЭЦІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

Трэці дзень вяселля называецца “збіраць курэй”.

Нехта з гасцей пераапраналіся ў маладых, хадзілі па вёсцы, спявалі песні, хвалілі маладых, жадалі ўсім шчасця і багацця.

Абавязкова гэтыя маладыя павінны былі зайсці ў хату к тым, хто гуляў вяселле, і запрасіць іх на вячэру. Гаспадары хаты абавязкова абяцалі прыйсці і давалі куру ці пеўня.

Назбіраўшы добрых курэй, маладыя ішлі да маладога і аддавалі курэй.

Вечарам госці ішлі на вячэру, дзе было шмат ежы з курацiны. Але госці ішлі не з пустымі рукамі, а кожны прыносіў ці бутэльку, ці нешта з ежы. Потым садзіліся за стол, шмат спявалі, жартавалі. У гэты дзень каравай ужо не дзялілі.

Бацька маладога стараўся не паказвацца ў хаце. Аднак яго ўсё роўна нехта з гасцей лавіў і прывадзіў у хату. У хаце бацьку маладога клалі на стол і ў яго на жываце разбівалі гаршчок з сажай, каб шчасце і багацце заўсёды было ў хаце маладых.

Было так, што бацьку і маці маладога прымушалі выконваць ролю маладых, але вельмі-вельмі рэдка.

У гэты дзень ужо доўга не гулялі.

***Запісана ў в. Ліпнякі Лоеўскага р-на***
***ад Цукаравай Феафаніі Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Цукаравай С. (1996 г.)***

### ВЯСЕЛЬНАЯ ПЕСНЯ
### ЗБОРНАЯ СУБОТА

*Ці я цябе, татачка, не дзяціна,*
*Што ты мяне проціў ночкі да шлеш прочкі.*
*А дай жа мне, татачка, праваднічку,*
*А якога праваднічку – салавейку.*
*Салавейка – ранняя пташка будзе шчабятаць,*
*Будзе мяне, маладую, рана пабуждаць,*
*Бо свякруха – чужая маці, не пабудзіць,*
*А як выйдзе за вароты, дак абсудзіць.*
*– Санлівае, драмлівае чужое дзіця,*
*На работу лянівая нявеста мая.*

*Сядзь ба, мамка, павячэраем,*
*Павячэраўшы – падзелімся.*
*Табе, мамка, пасталы і аборы,*
*А мне кладзі ўсякія прыборы.*
*Табе, мамка, ніт і бердзечка,*
*А мне, мамка, палаценечка.*

***Запісана ў в. Ліпнякі Лоеўскага р-на***
***ад Такарэнка Лідзіі Антонаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Волкавай А. (1992 г.)***

*На дабранач, на дабранач,*
*Мая мамка,*
*Ой, на дабранач.*
*На дабранач, на дабранач,*
*Дай не нанач,*
*Ой, на ўвесь век,*
*Дай на ўвесь век.*
*Ліш бы быў да Іванька*
*Ой, добры чалавек.*

### ЯК ЕДУЦЬ ДА МАЛАДОГА

*Заграбай, маці, жар, жар,*
*Заграбай, маці, жар, жар,*
*Тваю донечку жаль.*
*Заграбай, маці, попел,*
*Заграбай, маці, попел,*
*Тваю дочаньку ухопяць.*

***Запісана ў в. Ліпнякі Лоеўскага р-на***
***ад Качалавай Алены Міхайлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Волкавай А. (1992 г.)***

Калі ішлі ў сваты да маладой, то прама так не гаварылі аб прычыне свайго прыходу. Гаварылі заблытанымі словамі, а ўжо родныя маладой павінны былі дагадацца. Гаварылі тыпу:

– Наш галубочак пацяраў сваю галубку ды не можа знайсці. Вось прыйшлі да вас, можа ў вас найдзем.

– У нас ёсць красны малодчык. А ў вас, людзі казалі, ёсць красна маладзіца. Мы прыйшлі да вас свайго маладца паказаць, на вашу маладзіцу паглядзець.

А радзіцелькі могуць пачаць гаварыць, што ета не ў іх маладзіца красна, а ў суседзяў. А іхняя маладзіца не ўрадзілася, і яна будзе сцясняцца людзям паказацца. Але сваты настойваюць, і бацькі запрашают іх да стала.

У сваты ў нас ішлі жаніх, яго матка, бацька, хросны і хросная. Ето, як дзе. У некаторых местах ў сваты ішлі і друзья маладога альбо яго сёстры і брацця. Калі бацькі пагаворадь з сватамі, яны завуць маладую. Маладая дорыць сватоў ручнікамі і перавязвае іх гэтымі ручнікамі. Калі дзеўка не згодна, то яна можа выйсці ў кажуху навыварат. Сваты абавязкова прыносілі бутылку, перавязаную краснай лентай. Красная лента, як красная дзеўка. У нас песні не спявалі.

Напярэдадні вяселля да маладой прыходзяць яе падружкі. Яны спяваюць песні і нараджаюць маладую. Яе садзяць на вывернуты кажух або падушку і заплятаюць касу. Потым маладая ходзіць з сяброўкамі па дварах і запрашае ўсіх, каго захоча, на вяселле. І ўжо тады ўсе выбягаюць і глядзяць на маладую. Потым ідуць у дом маладой, распранаюць яе і тожэ спяваюць песні.

Ужо ў дзень свадзьбы жаніх з дружкамі едуць за маладой. Перад дзвярмі стаяць хросная з дзеўкамі і не пускаюць жаніха з дружкамі ў хату. Тады жаніх пачынае выкупаць маладую. А хросная таргуецца з ім. Жаніх плоціць ёй грошы, а дзеўкі выводзяць яму маладую. Але гэта ненастаяшчая маладая, а яе сяброўка. Тады малады кажа, што гэта не яго нявеста. Тады яму выводзяць другую дзеўку. І так пакуль жаніху не вывядуць настаяшчую нявесту. Потым маладыя едуць у сельсавет. Гэта раней так, а зараз – у ЗАГС. А ў нас у сельсавеце загадвалі нявесце складваць мужчынскую рубашку, а жаніху – запелінаць ляльку.

Пасля сельсавета ўсе едуць да маладой. Дома іх сустракае маці з хлебам і соллю. Маладыя кусаюць гэты хлеб. І хто больш укусе, той і будзе галавою сям'і. Гэта і зараз так ёсць. Маладых садзяць на покуце на вывернуты кажух, каб у іх быў у сям'і дастатак, каб добра жылі.

Потым прыносяць каравай, і нявеста дае па куску ўсім родзічам – сваім і жаніховым. Усе пачынаюць дарыць маладых. Маладую могуць у гэты час схаваць. А жаніх ходзіць і шукае яе. Калі не знойдзе, то павінен зноў выкупляць. Таксама ў маладой могуць украсць туфель, а жаніх павінен і яго выкупляць. Увесь час на вяселлі спяваюць песні тыпу:

*Ой, хацела мяне маці*
*Ды за першага аддаці,*
*А той первы да няверны,*
*Ой, не аддай мяне, маці!*

Калі маладыя пачынаюць збірацца ехаць да жаніха, маладая можа пачаць плакаць, як бы па сваёй дзявочай жызні. Бацькі нявесты кладуць у воз жаніха прыданае сваёй дачкі. Маці бярэ ікону і благаслаўляе ею маладых. Калі яны ідуць да воза, то іх можа маці абсыпаць свячоным макам з грошамі, каб багата жылі.

Калі маладыя прыязджаюць да жаніха, на пароге іх сустракаюць бацькі жаніха, таксама з хлебам і соллю. Маладая дарыць іх падарункамі. І ўжо тут п'юць і гуляюць да вечара. Пяюць песні розныя.

А ўвечары маці жаніха падходзе к нявесце, снімае з яе фату, расплятае ёй касу і надзявае на яе платок. І з гэтага часу нявеста без платка не ходзіць і з касой тожэ, бо яна ўжо жанчына.

Свадзьбу гуляюць два дні. А трэці дзень называюць "куры". Усе збіраюцца ў хаце, дзе гулялі вяселле. Звычайна збіраецца моладзь. Яны выбіраюць сабе нявесту (ненастаяшчую), апранаюць яе. Могуць выбраць і хлопца на месца нявесты. Выбіраюць і жаніха. Усе астатнія наражаюцца хто цыганамі, хто кім. І выходзяць на вуліцу вёскі. Яны ходзяць па ўліцэ і ловяць курэй. Але на ето ніхто не абіжаецца, бо знаюць гэты звычай. Гэтых курэй б'юць, шчыпаюць і вараць. І таксама п'юць і гуляюць да вечара. А маладыя тут ужо не як маладыя, а як госці.

***Запісана ў в. Малінаўка Лоеўскага р-на***
***ад Літвінавай Ніны Сяргееўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Матонінай Ю.***

**СВАТЫ**

Гуляюць дзеўка з хлопцам год ці два. Тады ўжэ ідуць у сваты. Хадзілі ўвечары пасля заходу сонца. Прыходзілі сват, сваха, жаніх, радзіцелі. Ну, гаварылі тады так: "Прыйшлі сватаць вашу дзеўку". Дагаворваліся нашчот свадзьбы, як дзеўка і радзіцелі былі сагласны. А калі не, то гарбузу вараную давалі сватам. А то ішчэ было

такое, што каб выгнаць сватоў, дзеўка брала дзяркач і падмятаць начынала хату.

Калі дзеўка згодна была, то гарэлку налівалі сватам, выпівалі.

**ЗАРУЧЫНЫ**

Пасля сватоў ладзілі заручыны. Прыязжалі зноў сваты і жаніх. Тады ўжэ стол накрывалі. Усякія стравы ставілі і гарэлку. Садзіліся за стол усе. Кальцо жаніх у еты раз не прыносіў з сабой. Ета было ўжэ калі вянчаліся. Падаркаў ніякіх тожа не дарылі.

На заручынах дагаварываліся ўжэ аб свадзьбе. Рашалі, хто што будзе гатовіць. Колькі гасцей зваць.

**ЗБОРНАЯ СУБОТА**

Ужэ ў паследні дзень перад свадзьбай, у суботу, да хаты дзеўкі збіраліся падругі яе, а да хаты хлопца – друзья. Падругі рабілі разам з нявестай кветачкі з бумагі ці з мацерыі, хто багацейшы быў. Раней жа ездзілі пад вянец на конях, дык убіралі воз, каня лентамі і кветачкамі. Прымервалі нявесце плацце ў той дзень. Жаніх у паследні дзень са сваімі хлопцамі ладзілі вазы, коней чысцілі.

А пад вечар ужэ жаніх ехаў да нявесты. У хаце дзеўкі іх саджалі на кут. Пад абразамі слалі кажух уверх шэрсцю, каб пазней муж і жонка багатыя былі.

Нявесце падругі яе расчосвалі косы, падсмальвалі трохі і тады запляталі ў касу.

Калі жаніх прыехаў ужэ дадому, то бацька браў яго і вёў у хату. Там абводзіў тры разы вакол стала. Послі етага жаніх цалаваўся з радзіцелямі. Чаго абводзілі не знаю, так трэба было.

Перад вянцом вакол стала абводзілі ўжэ і жаніха, і нявесту разам.

**КАРАВАЙ**

Каравай пяклі з двух бакоў: і з боку маладога, і з боку маладой. Пеклі абычна маткі. А калі ў тых не палучалася добра, то ішчэ прыводзілі тых маладзіц, якія добра пеклі. Звалі з тых сямей, дзе добра жылі, каб каравай атрымаўся добры. Саджалі еты каравай у печ на кляновыя лісты. А калі ён быў ужэ спечаны, даставалі так, каб не паламаўся, бо то жызня маладых паламаецца. Было, што і печ разбіралі, калі той быў вельмі вялікі і не пралазіў.

**ВЯНЧАННЕ**

Послі заручын была і свадзьба. Праз тыдзень ездзілі пад вянец. Нявеста брала з сабой чатырох дружак, а жаніх двух шафераў. Калі ўжэ бацюшка вянчаў, то дружка дзяржыць вянец над галавой нявесты, а шафер – над галавой жаніха. Кольцамі абменьваліся калі вянчаліся. Падчас вянчання малады з маладой дзяржалі ў руках свечкі запаленыя. Вельмі баяліся, каб етыя свечкі не патухлі. Калі агонь патушыцца, то той, у каго патухла, доўга жыць не будзе і скора памрэ.

Як жаніх з нявестай ехалі ад вянца, то ім людзі дарогу перагароджвалі. Патрэбна было даць етым людзям выкуп. Давалі грошы, канфеткі, гарэлку налівалі. Калі нявеста ад’язджала да вянца, то яна галасіла па матцы і бацьку.

Пасля вянца прыехалі к жаніху. На парозе іх устрачалі матка і бацька жаніха. Матка выходзіла з тарэлкай, якая была пакрыта рушніком. На тарэлцы етай ужэ стаіць хлеб і вада. Бацька нёс ікону. Маладыя злазілі з ваза, цалавалі матку і бацьку. Тады ішлі ў хату. Нявеста, як прыязжала к маладому і первы раз пасля вянчання ішла ў хату, астанаўлівалась на парозі і сама сабе гаварыла: “Ваша хата, ваша печ, маё слова, мая рэч”. Рабіла яна ета ўціхую ад усіх, каб ніхто не чуў.

Як павянчаліся, свадзьбу ўжэ гулялі. Первыя два дні ў жаніха гулялі, а трэці ўжэ ў хаце нявесты.

**ДЗЯЛЬБА КАРАВАЯ**

Каравай дзялілі маладыя. Жаніхоў каравай быў для родзічаў яго, а нявесцін – для яе радні. Пры дзяльбе караваю госці дарылі маладым падаркі, грошы клалі. А тады маладыналіваў гарэлку, а маладая клала каравай. У еты час гаварылі і пажаланні маладым:

Дару палена, каб жаніх пацалаваў нявесці калена.

Дару нявесці галлю бярозы, каб муж усягда прыходзіў дадому цвярозы.

Дару вам грошы, каб дзеткі вашы былі харошы.

А тады ўжэ гулялі з рання да вечара. Елі, пілі гарэлку, песні пелі. Хвалілі ў песнях жаніха і нявесту.

На трэці дзень гулялі ў доме нявесты. А тады ўжэ забіралі нявесту і везлі да дому жаніха. У жаніховай хаце і жылі. За сталом усялякія песні пелі, хвалілі маладога з маладой, радзіцеляў іхніх.

*Ужэ на дварэ змяркае,*
*А Іванка Ганначку піхае,*
*А Іванка Ганначку піхае:*
*Едзьма ж, Ганначка, дахаты,*
*Да не заязджайма да ні к каму.*
*Да не заязджайма да ні к каму,*
*Ні к майму роду, ні да твайго.*
*Ні к майму роду, ні к твайму,*
*Толькі заедзьма каднаму.*
*Толькі заедзьма к аднаму,*
*К майму ж бацьку роднаму.*
*К майму бацьку роднаму,*

*Там у яго хата прыбрана,*
*Там у яго хата прыбрана,*
*Там у яго пасцелька заслана,*
*Там у яго пасцелька заслана.*
*Прыбрала хату залавіца.*
*Прыбрала хату залавіца,*
*Заслала пасцельку сястрыца.*

Етую песню пелі, калі ўжэ вечар быў, перад тым, як маладыя спаць ішлі.

І такую пелі за сталом, ета ўжэ калі з вянца прыехалі.

*Дзякуй, дзякуй, мая мамачка,*
*На твой род.*
*Чаго мяне не падзяржала*
*Ішчэ год,*
*Чаго мяне не падзяржала*
*Ішчэ год?*
*Ой, хай ба я русу косачку*
*Часала,*
*Ох, хай ба я русу косачку*
*Часала,*
*Няхай ба я ішчэ з гадок*
*Гуляла.*

На заручынах пелі такую песню:

*Прапіў бацька дочку*
*На салодкім мядочку,*
*Ай, на белай тарэлцы,*
*Ай, на белай тарэлцы,*
*Ай, на горкай гарэлцы.*
*Ай, напіўшыся, скача,*
*Ай, напіўшыся, скача,*
*А праспаўшыся, плача,*
*А праспаўшыся, плача:*
*Куды ж маё дзіцятачка пашло?*
*А ці ў лес па ягады,*
*А ці ў лес па ягады?*
*Ай, ці ў калодзеж па вадзіцу?*
*Свашачка, свашачка,*
*Мая ты мамачка,*
*Глядзі ж маё дзіцятачка.*
*Як засваталі ды заручылі,*
*Казалі кароў многа.*
*Як пайшлі даіць –*
*Адзін бык стаіць,*
*Ды й той дрыжыць.*

***Запісана ў в. Мохаў Лоеўскага р-на ад Анікеенка Марыі Маркаўны, 1913 г.н., студэнткай Зыбко В. (2003 г.)***

Замуж нам можна было толькі ў васемнаццаць гадоў, але ж я выйшла ў пятнаццаць без ведама бацькоў. Збіралі ў каго-небудзь дома дзевак, падружак, рабілі застолле, выпівалі, прыходзілі хлопцы і як бы выбіралі сабе дзеўку, якая panравіцца. І так хадзілі некалькі нядзель, пасля чаго хлопец прыходзіў к дзеўцы і яе бацькам і казаў: “Буду браць вашу дачку”. На чацвёртай нядзелі роспісь, устраівалі гулянні, бацькі абгаварвалі дзяцей. Пасля роспісі вянчаліся. Казалі: “Да крэсту – у воду, дзеўкі – у моду”.

Запальвалі свечкі: калі аднаразова патухнуць, то ўмесце доўга будуць. Пажаданні на вяселле, падарункі:

*Дарым скамеячку, на другі год семечка.*
*Дару хлеб і сала, каб была слава*
*Дарую каробачку жаб, каб не глядзеў на другіх баб.*

Гасцям раздавалі гарбузныя семкі, пасля пелі песні:

*Пад’язджаем пад сяло,*
*Іграй, дудачка, весяло.*
*Дудачка іграла,*
*З кім ты, Галячка, гуляла?*
*Гуляла з казаком,*
*Ажанілася з панічом.*

Каравай дзялілі: адразалі верхнюю частку і аддавалі маладым, астатняе рэзалі на кубікі, аддавалі спачатку хросным, затым усім астатнім. Клалі на каравай капейкі. На свёкраў кажух садзілі маладых.

***Запісана ў в. Мохаў Лоеўскага р-на ад Панцелеймонавай Ганны Сяргееўны, 1939 г.н., студэнткамі Рабой С., Казловай А. (2005 г.)***

Бяруць сватоў, такжа бралі дзве ці тры бутылкі гарэлкі, завязвалі красную ленту і тады ўжо ішлі к дзеўкі, якую сватаць сабраліся. Прыходзілі і казалі: “Ці не прадаецца цёлка? Мы хочам харошую цёлку купіць”. Затым пачынаюць таргавацца. Калі пратаргаваліся, завуць хросных з хлебам і соллю. У другую нядзелю гуляюць заручыны, пасля чаго вянчаюцца ў царкве. Потым шлі к маладой, заўтракалі к вянцу, ну, а пасля вянца шлі к маладому.

Ідуць у баяры. Замотвалі маладую вікам з дзяжы, затым пакрываюць галаву і надзяваюць чапец. Назаўтра свадзьба. Скрыню маладой нясуць да маладога. Куру смалілі ў агні, і праз гэты агонь пераскоквалі. Калі не зладзілася ў маладых, то маладая бярэ хлеб і нясе маладому, пасля чаго разыходзяцца. Калі кладуцца ў пасцель маладыя, і яна аказваецца нецнатлівая, то адзявалі ёй на голаву хамут і выганялі.

Яшчэ былі шуткі ў нас такія, калі госці хацелі, каб гулянне свадзьбы прадаўжалась. Прыходзілі к маладой, кідалі вяроўку на камін і перавярнуць як

бы стараліся. Выкуп патрабавалі, каб камін не чапалі, маладая выносіла бутылку.

Каравай чэсны быў на вадзе, учынены на дражджах, верх адразалі і маладым аддавалі. Замест грошаў і падарункаў клалі аржаны хлеб на талерку і тады бралі каравай.

***Запісана ў в. Мохаў Лоеўскага р-на ад Грыб Ганны Якаўлеўны, 1923 г.н., студэнткамі Рабой С., Шаўлоўскай В. (2005 г.)***

Сваталі ў螺 рознае время, і ў пост нават хадзілі. У асноўным у сваты хадзілі хросныя бацька і маці, чалавек, якога бралі за свата, жаніх. Зашоўшы ў хату, казалі: "Чулі, у вас цёлачка добрая е, прыгожая, працавітая, шчырая. Дык у нас вось бычок-мужычок удалы, працавіты, ды і красавец. Дык як нам вось іх спарыць? Ці згодна ваша цялушка?" Дзяўчына выходзіла і прымала ад хроснага бацькі жаніха хлеб. Тады садзіліся за стол, гаспадары частавалі сватоў, пелі песні. Перад уходам назначалі дзень свадзьбы.

Вяселле гулялі ў дзень свята. Падружкі наражалі нявесту ў святочнае плацце. На галаве абавязкова павінен быў быць вянок – сімвал доўгай жыццёвай дарогі. Жаніх прыязжаў з хлопцамі да нявесты, даваў падарунак маці, такім чынам як бы палучаў дазвол да рукі нявесты. Уся радня ехала ў царкву з песнямі або ў сельсавет распісваць маладых. Пасля роспісі спраўлялі свята, первы дзень быў у нявесты, другі – у жаніха. Каравай пякла хросная маці, абавязкова круглы, каб дарога жыццёвая ў маладых была чыстая, шырокая. Першых да каравая запрашалі маці і бацьку маладой або маладога. Яны давалі благаславенне на каравай. Сват казаў бацькам: "Бацька і маці, просім каравай прыняці. Першы раз" – "Бог благаславіць", – адказвалі. І так тры разы. Упасля дзялілі астатнім, хто прысутнічаў. У адказ на каравай маладых адорвалі падаркамі. Маладая ў свой час таксама дарыла падарунак свякрові, свёкру, хросным, блізкай радне жаніха (цётка з дзядзькам, сёстры, браты). На трэці дзень збіраліся госці, хто гуляў на свяце, ішоў да нявесты. Маці іх сустракала з накрытым сталом, тыя, хто быў за свата і яшчэ некалькі старых чалавек, ішлі ў хлеў і лавілі курэй, затым іх дралі і варылі, елі з юшкаю і так.

Калі выдавалі замуж дзеўку-сірату, усё было менш святочна, больш працей. Калі прыходзілі ў сваты, за маці і бацьку сіраты выступалі кросныя. На сватах дзеўка-сірата спявала:

*Сірата я, сірата, сірацее меня нет,*
*Якое плацце ні надзену,*
*Ад таскі ліняет цвет.*
*Што я сірата, не віноўна ў етым,*
*Ніхто замуж не бярэ дзевачку за ета.*
*Пайду ў Божы манастыр,*
*Богу памалюся,*
*Перад іконаю святой слязамі зальюся.*
*Можа, Божа мне пашле*
*Долячку такую.*
*Можа, Божа мне пашле*
*Долю неплахую.*
*Ведь у мяне, у сіраце*
*Нет нікаго на свеце.*

Свята было адзін дзень, прыходзілі блізкія, добрыя знаёмыя (у некаторых выпадках), дзялілі каравай, дарылі падарункамі, спявалі песні.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н., Мельнікавай Вольгі Фёдараўны, 1925 г.н., студэнткай Мельнічэнка Н.***

Бацька, матка і ён (жаніх) хадзілі ў сваты. Зараней не папярэджвалі аб тым, што прыйдуць. Заручыны гулялі чэраз нядзелю пасля сватання, а свадзьба – праз 2 месяцы. У пост свадзьбы не гулялі. Запоін не было.

Выконвалі такую песню для нявесты-сіраты:

*Хадзіла ўжо нявеста*
*Па зялёнаму саду,*
*Выклікала сваю мамачку*
*На параду.*
*Кайся, маё дзіця, у чужой старане...*

**ДЗЯЛЬБА КАРАВАЯ**

Каравай быў круглы, з цвятамі і крастом. Кускі рэзалі роўныя, і дзялілі сваты. Спачатку давалі матцы і бацьку, а потым хросным матцы і бацьку, а пасля ўжо ўсім родственнікам.

Ездзілі распісвацца ў сельсавет, тады цэркваў яшчэ не было. Калі ехалі распісвацца, дарогу перагароджвалі мужчыны вяроўкай. Давалі ім бутылку, каб прапусцілі. Разоў тры-чатыры могуць перагарадзіць. Гарэлкі не дасі – нічога не будзе.

Зразу ехалі да жаніха. Матка з бацькам сустракалі з хлебам-соллю і з іконаю. Абсыпалі маладога жытам, як ішлі ў хату. Давалі ім чаркі, яны выпівалі і разбівалі.

Песні пелі, якія хто ўздумае. Дражнілі сватоў, песні ім пелі харошыя і паганыя. Песні спявалі і тады, калі вешалі рушнікі ў хаце маладых. Рушнікі павінна была вышыць маладая. Уся дзярэўня потым хадзіла глядзець. Бабы, якія вешалі, гаварылі: "Рукі памерзлі і ня будам вешаць". Давалі ім чарку, і тады ўжо зноў вешалі.

Свадзьба была два дні, а на трэці ў маладога дралі курэй. Бралі куру і круцілі, а пасля гулялі.

Таксама пераадзяваліся на свадзьбе: мужчына – у бабскае, а баба – у мужчынскае. Калісь было і ў цыганей пераадзяваліся. Бабы пераадзенуцца ў цыган, дзіцё ўкруцяць і пайшлі ў хату, дзе гуляюць. Там яны наспяваюцца, натанчуцца, за гэта ім давалі што-небудзь у сумку пакласці. Потым яны ішлі ў тую хату, дзе гулялі свадзьбу, і там гулялі і танцавалі. Усё гэта было на трэці дзень.

Маладыя на вяселлі пілі з адной пасуды.

Калі маладая ад'язджала да хаты жаніха, яна прашчалася з бацькоўскім домам.

***Запісана ў в. Рэкорд Лоеўскага р-на ад Гаўрыленка Ніны Сямёнаўны, 1928 г.н. (перасяленка з в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на)***

У сваты хадзілі, канешне. Сначала пойдуць, пасватаюцца, а патом ужэ свадзьба. У сваты жаніх сам ездзіць. Друзей ніякіх у сваты не бяруць. Едуць жаніх, бацька, матка, хросны, хросная.

Адмовіць нявеста сватам не магла. Дык як яна адкажыцца? У нас тутака такога не бывала! Яны ж дагаварываюцца з жаніхом, жаніх пасылае сватоў. Яны ж дружаць, маладыя. Дагаварываюцца пра свадзьбу, пра сватоў. Бацька з маткай гатовяцца, пірог пякуць і ідуць з пірагом у сваты. Усё па дагавору. Вось і дочка мая так сына жаніла. А вось матка мая калісь расказвала, што прыйшлі да яе трое сватоў з Шарпілаўкі, з Абакум і мой бацька з дзярэўні, а матка на вячорках была, яны там пралі. А бацька мой тады астатніх усіх папраганяў і сказаў, што Ганна будзе мая. Ну і патом, калі прыйшлі ўжо сваты на прагляднае, кланяцца свякрусе, з гарэлкай, дык мая матка ў бабкі пытаецца: “А за каго хоць вы мяне аддалі?” А цяпер усё па дагавору, такога не бывае ўжэ.

А бацька хацеў матку аддаць за хлопца з Шарпілаўкі. А тады, кажуць, Гарэлкі былі, дык яны ведзьмачылі. Быў такі дзядзька Саламон, ён многа чаго ведаў. Дык ён бацьке гавора: “У кружку хлеба пакладзі і крутані, а тады чытай, дзе астановіцца”. Бацька крутануў, а той і кажа: “Налятае на вас вялікая бура, прыбягайце з малітвамі к Богу, мо яна вас і мінуе”. Дык бацька за таго шарпілаўскага не аддаў.

## ВЯСЕЛЬНЫ КАРАВАЙ

Канешне, выпякалі каравай! Выпякалі абязацельна, а як жа ж. Такі здаровы, што з печкі не вылазіў. Каравай нyслі гасцям і спявалі:

*Просім чэсны шлюб прыняці*
*І нам што-небудзь падараваці.*

Узамен каравая многа чаго дарылі. Усё дарылі: калбасу, яйкі, грошы, хто падушку, хто адзеяла.

## СУСТРЭЧА МАЛАДЫХ. ПАСАД

А як жа ж, сажалі на пасад маладых. Тады маладой касу расплятаюць. Яна ж раз ужэ пайшла замуж, то не далжна касу насіць. Той, хто расплятае касу, крычыць, што рукі памлелі, дык яму даюць выпіць.

Абязацельна абсыпалі маладых жытам. Яны ідуць ва двор, там іх зярном абсыпаюць. Встрачаюць іх хлебам, соллю, па чарке ім ставяць. Зярно ў чарку пападае – трэба праглатнуць. Песні ўсё болей пра маладую пелі такія:

*А ў агародзе жоўтым моркаўка сядзела,*
*На каго ты, дзеўка, дзевачка, глядзела?*
*Глядзела я, мае дзевачкі, у акенца,*
*Здаўся мне добры маладзец да сэрца.*
*Сватоў сівых, як кані ў полі,*
*Убачыла дзеўка, дзевачка ў доме.*
*Хавай мяне, мая мамачка, у каморы,*
*Хавай мяне, мая мілая, у каморы,*
*Штоб не ўзялі тыя баяры з сабою.*

А калі ўжэ едуць маладыя, а ідуць людзі, дык казалі:

*А ў Пярэдзелцы берагі,*
*Прыходзьце, дарагія!*
*Няхай перайдзе радзіна,*
*Штоб шчаслівая гадзіна!*

***Запісана ў в. Пярэдзелка Лоеўскага р-на ад Травянок Марыі Адамаўны, 1928 г.н., студэнткамі Шукаловіч Г., Тацоха Д., Савіцкай М.В., Кабаевай В.М. (2002 г.)***

Дружылі хлопцы з дзеўкамі, а патом ужэ свадзьба. Прыходзілі сваты і гаварылі: “Мы прыйшлі к вам пакупаць цёлку”. “А харошы ў вас пастух?” – “А пастух харошы”. Сваты прыносілі хлеб, і калі дзеўка разразала хлеб, значыць, яна сагласна.

А калі ўжо свадзьба, то нявеста становіцца на ручнік, ідзе, как будто бы гэты ручнік цягнуўся штоб за ей. Гэта для таго, каб падружкі яе тожа замуж выйшлі.

Ваабшчэ, дзевушка, як выйшла замуж, так і далжна жыць з адным, і ён таксама. Гуляюць два дні, на трэці дзень – пярэзвы. Через адну нядзелю едуць к маладой, каб паглядзець, як жыве яна. Первы дзень гуляюць у маладой, другі – у маладога, ну, а трэці – гэта апахмелка.

***Запісана ў г. Лоеў ад Канстанцінавай Яўгеніі Рыгораўны, 1924 г.н. (нарадзілася ў в. Ручаёўка Лоеўскага р-на), студэнткамі Жогла К., Цугаевай Я. (2005 г.)***

У мяне не свадзьба была, а так, знаеце, не тое, што цяпер. Мы з мужыком любілі друг друга. Матка мяне адгаворвала, і яго радзіцелі проціў былі, не хацелі. Матка казала: "Не ідзі, дачка, не ідзі ў 19 гадоў". Я не, пайшла ўсё роўна. Жыла ж патом у свякрухі, дык як у аду: тое не так, етае не так. Скупая яна была, страх. А дома ж я прывыкла рабіць, як хачу. І матка мая шчытае: жыві – не жалей, не эканомь нікагда.

Прыйшлі к нам у сваты яго ўжэ маці, бацькі не было, брат і хросныя. Свідзецелі прыходзілі, тады іх называлі дружок і дружка. На стол накрывалі, і яны ж ужэ неслі гарэлку ці віно, а мы ўжэ бульбы прыгатовілі, ну, увобшчэм тое, што было. Дзень свадзьбы назначылі. Хацелі дзелаць вечар у кругу сваіх, а палучылася – чуць не ўся вёска.

Пеклі каравай з двух старон. У мяне ды ў яго. Мая радня дзеліць каравай, быў бальшы каравай, здаровы такі. Адкусвалі, я ж самы большы кусок адгрызла. У яго матка ўстрачала з іконкай і чарачкамі для маладых. Іх нада разбіць на шчасце. Першы дзень жа гулялі ў мяне, другі – ужэ ў маладога. Людзі пелі, танцавалі. Усё знамянітая песня была: "Нясе Галя воду, карамысла гнецца…". Я ўжо ня помню, забылася.

Есць прымета. Калі хто першы пераступіць цераз парог хаты, ну, ваабшчэ, любы першы парог, той у сям'і глаўны будзіць. Дык я ўжо старалася першай. Ну, так і палучылася: я – галоўная ў хаце.

Плахая прымета, калі ў першы дзень кальцо ўпадзе, дык плоха жыць будуць маладыя.

А ў мяне ж свякруха была, як тая змяя падкалодная. Дык калі пасля свадзьбы, яна мне хацела хфату качарыжкай ад капусты зняць. Дык кажуць, будзеш, як тая качарыжка, зсохлая. Дык яно і ўпраўду так сталася.

***Запісана ў в. Сінск Лоеўскага р-на***
***ад Лемех Ганны Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткамі Жогла К., Цугаевай Я. (2005 г.)***

У суботу начынаюць, у аўторак канчаюць. А тады ў цэркву, потым дома "горка" крычаць. Становіцца нявеста на ручнік, а матка з бацькам устрачаюць з іконай, хлебам і соллю. Нявеста ж яшчэ можа схавацца, а тыя трэбуюць за яе грошы. На кажух маладых садзяць. Людзі розныя. Е, што зразу каравай дзеляць, а е, што после выпіўкі. Каравай самі пеклі. Тады ўжо дзялілі яго.

***Запісана ў в. Сінск Лоеўскага р-на***
***ад Чучвага Анастасіі Іванаўны, 1920 г.н.,***
***Бухавец Ганны Барысаўны, 1913 г.н.,***
***Прымак Анастасіі Раманаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткамі Жогла К., Цугаевай Я. (2005 г.)***

На вяселле песні пяюць. Я ўжо не памятаю. Дзедухна засцілала пасцель і глядзела, каб ніхто не дакранаўся да яе, пакуль не палеглі на свадзьбе. І на кажух садзяць, косу расплятаюць нявесце, надзяваюць хустку.

***Запісана ў в. Сінск Лоеўскага р-на***
***ад Колас Марыі Пятроўны, 1935 г.н.,***
***студэнткамі Жогла К., Цугаевай Я. (2005 г.)***

Сначала назначалі сватоў, каб ехаць за дзяўчынай. У сваты бралі гаваркіх, балбатлівых мужыкоў, каб зналі, што гаварыць, а патом, калі бацькі маладой сагласны, тагда назначаюць вяселле, ды так, каб ніякіх работ не было, штоб можна спакойна святкаваць.

Вяселле гулялі 3 дні. Вот ужо вяселле было! А сколькі яды было! Ну, і, канешне, абязацельна бабы пяклі каравай. Рашчынялі зраніцы, ставілі ў цёплае места, штоб цеста добра ўзышло. І ў пачатку вяселля дзялілі абязацельна каравай. Носяць каравай госці такія, хто добра ўмее прыказваць. Сам каравай кладуць на тарэлку ці ў рэшата. Тады завуць бацьку і матку, а тыя бяруць платочкам, бо голымі рукамі нельзя, штоб былі багатыя, бяруць і раздаюць.

Жалалі маладажонам, штоб добра жылі, штоб дзяцей было ў кожным угле хаты або лапаты, штоб жонкі не ганяў вакруг хаты. Хто што ўмеў, гаварылі.

Тагда ўжо ўся дружына садзіцца за сталы. Дзяўчыну садзілі на дзежачку, пакрытую кажухом. Еслі яна чэсная, то сядзе на кажух. Усе елі, пілі, спявалі, жартавалі, маладым "горка" крычалі, танцавалі. Вот, помню песню, кагда маці адпраўляла донечку сваю ў хату к мужу:

*– Ох, мамачка, у клець вядуць.*
*– Ідзі, донечка, штось дадуць.*
*– Я думала – калача,*
*А яны мне – таўкача.*

После вяселля дочка ўяжджала ад маці ў хату свайго мужа. Раньшэ, от матка расказвала, што 12 чалавек у адной хаце жылі і нявеста ешчо.

***Запісана ў в. Страдубка Лоеўскага р-на***
***ад Бартнеўскага Дзмітрыя Паўлавіча, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Навумчык Т., Швед В. (2002 г.)***

Бацькі маладых выбіраюць сватоў, якія будуць дзяліць каравай. Умываюць іх гарэлкай, выціраюць рушнікамі, якімі патом перавязваюць свата. Умывае першага свата і кажа: "Дарую першаму свату кошку гарбату". Умывая другога свата, кажа: "Дарую другому свату сучку гарбату".

Умывая трэцяга свата, кажа: "А трэцяму свату – мыш хвастату". Умывая чацвёртага свата: "І бізун зрабіў, і павесіў на сцяне, каб жонка бізун брала, кругом хаты ганяла". А перавязаныя сваты выносяць каравай і кажуць:

*Удаўся каравай, удаўся.*
*А чаму яму не ўдацца?*
*Багатая ўчыняла,*
*Прыгожая начала,*
*Цяжарная насіла,*
*Губатая саджала,*
*І красная ды харошая.*
*Расці, расці, каравай,*
*Вышэй сталба ледзянога,*
*Вышэй жаніха маладога.*

Сваты ставяць каравай на стол і спрашуюць у бацькоў благаслаўлення. Сваты просяць благаслаўлення бацькі і маткі, просяць каравай падаці. А бацькі ім гаворуць, што Бог благаславіць. Маладая разразае каравай з свайго боку большы кавалак, каб у хаце буў дастатак. Першымі да стала прыходзяць бацькі. Госці адорваюць маладых падаркамі і гаворуць розныя пажаданні. Свякруха прыглашае маладых да сябе ў хату, потым частуе караваем. Затым да стала ідзе ўся радня. А пры канцы дзялення караваю даруць падаркі друзья і астатнія госці.

На вяселлі маладая давала згоду мужу ісці ў яго сям'ю, брала бутэльку з-пад гарэлкі, насыпала туды жыта і аддавала бацькам маладога. Матка ж маладога раскідвала гэта зерне ў хаце, двары, на вуліцы, каб маладыя жылі ў шчасці і дабрабыту.

Каравай упрыгожвалі "шышкамі", булачкамі, галінкамі ёлак, абмотвалі рушніком.

Калі маладая не захавала цноты, не мела права садзіцца на дзяжу, пакрытую кажухом.

***Запісана ў в. Сяўкі Лоеўскага р-на***
***ад Хлебінай Праскоўі Пятроўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Рабой С., Шаўлоўскай В. (2005 г.)***

У нас, калі прыязджалі ў сваты, то хазяін пытаў: "Кто там?", а яму адказвалі: "Адчыняй дзверы, мы шукаем клад, такі, каб наша дзела пайшло на лад. Мы шукаем такую кветку, што цвіце і ў зіму, і ўлетку". У сваты хадзілі або жанатыя мужчыны, або ўжо цёткі добрыя. А разам з імі ішоў жаніх. Таксама маладую аглядалі, агледзіны называліся. Перад вяселлем маладая дружак сабірала. Прашчалася са сваім дзявоцтвам.

А яшчэ пра жызнь сямейную пагаворка была: "Не патрэбен і клад, коль у жаны з мужам лад".

***Запісана ў в. Сяўкі Лоеўскага р-на***
***ад Кангар Таццяны Уладзіміраўны, 1938 г.н.,***
***студэнткамі Рабой С., Шаўлоўскай В. (2005 г.)***

Вяселле гулялі 3 дні. Паследні дзень называецца разгрэбіны.

Ездзілі ў сваты хросны, дзядзька. Пагаварылі, пашуцілі: "У вас цялушка ёсць? Ці прадаеце вы яе?" Выкуплялі нявесту, тады завуць на заручыны родственнікаў, п'юць.

Каравай пякла баба, якая ў пары жыла.

Первы дзень у маладой гулялі, другі – у маладых, трэці – кожныя ў сваіх.

Каравай дзялілі хросныя маладых.

***Запісана ў в. Удалёўка Лоеўскага р-на***
***ад Малянок Уладзіміра Васільевіча, 1929 г.н.,***
***Малянок Любові Навумаўны, 1930 г.н.,***
***Рабянок Лідзіі Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Аверчанка В., Казловай А. (2005 г.)***

Сваты прыносілі гарэлку. Мужык должан прыці, казаў: "Вы прадаеце карову? Мы прыйшлі к вам купляць". Пап'юць гарэлку. Нявеста сядзела на печы, сцеснялася.

Жэніх прыязжаў на тройцы каней серых, у вазку седзелі. Ехалі ў царкву. Прыехалі і гулялі.

Сядзелі маладыя на куце, кажух падлажвалі.

Каравай пекла пара, якая харашо жыве або хросныя. На каравай падаркі дарылі.

Сустракалі пасля царквы маці с атцом. З дзяжы бяруць крышку і налажваюць на яе. Нада, штоб ніхто не прайшоў между маладымі да кута.

Дзялілі каравай сваты, якія перавязвалі. Радзіцелі первыя далжны іці. Першы каравай – яго радня, другі – яе. Каравай кругленькі, сладзенькім мазалі, штоб ён запякаўся.

Знімала фату маладой родственніца.

Тры дні гулялі. Первы дзень – у маладой, другі – у маладога. Трэці – разгрэбіны, курэй разграбалі. Касцёр разлажвалі.

***Запісана ў в. Ястрабка Лоеўскага р-на***
***ад Бандарэнка Ніны Рыгораўны, 1927 г.н.,***
***студэнткамі Барадзіной К., Гаўрук Ю. (2005 г.)***

Перад вяселлем сваты былі. Нявеста ўжо ведала, што да яе сваты прыдуць, і ўжо рыхтавалася. Патом прыходзяць сваты. Яны прыходзяць са словамі спецыяльнымі, прыбаўткамі. Кажуць: "Мы прыйшлі і знаем, што ў вас ёсць аленькі цвяточак і хочам яго забраць". І потым радзіцелі маладой выносяць угашчэнні, ужо прыглашаюць сватоў і потым намячаецца, калі свадзьба ўжо будзе. А калі нявеста ўжо не саглашаецца, тады яны забіраюць свой хлеб, соль і ўходзяць назад. А калі ўсё добра, то рыхтуюцца да свадзьбы. Раней на канях ездзілі, па дамам, у цэркаў ездзілі. На лашадзях – вянчацца, а не так, як зараз, на машынах. А тады павозкі прыбіралі, коням лентачкі ў грыву ўпляталі.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Кукса Яўгеніі Паўлаўны, 1922 г.н.,***

***студэнткамі Бялько І., Захаравай А. (2005 г.)***

Сватанне першае. Першыя ідуць матка, бацька. Ідуць ужо родзічы яго, вядуць кавалера. Заходзяць і гавораць: “Мы прыйшлі к вам купіць цёлку”. Ну, ужо пагаворацъ, за стол садзяцца. Ужо высватаюцца.

Каравай абязацельна пяклі. Матка пякла ці прасілі. Каравай таксама ўпрыгожвалі: розныя цвяточкі зверху лажылі, пцічкі, шышкі, вараб’ёў. Дык раней прыйдуць дзеці, з гэтымі вараб’ямі гуляюць. Свадзьбу гулялі тры дні. Первый гуляюць, калі маладыя павянчаюцца. Назаўтра ўжэ курыцу смаляць. Паймаюць курыцу жывую, да яе бедную за ногу. Нап’юцца, ды п’яныя не жалеюць курыцу, бегаюць за ею. На трэці дзень ідуць гуляць ужэ ў другую хату.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Вілічэк Ефрасінні Міхайлаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткамі Захаравай А., Чамеза М. (2005 г.)***

Вяселле пачыналася з таго, што прыходзілі сваты, якія казалі: “У цябе ёсць цёлка харошая, а ў мяне бычок. Прадайце нам яе. Сколькі яна стоіць?”

У мяне быў жаніх, які мне не нравіўся, але ж ён нравіўся маёй сястры і радзіцелям. Так, прыйшла я з дзеўкамі на танцы, а ён там. Мы ногі намылілі і цякаць адтуль.

І вось, прыйшлі сваты. Мамка пайшла за мною, а я ідці не хацела, за доскі ўцапілася і крычу, што не пайду, але ж прыйшлося ідці. Так бацькі дамовіліся аб вяселлі.

У той дзень мне пазапляталі лентачкі ў валасы, красіва было. Палажылі кажух, мы селі, а я ўсё хі-хі да ха-ха з дзеўкамі.

Згулялі вяселле ў нас, патом паехалі к маладому. Я ўцапілася ў забор зноў і крычу, што не паеду, але ж упіхнулі мяне ў машыну, як добрую цёлку. З сабой мне далі пасцельнае, рушнікі, скацерць, шторы на окны. Сколькі я тады гора пазнала... Грошы ўсе свякрухі аддавалі, яна мне заўсёды гаварыла, што ў мяне няма вілеек (чорных платкоў). Тады было так, што ў каго багата вілеек, той і багаты. Тады слухаліся радзіцелей. За сталом обшчая міска, калі яны паклалі ложкі, то і я з дзіцём на руках. Вось так.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Паўлюшчанка Анастасіі Сяргееўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Кацярыніч А. (2002 г.)***

Жаніліся ўвосень. У другое ўрэмя рэдка. Ездзілі да вянца ў царкву на конях. Калі ехалі да вянца, то дружкі нявесты прышчаплялі да летнікаў хлопцам кветкі, коней украшалі строчкамі і кветкамі, званочкі на дугу вешалі. Ехалі тады ўжэ вянчацца.

Пасля вянчання зразу дадому ня ехалі, а каталіся па дзярэўні, песьні пелі, гармонік йграў.

Первы дзень гулялі вяселле ў маладой. Пакуль ждалі маладых з царквы, гатовілі сталы. Сустракалі маладых з іконаю, з хлебам і соллю. Вялі іх у хату і сажалі на покуце на кажух, штоб багата жылі. Радам з імі садзіліся хросныя матка і бацька. Ля маладога садзіліся свяцілка – дзеўка, якая дзяржала свечку. У царкве яна тожа свечку дзержыць.

На вяселле нявеста запрашала сваіх падруг, а жаніх – таварышаў. Яны тожа садзіліся радам з маладымі. Усе госці запрашаліся за стол, пілі, елі. Потым выходзілі з-за стала паскакаць, павесяліцца.

За стол садзіліся два разы. На трэці раз усе садзіліся за стол. А каля маладых астаўлялі места на лаўцы пустое. Вакол нявесты збіраліся маладзіцы і завівалі маладую: знімалі з галавы строчкі, распляталі косу, дзялілі косы на дзве палавіны і абвівалі іх вакруг галавы. Шчыталася, што замужняй нельзя заплятаць косы. У ета ўрэмя пелі песні.

Тады накрывалі ручніком галовы маладым, бралі з дзяжы, што ўчыняюць хлеб, крышку жыта, зярно, і маладых паціху стукалі па галавах тры разы. Пры етым гаварылі: “Штоб жыта радзілася, штоб у хляве вадзілася, штоб у хаце багата, і была дзетак поўна хата”.

Тады етае зярно сыпалі па гасцях. Маладыя дзеўкі стараліся наперад забегці, штоб больш на іх жыта папала, штоб скарэй выйці замуж.

Пасля етага ад маладой дзялілі каравай. Каравай дзяліў хросны маладой ці дзядзька. Дапамагала яму якая-небудзь жанчына з радні. Госці з боку маладой жадалі маладым дабра, шчасця, клалі на каравай грошы, мацерыю, падушкі – хто што.

Потым вяселле прадаўжалася дапазна. Тады госці расходзіліся па хатах. Маладая аставалася пакуль у сябе дома.

**ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ**

На другі дзень малады браў з сваёй радні чатыры жанчыны, іх называлі прыданкі. Яны ехалі за маладой выкупляць яе прыданае і прыглашаць яе гасцей у хату маладога прадаўжаць вяселле. А дома ў маладога гатовіліся сустракаць іх: насыпалі ў гаршкі попел, стаўлялі іх на вароты, госці ад маладога надзяваліся цыганямі. І калі пад’яжджалі маладыя і прыданкі, каля варот іх сустракалі ўжэ, цыгане. Яны прасілі выкуп за тое, што ўпусцяць іх у двор. Пры етым гаварылі: “Просім плату, а то не пусцім к жаніху ў хату”. А калі тыя не саглашаліся, то білі палкамі па гаршках з попелам, ён разлятаўся, на гасцей сыпаўся. Тады ўжэ дзявацца некуды, што ж – плацілі выкуп.

Ім адкрывалі вароты, яны ўсе заходзілі ў хату, і ўсе госці тожа. Прыданкі бралі прыданае нявесты, неслі ў хату. У хаце ўсё прыданае раскладвалі: посцілкі, просціны, падушкі на караваці, скацеркі – на сталы, рушнікі на сцены вешалі. Хвалілі гасцям прыданае маладой. Пасля етага ўсе садзіліся за сталы. За трэцім разам дзялілі каравай ад маладога.

Тады ўжэ выходзілі на двор і частавалі людзей, якія прыходзілі паглядзець вяселле.

Пасля вяселля маладая аставалася жыць у свайго чалавека.

На трэці дзень сабіраліся госці, бралі жэрдку, ішлі па вуліцам і лавілі людскіх курэй, штук колькі. Етых курэй падвешывалі на жэрдку і ішлі да каго з радні жаніха. Там зноў накрывалі сталы, гатовілі зноў гэтых курэй. Усе госці садзіліся за сталы – збіраліся на бяседу. Ета ўжэ паследні дзень вяселля.

***Запісана ў г. Лоеў Гомельскай вобласці***
***ад Пікус Галіны Еўціхееўны, 1906 г.н.,***
***студэнткай Дзмітрыевай Т. (1995 г.)***

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

*Стукнула, грукнула ва дварэ.*
*– Ці не па цябе ж, донечка, па цябе?*
*– Па мяне ж, мамачка, па мяне,*
*Гатуй жа кублік мне.*
*– Едзь жа, мая донечка, без кубла,*
*Бо ты мне кудзельку не скубла.*
*– А я, мамачка, скубла, да ахота не брала,*
*Я Іванечку дай ждала.*
*– Шумкнулі конікі паўз акна,*
*Ці не па цябе, донечка, па цябе?*

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Касцючэнка К.А., 1928 г.н.,***
***студэнткай Ганчаровай А. (2000 г.)***

*Мы думалі, вы прыехалі,*
*А вы пешкі прыйшлі,*
*Маладога ў мяшку прыняслі,*
*А дружка ў карзіне,*
*Штоб не з'елі свінні.*
*А сваціку ў каробцы,*
*Штоб не ўкралі хлопцы.*

***Запісана ў г. Лоеў***
***ад Пікус Галіны Еўціхееўны, 1906 г.н.,***
***студэнткай Дзмітрыевай Т. (1995 г.)***

На вяселле абавязкова прыходзілі сваты да нявесты, сваталіся, дагаварываліся. Выкупаюць нявесту на вяселлі. Пасля вянчання трэбавалі выкуп, перагароджваючы дарогу. Вось яны едуць, іх астанаўліваюць, трэбуюць выпіўку, канфеты, закуску, усё ў іх было. Яшчэ маладых на кажух садзілі. Прыходзяць, калі ўжо садзяцца за стол, сцелюць кажух, і яны садзяцца на яго. Гэта для таго рабілася, каб маладыя багатыя былі. Абавязкова каравай пяклі. Але ж каравайніц на свадзьбу не прыгласілі. Каравай жа вельмі красівы быў. Я і сама пекла на вяселле свайго сына. Усе здзіўляліся і спрашвалі, як жа ета можна такі каравай спекці, таму што ён быў вялічэзны і прыгажэнны. Упрыгожвалі яго цвяткамі і ўзорамі. Гулялі сначала в доме нявесты, а толькі патом прадалжалі вяселле ў доме жаніха. Грузілі шмоткі, падушкі і везлі ў дом жаніха.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Бойдак Елізаветы Іванаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткамі Юдзянковай А., Кралевіч К. (2005 г.)***

Дагаварваліся хлопец з дзеўкай. А потым ужо ў сваты ішлі. У сваты ішлі бацька, хросны ў хату і гаварылі:

– Добры вечар!

– Добры вечар!

– А ці вы рады нам?

– Заходзіце, заходзіце.

– А казалі, вы цёлачку прадаеце. А ў вашай цёлачкі дзве дзіркі пад носам.

Сват нёс толькі хлеб і бутылку. Потым яны садзяцца за стол. Сват гаворыць: "Еслі нравіцца наш хлеб, рэжце, а еслі не нравіцца, то мы забяром з сабой дамой". І дзеўка быстрэй рэжа гэты хлеб. Значыць, яна згодна жаніцца з ім.

Калі ўжо свадзьба, едуць к маладой. Ложаць на вуглу кажух і садзяць маладых. У маладога заўсёды дружок, а ў маладой – сваціла. Кожная дзеўка загатаўлівае каліну, каб хваціла ад каліны да каліны. А сваціла бярэ дзве свечкі і свеціць у цэркві. Прыязджае дамоў, сваціла ложа каліну. Потым маладая бярэ гэтыя свечкі.

Песня:

*З хлеба – паляніцу,*
*З дзеўкі – маладзіцу,*
*А як бы мы схацелі,*
*Так бы мы зрабілі.*
*Пайшлі ў садочак,*
*Сплялі вяночак.*

Бяруць шмуткі яе і едуць да маладога. А дружкоў не пускаюць у хату. Тады яны бяруць залы і кідаюць за вароты, дым падымаецца, і тады ўжо іх пускаюць у хату.

*Аставайся здарова*
*І заграбай, мамка, жар, жар,*
*Мне вельмі жаль*
*Хадзіць у трэскі.*
*Мамачка, дажыдайся нявесткі.*

Свахі:

*Пусці, сватачка, у сватачкі,*

*Мы ж тут не былі,*
*Гарэлачку не пілі.*
*Не ўцешайцеся, врагі,*
*Не пераходзьце дарогі.*
*Хай перойдзе міла,*
*Каб была шчаслівa.*

Калі сабіраюць шмуткі, дзеўкі пелі:

*Табе, мамка, кубялы навойка,*
*А мне, мамачка, кароўка.*
*Табе, мамачка, усе ўвойчыкі,*
*А мне, мамка, сувойчыкі.*

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Ніцко Ніны Пятроўны, 1924 г.н.,***
***студэнткамі Жогла К., Грыгор'евай В. (2005 г.)***

Сватацца да дзяўчат мужчыны ідуць. К вяселлю гатовіліся добра. Рабілі ўсё пасмашней да пажырней. Ужо як пойдзеш з хаты сваей, дык ужо хто будзе глаўнейшы? Мужык жа будзе. Да, каравай пякуць ужо з боку нявесты. Прасілі другіх баб, каб пяклі гэты каравай. Да каб жа ж не ўдава была. Бо маладым жалалі здароўя, да смерці жыць разам. Яны ж у пары будуць жыць, дык трэба было, каб і тая баба, што пячэ каравай, у пары была.

На кажух садзілі маладых. На лаўку ці на канапу кажух кладуць, дзе маладыя будуць сядзець.

Гулялі тры дні. У суботу пачыналі, у панядзелак – усё, разбягаліся.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Хмелянок Марыі Яўсееўны, 1927 г.н.,***
***студэнткамі Жогла К., Цугаевай Я. (2005 г.)***

Калі ж, як спраўлялі вяселле, дык маладым налівалі па напёрстку віна, а болей не наліваюць. Засватаюць, як сваты прыходзяць. У сваты ішлі ўсе блізкія, радныя. Ну, там, бацька, маці, хросны, браты. Вобшчэм, уся радня. Гарэлку несці далжны былі, сала кусок, хлеба. Ну, усё, што як абычна прыносяць.

Маладыя, як ідуць да маладога, іх матка ўстрачае з хлебам і соллю. Маладыя адкусвалі хлеб. І ўжо хто большы кусок адкусіць, дык шчыталася будзіць і глаўны ў сям'і. Маладым жалалі шчасця, здароўя, жыць ажно век і памерці разам. Дзяцей каб многа было.

На кажух садзілі. Каб было абязацельна пад іконай. Кажух шчытаўся як знак багацця. Каб маладыя былі ў цяпле, дабрэ, багатымі. Ну, ні саўсім ужо багатымі, а каб кусок хлеба ў хаце ўсягда быў.

Свадзьбу гулялі тры дні, а калі багацейшыя, дык і болей. А хто выпіць любіў, мог і нядзелю, і больш хадзіць.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Пікус Соф'і Самсонаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткамі Жогла К., Грыгор'евай В. (2005 г.)***

Ездзілі ў сваты. Перавязвалі іх палаценцамі. Еслі сын, напрімер, к нявесце ездзілі, а еслі дочка, дык к нам прыязджалі.

На втары дзень абязацельна трэба было куру смаліць. Патом на палкі, нясуць туда, а тыя адбіраюць. Ды пераадзяюцца хто ў што, каб смешна было. І там смаляць ужо куру.

Каравай выпякалі, выпякалі шышкі. Эта як у сваты ішлі, дык шышкі пеклі. Шышкі дзецям раздавалі. Напякуць розных галубей. Эта перад свадзьбай пяклі. Каравай дзялілі на первы дзень. Зразалі шапку верхнюю і аддавалі маладым. Каравай давалі сначала блізкім родственнікам, потым друзьям і знакомым.

Калі смаляць курыцу, перадзяюцца так, каб ніхто не пазнаў. Бяруць эту курыцу, ідуць, дзе жыве маладая. У сарай "крадуць" эту курыцу.

Маладых садзілі на шубу, каб былі багатымі, шчаслівымі, каб было многа дзяцей.

***Запісана ў г.п. Лоеў***
***ад Шумігай Валянціны Лаўрэнцьеўны, 1933 г.н.,***
***Шумігай Міхаіла Пятровіча, 1929 г.н.,***
***студэнткамі Саідавай Г., Казловай А. (2005 г.)***

Прыязджаюць у сваты бацька з сынам, дзядзька, старэйшы брат. Чалавек тры-пяць збіраюцца і сватаюць. Скажа дзеўцы хлопец, што я. Дагаваруюцца: "Давай сайдзёмся, пажэнімся!" Дзеўка мацеры сцісняецца гаварыць. Сястра ці брат матцы і бацьку скажа. Прыходзяць у сваты і кажуць: "Мы к вашай дзеўцы прыйшлі ў сваты". Дагаваруюцца, калі свадзьба. Тройку каней запрагаюць у цэркву. Адзін пасярэдзіне, этага дугою ўкрашаюць, калакол. У цэрквы павянчаюцца. Шафера два, тры і дзевак. Павянчаліcь, прыязджаюць і гуляюць свадзьбу. Хто ўчаснік гуляць свадзьбу, у іх пярэзвы ў хату ўжэ. Ілі па двух, ілі ў адну складуюцца. Эта сматра як людзей многа. На кажух жа садзяць і перавязуюць палаценцамі сватоў, як дзеляць каравай. Ён бярэ із свае рукі малады, ён сваіх ужэ радзічоў вызывае. А тыя ўжэ маладую із свае рукі. Рушнікі вышываныя тады былі. Маладой распляталі касу і адзявалі платок. То ўжэ шчытаецца маладзіца. У пары іх ужо кругом стала атводзяць. Каравай я, напрымер, з свае рукі пяку, і яны – з свае. Нашыя аддаюць свой, і яна ўжэ – свой. У маладога гулялі. З мае стараны дзеліцца, а тады – з яго. Первый кусок давалі маладым. Канхветы ў каравай тыркалі. Вяночак з цеста дзелаюць. Плацце маладой з марлі шылі. І з марлі фата была. А цвяты дзелалі з бумагі. І цвяткі вешалі, шаферу ўжэ цвяточак. На трэці дзень, эта ўжэ разгрэбіны называлась, і кажды, хто гуляець,

дае курыцу ці петуха. На палку навесяць і ідуць ужэ. Гулялі, пераадзяваліся ў цыганей.

***Запісана ў в. Вулкан Лоеўскага р-на ад Жураўскага Сяргея Адамавіча, 1910 г.н., Рагознік Марыі Сяргееўны, 1938 г.н. (ураджэнка п. Кірава Лоеўскага р-на), студэнткамі Бакланавай А. (2005 г.)***

Ну, толькі ж пелі свадзебныя песні.

Сваты:

– Добры вечар, што вы кароўку прадаеце?

– Прадаём.

– А дзе ваша кароўка?

– У хаце.

У сваты прыходзіць хросны, бацька і жаніх. Еслі яна сагласна – хлеб разразаюць, а еслі не сагласна, значыць гарбузу на стол кладуць.

Сваты прыносілі рушнік і бутылку. Мы ж от ездзілі ў Камарынск. Дак што мы... Булку хлеба ўвязалі ў платочык, соль там палажылі. Прыехалі:

– Добры вечар, добры вечар!

– А ці вы рады нам?

– Рады, рады, усе захадзіце!

Палажылі ўжэ хлеб на стол. Вот яны ўжэ тут стол накрываюць, паселі, да сват і кажа: “Вот што, людзі добрыя, еслі нравіцца такі хлеб, так рэжце, а не нравіцца, дак мы забяром яго дадому”. Вот маладая быстрэнька за нож, пакрэшчала, пакрэшчала, во той хлеб і гатова.

Вот ужэ замуж аддалі, так после свадзьбы ўжэ канчаецца. Пяюць песні:

*Сядзь, мамка, павячэрай,*
*Мо, павячэраўшы, падзелімся.*
*Да ты мне не бердзечка,*
*А мне, мамка, мала,*
*Табе, мамка, усе ватчыкі,*
*А мне ўсе сувайчыкі.*

## ВЯНЧАННЕ

Вянчаліся ў царкве. Сваты пасля вянчання прыязджаюць, кажуць: “Пусці, сватачка, у хатачку, мы ў хатачкі век не булі, мы ж тваёй гарэлачкі век не пілі”. Сваха ўжо выходзіць і дае.

## КАРАВАЙ

Каравай пёк той, хто харашо жыве. Так вот жа пякуць так: еслі дзве, так там каравай у маладога, і там каравай у маладой, дзеўкі, а еслі былі саўмесна, значыць адзін каравай.

Калісь лажылі кажух і маладых на кут, штоб багатыя былі.

***Запісана ў г.п. Лоеў ад Ніцко Ніны Пятроўны, 1921 г.н. (перасяленка з в. Бывалькі Лоеўскага р-на), ад Прыцэп Галіны Іванаўны, 1934 г.н., студэнткамі Маісеевай Д., Агеевай Ю. (2005 г.)***

Свадзьбы ж добра іграюць. Хросныя ідуць на заручыны, сваты.

Прыходзяць у хату: “Ну, добры вечар. Мы прыйшлі к вам, можа, вы карову прадаеце?” Кажа: “Прадаем”. Гаворацць, гавораць... Сваты ставяць на стол графін гарэлкі, лентачкай абвязаны хлеб ложаць. Калі не сагласна – гарбуз кацяць.

## ЗАРУЧЫНЫ

На заручыны ішлі вечарам у суботу. Калісь жа вянкі да з лентамі, 5 дружак. Нада было – кветкі куплялі, абвязвалі етае. Нашывалі платкі абязацельна, насавыя платкі.

Заплялі касу, а ўвечары вот маладому нада забіраць маладую. Ну дык ужэ бяруць платок, чарку, тарэлку, грэбяшок, і ўжэ жэншчына, хросная матка, і ўжэ завівае яе. Скідаюць вяночак у тарэлку, ложаць за ікону, платок завязваюць. Яна ўжэ едзе к маладому не нявеста, а ўжэ жэншчына.

Маладых садзілі на кажух.

Каравай хросная пякла. Вярхушку маладым аддавалі. Каравай пяклі маладому і маладой.

***Запісана ў в. Ручаёўка Лоеўскага р-на ад Ціханенка Ганны Васільеўны, 1947 г.н., Ціханенка Ніны Іванаўны, 1934 г.н. (перасяленак з в. Вязок Брагінскага р-на), студэнткамі Беляевай В. (2005 г.)***

# *Мазырскі раён*

## ЗАРУЧЫННЫЯ ПЕСНІ

*Хадзем, сястро, на заручыны...*
*Хадзем, сястро, на заручыны.* 2р.
*Там дзевачка заручаецца,* 2р.
*Ад мамачкі адлучаецца,*
*Да хлопчыка далучаецца.* 2р.
*Ой, за ракою, за каменнаю*
*Там рано свецілась –*
*Там дзевачка нараджалася*
*Да са сваёю мамкаю гаварыла.*
*– Ой, парай мне, мамко,*
*Ды каго за дружку браці?*
*– Ой, бяры, доню, чэлядзіначку,*
*Усю сваю радзіначку.*
*Найраднейшую, найбліжэйшую,*
*Саджай бліжэй да сябе,*
*Найдалейшую – саджай далей ад сябе.*

У хаце маладой пяюць:

*Сабраліся ўсе галачкі,*
*Паселі на палачкі,*
*А зязюля закукавала.*
*Сабраліся ўсе падругі,*
*Песню заспявалі,*
*А я заплакала.*
*– Каб быў у мяне родны татка,*
*Дык я б паслала ў луг па каліну.*
*Але таткі няма і каліны няма.*
*Усе падругі заспявалі,*
*Усе падругі заспявалі.*
*А я заплакала.*

***Запісана ў в. Балажэвічы Мазырскага р-на***
***ад Ястрэмскай Ефрасінні Пятроўны, 1907 г.н.,***
***студэнткай Ястрэмскай Т.***

*Кукавала зязюленька ў садочку,*
*Кукавала зязюленька ў садочку,*
*Прыпомніла Ганначка тую ночку,*
*Кукавала зязюленька ў бару,*
*Успомніла Ганначка тую пару.*
*Не кукуй, зязюленька, у садочку,*
*Не ўспамінай, Ганначка, тую ночку,*
*Не кукуй, зязюленька, у бару,*
*Не ўспамінай, Ганначка, тую пару.*
*Табе, маладой, у зялёны сад не хадзіці,*
*Табе, маладой, у зялёны сад не хадзіці,*
*Табе, маладой, русу косаньку не насіці,*
*Русу косаньку не насіці.*

У хаце маладой:

*Прыйшоў на вяселле наш сваток,*
*Павязаўшы крыжамі рушнічок.*
*А казалі, што сват вельмі харош,*
*Аж у свата лысая галава*
*Ды казліная рыжая барада.*
*Плавае па хаце, як таран,*
*Лыпае вачыма, як баран.*
*Калі, сват, гарэлкі не дасі,*
*Караваю трасцу ты з'ясі.*

***Запісана ў в. Барыскавічы Мазырскага р-на***
***ад Пакорскай М.Г., 1935 г.н.,***
***студэнтамі Яраслаўцавым Р., Пысько Г.***

## ЗБОРНАЯ СУБОТА

*Ой, ты, ёлачка баравая,*
*У бару стаяла,*
*Йшла дарогаю – гудзела,*
*Вайшла ў хату – заззяла.*
*Ступіла Надзечка на парог*
*Ды махнула хусцінкай на свой род.*
*Ідзе наша Надзечка на пасад.*
*Сцяліце тканіну залатую,*
*Благаславіце, бацька і маці, маладую.*

***Запісана ў в. Барыскавічы Мазырскага р-на***
***ад Шчыпер Л.Ф., 1905 г.н.,***
***студэнткамі Яраслаўцавай Р.***

У хаце маладой:

*Хадзем, мамка, у камору,*
*Падзелім дабро з табою.*
*Табе, мамка, ніт і бердзечка,*
*А мне, мамка, палаценечка.*
*Табе, мамка, навойцы,*
*А мне, мамка, сувойцы,*
*Табе, мамка, сені, хата, камора,*
*А мне, мамка, скрыня, пярына, карова.*

Як маладая развітваецца з роднай хатай:

*Кукавала зязюлечка ў садочку,*
*Прыкланіўшы галовачку к лісточку.*
*– Ой, знаю, знаю, што мне ў садочку не быці,*
*Ой, знаю, знаю, што па садочку не ляцеці.*
*Ой, знаю, знаю, што мне зязюляй не слыці,*
*Ой, знаю, знаю, што з вішань ягадак не клявaці.*
*Заплакала малада Мар'я ў святліцы,*
*Паклаўшы галоўку к скамейцы.*
*– Ой, знаю, знаю, што мне ў татулькі не быці,*
*Ой, знаю, знаю, што мне дзеўчынай не слыці,*
*Ой, знаю, знаю, што па дварочку не хадзіці,*
*Ой, знаю, знаю, маткаў дворык не красіць.*

***Запісана ў в. Барыскавічы Мазырскага р-на***
***ад Ермакавец Т.У., 1900 г.н.***
***Новак В.С., Вяргеенка С.А.***

*А ў нашага свата*

*Ды харошая хата.*
*Каля хаты румяненька,*
*А на стале каханенька.*
*Харошая гаспадыня*
*Ды добра наварыла.*
*Пі, дружачка,*
*Ды не ўпівайся,*
*Што табе трэба,*
*Не забывайся.*
*Бяры пярыны*
*Да дзве дзяціны.*
*Бяры падушкі*
*Да й на дзве душкі,*
*Бяры радзенца*
*Да свайго сэрца.*

* * *

*Дзеванькі, падружанькі,*
*Ужо стучыць дарога.*
*Ужо шуміць дуброва,*
*Едуць маршалкі*
*Ды па вашы падаркі.*

* * *

*Села Танечка за сталом,*
*Паклала ручанькі на стале.*
*– Ручанькі мае белыя,*
*Каму вы цяпер мілыя?*
*Колі старому – крый, Божа,*
*Калі Колю – дай, Божа.*

***Запісана ў в. Барыскавічы Мазырскага р-на***
***ад Бяспалавай К.М., 1918 г.н.,***
***Новак В.С., Вяргеенка С.А.***

*Пабудзь, дачка, з тыдзень,*
*Для цябе горы ды паніжуцца,*
*Калодзежы ды набліжуцца,*
*Зямля параўнее, сям'я ды пасмірнее.*

***Запісана ў в. Барыскавічы Мазырскага р-на***
***ад Квартальнай В.І., 1916 г.н.***

**ПАСАД**

*Да ступіла дзевачка на парог,*
*Да махнула хусцінкаю*
*На свой род.*
*– Станавіся, радзінанька,*
*Да ўсе ў рад,*
*Бо ідзе наша дзевачка на пасад.*
*Станавіся, радзінанька, блізенько*
*Ды кланяйся, дзеванька, нізенько.*
*Уся яе галовачка ў квеці,*
*Уся яе радзіначка на свеці,*
*Уся яе галовачка ў вяночку,*
*Уся яе радзіначка ў радочку.*

***Запісана ў в. Белае Мазырскага р-на***
***ад Майстровіч У.Г.,***
***Новак В.С., Вяргеенка С.А.***

**ЯК ПРЫЕДУЦЬ СВАТЫ ПА МАЛАДУЮ**

*– Ой, рэчка, рэчка быстра,*
*Як ты ўчора із вячора быстра ішла,*
*А сягоння параненько ціхенько?*
*– Ой, як жа мне, рэчаньцы, быстрай быць,*
*Як на мяне серы гусі наплылі,*
*Яны маю вадзічаньку папілі.*
*– Ой, дзеўка, дзевачка,*
*Як ты ўчора із вячора весела была,*
*А сягоння параненько смутненькая?*
*– Як жа мне, дзевачцы, вясёлай быць?*
*Абсела мяне чужына –*
*Уся хлопчыкава радзіна:*
*Па правы бачок завіцы –*
*Усе хлопчыкавы сястрыцы,*
*Па левы бачок сваточкі –*
*Усе хлопчыкавы браточкі.*

**ЯК МАЛАДАЯ РАЗВІТВАЕЦЦА З ХАТАЙ**

*Азірніся, маці...*
*Азірніся, маці,*
*Ці ўсе вуглы ў хаце,*
*А трэці на парозе –*
*Твая дочачка ў дарозе.*

**У ХАЦЕ МАЛАДОГА**

*Як паселі прыданкі,*
*Так выгнуліся лаўкі.*
*Яшчэ горш увагнуцца,*
*Як гарэлкі нап'юцца.*
*– Цяпер нам гадзіце,*
*Цэбрам гарэлку насіце.*
*Не так цэбрам, як вядром,*
*Бо перавернем хату ўверх дном.*

***Запісана ў в. Белая Мазырскага р-на***
***ад Дземідзенка Н.А.***
***Новак В.С., Вяргеенка С.А.***

**ЯК ПРЫЕДУЦЬ СВАТЫ ПА МАЛАДУЮ**

*Пусці, сваце, у хату...*
*Пусці, сваце, у хату*
*Хаця ручкі пагрэць,*
*Маладую паглядзець.*
*Ці ты, сваце, не будаваўся,* 2 р.
*А цяпер будуешся,*
*Перад намі гатуешся.*
*А ў нашага свата* 2 р.
*Харошая хата,*
*Печ яго набеляная,*
*Чэсць яго да каханая.*

***Запісана ў в. Белая Мазырскага р-на***
***ад Дашкевіч А.С.***

**У ХАЦЕ МАЛАДОГА**

*Далі нам есці, піці,*
*Дайце нам пагуляць, дайце нам волю,*

*Пусціце ў камору,*
*Хаця б мы паглядзелі,*
*Дзе нашу сястру дзелі,*
*Паглядзець на калінку,*
*Падняць пярынку –*
*Ці хароша развілася,*
*Па кашулі разлілася.*
*Пайшоў Яначка ў калінавы луг,*
*Наламаў каліны, колькі змог.*
*Ой, табе, Манечка, каліна мая,*
*Няхай гуляець радзіна мая.*

***Запісана ў в. Бібікі Мазырскага р-на ад Кавальчук М.Л., 1919 г.н.***

## ЗАРУЧЫННЫЯ ПЕСНІ

*Годзе, каліна, годзе, маліна...*

*Годзе, каліна, годзе, маліна,*
*Годзе вам у лузе стаяць.*
*Годзе табе, дзевачка, годзе ў мамкі гуляць.*
*Паслала я свайго бацьку каліну ламаць.*
*Бацька пайшоў, увесь луг абыйшоў,*
*Каліну не знайшоў.*
*Паслала я сваю маці каліну ламаці.*
*Маць пайшла, увесь луг абыйшла,*
*Каліну не знайшла.*
*Паслала я свайго любага*
*Каліну ламаць.*
*Любы пайшоў, каліну знайшоў:*
*Годзе табе, дзевачка,*
*Без вяночка хадзіць.*

***Запісана ў в. В.Зімовішчы Мазырскага р-на ад Гуцко Л.Е., 1922 г.н., студэнтам Яраслаўцавым Р.***

*– Хто ў маім садочку рана быў?*
*Хто маю ружаньку страхануў?*
*Адазваўся Колечка:*
*–Я ў тваім садочку рана быў,*
*Я тваю ружаньку страхануў.*

*Зязюля гняздзечка звіла,*
*Салавей прыляцеў і сеў.*
*Надзечка сталы заслала,*
*Колечка прыехаў і сеў.*

***Запісана ў в. В.Зімовішчы Мазырскага р-на ад Колас А.С., 1903 г.н., студэнткамі Яраслаўцавай Р., Новак В.С., Вяргеенка С.А.***

*Маладая паміж радзінаю хадзіла,*
*Свайго бацяньку нізкім паклонам прасіла:*
*– Падзяржы мяне ты, мой баценька, з гадочак,*
*Пакуль я знашу гэты харошы вяночак.*
*– З Богам, з Богам, маё дзіцятко, ад мяне,*
*Ёсць у мяне меншая дачка за цябе.*

***Запісана ў в. В. Зімовішчы Мазырскага р-на ад Зубрыцкай А.Н., 1927 г.н., студэнткамі Карасёвай А., Рагальскай А.***

*Даліна, даліна,*
*Даліна шырокая,*
*Па табе, далінушка,*
*Туман рассцілаецца.*
*Дзеўка ўбіраецца,*
*Замуж сабіраецца*
*За дружка нявернага,*
*Салдата ваеннага.*

***Запісана ў в. В.Зімовішчы Мазырскага р-на ад Зубрыцкай А.Н., 1927 г.н., студэнткай Рагальскай А.***

*Бяліла дзевачка белы лён*
*Ды выганяла дружачак з-за стала вон.*
*– Ідзіце, ідзіце, дружачкі, з-за стала,*
*Няхай сядзе Колечка каля меня.*
*Ідзіце, ідзіце, дружачкі, усе на двор,*
*Няхай прыйдзе Колечка – мой сакол.*

***Запісана ў в. В. Зімовішчы Мазырскага р-на ад Патапавай Е.Д., 1919 г.н., студэнткамі Яраслаўцавай Р., Ратомскай Т.***

Як прыедуць сваты па маладую, пяюць:

*– Ой, сваты, сваточкі,*
*Што ж вы зрабілі?*
*Сад паламалі, сокала адбілі,*
*Вы ж майго татачку*
*Ды й навек згубілі.*
*– Не плач, дзевачка,*
*Не плач, маладая,*
*А як будзеш наша,*
*То мы сад пасадзім,*
*Сокала прынадзім*
*І твайго татачку*
*На ногі паставім.*

***Запісана ў в. В.Зімовішчы Мазырскага р-на ад Зубрыцкай А.Н., 1927 г.н.***

Як маладая развітваецца з хатай:

*А ў варот бярозанька стаяла,*
*Веццем вароты ўслала.*
*Ай, туды ішла Таццяна,*
*Верх той бярозы сарвала:*
*– Стой, мая бяроза, без вярху,*
*Жыві, мой бацюшка, без мяне,*
*Без русай касы без маёй,*
*Без румянага лічанька.*

*Да пазнаеш, маменька, без дачкі,*
*Як парастуць па залаўю казлячкі.*
*Будзе яна казлячкі вымятаці,*
*Будзе ён дачочку ўспамінаці:*

*– Была ў мяне дочачка не лянiва,*
*Штосуботы лавачкі памыла,*
*Штонядзелі ў цэркаўку хадзіла.*

* * *

*З мора вада выліваецца,*
*Зяць ад цешчы выбіраецца.*
*– Пастой, зяць, хоць гадзіначку,*
*Падзіўлюся на сваю дачку.*
*– Было, цешча, не хваліціся,*
*Пасадзіці ды дзівіціся.*
*Пасадзіці ў канец стала,*
*Дзівіціся, як на сокала.*
*Пасадзіць у крэселку,*
*Дзівіціся, як на вішаньку.*

***Запісана ў в. В.Зімовішчы Мазырскага р-на***
***ад Зубрыцкай А.Н., 1927 г.н.***
***Новак В.С., Вяргеенка С.А.***

## ЗАРУЧЫННЫЯ ПЕСНІ

*Як цябе, мая мамачка, жаль не бярэ,*
*Што твая дочачка вочкі трэ?*
*Апусціла вочкі дадолу,*
*Капаюць слёзы на зямлю.*

* * *

*Вецер не вее, сонца не грэе,*
*Каліна не спее.*
*Ох, каб я знала, ведала*
*Блізкія заручыны,*
*То я б паслала сваю маманьку*
*У цёмны луг па каліну.*
*Маманька пайшла,*
*Увесь луг абыйшла,*
*Без каліны прыйшла.*
*Вецер не вее, сонца не грэе,*
*Каліна не спее.*
*Ох, каб я знала, ведала*
*Блізкія заручыны,*
*То сястрыцу паслала б*
*У цёмны луг па каліну.*
*Сястрыца пайшла,*
*Увесь луг абыйшла,*
*Без каліны прыйшла.*
*Вецер не вее, сонца не грэе,*
*Каліна не спее.*
*Ох, каб я знала, ведала*
*Блізкія заручыны,*
*Я б паслала свайго Колечку*
*Ў цёмны луг па каліну.*
*Колечка пайшоў,*
*Да лугу не дайшоў,*
*Дый каліну знайшоў.*
*Вецер вее, сонца грэе,*
*Каліна паспела.*

***Запісана ў в. Забалацце Мазырскага р-на***
***ад Заяц Т.Ф., 1927 г.н.,***
***студэнткамі Яраслаўцавай Р., Пячонка Л.***

## ЗБОРНАЯ СУБОТА

*Ох ты, ёлачка баровая,*
*Ты ў лесе расла, шумела,*
*А дарогаю ішла – звінела,*
*А ў хату ўвайшла – заззяла,*
*А на стале стала – стукнула,*
*Ды ўсіх дружачак гукнула.*

***Запісана ў в. Забалацце Мазырскага р-на***
***ад Заяц Т.Ф., 1927 г.н.,***
***студэнткамі Карасёвай А., Ганчар Т.***

## ПАСАД

*Станавіся, радзіначка,*
*Станавіся ў рад,*
*Ідзе наша Кацярыначка на пасад,*
*Косанькамі да зямліцы дастае,*
*Слёзанькамі белае лічыка аблівае,*
*Очанькамі родную маманьку шукае.*

***Запісана ў в. Забалацце Мазырскага р-на***
***ад Козінцавай П.С., 1914 г.н.,***
***студэнткамі Яраслаўцавай Р., Вінаградавай С.***

Як маладая развітваецца з хатай:

*Увайшла Надзечка ў новую хату,*
*Кінула вачыма па новай хаце:*
*Ці ёсць каму дары даравацi?*
*Што ні паліца, то залавіца,*
*Што ні паліца, то залавіца,*
*Што ні куточак, то дзевярочак.*

*Пасела каля мяне чужына,*
*Пасела каля мяне чужына,*
*Ды ўсё Коліна радзіна.*
*Па правы бачок – сваты,*
*Па левы бачок – залоўкі,*
*Ды ўсе Коліны сястрыцы.*

***Запісана ў в. Забалацце Мазырскага р-на***
***ад Заяц Т.Ф., 1927 г.н.,***
***Новак В.С., Вяргеенка С.А.***

Маладых садзілі на павозку. Калі прыязджаюць к маладой, нада снясці свечкі. Падбіраюцца па росту – чыя свечка будзе вышай, гэта як прыходзяць к маладой. Яшчэ глядзелі, чыя свечка быстрэй дагарыць – той раней памрэ.

Прыязджаюць, выкуп даюць. Маць ці бацька прыглашаюць маладога чарку выпіць. Пасыпаюць жытам, каб багатыя былі. Када дзеляць каравай, глядзяць на свечы. Бралі тры булкі хлеба. Выразалася дзірка, ставілі свечы і глядзелі. Калі падзялілі, тушылі свечы другой булкай хлеба з дзіркай. Гаварылі:

– Шчасця, долю, хлеба ўволю.

Калі замешвалі каравай, то муку абавязкова прасейвалі ў адзін бок, за сонцам.

Апошні дзень вяселля называўся “кол”.

Калі прыязджалі да маладой, то назіраюць, хто вышэй свечку падыме: сябры жаніха ці нявесты. Аднаго хлопца дык аж на крышу забросілі, зато свечка высока была. Гэта глядзелі, хто галоўны ў доме будзе.

***Запісана ў в. Іванкаўшчына Мазырскага р-на ад Хальчэні Анатоля Паўлавіча, 1941 г.н., студэнткамі Кушнаровай К., Ісаенка В., Швед А.***

У сваты выбіралі ад жаніха радню. Дзеўка сваіх сабірала. Начыналі ў суботу, канчалі ў панядзелак, а некаторыя і ў вторнік, у срэду. Заканчвалася вяселле “на кале”. Пераадзяваліся, лісціну бралі з сонечніка. Забіваюць калка на 10-15 метраў, на яго вешалі банку. Завязувалі вочы, хто разбіваў тую банку, то ставяць магарыч старыя бабкі.

***Запісана ў в. Іванкаўшчына Мазырскага р-на ад Лабунец Марыі Раманаўны, 1944 г.н., студэнткамі Кушнаровай К., Ісаенка В., Швед А.***

У пятніцу каравай увечары ўчынялі, у суботу пяклі. Муку сеюць у адзін бок, недаросткаў ставілі. Учыняюць у адзін бок за сонцам, удзень месяць. Жанчыны пяклі, якія ў пары былі, у якіх судзьба харошая.

*Наша печ рагочэ,* 2 р.
*Караваю хоча.*
*А прыпечак заліваецца,*
*На каравай спадзяваецца.*

А благаслаўляць каравай усю радню сабіралі, апяваюць каравай:

*Да рано ж рано,*
*За гарою.*
*Да рано ж рано,*
*Што ў нашым дворы дзеецца.*
*Да рано ж рано,*
*На скам’іцы скацерка.*
*Да рано ж рано,*
*На скацерцы руб часток.*
*Да рано ж рано,*
*Лежыць каравай.*
*Да рано ж рано,*
*Што ў нашым караваі дзеецца.*

Астатнія гатовіліся, маладыя дзеўкі ўбіралі ёлку, апявалі яе:

*Елко, елко, дзе расла?*
*– Я ў бары расла,*
*Я ў бары расла.*

Маладых садзілі на куту на кажух, каб багато жылі. Пад парог сякеру клалі – чэсная маладая, дзічку – нячэсная. Некаторых малады чэраз агонь пераносіў.

***Запісана ў в. Іванкаўшчына Мазырскага р-на ад Вігера Дар’і Паўлаўны, 1937 г.н., студэнткамі Кушнаровай К., Ісаенка В., Швед А.***

Да маладой прыходзяць у сваты свацаць. Бралі з сабой звычайна асобную бутылку гарэлкі для маладой і маладога і бралі з сабой барыло (дзеравянная ступа, куды клалі дзесяць бутылак гарэлкі). У сваты звычайна шлі бацька маладога, браты, зяці. Жанчыны амаль не прымалі ўдзел у сватанні.

Сваты заходзяць у хату маладой і пачынаюць гаварыць: “Тут, чулі, прадаецца маладая цялічка!” А маладая адказвала: “Ёсць цялічка!” Сваты зноў гаварылі:

– Мы прыйшлі пакупаць цялічку!

Калі маладая была згодна на сватанне, то адразу распівалі гарэлку, якую прынеслі сваты. Малады з маладою выпівалі асобна бутылку гарэлкі. Мацеры і бацькі таксама выпівалі асобна. (Гэта былі два першыя этапы вяселля: сватанне і запоіны. Яны зліваліся ў адзін этап).

## ЗАРУЧЫНЫ

Калі маладая была ўжо поўнасцю згодна на шлюб, то адразу сваты пасылалі за роднымі маладога, а бацькі маладой хадзілі за сваімі роднымі. Ішлі глоўным чынам па свякруху. Патом ішлі па суседзях, сазывалі ўсіх у хату маладой, каб паказаць, што яна ўжо засватана. Пры ўсіх людзях назначалі дзень свадзьбы. Звычайна на заручыны склікалі ўсіх суседзяў, усю вёску амаль. На заручынах маці маладой абвязвала сватоў ручнікамі, а свякрусе давала падарак. Так быў назначаны дзень свадзьбы.

Пачыналася зборная субота.

У суботу начыналася свадзьба. Маладая прыглашае сваіх дружак і садзіць іх за стол. Дружкі адзяюць маладой на галаву вянка. Дружкі самі плялі вянок з іскуственных цвятоў. Дружкі ўпрыгожвалі нявесту. Таксама дружкі маладой рабілі ёлачку самі, а часцей проста бралі жывую ёлачку метра паўтара, упрыгожвалі бумажнымі цацкамі і ставілі на стол, дзе павінны былі сядзець малады з маладой.

Дружкі нявесты сядзяць за сталом. Сваты сабіраюцца і разам прыходзяць да маладой і просяць дружак за грошы выкупіць вянок маладой, а таксама просяць выкупіць і ёлачку.

Сваты просяць дружак:

*– Улятайце, сарокі,*

*Наляцелі вароны*
*З чужое стараны!*

А дзеўкі атвечаюць:

*– Шчэ ж мы не сарокі*
*І мы не вароны,*
*Па лесу не лятталі*
*І не шчэбеталі,*
*За сталом сядзелі і песенькі пелі!*

Ну, сваты выкупвалі ўсё ж такі вянок маладой. А ўпрыгожаную ёлку не чапалі. Быў такі абычай: калі дружкі ўставалі са стала і ўходзілі, то кожная ламала сабе ветачку. Потым, калі выкупвалі нявесту, то пачыналася гулянне. Радня сядае за стол, і пачынаюцца частаванні.

У 12 часоў пачыналі дзяліць каравай.

Выпяканне каравая таксама лічылася асобным этапам у вяселлі. Пякуць каравай жанчыны чужыя. У маладога пякуць свой каравай, у маладой пякуць свой. Калі каравай няўдачным палучыцца, то будзе нешчаслівае замужжа, няўдача. Унутры каравая клалі два яйца.Калі каравай на лапаце палажылі ў печ пякціся, то вынімалі лапату і білі па галаве якога-небудзь мужчыну, які быў у хаце.

Так пачыналі дзяліць каравай.

Адразу вяселле было ў хаце маладой, і дзялілі каравай родныя маладога:

*Адгадайце, баярэ,*
*Што ў маім дзіўным караваі.*
*З сямі крыніц вадзічанька,*
*З сямі палей пшанічанка,*
*З сямі курэй яечко,*
*З сямі каровак маслечко.*

Так апявалі кравай. Прасілі дазвола дзяліць каравай:

*– Благаславі, айцец, маці,*
*Каравай дзяліці!*

Людзі атвечаюць: *“Бог благаславіць!”*
Так пачыналі дзяліць. Сваты гаварылі:

*– Адгадайце, баярэ,*
*Якому дружку дзяліці.*
*– Старшому дружку дзяліці!*

Дружка адказваў:

*– Я, брацейка, умею дзяліць,*
*І каравай украю, і радзіны абдзялю.*

Потым пачынаюць рэзаць каравай (краіць). Першы кусок атрэзаюць маладым. А потым раздаюць кускі па роднасці. Дружкі жартаўліва прасілі ў свата куска каравая:

*– Мы ж на цябе, сваточку, паглядаем,*
*А ці не ўдзеліш нас куска каравая!*

Каравай дзеляць і дораць падаркі. Маладая адорвае ўсіх сваякоў маладога падаркамі.

Пасля дзяльбы каравая апяваюць вянок маладой. Снімаюць вянок з галавы і гавораць:

*– Дай, матка, масла,*
*Я карованьку пасла*
*Ад росы да росы,*
*Памазаці косы!*

Матка прыносіць у ложке масла, дае сватам, і сваты мажуць косы, знімаюць вянок, надзяваюць платок. Гавораць:

*Што мы хацелі, то мы і зрабілі!*
*З цеста – масляніцу,*
*З дзеўкі – маладзіцу!*

Так апявалі вянок. Потым забіралі яго і нявесту, і ішлі да хаты жаніха. Калі апявалі вянок, то стукалі жаніхову галаву аб галаву нявесты. Гэта значыць, завівалі галаву к галаве.

Калі нявесту на рассвеце забіралі да хаты жаніха, то нявеста развітвалася з бацькамі.

Адпраўлялі нявесту з такімі словамі і песнямі:

*Ууграбай, матка, жар,*
*Будзе табе дачкі жаль.*
*Ууграбай, матка, попел,*
*Мы ж тваю дачку схопім.*
*Тут жа нам добра было,*
*Там жа нам і палепшае,*
*Гарэлачкі ды пабольшае.*

Маладую прывозілі к свякрусе. Маладая брала з сабой сундук з прыданым: усё тое, што яна прала, вышывала. Таксама маладую суправаджалі пасцельныя (браты ці сёстры). Яны неслі ў сундуку скацерці, пакрывалы, ручнікі.

Свякруха сустракала нявестку з сынам з хлебам-соллю.

Калі нявеста заходзіла ў хату, то яна пры ўсіх засцілала стол скацерцю, на креваць лажыла пакрывала, а таксама на ікону вешала ручнік. Таксама вешала ручнік на кручок рукі выціраць. Дарыла ручнік свякрусе, на акно вешала гардзіны. Усё сваё прыданае маладая развешвала на вешалкі. І адразу было бачна, дзе дзеўка багацейшая, а дзе дзеўка бяднейшая.

Потым працягваюць гуляць у хаце маладога. Дзеляць каравай ужо маладога. Для смеха выдумвалі розныя жарты. Пераапраналі маладую ў жаніха, а жаніха – у маладую.

Потым ужо ідзе канец вяселля. Людзі п’юць, гуляюць. Пад канец вяселля маладая дорыць радні жаніха падаркі.

**Запісана ў в. Іванкаўшчына Мазырскага р-на**

***ад Кадол Кацярыны Іванаўны, 1932 г.н., студэнткай Кадол Т.***

**ПАСАД**

*Ой, за гарою, за каменнаю*
*Крыніца не рублена.*
*Ой, хоць рублена, хоць не рублена,*
*Той вада халодная.* 2 р.
*Там жа Танечка рушнікі мыла,*
*З Богам гаварыла ж:*
*– Божэ міласціў,* 2 р.
*Што ж я нарабіла?* 2 р.
*С кім кахалася, с кім любілася,*
*Той стаіць за плячыма.*
*С кім не зналася,*
*С тым стала, звянчалася.*

***Запісана ў в. Каменка Мазырскага р-на ад Кулага В.А., 1950 г.н.***

Каравай дзеляць:

*Да рана ж, да рана,*
*Да за гарою новы дом.*
*Да рана ж, да рана,*
*Да ж в том доме светліца.*
*Да рана ж, да рана,*
*Да ж у той светліцы.*
*Да рана ж, да рана,*
*Да ў светліцы скам'іца.*
*Да рана ж, рана,*
*На скам'іцы скацерка.*
*Да рана ж, рана,*
*На скацерцы хлеб чарствы.*
*Да рана ж, рана,*
*А што ў тым хлебі?*
*Да рана ж, рана,*
*З сямі крыніц вадзічка.*
*Да рана ж, рана,*
*З сямі палёў пшанічка.*
*Да рана ж, рана,*
*З сямі кароў маслечка.*
*Да рана ж, рана,*
*З сямі курак яічкі.*
*Да рана ж, рана,*
*Паслушайце, баяра.*
*Да рана ж, рана,*
*Перваму дружку краіці.*
*Да рана ж, рана,*
*Первы кажа: "Не ўмею,*
*Да рана ж, рана,*
*Да й шчэ ножыка ня мею".*

Як маладая развітваецца з хатай:

*Вымяту хату,*
*Вымяту сені,*
*Сяду ж на парозі,*
*Сяду ж на парозі.*
*Як уразумею таткаву роскаш,*
*Абальюць мяне слёзы.*
*У майго татачкі крутыя горы –*
*Мне гуляць па волі.*
*Як у майго свёкарка ўсюды роўна –*
*Мне гуляць не можна.*

***Запісана ў в. Каменка Мазырскага р-на ад Куксы А.А., 1927 г.н.***

Ідуць сватаць дзяўчыну ўвечары, у часоў 8-9, са сватамі, возьмуць два сваты, да бацька ідзе, да ідзе тады дзяўчыну сватаць. Як маладыя абодва згодны на шлюб, тады і бацькі давалі згоду. Што ж яны будуць болей гаварыць. А калі дзяўчына была не згодна, то яна выносіла гарбуз маладому.

Калі малады ад'язджаў да нявесты, у дарозе спявалі многа ўсякіх песень. І багаслаўлялі, як ён едзе ў дарогу да маладой, і шчасця жадалі, і гасподняга багаслаўлення. Багата было такіх песень. А калі маладыя ад'язджалі да вянца, на роспіс, а етыя ўсе сваты і свахі спяваюць абавязкова, покуль маладыя не прыедуць назад. Маладая, як едзе з маладым на роспіс, дык яе абсыпалі цукеркамі, жытам, багаслаўлялі яе, абводзілі вакол з іконкаю і абсыпалі. Тады, як маладая ўваходзіць у хату маладога, дык абсыпалі таксама жытам.

Вянок быў такі ў маладой: на абручыку, тамака яловыя шышачкі, галушачкі і па лісціку, ці па два зялёненькія, і марлю вешалі ўзаду. Благаслаўляліся толькі, як яго адзявалі на яе: "Благаславі, ацец, маці, каго Бог здарыў у хаці, вянка маладой адзяваці. Богу багаславі, другім разам, Богу багаславі, трэцім разам, Богу багаславі". І надзявалі маладой вянка. І маладая ўжо стаіць, дзе захованая ў другой хаце, малады прыходзіць і шукае, дзе маладая. Найшоў тую маладую, маладая тая не ідзе. Ён вядзе з сабой хлопчыка ці яна, той хлопчык садзіцца папярод яе, а тады ўжэ ля таго хлопчыка садзіцца малады, ззаду садзяцца дружкі, заходзяць за стол. І яны ўжо ўсе садзяцца за стол, тады ўжэ тому хлопчыку заплацяць грошы малому, ён пад стол вылазіць дадому, а яны ўжо сядзяць, п'юць. На трэцю чарку маладому прышываюць кветкі, потым госцяць, а калі панаядаюцца, ідуць у клуб гуляць, а заходзяць ужо свахі, маладога ўся радня, і ўжо садзяцца за стол, там ужо яны пагуляюць, павыпіваюць, потым ідуць на пярэзву. У час пасада маладая не спявае, а толькі бацька багаслаўляе маладую, і яна цалавалася з мацярай і з бацькам. А яе сяброўкі пелі свадзебныя песні, прычым вясёлыя.

Ад маладой перазываюць прыданае на пярэзву. Пабудуць яны на пярэзвах, а тады ўжэ ад пярэзвы папрыходзяць і дзеляць каравай. Становяцца тры сваты, свечкі паляць, ёсць свяцілка, якая запальвае свечку. І маладой, і маладому етая свяцілка дзержыць гэтыя свечкі, а старыя абпяваюць каравай. Абпелі каравай, потым гэты каравай дзеляць тыя тры сваты, са стараны маладога (брат, бацька хросны і дзядзька родны), дзеляць тамака ці тры чалавекі, ці сколько, адзяюць ім рушнікі цераз плечы – тром сватам. Адзін рэжа, другі гаворыць, а трэці гарэлку налівае. Падзеляць каравай і забіраюць ужо маладую везці к сабе туды, бяруць тры чалавекі (пасцельные). Етая кампанія расходзіцца.

А каравай пякуць замужнія жанчыны. Як мясілі каравай, дак гаварылі: “Багаславі, ацец, маці, каб год здарыў у хаці каравай учыняці. Богу багаславі, другім разам Богу багаславі”. Праспяваем песню і саджаем каравай у печ. Калі ж ужо трэба вымаць каравай, то зноў багаслаўлялі.

Прывядуць маладую к маладому, маладая ўваходзіць у хату, яе абсыпаюць жытам, і як з дому яна ідзе, дык абсыпаюць жытам. А яшчэ свякруха думае, што яна не дзеўка, дык возьме да запаліць агонь, колісь станавілі дзяжу. Дак цераз дзяжу еслі маладая пераскочыць, перойдзе, значыць, яна чэсна, а калі абойдзе, значыць, яна жэншчына. Ну, а цяперака так паляць агонь: еслі ты перойдзеш цераз агонь, то ты дзеўка, еслі ты не перойдзеш, а абойдзеш вокруг, значыць, ты ўжэ не дзеўка. Тады ўжэ пасцельных і маладых садзяць за стол, маладым сцелюць кажуха, пасцельных пасадзяць, маладым даюць хлеба і солі і гавораць: “Вот вам яда”. Гэта такая была прымаўка. Потым, як маладыя паспутаюць хлеба і солі, як з’ядзяць гэта, на сталы станавілі ўсялякія гатункі, і госці ядзяць. Пасля застолля маладыя ідуць спаць. Етыя пасцельныя ідуць ім прасцілаюць ці ў сенцах, ці ў хаце пасцеляць. Пасцельныя папрасцілаюць ім пасцель, туды наложаць усякіх рубанцоў, качалак з рубцамі – як яны палягуць спаць, ім стане ж нешта муліцца.

Пасля, як падзеляць каравай, вызываюць кабылу на другі дзень. Як прыходзіць кабыла, дак было сільно анцярэсна, і розныя жарты, і песні вясёлыя жартоўныя спявалі.

На другі дзень маладой патрэбна вымесці хату. Таксама было рогату. Бярэ з парога маладая смецце і мяце на кут. Потым бярэ сватаву шапку і збірае смяццё ў шапку. Ну, дак сват гаворыць: “А што ты не жыла ў бацькі з маткай, што не ведаеш, як мясці хату?” А маладая гаворыць: “Мяне так дома навучылі”.

А на трэці дзень ужэ прыходзяць усе на пахмелле, дак са стараны маладога робяць “маладога”, а са стараны маладой – “маладую”. Таксама вельмі хораша і весела было.

***Запісана ў в. Касцюковічы Мазырскага р-на ад Рэчыцкай Ганны Афанасьеўны, 1937 г.н., студэнткай Нікіценка Н.***

### ЯК МАЛАДЫ ЕДЗЕ К МАЛАДОЙ

*Ды чужыя, людзі-ворагі,*
*Не пераходзьце дарогі,*
*Каб перайшла дзяціна,*
*Каб была дарога шчасліва,*
*Няхай перайдзе родна матка,*
*Каб дарога была гладка.*

*Хваліліся, што ехалі,*
*Ажно яны пяшком ішлі.*
*Маладога ў мяшку неслі,*
*Ногі тарчалі, а сабакі брахалі.*

### ПАСАД

*Ой, за гарою, за каменнаю*
*Крыніца не рублена,*
*Хоць рублена, не рублена,*
*У ёй вада халодная.*
*Ой, там Анечка лічыко бяліла*
*Ды з Богам гаварыла:*
*– Ой, Божа, Божа, моцны мой Божа,*
*Каго верна люблю,*
*Той стаіць за плячыма.*

Як збіраюцца да маладога:

*О, як задумаю*
*Матчыну роскаш,*
*І абаллюць мяне слёзкі.*
*Ці не будзеш, Анечка, жалаваці,*
*Як мы будзем па вуліцы пахаджаці.*
*Пахаджаці будзем, будзем пад аконцам,*
*Пад аконца падбегаці,*
*Твая мамка шукаці.*
*А ці дома Анечка, а ці няма?*
*Няхай нашай Анечкі і не будзе.*
*Узялі нашу Анечку ды чужыя людзі.*
*Заграбай, мамка, попел –*
*Скора тваю доньку ўхопім.*
*Заграбай, мамка, жар –*
*Будзе табе тваёй дочкі жаль.*

***Запісана ў в. Козенкі Мазырскага р-на ад Кірынскай А.А., 1899 г.н., студэнткай Сузько М.***

Як маладая развітвалася з хатай:

*Ці я табе, мама, надакучыла,*
*Што ты мяне проці лета заручыла?*
*Ці я табе, мая мамка, надаела,*

*Што ты мяне, мамка, маладую ажаніла?*
*Заручыла мяне мамка маладую,*
*Да спраў жа мне, мамка, зязюленьку баравую,*
*Да пасадзі яе, маці, у краваці.*
*Будзе яна раненька куваці,*
*Будзе мяне рана пабуджаці,*
*Бо свякроўка не матухна – не пабудзіць,*
*Выйдзе за варота да й асудзіць:*
*– Санлівае, драмлівае чужое дзіця,*
*На работу лянівая нявестка мая.*
*Як прала белы кужаль – драмала,*
*Як пайшла па вадзіцу – днявала,*
*А як пайшла ў чыстае поле жыта жаць,*
*Займе постаць шырокую – ляжа спаць.*
*Зачула гэта слова родна маці:*
*– Ці я ў цябе ў парогах стаяла,*
*Што б ты маё санлівае дзіця брала*
*Да такімі саромлівымі словамі абсуждала?*

***Запісана ў в. М.Бокаў Мазырскага р-на***
***ад Антоненка А.М., 1894 г.н.***

Вяселле пачынаецца ў суботу. Пякуць каравай, спяваюць такія песні:

*Да (Вольчына) мамка,*
*Да па ёлачцы хадзіць,*
*Да па ёлачцы хадзіць,*
*Да суседачак просіць.*
*Вы, суседачкі мае,*
*Сайдзіцеся ка мне.*
*Не ка мне, а к дзіцяці,*
*Караваю качаці.*

Каравай саджаюць у печ на дзеравяннай лапаце.

Тады пачынаюцца заручыны. Маладая сабірае людзей сваіх на заручыны.

Маладую дружкі ўбіраюць у вянок і плацце ў каморы і ждуць маладога. Потым прыязжае малады з княжымі і пяццю дружкамі. Садзяцца за стол. За стол маладую вядзе малодшое браце маладой. Маладыя садзяцца, дружкі з дружкамі садзяцца таксама за стол. Дружкі спяваюць такую песню, калі садзяцца за стол.

*Да ступіла Волечка на парог,*
*Да махнула хусцінаю на свой род,*
*Станавіся, радзіначка, уся ў рад,*
*Бо ідзе Волечка на пасад.*
*Станавіся, радзіначка, к Богу,*
*Кланяецца Волечка Богу.*

Выпілі па пары чаркі і збіраюцца ў цэркаў вянчацца і запісвацца. Дружкі спяваюць такую песню:

*Чаму ж маю косаньку не пляцеце?*
*Чаму ж мяне да вянца не вядзеце?*
*Да заплёў косаньку меншы брат,*
*Да павёз да вянца старшы брат.*
*Да пад тую горачку крутую,*
*У тую цэркоўку святую.*
*А ў той цэркаўцы святы Спас,*
*Завянчаў дзетачак у божы час.*

Павянчаліся, з цэрквы едуць к маладой усе дружкі абедаць. Паабедаюць маладыя і ідуць у клуб гуляць. Прыязджаюць свахі (радня маладога). Маладзёж і маладыя прыходзяць з клуба, садзяцца за стол, а свахі іх выганяюць такімі песнямі:

*Улятайце, сарокі, налятаюць вароны,*
*Да із чужое стараны.*

А дружкі ім адказваюць такімі песнямі:

*Мы ж не сарокі, мы ж не вароны,*
*Мы па полю не лятালі,*
*За сталом сядзелі,*
*За сталом сядзелі, усё песенькі пелі.*
*Нас Волечка папрасіла,*
*Каля сябе пасадзіла.*
*Бяліла Волечка белы лён*
*Да выганяла дружачак са стала вон.*

Спявае маладая:

*Уйдзіце, дружачкі, ад мяне,*
*Няхай сядзе Колечка ля мяне.*

Дружачкі вылазяць із-за стала, цалуюцца з маладою і ідуць у клуб. За стол садзяцца свахі (ад маладога роду) і з імі за сталом астаюцца і маладыя, свахі спяваюць:

*Дагадайся, Волечка,*
*Чаго маці ў клецьпашла.*
*Пашла мамачко па завівальцэ,*
*Тонкае да беленькае,*
*Як папера тоненькае.*

Маладое сястра ці маці хросна завівае маладую, знімае вянок і адзяе хустку. Свахі спяваюць:

*Чыя жана, чыя жонка*
*Не ўмее жыта жаць.*
*Толькі ўмее, толькі ўмее*
*Да дзевак завіваць.*

Калі адзенуць хустку маладой, то свахі спяваюць такую песню:

*Што ж мы хацелі, тое зрабілі.*
*Із цеста – паленіцу, із дзеўкі – маладзіцу.*
*Із добрага цеста добра паленіца,*
*Із добрай дзеўкі добра маладзіца.*

Потым дзеляць каравай і спяваюць песню:

*Ой, рана-рана нешта ў лесе звінела,*
*Да рано-рано, паслухайце, баяры.*
*Катораму свату кроіці,*

*Старшаму свату кроіці.*
*Першы кажа: не ўмею,*
*Другі кажа: я ножыка не маю,*
*Трэці кажа: я ўмею, я і ножык маю,*
*І радзіну ўсю сабяру.*

І пачынаюць рэзаць каравай. Падзяляюць каравай і вязуць маладую маладому. Спяваюць так:

*Сабірайся, Волечка,*
*Сабірайся, дзевачка.*
*Унь і коні запрэжаны,*
*За варота заведзены.*

Спявае маладая:

*Хадзіла мамка ў камору,*
*Да раздзелімся і з табою.*
*Табе будзе ніт і бердзечко,*
*А мне будзе палаценечко.*
*Табе будзе ўся худоба,*
*А мне будзе ўся карова.*

Свахі спяваюць:

*Заграбай, мамка, попел,*
*Бо мы тваю дачку схопім,*
*Да пасадзім на сані,*
*Да паедзе яна із намі.*

Забіраюць маладую із прыданым і вязуць да свякрухі. Спяваюць:

*Выйдзі, свякруха гарбата,*
*Прыехала нявеста багата.*
*Выйдзі, свякруха, паглядзі,*
*Што табе баяры прывезлі:*
*Да ці дзіку казу, ці дзеразу,*
*Ці нявесту маладую*

А свякруха спявае:

*То ж не каза, не дзераза,*
*То ж мая нявеста маладая.*

Спяваюць свахі маладое на другі дзень, калі прыязджаюць к маладому. Сваха – свасі:

*Нізко ў ножкі пакланілася,*
*Ты ж, свахначка, родная матачка,*
*Не карай майго дзіцятачка,*
*Не будзі ж яго раненька,*
*Да будзі яго позненька.*
Далей гуляюць і п’юць.

**_Запісана ў в. М. Зімовішчы Мазырскага р-на_**
**_ад Колас Надзеі Сідараўны, 1926 г.н.,_**
**_Клімчанка Соф’і Васільеўны, 1930 г.н.,_**
**_студэнткай Рубан Е._**

Як прыедуць сваты па маладую:

*– Вылетайце, сарокі,*
*Вылетайце, сарокі,*
*Налецяць вароны,*
*Налецяць вароны,*
*Ды з чужой стараны.*
*– Мы не вароны,*
*Мы па полю не леталі,*
*Мы па полю не леталі,*
*Да не шчабяталі,*
*За сталом сядзелі*
*Да і песенкі пелі.*
*Нас Тамарка папрасіла,*
*Нас Тамарка папрасіла,*
*Каля сябе пасадзіла*
*Песенку спяваці,*
*Нас з сабою зваці.*

**_Запісана ў в. М.Зімовішчы Мазырскага р-на_**
**_ад Кірылавай Е.В., 1904 г.н._**

*Коні гагочуць, дадому хочуць,*
*А свашка плешча, начуем яшчэ.*
*Хлеба паліца, гарэлкі купа,*
*Начуем тута.*

**_Запісана ў в. М. Зімовішчы Мазырскага р-на_**
**_ад Колас А.С., 1903 г.н._**

*Сядзем, баценька, паабедаем з табою,*
*Паабедаўшы, падзелімся з табою:*
*Табе, баценька, хата, сені і камора,*
*А мне, маладой, скрыня, пярына і карова,*
*Я ўжо табе, мой баценька, адслужыла,*
*Там, у клуні, у староначцы, грабелькі палажыла.*

**_Запісана ў в. М. Зімовішчы Мазырскага р-на_**
**_ад Ціханавай Е.Н., 1926 г.н._**

Каравай дзеляць:

*Дару букет кветак,*
*Штоб было многа дзетак.*
*Дару кош лучыны,*
*Штоб малады не бегаў да другой дзяўчыны.*
*Дару каробку спічак,*
*Штоб у маладых не было дурных прывычак.*
*Дару каробачку жаб,*
*Штоб маладой не любіў другіх баб.*
*Дару грошы – я на іх працавала,*
*Хачу, штоб маладая маладога пацалавала.*
*Дару курачку-квактуху,*
*Штоб маладая пацалавала свякруху.*
*Дару сноп канапель,*
*Штоб да году быў сын, як пень.*
*Дарую маладым карабель,*
*Штоб днём каталісь, а ноччу цалавалісь.*
*Дарую грошы медныя,*
*Штоб не былі беднымі.*

**_Запісана ў в. М.Зімовішчы Мазырскага р-на_**

***ад Мейлах Л., 1920 г.н.***

### ЗАРУЧЫННЫЯ ПЕСНІ

*Ды трапала дзевачка белы лён,*
*Ды гнала дружачак вон.*
*– Ідзіце, дружачкі, ад мяне,*
*Няхай сядзе Пецячка ля мяне.*
*– На што лён белы ўбіраць,*
*На што дружачак уганяць?*
*– Мы ж не самі паселі,*
*Нас Манечка папрасіла,*
*Ля сябе пасадзіла.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Капыловіч М.І., 1900 г.н., студэнткамі Яраслаўцавай Р., Алексанровіч Т.***

*– Чаму зязюля не кукавала,*
*Як сады расцвіталі?*
*Чаму Ганулька не заплакала,*
*Як яе запівалі?*
*– А я думала, а я мысліла,*
*Што яны жартавалі.*
*Гэтыя жарты выйшлі на праўду,*
*Што ў мамачкі не быць,*
*Вяночкі не насіць.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Дзенісенка А.А., 1913 г.н.***

*Каб я знала, што ў баценькі болей не буду,*
*Я б не сеяла зялёную руту.*
*Я б пералазы загарадзіла,*
*На зялёную руту конікаў пусціла.*
*– Ешце, ешце, конікі, зялёную руту,*
*Бо я ўжо ў баценькі доўга не буду,*
*Адзін дзянёчак, адзін вечарочак.*
*Ужо я ў баценькі апошні часочак.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Дзянісенка А.А., 1913 г.н., студэнткамі Карасёвай А., Вамок Р.***

### ЗБОРНАЯ СУБОТА

*Маладая Леначка,*
*Чаму ж ты такая харошая:*
*Ці цябе сонца радзіла,*
*Ці месячык цябе гадаваў?*
*– Нарадзіла мяне маці*
*На цясовай краваці,*
*На шалковай дзяружанцы,*
*На пуховай падушачцы.*

### ЗБОРНАЯ СУБОТАЧКА, ЗБОРНЫ ДЗЕНЬ...

*Зборная суботачка, зборны дзень,*
*Ды сабрала Леначка ўсіх людзей,*
*Ды садзіла яна іх усіх у рад,*
*А сама села між усіх*
*Ды скланіла галоўку ніжэй усіх,*
*Задумала думачку больш усіх.*
*Ды не думай, Леначка, не думай,*
*Перыйдзеш рэчаньку ды Дунай.*
*А як жа мне, маладой, не думаці,*
*Ды не знала свякроўкі, а трэба знаці.*
*Я маладая, не знаю, як назваці.*
*Назвала б свякроўкай – не смею.*
*Назвала б матачкай – не будзе,*
*Толькі майму сэрданьку будзе жаль.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Канопліч Г.І., 1905 г.н., студэнткамі Яраслаўцавай Р., Даргель Т.***

### ПАСАД

*Ідзе, ідзе Манечка на пасад,*
*Крыкнулі, гікнулі на ўвесь сад:*
*– Ці гатова там дзеўка на пасад?*
*– Ой, гатова, дзеванькі, гатова.*
*Была ў мяне шоўкавая нітка,*
*Ды я яе згубіла,*
*Маладому Івану кветку прышыла.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Капыловіч М.І., 1900 г.н., студэнткамі Карасёвай А., Даргель Л.***

*Ды за нашу Дашу*
*Дайце кашу.*
*Калі каша з мёдам,*
*То аддадзім медзведзям.*
*Калі каша з макам,*
*Аддадзім сабакам.*
*Ды за нашу дзевачку*
*Дайце гарэлачкі.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Юдзіцкай А.А., 1900 г.н.***

У хаце маладой:

*Паслухай, дзяўчынка, што твая мамка гаворыць,*
*Процiў ночкі цямнюсенькай вон гоніць.*
*– Хадзі, хадзі, дачушка, павячэраем з табою,*
*Павячэраўшы, падзелішся са мною.*
*– Табе, мамка, твая хатка, камора,*
*А мне, маладой, куфар адзёжы ды карова.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Дзянісенка Н.А., 1913 г.н.***

*А на свацці кашуля*
*Сто залатых каштуе.*
*– А дзе, сваццця, пакупала?*
*А дзе, сваццця, вышывала?*
*– Я ў Вільні на рыначку пакупала,*
*За сто залатых атрымала.*

*А сват сваццці сплёў лапці*
*З доўгіх лык.*
*Надулася наша сваццця,*
*Як індык.*

*Сваця бела на покуце сядзела.*
*– Ды дзе, сваця, бялілася?*
*Ды дзе, сваця, сушылася?*
*– На морайку бялілася,*
*На сонейку сушылася*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Канопліч Г.І., 1905 г.н.***

Як маладая развітваецца з хатай:

*Чаму ў цябе, Ганначка, розуму не стала,*
*Чаму ты дзеўкай не дзевавала?*
*Дзевачкі пойдуць у лес па ягадкі,*
*А ў цябе будзе многа работкі.*
*Дзевачкі пойдуць у лес па кветачкі,*
*А цябе абступяць малыя дзетачкі.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Дзянісенка Н.А., 1913 г.н.***

У хаце маладога:

*Выйдзі, свякруха гарбата –*
*Едзе нявестка багата.*
*Ды выйдзі, свякруха, паглядзі,*
*Што табе баяры прывезлі:*
*Ці серу казу, ці цяля,*
*Ці нявестка малада.*
*Ні сера каза, ні цяля,*
*А нявестка малада.*

**БУДЗЬ ЗДАРОВА, МАМА..**

*Будзь здарова, мама,*
*Як цябе не знала,*
*Дык мамаю не звала.*
*Як цябе пазнала,*
*Дык мамаю назвала.*

* * *

*Ой, дай, мамко, масла,*
*Што карованьку пасла*
*Із росы да росы,*
*Штоб памазаць косы.*
*Крамяню-рамяню,*
*Ды задай жа нам агню*
*Свечы зажыгаці, маладую завіваці.*
*Завівала сястра сястру* 2 р.
*Вельмі жаласліва,*
*Толькі прынялася – слязамі залілася.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Дзямідзенка Н.А., 1913 г.н.***

*Браточкі ад'язджаюць, сястрыцу кідаюць.*
*– Браточкі мае родныя, як паедзеце дадому,*
*Вазьміце мяне з сабою.*
*– Сястрыца мая родная, не на тое аддавалі,*
*Каб цябе дамоў забіралі,*
*А за тое аддавалі, каб за цябе пагулялі.*
*Не жаль нам сівога каня валаска,*
*А жаль нашай сястрыцы галаска.*
*Не жаль нам сівога каня падковы,*
*А жаль нам сястрыцы размовы.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Заяц П.Ю., 1909 г.н.***

*Здарова, нявестка, у маім даму.*
*Распусцілі долечку па майму полечку,*
*А прыхільнічка – па падвор'ечку,*
*Сваю красачку па застоллечку.*

*Ступала дзеванька на вазок,*
*Зламала вішанькі ўвесь вяршок:*
*– Стой, вішанька, без верху,*
*Як мой баценька без мяне.*
*У панядзелак раненька ўспомнім*
*Ды любым дзіцяткам назавем.*

***Запісана ў в. Махнавічы Мазырскага р-на ад Капыловіч М.І., 1900 г.н.***

*Там, у новым калодзежы,*
*Там, у новым ды калодзежы,*
*Там дзевачка воду брала.*
*Там дзевачка воду брала,* 2 р.
*У свой край паглядала.*
*Ці не едзе яе бацюхно?* 2 р.
*Ці не вязе радзіначку?*

* * *

*Едзе малады да маладой.*
*Расступіцеся, ворагі,*
*Не пераходзьце дарогі,*
*Няхай пяройдзе мамка мая,*
*Штоб нам дарога гладка была.*
*Няхай пяройдзе радзіна,*
*Штоб нам дарога шчаслíва.*

***Запісана ў в. Надаткі Мазырскага р-на ад Чарэўкі Л.А., 1942 г.н.***

Каб маладыя не разлучаліся, чэраз іх ніхто не праходзіў. Падколвалі булаўкі, каб не зглазілі. У царкве пад рушнік грошы клалі, каб багатыя былі. Казалі: "Біце чашкі пад ногі, каб не пераходзілі ворагі дарогі".

Калі каравай не ўдаецца, жыць не будуць. Пякуць толькі жанчыны, што добра жывуць у шлюбе.

***Запісана ў в. Прудок Мазырскага р-на ад Кур'ян Марыі Аляксандраўны, 1941 г.н. (кіраўнік народнага калектыва "Валошкі"), Яшчыкоўскай Раісы Васільеўны, 1935 г.н., Прус Наталлі Васільеўны, 1959 г.н. (нарадзілася ў в. Мерабель, дырэктар СДК)***

**ПАСАД**

*Пасеяў Валодзя свой сад-вінаград.*
*– А хто ж той сад вартаваці будзе?*
*– Малады Валодзечка вартаваці будзе.*
*Вартаваў ночку, вартаваў другую,*
*А на трэцюю моцненька заснуў.*

*Прыйшоў татачка ды і стаў будзіць:*
*– Уставай, сыночак, хопіць спаць,*
*Ужо твой сад-вінаград пташачкі аб’елі,*
*А тваю маладую дружкі абселі.*
*– Няхай абсядаюць, як самі знаюць,*
*А я сваю Ганульку ўсюды пазнаю.*

***Запісана ў в. Рудня Мазырскага р-на***
***ад Багучэўскай А.Б., 1908 г.н.***

У хаце маладой:
*Не журыся, Галюхна,* 2 р.
*У нас табе добра будзе:*
*Ветрык сені мяце,* 2 р.
*Сонейка пірагі пячэ.*
*А свякроўка абеду наварыць,* 2 р.
*Цябе, маладзеньку, пасадзіць.*
*Ты, малода, дзе сядзецьмеш, 2 р.*
*На то дзіва глядзецьмеш?*

***Запісана ў в. Скрыгалаў Мазырскага р-на***
***ад Бакавец А.Ф., 1908 г.н.,***
***студэнтамі Яраслаўцавай Р., Пысько Г.***

## ПАСАД

*Ой, ці табе, мамка, не жаль, не жаль,*
*Ой, ці тваё сэрцанько не вяне,*
*Што тваё роднае дзіця не ўзгляне?*
*Ой, села ж яна вышэй усіх*
*Ды апусціла галованьку больш за ўсіх,*
*Ды думала думанькі больш за ўсіх.*
*– Памажыце, дзевачкі, думаці,*
*Як мне свайго свёкарка назваці?*
*Ой, назаву свёкарка бацюхна.*
*Яшчэ ж маё лічыка не спадзе,*
*Ды болей розуму прыпадзе.*

* * *

*Ды ўступіла Галечка на парог,*
*Ды махнула хусцінкай на ўвесь род.*
*– Станавіся, радзіначка, уся ў рад,*
*Бо ідзе Галечка на пасад.*
*Яна ўсю радзіначку абышла,*
*Нідзе сваёй мамачкі не знайшла.*
*Падышла к бацюхну свайму блізенька,*
*Пакланілася ў ножанькі нізенька.*

У хаце маладой:

*Не думай, Манечка, не думай,*
*Завязем мы цябе за Дунай,*
*Ды не так за Дунай, як за рэкі,*
*Маладому Івану навекі.*

*Пасядзьце, баяры, шарам*
*Ды й паслухайце, баяры,*
*Што мне татка дарує.*
*А дарує татка ды дванаццаць кароў,*
*Ды дванаццаць авец.*
*Ды калі дарує – няхай Бог пасе,*
*А як шкадуе – няхай воўк нясе.*

***Запісана ў в. Скрыгалаў Мазырскага р-на***
***ад Табулінай Ф.І., 1900 г.н.,***
***студэнткамі Яраслаўцавай Р., Міцкевіч К.***

На запоіны пякла свайму хрэшчэніку пірага, усё, як трэба зрабіла. Паставіла пякці – лопнуў. Другі спекла. Забрала адзін, забрала другі ды і кажу: “Во ета першы, во ета другі. Дык які?” – Яны кажуць: “Не, трэ браць першы”. Разышліся.

***Запісана ў в. Слабада Мазырскага р-на***
***ад Гусак Лукер’і Савельеўны, 1930 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Мялешкавічы)***

Прыходзяць па 9-15 сватоў як род вялікі. Як прыходзяць сваты, то гавораць: “Мы прыйшлі к вам кароўку купіць”. Калі не хацела замуж – давалі гарбуза. Кажуць: “О, схапіў гарбуза Валодзя Кіміш”. Усе спяваюць.

Пяклі каравай у пятніцу вечарам. Прыдуць сваты ды і пагавораць цераз месяц.

Рушнікі, рубашкі, падаркі даюць, песні спяваюць.

Каравай пеклі, хто ў пары. У каго няма чалавека, таму не можна.

У косы нітачкі ад вянка ўпляталі: хлопцы будут плясціся за вамі.

Пасцель паслалі. Маладая пасцель перасцілаць даўжна – чалавек будзе любіць.

Качалку ў пасцель клалі.

Была маладой яйцо за пазуху клалі. Прыдзеш к маці, пераступіш чэраз парог, пусці яго, каб упала, дзяцей будзет ражаць лёгка.

На караваі яйца ложаць. Дык хутчэй етыя яйцы хапаюць, каб хутчэй замуж пайшлі.

***Запісана ў в. Слабада Мазырскага р-на***
***ад Клявец Надзеі Данілаўны, 1935 г.н.***

## ДЗЯЖА

Калісь, як маладую вязуць, дык вынясуць дзежку. Дык як чэсна – стане на дзежку. Нячэсна, каб не станавілася. Калі схлусіць, то ёй будзе грэх.

***Запісана ў в. Слабада Мазырскага р-на***
***ад Гусак Лукер’і Савельеўны, 1930 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Мялешкавічы)***

## ЗАРУЧЫННЫЯ ПЕСНІ

### ОЙ, КАБ Я ЗНАЛА...

*Ой, каб я знала,*
*Каб я ведала*
*Хуткія заручыны,*
*Хуткія заручыны,*
*То й паслала б я*
*Свайго татачку*
*Да й у луг па каліну,*
*Да й у луг па каліну*
*Татачка пайшоў,*
*Увесь луг абыйшоў,*

*Без каліны прыйшоў.*
*Ой, каб я знала,*
*Ой, каб я ведала*
*Хуткія заручыны,*
*То й паслала б я*
*Свайго мілага*
*Да й у луг па каліну,*
*Да й у луг па каліну.*
*Міленькі пайшоў,*
*Да лугу не дайшоў,*
*Калінаньку найшоў.*
*Сонейка грэе,*
*Вецер вее,*
*Калінанька спее.*

***Запісана ў в. Хамічкі Мазырскага р-на***
***ад Мудрагель Н.Р., 1923 г.н.,***
***студэнткай Кулага В.***

**КАЛІ ЗАПРАШАЮЦЬ ГАСЦЕЙ НА ВЯСЕЛЛЕ**

*Да Танеччыная мамка* 2 р.
*Да па ельнічку ходзіць,*
*Да па ельнічку ходзіць,* 2 р.
*Да суседачак просіць.*
*Вы, суседачкі мае,* 2 р.
*Да прыходзьце да мяне,* 2 р.
*Да не так ужо да мяне,* 2 р.
*Як да майго дзіцяці* 2 р.
*Караваю ўчыняці.*

**КАРАВАЙ**

*Як мы каравай мясілі,*
*З Дунаю ваду насілі.*
*Насілі воду з крыніцы,*
*Мясілі каравай сястрыцы.*

* * *

*Наша печ рагоча,*
*Наша печ рагоча,*
*Караваю яна хоча.*
*А прыпечак заліваецца,*
*А прыпечак заліваецца,*
*Караваю спадзяваецца.*

*Абазваўся каравай у печы* – 2 р.
*Прыпаліў свае ён плечы.*
*– А дзе ж тыя каравайніцы?* 2 р.
*Ці на мёду запіліся?*
*Ці на мёду запіліся,*
*Што на мяне забыліся?*

Як каравай спяклі, яго трэба вынесці ў камору.

*Цераз сені ў камору*
*Зарасла сцежка травою.*
*О, я косу вазьму,*
*Да тую траву пакашу.*
*Да тую траву пакашу,*
*Каравай у клець занесу.*

*Сват кішэні верне,*
*Ды вывернуў ячневае зерне,*
*Палажыў на тарэлцы.*
*– Пастаў, сват, коні на мяжы,*
*Дай дадому па грошы бяжы.*
*– На мяжы коні не стаяць,*
*А дома грошы не ляжаць.*

**ПАСАД**

*– Засцілайце сталы,*
*Бо я іду!*
*Благаславі, ацец, маці,*
*Бо я іду!*
*– Багаслаўлю, мае дзіцятко, багаслаўлю*
*Да й на божы,*
*Пасадочак, ой, пасажу.*

**ВЯНЧАННЕ**

*Да вянца, да вянца Галечка*
*Пасыпала золата з рукаўца.*
*А хто золата сабярэ,*
*Той да вянца павязе.*
*Сабраў золата младшы брат,*
*Павёз да вянца старшы сват.*
*Упаў грабянец пад сталец.*
*– Падай, Ванечка, грабянец*
*Расчасаць косаньку пад вянец.*
*– Я ж табе не пасланец*
*Падаваць грабянец,*
*Расчэсваць косу пад вянец.*
*А дарогаю пыл пыліць,*
*А дуброваю дым дыміць.*
*А хто ето напыліў?*
*А хто ето накурыў?*
*Там Галечка з вянца едзе,*
*Коскамі напыліла,*
*Свечкамі надыміла.*

Спявалі, як забіралі з хаты маладую і вязуць яе да маладога:

**ШАЎКОВАЯ НІТАЧКА...**

*Шаўковая нітачка*
*Па сцяне б'е.*
*Маладая Галечка*
*Дабранач дае.*
*А гэты дабранач ні нанач,*
*А еты дабранач на ўвесь век.*

**ПАДАЙ, МАЦІ, МАЛАКО...**

*Падай, маці, малако,* 2 р.
*Я ж тваю кароўку пасла*
*Ад расы да расы,* 2 р.
*Памазаці косы.*
*Што мы хацелі,*
*Тое мы зрабілі:*

*З цеста – паленіцу,*
*З дзеўкі – маладзіцу!*
*З добрага цеста –*
*Добра паленіца!*
*З добрае дзеўкі –*
*Добра маладзіца!*

### ЧАКАЛА КОСУ ДЗЕВЯТНАДЦАЦЬ ГОД...

*Чакала косу дзевятнадцаць год,*
*Пацерала касаньку ў адзін вечарок.*
*Наехалі купцы-баяры,*
*Сцерлі касаньку, сам'ялі,*
*У падчэпчык схавалі.*

### ДАГАДАЙСЯ, ГАЛЕЧКА...

*Дагадайся, Галечка,* 2 р.
*Чаго маці ў клець пайшла.*
*Пайшла яна па завівало,* 2 р.
*Па тонкае, па беленькае,* 2 р.
*Для Галечкі маладзенькае.*

***Запісана ў в. Хамічкі Мазырскага р-на***
***ад Кулага В.А., 1950 г.н.***

### ЗБОРНАЯ СУБОТА

*Як мы з табою, Галечка, дружылі*
*Да ўсе лужочкі абхадзілі,* 2 р.
*Да ўсе цвяточкі пазрывалі,*
*Да ўсе цвяточкі пазрывалі,*
*На вяночак пазвівалі.*
*Да вілі вяночак з барвянку,*
*Да з вясёлага вяселку.*

***Запісана ў в. Хамічкі Мазырскага р-на***
***ад гурта жанчын***
***студэнткай Кулага В.***

## *Нараўлянскі раён*

### ЗАПОІНЫ

Жаніх з двума сватамі прыходзяць да маладой. Бацька і маці маладой запрашаюць іх садзіцца за стол і пачынаюць весці размову: “Чаго вы да нас завіталі, па якой справе?” Сваты адказваюць, што ім патрэбна для гэтага хлопца нявеста і ці згодны яны аддаць сваю дачку за яго ў жонкі. Бацька і маці адказваюць: “Калі дачка згодна і вашаму хлопцу яна спадабалася, то няхай самі і рашаюць”. Жаніх і нявеста згодны.

Бацькі маладой накрываюць на стол, ставяць гарэлку і розныя стравы. Першую чарку даюць маладому з маладой. Калі яны вып’юць, то, значыць, згодны. Сваты дагаварваюцца на суботу.

### ЗМОВІНЫ

Акрамя радні, маладая бярэ дзяўчын, княжных дружак, садзіць бліжэй да сябе. Калі ўсе госці паелі і выпілі, то дзяўчаты пяюць песні:

*Мама па двару ходзіць,*
*Белы ручкі ломіць,*
*Свайго татачку просіць:*
*– Ой, не аддай мяне, мой родны татачка,*
*За горы камяныя,*
*А схавай мяне,*
*Мой родны татачка,*
*За сталы цесавыя.*

### ЁЛАЧКА

Дзяўчаты абараняюць ёлку, каб дружкі маладога яе не ўкралі. Яловымі лапкамі б’юць іх па рукам і пяюць песні:

*Мы на ёлку хадзілі,*
*Свае ногі тапталі.*
*Пака ёлку спадабалі,*
*Чаравікі стапталі.*

*Ох, хвоя баравая,*
*У бару стаяла.*
*А як падала – зазвінела.*
*А на стол стала – заззяла.*
*Сваю маладу пазнала.*

Таргуюцца за ёлку. Дзяўчаты хочуць, каб ім далі больш і грошай, і гарэлкі.

Калі ўпрыгожуюць каравай і свечкі, спяваюць:

*Падляці, пчолачка,*
*Пад нову камору,*
*К вісокаму бору.*
*Прынясі восчэчку*
*Вані на свечку.*

Па дарозе да маладой пелі:

*Ой, мы едом, едом*
*Ды дарогаю следам.*
*Ой, там мы пастанам,*
*Дзе сваіх пазнаем.*
*Там мы заначуем,*
*Дзе сваіх пачуем.*

* * *

*Каравайная пара*
*Ды на покуці стала.*
*Ой, час началу*
*Ды нашаму караваю.*
*Сват каравай нясе;*
*А вы, людзі, чуйце,*
*Ды падарункі гатуйце!*

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шыкун Л.Я., 1934 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Галоўчыцы Нараўлянскага р-на),***
***студэнткай Гарадзецкай Г.***

### СВАТАННЕ

У сваты запрашалі звычайна дзядзькоў маладога або яго бацьку. У сваты ішоў і сам хлапец. З сабою яны бралі пірог і гарэлку. Прыходзілі ў хату дзяўчыны і ставілі ўсё гэта на стол. Заводзілі размову. Калі дзяўчына згаджалася ісці замуж за гэтага хлапца, то яна прымала і пірог, і гарэлку. Тады і сваты ішлі дадому вясёлыя, задзіраліся да сустрэчных. Калі ж не, то сваты ішлі дадому ціхенька, моўчкі, забіралі пірог, гарэлку, былі сумныя.

### ЗМОВІНЫ

На змовіны збіралі блізкую радню, рабілі стол. За сталом выпівалі гарэлку і елі пірог, якія прынеслі сваты. Маці молодой ставіла і свае прадукты, бо ўсе ведалі, што дзеўка свая. За сталом дамаўляліся наконт свадзьбы. Молодыя сядзелі побач, як на вяселлі. Пасля змовін усе рыхтаваліся да свадзьбы.

### КАРАВАЙ

У суботу пачыналі пекці коровай. Завуць коровайніц. Калі коровайніцы замешвалі цеста на коровай, то спявалі:

*Прыляці, пчолонька,*
*К Васілю ў каморку,*
*Прынясі воску на свечачку.*

У полдзень яго пяклі, спявалі, калі саджалі коровай у печ:

*Пойду до коваля ковеню ковaці,*
*Жар выграбаць, коровай саджаці.*

З астаткаў цеста ад коровая кожная коровайніца робіла собе шышку, якую потым несла сваім дзецям.

*Коровайная пара*
*Усё цеста пакрала:*
*То ў мех, то ў кішэню*
*Сваім дзецям на вячэру.*

Калі коровай у печы, то спявалі:

*Мы ўсе дзело зробілі,*
*Коровай у печ усадзілі.*

Покуль пячэцца коровай, коровайніцы гуляюць, спяваюць, танцуюць пад музыку, бо для іх граў музыка, якога запрашалі на свадзьбу. Калі коровай спячэцца, яго вымаюць, хваляць. Кожная каравайніца бярэ сваю шышку, заматвае яе ў белы плоточак і ідзе дадому.

### ЗБОРНАЯ СУБОТА

Збіраліся дружкі ў маладой, плялі ёй вянок з бярвінка, упрыгожвалі яго лентачкамі, надзявалі на галаву маладой. Як завіваюць маладую, то спявалі:

*Ой, што мы хоцелі,*
*Тое і зробілі:*
*З хлеба – поленіцу,*
*З дзеўкі – молодзіцу.*

*Кветочкі мое, ленточкі мое,*
*Дзе мне вас подзеваці:*
*Ці посмоліць, ці потопіць,*
*Ці молодшэй сястрэ оддаці.*

*Пашыла я плацце новенькае,*
*Ніколі не носіла.*
*Раз надзела*
*Ды на пасадзе села.*

*Думала ігла ўсю ракіту поломаць,*
*Не поломіла, толькі повалілa.*
*Мар'я думала татка развесяліць,*
*Не развесяліла, да горай засмуціла.*

Апошнім часам дык замуж ійшлі па любві, жадалі свадзьбы, то молодая, чакаючы жаніха, спявала песні, але ўжо тыя, дзе яна сама чакала прыезду жаніха.

*Зялёна рожа, жоўты цвет,*
*Чого цябе, Васілько, доўга нет.*
*Послала б пасланцоў – не смею.*
*Ой, пошла б сама – боюся.*
*Там стояць сторожы,*
*Яны мяне зловаюць,*
*Да по русой косе познаюць.*

Молодая:

*Насеяла чарнобрыўцаў шыроку граду.*
*Сказала Мар'я: "Замуж не пойду!"*
*Ой, хто ж мне чарнобрыўцы*
*Поліваць будзе,*
*А хто мяне молодую*
*Шкодоваць будзе.*

Молоды:

*А я ж твае чарнобрыўцы*
*Поліваць буду,*
*А цябе, молоду,*
*Шкодоваць буду.*

### ПРЫЕЗД МАЛАДОГА ДА МАЛАДОЙ

Каля хаты молодога збіраюцца дружкі – баярэ. Запрагаюць коней, упрыгожваюць іх і спяваюць. Потым едуць баярэ разам з молодым па молодую з крыкамі, песнямі, смехам, музыкай.

*Мамка Васіля родзіла,*
*По двору ходзіла.*
*Месяцам обгородзіла*
*Да зарою подперазала.*
*– Едзь, сынку, цёмнае ночы.*
*Бог тобе до помочы,*
*Анголы до радасці.*

* * *

*Піце, конікі, пойло,*
*Бо ў дорожэньку пойдом,*
*Дорожэньку побітую,*
*По дзевачку норовітую.*
*Конікі не п'юць, не ядзяць,*
*Толькі іржаць,*
*Толькі дорожэньку ждуць.*

*Ехалі, ехалі,*
*Загледзелі ў поле колоду.*
*Там узялі посталі.*
*Однэ кажа: "То медзведзь".*
*Друге кажа: "Калода".*
*А молоды кажа:*
*"Едзьце, не бойцесь,*
*То мойго цесця хата".*

### ВЯСЕЛЬНАЯ ЧАСТКА

У суботу збіраліся ўся радня і госці. Увечары пачыналі гуляць свадзьбу. Молодых саджалі за стол, сядалі і госці. Час ад часу маладых саджалі на покуце на кажуха. За сталом усе п'юць, гуляюць, молодых паздраўляюць. Молодым падавалі ўсё самае лепшае. Калі ўсе пілі гарэлку, то маладым падавалі настойку; усе п'юць з стаканаў, маладыя – з чарак. Увечары позна або ранкам дзялілі каравай. Вянок молодой прымяралі дружкі па чарзе, каб хутчэй замуж пайсці. У нядзелю ехалі вянчацца ў цэркаў, пасля вярталіся да маладой у хату. Молоды дарыў маці молодой чобаты, а молодая дарыла маці молодога сарочку. Яны надзявалі гэта і танцавалі, і спявалі:

*Ох, вы, чобаты мае!*
*Ето тыя чобаты, шо зяць даў,*
*Я за тыя чобаты дачку здаў.*
*Повешу чобаты на кручку,*
*Няхай робяць дзелечка за дачку.*

**ПАСЛЯВЯСЕЛЬНАЯ ЧАСТКА**

Пасля ўжэ госці збіраюцца дадому. Молоды вязе молодую дадому. Маладая развітваецца з бацькамі. Баярэ тым часам спяваюць маці молодой:

*Заполі, маці, свечку*
*Да побач, по-за печчу.*
*Ці хорашэ ў хаце*
*Без твойго дзіцяці.*
*Біся, мамко, о печ головою,*
*Шоб была молодою.*

* * *

*Ой, дзе ж мы постаном,*
*Постаном, дзе свое познаем.*
*Нашэ знокоме знакомітое,*
*Зверху накрытое.*
*Ломі, Мар'ічка, коліну*
*Ды страчай родзіну.*
*Работы, Мар'ічко, не бойся.*
*У нас вецер хату мяце,*
*А кошка ложкі мые.*

Праз тыдзень пасля вяселля матка молодого варыць солодкую кашу і едуць до бацькоў молодой і праслаўляюць там молодую.

***Запісана ў в. Сяменча Жыткавіцкага р-на ад Кавальчук Варвары Паўлаўны, 1920 г.н. (пражывала ў в. Канатоп Нараўлянскага р-на), студэнткай Каранеўскай Т.***

Молодую ж завіваюць. Молоду завіваюць, бацьку і матку гукаюць, гаворац:

*О, дзе ж наша маці была,*
*Калі нам завівайло дала.*
*Калі б яна ласковенько дала кудзельку.*

Стоіць дзве молодзіцы з адной стороны, дзве – з другой, і завіваюць молодую. І молоды сядзіць. Яны тры раза ўзмахваюць хусткою, а етыя спяваюць:

*Мы цебе, дзевочко, завіваем,*
*Шчасцем, долею насылаем.*
*Ой, будзь прыгожа, як ружа,*
*Ой, будзь багата, як зямля,*
*Ой, будзь быстрая, як вода.*

Так тры раза спяваюць і над ёй платком махаюць. А потом кажуць:

*Мы цебе, Васечка, падманулі,*
*Каля цябе стару бабу посадзілі.*
*Што мы хоцелі,*
*То мы і зробілі:*
*З цеста – поленіцу,*
*З дзеўкі – молодзіцу.*

Завязваюць яе, молодзіцую, этой хусткой, которой завіваюць. Вянка з яе здымаюць. А тады ўжэ спяваюць:

*Завівальнічкі скачуць*
*Да чаго ж яны хочуць?*

Сяброўкам наліваюць гарэлку. Дак пара з молодзіцою тудою ідуць, а етым – сюдою. Ім кідають грошы, і трэба чарку допіць, каб іх узяць, а потом оно дальшэ і пошло. Яна ж ужэ молодзіца.

А там забіраюць молоду, еслі ў чужэ сяло надо везці, беруць з собою дзве молодзіцы і едуць туды, до молодого.

А каравай пяклі і вельмі спявалі. Яго пякуць у суботу, а вечарам ужо ж свадзьба. Каравай пякуць, а мы спяваем і месім, і лепім.

Спявалі яшчэ так:

*Ішла дзевачка ў віноград.*
*Хто ў вінаградзе мяне найдзе,*
*Той со мной на пасадзе сядзе.*

Молодой спявалі вельмі красіво калісь:

*От, а йду я з вячорак,*
*Аж у мяне на подокенцы подбягають*
*До мяне сваты ў хату.*
*Рагочуць, аж яны гарэлачкі хочуць.*
*Я думала, што яны смяяцца,*
*А яны ўжо за стол садзяцца.*

Княжын доўжон выкупіць молодую. От ужо мы спяваем, доўжны прыехаць сваты. А тады, як ужо едуць, і ў хаце, то спяваем:

*Мір з міром міроваліся,*
*Сваха з свахою цалаваліся.*
*Да на лютым морозе,*
*На сённяшнім порозе.*

Ну, мы столькі ж спявалі, а ўсё ж не пускаем за столы садзіцца сватоў. Тады яны ўжэ начынаюць спяваць:

*Вон, сорокі, з хаты,*
*Годзе вам шчабятаці.*

А мы ім отвячаем:

*Мы не сорокі, мы не вороны,*
*Мы по полю не лятаді,*
*Сорокамі не шчабяталі.*

Потом ужо заходзяць сваты, а ўсе ўжо молодому пачынаюць спяваць, малыя кідають капейкі:

*Мы гэтых грошай не знаем,*
*На белыя помяняем.*
*Белыя невялічкі – молодой чаравічкі.*

Усе капейкі кідаюць, а мы ўсё спяваем:

*– Не гніся, княжын, не гніся,*
*Кладзі золата, садзіся,*
*Кладзі золата шчэ й друге, –*
*Казала Кацечка молода.*

Калі кідаюць мала грошай, то мы начынаем на сватоў нападаць:

*Хваліліся, што багатыя,*
*Аж яны скуповатыя:*
*Самі пяшком ішлі,*
*Молодого ў мяшку неслі,*
*А ногі торчалі, собакі ворчалі.*

Так пачынаюць сварыцца трохі. А потом усё ж такі сваты даюць нам пірага:

*Не самі мы прыйшлі,*
*Не самі мы пойдам.*
*Дайце нам цымбалы,*
*Штоб за намі гралі.*

Нам даюць ужо музыку і пірога, і водку даюць. Ужэ мы эці грошы забіраем, которые кідалі на тарэлку, каб выкупіць молодую. А потом нам даюць музыку, мы ідом у следуюшчую хату ілі ў клуб. І пошлі молодыя на пірог.

І от яшчэ, як едзе боярыня, ужэ едзе молоды:

*А ў месяца два рожкі,*
*А ў хлопчыка два браткі:*
*Адзін браток коней сядлае,*
*А другі – навучае:*
*Не бяры, братко, у золаце,*
*А бяры, братко, у розуме.*
*Срэбро-злото прыкупімо,*
*А розуму не ўложымо.*

Потым садзяцца ўжэ і збіраюцца дзяліць подаркі. Дак беруць дзве хорошых молодзіцы. Яны показуюць, хто якія подаркі заробіў. Прыдумляюць, корочэ, усякія выдумкі там. А потым і каравай еты спявалі:

*Дарую пчолы ў дубе,*
*Каб молоды молодую пацалаваў у губы.*

*Вазьму караваю кусочак*
*І яшчэ разочак,*
*І вып'ю чарачку,*
*І яшчэ разоў парачку.*

*Молодая дзевочко,*
*Молодая дзевочко,*
*Да ломай каліноньку,*
*Да ўстрачай родзіну.*

*Да сякуць, да рубаюць,*
*Да ў двор не пускаюць.*
*Пусціце хоця ручкі погрэці,*
*Молодое поглядзеці.*

*На добраноч, мой баценько, на добраноч.*
*А як будзеш на дорозе – заходзь на ноч.*

У понедзельнік ужэ жэняць старых, таму што молодыя ўжо большэ ўхажуюць, подаюць, старыя за столом убіраюць. Ну, обычно, садзілі матку, матцы подсажывалі мужыка свойго, еслі первое дзіця, а еслі не, то любого другого мужыка.

Накрасяць яго, яму бороду зробяць там. Старых жэняць, тады ўжэ песні спяваюць не очэнь добрыя, на возок садзяць, а еслі зімой, то на сані, да вязуць по вуліцы. А ў нас дак у цэнтры клуб быў, а там – плашчадка танцавальная. Везлі туды, а абернуць дзе-небудзь у канаву, рагочуць.

Цыганкі выберуцца, ідуць попераду і гадаюць. Я лічно была за цыганку, гадала ўперадзе ўсіх. Ето ўжэ ўся шутка ідзе. Старых жэняць, ето ўжэ чаго хочаш е. І водку нясуць, і закуску нясуць. Як людзі выходзяць на вуліцу поглядзець, дак усіх угошчаюць. Стопку нальюць, да закускі дадуць – і дальшэ. Гуляюць, корочэ.

***Запісана ў в. Карані Светлагорскага р-на***
***ад Малец Вольгі Якаўлеўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Кіраў Нараўлянскага р-на)***

Пачынаецца свадзьба са сватання. Сват жаніха: “У нас купец, у вас тавар”. Бацька нявесты: “Ёсць тавар, свежы, не гнілы”. Сват: “Знаем тавар, па тавару й купца прывялі”. Бацька нявесты: “Раз прыйшла чарга, то збываць пара”.

Далей нявесту выкупаюць. Сват бярэ кубак, кідае грошы і накрывае яго хлебам, ставіць наверх чарку гарэлкі. Аддаюць сяброўкам нявесты: “Во, падарак за яе”. Падружка кажа: “Не, нявеста не такая дзешовая”. Потым выводзяць нявесту і пераадзетую ў нявесту сяброўку, і жаніх угадывае сваю нявесту. Потым жаніх выкупае касу нявесты, а іначэ яе адрэжуць.

На нявесце павінен быць вянок, белы з зялёнымі лісточкамі ці з жывых цвятоў.

*Мы, сваты, з дарогі*
*Памарозілі ногі.*
*Па марозу хадзілі,*
*Галасок загубілі.*
*Пусці, сваццЯ, у хату,*
*Хаця ножкі пагрэць,*
*І маладую пасматрэць.*

*Хваліліся, што багатыя,*
*Аж яны скупаватыя.*
*Па смеццю хадзілі,*
*Чэрапочкі сабіралі,*
*Да кружэчок скупавалі.*
*Сват карман верне,*

*Да вывернуў зерне.*
*Загрэбай, матка, жар,*
*Будзе табе дочкі жаль.*
*А ты, свекруха, збірай трэскі,*
*Спадзявайся на нявестку.*
*Ой, не сматры, маці,*
*Бо не вязём дзіцяці.*
*Толькі вязём сані,*
*А на санях самі.*

Каравай быў упрыгожан выпечанымі кветкамі, касічкамі, лісточкамі, а ў сярэдзіне даўжна быць соль. Яго выпякала замужняя жанчына, а не дзеўка ці разведзёнка. Спявалі пры гэтым песні:

*Ой, каравай, каравай,*
*Мне для цябе горсць нужна.*
*Кораб мукі пшанічнай,*
*Цэбар вады крынічнай,*
*Частку масла ялавых кароў,*
*Капу яец маладых курэй,*
*Гарнец солі мядовай,*
*Гарнец ружы зялёнай,*
*Корч каліны чырвонай.*

А калі дзялілі каравай, то казалі так: "Благаславі, маці, свайму дзіцяці каравай пачаці раздаваці". Кажуць тры разы, а потым рэжуць.

Калі нявеста з жаніхом з'ездзілі ў ЗАГС, яны едуць да хаты жаніха, дзе суседкі пачынаюць збіраць выкуп з маладых, а потым благаслаўляюць. За сталом госці пачынаюць віншаваць маладых і дарыць падаркі:

*Колькі ў хаце дошчэк, каб было столькі дочэк.*
*Колькі ў хаце сярпоў, каб было столькі сыноў.*
*Дару куру-квактуху, каб нявеста пацалавала свякруху.*
*Дару зялёнага дуба, каб жылі люба.*
*Дарую целіцу, каб малады не лазіў*
*К чужым бабам пад спадніцу.*
*Дару ветку бярозы, каб муж быў цвярозы.*
*Дару каробку буракоў, штоб не ражалі дуракоў.*

Потым пачыналісь ігры: гаданне цыганкі, падстаўныя маладыя, калі на месца маладых садзяцца жанчына, пераадзетая жаніхом і мужчына-нявеста. Яны трэбуюць выкуп за места маладых.

Свадзьба спраўлялась тры дні. Трэці дзень для ўсіх, хто не быў на свадзьбе.

*Ой, у сенях за дзверыма*
*Цэшча з зяцем гаварыла:*
*– Ох, ты, зяцю, ты, мой зяцю,*
*Не абіжай маю дзіцяці,*
*Не трацъ яго маладосці,*
*Прыезжай пачашча ў госці.*
*Я мёд, віно буду рыхтаваці,*
*Цябе, зяцю, частаваці.*

***Запісана ў в. Ніжні Млынок Нараўлянскага р-на ад Гафальскай Марыі Фамінічны, 1923 г.н. (раней пражывала ў в. Нічыпараўка Нараўлянскага р-на), студэнткай Хмяльніцкай І. (1999 г.)***

## *Петрыкаўскі раён*

Свадзьбы рабіліся толькі ў мясаед!

Каб у сватах не апазорыцца, трэба было ўзнаць, ці пойдзе дзеўка замуж, таму хадзілі ўвечары.

У сваты хадзілі бацька, хрышчоныя бацькі. Са стараны дзеўкі – стол, са стараны хлопца – гарэлка.

Сваты пелі:

*Пусці , сваце, у хату,*
*Хаця ручкі грэці,*
*Хаця ручкі грэці,*
*Маладую паглядзеці.*

Калі хлопец едзе па маладую:

*Да рано ж, рано, як у нашым двары зазвінело.*
*Да рано ж, рано, не звінело – гаварыло.*
*Да рано ж, рано, маці сына паўчала,*
*Да рано ж, рано, у дарожку спраўляла.*
*Да рано ж, рано, мой сыночак ... (Дзімачка),*
*Да рано ж, рано, ой, як едзеш к цешчы на двор.*
*Да рано ж, рано, будзе цябе цешча ўстрачаць,*
*Да рано ж, рано, первым кубкам вітаць.*
*Да рано ж, рано, да ні пі кубка перваго,*
*Да рано ж, рано, і зліваю на грыўку.*
*Да рано ж, рано, штоб у каня грыўка мокра була.*
*Да рано ж, рано, штоб табе доля добра була.*
*Да рано ж, рано, штоб каня грыўка каняком ішла,*
*Да рано ж, рано, штоб цябе, маладога, дадому нясла!*

Маладая збіраецца з хаты:

*Хадзі, мамко, павячэраймо,*
*Хадзі мамка, павячэраймо,*
*А пасля вячэры да й падзелімся.*
*Табе, мамко, ніткі і бердзечко,*
*Табе, мамко, ніткі і бердзечко,*
*А мне кладзі палаценечко.*
*Табе, мамка, дома аставацца,*
*Табе, мамка, дома аставацца,*
*А мне нада ў чужу землю ўбірацца.*
*Не тужы ж, мамка, не плач,*
*Не тужы ж, мамка, не плач,*
*А заўтра буду тут я з мужам апяць.*
*Разганяйса ж, маці,*
*Разганяйся ж, маці,*
*Да па вялікай хаце.*
*Хто ў куток, хто ў запечак,*
*А я галавой аб прыпечак.*
*Перайду хату, перайду другу,*
*Сяду я на парозе.*
*Сяду я на парозе, а як успомню*
*Я мацерану роскаш...*

На вяночку ў маладой былі ўсе цвета, акрамя чорнага і жоўтага. Пасля свадзьбы выходзілі і здымалі фату з нявесткі і завівалі – завязвалі хустку – толькі тыя, хто пасля дзялілі каравай. Калі завівалі, спявалі:

*Завівай, завівай маю косаньку.*
*Сцерло, самяло, пад хустку схавало.*

Першыя елі каравай маладыя. Каравай выпякалі замужнія жэншчыны, тыя, хто ў пары жывуць. Разводку і ўдаву да каравая не дапускалі.

***Запісана ў в. Багрымавічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Бічана Міхаіла Фёдаравіча, 1928 г.н.,***
***Бічан Вольгі Фёдараўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Мяжэнька А.***

Сваты прыходзяць без ведама. Маладая не знала, што сваты прыйдуць. Сваты неслі бутылку гарэлкі, булку хлеба, як той, хто багаты, дык ужэ і сала возьме. Булку ўматвалі ў ручнік і лажылі ў кайстру. Цвятоў не няслі. Факт, што былі згавораныя бацькі. Сваты прыходзілі ўвечары. Сватаюцца: “Мо, ў вас іе карова, цяліца прадаць?” Сваты сватаюцца, калі дзеўка панаравіцца. Калі хлопец бедны, а дзеўка багата, доўжэн абязацельна браць, бо зямлі ў яе багата. Бралі ў сваты дзядзьку, брата, хроснага бацьку – адны мужчыны ішлі. На сватах намячаюць, калі свадзьба. Намячаюць свадзьбу, і ўжэ свадзьба. У суботу булі ўвечары сваты, а ў нядзелю на другі дзень к часам двенаццаці дня – запоіны. І збіралі ўсіх блізкіх. Казалі так: “Учора ў сваты, а сёння ўжо Лору запілі”. Дагаворваліся за два дні. Асноўная работа ў суботу – засватаць. Застаўлялі маладую ісці замуж. Як не хацела, то трэба було быць настойчывай з бацькамі, бо яны дамаўляліся. Ідзі і ўсё! Але було, што і адказваліся маладыя дзеўкі.

Хлопец браў усіх: і маці, і бацьку, і братоў, усіх. І ўжэ едзе па маладую. Усе яго родныя, якія ехалі па маладую, зваліся “бяседаю”. Ужэ прыехалі па маладую, і гэта “бяседа” пяе:

*Ой, на дварэ крук, вядро,*
*Чаму нашэй Веры не відно.*
*Ой, на калодзезі крук ляжыць,*
*Ой, наша Верачка па воду бяжыць.*

Тады выходзілі з хаты радзіцелі маладэе. Устрачаюць і прыглашаюць ету “бяседу” ў хату. П’юць, гуляюць. Саджаюць за стол, адбіраць маладую, выкупліваюць дружкі маладую ў дружак. Выкупляць, і етыя дружкі і другія дружкі ідуць у аддзельну хату (пакой) без маладой. Маладая ўжэ ў дзеле, з гасцямі сядзіць. Без яе “бяседу” не саджалі за стол. А тыя дружкі п’юць, гуляюць, у

іх свая яда. Завівалі маладую тры разы. Яе родны брат вадзіў па лавах вакруг сталоў. Маладога няма, як вядзе брат маладую за руку, а дружкі за яе руку дзяржацца, ідуць за ёй. Самае вядзе яе брат. Дружкі пяюць:

*Ой, брацейка, ой, да родненькі,*
*Чым я табе надакучыла?*
*Ці касою русою, ці сваёю красатою?*

Ён адпявае:

*Ні касою русою,*
*Ні сваёю красатою.*
*А сваімі сватамі,*
*Што з суботы прыязджаючы,*
*А ў нядзелю ад'язджаючы.*

Калі заводзяць маладую, пяюць:

*А сястрыца ўпіраецца,*
*Слёзкамі абліваецца…*

Бяруць маладую, брат потым садзіць яе ля маладога. І ўсе сыходзяць: і дружкі, і брат яе. Ужэ вязуць маладую. Малады забірае маладую. Ад маладэе пасцельніцы едуць разам з "бяседаю". Пасцельніцы вязуць пасцель з "бяседаю". Як яны едуць к маладому, тагды, што на дварэ ёсць, усё пазабіраюць: і курэй, і навойкі, і жорны, і ступу, і катоў. Ужэ пасмяюцца, да і прывязуць назад. Як прыедуць пасцельніцы з "бяседаю", вешаюць на ўсе жэрдкі дзераўяныя, якія ў хаці булі, вешаюць ручнікі, простыні, навалачкі, урэзвалі газеты, марлі. Засцілалі пасцель, падбівалі пасцельніцы падушкі. Эта іх работа. Ужэ пасцельніц первух саджаюць за стол у маладога. Адны пасцельніцы сядзяць. Яны колісь булі сама аўтаріцет. Іх кормяць, пояць.

Ужэ неўзабаве едуць ад маладой у хату маладога госці, зваліся яны "прыданыя". Маці маладой выправаджвае гасцей к маладому, кайстру (сумку) збірае. Сабірае прыданым сало, хлеб. Як ехалі "прыданыя", тагды робляць нову маладую ў яе хаце, бо тую забралі, робляць маладога, чучайла, вымазваюць у краску бурака. Выбіраюць маладога вялікага, моцнага, каб умазваў гасцей. І цыганку рабілі, яна была адзета ў чыстум. Як садзілася яна за стол, то сухары ў смятане сунула ў запазуху, штоб ужэ рагаталі. Яна садзілася шчэ ў лужу, у саму гразь і ўсхопіцца з андаракам, а тыя ўцякаюць. Яна іх даганяла, такія шуткі булі. Прыязджаюць "прыданыя", на дварэ кладуць касцёр у маладога. Усё збіраюць, што трэба і ня трэба. Паляць усё, пякуць сало і кажуць: "Му ехалі здалёк, пазахочвалі есці, а ву яшчэ не гатовыя". Пякуць сало, паелі. Ета такі быў абычай. І іх, "прыданых", прыглашае "бяседа" ў хату, ужэ за стол. "Прыданыя" пяюць:

*Ой, у нашага свата*
*Хароша хата:*
*Вокны з бярозы,*
*А прыданкі цвярозы.*
*Ой, сцянуліся сені,*
*Як прыданкі заселі.*
*Ой, не так жа сцянуцца,*
*Як прыданкі нап'юцца!*

Яшчэ як завівалі маладую, брат садзіў яе на кажух з маладым, штоб булі багатыя, колькі ў ім валосся, столькі каб було ўсяго, штоб мелі ўсё. Бо колісь жылі з рук усе. Ужэ як малады прывязе маладую к сабе з пасцельнымі, абсыпала яго маці, як у яе буў чалавек, а як яна адна, удава, дык родственнік, які ў пары. Даюць ложэчку і стакан з мёдам, жыта ў сподачку. Стаіць багата баб, але ж адна ета дзелае – ета маці. А нявестка тожэ бярэ да сыпле. Адкуль сыплюць, туды сыпле ў атвет.

Пяклі на свадзьбу каравай каравайніцы. У дзеўкі – свой, а ў хлопца – свой. Пяклі там і там. Выбіралі каравайніц замужніх, штоб булі ўсягда ў пары. Яны пелі:

*Ой, саседкі мае, матачкі,*
*Ой, хадзіце ву ка мне,*
*Не ка мне, а к майму дзіцяці,*
*Каравай будзем саджаці.*

А потым, калі даставалі каравай, то пелі:

*Ой, саседкі мае, матачкі,*
*Ой, хазіце ву ка мне,*
*Не ка мне, а к майму дзіцяці,*
*Каравай з печы будзем вынімаць.*

На каравай пяклі розачкі з цеста, вулепвалі верабейкі на ім. Адным словам, каравай быў у цвятах з цеста. Ужэ як ішлі, дык украшалі каравай яшчэ з зробленых цвятоў. Вунімаць каравай трэба було з гармонікам і барабанам. Ужэ дзеляць два чалавека ад маладэе і два ад маладога. Дзеляць і там, і там, і ручнікі ў тых завязаны, у гарманіста – ручнік, яго бралі, як ішлі на каравай. Маладэе бацька браў у маладога. Ужэ подзеляць каравай. Як няма бацькі, дык хросны, абязацельна мужчына з боку маладой – яе радство. Як яе бацька, то ён пераводзіць маладую ў маладзіцы: "Воля, хваціць ты гуляла дзявіцаю, ужэ будзь маладзіцаю". Здымае вянка і кідае, на галаву адзявае хустку. А той вянок кідае дружкам, надзявае на галаву і той, і той, каб ішлі замуж.

Як каравай дзялілі, дык гарэлі свечкі. Сваццёлка (абавязкова сястра маладога) дзяржала свечкі і ў маладога, і ў маладой. Славіліся сваццёлкі, як пасцельніцы. Сваццёлкі бралі дзве свечкі, з хлеба здзяруць скарынку, робляць у ёй дзве дзіркі – туды свечкі. (Ад маладога сваццёлка абавязкова). Свечкі пагараць, а скарынку аддаюць ужэ маладой, аддаюць тую скарынку. Свечкі, забірае сабе, а другую скарынку кідае ў калодзезь.

Бацька жадаў на каравае і шчасця, і долю, і век доўгі. Цётка жадала:

– Дару палена, каб малады пацалаваў маладую ў калена.

– Дару грошы, штоб дзеці булі харошы.

– Дару жызнь цвятушчу на сям'ю растушчу, навагоднюю ёлку, каб да года радзіла дачку-камсамолку.

Як свадзьба, дык трэба, штоб маладыя не на покуці штоб сядзелі. Между дзвярыма і акном, между вокен садзілі. На стол ставілі, што було, то і ставілі. У пачоце було абязацельно сало. Раней так людзі казалі: "От, свадзьба, було сало на стале". Яшчэ на стол ставілі кісель з бурака, штоб красны буў, то халоднае, то сухары ў смятане. Як хто багаты, то свадзьбу гуляюць тры дні, як не, дык адзін ці два дні толькі і ўсё. Трэці дзень называлі "хвост".

Цэлую нядзелю нельзя ехаць наведваць маладых. На другую нядзелю бяруць блізкіх родственнікаў і едуць ужэ маладыя к бацьку. Усё падгатаўліваюць ужэ, як і на свадзьбу. Ждуць дачку з зяцем. Ужэ гасцюющца.

***Запісана ў в. Грабаў Петрыкаўскага р-на ад Пацярайла Валянціны Якубаўны, 1932 г.н., студэнткай Сяргеенка С. (2005 г.)***

Маладая набірала сабе дружак: старшая, другая, трэцяя і самая маленькая называлася "хвосцік". І сколькі дружак, столькі князькоў. Возле маладой сядзяць дружкі, а радам – князькі. І кажно маладое што-небудзь дзяржыць, водна кветкі і семячок латок, водна падсоўвае тарэлку з семечкамі, хлопец бярэ семечкі, а дзяўчына ўшывае кветку. Садзяцца за стол і гуляюць, спяваюць. Абязацельно ўбіралі ёлку, хто хвою ў цвятах. Прыбраная ёлка, і свечкі гарац на ёлке. І спяваюць:

*Ой, ёлка зялёна,*
*Як у лесе стаяла, шумела,*
*Як у лесе стаяла, шумела,*
*На стале стала – заззяла,*
*На стале стала – заззяла,*
*Маладую Олечку зазвала.*

Гэта спяваюць дружкі.

Вянок быў з велена, марлі. Старыя жанчыны выпякалі вясельны каравай. Дзеляць каравай, сначала маладой даюць.

Патом малады забірае маладую к сабе, і там тожэ дзеляць каравай. Сначала давалі родственнікам, потым саседзям. Маладая ўжэ ў маладога, і ўжэ ідуць, нясуць прыданне к маладому ад маладой. Хто забіраў і нёс пасцель, тых называлі "пасцельніцы". Яны ўбіралі ў хаце.

Патом знімаюць вянок з маладой і платок надзяваюць. Гэта значыць, што яна жэншчына.

***Запісана ў в. Макарычы Петрыкаўскага р-на ад Перарэжка Лідзіі Майсееўны, 1931 г.н., студэнткай Цыхан І.***

## СВАТЫ. ЗАРУЧЫНЫ

Гулялі. Дружылі. Раньшэ, ваабшчэ, яшчэ бацька з мацерай куды павядзе, ды там і аставаўся. Так і жылі. А патом ужэ і дружылі. Сваты прыходзілі, хадзілі бацька яго, бацька кросны, дзядзька, дзед. Што бралі? Гарэлку і ўсё. А тут ужо была свая закуска. Дзяўчына была сагласна і ўсё. Ну, што дагаварываліся. Садзяцца, выпіваюць, пагулялі. Дагаварываюцца на заручынах, калі свадзьбу гуляць.

Усё гатавалі. Што ў каго было. Блінчыкі пяклі, халоднае варылі, кабана ж білі. На каравай сабіраліся жэншчыны, пеклі ў чацвер. Спявалі песні. Я іх не знаю.

## ВЫКУП

Ёлку рабілі. Ёлка абыкнавенная. З лесу прыносілі ёлачку. Яе ўпрыгожвалі бумажкамі. Разнацветныя рабілі цветы. Ну, патом ужэ, калі свадзьба, і патом ужэ бралі тую ёлку, калі выкупвалі маладую. Грошы давалі, гарэлку давалі. Яны ж цаніліся. Дружкі сабе, а шчадрушкі сабе па лаве бегалі. А гэтыя княжы іх білі рэмнем, княжы – дружкі маладога.

Гуляюць спярша ў маладое, а патом маладую забіраюць. Пасцель забіраюць. І там ужэ вянок знімаюць. Вянок жа, цяпер фата, а раньшэ вянкі былі з марлі здзеланы. Цяпер жа ж купляюць, а раньшэ з марлі дзелалі, накрухмальвалі, і такі быў вяночак. Там ужэ, у маладога, знімаюць вянок і завязваюць платок. Ты ўжэ жэншчына, а не дзеўка.

На каравай дарылі, прыказкі ўсякія гаварылі.

Свадзьба за першым сталом пабыла, за другі стол садзіліся. Ужэ каравай трэба дзяліць. Бацька хросны вызываў па вочарадзі. Нашае маладое бацька ці маці, сястра. Вызывалі па вочарадзі. Каждый падходзіў, каждый дарыў. І

грошы дарылі, ну, хто што. Хто курэй дарыў, хто парасёнка, хто карову дарыў.

Маці сустракала. Мёд давала, каб сладкая жызнь была. Вянок знімалі, платок завязвалі.

У маладога ўжо назаўтра прыязджала маладое бяседа. Ужо садзяць за стол тых.

Перад гэтым маладая выходзіць, цалуецца з ўсімі. Яна тута ўжэ вродзе іх сустракае. А патом за стол садзяцца. Гуляюць. Патом зноў. Пагулялі ў клубе, прыходзяць, садзяцца за стол. Зноў каравай дзеляць. Маладое ў маладое дзеляць каравай. Менялі каравай. Спявалі: “Первым разам, лучшым часам благаславі, ацец і маць”. Другім разам таксама спяваюць. І трэці раз і становяць на стол. І бацька разразае і вызывае ўсіх па вочарадзі.

Раньшэ маладая жыла ў свякрухі цэлую нядзелю. А патом ужэ прашла нядзелька, ужэ сабіраюцца маладога госці. Ідуць к маладой гасціць. А другую нядзелю ўжэ к маладому ходзяць, яшчэ пасля свадзьбы госцяць.

***Запісана ў в. Новыя Галоўчыцы Петрыкаўскага р-на ад Лосевай Ніны Мікітаўны, 1939 г.н., студэнткай Кажамяка М.***

Свадзьбу пачыналі гуляць у мясаедныя дні. У постныя дні нельга было гуляць свадзьбу. Гуляць свадзьбы пачыналі пасля Каляд і да самае Пасхі.

У сваты ходзяць бацька з мацераю і хросныя. Малады ўсягды дагаварваўся з маладою, калі прыдуць у сваты. Калі шлі ў сваты, бралі з сабою гарэлку, пірог і г.д. Па дароге, ідучы ў сваты, яны пелі песні:

*Запрагай, сваце, коні*
*Да паедам у дарогу,*
*Бо дарога наша шырокая,*
*А Танечка наша далёкая.*
*Не пераходзьце, варагі, дарогу,*
*Бо дарога шырока,*
*А Танечка наша далёкая.*
*А ў нашага свата*
*Жэсцяная хата,*
*Печ яго пабеленая,*
*Чэсць яго да каханая.*

А калі ўжо прыходзілі і заходзілі ў хату, гаварылі:

– Мы прышлі пакупаць у вас цяліцу, маладую красавіцу. Вот нам сказалі, што прадаецца ў вас цяля, а вы даўжны яе нам прадаць.

Потым сваха запрашала сватоў за стол. І за сталом дагаварывались, на які дзень свадзьба.

У дзень свадзьбы маладая надзевала абязацельна белае плацце. Вянок у маладой быў самадзельны. Дзелалі яго на провалачкі, цвяточкі дзелалі із красівай бумагі, з васковае свечкі дзелалі шышачкі, галушачкі і прывязвалі к вяночку цвяточкамі. Фата была ў каго длінная да пят, у каго ніжэ пояса, а ў каго ніжэ плеч. Калі прыязджаюць сваты на двор і просяць ужо свата, штоб хутчэй пусціў у хату. І пеюць такую песню:

*Пусці, сваце, у хату*
*Хаця ручкі пагрэці,*
*Хаця ручкі пагрэці,*
*Маладую паглядзеці.*

Вянчацца ездзілі ў цэркаў да свадзьбы. Калі адпраўлялі вянчацца, абсыпалі жытам. Гэта такі абрад. Прыязджалі ўжо з вянчання, устрачалі маладых з хлебам і соллю, з караваем. Абсыпалі жытам, грашыма, канфетамі.

Каравай выпякалі маладыя жанчыны, каторыя не былі разводкамі, удовамі і былі першы раз замужам. Каравай пяклі вялікі, у цеста лажылі два яйца і сажалі яго ў печ.

Каравай начынаюць дзяліць пасля вяселля, калі садзіліся за другі стол. Каравай нясе дзяліць хросны бацька маладой. Вызываюць трох чалавек і благаслаўляюць каравай:

– Благаславі, ацец і маці, каго Бог саздаў у хаце, каравай уносіці. Першым разам, лепшым часам. Другім разам, лепшым часам. Трэйцім разам, лепшым часам. Ставяць каравай і прыказваюць:

– Благаславі, ацец і маці, каго Бог саздаў у хаце, каравай дзяліці (3 раза).

Каравай пачынаюць дзяліць дружкі. Усім дружкам, каторыя будуць дзяліць каравай, павязваюць палаценца цераз плячо і начынаюць вызываць, первых – радзіцелей маладой. Бацька і маці дораць карову. Еслі паляць свечкі, дык свечку далжна маці з бацькам патушыць, дораць кароваю ці цяліцаю, і прыказваюць:

– Дару цяліцу тую, што скача з печы на паліцу.

У прыданае даюць сундук з прыданым. Маладому ў прыданае даюць прыўсадзебны ўчастак, пару лашадзей, сенакос, землю, якая ізмералась у дзесяцінах.

Пасля таго як падзялілі каравай і раздалі, тады ад маладое рукі і маладога дзве жанчыны ішлі на прыстол і снімалі вянок і адзявалі платок. Вянок лажылі за ікону, там, дзе сядзелі маладыя. Ікона вісела перад маладымі. Маладых усегда сажалі на кажух, сколькі будзе ворсу ў кажуху, то столькі будзе шчасця і багацтва.

Першы кусок каравая давалі маладым. Абязацельна, штоб маладыя ўкусілі з этага куска самі. А бацька з мацераю прыказываюць:

– На чужы каравай рот не разяўляй, а свой май, штоб вы жылі, багацелі і свой хлеб мелі.

Пасля свадзьбы маладую забіраў малады к сабе дадому. Сажаў на сундук і вёз на кані к сабе дадому. І маладая не даўжна была іці дадому тры дні к сваёй мацеры. Такі быў закон.

***Запісана ў в. Кацуры Петрыкаўскага р-на ад Плікус Марыі Сцяпанаўны, 1930 г.н., студэнткай Яновіч М.***

У сваты звычайна прыходзілі ў суботу. Прыходзіў бацька, маці, хросны бацька і хросная маці, а таксама маглі яшчэ прыйсці родныя. Сваты прыносілі з сабой хлеб, соль і водку. Калі нявеста не была згодная, то насустрач сватам выносілі гарбуз. Калі дзяўчына была згодна, то маці перавязвала сватоў ручнікамі. Сваты адразу не гаварылі, з якой мэтай прыйшлі. Спачатку пыталі, як пажываюць гаспадары, што яны згубіліся і прыйшлі спытаць, ці ёсць у іх маладзіца, бо ў іх ёсць добры хлапец. Казалі, што ім падказалі, што дзяўчына добрая і можа саздаць новую сям'ю. Калі маладая была сагласна, то гаспадары запрашалі гасцей за стол, выводзілі паказаць ім дзяўчыну. Дзяўчына кланялася гасцям і давала сваю згоду.

Заручыны асобна не праводзілі. Сватанне і заручыны праводзілі ў адзін дзень. У гэты дзень, пасля згоды нявесты, садзіліся за стол і абмяркоўвалі тады дзень вяселля, дзе будуць святкаваць і дзе будуць жыць маладыя, абмяркоўвалі ўсе пытанні, якія хвалявалі. Яшчэ, як толькі прыходзілі сваты, то яны правяралі парадак у доме, зазіралі на прыпечак, залазілі на шкаф і правяралі, ці ёсць пыль. Усё гэта рабілася з шуткай.

Абавязковымі стравамі быў, канешне, каравай. А яшчэ на трэці дзень свадзьбы выносілі на стол непачаты лепень. Ставяць на галаву дружке. Яна яго ставіць на стол, а бацькі нявесты разразалі і дзялілі на ўсіх гасцей.

Лепень – гэта вялікі пірог, упрыгожаны вітушкамі, розачкамі, са сладкай начынкай, якім угашчалі гасцей у панядзелак. Унутр пірага клалі начынку з расцёртых з сахарам свараных яблак, ягад і розных фруктаў, якую змешвалі з вараным рысам.

Напярэдадні вяселля праводзілі дзявічнік, або дзявочы вечар. Вечар праводзілі ў пятніцу. На вечар прыходзілі ўсе сяброўкі нявесты, усе незамужнія дзяўчыны. Дзяўчаты дзяліліся парадамі, спявалі, танцавалі.

Пекці каравай запрашалі жанчын, якія шчасліва жылі ў сямейным жыцці. Каравай пеклі ў пятніцу вечарам у хаце маладой. Двух каравайніц, якія будуць пекці каравай, звязвалі ўмесце красным поясам або лентай, штоб маладыя жылі дружна, не разлучаліся. Каравай учынялі, размешвалі і пелі песні. А ў печ даўжон быў пасадзіць каравай кучаравы хлопчык.

Каравай украшаюць завітушкамі, розачкамі, вінаградам.

На дно блюда пад каравай лажылі дзве драўляныя лыжкі, сыплюць зерне, лыжкі перавязваюць краснай лентай, клалі маленькае зеркальца і грэбень. Ўсё кладуць ў платочак і завязваюць у вузел, які потым уручаюць маладой, і яна павінна берагчы гэта ўсё жыццё. Затым розачкі ад каравая раздавалі маладым нежанатым хлопцам і дзяўчатам. Каравай дзялілі вечарам на першы дзень. Дзялілі хросныя бацькі нявесты і жаніха. Спачатку дзялілі каравай нявесты. Дзялілі на столькі кавалкаў, колькі было гасцей. Да каравая вызывалі па чарзе ў залежнасці ад таго, наколькі бліжэйшая радня. На талерку пустую ставілі дзве чаркі і наразалі кусок каравая, бралі каравай салфеткай і клалі на талерку. Падыходзілі вызваныя госці і гаварылі пажаданне, віншаванне, дарылі падаркі, а потым выпівалі чаркі і забіралі свой кавалак каравая з талеркі.

Пасля дзялілі каравай жаніха. Па чарзе падыходзілі бацькі, браты, родныя і сябры. Сярэдзіну каравая аддавалі маладым, а дно каравая аддаюць музыкантам.

Перш, чым паехаць к нявесце, жаніха абводзілі тройчы вакол стала, бацькі благаслаўлялі маладога.

Нявесту ў суботу раніцай прыбіралі дзяўчаты, рабілі ёй прычоску. Нявеста сядзела пасярод хаты на кажуху. Маці і бацька давалі ёй благаславення, праводзілі тройчы вакол дзяжы.

Маладую не выводзілі адразу да маладога. Спачатку дружка і дзяўчаты трэбавалі выкуп за нявесту. Яны прыдумлялі розныя гульні, таргаваліся з дружынай маладога. Калі дружына маладога выканае ўсе запатрабаванні дружкі і пройдзе ўсе перашкоды, то тады толькі паказвалі нявесту. Пры выкупе гаварылі:

– У нашай нявесты адна броў 100 тысяч, у нашай нявесты каса 100 тысяч і г.д.

Нявесту выводзіць да жаніха сваха ці брат і не голай рукой, а за ручнік.

Перад вянчаннем маладыя не павінны есці. Маці з бацькам абходзяць тры разы вакол машын. Маці нясе ікону і абсыпае машыны зернем. Калі ехалі да вянца, нельга было ехаць праз могілкі. Калі прыходзілі да вянца, то рассцілалі ручнік і станавіліся маладыя на ручнік. Потым бацюшка даваў вянцы. Дружка з другам стаялі ззадзі за маладымі і трымалі гэтыя вянцы над галовамі маладых. Дружка дзяржала маладому, а

дружка – маладой. Бацюшка рабіў абрад. Калі ішлі, то ручнік працягвалі, каб ішлі па ручніку, а не па голаму палу. Маладыя абходзілі вакол ікон. Нельга было, каб затухла свечка ў руках маладых, бо як затухне, то той памрэ хутка.

Пасля вянца маладыя ехалі да маладой. Іх сустракалі бацькі маладой з хлебам і соллю і ў вывернутых кажухах або шубах мехам уверх. Нявеста спрашвала, чаго яны махнатыя. А бацькі адказвалі: “Каб былі багатыя”. Маці павінна быць у плацці, а не ў касцюме, каб маладыя ніколі не разлучаліся. Маці трымае ў руках на ручніку хлеб з соллю. Маладыя адкусваюць хлеб, хто большы кусок адкусіць, той і будзе галоўны ў сям’і. Маці яшчэ корміць маладых мёдам, каб жылося салодка, абсыпае зернем, арэхамі, капейкамі і лепесткамі роз, змешанымі разам. На вуліцы заслана дарожка да самага крыльца. Маладыя выпіваюць па чарцы і павінны, перакідваючы назад, разбіць чарку. Калі чарка разаб’ецца, то гэта добра, будуць жыць багата і шчасліва.

Бацька ўручае маладым дзве драўляныя лыжкі, звязаныя краснай лентай, а маці перавязвае маладым рукі платком і ўводзіць у хату. Калі маладыя пераступілі парог, то маці замукае замок, які ляжаў пад парогам, а ключ кідае на дно калодца, каб ніколі не разлучаліся. Маці перадае платок свецілке, і тая абводзіць маладых тройчы вакол стала і аддае мацеры. Маці вядзе маладых на пасад. За стол садзяцца на кажух або шубу, мехам уверх.

Перад тым, як ехаць пасля гуляння дадому к маладому, нявесце здымаюць фату. Фату здымаюць жанчыны, шчаслівыя ў сямейным жыцці. Замест фаты надзяюць хустку, а фату надзяюць дружке. Калі нявеста ўходзіць, то кідае букет туды, дзе стаяць маладыя незамужнія дзяўчаты. Хто схопіць букет, той хутка выйдзе замуж.

Хросная або цётка забірае падаркі і прыданае і нясе ў машыну. У хаце маладога сцеле пасцель маладым. Бацька здымае ікону і аддае маладой. Маладыя кланяюцца бацькам і едуць да маладога.

У маладога дома сустракае маці з бацькам маладога. Маладыя кланяюцца ім. Усе заходзяць у хату, а маладыя ідуць спаць.

Сабіраліся ўсе, хто быў на вяселлі, гарадзіць забор у панядзелак. Хто-небудзь перадзяваўся ў маладых. Дружына маладога павінна была і гарадзіць забор. Было аднята прасла забора, і трэба было паказаць, як яны гародзяць забор.

***Запісана ў в. Пціч Петрыкаўскага р-на ад Говін Тамары Іванаўны, 1946 г.н., студэнткай Дыба Г.***

## *Рагачоўскі раён*

Вяселле пачыналі гуляць з суботы. Гэта называлася заручыны. Пасля вянца малады вёз маладую к сабе дадому на абед. Маці маладога падносіла маладым хлеб-соль. Лічылася, хто больш адкусіць, той і будзе галавой сям'і. Пасля абеда маладая ехала дадому. А праз некалькі гадзін малады ехаў за маладой. Але яму падводзілі тры падстаўных нявесты, ад якіх ён павінен быў адказацца. А сапраўдную нявесту маладому падводзіў яе брат. Маладую забіралі пасля 24 гадзін. У хаце маладога свякруха здымала з маладой фату і павязвала хустку.

У нядзелю дзялілі каравай у маладога. Потым ён адзін ехаў па цёшчу. І там дзялілі каравай маладой. Каравай дзялілі трое мужчын. Перад тым, як падзяліць каравай, прасілі благаславення ў бацькоў. Пасля дзяльбы каравая зяць забіраў цёшчу з цесцем і ўсіх гасцей, вёз да сябе. І там гулялі вяселле.

Гэтую песню пелі дзеўцы-сіраце, калі яна збіралася к вянцу:

*Зялёная да дубровачка,*
*Зялёная да дубровачка,*
*Чаго ў цябе да пянёчкаў многа,*
*Парастку – да ніводнага.*
*Маладая (імя), чаго ў цябе*
*Парадачку да ніводнага.*
*Да іе каму піці, есці,*
*Да іе каму піці, есці,*
*Да некаму парадачку весці.*
*Да іе каму весяліцца,*
*А некаму пажурыцца.*

***Запісана ў в. Побалава Рагачоўскага р-на ад Ананенка Кацярыны Мацвееўны, 1941 г.н. (перасяленка з в. Сувалы Брагінскага р-на), студэнткай Дзялец М.***

У сваты хадзіў бацька родны, хросны, дзядзькі. Бралі з сабой 5 сватоў і болей. Бралі пірагі, гарэлку. Прыходзілі ў хату, клалі пірог на стол. І калі дзяўчына была згодна на шлюб, то яна разразала той пірог. А як прыязжалі з другога сяла, то пыталі:

– Вы галубку прадаеце?

І да іх падводзілі якую-небудзь дзяўчыну. Яны адказвалі:

– Гэта не тая, у нашай галубкі пярынка вісіць на шыі.

І тады выводзілі дзяўчыну, якой на шыю вешалі пярыну, калі яна была згодна на шлюб.

Калі ўжо дзяўчына згодна ісці за хлопца замуж, то пасля сватання рабілі заручыны. Звалі суседзей, сяброў. Гулялі, упівалі. Не заўсёды мяняліся пярснямі.

Збіраліся ўвечары перад вяселлем маладая з сяброўкамі. Пелі песні пра яе жыццё, якое будзя пасля вяселля. Сумавалі, плакалі.

Каравай замешвалі ў самай бальшой дзяжы. Замешвала тая жанчына, якая добра жыве з мужыком. Каравай дзялілі пасля таго, як брат распляце касу, княжые плацілі яму грошы. Фату вешалі на кут. Пасля таго за сталом дзеляць каравай. Дзяліў хросны. Спачатку давалі каравай бацькам. Яны дарылі падарункі і благаслаўлялі маладых.

На пасад жаніха вёў дружок. Вялі за ручнік, каб не голая рука была, каб багаты быў. Бацька абводзіў маладога 3 разы вакруг стала. Калі прыходзілі сваты, бацька дае благаслаўленне.

Нявесту на дзяжу абавязкова садзілі.

Маладога ў маладой сустракалі родзічы яе, хросная, сяброўкі. Маладую хавалі дзе-небудзь. Сустракалі дружыну жаніха. Не пускалі яго ў хату, пакуль не выкупіць нявесту. Таргаваліся з жаніхом, пакуль ён не дасць грошай і не скажа як мага болей ласкавых слоў пра нявесту. Потым выводзяць нявесту да маладога.

Быў такі абрад – "злучэнне маладых". Калі малады выкупіць маладую, тады іх абводзілі 3 разы вакол стала, потым садзілі за стол і садзілі на кажух.

Пасля вянца маладых сустракалі бацькі, калі яны добра жывуць. А калі бацькі ці маткі няма, то сустракалі іх хто-небудзь з родных. Але каб у пары былі. Бо маладыя тады тожа плоха жыць будуць. Сустракалі з хлебам і соллю, з мёдам і гарэлкай. Давалі кусаць хлеб. Хто болей укусіць, той і глаўны ў сям'і будзе. Выпівалі гарэлку. Малады разбіваў чарку. Гарэлку выліваў праз левае плячо. Елі мёд, каб жыццё салодкае было.

Перад тым, як паехаць да маладога, маладую бацькі абводзілі вакол стала. А брат збіраў падушкі і іншае. Матка з бацькам давалі настаўлення. Матка галасіла, бо не хацела, каб дачка з хаты шла. Пелі песні. Жадалі добрага жыцця. Маладая садзілася на парог свайго дома. Прашчаецца з ім. Матка давала ей ікону. Абсыпалі жытам коней, на якіх паедуць.

У маладога іх сустракаюць бацька з маткай. Тожа хлеб і соль выносяць. Маладая пасля таго, як бацька з маткай жаніха сустрэлі іх, то яна называе іх татай і матуляй. Значыць, яна ўжо іх дачка. Потым ідуць за стол. Пяюць песні маладым, жадаюць ім добрага жыцця. Дзеляць каравай, даруюць, у каго што ёсць. Гуляюць, песні пяюць.

На трэці дзень людзі прыходзілі і прыносілі з сабой кур. Гэты дзень называўся "кура". Усе,

хто гуляў на вяселлі, прыносілі. Хто курыцу з пулянятамі, хто адну курыцу. Перадзяваліся ў жаніха і нявесту хто-небудзь з родных. Бацька мог перадзецца ў маладога, а матка – у маладую. Тады весела так было, гулялі, смяяліся.

***Запісана ў в. Кашара Рагачоўскага р-на ад Смяян Марыі Грыгораўны, 1920 г.н. (перасяленка з в.Сувіды Брагінскага р-на), студэнткай Смяян С.***

*Давай, мамка, да падзелімся,*
*После вячэры да й раздзелімся.*
*Табе, мамка, да кадушачкі,*
*А мне, мамка, усе падушачкі.*
*А табе, мамка, усе харомачкі,*
*А мне, мамка, усе каровачкі.*

* * *

*А мы сюда да не ехалі,*
*Самі коні да прыехалі.*
*Пусці, сваце, у хату.*
*А ў нашага свата*
*Да харошая хата.*
*Печ яго пабялёная,*
*Печ яго пабялёная,*
*Сваха наша да вясёлая.*

***Запісана ў в. Стоўпня Рагачоўскага р-на ад Баран Евы Адамаўны, 1940 г.н., студэнткай Кулак А.***

Раней жа як было. Захацелі бацькі, каб сын браў гэту ці іншую дзяўчыну – ён і браў яе замуж. Бывала, малады з маладою ні разу не сустракаліся, нават не відалі адзін аднаго. Цяпер жа жэняцца толькі тады, калі згаворацца самі маладыя людзі. Часцей за ўсё яны задоўга да шлюбу знаёмяцца, гуляюць, дамаўляюцца паміж сабой, а потым гавораць бацькам. Малады з бацькамі выбіраюць дзень і едуць да нявесты і яе бацькоў (пры гэтым яны бяруць з сабой хлеб, соль, гарэлку, сала, ручнік).

Заходзяць у хату. Адразу не гавораць, чаго прыехалі, а нібы гандлююць што-небудзь, напрыклад, кажуць, што прыехалі купляць цялушку. Бацькі нявесты адказваюць:

– А наша цялушка бадліва, брыкліва, крыклівa, калюча.

Сваты ж не здаюцца, не цяраюцца, на цялушку згаджаюцца. Ставяць на стол гарэлку, хлеб, сала, соль. "Запіваюць" нявесту. Так адбываюцца запоіны або заручыны.

Падпіўшы, пачынаюць спяваць шмат песень. Сярод іх і наступную:

*Сваты хаты да й не ведалі*
*Ды ў хлеў заехалі.*
*Бычку ручку далі,*
*А кароўцы шапку знялі,*
*А з цялушкай прывіталіся,*
*А авечачцы пакланіліся.*
*Свіння тут падзівілася,*
*Са смеху пакацілася.*

Адзін сват пытае:

*– А дзе ж ваша маладая?*
*А жывёлы засмяяліся:*
*– Не туды сваты папаліся.*
*На дварэ стаіць святліца,*
*Там жыве красная дзявіца.*
*Сватам сорам стала –*
*Заручыны йдуць нядбала.*

На заручынах дамаўляюцца пра дзень вяселля.

Вяселле звычайна пачынаецца ў суботу. Але каравай пякуць у суботу. Але ў пятніцу ў сярэдзіне дня, учыняюць каравай. Замешвае каравай часцей за ўсё хросная маці. У час падрыхтоўкі караваю спяваюць шмат песень:

*Караваю, мой раю,*
*Караваю, мой раю,*
*Я каля цябе іграю,*
*Я каля цябе іграю,*
*Я цябе прыбіраю.*
*Навокал сыр і масла,*
*Пасярод – доля і шчасце.*

Калі малады з сябрамі і роднымі едзе за маладой, спяваюць:

*Да, ой, борам, борам да баравінаю,*
*Да хто ж там едзе да вечарынаю?*
*Да, ой, едзе, едзе да Іванка п'яны.*
*– Адчыніся, Ленка, да я твой каханы.*
*– Я не адчынюся, мамкі баюся.*
*– Я ж тваёй мамачцы скланюся,*
*У цябе, маладой, нанач папрашуся,*
*Ноч паначаваці, цябе таргаваці.*
*За русую косу тры талеры даю,*
*За цябе, маладую, тры тысячы дарую.*

Як прыязджаюць, маладую трэба выкупіць. Малады выкупляе грашмі, гарэлкай. Маладую прыбіраюць, як ляльку. Цікава адзначыць, што маладая не адзявае вянка, пакуль не прыедзе малады.

Маладыя ад'язджаюць у сельсавет на рэгістрацыю. Пасля іх вяртання ўжо прыгатавана снеданне, а іх сустракаюць у каліткі з хлебам-соллю, віншуюць маладых, абсыпаюць іх жытам, жадаюць багатай долі. Пасля трэба выпіць тры чаркі, а апошні раз чарку трэба разбіць аб зямлю. Хто і чыя першая разаб'ецца, той і хазяін у хаце. Пасля кусалі хлеб з соллю, хто больш адкуся, той і

больш кахае. Маладым ручніком завязвалі рукі і вялі ў хату.

Маладых садзяць на кут. Справа ад маладога садзіцца нявеста, сведка, сваякі, злева ад маладога садзяцца сведка (дзяўчына), сваякі. Бацькі наліваюць гарэлку, благаслаўляюць маладых, усе крычаць "горка". Маладыя імкнуцца адкупіцца цукеркамі, але ім гэта не ўдаецца. Крыкі "горка!" сціхаюць тады, калі маладыя пацалуюцца.

У час застольнай бяседы пяюць многа песень:

*А ў нашым садзе паспелі вішні –*
*Узялі нявестку пад свае мыслі.*
*А ў нашым садзе паспелі дулькі –*
*Узялі нявестку пад свае думкі.*
*А ў нашым садзе селі цяцеры –*
*Узялі нявестку, каго хацелі.*
*А ў нашым садзе агрэст рагаты –*
*Узялі нявестку з багатай хаты.*
*Танцы, песні бясконца.*

Пасля працяглага пачастунку выносяць каравай і ставяць яго на стол. Гавораць: "Благаславі, ацец і маці, і добрыя людзі, каравай падаці" (паўтараюць тры разы).

Каравай дзеляць і пры гэтым выказваюць пажаданні шчаслівага жыцця маладым, напрыклад:

– Жадаю вам долі, шчасця, здароўя, як у зялёнага дуба, каб жылі люба, каб позна не спалі, рана ўставалі, добра працавалі, каб быў хлеба кусок і дзяцей куток.

– Сыплю вам сто рублёў медзі, каб былі дзеці, як мядзведзі.

Каравай замешваюць да позняй ночы, а нярэдка і ўсю ноч. Каравай звычайна дзяліла хросная маці. Маладых адорвалі падаркамі. А маладая дарыла падарункі сваякам маладога. Звычайна вяселле канчаецца перавозам маладой. Яна звязвае свой пасаг, забірае падарункі. У гэты час звычайна пяюць песню:

*Вячэрайма, мая мамачка,*
*Павячэраўшы, мы падзелімся з табою.*
*Табе, мамка, скрыня, пярына і карова.*
*Случылася пасля ночачкі дарога,*
*Бывай, мая мамачка, здарова.*

Праз тыдзень пасля вяселля бацькі маладога, малады з маладой ідуць з "пірагамі" да бацькоў маладой.

***Запісана ў в. Хімы Рагачоўскага р-на ад Батраковай Паланні Іванаўны, 1925 г.н., студэнткай Атрохавай Т.***

## Рэчыцкі раён

Сваты прыходзяць к дзеўцы, і калі яна не сагласна, выносіць гарбузу. Яны кажуць так:

– Мы туда папалі, ці не не туда?

– Туда, туда.

– Выводзьце цёлачку сваю, а мы прывелі бычка.

Выводзяць дзеўку. Меняюцца хлебам. Гуляецца толькі патом вяселле.

Як вядуць маладую на пасад, пяюць:

*Ішла панечка застоллю,*
*Сыпнулі руту з прыполлю.*
*Ой, рута мая, дробна-зелена,*
*З кім цябе падабраці?*
*Прасі, панечка, татачкі,*
*Штоб памог руту сабраці.*
*Ой, рута мая, дробна-зелена,*
*З кім цябе падобраці.*
*Шла панечка застоллю,*
*Сыпнула руту з прыполлю.*
*Ой, рута мая, дробна-зелена,*
*З кім цябе падабраці?*
*Прасі, панечка, Міколкі,*
*Штоб памог руту сабраці.*
*Ой, рута, дробна-зелена,*
*З Міколкам падабраці.*

Як маладую завіваюць, падружкі пяюць:

*Завівальніца скверна,*
*Нашто коску сцерла,*
*Ісцерла, сам'яла,*
*Пад чапец паклала.*

Завівальніцы пяюць:

*Ой, што ж мы схацелі,*
*Тое мы зрабілі:*
*З цеста – паленіцу,*
*З дзеўкі – маладзіцу.*

Падружкі пяюць:

*Каб мы захацелі,*
*То б мы развярцелі,*
*Павялі б у садочак*
*Да звілі вяночак.*

Завівальніцы:

*Брашыце, дружкі, брашыце,*
*Аб пол языкі чашыце.*

Брат сястру на пасад вядзе:

*Брат сястру на пасад вядзе,*
*Брат сястру на пасад вядзе,*
*А сястрыца дой пытаецца:*
*– Брацейка, ты мой родненькій,*
*Брацейка, ты мой родненькій,*
*Чым я табе надакучыла,*
*Ці ядою, ці хадою,*
*Ці ядою, ці хадою,*
*Ой, ці русаю касою?*

Калі брат расплятае сястры касу, спяваюць:

*Ой, брат сяструцу расплятаў,*
*Ды тыя ўплёты падвіваў,*
*На стале паклаў, брат набраў,*
*Меньшай сястрыцы дараваў.*
*– На ж тобе, сястрычка,*
*Дый судзі гожай тобе так,*
*На сяголета, на лета,*
*Такою парой, як гэта.*

Вось, калі дружкі прыбралі ўжо дзеўку, то тады надо было, каб прыехаў жаніх з цвятамі, і тады ён браў нявесту, і ўжо яны ехалі вянчацца. Едуць за маладою і пяюць:

*Ой, мы едам ды порошаю,*
*Ой, мы едам ды порошаю,*
*За своею ды харошаю,*
*Ой, мы едам пацярухаю,*
*Ой, мы едам пацярухаю,*
*За сваею чапурухаю.*

Прыязджаюць к маладой і пяюць:

*Добры вечар, добрыя людзі,*
*І мы к вам.* 2 р.
*Ці не заляцела наша чырычка*
*Сюды к вам?* 2 р.

Ім адказуюць:

*Хоць заляцела, ні заляцела,*
*Не ўзяць вам .* 2 р.
*У нашай чырачкі поўзалочаны крылышкі,*
*А ў нашай Танечкі*
*Ды з лялетачак вяночак.* 2 р.

Падружкі пяюць:

*Каб мы захацелі,*
*То б мы развярцелі,*
*Павялі б у садочык*
*Да звілі вяночак.*

Падружкі пяюць:

*Каменная печачка, каменная печачка,*
*Вечар гарыш, дай не выгарыш* 2 р.
*... дый не распаліш.*
*Маладая Настулька, маладая Настулька,*
*Зрання сядзіш, дай на заплачаш,*
*Дай не заплачаш, зрання сядзіш,*
*Дай не заплачаш,*
*Сваёй маці дай не разжаліш.*

Маладая:

*Ой, я плачу, вы не чуеце,* 2 р.
*За скрынкаю, да за бубнамі,*
*Ды за бубнамі, ды за скрынкамі,*
*За тонкімі галасочкамі,*
*Галасочкамі за тонкімі,*
*За вернымі за дружачкамі.*

Перад тым, як уехаць з маладою:

*Седама, мамка, павячэрайма,*
*Табе, мамка, быбны, да каробкі,*
*А мне, мамка, верацёначкі,*
*А мне, мамка, усе пачыначкі.*

*Ці добра было, мая мамачка,*
*Мёд-гарэлачку піці.*
*Ой, угадаеш, мая родная,*
*Як без мяне пражыці.*
*Як прыдзе вясна, паставіт красна,*
*Некаму прасеі праці.*
*Чоўнічкам махнеш,*
*Цяжэнька ўздыхнеш,*
*Слёзкамі абальешся.*
*Як прыдзе лета, паспее жыта,*
*Некаму жыта жаці.*
*Серпочкам махнеш,*
*Цяжэнька ўздыхнеш,*
*Слёзкамі абальешся.*
*Як прыдзе зіма,*
*Пазоліш плацця,*
*Некаму плацця праці.*
*Пранічкам махнеш,*
*Цюжэнька ўздыхнеш,*
*Слёзкамі абальешся.*
*Вы, суседачкі, вы, галубачкі,*
*Ці не бачылі дзіцяці?*
*Калі б жа яна па воду пайшла,*
*То б вядзерцы пабрала,*
*Калі б жа яна гуляці пайшла,*
*То б дадому прыбягла.*

На вяселле маладыя першыя за стол садзяцца, потым дружкі, бацькі, хросныя маці і бацька.

Пяюць многа песень і вясёлых, і жалобных, жалеюць нявесту. У канцы вяселля дзялілі каравай. Пасля каравая свякруха ў нявесты здымае з галавы вяночак і завязвае хустку цвятністую – так яна робіць яе маладзіцаю. Маці нявесты аддае прыданае і жаніх вядзе іх да сябе.

На трэці дзень былі “куры”. Госці ходзяць па дварам, крадуць курэй. Тады іх вараць, ставяць на стол. У гэты дзень спяваюць вясёлыя песні, танцуюць.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на ад Калацэй Зінаіды Міхайлаўны, 1932 г.н., студэнткай Згурскай Т.***

Раней вяселле разі ж так спраўлялі? Гэта зараз хлопец і дзяўчына палюбяцца, так і жэняцца. А раней жа ж бацькі каб згоду далі. Вось прыйшла хлопцу пара жаніцца, бацькі ўжо й мяркуюць, куды сватоў заслаць, ды каб добрая жонка была, гаспадарлівая. Вось выбяруць добрую нявесту, і тады ўжо можна і сватоў высылаць.

**СВАТАННЕ**

Сваталі дзяўчат звычайна да Пакроў, не пазней. У сваты бралі звычайна хроснага, братоў, калі былі жанатыя, сам жаніх, яго бацька, абавязкова каб іх была нячотная колькасць – 9-11 чалавек, можна 17. У сваты йшлі надвячоркам, калі сонца сядзе. Бралі з сабою хлеба бохан, гарэлку, соль пасвячоную і заварочвалі іх у хустку і йшлі ў сваты. Ішлі не прама ў двор, а абыходзілі, каб зайсці з другога боку ў двор нявесты. У хату адразу ж не заходзілі, на дварэ гаманілі, шумелі, каб хазяева пачулі. Вось, бацька выходзіць з хаты і пытае, чагой-та прыйшлі. А сватам прама казаць і нельга, што сватаць нявесту хочуць, каб не сурочылі, каб ведзьма якая ці нячысцік не перашкодзілі. Таму і казалі, што купцы прыйшлі за цялушкай, купіць хочуць. Вось хазяін у хату іх запросіць, а тады ўжо і кажуць сваты, чаму прыйшлі, ды гарэлку сваю ставілі і хлеб з соллю. Сват гарэлку разалье, вып’юць усе і дамаўляюцца. Калі бацькі нявесты згодны, то яны ўжо й сваю гарэлку ставяць, калі жаніх не падабаўся, сватнюю гарэлку не пілі да дна. Але калі гарэлку сваю дасталі хазяева, то ўсё, згода ёсць. Маці адразу ж ужо сватоў ручнікамі абвязвае. Атрымаюць сваты згоду і праз дзён колькі заручыны робяць, заручаюць маладых.

**ЗАРУЧЫНЫ**

Збяромся таксама ў хаце нявесты да абеда і ўжо тады й за сталом да й дамаўляемся аб свадзьбе, заручымся падтрымкай, згоду атрымаць трэба было канчаткова.

Збяромся, звычайна, родныя хлопца і дзеўкі, і давалі сваю згоду на вяселле, каб супраціўных не было. А калі хто варожа быў з кім з родзічаў, тых мірылі, сваякавалі. Абавязкова гарэлку на стол ставілі, выпівалі первую чарку-згоду, каб добра ўсё было ў маладых, пасаг вызначалі. А пра пасаг абавязкова сват цікавіўся ў бацькоў маладых, каб усё вырашыць. Вось пасагу вырашылі, тады й за стол дружак завуць, адараюць іх, а жаніх ужэ й падарунак нявесце дае, а сват – дружкам яе. Дай песню заспяваюць пасля, як малады нявесце, нарэшце, пярсцёнак дае, заручае

маладую. А ну ўжо тут й пачыналі співаць, музыкаў звалі, танцавалі і так да вечару.

А як раз'яджацца стануць, дык маці нявесты маладому бохан хлеба дае. Цяпер да свадзьбы рыхтавацца трэба. І да вяселля маладыя не бачыліся, не хадзілі разам, каб не сурочыў іх ніхто, ніякія нячысцікі не перашкодзілі, так вось і не бачыліся маладыя ўвесь тыдзень.

**ЗБОРНАЯ СУБОТА**

А ўжо ў суботу перад вяселлем кожны з маладых зборную рыхтаваў з дружкамі. Нявеста сабе, жаніх сабе. Развітваліся з дружкамі, дружынаю сваёй. Жаніх хлапечнік збіраў. Вось ужо шафер, сябры, браты жаніховы, ды коней рыхтуюць, вычэсваюць іх, калёсы змазваюць, вупраж упрыгожваюць, бубенцы навязваюць. А потым збяруцца ў хаце, вып'юць, з жаніхом развітаюцца, дый абмеркоўваюць, хто кім на вяселлі рабіць будзе.

А нявеста сабе збірала дружак, тожа ж да вяселля рыхтавалася. Бацькі на пасад садзілі яе. Калі дзеўка цнатлівая, то садзілі яе на дзяжу. Бацька дзяжу пад абразы ставіў, кажухом накрывалі, а тады ўжо брат нявесты з дазволу ўжо бацькоў і садзіў яе на пасад, але калі яна цнатлівай, чэснай была. Калі ж не, то садзілі побач з дзяжой. Ну, а як пасадзяць на пасад, то ўжо і рыхтуюць нявесту дружкі яе далей. Касу расплятаюць, вянка ўюць ды развітваюцца з падругаю.

Старшая дружка касу расплятае ды расчэсвае, а ўсе дружкі кругам ужо стаяць ля яе ды й співаюць. Потым вянок завіваюць, кветкамі абвязваюць, і ўсё старшая дружка робіць, а дружкі астатнія ўжо ёй співаюць, дый так співаюць! А нявеста плача. Потым вянок адзявалі, глядзелі, як ён сядзіць, вэлюм рыхтуюць, адзежу маладой, глядзяць, каб добра было, каб нявеста лепшай на вяселлі была.

А ўжо цяпер і развітваюцца дружкі з нявестаю. Яна ўжо кожную пацалуе, падорыць штонебудзь. А вось й шчэ: калі нявесту на пасад садзілі, маніць не трэба было, бо тады ў маладой сем год лён расці не будзе.

**КАРАВАЙ**

Вось як развітваюцца маладыя з дружкамі, то ўжо ў хаты да іх збіраюцца каравайніцы, тыя, хто каравай пяклі, да суседкі, звалі маці хросную, суседкі прыхадзілі. Ужо каравай пякуць кожны асобна, жаніху і нявесце. А пяклі іх абавязкова ноччу, каб ніякі нячысцік не перашкаджаў, каб нічога дрэннага зрабіць не змог маладым. У поўначы печ распальвалі, дровы бралі абавязкова бярозавыя ці кляновыя. Вось растопяць печ і каравай рашчыняюць.

Бралі кажух, слалі, на яго дзяжу ставілі. Старшая каравайніца з дазволу бацькоў і каравай рашчыняла, а астатнія жанкі муку прасейвалі, ваду насілі, толькі памагалі ёй, а мясіла каравайніца. Пры гэтым яна ж старалась адразу ж колькасць патрэбную мукі, вады ўлажыць у дзежу, каб не дабаўляць. Цеста мяшала толькі як сонца ходзіць, у гэты бок цеста рашчыніць, дзяжу й на чарэнь ставяць, каб падыходзіла, а самі каравайніцы гарэлкі вып'юць ды й частуюцца прысмакамі. А як цеста падойдзя, пачынаюць выпякаць каравай.

Печ тапілі гадзіны дзве, каб прагрэлася, а тады жар вымятаюць, каравайніца правярае, ці можна каравай садзіць: кідала ў печ лісток дубовы, як загарыцца, чакалі, каб печ астыла.

Перш чым вымешваць каравай, прасілі благаславення ў бацькоў, затым маці хросная свечку запальвала і тройчы вакол дзяжы абыходзіла. А ўжо тады стол мукою пасыпя і каравай качае, каб круглы быў, як шар. Каравай жа ж і цяжкі быў, да пуду. Пеклі іх два: у нявесты і жаніха ж толькі. Вось, вымешвалі каравай і на лапату яго клалі, а ўжо потым у печ і, паклаўшы, у столь лапатаю стукалі, каб каравай добры быў. А як каравай пёкся, каравайніца яго глядзела, каб не згарэў, не падпёкся. Калі ж вынялі яго, то ставілі на дзяжу ды ў камору выносілі. Ды па караваю ішчэ гадалі. Ложкі дзве ставілі ў каравай замешаны ды глядзелі, куды накланяецца. Калі ложкі сходзяцца, то маладыя ўсё жыццё разам будуць, а калі нахіляцца ў бакі розныя – разойдуцца. У каго калі каравай згарыць, як пякуць, то той і сварлівы будзе.

Каравай мясілі далонямі, бо калі кулакамі, то й муж біцца будзе. Калі ў сям'і яшчэ дочкі ёсць, то бацька, як каравай рашчыняе, то прыпадымаў дзежу ды прыгаворваў, каб дочкі хутчэй разышліся замуж. Калі каравай скачалі, то ўжо яго не выраблялі.

**ВЯСЕЛЛЕ. НЯДЗЕЛЯ**

А ўжо ў нядзелю і вяселле гуляюць. Пілі, гулялі два дні: нядзелю і панядзелак.

У нядзелю, апоўдні жаніх выязджаў да маладой на конях, абозам. Жаніх, маці хросная, шафер, сват старэйшы ўперадзе, а астатнія ўжо ззаду іх. Сват з сабою грамнічную свечку бярэ, каб добра ўсё было. Едуць з песнямі, з музыкай.

А ў нявесты таксама дружкі ўжо сабраліся, у хату яе адводзілі, каб схаваць ад жаніха, дый

пераапрануць. І вось закрыюцца ў хаце ды ўбіраюць маладую.

Вось прыехалі госці ў двор ды вітаюцца з гасцямі, а малады з шаферам, дружкамі нявесту ідуць шукаць. А як знойдуць яе, той выкуп дружкам нявесты плацяць. Грошы, цукеркі, пернікі, наліўку.

І вось, выкупіўшы, жаніх ужо і вядзе яе да гасцей. У хаце абводзіць нявесту вакол стала тры разы, як сонца ходзіць, а ўжо потым і садзяцца на куце, за імі і госці садзяцца за стол: госці хлопца – за левы бок, а дзеўкі – за правы ад кута.

Застолле пачынаў хросны бацька нявесты. Запрашаў гасцей частавацца. Першая чарка заўсёды йшла пад пажаданні маладым.

**ВЯНЧАННЕ**

Доўга за сталом не сядзелі, бо трэба было ў царкву ехаць. Таму, як час прыходзіў, бацькі і рыхтаваліся, выпраўлялі маладых пад вянец. Кажух клалі пасярод хаты, бацька грамнічную свечку запальваў, маці абразок брала, на стуле ставілі міску з пасвячоным зернем дый маладых запрашалі. Маладыя на кажух становяцца, бацькам тры разы кланяюцца ды дазволу на вянчанне просяць, таксама тры разы ў маці, а потым тры разы ў бацькі, а тыя кажуць: “Бог дазволіць”, а потым і госці дазвол давалі. А потым маладыя абраз цалуюць тройчы дый ў двор выходзяць, а маці іх жытам абсявала на парозе, каб у іх добра ўсё было. А шаптухі перад выяздам замовы чыталі, каб ніхто порчу не навёў, не сурочыў, каб нячысцік не перашкодзіў.

На вянчанне ехалі на трох падводах. На першай – жаніх, шафер, сябры яго, хросныя, на другой – нявеста, яе хросныя, дружкі, а на трэцяй – госці.

Абвянчаўшыся, маладыя ехалі дамоў. Разам на адной падводзе з хроснымі сваімі. Следам ехалі ўсе госці. Ехалі праз вёскі, а там ужо ім дарогі перагараджваюць, тады адкупаюцца. Сват дае бутэльку гарэлкі, а людзі зычаць шчасця маладым, вадою іх кропяць. І вось так праз колькі вёсак едуць, усюды іх чакаюць, дарогу загароджваюць, частунак бяруць.

А дома маладых чакаюць. У варотах стол ставяць, засцілаюць яго абрусам, на абрус ложаць бохан хлеба, соль пасвяцоную, бутэльку гарэлкі, чаркі дзве, ад стала да парога дарожку слалі. Як маладыя пад’язджаюць, бацька з маці да стала падыходзіць у кажухах, абавязкова вывернутых поўсцю наружу, і сустракалі маладых. Бацька ім чаркі падносіў, каб тыя прыгубілі ды праз левае плячо вылілі, а маці хлеба дае ўкусіць, спачатку дачцэ, а потым зяцю, так тры разы. А тады стол атадзвігалі і маладых у хату вялі разам з бацькам, маці з хлебам ішла з боку зяця, а бацька са свечкай – з боку дачкі. А за імі ішлі госці. У хаце за стол ужо садзіліся, гулялі, песні спявалі, танцы гулялі. А каля хаты ўжо аднавяскоўцы збіраюцца глядзець на вяселле, а таксама частуюць.

Галоўнае застолле пачыналася, як каравай дзялілі. Ставілі пад абразы свечку, на стол клалі ручнік, на яго талерку ставілі, чаркі, бутэльку, закускі. Жаніх з нявестай, маці і бацька, хросныя за стол садзіліся. На стол каравайніцы каравай вынасілі, а яго ўжо і дзялілі па старшанству паміж усімі. Кожны, хто падыходзіў да каравая, клаў на талерку грошы ці што-небудзь каштоўнае і атрымліваў кусок караваю ды чарку. А госці пажаданні маладым казалі, дарады на жыццё.

Пасля гэтага ехалі да маладога. На ад’езд маці ўжо пасцель дачцэ збірала: падушкі, коўдру, прасціну, свечку давала, а нявеста з домам развітвалася, галасіла па ім.

У двары жаніха маладых жытам абсявалі і ў хату вялі. Маладой касу пасплятаюць, вянок здымаюць абавязкова дзеці, а жаніх ім грошы дае ўжо за гэта.

**ПАНЯДЗЕЛАК**

У панядзелак ужо ў доме маладых збіраюцца. На стол маці бутэлькі ставіць з наліўкай і гарэлкай. А потым ужо па прасціне і вырашалі, што піць будуць. А госці над нявестай шуцяць, то гарох рассыпяць, каб яна збірала, ці бліны прымушалі пекчы. А к абеду радзіна дзяўчыны ўжо прыданае вязуць, куфар. Ну а далей ужо пілі, гулялі, спявалі, танцавалі. Таксама маладых павучалі, дарады давалі.

А вось калі вяселле было, калі вянчаліся, глядзелі, каб ніякая нячыстая сіла не перашкодзіла, каб далейшае жыццё было добрае, дый глядзелі, якім жыццё будзе.

Вось калі вянчаліся, глядзелі, як свечкі гараць. Калі свечка гарыць у каго дрэнна, то і жыццё будзе дрэнным. Калі свечкі патрэсківаюць, то сварыцца будуць. Дрэнна было, калі свечка тухла, то памрэ хутка. Ды і на парог царквы нявеста старалася не наступаць, каб сварак не было. А добра было, калі ў дзень вянчання дождж ішоў, то тады і жыць маладыя будуць багата. А каб ніякая сіла нячыстая не перашкодзіла, за плячо гарэлку маладыя лілі, каб нячысціку вочы заліць, ды і кажух апраналі, каб нячысціка напужаць.

Ну, а ўжо пасля вяселля родзічы адзін да аднаго ездзяць, знаёмяцца, застоллі робяць. І так амаль увесь пасля вяселля тыдзень. Ездзілі таксама праведаць і маладых.

*Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на*
*ад Браніцкай Марыі Апанасаўны, 1927 г.н.,*
*студэнтам Сярак А.*

**ВЫГЛЯДЫ**

Ехалі на выгляды. Бацькі згаворваліся ўпярод, любві тады не саабражалі.

Бацька бярэ дачку, ідуць да жаніха і глядзяць, як жыве будучы жаніх, якое ў яго хазяйства. Еслі не панравілася што-небудзь бацьку, ён тады гаворыць: “Я сваю дачку не аддам”.

**СВАТЫ**

У сваты ішлі мо пяць-шэсць чалавек. Ішоў хросны бацька, ён быў галоўным сватам, бацька маладога, дружкі маладога і ён сам. Хадзілі ў сваты толькі ў Мясаед, у пост ніколі не хадзілі. Бяруць з сабой водку і хлеб, у палаценца ўвертаюць. Заходзяць у хату і кажуць: “Добры дзень! Нам кажацца, што ў вас іе харошая дзяўчына”. Або так кажуць: “Мы чулі, што ў вас козачка іе, а ў нас е козлік”. Нявесту з жаніхом за стол не прыглашаюць. Нявесту з падружкамі дзе-та адзельна на краваць садзяць, за шырмай. Бацькі маладых выпіваюць, закусваюць, а потым дагаворваюцца аб заручынах.

**ЗАРУЧЫНЫ**

Жаніх сваю радню ззывае. Нявеста сваю. І назначаюць дзень свадзьбы.

**ЗБОРНАЯ СУБОТА (ДЗЯВІШНІК)**

Маладая збірала сваіх падружак і хлопцаў, дружкоў. Прыязджаў жаніх з сваёй дружынай. Пелі, гулялі, танцавалі.

**КАРАВАЙ**

Пеклі каравай у хроснай. Пекці каравай павінна была і не разводная, і не ўдава, штоб была очэнь харошая жэншчына.

Было два караваі: з боку маладога і з боку маладой. Каравай мальчык нясе на галаве. Дзяліць яго доўжэн быў бацька хросны. Бацька нявесты нясе пад пахою каравай у прыгожым рушніку, кладзе на стол і кажа: “З хлебам і соллю к вам!” Бацька жаніха бярэ свой каравай і абменьваецца з бацькам нявесты караваем. Потым засцілалі скацерку красівую і казалі: “Ацец і маці, благаславі каравай”. А тыя ім адказвалі: “Бог благаславіць”.

Першых да каравая звалі матку з бацькам.

**ВЯСЕЛЛЕ**

Жаніх садзіць нявесту ў сваю падводу. Устрэцілі маладых і гуляюць.

Назаўтрае жаніхова радня едзе к нявесце.

Трэці дзень нявесціна радня бяруць сундук з прыданым і вязуць к жаніху – баяры едуць. Прыязджаюць дахаты, дзе жыве жаніх, і там кажуць так: “Ой, добры дзень, добрыя людзі! І мы к вам. Ці не заляцела наша чаячка сюда к вам?” А свахі атвячаюць: “А заляцела, не заляцела, не ўзяць вам”. І пяюць тады:

*Давай, мамка, ды падзелімся,*
*Давай, мамка, ды падзелімся,*
*Табе, мамка, ступа ды навойка,*
*А мне, мамка, рушнікі ды полкі.*
*Заграбай, мамка, жар, жар,*
*Будзе табе, доньку, жаль, жаль.*
*Заграбай, мамка, попел,*
*А мы тваю доньку ўхопім.*

Сіраце другая песня была:

*Ды станавіся ўся радзіначка ў рад,*
*Бо выходзіць наша Анечка на парад.*
*Да галовачка яе ў вянку,*
*Ды няма яе мамачкі ў радку.*
*Да галовачка яе ў квеці,*
*Ды няма яе мамачкі на свеці.*
*А ты, Анечка, не журыся,*
*Ды чужой радні пакланіся.*

А на падводзе так прыгаворвалі:

*Расступіцеся, ворагі,*
*Ды натопчам мы вас пад ногі,*
*Пад чырвоныя чабаты.*

Тады ўваходзяць у дом жаніха, вешаюць на сцены рушнікі, усё, што яна надбала.

**ПЯРЭЗВА**

Пярэзва была ў следуюшчае васкрасеніе. Зносілі яду к матцы хроснай і к бацьку хроснаму, абязацельна было. Свадзьбы доўга не гулялі.

Стараліся, каб ніхто, не дай бог, между маладымі не прайшоў. Глядзелі, каб павозка была цэлая, штоб нішто не случылася ў дарозе.

***Запісана ў в. Лазараўка Рэчыцкага р-на***
***ад Касульнікавай Вольгі Фядосаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Сілко С.***

Пеклі каравай такія, штоб не разводнікі і не ўдава.

Мы пеклі каравай адзін унучке, і два разы пеклі, і ён падаў. Падымаецца: раз – і падаў.

**ПАЖАДАННІ**

А табе дарую сасонку, штоб не любіў чужую жонку.

Дарую грошэй бочку, штоб купілі сына і дочку.

Ну, як калі. Восем свадзьбаў гуляла.

***Запісана ў в. Партызанская (раней Аўрамаўская) Хойніцкага р-на***
***ад Сапковіч Лідзіі Канстанцінаўны, 1918 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Маладуша Рэчыцкага р-на),***
***студэнткамі Нямковіч А., Новікавай І.***

**ЗАРУЧЫНЫ**

Эта cчас называюць сваты, а ў нас называлі заручыны. Гулялі амаль як і цяпер. Прыходзілі ў сваты адны родзічы. Прыехалі і кажуць: "Ці аддасцё цяліцу сваю за нашага бычка?" А матка мая сказала: "Я не знаю. Хай самі рашаюць". Пасля мы і дамовіліся.

Заручаць прыехалі з хлебам-соллю, гарэлкай. Дапазна гаманілі, выпівалі, песні пелі, але якія – ужо не памятаю. Яшчэ палаценцы я вязала, падаркі родзічам давала.

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

Калісьці было так. У хаце маладога і ў хаце нявесты пяклі каравай да вяселля. Каравай пяклі ў печы. Бралі дзеравянную лапату, на яе ложаць дубовы ліст, а на яго хлеб еты. На версе каравая шышкі ці хрэст выраблялі з цеста. Ета цяпер рознае выдзелываюць, а раней так была.

Распісваліся мы ў сельсавеце. Запісаліся мы раней, гэта быў будні дзень. А гулялі ўжо толькі праз некалькі дзён.

Ну, прыехалі госці да мяне, бо гулялі першы дзень у маладой. Прыбралі мяне сяброўкі ў святочнае адзенне.

Ета cчас пасядуць у машыны, што не бачна ні маладой, ні маладога. А раней бралі трох коней, вешалі на іх калакольчыкі і ездзілі па дзерэўне. Тры разы яе аб'язджалі, глядзелі, каб ніхто дарогу не перайшоў. А пасля частаваліся, выпівалі за маладых, песні пелі. Калісьці песні не такія, як зараз, пелі.

Пасля гулянкі шафер і шаферка, матка хросная знімаюць вянок і ходзяць з ім па лаўцы тры разы. Тады бралі масла, трымалі яго ў ложцы і песню пелі:

*Дай, мамка, масла,*
*Бо я тваю кароўку пасла.*

Куды тое масла пасля дзевалі – не ведаю. Яшчэ косы мае ў персцень саджалі, але чаго так рабілі, бог яго знае.

Маладую з падушкамі і шкафам вязуць у хату к маладому, але абавязкова з іконай. Гаршчок пад нагамі б'юць. А чаго, бог знае. Была такая завядзёнка.

На маладых яшчэ зерне сыплюць. Ета каб здаровыя і багатыя былі.

У хаце, дзе прошлую ноч начавалі маладыя, шаферка з маткай хроснай вешаюць палаценцы на сцены, на ікону натыканыя рушнікі, краваць засцілаюць. Выпілі яны па чарцы і паехалі.

## ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

Гулялі амаль так, як і ў першы дзень, але ўжо ў хаце маладога. Забіраюць на конях радню маладой і гуляюць. Каравай таксама дзеляць, песні ўсялякія пяюць, частушкі прыпяваюць. Куралесяць сваё. Мужыкі такія ё, што з бабамі прыпяваюць, танцуюць.

## ТРЭЦІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

Трэці дзень вяселля ў нас "куры" называецца. Абавязкова трэба было галоўкі раскідаць перад хатай, але чаго – не ведаю.

Гулялі амаль усе тыя, што і ў першыя дні былі. Адзенуцца як цыгане і пойдуць па хатах тых, хто гуляў на вяселлі. І з кожнай хаты куру выносілі, вешалі на палку і ішлі далей да маладой. Па дарозе едуць, песні пяюць, прытанцоўваюць, гарэлку нясуць і ўсіх сяльчан угашчаюць.

Маладзёжы амаль няма на трэці дзень. А бабы як зададуць, то лепш танцуюць і пяюць, чым на першы дзень. Гуляюць да самай ночы. А ўжо як ідуць дамоў, то абавязкова трэба на пасашок выпіць.

Пасля гулянкі бабы ўсе чырвоныя, вясёлыя. Як выйдуць з хаты, то песні іх па ўсёй вёсцы чуваць. Во як цікава раней вяселле гулялі.

Песень я ўжо не помню, але вось круцяцца ў галаве такія радкі:

*Насеяла чарнабрыўцаў цэлую граду,*
*Ну хто ж мае чарнабрыўцы*
*Будзе паліваць?*
*Хто ж мяне, маладую,*
*Будзе ўспамінаць?*

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Кандраценка Н.П., 1935 г.н.,***
***студэнткай Шэндрык Т. (2001 г.)***

Прыходзілі ў сваты матка, бацька і браты. Пагаварылі і давай ужэ за стол. Нявеста і жаніх хадзілі зваць хросных нявесты. Пасядзелі, пагаварылі, выпілі па чарцы. Тады матка хросная выняла трубку рушнікоў тканую. Калісьці рушнікі не давалі, а палатно рушнічнае. Яна ўжэ мерае каждаму і тапаром сячэ. Мерала цераз плячо, штоб завязаць. Пабачыла, наскольки адмерала, палажыла на ўслон (скамейка такая длінная) і адсекла тапаром, колькі трэба, і тады вешае аднаму свату. Адмерае – і другому свату вешае. Тады ўжэ выпілі, засваталіся. І ў следуюшчую нядзелю, хто свадзьбу будзе гуляць, бацька нявесты сазывае ў сваю хату. У нявесты ўжэ і сталы стаяць, і гарэлка, і на сталах ужо ўсё стаіць. Патом усе пасталі ў круг. А яна каждаму на калені і кланялася. А тыя ўжо давалі ёй падарак: грошы, хустку. Патом нявеста пакланялася перад іконаю. І тады селі за стол. Эта заручыны называецца. Пры іх быў жаніх. У следуюшчу ўжэ нядзелю прыязджае ўжэ жаніх і шаферы. І ўсе

на конях. А да гэтага вечара не было. Усе дугі ўбраныя, коні ўсе ўбраныя: у цвятах, у лентах. Нявеста сваіх падруг ужэ прыгласіла. Яны кажды па дзеўку. Не выпівалі, не елі нічога. Праўда, маладым быў стол. І яны селі, і іхнія хлопцы, і дзеўкі. Але не елі. Галодныя паехалі ў цэркву. У цэркві іх ужо павянчалі. Туды нявеста ехала з братам жаніха, а з маладым ехала цётка. Назад нявеста ехала ўжэ з маладым. Прыехалі к жаніху. І там гулялі ўжо ўсю ноч. Калісьці ў маладога болей гулялі, чым у маладой. У маладой толькі як едуць у цэркву. Рана гуляюць. Маладых матка садзіла за шырму, штоб не пазіралі, што яны п'юць.

Каравай пеклі, як хлеб. Толькі ўжэ на версі ўсякія фігуркі дзелалі. І ўчынялі каравай, як хлеб. (Раз свадзьба была. Паехалі яны ўжо на заручыны к маладой, а ў маладога – каравай. Дзяцей садзілі, цеста замясілі, тады паклалі кажух і дзяцей на тую дзежку пасадзілі. Кругом бабы старыя пахадзілі, папелі.) Яшчэ пеклі такія шышачкі. Іх ўжэ клалі на стол.

Было сватанне, затым заручыны. После венчання, кажэцца на втары дзень ці на трэці дзень, павезлі скрыню. Нашыя ўжо госці, хто на воз садзяцца і едуць ужо к нім. І вязуць ужо маладой скрыню. Маладая ўжо павянчалася і ўжо там засталася. А ёй жа нада пераадзявацца, яна ж з сабою нічога не брала. Эта на втары дзень, у панядзелак ілі ў аўторак, сабіраюцца нашыя і вязуць на возе скрыню: усё яе багацтва: пасцель, падушкі. На маладога двары стаўляюць жлупта, што калісці парылі адзежу. Туды клалі сена. Запалілі. Ставілі шчэ што-та высокае. Тожа знізу паляць. А вязуць жа скрыню з флагам. І стаяць там ужо, паляўнічыя стрэльбы ў мужыкоў і страляюць. А яны ўжо паехалі. Ужо міма двара паехалі. Раз не прымаюць, так ужэ паехалі. Заварачуюць і зноў. А другі раз як едуць, дык ужо наперад вязуць. Ужэ бягуць з усімі чаркамі і з бутэлькамі, вароты адкрываюць: "Скарэй на двор заязджайце!" І ўсе смяюцца. А кругом людзей на вуліцы…

Пасля таго, як адвязуць скрыню адбываецца пярэзва. Перазываюць маладога двор, дзе малады і маладая. Яны завуць усіх, хто там. Гармошка ўперад, бубніць там. Усе людзі за імі. Тая перазвала. Пасядзелі там у хаце час-два. Другая прыбягае: "Сабірайцеся, пашлі! Пайшлі да мяне!" Тая перазвала. За дзень яны пабудуць у пяці-шасці хатах. Еслі, хто далёкі ўжэ, так хочацца прайсціся, дык яны, гэтыя бліжнія, данясуць сваё ўсё туды, у далёкую хату, штоб прайці па сялу. А яшчэ наперадзе бубністаў едзе конь. На каню сядзіць сядак. Адзяваюць маму нявесты ў салдата – старца. І вось яна едзе на каню і з тым канём едзе ў хату. І каню даюць чарку, і ёй даюць чарку. А конь у паследнюю хату ўжэ не йдзе, бо ён ужо п'яны і танцуе на дварэ. Каня для гэтага бяруць маленькага, спакойнага.

*Запісана ў в. Салтанава Рэчыцкага р-на ад Дубіна Антаніны Дзям'янаўны, 1924 г.н., студэнткамі Балакішыевай Ю. (2004 г.)*

## ЗАМОВІНЫ

Хросны, жаніх і яго дружок прыходзяць да бацькоў нявесты прасіць яе рукі. Калі бацькі сагласныя, то яны дагаварваюцца, калі можна будзе прыслаць сватоў і колькі іх будзе. Гэта робіцца, каб нявеста змагла падрыхтаваць падарункі. Мужчынам – рушнікі, жанчынам – платочкі і іншае.

## СВАТЫ

Калі прыходзяць сваты, тады адбываюцца і заручыны. У сваты ідуць родзічы жаніха. Нясуць з сабой на ручніку хлеб-соль, магарыч.

У хаце садзіліся за стол, які накрыла дзяўчына. Пасля вячэры нявеста перавязвала сватоў ручнікамі.

У час замовін адбываліся вясёлыя размовы: "Мы прыйшлі па дзяўчыну, якую згубілі ў лесе. Наш хлопчык па ёй вельмі сумуе". Або: "Мы згубілі галубку. Наш галубок па ёй ужо звёўся. Нам сказалі, што яна ў вас знаходзіцца. Аддайце!"

Сваты з бацькамі нявесты дамаўляюцца пра дзень свадзьбы, колькі людзей запрасіць. Дамаўляюцца і аб тым, дзе маладыя будуць жыць пасля свадзьбы.

Спецыяльна к свадзьбе пяклі каравай. Для гэтага запрашалі жанчыну, якая добра жыла са сваім мужам, у згодзе. Каравай рабілі вялікі і з рознымі ўпрыгожваннямі.

Калі маладыя выходзяць з ЗАГСа, нявеста далжна крэпка дзяржаць пад ручку жаніха, каб паміж імі ніхто не прайшоў. Так трэба дзяржаць пака і не сядуць за стол.

Калі маладыя пад'язджаюць да хаты, на вуліцы каля варот кладзецца коўрык і ставіцца стол з хлебам і соллю на ручніку, 2 румкі і водка. З роспісі маладых сустракаюць бацькі і благаслаўляюць іх іконай: "Дай, Госпадзі, вам крэпкай любві да самай старасці. Благаславі вас Бог".

Тады маці нявесты крэсціць іх іконай і цалуе дочку, а тады зяця. Галоўнае, каб маладых благаслаўляў той, хто мае пару. Калі ў бацькоў няма пары (памерлі), то патрэбна, каб благаслаўлялі хросныя.

Фату на галаву нявесты таксама павінна адзяваць такая дзяўчынка, у якой бацькі ў пары. Сірату для гэтай справы не падпускалі.

Пасля благаславення маладым даюць адкусіць ад каравая. Хто большы кусок адкусіць, той будзе ў сям'і галоўны. Затым наліваюць па поўнай румачцы, каб жызнь поўная была. Калі хто з маладых не зможа выпіць усю румку, патрэбна выліць на зямлю, бо, калі пакінуць у румцы, будзе горкае жыццё, са слязамі.

Потым маладыя ідуць у дом. За імі ідуць усе астальныя. Перад маладымі на дарожцы пасыпаюць жыта, каб жызнь была багатая і каб дзеці нараджаліся. Калі садзяцца за стол, маладым на лаўку падсцілаюць кажух, каб жылі багата.

Напрыканцы вяселля пачынаюць дзяліць каравай. Гэта робяць 2 чалавекі – з боку жаніха і з боку нявесты. Адзін чалавек рэжа каравай, а другі раздае гасцям. Каравай бяруць не голай рукой, а платочкам. Гэта робіцца, каб маладыя жылі добра і багата.

Свадзьбу звычайна гулялі ў доме нявесты. Калі госці нагуляюцца, тады складваюць вешчы нявесты і вязуць яе на ноч к свякрусі.

Свякруха садзіць гасцей нявесты за стол і частуе. За сталом яна знімае з нявесткі фату, расплятае ёй касу і завязвае платок са словамі: “Была дзявіца, станеш маладзіцай”.

Тады госці разыходзяцца, а маладыя ідуць у спальню. А каб ніхто нічога не зрабіў, у вушняк торкаюць іголку. Маладому іголку торкаюць у пояс брук, а маладой – у фату.

### ПЯРЭЗВЫ

Пярэзвы адбываюцца праз нядзелю пасля свадзьбы. Свякруха збірае сына, нявестку, самых блізкіх родзічаў, і яны ўсе разам ідуць у госці да маці нявесты. Там яны п'юць, гуляюць. Гэта называецца “сваха поіць-корміць новую сваху”.

### ПРЫКМЕТЫ

Нельга несці заяўленне ў ЗАГС у аўторак і чацвер, бо маладыя развядуцца.

Нельга гуляць свадзьбу на вялікія святы і на сходніх днях, бо маладыя разам не будуць.

Самы лепшы дзень для вяселля і наваселля – дзесяты дзень маладзіка.

Калі каравай прыпадносяць на стол і ён трэсне, то маладыя будуць дрэнна жыць ці развядуцца.

***Запісана ў в. Салтанава Рэчыцкага р-на ад Кляцоўскай Марыі Іванаўны, 1935 г.н., студэнткай Васілюк А.***

У нашай мясцовасці адбываецца свята ў суботу, калі ўсе людзі адпачываюць на выхадныя, а таксама ў нядзелю. Пажадана праводзіць сватанне ў верасні, тады будзе багатая сям'я. Заўсёды ў сваты ішоў малады, да бацькі, каб папрасіць яе рукі і сэрца. Малады браў з сабою кветкі для маладой і гарэлку для бацькі, потым малады з бацькам маладой зачыняліся ў другой комнаце і аб чымсьці гаварылі. Пасля яны выходзілі з комнаты. У гэты час маладая сядзела з маці ў гасцінная і чакала, пакуль яны выйдуць. Калі маладая ставіла на стол тыкву, то гэта азначала, што яна не згодна, а калі не, то наадварот. Песні спявалі падчас сватання.

Пасля сватання адбываліся заручыны. Яны так і называліся. На заручынах пілі гарэлку, крычалі “горка”, і тады маладыя цалаваліся. У час заручын пярсцёнак не надзявалі. Яго надзявалі ў ЗАГСе.

Вечар перад тым, як дзяўчына выйшла замуж, называўся “дзявішнікам”. Тады збіраліся ўсе сяброўкі той, якая павінна была выйсці замуж. Яны спявалі песні, а таксама танцавалі. Гэта быў вечар сумны, таму што дзяўчына як бы развітвалася са сваёй маладосцю. Такі ж вечар быў і ў маладога.

Каравай пяклі на першы дзень сватання. Калі маладыя прыязджалі з ЗАГСа, то іх сустракалі маці і бацька з караваем каля пад'езда. Каравай упрыгожваўся бутонамі руж. Калі маладыя прыязджаюць, яны павінны адкусіць ад каравая кавалак, і хто больш адкусе, той будзе ў хаце хазяінам.

Спачатку ўпрыгожваюць маладую яе сяброўкі, жаніх яе не бачыць, бо, калі жаніх убачыць маладую да таго, як яны ўбачацца да сустрэчы ў цэрквы, лічыцца, плахая прымета. Маладую да вянца вядзе бацька, а маладога выводзіць маці. Маладому дае благаслаўленне маці, а маладой – бацька. Калі маладыя выходзяць з цэрквы, то іх сустракаюць усе госці і абсыпаюць зернем, просам ці ячменем, каб жылі багата.

Калі ўжо дзяўчына збіраецца да маладога, то яе маці збірае чамадан, вязе да зяця. Маладая галосіць. Перад выездам маладая садзілася на парог свайго дома, каб засталіся добрыя ўспаміны і каб лягчэй жылося ў доме жаніха.

Калі яны прыязджаюць да маладога, то іх сустракаюць яго бацька з маткай. Яны іх сустракаюць таксама “хлебам-соллю”. Потым яны садзяцца за стол і п'юць гарэлку, таксама крычалі “горка”, і тады маладыя цалаваліся. Спявалі песні, а потым танцавалі.

***Запісана ў г. Рэчыца ад Бурачонак А.Т., 1954 г.н., студэнткамі Трубіной Ю., Тамчук Т.***

## *Светлагорскі раён*

Вяселле пачыналі са сватаўства, тады ў дом да дзяўчыны прыязжалі сваты. Тут дагаварваліся пра дзень, калі будуць гуляць вяселле. Спявалі песні, у якіх гаварылася пра тое, аб чым думала маладая. Также дарылі пярсцёнак. Шчэ да вяселля гатовілі падарункі.

У зборную суботу жаніх нёс цёшчы падарунак. Замужнія жанчыны збіраліся і пеклі каравай.

Вяселле гулялі ў хаце маладой. Сначала малады выкупаў нявесту, а потым яны ехалі ў царкву. Калі дзялілі каравай, то сярэдзіну аддавалі маладым, жадалі ім усяго добрага. У канцы вяселля маладой здымалі фату і завязвалі хустку. Спявалі розныя песні ў гонар маладых. Пасля вяселля маладая ехала ў дом маладога.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на ад Садаводавай Розы Іванаўны, 1929 г.н., студэнткай Мазоўка Г.***

**СВАТЫ**

Надумаўшы ажаніць сына, бацька выпраўляецца разам з ім у сваты. З хлопцам едзе блізкі сваяк – сват.

**ЗАРУЧЫНЫ**

Заручыны наладжваюцца ў доме бацькоў нявесты. Прысутнасць маладых на заручынах абавязковая. У прызначаны дзень па запрашэнню збіраюцца ў доме нявесты яе сваякі, сяброўкі і бліжэйшыя суседзі. Пад вечар прыязджае жаніх са сваімі бацькамі і сватамі. Спыняюцца перад зачыненымі варотамі. Сваты стукаюць у вароты і ў вокны, і просяць пусціць іх у хату.

– Хто вы такія і што вам трэба? – чуецца голас гаспадара хаты.

Сваты выдаюць сябе за прыезжых купцоў, якія купляюць дарагі тавар. Гавораць:

– Мы чулі, што ў вас знойдзецца патрэбны нам тавар?

– Мы нічога не прадаём! – гаворыць гаспадар. Пры гэтым ён раіць купцам ехаць да суседзяў, у якіх ёсць дарослая дачка.

***Запісана ў в. Баравікі Светлагорскага р-на ад Шавяленка Марыі Паўлаўны, 1926 г.н., студэнткай Шавялёвай Г. (2005 г.)***

**СВАТЫ**

Вот, ідуць у сваты. Плялі лапці колісь. Тыя лапці хросны бацька бярэ, к вярэнцы прывязвае. Прыходзіць у хату да дзеўкі з жаніхом і кажа: “Шуры, буры, лапці ў хату”. Хросны адкрывае дзверы і кідае ў хату лапці, а самога не відно. Когда дзеўка согласна, она лапці прыбірае, а не сагласна – не ідзе к тым лапцям. Лапці прыбіралі. Хросны кажа:

– Добры вечар добрым людзям.

А тыя людзі кажуць, дзеўчыны бацькі:

– Добры вечар, добрыя людзі. Аткуль вас Бог нясе?

А хросны хлопцаў кажа:

– Вот, нам казалі, што ў вас цёлка добра е, да з добрага тавару.

Дзеўчыны бацька кажа:

– Ёсць у нас цёлка, пераначуйця, заўтра ўтром пабачыце, панаравіцца – бярыце.

А хросны хлопцаў кажа:

– Нам не только цёлка, нам казалі, што ў вас і дзеўка добрая ё.

А бацька дзявочы кажа:

– Е, еслі панаравіцца, бярыце. Вот яна сядзіць.

Цяпер жаніх кажа:

– А мы друг другу наравімся, праўда.

А яна кажа:

– Праўда.

Тогда жаніх той дзеўцы дае госцінцы ў хустачкі. Дзеўка госцінцы на стол высыпае, платок завязвае на галаву. І тогда яна ідзе па дзярэўні зваць на заручыны радню. Тогда етыя прыходзяць, садзяцца за стол. Бацька з мацяраю благаслаўляць, тры чаркі выпіваюць кругам, наметкамі іх абвязваюць. Тогда пяюць песні:

*На заручынах былі*
*Дый гарэлочку солодзеньку*
*За Галечку молодзенькую пілі.*
*Пропіў бацька дочку*
*На солодкім мядочку.*
*Напіўся, то скача,*
*Праспаўся дый плача.*

Проходзіць два-тры дня. Прыходзяць хросныя маці жаніха і цётка. Ідуць к дзеўцы мерать сарочкі. Самыя почотныя ета госці. Там яны пошлі, помералі сорочкі, договарыліся, калі свадзьба. Тогда ідуць, завуць на свадзьбу ўсіх родных.

**КАРАВАЙ**

У суботу робяць каравай. Расшчыняюць каравай. Збіраюцца радзіцелі і гуляюць у суботу ўвесь вечар. Кажды ў сваёй хаце. І пяюць:

*Ніхто не адгадае, што ў нашым караваі.*
*З трох рэчок вадзіца,*
*Дзве чарочкі масла,*
*І дзве долячкі шчасця.*

Ужэ яны еты каравай учынілі. На другі дзень прыходзяць хросныя і месяць, і садзяць у печ, і пяюць:

*Старшая каравайніца,*
*Не садзіся на покуці.*

*Сядзь сабе на порозе,*
*Дай на бітай дорозе,*
*Каб хлопчыкі не набілі,*
*Дай коровай не ўхапілі.*

Коровай усадзяць у печ, муюць рукі, тую воду нясуць на огород і льюць на вішню, і тогда пяюць:

*Ой, вісу, мой вісу,*
*Дай будам ручкі муці,*
*Дай на вішанькі ліці,*
*Коб вішанькі развіваліся,*
*Молодыя красаваліся.*

Тогда коровай вынялі з печы, ёго радзяць. Шышкі ўтыкаюць і пяюць:

*Як мы свайго коровая радзілі,*
*То ў луг по каліну ходзілі,*
*Усю сваю каліну обламалі,*
*Пока свайго коровая выбралі.*

Садзяцца госці за стол, сабіраюцца ехаць по молодую, запрагаюць коней, наражаюць іх і едуць по молодую. Яны выязжаюць, бацька молодога бярэ палачку, хлеб і соль на рушніку і абходзіць коней тры раза і пускае іх у дарогу. А там пад'язжаюць к цесцю к двору і пяюць:

*Коло цесцява двора*
*Да высокая гора.*
*Нельга к горэ прыступіці,*
*Конічанька напоіці.*
*Вот, вуйшла молодая Галечка,*
*Узяла коніка за грывоньку,*
*А Іванечка за ручаньку,*
*Дала коню овса і сена,*
*Сама з Іванком на пасад села.*

Посядзелі, попілі, поелі. У молодой дараць молодога радня, а молодой радня дарыць у молодога. Прывезлі молоду до молодого. Свякруха знімае вянок, адзяе сваю хустачку, і вядуць яе по воду ў колодзеж, а потым вядуць у поветку за дровамі, потым хросная маці молодой сцеля пасцель у кляце і ложаць молодых спаць, а госці гуляюць да рання, а молодыя спяць.

Утрам паднімаюцца. Жаніх прызнаецца, еслі дзеўка нормальна, тогда дзеўчынаму бацьку вялікі почот, а еслі не дзеўка яна, бацьку адзяваюць хамут і прыводзяць у хату, і бацьку стыдна. Еслі дзеўка чэсна – гуляюць тры дня свадзьбу, а еслі не, то кончаецца.

***Запісана ў в. Васільеўка Светлагорскага р-на ад Пішчык Маі Антонаўны, 1936 г.н., студэнткай Красаковай А. (1995 г.)***

Пачыналі гуляці толькі пасля Вадохрышча. Свадзьба была толькі зімой. Тыя, хто хацеў ўлетку гуляці, быстра расходзіліся.

**СВАТЫ**

Бацька з жаніхом і таварышчы сабіраюцца і рашаюць, хто будзе сватамі. У сваты ідуць вечарам у сыботу адны мужыкі: сват, жаніх, яго кроўны бацька, хрышчоны бацька, швагер, брат і сваякі. Каб было пяць, сем, дзевяць альбо адзінаццаць чалавек. Чотна няльзя. Прыходзяць у хату і не гавораць для чаго, але ўсе дагадуюцца. Кажуць: "Купляем ці шукаем што-небудзь". У хаце нявесты загадзя гатуюць пачастункі. Сваты прыносяць толькі хлеб, спечаны маткаю жаніха, і бутэльку з віном, гарэлку нялььзя было. Сваты прыязджаюць пасля заходу сонца, штоб людзі не відзелі і не дагадаліся, еслі нявеста не захоча замуж.

Глаўны сват гавора:

– Мы прыехалі з далёкіх краёў. Ці не пусціце, хазяін, нас на ночку?" Хазяін у любым случаі згаджаецца.

Сваты:

– Мы чулі, што ёсць у вас вельмі добрая цялушка, так гэта?

Бацька даказваецца тады:

– Ды не, не цялушка нам нужна. Мы знаем, што ваша дачушка вельмі такая-растакая. А ў нас ёсць галубок да пары вашай галубцы. Такі-растакі-разгэтакі, пашукаць такога... Дык не спараваць нашых галубкоў? Штоб яны ўмесце жылі, расцілі дзетак, ды й нас успаміналі хоць калі?

Пры бяседзе дзеўка не даўжна быць. Еслі сваты просяць паказаць дзеўку, бацькі паказваюць чатыры яе падружкі, но сваты адказваюцца ад іх. Пасля пятай выходзіць настаяшчая нявеста. Сваты хваляць яе. Еслі нявеста дае саглашэнне, то даўжна падараваць рушнік бацьку і хустку мацеры. Бацькі і сваты дагаворваюцца нашчот даты. Еслі дзеўка адказвалася, то ў воз сватоў клалі вараную гарбузу. Галоўны сват пеў:

*Наш хлеб – ваша вадзіца,*
*Наш хлопец – ваша дзявіца,*
*Наш хлопец не ўмее лапці плесці,*
*Ваша дзявіца не ўмее хату месці,*
*Нужна іх да кучы звесці.*

**ЗАПОІНЫ**

Чэраз шэсць дней пасля сватоў у доме нявесты праходзілі запоіны. Тутака дзеўку запіваюць да роду жаніха. Жаніх з бацькам і сваякамі (19 чалавек) ідуць к нявесце. Яна ад іх хаваецца, штоб первай не ўвідзець жаніха. Тады яна з каждым атдзельна здароўкаецца за руку, штоб пака-

заці, што аддае сябе гэтаму роду. Госцікі сядзяць у доме, но к сталу не ідуць, хоць ён ужо ломіцца ад вячэры. Нявеста і жаніх бягуць зваці сваякоў нявесты. Калі тыя прыходзяць, то ўсе ідуць к сталу. На высокіх местах сядуць бацькі жаніха і хто прыходзіў сватаці. Пяюць:

*Піце гарэлку, сваты,*
*Запівайце дзеўку.*
*Хоць гэта дзеўка*
*З касою не ходзіць,*
*Кавалераў не зводзіць,*
*Хай гэтыя кавалеры*
*Платоў не ломяць.*

Частушкі спяваюць. Перад уходам нужна абмяняць хлеб. Нявеста дае бацькам жаніха бутэльку з жытам. Значыць, яна аддае ім сваё жыццё. Маці даўжна рассыпаць жыта па двару і доме, штоб прышоў добры быт. Еслі жаніх аставаўся ў нявесты жыці, яго маці астаўляла бутэльку ў доме нявесты. Пасля запоін дзеўка заўсёдна пляце косу – расстаецца з дзеўскім жыццём.

**ЗБОРНАЯ СЫБОТА**

У дзень зборнай сыботы ў доме жаніха і нявесты сабіраюцца сваячкі і суседкі пячы каравай. У эты час нявесце і жаніху нinfantil нельзя захадзіць у дом. У каравайніцы выбіралася 5 замужніх жанок, з якіх адна маладуха, якая нядаўна гуляла вяселле. Мужыкам тожа нельзя прыходзіць у дом. Можна толькі брату.

Заканчуецца сыбота застоллем каравайніцаў. Яны п'юць і пяюць:

*Багат, Надзечка, бацька твой.*
*Густая пшаніца на навіне,*
*Высокія стагі на гумне,*
*Вышэй каравай на стале.*
*Удача, удача!*
*Наш каравай удаўся,*
*Ды шырокім лісцем услаўся,*
*У чырвоныя кветкі ўбраўся.*

Потым выкупаюць каравай. У нас гэнта быў брат нявесты і лучша кроўны. Потым завуць гасцей. Еслі багатая сям'я, то многа, а еслі бедная, то толькі родных. Запрашае заўсёдна бацька нявесты. Потым начынаецца выкуп нявесты жаніхом. Гэнта ў первы дзень свадзьбы. Гэнты абрад очань смешны. Потым гуляюць два дні. А калі каравай рэжуць, то ў гэнтую мінуту госці дараць падаркі ці грошы. Кажды ў сваю вочарадзь. У канцы первага дня брат і падругі крадуць нявесту. Жаніх доўжан найсці яе.

На свадзьбе ставяць два сталы і дажа тры. На адным – госці і родныя нявесты, на втарым – жаніха, на трэцім – маладыя і іх обшчыя друззя.

Потым брачная ноча. Прастыню навутра ў нас не выносілі. Сцясняліся неяк.

Песні пелі розныя. У васнаўном пра шчаслівую любоў альбо проста вясёлыя. Хаця еслі сільна нап'ёмся, то ўжо ўсякія пяём.

***Запісана ў в. Высокі Полк Светлагорскага р-на***
***ад Чудноўскай Марыі Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Задзіракай А.***

**СВАТЫ**

Бацька дагаворыцца, а пасля ішлі ў сваты. У нядзелю збіралася чалавек 8-10 радні жаніха і ішлі да нявесты. Пасля гатуюцца к запоінам.

Дзеўкі збіраюцца к суседу ў хату, там гуляюць. Калі прыедуць сваты, цётка ідзе па нявесту і вядзе яе ў бацькаву хату і пяе разам з дзеўкамі:

*Му хадзілі за ручаём,*
*Там дзверы закручаны,*
*Му дзверы адкруцілі*
*Ды Вольгачку заручылі.*

Прыходзяць у хату і садзяць нявесту за стол. Дзеўкі стаяць на парозе і кідаюць у кут ячменем і гарохам, папяюць і пойдуць. Пасля маці нявесты дорыць сватам падаркі.

**ПАСАД МАЛАДЫХ**

Нявесту садзяць на лаве ад вуліцы і вядуць брата, каб ён расплёў касу нявесце і пяюць песню:

*Брат сястрыцы косу расплятаў,*
*Дзе ж ты еты ўплёты падзяваў?*
*Меньшай сястрыцы пааддаваў.*
*Эта табе, сястрыца, сястрын знак,*
*Дак каб і на лета табе так.*

**КАРАВАЙ**

У сыботу тры бабі збіраліся і ўчынялі каравай. У нядзелю, у дзень вяселля, уранні пяклі. Усаджаюць утрох у печ каравай і маленькія галушачкі, і пякуць, спяваючы:

*Каравай у печы йграе,*
*Засланкі адбівае,*
*Шышачкі рагочуць,*
*На прыпечак хочуць.*

Пасля гэтага каравайніц садзяць за стол. На вяселле хадзілі са сваімі сумкамі. А нявесту ў другой хаце завіваюць дзеўкі. Тут жа і гуляюць. Тады цётка ідзе з бутылкаю і хлебам у тую хату і дае іх дзеўкам. Дзеўкі выпіваюць і ядзяць хлеб. А цётка кажа нявесце: "Хадзем у хату, завуць на каравай". І ідзе з нявестаю ў хату. Няве-

ста прыдзе, уклоніцца, ёй выпіць дадуць, і яна зноў ідзе з дружкаю ў хату.

Каравайніцы выходзяць з-за стала, бяруць кавалкі караваю, галушачкі і даюць малым дзеткам. А тады каравай мажуць мёдам, ложаць на дзяжу, засланую абрусам, і нясуць у камору.

Тады ўжо едзе жаніх на конях. Абаўюць дугу ёлкай, калакол зачэпяць на дугу і едуць. Дзеці выбягаюць на вуліцу і крычаць. Нявеста выходзіць на вуліцу з хаты, пераходзіць дарогу жаніху і ідзе ў бацькаву хату. Дзеўкі садзяць яе на лаўцы і самі садзяцца разам з каравайніцамі. На варотах бяруць магарыч, без яго ў двор не пускалі. Пасля ўязжалі ў двор, на вазу сядзела чалавек 8-10. Тады ідуць бабы ад жаніха ў хату да нявесты і пяюць:

*А ў нашага свата*
*Да харошая хата,*

А нявесціны пяюць:
*Дзе сваты запазніліся?*
*Ці па бору валачыліся,*
*Ці ў саломе начавалі,*
*Вушы мышы паад'ядалі.*

Дружко – той, хто коньмамі кіраваў у жаніха, прыходзіць у хату, дзеўкі пачынаюць пець:

*Дружко цераз парог лезе*
*Дый на печ заглядае.*
*А на печы проса,*
*Пазірае дружко скоса.*
*Табе, дружко, не дружкаваць,*
*Табе, дружко, свінней пасціць*
*З доўгаю дагалякаю,*
*З чорнаю ды сабакаю.*
*Наш дружко каўтунаваты*
*Абабег круга хаты,*
*На сцены дзярэцца,*
*Каўтунамі б'ецца.*
*А ў нашага дружка*
*Шалудзівая рука.*
*З кармана не вуймае,*
*Нам грошай не давае.*

А тады ён з дзеўкамі размаўляе, каб нявесту паказалі. Пачынае торг за нявесту і кажа: “А наш жаніх харошы”. А яны адказваюць: “А наша нявеста таксама харошая”. Пасля прыводзяць жаніха, з ім паджанішнік, які кладзе грошы на стакан за нявесту. А дзеўкі не бяруць, кажуць, што мала, што нявеста болей стоіць. Тады жаніх кладзе дзесятку. Гэтыя грошы дзеўкі знімаюць і даюць нявесце. Жаніх бярэ нявесту, і яны ідуць за стол. Бацькі хросныя нявесты і жаніха становяць на стол каравай і запальваюць дзве свечкі ад жаніха і нявесты.

Бацькі хросныя бяруць каравай, злучаюць яго, падымаюць угору і крычаць: “Наш каравай вушай”. А тады становяць на стол, свечы тушаць і садзяць сватоў за стол і пяюць:

*Да стаялі, буялі ў агародзе канапелечкі,*
*Ды не даў ім яшчэ болей пастаяць,*
*Веткаю памахаці.*
*Ды гуляла, красавалася*
*Волечка ў свайго бацькі,*
*Ды не даў ёй Колечка*
*Яшчэ болей пагуляці,*
*Коскамі памахаці.*
*Расплёў ёй косачку,*
*Разаліў ёй слёзачку.*

Паўлазяць з-за стала і танцуюць, а нявеста пачынае збірацца:

*Збірайся, Волечка, збірайся,*
*Ды бяры караўкі з-пад лаўкі,*
*Ды бяры свае анучкі з-пад кучкі,*
*Ды бяры свае аборкі з каморкі.*

**СУСТРЭЧА МАЛАДЫХ**

Як выязджала нявеста з двара, бацька красціў дарогу, а нявеста кідала жыта за сабой.

Як прыязджалі да жаніха, яго маці забірала нявестку з возу, нявеста кланялася ёй, і яны цалаваліся і ішлі ў хату, пры гэтым спявалі:

*Ой, радуйся, матка,*
*Сын нявестку вязе,*
*Рабочую, на дзела ахвочую.*
*Нясі, маці, дзяжу, лапату,*
*Прыехала гаспадыня ў хату,*
*Чорная, касматая,*
*Тучная ды багатая.*

*Да разагнаў Колечка конікі,*
*Упала шапачка, ды не падняў.*
*Яна маю шапачку падыме,*
*Яна мяне маладога абдыме.*
*Ды адсяку розачку або вярбу,*
*Ды секану коніку пад нагу.*
*Бяжы, бяжы, сівы конь, па расе,*
*Даставай Вольгачку ў касе.*

Бацькі нявесты і жаніха абменьваюцца караваямі, але зразу за стол не ставілі, елі пасля. Прыводзяць нявесту ў хату і развіваюць. А тады ўжо прыязджаюць закасяныя ад нявесты, вешаюць платкі і абрусы, а пасля іх садзяць за стол.

Маці жаніхова ставіць на стол кашу ў гаршку і накрывае платком, і тады пачынаюць гуляць. Звычайна гулялі браты нявесты і жаніха. Яны клалі грошы: адзін з аднаго боку гаршка, а другі – з другога, і хто вышэй пакладзе. Хто вышэй,

таму нявеста давала платок. Здымаюць грошы і аддаюць маладым. Гаршок б'юць і дзеляць кашу. Усё гэта было ў панядзелак.

У наступную сыботу ішлі ўсе ў госці да нявесты, а потым, у другую нядзелю, ішлі да жаніха.

***Запісана ў в. Вяжны Светлагорскага р-на ад Вежнавец Матруны Якаўлеўны, 1920 г.н., студэнткай Вежнавец Ю.***

Я са сваім жаніхом жыла ў адной вёсцы. Сустракаліся мы на вячорках. Ён са мною ўсміхаўся, шуціў. А потым ён аднойчы мне і кажа, што прыйдзе да маіх бацькоў у сваты. Я спужалася, думаю, як гэта да мяне ў сваты прыйшоў такі прыгожы хлопец на дзярэўні. Але бацькам нічога не сказала, думала, мо, ругацца яшчэ будуць.

І вось праз тры дні прыходзяць сваты. Пачалі гаворку з бацькамі. А я стаю ў сенцах ды смушчаюся. Ну, але прыглашаюць бацькі гасцей дарагіх за стол. Я з маці стаўлю пачастункі для гасцей, не такія як зараз. І чую, што бацька кажа, што ім з маткай усё роўна за каго аддаваць, абы дачцэ было добра. Пагэтаму яны запыталіся ў мяне ці згодна я. А я, канешне, была згодна. А потым яны пачаліся дамаўляцца, калі і дзе адбудзецца вяселле. Згадзіліся зрабіць яго невялікае, бо пасля вайны не было ні грошай, ні яды.

Вяселле адбылося праз месяц. Да нас малады прыехаў са сваёй дружынай на дзвюх падводах. Коні былі прыгожа ўбраны: з бубенчыкамі, лентамі.

Вяселле цягнулася толькі адзін дзень, але ў гэты дзень было шмат песень, плясак, гульняў.

У гэты ж вечар малады мяне забраў да сваіх бацькоў. Мне было вельмі сумна адыходзіць з дому бацькоў. Прыйшоўшы ў двор свёкраў, я высыпала зярно курам, каб лягчэй было жыць са свякрухай.

На наступны дзень прыехалі мае бацькі, прывезлі мой пасаг. А праз тыдзень мы пайшлі да іх дадому. Зяць ішоў на яечню да цешчы.

Мне добра было, што жылі мы ў адной вёсцы. Можна часцей бачыцца са сваімі роднымі, тады і табе лягчэй.

***Запісана ў в. Казлоўка Светлагорскага р-на ад Шорап Марыі Сяргееўны, 1927 г.н., студэнткай Шавялёвай Г. (2005 г.)***

Нельзя рабіць свадзьбы ў час паста, бо будуць няшчаслівыя маладыя.

Раньшы рабілі свадзьбы восенню, пасля таго, як скончацца ўсе палявыя работы. Спачатку сваталі нявесту. Матка нявесты падгатаўлівала гарбуз. Калі нявеста не згодна ісці замуж, то гарбуз аддавалі сватам, гэта і быў адказ. А калі дзяўчына была згодна, то гарбуз разбівалі і выкідвалі далёка за хатай. У сваты ішлі ўвечары і звычайна небагата было людзей. Гэта былі жаніх, два сваты і самыя блізкія родственнікі.

*Прыехалі сваты на двор,*
*Пусцілі стралу ў акно.*
*– Страла, мая страла,*
*Па што ты прышла?*
*Ці па мёд, ці па гарэлку,*
*Ці па красну дзеўку?*
*– Ні па мёд, ні па гарэлку,*
*А па красну дзеўку.*
*У чужую старану аддаваць,*
*Будзе чужой мамульцы гадзіць,*
*Ад зары да зары рабіць.*

*У Гоўры хата топіцца,*
*Шаўковыя дымы ідуць,*
*Да Васільку каравай пякуць.*
*Каравай у печы йграе*
*Да заслонку адбівае,*
*А шышачкі рагочуць –*
*На прыпечак хочуць.*

*Прыйшоў на свадзьбу наш сваток,*
*Павязаўшы крыжам рушнічок.*
*А казалі, сват наш очань харош,*
*А ў свата доўгі буслаў нос,*
*А ў свата лысая галава*
*Ды казліная барада.*
*Плавае па хаце, як таран,*
*Лыпае вачыма, як баран.*

***Запісана ў в. Печышчы Светлагорскага р-на ад Дайнека Дар'і Фядосаўны, 1927 г.н., Дайнека Анастасіі Фядосаўны, 1922 г.н., студэнткай Камандзірчык Н.***

Я хочу расказаць пра інцересную свадзьбу са сваёй сям'і. Мой дзед быў панам. Але ён вельмі любіў вучыцца. Потым, пазней ён стаў вучыцелем. Калі паноў разагналі, паехалі ўсе хто куды. Хто ў Польшчу ўцякаў, хто яшчэ куды. А ён застаўся ў сваёй вёсцы і стаў там першым вучыцелем. Яго вельмі паважалі, але і любілі, бо ён быў вельмі добрым і ласкавым. Дак вот ён вучыў усіх, хто хадзіў у школку. Было ўсяго чатыры класы. Дак вот, у чацвіртым класе ён аднойчы ўпадобіў дзяўчынку, ён у яе закахаўся і вырашыў сам да яе ісці ў сваты. Пайшоў разам са сваім дружкам.

Бацькі гэтага вельмі спужаліся, таму што, па-першае, да іх прыйшоў самы паважаны чалавек на вёсцы, а па-другое, гэта ж былы пан, як ён можа сватацца да простых людзей, у іх нават не было пасагу даць дачцэ. А ён сказаў, што яму нічога не трэба, ён проста вельмі любіць гэтую дзяўчыну. Самой дзяўчыне таксама падабаўся

гэты чалавек, хоць ён быў яе старэйшы на 15 год.

Свадзьбы амаль ніякай не было, бо час быў не той, радні ў вучыцеля не было. Але на застоллe былі запрошаны сябры і суседзі. Для ўсёй віскі было вельмі дзіўна, што такі чалавек бярэ дзяўчыну з простай сям'і ды яшчэ без пасагу.

Маладыя жылі добра, але потым дзеда адправілі ў ссылку за тое, што ён раней быў панам. А бабуля засталася дома разам з сынам. Яна стала вельмі добра шыць маладзіцам плацці, гэтым і жыла. А праз пяць год вярнуўся і муж. І жылі яны добра аж да Вялікай Айчыннай вайны. А тады дзеда забілі фашысты, выкінулі з маста.

***Запісана ў в. Рудня Светлагорскага р-на ад Верас Любові Піліпаўны, 1929 г.н., студэнткай Шавяленка Г. (2005 г.)***

Вяселле звычайна гулялі на Пакровы. Дайжа ёсць такая прымаўка, што на Пакровы і дзеўка гатова. А чаму на Пакровы? Таму што ўжо к Пакровам павінна была ўся асенняя работа парабіцца. Яшчэ вяселлі гулялі вясною, пасля Пасхі. Не гуляліся свадзьбы з 10 аўгуста па 1 сенцябра, бо пачынаўся Спас яблачны, мядовы.

Запоіны, заручыны, сватанне – гэта ў нас у Хутары ўсё адно і тое ж. Раней як хадзілі ў сваты... Не хлопец з дзеўкаю дагаварываліся, а бацькі выбіралі маладых. Колісь такое было: глядзелі, падбіралі, каб з роду знатнага былі, бралі ж не абы-каго, калі хто бяднейшы, дык ён і выбіраць доўжэн быў бяднейшую, бо бацька не аддасць беднаму багатую.

Вось, калі дагаварыліся, дык і засылалі сватоў. Бывала так, што маладыя дайжа і не ведалі адзін аднаго да сватання, а адмовіць было нельга, бо была такая воля бацькоў. Але бывала і такое, што сваты прыхадзілі проціў волі бацькоў. І калі не жадалі прымаць бацькі іх, то выганялі па-разнаму: хто мятлой, хто венікам. Але большасць случаяў было па волі бацькоў.

Вось дагаварыліся аб сватанні і ўжо засылаюць сватоў. Нада, каб у сваты ішлі не парна: ці пяць чалавек, ці сем, ці дзевяць, таго што ідуць за парай. Трэба, каб адзін хто-небудзь выступаў у ролі свацці, свата, якія павінны былі хваліць жаніха, гаварыць, які ён харошы. Калі ўжо прышлі, то прыгаварваюць: "Добры дзень, сваточкі, галубочкі! Мы там чулі, што ў вас тут козачка маладая прадаецца, а ў нас ёсць казёлчык малады. Мы вот к вам прышлі піва папіць, каб свайго маладзенькага казёлчыка на вашай козачцы ажаніць!"

Тады, стоячы ў парога, дагаварваюцца, разгаварваюць, потым яны ўжо прапускаюць, кажуць:

– Ну, вот есць у нас козачка!

А другія:

– Ды вот, хочам мы сасватаць, вот давайце ўмесце гарэлачку гнаць, каб свадзьбу спраўляць!

Могуць сказаць:

– А еслі мы не аддадзім?

А тыя:

– Я за свайго Кузьму, дзе хочаш дзеўку яму вазьму. А вы сваю Марынку папаводзіця па рынку!

Затым сватоў садзяць за стол, і бацькі маладой павязваюць рушнікі ўсім, хто прыйшоў. Песні не пелі, бо ў асноўным ішоў дагавор, калі ўжо свадзьбу гуляць, у які дзень, што і як.

**ЗБОРНАЯ СУБОТА**

Раней свадзьбы гулялі ў васкрасенне, панядзелак і аўторак. Субота была зборная. У суботу ўжо гатовяць і маладой фату, і нарады, плацці, прыданае – палатно, юпкі натканыя, посцілкі, рушнікі. Таксама пеклі каравай.

**КАРАВАЙ**

Каб зрабіць каравай, запрашалі трох самых старых бабак. У дзежках дзеравянных учынялі, мясілі, вымешвалі цеста. Пелі песні, каб каравай быў пухнаты, багаты, каб цеста добра падашло. Каравай – гэта абычны хлеб, які па-свойваму ўкрашалі. Рабілі каласкі жыта, галубкоў да ўсялякія фігуркі, а цеста на ўкрашэнні бралі з замешанага на каравай. Бабак, што пеклі каравай, называлі каравайшчыкамі.

**ПЕРШЫ ДЗЕНЬ. НЯДЗЕЛЯ**

У нядзелю пачыналася свадзьба. Гулялі свадзьбу госці маладой у яе хаце, а госці маладога – у хаце маладога. Але пасля, бліжэй да вечара, свадзьбу гулялі толькі ў маладой разам з гасцямі маладога.

Госці маладой прыходзяць, садзяцца за стол, п'юць гарэлку, ядзяць, а тым часам маладую даўжны былі прыбіраць у хаце, якая была чэраз дарогу. Нявесту прыбіралі абавязкова дружкі маладой, не менш трох. Кожная дружка павінна была прыгатаваць ветачку свайму дружку. Ветачка – ета цвяток, які чапляўся на грудзь дружку, а етую ветачку вешалі дружкам, калі тыя прыходзілі ў сваты.

Госці маладога прыходзілі ў яго хату і таксама пілі, гулялі. А малады збіраўся ўжо да маладой. Потым, як напіўшыся, нагуляўшыся, збіраліся ўсе разам: госці, бацькі, малады з дружкамі – і ехалі да маладой. Разам з сабою абавязкова бралі ёлку. Ету ёлку высякалі ў лесе, і ў маладога дзеўкі маладыя з бумагі дзелалі разныя цвяточкі, лентачкі і імі абвівалі ўсю ёлку, гэта, як кажуць, – вілі ёлку. Вот бралі ету ёлку і ехалі да маладой. Малады і глаўны дружок, які дзяржаў ету

ёлку, ехалі ўперадзе. Калі яны пад'язджалі, то людзі, якія ўстрачалі маладога, стараліся атарваць ветачку з етай ёлкі. Гэта азначала, што ветачка можа прынесці шчасце, багацце. А малады з дружкамі імкнуліся хутчэй прайсці гэты натоўп людзей, каб пачаць сватаўство. Але маладую хавалі, закрывалі, трэбавалі выкуп, маладому падстаўлялі другую маладу. Малады з дружкамі трэбуюць, каб аддалі маладую, а дружкі маладой ахраняюць яе, трэбуюць выкуп: канфеты, гарэлку, грошы. Як ужо выкупілі маладую, малады бярэ яе за руку, выходзяць яны ўжо з хаты, штоб іці да маладой, і кажды дружок бярэ сваю дружку. Тады пелася такая песня:

*А каліна ці не ягадка,*
*А Маруся ці не дзевачка.*
*Маруся коску расплятала*
*Ды й у дзве коскі заплятала...*

Вось яны падыходзяць да хаты маладой, і там іх сустракаюць бацькі нявесты. Абычна сустракалі не родныя бацькі нявесты, а хросныя бацькі. Адчыняліся вароты, ставіўся стол, накрыты самадзельнымі скацеркамі, на стол ставіліся абавязкова мёд, чарка, гарэлка і хлеб-соль. Маладым давалі папрабаваць тры разы мёду, каб жылося сладка, хлеб давалі адкусіць, каб былі пышныя, багатыя, налівалі па чарачкі гарэлкі. Гарэлку не трэба было выпіваць, а трэба было толькі прыгубіць і разбрызгаць. Лічылася, што сколькі капеляк, дык столькі шчасця, багацця, кахання.

Тады ці брат, ці сястра маладой бралі яе за руку і вялі не проціў сонца, а па сонцу да лавы, на якой быў засцелены авеччы кажух або там стаяла дзяжа. І ўжо маладую садзілі ці на лаву, ці на кажух. Лічылася, што маладая будзе багатай, здаровай, вялікай.

Потым усе ішлі за стол. Маладыя павінны былі сядзець на кажуху. Дружкі маладога сядзелі па руку жаніха, а дружкі маладой – па руку нявесты. А як маладыя заходзілі ў хату, то маладой давалі платочак з жытам, і яна начынала крастом абсыпаць хату. Сыпле за печ, каб жызнь была такая доўгая, сколькі зёрнышак упала, а следам маладога і маладую пасыпалі таксама жытам.

Затым гулялі, а было так, што садзіліся за стол толькі тры разы.

Пелі песні:

*Ой, у лузе, у лузе,*
*Там сцеляцца крэпка туманы,*
*Там па зялёнаму гаю*
*Казак з дзяўчынай гуляў.*

Пелі песні маладому:

*Налейце ў стакан гарэлачкі,*
*Да я вып'ю да дна.*
*Чарнаглазая Чаўдоначка,*
*Палюбі душой меня.*

Пеліся такія старынныя песні, як:

*Кукавала зязюленька*
*У саду на памосце.*
*Прыехаў да дзяўчыначкі*
*Адзін казачак у госці.*
*Адзін казак ідзе – каня вядзе,*
*Другі ж сядло вяжа,*
*Трэці стаіць на парозе,*
*– Добры вечар, – кажа.*

Калі нявеста была сіратою, то пелі сіроцкія песні. Затым, калі садзіліся трэці раз за стол, пачыналася дзяльба каравая. У гэты дзень дзялілі каравай толькі маладой, а каравай маладога – назаўтра. Каравай няслі тыя, хто яго рабіў і прыгаворвалі:

*А ў нашым каравai із сямі палёў пшаніца,*
*Із васьмі рэчак вадзіца,*
*Із дзевяці кароў масла*
*І яец палтараста!*

Падносілі яго к сталу, а бацька хросны маладой павінен быў выкупіць еты каравай, каб яго раздзяліць. Калі ўжо каравайшчыкі згаджаюцца з цаною, тады бацька аддае ім ці грошы, ці што другое. Прадаўшы каравай, каравайшчыкі ўходзяць, а ў дзвярах стаяць родныя бацькі. І тады хросныя матка і бацька тры разы просяць дазволу каравай падаць маладым:

– Бацька, маці, дазвольце каравай падаці!

А бацькі:

– Дазваляем!

Ну вот, дазваляюць каравай падаці, а потым ужо бацька хросны пачынае дзяліць каравай. Ставяць дзве чарачкі і першых да каравая просяць бацькоў. Бацькі падыходзяць, дораць падарак, выпіваюць па чарцы і за гэта атрымоўваюць па куску каравая. Каравай заўсёды бралі якой-небудзь салфеткаю ці рушнічком, а не голымі рукамі. Гаворацъ, калі голымі рукамі возьмеш каравай, будзеш і сам голы. За бацькамі дзеляць каравай усе астатнія госці.

Затым малады забіраў маладую і вёз к сабе дадому, а дружкі маладой неслі за імі пасцель. Разам з імі ехалі ўсе госці, але бацькі маладой заставаліся дома. А ўжо назаўтра за імі павінен быў прыехаць жаніх і асоба са сватам пазваць іх, тады яны ўжо ехалі да маладога і працягвалі гулянку там. Калі малады забіраў маладую да сваёй хаты, то іх таксама сустракалі хросныя бацькі маладога ля яго хаты. Тожа, як у мала-

дой, адкрывалі варота, ставілі стол, на стале хлеб-соль, мёд.

Пасля таго, як маладыя прыехалі да маладога, к нявесце падыходзіла свякруха, здымала з маладой вянок і павязвала ёй хустачку. Такім чынам маладую пераводзілі ў маладзіцу, а вянок абавязкова закідвалі на кут.

Потым маладым адводзілася комнатка, дзе дружкі гатовілі маладым пасцель. Пасля гулянкі малады прыводзіў маладую ў гэту комнатку, садзіўся на кравадь, а маладая павінна была разуць мужыка і дастаць з сапага кнут, якім муж яе павінен тры разы ўдарыць слягка для таго, што жана даўжна пакарыцца мужу.

**ДРУГІ ДЗЕНЬ. ПАНЯДЗЕЛАК**

На другі дзень маладая надзявала другое плацце. Зноў жа сабіраліся госці і працягвалася гулянка. Ужо дзялілі каравай маладога ў яго ж хаце, а маладой госці гулялі ў хаце без маладой. Адбывалася так: тыя гулялі там, а тыя тут.

Пелі песні, гулялі ў гульні, выдумлялі ўсё-ўсякае. Запрагалі коней, ездзілі па сялу, граючы на гармоні.

**ТРЭЦІ ДЗЕНЬ. АЎТОРАК**

На трэці дзень было заканчэнне свадзьбы. Маладая таксама, як і на другі дзень, перадзявала нарад. Звычайна на трэці дзень яна надзявала спадніцу і кофту, а вянка не надзявалася.

У гэты дзень дзелалася так: бралі якіх-небудзь дзеда і бабу, пераадзявалі ў маладых. І тут проста ішла інсцэніроўка свадзьбы. Сапраўдныя маладыя сядзелі як госці, а тут ужо як бы начыналася свадзьба на трэці дзень па новай. Старых бабу і дзеда па-свойму наражалі, чаплялі вяночкі ім. Тут ужо смяяліся, весяліліся мудрэй, чым у першы дзень.

Вот етым і заканчвалася свадзьба. Госці расхадзіліся па дамам, а маладая павінна была памыць усю пасуду, увабрацца, бо яна была ўжо хазяйка ў етым доме.

А на сёмы дзень пасля свадзьбы бацькі маладога павінны былі прывесці маладую да яе бацькоў, каб яны сустрэліся, пагаварылі.

***Запісана ў в. Хутар Светлагорскага р-на ад Філіпчык Валянціны Якімаўны, 1950 г.н., студэнткай Горбач М. (2001 г.)***

Як сваталіся, то ідзе жаніх, бацька, матка, пякуць пірог і ідуць да дзеўкі, і дагаворваюцца, ці аддадуць дзеўку. Ставяць пірог на стол і глядзяць, хто разрэжа. Калі сама нявеста разрэжа, то гэта саглассе ўжо і тады дагаварваліся, калі будзе вяселле. Песню такую дзяўчына спявала:

З-*пад белага ды бярэзнічку*
*Выбягае белы конічак,* 2 р.
*Ды не сам жа конічак бяжыць,*
*На ём хлопец удаленькі сядзіць.* 2 р.
*Ён коніка паганяе*
*І з конікам размаўляе:* 2 р.
*– Ой, ты коню, ты мой коню,*
*Ты выхвалівайся мною,* 2 р.
*Ты выхвалівайся мною*
*І маёю ты жаною.*
*Пераскоч ты вароцечка,*
*Не зачапі ты капыцечка,*
*Ды не выбі, коню брамачкі,*
*Не зрабі, коню, няславачкі.*
*Не дай, коню, цесцю знаці,*
*Што мы будзем ваяваці.*
*У камору мы зграбуем,*
*І ўвесь двор мы адваюем.*
*Каморачку ды новенькую,*
*Дзяўчонку маладзенькую!*

Заручыны і сватанне – ето тое самае. На змовіны больш людзей звалі, падаркі давалі, рушнікі завязвалі сватам, особенно старшаму свату і свёкру, свякрусе давалі на плацце.

У зборную суботу дзеўка сабірала падружак і намячалі, у якой хаце будуць гуляць, дзеўкі прыносілі пасуду, закуску, а хлопец прыводзіў сваіх дружкоў і частаваліся, хлопцы прыносілі гарэлку па літры, гармонь.

Вяселле старыя рабілі асобна ад маладых. І вось ідуць да нявесты з песнямі, там іх садзяць за стол, спяваюць:

*Стукнула, грукнула на двары:*
*– Эта, мамачка, едуць ужо па мяне.*

*Ля новага калодзежа*
*Там Алачка воду брала,*
*Там Алачка воду брала*
*Ды ў край заглядала.*
*Загледзела два галубчыкі:*
*– Галубчыкі сівенькія, браткі дарагенькія,*
*Вы ляціце ў маю сторану,*
*Спрасіце ў майго бацечкі,*
*Ці я тут запрададзена,*
*Ці я дарам тут аддадзена.*
*Еслі дарам аддадзена,*
*Пускай едуць, забіраюць,*
*А еслі запрададзена,*
*Няхай едуць, выкупляюць.*

Як толькі сабраліся ў хаце ў жаніха ці нявесты, бяруць благаславенне ў хросных: "Благаславі, ацец і маці, маладой песню спяваці". Тады запявалі:

*Аліна мама на вуліцы ходзіць*
*Ды суседачак просіць:*
*– Вы, суседачкі мае,*
*Ды хадзіце ка мне,*
*Да не ка мне, а к майму дзіцяці,*
*Каравай у печ сажаці.*

Каравай уносяць 3 жанчыны, толькі каб усе былі замужнія, не ўдовы і жылі не за ўдаўцом, каб красіва замужам жылі.

*А ніхто не ўзнае, што ў нашым каравае.*
*Сямі дзежак мучыцыца,*
*Сямі крынічак вадзіцыца.*

Давалі хроснаму каравай, ён адрэзаў кусок і хваліў, што сільна добры каравай. Жанкі бяруць каравай і нясуць назад.

*А спасіба, добрыя людзі,*
*Што каравай пахвалілі.*
*Наш каравай пахвалілі*
*Ды ўвесь род абдзялілі.*

Нясуць яго ў кладоўку, становяць яго там, каравай праважалі з гармоняй, і ў кладоўцы хазяйка частавала каравайніц.

Потым яны зноў ішлі ў хату.

*А мы былі на каравае,*
*Нас там частавалі*
*Віном зеляненькім,*
*Мёдзікам саладзенькім.*

Потым жаніх забіраў нявесту да сябе ў хату. Ета ўжо было, калі госці пачаставаліся, песень наспяваліся.

*Загрукацелі вараныя коні на дварэ,*
*Ой, зазвінелі залатыя кубкі на стале!*
*Ой, як пачула маладая Ганна ў каморы,*
*Ой, яка ўпала сваёй роднай маці ў ногі:*
*– Ой, не аддавай, мая родна маці, ад сябе!*
*– А як жа цябе, мая дачушка, не аддаць?*
*А як жа цябе, мая дачушка, не аддаць?*
*Ой, прыехалі ды такія госці, каб цябе забраць.*

*– Я жаль маю, мая мамачка, на цябе, на цябе,*
*Засталася мая ружанька ўся ў цябе, уся ў цябе,*
*Ой, ружанька ў агародчыку на градзе, на градзе.*
*Ой, уставай, мая мамачка, раненька, раненька,*
*Ой, палівай маю ружаньку часценька, часценька,*
*Ой, ранняю ды вячэрняю зарою, зарою,*
*Ой, мамаччынай ды гарачаю слязою.*
*Скокнула Ганначка з лаўкі далоў, з лаўкі далоў,*
*Пакланілась мамачцы нізка да ног, нізка да ног.*
*–Дзякуй, дзякуй, мамачка, за хлеб-соль, за хлеб-соль,*
*Больш цяпер я не пайду за твой стол, за твой стол,*
*Хоць жа я к табе прыйду ў гасціну, у гасціну,*
*Калі дасі паабедаць – спасіба, спасіба.*
*Калі ж не дасі абедаць, так пайду, так пайду,*
*Ой, ці ж я сабе хлеб-соль не знайду?*

Жаніх вязе нявесту да сябе, маці нявесты абсыпае вясельны поезд зернем. Калі прыедуць, то свекруха сустракае маладых з хлебам і соллю, рассцілае ля парога кажух, і штоб яны сталі на кажух, каб багатыя былі, благаслаўлялі маладых іконай хросны бацька і матка.

У хаце садзяць маладых проці печы, а патом старшая дружка брала нявесту і жаніха за рукі і разам з іншымі дзяўчонкамі вялі да кута і садзілі іх там на кажух.

*Ляцелі галачкі ў тры стадачкі,*
*Адна галачка паперак.*
*Ішлі дзевачкі ў тры радочкі,*
*А наша Алачка паперад.*

Потым да нявесты падыходзіла свякруха і знімала абрад свадзьбы і завязвала платок пад бараду.

*Нашу Алачку пасадзілі пад паліцай,*
*Ды і назвалі маладзіцай.*

Калі ехалі за прыданым, то пелі:

*А мы ехалі пацярухай,*
*За сваёю чапярухаю*
*Шугі-шугі, варабейкі,*
*Ды ў свае канапелькі.*

Пасля вяселля расходзіліся дадому, а назаўтра раскідалі яшчэ галавешкі.

Цераз нядзелю пазначае нявеста сабе ў госці: сватоў, свякруху, свёкра, каб усе родныя прыехалі, і празднуюць. На етым свадзьба заканчваецца.

***Запісана ў в. Чыркавічы Светлагорскага р-на ад Усціменкі Марыі Якаўлеўны, 1929 г.н., студэнткай Анянковай А. (2000 г.)***

А зараз пра сучаснае вяселле.

Пасля таго, як адбыліся сваты, назначаюць дзень вяселля. Да яго доўга збіраюцца, рыхтуюць падарункі, гатуюць ежу. Перад вяселлем, у пятніцу, у маладой збіраюцца незамужнія дзяўчыны, якія співаюць песні, размаўляюць пра будучае жыццё нявесты.

А ў суботу паднімаюцца вельмі рана, каб паспець да прыезда жаніха падрыхтавацца: апрануць нявесту, упрыгожыць хату або кватэру.

Нявесту апранаюць яе сяброўкі і дружкі. Адзежа маладой вельмі адрозніваецца ад той, якая была раней. Вясельная сукенка толькі белага колеру, так як і вянок, і фата. Гэтае ўбранства купляецца ў магазіне. Калі нявесту апрануць, яе

садзяць на пасад. Пасярэдзіне пакоя складваюць падушкі і на іх ставяць нявесту без абутку. Пасля гэтага маці нявесты бярэ абраз і бласлаўляе дачку тры разы. Потым усе дружкі і госці з маладой садзяцца за стол і выпіваюць па тры чаркі гарэлкі.

Тое ж самае адбываецца і ў маладога. Жаніху дапамагаюць апранацца дружкі, а потым, як і ў нявесты, усе садзяцца за стол, каб пажадаць добрай дарогі маладому.

Вясельны партрэт жаніха ў наш час складаецца з машын, а не з каней. Разам з маладым едуць яго дружкі, хросны бацька, яшчэ некаторыя госці. Жаніх едзе ў другой машыне. Перад тым, як выехаць, маці маладога абходзіць тры разы вакол машын з абразом і багаслаўляе ўсіх у дарогу.

Цікавым у вясельных звычаях застаецца абрад – прыезд жаніха па нявесту. Упрыгожаны, шумны і вясёлы гэты “поезд” бачан усюды, дзе ён праязджае. Яго астанаўліваюць, перакрываюць дарогу і патрабуюць выкуп.

Нарэшце, дружына жаніха прыязджае да хаты нявесты. Але маладога не пускаюць у дом, бывае, што перад яго дружынай закрываюць дзверы.

Пачынаецца вясёлы, гумарыстычны торг. Дружкі нявесты патрабуюць у свата жаніха выкуп за права зайсці ў хату. Гумарыстычны торг працягваецца 10-15 хвілін, але поўны гумару, шуткамі, прыказкамі – хто каго перагаворыць, але сват усё ж такі павінен даць выкуп дружкам нявесты. На радасць двух бакоў усё заканчваецца добра. Бацькі нявесты сустракаюць жаніха хлебам-соллю і прапаноўваюць яму з дружынай прайсці ў хату. Жаніх дорыць маладой кветкі і далікатна прыжымае яе да сябе. Маладая ў адказ ківае галавой.

Дзяўчаты прыбралі машыны кветкамі. Потым дзяўчаты прышпілілі ўсім на грудзі па вясельнаму банту з кветкамі, а свату маці нявесты павязала цераз пляčо ручнік і блаславіла маладых абразам. Нявесту з дома выводзіць хросная маці і тры разы абводзіць праз машыну (каб жанчыне лёгка раджалася). У першую машыну садзіўся жаніх са сваімі дружкамі, у другую – нявеста з дружкамі, у астатнія – блізкія сваякі і сябры. На заключэнне шлюбу ехаў і сват, а бацькі заставаліся дома.

У палацы шлюба прыгожы, светлы пакой, дзе шмат кветак. Спачатку маладыя ідуць у спецыяльныя пакоі для кожнага з іх, дзе рыхтуюцца да выхада ў пакой заключэння шлюба. У пакоях увесь час гучыць музыка, прыемныя мелодыі.

І вось падыходзіць час, калі жаніх і нявеста пад руку напраўляюцца туды, за імі дружкі і ўсе астатнія госці. Маладыя становяцца на разасланы ручнік. Голас вядучай парушае цішыню...

Я жаніла сына свайго. Даўно ўжо гэта было. Такіх свадзіб ужо не робяць.

### СВАТЫ

Браў мой сын дзеўку з Добрушскага раёна. Пагэтаму на сваты прыйшлося ехаць далёка. Паехалі з намі хросны бацька, брат, дружка і я. З сабой мы абязацельно бралі гарэлку, хлеб, бо без гэтага нельга было.

Прыехалі мы туды к абеду. Адразу нас пасадзілі за стол і пачалі частаваць. За сталом мы калектыўна і вырашылі, у каго будзе свята праходзіць, калі яно адбудзецца.

Гаварылі людзі прыгожа. Выпівалі за ўсіх прысутных і за бацькоў, і за маладых, і за хросных бацькоў. Дзяўчына панравілася мне сразу: прыгожая, гаворкая, працаздольная.

Канешне, пелі і песні розныя: вясельныя, пра любоў, пра жаночую долю. І ўжо толькі позна ноччу леглі спаць.

Раніцай нас зноў пасадзілі за стол. Зноў дагаварылі і паехалі дамоў. Вырашылі вяселле рабіць праз два месяцы ў нас. Калі выходзілі з хаты, усе перацалаваліся, пабожкаліся – гэта так значыць развіталіся.

Гэтыя два месяцы ішлі ў нас прыгатаванні. Забілі індзюкоў, капалі ўжо маладую бульбу. Добра, што вяселле летам, тады лягчэй бацькам спраўляць. Выгналі сваёй гарэлкі, з восені яшчэ віно было здзелана. Бацька хросны прывёз бочку піва. Так што яды ў нас было багата і пасля вяселля засталося.

### КАРАВАЙ

Перад вяселлем пяклі каравай. Я гэтага абрада добра не ведаю, але мы рабілі так. З вечара перад гэтым днём бацька разам з хросным распалілі печ кляновымі і бярозавымі дровамі. Потым, пакуль печ растаплівалася, выпівалі па чарцы гарэлкі. На наступны дзень да нас прыйшлі (мы прыгласілі) хросная матка, хросны бацька, суседка наша Маруся. Бабы замешвалі цеста, Маруся пела каравайную песню, ужо не помню якую. Потым ставілі яго ў печ, якую бацька яшчэ раз пратапіў з самага рання. Пакуль цеста падыходзіла і пёкся каравай, мы сядзелі за сталом, частаваліся, спявалі песні. Каравай пяклі адзін, але вялікі, упрыгожвалі яго кветкамі з цеста. Выпечаны каравай ставілі на ручнік пад абразамі. Тут ён і стаяў да самага вяселля.

### СУСТРЭЧА МАЛАДЫХ

У дзень вяселля мой сын разам з дружынай паехаў за маладой. Але не з поўдня, як гэта прынята, а зрання, бо трэба было далёка ехаць. Прыехаўшы, яны там выкуплівалі нявесту і

ехалі ў ЗАГС распісвацца. А ў маладой нашым сватам павязалі ручнікі прыгожыя, нявеста сама вышывала. Пасля гэтага маладыя прыехалі да нас, таксама прыехалі і бацькі маладой з сваімі гасцямі. Прывезлі яны свой каравай, шмат іншай яды: калбасы, куры, гарэлку.

Сустракала маладых я на парозе свайго двара. Мы паставілі стол, накрылі яго скацеркай, паставілі бутылку гарэлкі, тарэлку мёда, на ручніку ляжаў хлеб з соллю, а ў руках я дзяржала ікону. Прыехаўшы, маладыя пакланіліся спачатку нам, а потым усем прысутным гасцям. Я маладых перахрысціла, дала ім пачаставаць хлеба з соллю. Бацька наліў па чарцы гарэлкі, падаў адразу нявесце выпіць, а потым жаніху. Пасля падаў кожнаму па лыжцы мёда. Я абсыпала іх зярном. Усе госці пачалі так рабіць, а нявеста кідала ва ўсе стораны канфеты дзецям.

Потым бацька завязаў рукі маладых ручніком і правёў у хату за стол. А потым і ўсе госці пайшлі за імі. Маладых садзілі на вугал, каб з вуглом са сваім былі заўсёды, а зараз так не робяць.

### ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

І тут пачалося вяселле. Спачатку шмат пілі, елі, спявалі песні, танцавалі. На вяселле мы заўсёды праглашалі музыкантаў, гэта значыць вясковага баяніста, абавязкова мужчыну, які ў бубен б'е. Мой бацька пакойны таксама хадзіў па свадзьбах у бубен біць. Гэтых людзей вельмі паважалі на вёсцы.

У першы ж дзень вяселля дзялілі каравай. Спачатку хросная маці выносіла каравай маладога. Рабілася гэта з песнямі. Каравай дзялілі паміж роднымі, а потым – гасцямі. Усе, хто падыходзіў за караваем, адламваў кусок каравая, выпіваў чарку гарэлкі, ну і, канешне, дарыў падарак маладым і гаварыў ім сваі пажаданні. Родным нявеста дарыла падарункі: каму палаценца вышыванае, каму простыню, каму рушнік. А мне дак нявеста падарыла, якраз помню, прыгожую матэрыю на плацце.

Затым дзялілі каравай маладой. Усё праходзіла гэтак жа.

У гэты ж дзень я нявесце знімала вянок і завязвала хустку. Рабілася гэта так: пасярэдзіне хаты станавіўся стул, на які садзілася нявеста. Яе дружкі станавіліся ў карагод і спявалі сумныя вясельныя песні, а я ў гэты час развязвала маладой вянок. Пасля нявеста паднімалася, мы цалаваліся і абнімаліся разам з ёй.

Пасля гэтага вяселле працягвалася. Мы зноў частаваліся, танцавалі, а маладыя гулялі ў розныя гульні. Ну, а старыя за гэтым назіралі.

### ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

На наступны дзень вяселля госці збіраліся дзесьці каля поўдня, а потым прыйшлі і маладыя. Начавалі яны ў нас у хаце, у атдзельнай комнаце. Усе разам садзіліся за стол. Зноў гулялі, танцавалі, спявалі, частаваліся. Напрыканцы вяселля некаторыя з гасцей пераапраналіся ў розных чарцей, цыганоў, дактароў. Яны ідуць на падаіму, гэта значыць ідуць у госці да хросных або да родных, або проста да аднавяскоўцаў.

На нашым вяселлі галоўным быў цыган з пугай. Была цыганка, была доктарка, была русалка. Цыган шоў па вуліцы і паганяў пугаю тых, хто яму сустракаўся. Цыганка гадала пра судзьбу праходжым. Русалка заварожвала мужчын. А доктарка дапамагала тым, каму станавілася нібыта нядобра. А ўся свадзьба шла па вуліцы за імі. Вяселле закончвалася ад'ездам гасцей і бацькоў маладой. Гэта суправаджалася песнямі, пацалункамі.

А на наступны дзень ад мяне паехалі мае дзеці, таму што яны паехалі працаваць у Архангельскую вобласць.

Вяселле звычайна прызначаецца на суботу. Вечарам у нявесты бываюць вечарыны, калі збіраюцца да нявесты ўсе знаёмыя ёй дзяўчаты.

У дзень вяселля падымаюцца рана, рыхтуюць ежу, потым пачынаюць адзяваць нявесту да вянца. Дапамагаюць дружкі нявесты. Потым усе разам з нявестай садзяцца за стол. П'юць гарэлку. Нявеста з усімі развітваецца.

Для вяселля рыхтуюць каравай. Замешвае каравай часцей за ўсё хросная маці з удзелам іншых сваякоў. Такі каравай рыхтуецца і ў маладога, і ў маладой.

Малады са сваімі дружкамі едзе да маладой, а пасля едуць з гасцямі замочваць каравай. Па дарозе ім некалькі разоў загароджваюць дарогу: ставяць стол, кладуць на яго хлеб-соль, бутэльку з вадой, чарку. Малады павінен адкупіцца грашыма. У час застольнай бяседы пяюць многа песень.

Пасля доўгага пачастунку сват нясе каравай і ставіць яго на стол. Каравай дзеляць і пры гэтым выказваюць пажаданні шчаслівага жыцця маладым.

***Запісана ў в. Чыркавічы Светлагорскага р-на ад Наўроцкай Яўгеніі Піліпаўны, 1928 г.н., студэнткай Шавяленка Г. (2005 г.)***

# Хойніцкі раён

Сватанне – раньшэ шлі не больш чатырох чалавек: родны бацька, маці, хросны. Ідуць з бутылкай, пірагом, соллю, палаценцам. Спрашываюць у маладой, ці сагласна, калі сагласна, то накрывалі на стол, калі не, то давалі гарбузу. Раней жа пыталіся, калі ішлі ў сваты.

На заручыны збіраліся зноў родныя, намячалі, калі свадзьба будзе точна.

Калісь пеклі каравай. Маці ззывала жанчын. Некаторыя неслі муку. Песня такая була:

*Іванкава мамка па суседзях ходзіць,*
*Па суседзях ходзіць, суседачак просіць:*
*– Вы хадзіце ка мне,*
*Не ка мне, а к дзіцяці*
*Караваю ўчыняці.*

Каравайніцы пякуць каравай, астатнія сабіраюцца, за сталом сядзяць. А каравайніцы пяюць к караваю:

*Вусокі наш бор, вусок*
*Над усімі барамі,*
*Багаты наш пан*
*Над усімі панамі...*

Ой, збілася, вось другую:

*Багат Іванка, татко, той:*
*Высокі стагі ў гумне,*
*Вушны каравайко на стале.*
*Залатары – купцы едуць,*
*Залаты абруч вязуць,*
*Нам на чэсць, на славу*
*Нашаму караваю.*
*Губатая ўчыняла,*
*А рылатая мясіла,*
*А красная ды харошая*
*У печ садзіла.*

А тагды:

*Ой, стану я каля печы*
*Караваю сцярэгчы,*
*Штоб яго не спаліці,*
*Штоб яго не асмаліці,*
*Каб яму ўгадзіці,*
*Увесь род абдзяліці.*

Другія ў гэты час пяюць нявесце песні за сталом. Прыбіралі яе, прышывалі фату. Пелі песні нявесце дзявочыя пакуль жаніх прыйдзе:

*Ляцяць галачкі ў тры стаечкі,*
*Зязюля паперадзе.*
*Галкі на коллях селі,*
*Зязюля – на каліне.*
*Ішлі дзевачкі ў тры радочкі,*
*Анечка папераду.*
*Усе дзевачкі на лаўцы селі,*
*Анечка на пасадзе.*
*Усе дзевачкі песні запелі,*
*Анечка заплакала.*
*– Ой, чаго плачаш,*
*Каго жалуеш, маладая Анечка?*
*Ой, ці жаль татку старога,*
*Ці падвор’ейка яго.*
*– А толькі мне жаль*
*Русае касы, дзявочае красы.*

Ажыдаюць маладога. Прыязджае вечарам на тройках прыбратых. На парог выходзілі бацькі маладой. Сустракаліся са сватамі на парозе. Свечкі калісь жа палілі і спявалі:

*Прыступі, свахо, да мяне.*
*У цябе свяча і ў мяне,*
*У цябе свяча і ў мяне,*
*І ў цябе дзіця і ў мяне.*
*Ізлепім свечкі да купкі,*
*Ізвядом дзетак да хаткі.*

Малады нёс ельца. Цяпер дружкі ўрываюцца ў хату. А дзеўкі прыпяваюць:

*Дружок на парог лезе,*
*Абручамі галава збіта,*
*Саломаю барада сшыта,*
*Вочы ў клоччы, нос у варэнні,*
*Лычком падперазаўся,*
*Баярынам убраўся.*

Старыя пелі дзеўкам:

*Узлятайце, сарокі, прылятайце, вароны,*
*Прылятайце, вароны, з чужой староны.*

Тады дружкі, княжы даюць выкуп. Грошы давалі. Дзеўкі дабіваліся, каб добра заплацілі. Спявалі:

*Мы думалі, што багатыя,*
*Ажно яны скупаватыя.*
*Па шляху хадзілі,*
*Нішчых аббіралі,*
*Дружак надзялялі.*

Тады дзевак выганялі са стала. Бувалі такія случаі, што нават і білі, калі не хацелі ісці. Такі абычай буў. Ужэ дзеўкі пайшлі, малады сеў к маладой, паставілі на стол яец. Ідзе вяселле. Сталі дзяліць каравай. Вызывалі бацькоў спачатку, а потым усіх астатніх. Даравалі, што маглі. Потым завіванне. Завівалі маладую. Станавіліся чатыры маладыя жанчыны (трэба было, каб не ўдовы): дзве ад маладой рукі, дзве ад рукі маладога. Ста-

навіліся на скамейкі, бралі платок і калыхалі яго над галавой і пелі. А яшчэ да гэтага пелі:

*Пайшла мая маці…*
*У кублішчэ на днішчэ,*
*У кублішчэ на днішчэ,*
*Шаўкова гапчышчэ.*

*Мы ж цябе, Анечка, завіваем,*
*Шчасцем, здароўем надзяляем.*
*Ой, будзь здарова, як вада,*
*А будзь багата, як зямля,*
*А будзь прыгожа, як рожа.*
*Ой, будзь здарова, як вада,*
*А будзь багата, як зямля,*
*А будзь прыгожа, як ружа.*

А тагды завіванніцы знімалі фату, завязвалі хустку. І тады яны скачуць.

*Завіванніцы скачуць,*
*Дак чаго яны хочуць.*
*Хочуць яны паўзалатога*
*Ад князя маладога.*

Ён кідае ў стопку капейкі, трэба было выпіць да дна. Калі пераганялі завіванніцы ад маладога, то малады будзе хазяінам. І наадварот. Так гаварылі ў народзе.

Тады було гулянне обшчае. Малады збірае пасцель і вядзе жонку дадому. Цешчы даваў чобаты.

*А дзе ж тыя чобаты, што зяць даў?*
*А за тыя чобаты дачку ўзяў.*
*Павешу я чобаты на кручку,*
*Хай робяць дзелачко за дачку.*

Уязджаюць:

*Закідай, маць, дровы,*
*Да й будзь здаровы,*
*А свякроўка трэскі,*
*Дажыдайся нявесткі.*
*Не год я ажыдала*
*Пакуль нявестку даждала.*

І яшчэ:

*Анечка на адыходзе*
*Пасадзіла арэх у гародзе.*
*Расці, расці, арэшаньку,*
*Майму тату на пацешаньку!*

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Драка Марыі Дзмітрыеўны, 1915 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Кірпічэнка В. (2000 г.)***

Ужэ назаўтра ў жаніха гуляюць. Сабралі ружы з палак, вайну ўстроілі. Шуткамі ідзе вайна. Адгулялі свадзьбу. Ужэ канец свадзьбы, нада хвату сняць. І з хлопцавай рукі і з жаночай, звычайна ад жэншчын, якія адзін раз былі замужам. Чатыры было с адной стараны, чатыры – с другой стараны. І глядзелі, хто хутчэй пойдзе замуж.

Снімае свякроў вянок і свой павязвае платочак. А вянок вешаюць у куту на ікону. А сваты, што з перавязанымі палаценцамі, каравай дзеляць. Былі і з той і з той стараны. На блюдзечках разносяць караваі па залу. Ужэ свадзьба ідзе, гуляюць. Усе прыглашоныя падаркі маладым на каравай кладуць.

Маладая цэлых шэсць дней не ідзе к сваёй маме. Не паложэна. Чэраз нядзелю прыходзяць к маці на пірагі.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В.***

Калісь бацькі на шлюб дачкі саглашаліся. Як не саглашаліся, дык проста гаварылі: “Вось, хлопцы, не пойдзе яна замуж”. І ўсё, гарбузоў ніякіх не выносілі. У сваты ішлі хросныя жаніха і бацькі, а тады, еслі яны саглашаюцца, змовіны гуляюць у еты дзень. Свадзьбу не можна было святкаваць у пост, на Пятро. А так усё ўрэмя харошае, тады ўжэ і свадзьбу гуляюць. Калі ішлі ў сваты, бралі гарэлку, хлеб абгортвалі палаценцам, а на бутылку завязвалі лентачку красненькую. Прыходзілі і казалі: “Ці ў вас цёлачка е?” Стаялі і таргаваліся, а потым бацькі нявесты запрашалі да стала і ўгашчалі. Нявесту прыбіралі дружкі і падводзілі ўжэ к хлопцам, дзе яго дружкі, дык падводзілі туды, а тыя ўжо выкуплівалі. Прыводзілі і падманную нявесту, смяяліся, шуцілі. Тады ж ужэ едуць, хто вянчацца, хто на роспісь. У цэркві вянчаліся, а тады на роспісі кольцамі абменьваліся. Вянец над галавой дзяржаў хлопец, а над нявестай – свяцілка. Калісь хорашэ гулялі. Калі ехалі з цэрквы, іх сустракалі бацькі, каля хаты дарожку ўсцілалі тканую. Едуць уперад туды, дзе памятнік стаіць, прагуляюцца, а тады едуць к маладому. Ля хаты ўстрачалі маці і хросныя. На вуліцу выносяць стол, водку і тут ужэ выпіваюць на дварэ хоць і зімою, хоць і ўлетку, усё роўна на вуліцы. Тады ўжэ і дарожку ўсцілаюць і ішлі па дарожцы ў хату етую. Яны ўжо, маладыя, ідуць за руку, адно другога вядуць. За імі ідуць іх свяцілкі. Перад тым, як ехаць у цэркву, абходзілі тры разы маці з бацькам. А не – дык храшчоныя маці і бацька абходзілі коней. На свадзьбу ўкрашалі ёлачку. Дзеўкі прыносілі і ўкрашалі лентачкамі. Ставілі яе на стол у хлеб. Ёлачка стаяла, пака не кончыцца свадзьба. Ёлку ўкрашалі з бумагі. Патом дзявай, куды хочаш.

Каравай калісьці пекла жэншчына, каб не ўдава была, каб добра з мужам жыла. Каравай учынялі ў дзяжы з вады і мукі, не салілі. На лапату клалі дубовае лісце і каравай садзілі, хто рабіў булбушачкі, цыцачкі такія, дзелалі такія круглыя і даюць патом дзецям. Абычна хлопчыкі і дзевачкі сабіраюцца, дык даюць ім. Ета яшчэ рабілі як не ехалі вянчацца. Каравай вынімаў хлопчык. І калі ішлі яго дзяліць, то выносілі яго над галавой хлопчыка. Караваі было два. Дзялілі ўперад нявесты каравай, а тады жаніха. Каравай дзялілі хрышчоныя і ад яго рукі, і ад яе. А як не было хрышчонага, дык дзяліў дзядзька, каб не свае родныя такія, ці матка, ці бацька. Пасля таго, як дзялілі каравай, расплятали касу ў дзяўчыны і адзявалі платок, а платок давала свякруха. Расплятали нявесту дружкі, свякруха падносіла на талерцы масла і спявалі:

*Аддай, мамка, масла,*
*Аддай, мамка, масла,*
*Бо я кароўку пасла*
*Ад расы да расы,*
*Дай памазаць косы.*

Гэта масла на талерцы бяруць яе падружкі, мажуць ёй косы, тады свякруха знімае вянок. Ды тады зніме, хустачку завяжуць, а хвату за ікону вешаюць. Пака свадзьба не кончыцца, яна вісіць за іконай.

Трэці дзень называюць "На крошкі". Гатовілі, гулялі, даядалі, што засталося. Колісь гульня была па нядзелі. А тады ж не хадзілі па сялу, заходзілі к сваім, дак свае ў хату звалі. Да паўдзелуюцца цыганкамі, паабмурзваюцца, пазнаць не можна. Усё крадуць, дзе мыла якое, дзе што, ета насмешка была, а то і куры кралі. Цераз нядзелю, як ужэ маладую забіраюць, дак тады, цераз нядзелю яна, яго бацька, яго матка, браты, родныя едуць да яе бацькоў у госці. І яе матка сабірае сваіх родзічаў. Ну, то і гуляюць. Калі маладая ад'язджала да жаніха, матка пела так:

*Ой, не плач, мамка, ты не плач,*
*Пойдзеш ты на рэчку плацце прасць.*

Ета як яе везлі к маладому, дык матка ж плача. Яшчэ пелі так:

*Насеяла чарнабрыўцаў я цэлую граду.*
*Пайду ад цябе, мамка, я пайду.*

***Запісана ў в. Клівы Хойніцкага р-на***
***ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Сухой Ю. (2003 г.)***

У сваты ідуць хросны бацька маладога (галоўны сват), два чалавекі з радні, чацвёрты – жаніх. З сабой бяруць пірагі, бутэльку гарэлкі (на яе завязваюць чырвоную лентачку банцікам). Гэта бутэлька ходзіць ўсё вяселле. Яшчэ бяруць з сабой пашываны саматканы рушнік. Пірагі нясуць сваты. Дамаўляюцца аб дні вяселля бацькі з бацькамі, малады з маладой. Калі ідуць у сваты, то спяваюць:

*Сват-сваточку,*
*Пусці ў хату.*
*Мы шкоды не зробім,*
*Лаўкі не зломім.*
*А ў нашага свата*
*З вярбы-лазы хата,*
*Печ яго пабялёная,*
*А чэсць яго пахвалёная.*

На вяселле запрашалі гасцей як маладыя, так і іх бацькі. Вяселле пачыналася заўсёды ў суботу вечарам у хаце маладой. Прысутнічаюць у гэты дзень толькі дружкі і радня маладых. Гуляюць, гасцююць. У гэты вечар сваты шукаюць маладую. Выводзяць трох дзяўчат, накрытых посцілкай, адна з іх маладая. Малады павінен быў знайсці яе. Але гэта было як гульня.

Вянчаюцца маладыя ў нядзелю ў хаце маладой. Пачынаецца торг за маладую. Да сватоў выводзяць тры дзеўкі: адна з іх – маладая. Іх накрываюць посцілкай і кажуць: "Дайце нам маладую". Ім адказуюць: "Найдзі яе". Гэта датычыцца жаніха. Потым бяруць пугу і кажуць: "Дзесь наша цялічка забегла ў стада, яе нужна знайсці". Маладому казалі: "Шукай яе". Ен бярэ пугу, пасвістуе ею па баках і кажа: "Дзе мая цялушка?" Потым ён зрывае посцілку і адна з дружак вядзе маладую на пасад к маладому. Як вядзе на пасад, кажа: "Ацец і маці, блаславіце маладую за стол завесці". Бацькі ў адказ: "Бог благаславіць". Так тры разы. Родны брат садзіцца паміж маладым і маладой і прадае яе маладому. Дружкі спяваюць:

*Брат з сястрою сядзіць*
*Да за ручаньку дзяржыць,*
*Да не хоча папусціці*
*Да чужой чужаніцы*
*Свае роднае сястрыцы.*

*Не гніся, дружок, не гніся,*
*Кладзі залатой, садзіся,*
*Кладзі залатой, шчэ й другі –*
*Вялеў (імя маладога) малады.*

*Чаго, дружок, надзьмуўся?*
*Мо дома грошы забуўся,*
*Пастаў коніка на мяжы,*
*А сам па грошы пабяжы.*

*Пудкі дружок, пудкі*

*Ні хоча падпусціці*
*Чужой-чужаніцы*
*К сваёй роднае сястрыцы.*

Ён жа выкуп дзелае. Ён жа заказуе выкуп. Таргуюцца за каждую капейку. Ён кажа: “Мала, мала, мала”. Тады яму спяваюць такую песню:

*Татарын, братка, татарын,*
*Прадаў сястрыцу задарам:*
*За руб, за два, за тры, за чатыры,*
*Да і за тыя, залатыя.*

Як ужэ маладую заўюць, надзенуць платок ёй, тады ўжо свахі ўходзілі, дык яны ўжо ім падпальвалі валасы. Возьмуць у таго чуць-чуць і ўжо саб’юць ім голаў, штоб ужо добра жылі.

Як маладую завілі, платок завязалі ужо вобшчым, спяваюць свахі:

*Што мы захацелі,*
*Тое мы зрабілі:*
*З цеста – пеляніцу,*
*З дзеўкі – маладзіцу.*

А дружкі ўслед атвячают:

*Калі б мы хацелі,*
*Дык мы б развярцелі,*
*Павялі б у садочак*
*Да надзелі вяночак.*
*Надзелі вяночак з перламі,*
*Гуляй, дзевачка, з намі.*

Як збіраюць маладую, адпраўляюць, дак спяваюць свахі:

*Ці я ў цябе, мая мамка,*
*Не гарую,*
*Што аддаеш мяне замуж,*
*Маладую?*
*Ці я ў цябе, мая мамка,*
*Не дзіцятка,*
*Што ты гоніш мяне ўпрочкі*
*Проці ночкі?*
*Да не даеш праваднічка*
*А ні сколькі?*
*Дай жа, мамка, праваднічка*
*Хоць малога,*
*Хоць таго ж салавейку*
*Лугавога.*
*Салавейка будзе рана*
*Шчабятаці,*
*Будзе мяне, маладзеньку,*
*Пабуджаці.*
*Бо свякорка – чужы татка,*
*Не пабудзіць,*
*Ой, ён выйдзя за вароты*
*Да і асудзіць:*
*Санлівае, драмлівае*
*Чужое дзіця.*
*Яно белы кужаль прала,*
*Усё драмала.*
*Яно белы кужаль прала,*
*Усё драмала,*
*Яна мяне, старэнькага,*
*Зневажала.*

Як маладая сабіралася, так падружкі на двары спявалі:

*Плыла ўтачка вадою,*
*Вяла дзетачак з сабою.*
*Вада мая, радзімая,*
*Ой, як мне жалка*
*Расстаца з табою.*
*Ішла дзевачка ў камору,*
*Вяла мамачка радзімая,*
*Як жалка мне*
*Расстаца з табою.*

Так вот і татку, і сястры, і брату пелі, што вот яна ўжо прашчалася.

Едуць па маладую ілі вязуць, дак свахі спявалі ўжо дарогаю:

*Ох, едзем мы, едзем,*
*Ох, едзем мы, едзем,*
*Ні дарогі, ні следу.*
*Сняжком-пацярухаю,*
*Сняжком-пацярухаю*
*За сваёю чарнабруваю.*

Штоб свякруха чула, што яны ўжо блізка пад’язджаюць пад сяло, дак такую вот песню спявалі:

*Пад’язджаючы пад сяло,*
*Іграйце, дудачкі, весяло,*
*Іграйце, дудачкі-медзянкі,*
*Прыехалі сватачкі-мадзьяркі.*

Сразу, як маладую з дому адпраўлялі, радзіцелі ёй давалі хлеб. З хлебам яна ішла. Ну, вот дзве булкі хлеба давалі ілі спецыяльна такія піражкі пяклі. Пару етых піражкоў абвёртывалі рушніком. І яна як прыходзіла, дак у шыйку, во дзе печ ета, дак у шыйку лажыла еты хлеб. Гаворць, штоб яна ўжо добра жыла.

Каравай як хто дзелае. Вот уродзі цвіточкі здзелаюць, хто шышачкі такія вот зробіць кругом каравая, лісцікі падзелае. У караваі нічога ў нас не запякалі, нічога.

Гаворць, вот дождж ідзе – маладыя багатыя будуць, снег ідзе – маладыя багатыя будуць.

Ілі там вот дождж ідзе, а вот яна сірата, спяваюць вот такія песні сіроцкія, дак гавораць: “Во, мол, і Бог жалее маладую, плача ўмесці з ней”.

***Запісана ў в. Судкова Хойніцкага р-на ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н. (перасяленка з в. Дворышча), студэнткай Касцюковай М. (2003 г.) выкладчыкам Новак В.С.***

Ідуць у сваты, засватаюцца, а патом сабіраюцца маладога радня і ідуць к маладой. Бяруць сватам роднага бацьку, хрышчонага і яшчэ тры чалавекі бяруць, тады ўжэ ідуць сватаць. Могуць узяць і дружка. Вот, напрымер, з кім дружыць малады, ён і бярэ сваіх падруг за дружак.

Дагаварaліся загадзей, ужо ўсё было точна. Але і бывало, калі, напрымер, прыйшоў я ў сваты, высватаў яе, а тады яна закруціла, не хоча ісці. Яны бяруць ету бутылку маю, што я прыносіў, хлеб мой, ручнік прыносяць. І пажалуста, прыносяць і гавораць: “Мы ад вас адказваемся. Вот ета ваш хлеб, ваша соль”. Ета так дзелалі, калі адмаўляліся.

Ну, а калі я прыйшоў у сваты, дагаварыўся ўжэ усё, то тады абычна дзеўка становіцца ля печы, і ўжэ тады становяць на стол. Кажуць: “У вас цялічка прадаецца, і мы прыйшлі к вам етую цялічку купляць”.

Тады ўжэ па первай чарцы вупілі і дадому пайшлі. Ну, а патом, як свадзьбу гулялі, бралі етую бутылку і прыходзяць, як у нас гавораць, “баярэ”, яны ўжэ ідуць к маладому. Там спраўляюць вечар, гуляюць свадзьбу, песні пяюць, танцуюць і ўсё такое.

Назаўтрае прыходзяць апяць жа, садзяцца за стол, как будта дзяліць каравай. Дружкі спяюць, і ўжэ садзяць маладую за стол.

А яшчэ што забылася: нявесці дзелалі вянок. Ой, красівы рабілі вянок, не такі, як цяпер. Вянок еты рабілі жэншчыны. Як вянок рабілі, дык пры етым у нас ніхто нічога не спяваў. А пелі тады, калі сажалі ў печ каравай.

Каравай збіраліся пекці бабы, толькі штоб не ўдава. Форма абычная, хто якую захоча. На ім ўжэ ставілі зайчыкаў, крэсцікаў. Етыя зайчыкі і крэсцікі абазначалі, што каравай уродзі хрaшчоны.

Быў у маладой перад свадзьбай пасад, а ў маладога ўродзі не було. Калі маладую садзілі на пасад, то тады яе завівалі. Пелі пры етым так:

*Дай жа, мамка, масла,*
*Ой, я да твае кароўкі пасла*
*Ад росы да росы,*
*Дай памазаць косы.*

Тады матка дае масла ў ложку. Косы ўродзі чуць памажуць і завязваюць платок. Платок завязвала хросная.

Тады ўжо калі дружок каравай кроіць, дык ужэ спяваюць:

*Ой, наш дружок каравай кроіць,*
*А за ім да жана стаіць,*
*Да семера да дзяцей дзяржыць.*
*Трэба сорам знаці, як дзіці гадаваці.*

А вось калі скончылася свадзьба, прыводзяць ужэ маладую к маладому. А як ідуць ад маладога па маладую, каб яе прывесці к яму, то становяцца на парозі, бяруць свечкі. І тады імі водзяць: тры разы памяняюцца, а патом іх уместа зводзяць.

На жаніха ці на нявесту песень не было, а вось на дружак былі.

*Перва дружка – стружка,*
*А другая да каробачка,*
*А трэцяя па часу ходзіць,*
*Да вечара сына родзіць.*

Пацыкаліся дружкі з свахамі. Тады хто куда: хто ў вакно, хто кудой скакаў. Яны ж грошы трэбуюць.

А тады што було… Дружка набярэ добра гарэлкі ў рот ды бяжыць, да етаму дружку як плюхне ў вочы. А то ўжэ дружкі спяюць. Як ужо свахі маўчаць, дык яны гавораць: “Наша сваха нема, грэцку муку ела. Грэцка мука асобка, пазатыкала глоткі”. Яны ўжэ, етыя свахі, тады (хочаш, не хочаш) заспяюць.

Калі маладыя прыязджалі ад вянца, іх сустракалі бацька і матка з хлебам-соллю. Выносілі тады стол. Становяць бутылку, хлеб, соль. Там ужо па чарцы вупілі і засцілалі рушніком дарогу ім, як уродзі ўжэ да стала. Як ужо ўходзіць маладая, дык засыпалі жытам, пшаніцай. Так рабілі, штоб маладыя былі багатымі. Пры етым песні не спяваліся.

Каравай дзяліў той, хто хадзіў у сваты. Дзялілі абычна на другі дзень свадзьбы.

Пасля свадзьбы ўжо ў панядзельнік гулялі ў цыганей. Свадзьбу маглі гуляць і не толькі два дні, а дайжа цэлую нядзелю. Абычна свадзьбы гулялі ўвосень, но і летам, і зімой тожа можна, толькі ў пост не гулялі.

***Запісана ў в. Алексічы Хойніцкага р-на ад Рышанок Тацяны Іванаўны, 1930 г.н., Рышанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н. (перасяленцаў з в. Моклішча Хойніцкага р-на), студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

Не гуляем вяселле на пасты. Да Пасхі тры нядзелі не гуляюць, на Піліпаўскі пост перад Калядамі не гуляюць, а ўжо на Троіцу, на Пасху,

на самі Каляды дык ось тады. Такое було, што гулялі па нядзелі, па тры дні.

У сваты ідуць хросны бацька, родны бацька, матка. Бяруць пірагі, абматваюць палаценцам, бяруць з сабою бутылку водкі і ідуць у сваты. Прыйшлі ў сваты, становяць бутылку на стол, ложаць етыя пірагі, і от сватанне. “Пойдзеш ты за майго сына, ці за майго пляменніка ці хрэсніка?” І ўсё. І дагаворваюцца ўжо, на якое ўрэмя ўжо будзе гулянне.

Калі дзеўка не хацела ісці замуж за гэтага хлопца, то вярталі пірагі, бутылку. Кажа: “Не пайду за цябе!”

На заручыны сабіраліся, водку пілі ды гулялі. Родзічы, суседзі.

Кальцо адзявае бацюшка ў царкве. Маё кальцо адзявае яму, жаніху, а яго ужо мне. А потым маладыя жа разменьваюцца. Маё ж кальцо яму не падыходзіць.

Перад тым, як ужо сабіралі маладую к свадзьбе, дык гатовіліся ўжо. Сабіраліся. Хлопцы-друзьля сабіраюцца ў маладога. К дзеўке ідуць ужо яе родственнікі. А потым ужо сабіраюцца ў кучу і гуляюць.

Гаспадыня напярэдадні свадзьбы сабірае маладых жэншчын і ўчыняе каравай. Жэншчыны спяваюць, свечкі паляць і пякуць каравай. І спяваюць вясельныя песні. Пячэ, саджае абавязкова хросная маці. Яшчэ, калі прыходзяць у хату мужчыны, то жэншчыны стараюцца яго злавіць да і памыць. Памыюць яго, потым палаценцам выціраюць да й прыбіраюць ужо.

Калі каравай спякуць, то выносяць у кладоўку, здымаюць века з хлебнай дзежкі, а потым ложаць туды палаценца, а наверх каравай.

А калі ўжо нясуць каравай да стала маладым, то каравай ужо гэты так падымаюць высока.

*Высока каравай нясе,*
*А ён чубам трасе.*
*А трасі, не трасі,*
*Нам караваю дасі.*

Потым ужо каравай гэты рэжуць кусочкамі. Дружок рэжа каравай ці хто з радзіны. Рэжа каравай па кусочкам, гукае:

*У нашых маладых*
*Есць айцец і маць,*
*Штоб ласкавыя былі*
*Ды на каравай прыбылі.*

От ужо айцец і маць ідуць на каравай. Бяруць па чаркі. Паспытаюць у іх: “Ну што вы дарыце? Вала, ці карову, ці гуся, ці парася?” Дараць, што е, грошы ложаць. А потым гукаюць другога чалавека, трэцяга, родственнікаў, потым друзей, дзевачак і хлопцаў.

Было два каравая: маладой і маладога. Дзялілі з абодзвох старон. Каравай маладой рэжуць у хаце маладой, а каравай маладога – у хаце маладога. Разам не дзеляць. Спачатку гукаюць хросных, потым дзядзьку з цёткай, потым дзевачкі, падругі, хлопцы.

На лаўку сцелюць кажух і садзяць маладых.

Перад тым, як прыедзе малады, маладую прыбяруць і вядуць у другую хату падругі яе. А ўжо дружкі з маладым шукаюць нявесты і выкупаюць яе за грошы. А бывае, што і так наравяць без грошай, лезуць з усіх старон, але ж выкупу не аддаюць.

Пасля ўжо свадзебнай ночы вянок снімаюць і адзяваюць хустку. Гэта значыць, што маладая ўжо не дзяўчына, а жанчына. А вянок вешаюць на кут, дзе ікона. А платок адзяваюць тыя, хто завіваюць, хросныя, замужнія жанчыны. Завіваюць толькі парныя жанчыны, у якіх мужык ёсць. Такія жанчыны, якім лет па сорак. Заўюць, а ўперадзе дзеўкі-падружкі. А як ужо завіваюць маладую, так хлопцы бяруць папругу ды і б’юць гэтых дзевак. Потым малады са сваім дружкай просяць грабяшка. Ужо купляюць грабяшка і расчэсваюць яе. Кідаюць мелкія дзеньгі ў стакан з гарэлкай, п’юць, а потым дастаюць, штобы грабяшка купіць.

У царкве рукі маладога і маладой звязваюць платком і абводзяць вакруг стала з іконай тры разы. Пад ногі сцелюць палаценца. Кольцамі мяняюцца, і рукі развязваюцца. Як маладая пакідала свой дом, дык абавязкова кідала пірог праз сябе – прашчалася з родным домам.

На наступнай нядзелі ўжо маладыя з бацькамі прыязжаюць к свату у госці, гасцююць.

***Запісана ў в. Навасёлкі Хойніцкага р-на ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н., студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

У сваты хадзілі бацька і маці жаніха. Ішлі яны з пірагом ды гарэлкаю. Высватуюць, а тады ўжо гатуюць усё на вяселле ды гатуюцца к вянцу, вянчаюцца.

Пасля сватання былі заручыны. На заручынах ужо пярсцёнкі адзявалі. Перад свадзьбаю маладая сабіралася са сваімі дзеўкамі і падаркі адна адной давалі. Дзеўкі песні спявалі, але ўжо жалабныя.

Абезацельна на вяселле пяклі каравай. Пяклі яго хросныя маці з бацькам. Увесь час песні спявалі. Бацьку хроснаму завязвалі палаценца, калі ён нёс ставіць каравай у печ. Калі паставіць каравай у печ, то ужэ другія бабы стараюцца яго ўмуць вадзічкаю. Потым ужо каравай вымаюць і ставяць у клець. У час вя-

селля яго дзелілі паміж гасцямі, а яны ўзамен давалі маладым гасцінцы ці грошы.

Калі малады з сваёю дружынаю прыязджаў да маладой, то дзеўкі маладыя іх не пускалі. Закрывалі вароты – жэрдку на дзверы ставілі – і не пускаюць, пака ім маладые чаго-небудзь не дадуць. Калі ўжо маладыя сабіраліся да вянца ехаць, то іх павозкі абсыпалі жытам. Калі з вянчання прыедуць, то іх з хлебам-соллю сустракалі і палаценьцэ прасцілалі ад парога да дзвярэй. Калі ўжо маладыя заходзілі туды, дзе вяселле будуць спраўляць, то іх абводзілі тры разы вакол стала і песні спявалі. Услед за маладымі шлі астатнія госці з платочкамі, а пасля ўжо садзіліся за стол. Жаніх і нявеста сядзелі на пасадзе – на вывернутым кажусе.

У час вяселля бабы ды дзеўкі ўсе завівалі маладую. Спачатку песні спяваюць, а потым паўскакваюць ды ідуць да маладой. Вось падыдуць ды вянок знімаюць, расчэсваюць валасы, гарэлкай на галаву трошкі пальюць і хустку завязваюць. А вянок той, як зніме, то за ікону кладзе. Калі ўжо ў маладой пагуляюць, то едуць да маладога. Калі ўжо маладая з бацькоўскага дома ідзе, то вельмі плача, а астатнія песні вельмі жаласныя пяюць. Калі да маладога прыязджалі, то вяселле працягвалася далей.

Пасля вяселля ўжо на другую нядзелю ездзяць адзін да аднаго ў госці. Гэта называлася перазовы.

***Запісана ў в. Навасёлкі Хойніцкага р-на***
***ад Сацура Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Сначала ў сваты ішлі. Тры сваты ішлі: жаніх, бацька яго родны і хросны бацька. Гарэлку бралі з сабой да й ішлі. Як дзеўка не хацела замуж ісці, дак вып'юць са сватамі да й разойдуцца. Хто ж та сілай браць будзя.

Як дагаварыліся, дак тады ўжэ гатуюцца к свадзьбе. Дзявішнік перад свадзьбай рабілі. Сабіралі падружак сваіх і гулялі. Нявеста свякрухі падарак дзелала, а жаніх нявесці ўжэ плацця купляў, тухлі. Вянкі з бумагі цвятной дзелалі і з васкавымі свечкамі.

Матка маладой прыданая гатовіла. Шкаф, падушкі, пасцель – усё матка даўжна даць маладой. Пасля свадзьбы ета ўсё к жаніху перавозілі. Уціраннікі матка сабірала, скацяркі, посцілкі, ну, і ўсё, што было.

Два караваі пяклі на свадзьбу: у маладой адзін, а другі – у маладога. Пеклі каравай жэншчыны харошыя, шо адзін раз замуж толькі выходзілі і добра жывуць.

Як завіваюць маладую на другі дзень, дак косы толькі расчэсуюць, падразаць нільзя. Завязуюць хустку ёй, а вянок іздымаюць. Просяць у маткі: “Мамка, дай масла, свае кароўкі пасла”. Ужэ матка падае грабушка, хустку. Паставяць хросную ці цётку родную. Ну, от такіх з радні бяруць. І тыя ўжэ расчэсваюць, спяваюць песні. Завязуюць хустку і ўжэ ўсё – маладзіцу зрабілі.

*Брат сястрыцу расплятаў,*
*Да дзе тыя ўплёты падзяваў,*
*Да меншай сястрыцы падараваў.*
*На ж табе, сястрыца, сястрын знак,*
*Да судзі табе, Божа, сястрыца, так.*

От етую нядзелю гуляюць ужэ свадзьбу ў маладой і маладога. А ў тую ўжэ суботу заве матка нявесты да сябе маладых, бацьку і матку маладога. А ўсю нядзелю послі свадзьбы дачка к матцы ў госці не ходзіць. А як матка ўжэ пазаве чараз нядзелю, дак тады ідзе.

У панядзелак пасля свадзьбы ходзяць цыгане, надзяюцца ў цыганскае і ходзяць па хатах. Хто што дасць, дзе ў каго куру ўкрадуць. Гатовяцца, а ўвечары зноў гуляюць. Ета ў панядзелак. “На куры” ходзяць. І так аж да суботы гулялі, нядзелю ўсю. Танцавалі, спявалі, весяліліся.

Як снег ці дождж будзе ісці, дак багатыя маладыя будуць.

***Запісана ў в. Казялужжа Хойніцкага р-на***
***ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н.***
***(прыехала з в. Небытаў Хойніцкага р-на),***
***выкладчыкам Новак В.С.,***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М.***

У сваты хадзілі сватавы радзіцелі, дружкі дзеўкі. У сваты не хадзілі хросныя, яны толькі прыходзілі на каравай і ўчаствавалі ў свадзьбе.

На сватанне ой, хораша было, пелі песні:

*Я с’ела качана, качана,*
*Штоб сваха песеньку зачала,*
*Сваха качана с’ела,*
*Песню не дапела, штоб яна анямела.*

Каравай як пякуць, дак ужэ тут участвуюць хросныя.

Як ідзеш у сваты, бярэш булку хлеба, пірог, бутылку гарэлкі завязвалі краснай лентай, і ўсё. Калі дзеўка ўжэ перадумала ісці замуж, то яе матка казала: “Галянішчы папяклі”.

Абавязкова было вянчацца ў царкве, мала было тых, хто б не вянчаўся.

Пасля сватання былі заручыны. Прымерна, засватаюцца змовінамі, ета і называецца заручынамі. У час заручын персняімі не абменьваліся, толькі як пад вянцэм. А ўжэ як бацюшка вянчае, тады ложыць на тарэлачку етыя два

кальцы. Калі канчае венчаць бацюшка, тады хлопец бярэ і надзявае кальцо, а я яму (хлопцу).

Пасада нявесты на дзяжу не было. Абавязковых страў на вяселлі не было, што было ў каго, хіба, што тады было? Маглі нагатовіць халоднае, мяса пяклі, піражкі розныя, сырнічкі, катлеціны.

Калі да вянца едуць, з вянца едуць, дружкі пяюць. Калі ехалі з вянца, перапіналі дарогу, дажа ні ў адным месцы. І там перапыняць, і там перапыняць:

*Ой, не пераходзьце, варагі, дарогі,*
*Няхай пярэйдзе Гасподзь Бог*
*І родны бацька на парог.*

Ня дай бог сустрэць на дарозе пахаванне, таму што нехта з маладых хутка памрэ.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада) Хойніцкага р-на ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н., выкладчыкам Новак В.С. студэнткамі Шамонінай В., Тукуновай Н.***

Засватаюцца, а патом ужо свадзьба, дак спраўляюць, гуляюць. Дзеўкі на свадзьбу вот такія маладыя вельца вілі. Сасны наломяць, ёлачак прыбяруць і нясуць ужо на свадзьбу маладым. Іх там ўгашчаюць на той свадзьбе.

Ета пярэзва, еслі перазываюць. Напрымер, вот свадзьба да пярэзва, дак я гатоўлюся, а тады перазываю к сабе етых людзей. Да ўжо тожа ўгашчаю. Гуляюць. Вот такое вот.

На куры хадзілі, хадзілі. Курэй кралі. І дзе ў каго бачуць што, дак пакрадуць. Тыя, што свадзьбу гуляюць, к тым і хадзілі. Дзе ў каго і краля паймаюць у клеткі якой, дык і ўкрадуць, дзе куру якую, дзе што.

Каравай пяклі круглы. Настаўляюць шчэ такіх шышачак на яго, вот такіх накруцяць. Настаўляюць такіх шарычкаў, тады іх раздаюць дзецям. Кросныя дзелалі каравай, да.

***Запісана ў в. Судкова Хойніцкага р-на ад Варанецкай Марыі Іванаўны, 1927 г.н., студэнткай Касцюковай М., Новак В.С. (2003 г.),***

Пярэзвы, дык ета ж, еслі вот свадзьба, да забіраюць маладую. Вот тады ўжо етай маладой матка сазывае ўсіх саседзей, усіх падруг сваіх харошых. Ета значыць пярэзвы. А госці, ета чэраз нядзелю. Ужэ жаніх ідзе к цёшчы ў госці.

Як вымаюць каравай, дак бяруць малое такое дзіцятка пад еты каравай і кругом ходзяць.

Такія ж не пякуць каравай, калі ўдава ці разводнікі, а выбіралі такіх, каторыя добра жывуць, парных, харошых людзей.

Каравай пеклі, на стол станавілі. І етыя сваты, вешалі рушнікі ім, яны рэзалі і вызывалі етых, радню яе ўсю, маладой. А ў жаніха дзялілі, дак жаніхову радню вызывалі. Два караваі было.

Уёлца на свадзьбе калісь мы насілі. Дык бяром там сасну ілі што, убіраем і разнымі тожа лентамі. Занясём, спявалі і нам давалі ўжо канфеты да ці што іншае. Гэта дзеці прыносілі да маладой.

***Запісана у в. Судкова Хойніцкага р-на ад Балахонкінай Ніны Адамаўны, 1934 г.н., студэнткай Касцюковай М., выкладчыкам Новак В.С (2003 г.)***

Без каравая свадзьбы не бывае.

Каравай пеклі па дастатку. То ўжэ спецыяльных такіх жэншчын бяруць, штоб яны раз замуж выходзілі, штоб харашэ жылі.

Ну і тада ўжэ дзеляць каравай еты мужчыны. Ужэ перавязуюць рушнікі мужчынам чараз плечы. Да, мужчыны ў нас дзеляць каравай.

Два было караваі.

Як дзеляць каравай, дак верх снімаюць еты з каравая.

***Запісана ў в. Судкова Хойніцкага р-на ад Тахоўчык Вольгі Васільеўны, 1931 г.н., Прыходзька Любові Васільеўны, 1936 г.н., Аўдзеенка Алены Андрэеўны, 1931 г.н., Фядотавай Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г.н. выкладчыцай Новак В.С., студэнткай Касцюковай М.***

Договорились молодые. Невеста сказала родителям. Вечером в субботу ждут сватов. Приходят мать, отец, жених, 2 свата.

– Кажуць, у вас раба цялічка жыве ды прадаецца. Дык, можа, прададзіце?

Бацька маладой:

– Як падабаецца, дык купляйце, але дзёшава не прадам!

Сват:

– Дык мы купім за вялікую цэну, толькі прадайце.

Бацька:

– Ну, дык давайце прап’ём!

Усе садзяцца за стол. Вся радня договаривается на день свадьбы через неделю. Подавали на стол засоленные огурцы, если было мясо, но, обычно, сало, так как мясо на свадьбу берегли, обязательно чеснок и лук, компот и коржи, холодное. Всем гостям давали по 50 г. водки, больше нельзя, в рюмочке на ножке, модно было.

Молодые не жили вместе после росписи, ждали день венчания. Венчались в деревне Загалье, в церкви. Невеста ехала на тройке лошадей впереди с роднёй, а жених на своей сзади с роднёй. Провожали свадьбу до перекрёстка музыканты «Саньки» (из Борисовщины, Храповца), гармонь, дудка, барабан, скрипка (Храпков), кларнет, труба, тарелка (Борисовщина).

Если невеста доехала до поворота в конце деревни и у неё распрягалась повозка, а лошади убежали в разные стороны, то молодые долго жить не будут. А если без происшествий пройдёт дорога, то молодые будут жить долго и счастливо.

В деревне Загалье в церкви венчали долго и много пар. Молодые во время венчания стоят на расшитом белом полотенце. А в конце венчания молодые пары обходят стол венчальный, на котором лежит Библия. Левой ногой невеста тянет обязательно полотенце, на котором стояла, делает три круга. Затем полотенце отдаёт подруге, считалось, что та быстро выйдет замуж.

Молодые едут домой. Их встречает музыкой свадьба в конце деревни. Все с музыкой идут гулять свадьбу. В это время девушки-подружки дома на свадебном столе делают «вельце» – большой букет. Когда свадьба приезжает с церкви, «вельце» ставят на кут, за спины молодожёнов. Вельце стоит до конца свадьбы, 3 дня. Затем его выбрасывают.

На столах скудно, спиртное пили по 3 человека, 3 рюмки, затем передавали следующим 3-м человекам.За всю свадьбу пили не больше 3-4 рюмок, пьяных не было. Но свадьба была весёлой и шумной.

Наряжались в цыганей и ходили по улице. Воровали кур. Пели песни.

***Запісана ў в. Храпкова Хойніцкага р-на ад Сіраж Соф'і Нікіфараўны, 1912 г.н., студэнткай Сарасека Л.***

Абычна ў нас гулялі вяселле вясной пасля паста і восенню пасля паста. Зараз таксама выконваюцца асноўныя этапы вяселля.

У сваты да дзяўчыны ходзяць бацькі жаніха і хросныя. Калі бацькі былі згодныя на шлюб, то маладая разразае хлеб, які прынеслі сваты. Бацькі маладой вешалі рушнікі сватам і дарылі падаркі.

У момант ад'езду маладых да вянца іх благаслаўляе маці нявесты. Пры гэтым спявалі песні:

*Калі бярэш, зяць, дочку,*
*То ўмей яе шанаваці,*
*Ды не давай збыткаваці*
*Ні старому, ні малому*
*І самому маладому.*
*Ды не бі ты яе дубцом,*
*А карай яе слаўцом.*
*Дубцом паб'еш – балець будзе,*
*А слаўцом – разумець будзе.*
*Не карай яе ў хаце,*
*Каб чулі бацька і маці,*
*Пакарай яе ў каморы,*
*Ды пры ціхай размове.*

Пры вяртанні маладых з сельсавета іх сустракалі бацькі нявесты і жаніха. Маладых абсыпалі капейкамі, каб жыццё было ў дастатку. Мазалі губы мёдам, каб жыццё было салодкае. Таксама ім даюць выпіць віна, а кроплі выліць цераз левае плячо.

Свякроў абсыпае маладых жытам, арэхамі.

Перад маладымі засцілалі кажух. Маладыя адной нагой стаяць на кажусе, другой на парозе. Кажух быў сімвалам багацця і шчасця. Таму, калі пачыналась застолле, маладых садзілі на лаўку, якая была засцілана кажухом. Вялікім патрабаваннем да нявесты была яе працавітасць.

Шмат песень за сталом прысвячалі сватам, дружцы:

*Ой, свахначка, галубачка,*
*А мы сваху доўга ждалі,*
*Масцілі мост калінаю,*
*Гасцілі гаць слязінаю,*
*Каб свахначка не ўтанула,*
*Піражка не замачыла.*
*Дай нам, сваха, пірага,*
*Возьмем вала за рага,*
*Сіву кабылу да за грыву,*
*Маладую сваху да за чупрыну.*
*Выведзем сваху на места,*
*Прамяняем сваху на цеста.*
*Дзякуй, сваха, за піроaccess,*
*Што ты яго гатавала,*
*Толькі солі шкадавала.*
*Свяжон, бялён ды маленек:*
*На далоні мясіла,*
*На языку саліла.*

* * *

*Наша сваці маладая,*
*На ёй сукенка дарагая.*
*Не тут яна набірана,*
*Не тут яна вышывана.*
*Набіралі на Івенцы,*
*Набіралі краўцы-немцы.*

Дружцы:

*А наш дружко харошы,*
*Ён багаты на грошы.*
*У яго кожнай кішэньцы.*
*Ляжалі грошы-чырвонцы.*
*Як пайшоў ён танцаваць,*
*Сталі грошы выпадаць.*
*Другі дружко бялявы,*
*Наліў капусты ў халявы.*
*Як пайшоў ён танцаваць,*
*Стаў капусту разліваць.*

Для нявесты-сіраты таксама спявалі адпаведныя песні:

*Маладая Танечка ў квеце,*
*Няма яе мамачкі на свеце,*

*Няма каму на пасад пасадзіць,*
*Няма каму радачкі парадзіць.*
*Брацейка на пасад пасадзіць,*
*Ойчанька радачку парадзіць.*

Каравай дзялілі хросныя, а бывала, што і сваты.

Вяселле абычна канчалася цыганамі. Госці перадзяваліся цыганамі, ішлі да маці маладой і ўсе кралі, што пападалася пад рукі.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Санцэвіч В. (2003 г.)***

# *Чачэрскі раён*

## СВАТЫ

Сватацца хадзіў хлопец да той дзяўчыны, якая яму спадабалася. Звычайна загадзя дамаўляліся аб прыходзе сватоў. Такі звычай ёсць, дакладней, захаваўся і зараз.

Да дзяўчыны ў сваты ішоў жаніх з бацькам, братам, магчыма, і сябрам. Звычайна ўтрох, учатырох, часам, і больш. Сваты абавязкова прыходзілі са сваёй гарэлкай. Пыталіся згоды на шлюб ў самой дзяўчыны і яе бацькоў. Калі яны былі згодны, то разам выпівалі гарэлку. Калі ж дзяўчына не жадала ісці за хлопца, то павінна была прынесці гарбуз і абярнуць або бацька павінен абярнуць той жа гарбуз. Абярнуў Іван гарбуз – забіраюць гарэлку, дзеўка не сагласна. Калі ж дзяўчына згаджалася, пілі першую чарку: радасць яна называлася. Пелі песні.

Пасля таго, як пабылі сваты, пачыналі рыхтавацца да вяселля абодва бакі.

## ЗАРУЧЫНЫ

Заручыны былі ў дзеўкі. Сабіралі свой род, вып'юць, дзеўкі пяюць:

*Пакуль пойдзеш на заручыны,*
*Усе дзверы пазакручаны,*
*Пакуль вароты адкруцілі,*
*Ганначку заручылі.*

На заручынах таксама адзявалі пярсцёнак. Пасля гэтага дзяўчына ўжо не мела права адмовіцца ад шлюбу.

У нашай вёсцы не было звычая абавязковай лазні для маладога з сябрамі, а маладой з сяброўкамі напярэдадні вяселля. І зараз няма ў нас такога.

На вяселлі елі ўсё, што маглі сабе дазволіць прыгатаваць. Асаблівых ці абавязковых страў не было.

## ЁЛКА

Вечар перад вяселлем называўся "ёлка". У гэты вечар у хаце дзяўчыны збіраўся яе род, а асабліва яе сяброўкі. Прыносілі ў хату ёлку, і дзяўчаты яе ўпрыгожвалі, хадзілі вакол яе, свае заботы былі ў дзяўчат у гэты час. Спявалі песні, гулялі ў гульні, жартавалі над маладой. Дзяўчына ж у гэты вечар магла паводзіць сябе па-рознаму. Калі панараву хлопец, дык не плача, а калі не панараву – плача. За ёлкай плакала.

У маладога ў гэты час таксама было так званае гулянне. У яго хаце збіраліся родзічы і сябры. Яны прыносілі ў хату дугу і таксама прыбіралі яе, званочкі вешалі.

Каравай пяклі перад вяселлем. Пяклі каравай ці ладкі якія. Каравай свае пяклі: матка невесты, замужняя дачка ці сваха.

У жаніха пасаду не было. Толькі перад ад'ездам да маладой сват абводзіць вакол стала маладога, за імі ідуць усе астатнія, тры разы абводзяць. Сват тады вёў усю свадзьбу. На стале ў гэты час стаіць свечка. Сват кажа: "Ёсць у нашага маладога ацец і маці. Благаславіце свайго дзіцяці". Усе хорам адказваюць: "Бог благаславіць".

Пасля гэтага выходзяць на вуліцу, садзяцца на падрыхтаваны загадзя воз і едуць да маладой, а па дарозе спяваюць песні:

*Ай, борам, борам, барамі,*
*Пабіта дарога равамі,*
*Хто тую дарогу выбіраў?*
*Выбіраў Іванька,*
*Да сваёй цешчы ездзячы,*
*Дарагія падаркі возячы.*
*Первы падарак – пранік,*
*Другі падарак – конь вараны,*
*А трэці – Іван малады.*

У маладой пасаду таксама не было. Пасадам звычайна называлі той вечар, які носіць назву яшчэ і "ёлка". У гэты вечар брат расплятаў маладой касу і аддаваў малодшай сястры каснік.

Калі поезд жаніха пад'язджае да хаты маладой, то звычайна хлопцы "ловяць зайца" – перагароджваюць дарогу і патрабуюць, каб ім далі гарэлкі.

Прайшоўшы гэты этап, поезд рушыць далей. Прыязджае жанчына, цешча выходзіць у вывярнутым кажуху. Жаніх злазіць з воза, кланяецца цешчы, яна падае яму стакан гарэлкі ці чарку. Жаніх першыя два разы вылівае гарэлку цераз плячо на каня, а на трэці п'е. Цешча тожа з ім выпівае ці толькі кушае. Еслі цешча ўдава, то к жаніху не выходзя, выходзя хто другі, сястра ці нявестка.

Сват таргуе ёлку. Дзеўкі просяць усё болей грошай. Калі ўжо сват вытаргуя, то ёлку абкручваюць чым-небудзь ці накрываюць, штоб дзеці не ламалі веткі, і пераносяць яе ў пуню. Тады ўжо сват бярэ нявесту за руку і вядзець к маладому.

Нявеста кланяіцца жаніху. У іх у руках піражкі. Яны абменьваюцца імі, пастаяць трохі. Сват бірэ за руку жаніха, жаніх нявесту, нявеста свяцілку. Усе ідуць у хату, садзяцца за стол. Начынаецца свадзьба.

## ВЯНЧАННЕ

Зборы да вянца і вянчанне адбываліся яшчэ да прыезду маладога да маладой. Пад вянец жаніх і нявеста ехалі на разных падводах. У цэркві ўстрачаліся і ждалі, пакуль кончыцца служба, тады ўжо вянчаліся. Да вянчання і вапшчэ, у цэркву калі ідзеш, нільзя было есць. Калі ўжо маладыя павянчаюцца, то назад едуць у адной падводзе. Тады жаніх ужо к сабе, нявеста – к сабе.

Калі пагулялі ў нявесты, нада сабірацца ехаць к жаніху. Зноў усе ўстаюць, і нявесту і жаніха водзюць вакруг стала. Свяцілка быў, ён насіў уперадзі іх ікону. Яны абхадзілі тры разы вакруг стала. Тады бацька падходзя к маладым. Напярод жаніх кланяіцца іконі, а тады за ім нявеста. Калі нявеста з жаніхом выходзяць, жаніх цалуіцца з усім родам нявесты, дзяржыць за руку нявесту. Нявеста становіцца перад бацькам і маткай, кланяіцца ім. Бацька прынося ікону, малады цалуе, бацька дае маладой. Ікону забіраюць з сабой. Сваткі пяюць:

*Тройца па цэркві хадзіла,*
*Спасу за ручку вадзіла.*
*Спася, мой Спася,*
*Дай жа нам, Божа, долю,*
*А маладым добрую гадзіну.*

Бацька з маткай становяцца на парозе. Зноў пяюць бабы:

*Стань, мая мамачка, у парозе,*
*А я ўжо ў цібе ў дарозе.*
*Стань, мая мамачка, блізенька,*
*Пакланюся табе нізенька,*
*Коскамі маснічкі ўсцялю,*
*Слёзкамі ножачкі абаллю.*

Калі дзеўка сільна плача, жаніх яе цягне за руку.

Уся свадзьба благаслаўляе маладых. Сватка гавора: "Ёсць у нашага дзіцяці ацец і маці, благаславі свайго дзіцяці ў дарогу ступаці". Усе хорам: "Бог благаславіць!" Сват іх выводзя. Бабы пасядуць на вузлы і таргуюць. Тады кладуць усё ета на воз, сцелюць вышыванай пасцілкай. Садзяцца жаніх, нівеста, дружка, свяцілка.

Выйдзя цешча, насыпя ячменю на века, сват за ёй з пугай, яна пад морду каню века, і сама – на каленкі і кланяецца перад канём, штоб шчасця і доля была маладым, сыпя на маладых ячмень, тады расчыняе дзверы і маладыя едуць.

У жаніха на дварэ маладую знімае свякруха. Маладая кланяіцца ёй. Ідуць усе ў хату. Тут прадаўжаіцца свадзьба ў жаніха.

Назаўтра вязуць сундук нявесты, завязваюць яго краснай хусткай, ловяць зайца. Сват зноў таргуіцца за сундук. Тады сват выкупляе сундук і нясуць яго ў хату.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на ад Кірэенка Кацярыны Сцяпанаўны, 1934 г.н., студэнткай Сувалавай Н. (2003 г.)***

## ЗАРУЧЫНЫ

Вяселле абычна гулялі да паста ці восенню.

Малады з бацькам выбіраюць дзень і едуць да нявесты і яе бацькоў. Бяруць з сабой хлеб, соль, гарэлку.

На заручынах дагаворваюцца пра дзень вяселля. П'юць гарэлку. Нявеста дорыць падаркі жаніховай радне, а яны ўзамен на падаркі кладуць грошы. Госці пяюць песню:

*Пайшлі мы на заручыны,*
*Ажно сенцы закручаны.*
*Пакуль адкруцілі,*
*Ніначку заручылі.*

Послі етага праз некалькі дней маладая з бацькам ідуць да маладога, штоб упэўніцца, што вяселле будзе.

Вяселле гуляюць у суботу. У сярэдзіне дня сваякі пякуць каравай. Сабіраюцца госці: госці маладога – у маладога, а госці маладой – у маладой. Яны п'юць, гуляюць, весяляцца.

Послі вянчання жаніх вядзе нявесту да яе хаты, а сам у хату не заходзе, ідзе к сабе дамой.

У маладой у ета ўрэмя ўюць ёлку з цвятоў. Падругі маладой пяюць песні за ёлкай:

*Ой ты, ёлачка, ты, сасоначка,*
*Зелена, зелена,*
*А ўсю зіму зелянюсенька*
*Стаяла, стаяла.*
*А ты, Ніначка, ты, малодзенька,*
*Молада, молада,*
*У суботачку русу косачку*
*Часала, часала,*
*А ў нядзелечку к вянцу ехала,*
*Плакала, плакала.*
*Ой ты, ёлачка, ты, сасоначка,*
*Зелена, зелена,*
*А ўсю зімачку зелянюсенька*
*Стаяла, стаяла.*

У еты час прыязджае малады да маладой разам з дружкамі. У хату не заходзіць, сядзіць на вазу. Убачыўшы ў вакно жаніха і свата, дзяўчаты пяюць песню:

*Не сядзі, Ніначка, не сядзі,*
*Адчыні акенца, паглядзі,*
*Ці багата сватоў на двары?*
*Ці багата дароў даравяць?*
*Сорак саракоў рушнікоў,*
*Усе крымністыя драбнічкі,*
*Усё Іванькавы сястрычкі.*

Сват заходзіць у хату, а жаніх астаецца сядзець на возе. Госці маладой пяюць свату насустрач:

*Ой, сват на парог лезе ды ў печ пазірае,*
*Ой, ці густа капуста?*
*Ці вялікі гаршок кашы?*
*Ці паабедаюць госці нашы?*
*А другі спужаўся, пад лаўку схаваўся,*

*Ступаю закаціўся, саломаю запаліўся.*

Сват выкупляе ёлку, верх адламваюць і аддаюць маладой. Сват бярэць нявесту за руку і вядзе на вуліцу да жаніха. Послі таго, як сват адвёў нявесту, госці ўваходжаюць у хату і пяюць:

*Вылазьце, грыбатыя,*
*Пасядам мы, багатыя.*

Госці жаніха садзяцца за сталы, а госці нявесты гуляюць на вуліцы ў дварэ. Танцуюць і пяюць. За стол садзіцца нявеста, жаніх, падружка, дружок і свяцілка (родзічка маладога). Брат маладой расплятае ёй касу. Патом ставяць стол пасрадзі хаты, на стол ікону. Становяцца кругам, бяруцца за рукі: бацька хросны бярэ за руку нявесту, з другога боку – жаніх. Ідуць вакруг стала тры разы і тры разы цалуюць ікону. Патом садзяць маладых на вывернуты кажух на куце, каб была добрае жыццё.

Тады нявеста бярэць ікону і ідзе да хаты маладога разам з жаніхом. Госці маладога ідуць услед за маладымі. Тады ўжо апасля ўсіх ідуць госці маладой да жаніха. З сабой бяруць рушнік і вязуць сундук маладой. Заходзячы ў хату к жаніху, госці маладой пяюць:

*Памыйце лаўкі, дзе сядзелі плюгаўкі.*

А яшчэ па дарозе ловяць зайца. Ета значыць, хто-небудзь перавязвае дарогу, а яны ўжо даюць ім выкуп – гарэлку.

Тут зноў госці маладога на вуліцы гуляюць, а госці маладой становяцца на лаўкі і скачуць з рушнікамі. Патом ужо ўсе разам паабедаюць, дзеляць каравай.

Хто з гасцей гуляе, вядзе патом к сабе вечарам у госці. Запрошвае ўсіх гасцей, што былі на вяселлі. Вот такі абычай у нас быў.

Тады на трэці дзень ловяць у маладой курыцу, прывязваюць яе к шасту і нясуць па сялу. Скачуць, пяюць, тады зноў астановяцца, падсмаляць курыцу і далей ідуць. І так пакуль не падсмаляць усю курыцу. А як усю падсмаляць, ідуць к маладому дамой і там вараць курыцу етую.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Міхальковай Марыі Пракопаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

## СВАТЫ

Калі ўжо нап'юцца крашчэнскай вады, тады ўжо пачыналі прыходзіць у сваты. Зразу бацькі дагаварваюцца і вечарам едуць. Маці маладога не ішла, а сядзела дома і чакала. Галоўнай фігурай у сватах быў сват – дзядзька маладога. Ішлі бацька, сват і малады. Як падходзяць сваты к хаце, гавораць: "Добры вечар, добрыя людзі. А наш галубок ляцеў, нас сюды прывёў. А дзе ваша галубка?" Тады бацька маладой гавора: "Ё, ё ў нас такая галубка". Сваты: "А ці сагласна яна нашага галубочка ўстрэціць?"

Малады заходзіць, шукае маладую і ўжо выводжае яе. А яна кажа: "Сагласна выходзіць за вашага сына". Потым сваты заходзяць, гаспадар гавора: "Добры вечар, добрыя людзі, праходззьце ў хату".

Пасля дамаўляюцца аб запоінах.

## ЗАПОІНЫ

У той дзень, на які дамовіліся, бацькі маладога прыходзяць, прыносяць водку, на стол ставяць і кажуць: "Вот наша водка, а вы нам давайце маладую". Маладая прыходжае, тады ўжо ідзе з маладым і прыглашае сваіх дзяўчат, падружак і сваю радню. У той дзень дружкі запляталі маладой касу, і яна ўжо ходзя з заплеценай касой. Лічылася, што яна заручаная. Калі плялі касу, пелі песні. Далей звязвалі маладым рукі над хлебам. Ніякага выкупа касы маладым не было.

## ЗАРУЧЫНЫ

Далей былі заручыны. Усе госці ўжо прыходжаюць са стараны жаніха к нявесце. Са стараны нявесты даюць сватам падаркі. Давалі белы мацерыял на штаны. Ужо назначалі дзень свадзьбы. Перавязваюць сватоў ручнікамі. Касу маладой не расплятали.

## ЗБОРНАЯ СУБОТА

У гэты дзень граюць музыкі, дзяўчаты прыбіраюць маладую. Пякуць каравай і абычна, штоб ён быў ацеслевы, каб быў каравай не акуратны, а як слеплены. Шчыталі, штоб маладыя харашо жылі, склеяны былі на ўсё жыццё. Украшалі каравай разнымі шышачкамі. Гэта ўсё рабіла кросная маладой і, канешна, пад спецыяльныя песні. Вянкі не заўсёды плялі. Рыхтаваліся да вяселля ў хаце маладога.

## ВЯСЕЛЛЕ

На наступны дзень ужо сваты едуць да маладой. Як пад'езжаюць к хаце, маладая пяе:

*Стукнула, грукнула на дварэ.*
*– Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?*
*– Па цябе, дачушачка, па цябе.*
*– За мной, мамачка, за мной.*
*А ты ж кудзелечку не прала,*
*І кублічак не гатовы.*
*– Скубла, шамацела*
*І кублічак ужо нагатавала.*

Бацькі маладой ставяць стол пасрэдзі хаты. Сваты заходзяць у хату, нявеста хаваецца. Ма-

лады шукае і выкуп за яе дае дружкам. Такжы выкупае пасцель маладой.

Патом маладыя госці са стараны жаніха выкупляюць стол. Тады бацькі абменьваюцца хлебам. Садзяць абычна маладых на кажух кашлаты, штоб яны жылі багата. Па старану маладога садзіцца шафер маладога, а каля маладой – шаферка. Раней бралі іх па 3 чалавекі са стараны. Гуляюць у гэты дзень толькі ў хаце маладой.

## ДЗЯЛЬБА КАРАВАЯ

У гэты ж дзень дзелюць каравай. Выносяць каравай так: бяруцца за яго 3 жанчыны, штоб былі неразвядзёныя, а з муж'ямі, і кажуць: "А хто ж у нас каравай выкупе? …(імя жаніха) наш каравай выкупе! Ён жа нам бочку з мядочкам выкаце. Усё паўтараюць па 2 разы. Так 3 разы, пакуль дайдуць да стала. А малады выкупае еты каравай за бутылку. Потым пачынаюць дзяліць каравай маладыя.

Сват казаў: "Будзьце добры, на каравай прыбудзьце і маладых наградзіце. І вызываюць родных толькі са стараны маладой. Сначала бацькі маладой, а патом яе госці. Пажаданні былі розныя: дару маладой бочку буракоў, каб не глядзела на чужых мужыкоў; дару шчасце і долю, і доўгі век, штоб адзін аднаго любілі і паважалі.

Кладуць падаркі розныя, абычна пасцельнае. Падзялілі каравай, тады малады маладую забірае к сабе. Маладыя выходзяць з-за стала, бацькі кросныя даўжны маладых абвесці 3 разы кругом стала з іконай. Тады болей нікуда не садзяцца, а выходзяць прама на двор. Абсыпаюць дзяўчаты маладых зернем або пшаном. І толькі госці маладога едуць дамой на конях да маладога.

Прыязджаюць туды, госці садзяцца за стол. І кросная маладой здымае ёй фату. Пасля, як пагуляюць, лажацца спаць. І свякруха даўжна была пасцяліць маладым белую простынь, каб пaглядзець, якая маладая.

Назаўтра госці маладой едуць к маладому і гуляюць у яго. Вязуць прыданае і ёлку ўкрашаную. Як вязуць ёлку, значыць, дзеўка харошая, а як без ёлкі к маладому ішлі, ды й значыць, што нядобрая маладая. Тады маглі маладому і вароты абмазаць чым-небудзь і рознай шкоды нарабіць.

Такжа дзеляць каравай у маладога. Ужо падходзяць на каравай толькі госці маладога.

## ТРЭЦІ ДЗЕНЬ

На трэці дзень вечарам гулялі маладога госці ў маладога, а маладой – у маладой. А маладая ўмесце з маладым – у яго. І яна яшчэ нядзелю пасля вяселля не даўжна была прыходзіць дадому.

***Запісана ў в. Кавалёў Рог Чачэрскага р-на ад Кудзінавай Ганны Васільеўны, 1931 г.н., студэнткай Якубоўскай Т. (2001 г.)***

## СВАТЫ. ЗАРУЧЫНЫ

Сваты прыходзілі звычайна ў суботу вечарам. Сватамі маглі быць розныя. У нас хадзілі бацька, кросны, жаніх. Заходзілі ў хату і казалі: "Добры вечар у хату!"

Мы ўжо ведалі, што прыдуць сваты і чакалі іх (нечаканыя сваты звычайна прыходзілі да ўдавы). Садзіліся за стол. Сваты ставілі сваю бутылку і хлеб. Мы таксама што-небудзь ставілі. Дзеўчына сядзела ў другой комнаце. Дамаўляліся да вяселля, і гэты дзень у нас лічыўся і заручанамі.

На заручаны жаніх мог таксама за сталом сядзець, гэта ў каго як. Маладыя маглі сядзець дзе-небудзь у куточку. Зацем маладая дорыць сватам падаркі, і сваты гуляюць да ўтра. Першую чарку пілі з бутэлькі жаніха і жаніха з нявестай садзілі за стол. Калі дзеўка была сірата, то сватоў сустракала яна з тымі людзьмі, у якіх жыла. Пелі песні:

*У полі пад ліпкаю*
*Стаяць коні вараныя.*
*Стаяць коні вараныя,*
*Сваточкі маладыя,*
*Сваточкі маладыя.*
*Дарожкі не ведаюць,*
*А Віцькава сястрыца,*
*Хоць яна і маленькая,*
*Яна ж разумненькая.*
*З вазочку не злязала,*
*Дарожку распытала.*
*Сюды, братка, сюды,*
*Братоўка, за барамі,*
*Братоўка, за барамі,*
*Сцеле бары кутасамі,*
*Дарожкі – рушнікамі,*
*А сцежачкі – паясамі.*

*Каля нашага калодзежа*
*Два двараніна коней паілі.*
*Там сіротачка ваду брала*
*І з пановічам размаўляла.*
*Ты, сякі-такі, малады пановіч,*
*Не бяры мяне, сіротачку,*
*У цябе мамка, у мяне мачыха*
*Будзе на мяне наракаці.*
*І з вёдзер вадзічку выпіваці,*
*Па другую вадзічку пасылаці,*
*Па светлую, па чыстую.*

Пелі таксама і другія песні:

*Зашумела ляшчынанька,*
*Зашумела ляшчынанька,*
*Заплакала дзяўчынанька,*
*Заплакала, затужыла ж,*
*Заплакала, затужыла ж,*
*Няма ж таго, што й любіла.*
*Няма его і не будзе,*
*Няма его і не будзе,*
*А хто ж мяне любіць будзе?*

У нас нявесту на пасад не садзілі і жаніха таксама. Дамаўляліся аб тым, калі будзе свадзьба.

У царкву ехалі на пятнаццаці падводах. Першыя трое красіва прыбіралі, асабліва першую. Вешалі калакольчыкі, ленты, цвяты. Пакрываламі засцілалі і садзілі маладую. Маладога на другой павозцы везлі. Ехалі з песнямі.

З царквы калі ехалі, дык маладыя сядзелі разам на адной павозцы.

**ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ**

Першы дзень гулялі ў жаніха. Другі дзень у нявесты. У наступныя дні сваты рабілі банкеты. Адзін сват рабіў банкет для маладых, а другі – для пажылых.

Ёлку таксама ў нас завівалі дружкі маладой. Пелі песні:

*Як вілі ёлку на сяле,*
*То пілі гарэлку на стале.*
*Гарэлка пашла з сытою,*
*Малады Ванька з жаною...*

Калі ехалі яшчэ ў першы дзень з царквы, то лавілі зайца: перагарожвалі дарогу вяроўкай ці палаценцамі і прасілі з маладых выкуп. Яны павінны былі пачаставаць людзей трыма чаркамі гарэлкі. А хто дзе бутэльку даваў ці болей. Што запросяць, то і павінны былі даць. Адзін раз у нас не пускалі да таго, пакуль не з’ездзілі ў суседнюю дзярэўню за гарэлкай.

**ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ**

На другі дзень малады прыязджае за маладой з дружкамі. Жаніх з другамі заходзіў у хату і пытаецца, дзе нявеста. Яму прыводзяць якую-небудзь пераапранутую ў нявесту дзеўку. Ён кажа, што гэта не яго нявеста, і пачынаюць шукаць. Калі знаходзяць, то едуць да яго ўжо гуляць.

Прыязджаюць да жаніха, і нявесту сустракае свякруха з цесцем. Завязвае нявесце платок. Сустракаюць іх у перавернутам кажусе, на які потым і пасадзяць маладых, каб жылі багата. Некаторыя людзі прышпілівалі адзежу маладых булаўкамі, калі яны сядзелі за сталом.

**КАРАВАЙ**

Каравай пякла маці маладой. Можа, хто і прасіў жанчын нейкіх, каб пеклі каравай, ды ў нас нікога не прасілі. Калі пеклі, то глядзелі, штоб добры атрымаўся каравай, без трэшчын, прыгожы. Каб жыццё маладых таксама было да ладу і шчаслівым. Каравай дзялілі ў дзень свадзьбы, калі гулялі ў жаніха. Дзяліў сват. Госці падыходзілі да яго з платочкам, на які ён клаў каравай, і казалі пажаданні:

*Дару пятачка, каб у вас была дачка.*
*Дару карабочак гліны, каб пазвалі на хрысціны.*

Падаркі аддавалі маладой, а яна перадавала маці, а та – дружцы. Часцей дарылі грошы. За сталом сядзелі калі, то таксама пелі песні:

*Гавараць, цыгані манят,*
*Гавараць, цыгані крыўдзяць.*
*Адна цыганка мне казала,*
*Што мілай жэніцца з другой.*
*Я той цыганке заплаціла*
*І ў зелен сад пайшла чумець.*
*А ў тым садку вяселле была,*
*Іграла музыка, іграла,*
*Я не сцярпела, плакаць стала.*
*Стаў мілы свадзьбу перакрашчаць.*
*– Не перакрашчай ты, мілы, свадзьбу,*
*Не перакрашчай маіх ты слёз.*
*Жыва буду – замуж пайду,*
*Цябе на свадзьбу прыглашу.*
*Сваю саперніцу Тамару*
*З сабою разам пасажу.*
*Радзіцца сын – жалець не буду*
*І ў быстрай рэчцы ўтаплю.*
*Радзіцца доч – жалець я буду*
*І доч Тамараю, Тамарай назаву.*
*Тамара вырасце бальшая*
*І ў зелен сад пайдзе гуляць.*
*Там завлекуць яе рэбята,*
*Як завлекалі, завлекалі яе маць.*
*А калі замуж я не выйду,*
*То чорны гроб я закажу.*
*На крышцы гроба напішыце,*
*Што памерла, памерла я за любоў.*

Пачыналі госці плясаць і пелі частушкі:

*Вецер вее, вецер вее,*
*Вецер вее з северу,*
*А каменскія рыбяты*
*Чуць паніжэ клеверу.*

*У мяне мілёнка два –*
*Табуретка і балда,*
*Табуретка ходзе рэдка,*
*А балда дык нікагда.*

*У мяне мілёнкаў шэсць,*
*Шэсць і палагаецца.*
*Два ў маліне, два ў Сібіры,*
*Два за мной матаецца.*
*Мой мілёнак, як цялёнак,*
*Толькі розніца адна:*
*Мой мілёнак п'ёт із гарла,*
*А цялёнак – із вядра.*

*Я і так, я і сяк,*
*Я і пальчыкам.*
*Пачэму б не станцаваць*
*З такім мальчыкам.*

*Палюбіла я мілёнка,*
*Палюбіла лысага.*
*Ой, не нада мне люстрэка,*
*Пагляжуся ў лысінку.*

Другі дзень гулялі ўжо ў нявесты. Гэты дзень называлі "жаніх вязе заўтрак цёшчы". Там таксама гулялі і пелі песні.

***Запісана ў в. Каменка Чачэрскага р-на ад Беляковай Таццяны Юр'еўны, 1922 г.н., студэнткай Сярогавай В. (1997 г.)***

Жаніх прыходзае к нявесце ў сваты, збіраюцца ўсе родзічы: матка яго, бацька, дружкі яго. У сваты так хаджалі. На сватоў надзявалі ручнікі. Прыходзілі ў выходныя, у суботу ці ў нядзелю. Назначалі свадзьбу чэраз нядзелю. Так у маей большай дочкі было. Сваты прыйшлі, многа ж было людзей. Гарэлку прыносілі. Сваты гаварылі:

– Можа, к вам заблудзіўся хто? Цёлачка прыгожая?

Я ўжэ не знаю. Усе смеяцца давай, шуцілі. Песні пелі, а як жа. За сталом пілі, елі.

*Да вянца, Ганначка, да вянца.*
*Нашто ў брацца пытацца,*
*Нашто ў брацца пытацца.*
*Брацец да вянца падвядзе,*
*Брацец да вянца падвядзе,*
*Мяне пад вянец падвядзе,*
*Шчэ й русу касу распляце.*

Брат даўжон сястру падваджаць пад вянец. Каса не расплеценая, а расплятае брат касу. Сваты прыходзілі, пагаворацъ, песні папяюць. Заручаюць жаніха і нявесту і назначаюць дзень свадзьбы.

Гатовілі нявесту: прыбіралі, вянок ёй рабілі. У суботу перад свадзьбай дружкі прыходзяць да і хлопцы ёлку віць. На стол наносяць цвятоў, усякай трасцы, дзелаюць украшэнні. У хлеба булку ёлку ўторкнуць. Самадзелкавымі цвятамі, лентачкамі ўжэ гэту ёлку ўкрашаюць. А ёлку з лесу хлопцы прыносілі, штоб на стол стала.

Тады ўжо гуляюць, песні пяюць, цэлы вечар гуляюць, чуць ні да рання.

А ўжо ўтрам прыходжаюць выкупаць. На дзежку не садзілі. Старшая дружка хавала нявесту, а малады прыедзе за маладой, а мы каля ёлкі сядзім і песні спявалі.

Выкупаюць як? Дружок за ёлку грошы нам даваў, а больш грошай давалі старшай дружцы. А песню пелі "Горка рэдзечка". Ну выкупіў малады ды паехалі пад вянец. А прыехалі, страчалі маладых з хлебам, з соллю. Ручнік сцялілі маладым уздоўж, каб жыццё была доўгім.

Песні ўжо пелі на самай свадзьбе. Каравай пяклі булкай такой, красіва ўкрашалі. Каравай дзяліў малады.

Пасля свадзьбы маладыя забіраюць тую ёлку і ад'язджаюць дадому. Песні ўсё ўрэмя спявалі. І на кажух вывернуты маладых усаджвалі, каб жылі багаценна.

*Горка рэдзечка ў гародзе,*
*Горка рэдзечка ў гародзе.*
*Сядзіць Васечка ў дарозе,*
*Сядзіць Васечка ў дарозе.*
*Прывізаў коніка к бярозе,*
*Прывізаў коніка к бярозе.*
*Кланіў к бярозке тры разкі,*
*Кланіў к бярозке тры разкі.*
*Сцёбнуў коніка пад ножкі,*
*Сцёбнуў коніка пад ножкі.*
*– Ступай, мой конік, шырока,*
*Ступай, мой конік, шырока.*
*Шчэ й нам ехаці далёка,*
*Шчэ й нам ехаці далёка.*
*Далёка й недалёка Насцеў двор,*
*Далёка й недалёка Насцеў двор.*
*У Насцевым дварэ дружачкі,*
*У Насцевым дварэ дружачкі.*
*Яны гуляюць, я ў рэчкі,*
*Яны гуляюць, я ў рэчкі.*
*(запамятавала)*
*А Васечка з ёй роўненькі,*
*А Васечка з ёй роўненька.*

* * *

*Беражысь, Васечка, беражысь,*
*Беражысь, Васечка, беражысь.*
*Ля вакенца спацькі не лажысь,*
*Ля вакенца спацькі не лажысь.*
*(запамятала)*
*Прыедзя Васечка, яе ўкрадзе,*
*Прыедзя Васечка, яе ўкрадзе.*
*За ціхі Дунай завязе,*
*За ціхі Дунай завязе.*
*За тыя рэчачкі быстрыя,*

*За тыя рэчачкі быстрыя,*
*За тыя берагі крутыя,*
*За тыя берагі крутыя.*
*За тыя мужыкі ліхія,*
*За тыя мужыкі ліхія,*
*Што міняюць коні без цаны,*
*Што міняюць коні без цаны,*
*А б'юць жаночак без віны,*
*А б'юць жаночак без віны,*
*Без ніякія прычыны,*
*Без ніякія прычыны.*
*Што няма на печы лучыны,*
*Што няма на печы лучыны.*
*На пячы лучына сухая,*
*На пячы лучына сухая.*
*Матка па дачке журыцца,*
*Матка па дачке жарыцца.*
*– Мамачка мая, я ўжо ні твая,*
*Мамачка мая, я ўжо ні твая.*
*Я й у таго Панаські ночку спала,*
*Я й у таго Панаські ночку спала,*
*Таго паніча, што з ім хадзіла да вянца,*
*Таго паніча, з кім хадзіла да вянца,*
*Да вянца, мамачка, да вянца,*
*Да вянца, мамачка, да вянца.*
*– Ці спрасілась ты ў брацца,*
*Ці спрасілась ты ў брацца?*
*– Нашто мне ў брацца пятацца,*
*Нашто мне ў брацца пятацца?*
*Брацец са мною паедзя,*
*Брацец са мною паедзя,*
*Мяне пад вянец падвядзе,*
*Мяне пад вянец падвядзе,*
*Шчэ й русу касу распляце,*
*Шчэ й русу касу распляце.*

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага р-на ад Цітовай Зінаіды Фёдараўны, 1929 г.н. (раней пражывала ў Кармянскім р-не), студэнткай Бацюк Ж.***

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ

Да вяселля ў вёсцы рыхтаваліся загадзя і запрашалі гасцей у асноўным за тыдзень да пачатку вяселля. Запрашаліся на вяселле бацькі маладых. Пачыналася яно ў вёсцы апоўдні.

Зранку сабіраліся ў маладой яе сяброўкі і апраналі нявесту ў вясельны нарад. Лепшая з іх, первая дружка, або сведка, у нашай вёсцы называлася бальшуха.

А ў маладога сабіраліся яго сябры і ўпрыгожвалі коней з дугамі. На дугі прымацоўваюць ёлкі, самаробныя кветкі, каляровыя стужкі. Адзін з лепшых сяброў (сведка) называўся паджанішнік. Дапамагаюць ім сяброўкі маладога – свяцілка і каравайніца. За маладой на гэтых конях маюць права ехаць малады, паджанішнік, свяцілка са свечкамі, устаноўленымі ў малую дзежачку, у якую насыпана жыта, каравайніца з караваем хлеба, які кладуць на века з дзежкі, засланае прыгожай тканай сурвэткай.

Да абеда малады прыязжае за маладой ехаць у царкву венчацца або ў сельсавет распісвацца. Сяброўкі маладой перагароджваюць дзверы і не пускаюць маладога, пакуль не дасць выкуп за маладую. Падстаўляюць замест нявесты другую дзяўчыну з самаробнай з цюлі фатой і доўга таргуюцца, у асноўным патрабуюць цукерку, гарэлку.

Госці, якія жадаюць паглядзець афіцыйную частку, ідуць за маладымі. У маладой сабіраецца яе радня, у маладога – яго. За сталы садзяцца кожны род асобна. У маладога сядзяць нядоўга, крыху пачастуюцца і сабіраюцца ехаць за маладой. Госці праводзяць іх песняй:

*У дарозе прывязаў Іванька каня к бярозе.*
*Не трогай, конічак, шырока,*
*А то будзе Ганначка далёка.*
*Трогай, конічак, вузенька,*
*Мая Ганначка блізенька.*
*У святліцы галасочак раздаваецца,*
*Там Іванька сабіраецца.*

За імі з гармонікамі, песнямі, скокамі ідзе род маладога. Па дарозе к маладой жаніха не раз прыпыняе вясковая моладзь, якая перагароджвае дарогу і патрабуе выкуп гарэлкай. У вёсцы гэта завецца "лавіць зайца". Дарогу перагароджваюць толькі хлопцы.

Сустракаць маладога выходзіць цешча ў вывернутым кажуху. Яна нясе яму і ўсім, хто з ім прыехаў, пачастунак і запрашае ў хату. Родныя маладой спяваюць ёй:

*Не сядзі за сталом,*
*Адчыні вакенца, паглядзі,*
*Ці высок месячык на небе?*
*Ці прыгож Іванька на кані?*
*Ён прыгож, прыгож, чарнаброў,*
*У яго кудзеркі ніжэй броў.*

Нявеста сустракае маладога на парозе, бярэ за руку і ідуць да стала. Удзельнікі вяселля пасыпаюць іх зярном і прыгаворваюць: "Наце вам ячменю, штоб не драліся на сцену, наце вам проса, штоб не глядзелі скоса".

Цешча выварочвае кажух і садзіць на яго маладых, каб тыя былі багатыя.

Запрашаюць за сталы і род маладога, які ў той час падходзіць з песнямі і скокамі. А род маладой выходзіць на вуліцу гуляць, а калі

зімой, то ідуць ў хату суседа, скачуць, пяюць. Гучыць песня за сталом:

*Баравая, баравая ты, зязюленька,*
*Борам ляціш, ды не кукуеш.*
*Я кукавала, ды вы не пачулі,*
*За лясамі, ды за цёмнымі,*
*За скрынкамі, ды за дубовымі...*

Калі пачастуюцца, дзеляць каравай у маладой. Бяруць чыстую талерку, накрываюць яе гарэлкай і кусочкі каравая і вызываюць па чарзе ўвесь род. Спачатку родных бацькоў, цётак. І так усіх удзельнікаў вяселля. Кожны выказвае свае пажаданні і кладзе на талерку грошы або падарунак. Бальшуха забірае падоранае і кладзе каля маладых.

Цікавыя пажаданні вяскоўцаў: “Дару кавалачак медзі, каб у вас былі дзеці, як мядзведзі”, “Дару бярозавую рошчу, каб зяць пацалаваў цёшчу, а за каравай кусочак – яшчэ разочак, а за гэту чарачку – яшчэ парачку”, “Сколькі ў лузе кочак, каб у вас было столькі дочак, колькі ў лесе пянькоў, столькі сыноў”, “Дару курку-нясушку, каб маладая пацалавала свякрушку”.

Нявеста са свайго роду дорыць падарункі толькі хросным бацькам. Потым маладой расплятаюць касу. Робіць гэта часцей за ўсё брат маладой, малады дае выкуп.

Затым хросны бацька здымае ікону з кута і кладзе на стол. Малады з маладой, бальшуха, паджанішнік, свяцілка, каравайніца ходзяць 3 разы вакол стала, цалуюць ікону. У гэты час госці пяюць песню:

*Зара мая ты вячэрняя,*
*Не стухай ты так рана,*
*Мае дзеткі ў дарозе*
*Ды на лютым марозе.*
*Адно дзіця – народжанае,*
*Другое – пасуджанае,*
*Ганначка – народжаная,*
*Іванька – пасуджаны.*

Бацька бярэ ікону, маці – хлеб, становіцца ў парозе:

*Стаіць мамачка ў парозе,*
*Пакланюся ў дарозе.*
*Стаіць мамачка блізенька,*
*Пакланюся табе нізенька.*
*Заграбай, мамачка, попел,*
*Мы тваю дачку ўхопім,*
*Заграбай, мамачка, жар,*
*Будзе табе дачку жаль.*

Калі выходзяць з хаты, пяюць песню:

*Схавай мяне, мая ружачка,*
*Пад зялёны лісточак,*
*Пад глыбокі каранёчак.*
*Будзе мяне мой татачка шукаць,*
*А вы, дзевачкі, не кажыце*
*Ды мяне не завіце.*
*Ці не дасць ён вам выкупу,*
*Ці не выкупе ён мяне?*

Хросны выносіць на каня пасцель маладой, выносяць таксама сундук з пасагам. За пасцель патрабуюць выкуп з паджанішніка і кажуць цану або колькі гарэлкі і не адпускаюць коней да тых пор, пакуль не дадуць яго. Малады забірае нявесту пад песню:

*Паехала дзевачка з двара дамоў,*
*Зламіла бярозку ўверх далой.*
*Расці, бярозка, без верху,*
*Жывы, мамачка, без мяне,*
*Жывы, мамачка, без русы касы мае.*
*А павешу з касы ўплёт на прыплёт,*
*Куды мамачка ў клець ходзя,*
*А ў клець ідучы, пабача,*
*А з клеці ідучы, заплача.*
*То мае дачушкі ўплёты,*
*Усе дзявоцкія работы.*

Следам за маладым ідуць да маладога ўсе госці вяселля. Пяюць песні, скачуць вясельны карагод “Жораў”: бяруцца за рукі і пад гармонік з прыпеўкамі аббягаюць вакол усяго, што пападае па дарозе – дрэвы, калодзеж, людзі.

Калі маладыя пад’язджаюць да хаты маладога, госці пяюць песню:

*Ой, выйдзі, мамачка, паглядзі,*
*Каго мы табе прывялі:*
*Скрыню, пярыну і маладую княгіню.*

На варотах у маладога ставяць стол, гарэлку, закуску. Свякруха ссаджвае нявесту, калі ў яе ёсць гаспадар, а калі няма просіць з радні каго-небудзь. Налівае маладым у чаркі гарэлкі, яны абавязаны выпіць на адным глытку, а гарэлку выліць праз сваю галаву. Так трэба зрабіць 3 разы.

Маладых і гасцей запрашаюць у хату, садзяць за сталы. Але не частуюць да тых пор, пакуль зяць не прывязе цёшчу. Прывёзшы маладую, пакідае з яе сяброўкамі за сталом, а сам едзе за цёшчай. Цёшча ў сваёй хаце павінна зжарыць яечню зяцю. Потым зяць вязе цёшчу з падарункамі, якія маладая падорыць радне маладога на караваі.

Калі сядзяць госці за сталамі, на першы дзень іх запрашаюць, каб прыйшлі на другі дзень да позняй ночы.

**ДРУГІ ДЗЕНЬ ВЯСЕЛЛЯ**

На другі дзень кожны род сабіраецца, куды запрашалі. Маладая абавязана прыйсці да свя-

крухі дамоў і запрасіць свой род да маладога. Удзельнікі вяселля з песнямі, скокамі ідуць да маладога. Там іх запрашаюць за сталы, частуюць, крыху пагуляюць, і абодва роды ідуць або да хаты маладой, або маладога.

Маладая на другі дзень вяселля белую сукенку не апранае, фату таксама, яе на першы дзень вяселля пры канцы яго здымае свякруха і вешае на куту пад абразамі і павязвае галаву хусткаю. У маладой, калі ёсць месца за сталамі, садзяць усіх гасцей з абодвух бакоў.

### АБРАД “ЦЫГАНЫ”

Вяскоўцы абавязкова на другі дзень распранаўюцца ў “цыган”. Робяць гэта самыя вясёлыя і знаходлівыя людзі. Весяляцца яны не толькі самі, але і ўсё вяселле весяляць. Мужчыны пераапранаюцца ў жанчын, а жанчыны наадварот. Адзенне апранаюць зламанае, абадранае, і каб было смяшней. Цыганку выбіраюць вялікага росту, а цыгана – маленькага. У іх ёсць свая маладая, якой робяць сваю фату з гардзіны, букет з крапівы і дзеляць каравай, вызываюць удзельнікаў вяселля.

У маладой здымаюць чаравік, каб патрабаваць гарэлкі. Апранаецца ў цыган чалавке 5 і больш. Гэта цэлае тэатралізаванае свята і тут варожба на картах, гэта скокі на перацяжку з гарманістам, гэта і прыпеўкі з карцінкамі.

Калі ў вёсцы два вяселлі ў адзін дзень, то цыганы з аднаго вяселля ідуць на другое.

Заканчваецца вяселле песнямі, скокамі позна ўначы. У Палессі вяселле гуляюць два дні.

На трэці дзень, калі што засталося ад вяселля, самых родных і блізкіх запрошвалі вячэраць.

***Запісана ў в. Палессе Чачэрскага р-на***
***ад Палянок Ганны Андрэеўны, 1929 г.н.,***
***Міхальковай Марыі Васільеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Мартынавай Н. (2002 г.)***

### ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

*Аддаў мяне татачка*
*У чужыя людзі.*
*А хто ж мяне тама*
*Да жалеці будзе.*
*Свёкарка не татка,*
*Свякруха не мамка,*
*А муж неўдамога,*
*Ён мяне не любя,*
*Ён раненька ўходзя,*
*Позненька прыходзя.*

*А ці чула ты, мая мамачка,*
*Як я цябе гукала.*
*Голле дробненькі,*
*Лес высокtінькі,*
*Ні даходзя да мамкі.*
*А на што ты мяне,*
*Мая мамачка,*
*Рана замуж аддала,*
*Да за п’яніцу,*
*Да за няўдаліцу,*
*Да ў чужую старану.*
*Асталася я цяпер,*
*Маладая дзевачка,*
*Ні салдатка, ні ўдава.*

*Косачка мая русая,*
*Ні год я цябе часала,*
*Ні нядзельку я пляла.*
*За адзін вечарок прадала,*
*За адзін вечарок прадала,*
*За адну румачку прапіла*
*Да за сладкага віна.*

*Ехала дзевачка з двара ў двор,*
*Зламіла бярозку, верх далоў.*
*Расці, мая бярозка, без верху,*
*Жыві, мая мамачка, без мяне,*
*Без русы косачкі без мае.*
*Павешу ўплёт на прыклёт,*
*Будзе ў клець ісці – пабача,*
*Будзе ў клець ісці – заплача,*
*Ета мае дочачкі ўплеты,*
*Шчэ і дзявоцкія работы.*

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Геўрасёвай Марыі Іванаўны, 1928 г.н.***
***(перасяленка з в. Рудня Барталамееўская***
***Чачэрскага р-на),***
***студэнткамі Вальчанка В. (2003 г.)***

*Што над лугам зялёненькім,*
*Брала ўдоўка лён дробненькі.*
*Яна брала, выбірала,*
*Тонкі голас падавала.*
*Там Васілька сена касіў,*
*Тонкі голас пераносіў.*
*Кінуў касу на доленьку,*
*А сам пайшоў да доменьку.*
*Сеў Васілька ў канцы стала,*
*Схіліў голаву да пола.*
*Выйшла маці з комнаты,*
*Стала ў Васіля пытаці:*
*– Што, Васілька, зажурыўся,*
*Што ні еш ты, ні гуляеш?*
*– Дазволь, маці, удоўку ўзяці,*
*Яна ўмее чараваці,*
*А я чару не баюся,*
*На ўдовушкі ажанюся.*

*Ой, хмелю, мой хмелю,*

*Хмелю зеляненькі.*
*І дзе ж ты, хмелю,*
*Зіму зімаваў,*
*Што ж ні развіваўся?*
*– Ой, сынку мой сынку,*
*Да сынку мой родны,*
*І дзе ж ты, сынку, ночку начаваў,*
*Што ж ні разуваўся?*
*– Начаваў я ночку, начаваў другую,*
*Начаваў я ў тыя ўдавіцы,*
*Што сватаці буду.*
*– Ой, сынку мой родны,*
*Да, сынку мой мілы,*
*Ні бяры-ка ты тую ўдавіцу,*
*Бо шчасця не будзе.*
*А ў удавіцы сэрца,*
*Што восенню сонца:*
*Ано свеця, да ні грэя,*
*Халадочкам вея.*

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Балдзінай Веры Іванаўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Рудня Барталамееўская***
***Чачэрскага р-на)***
***студэнткамі Чарпухінай Я. (2003 г.)***

Вначале, кагда маладыя дагаварыліся а свадзьбе, сабіраюцца родныя невесты і радныя жаніха. Прыглашае жаніх ешчо пару чалавек у сваты. І п’юць заручыны. Заручыны небальшыя, саветуюцца і рашаюць, на якое чысло, на якой дзень свадзьбу спраўляць.

Прыходзя ўрэмя гэтай свадзьбы. Падгатаўліваюцца дзіўчонкі аднаго возрасту, многа дзяўчонак сабіраюцца ў нявесты, можэт дзесяць, а можэт і большэ.

Вот ані ідуць у лес, ішчут самую красівую ёлачку, срубаюць, нясут. І ў суботу, перад свадзьбай, наражают эту ёлку. Ёлку наражают цвятамі з цвятной бумагі, цвяты дзелаюць, ленты длінныя на ёлку цапляют. На вярху ёлкі дзелают крэст. Крэст убярают цвятамі. Так паложана. Як будта крэст праважае маладых. А ў жаніха ёсць дружкі, сейчас свідзецелі, і свяцілка-дзіўчонка – ана родствініца. Еслі родствініцы нет, то блізкую якую-то вазьмут.

Свяцілка убірает, украшает дом. На каня цапляет калакольчыкі і дзелает дзве свечкі. Украшает цвятамі, ставіт у банкі свечкі, туда ў банкі зярна і ставіт жаніху і невесце.

Ну, а дзяўчонкі ўбіраюць эту ёлку. Ставяць у нявесты, дзе спраўляюць свадзьбу, на пароге і вакруг ёлкі ставяць скамейкі. Усе эці дзяўчаты, каторыя наражалі ёлку, становяцца вакруг ёлкі, у то врэмя, када далжны прыехаць сваты і жаніх. Яны становяцца на скамейку, а нявеста з глаўнай падружкай сядзіць пад ёлкай. І дзяўчаты начынаюць свадзебныя песні пець. Заходзяць сваты, падходзят к дзяўчатам і начынают таргавацца: “Вот нам нравіцца ваша ёлачка. Как нам её ўзяць?” І еслі тада было пяць рублей, но гаварылі не пяць рублей на ёлку, а пяць мільёнаў: “Пяць мільёнаў наша ёлка стоіць да ешчо пад ёлкай нявеста сядзіць”. Ну, ані долга не таргуюцца, даюць гасцінца: там канфет, пячэння, бутылку віна і выкупают ёлку.

Ёлку эту з жаніховай стараны забіраюць і прачуць яе, штоб ніхто не ўвараваў, патаму што нявесту нада ешчо весці к жаніху з ёлкай. Ёлку страчаюць, а нявесту вядуць на кут і садзяць з жаніхом. І ішчо, па первай румкі не выпівалі, када падходзіць мальчык (родственнік іли каго яна выбрала, школьнік, небальшога возраста) і расплятае касу. Расплящёт касу і ішчо патрапае касу. Ну када ўжэ свадзьба прашла, гулянкі, шуткі былі розныя. І вот жаніх ужэ забірае нявесту з сабой. Сабіраюцца ўсе к жаніху. Снімае маць ікону з кута, каторую яна ахвяравала дачке падарыць, і ставя ікону наперадзе стала. Сталы аддзвігаюць. Вакруг стала абводзяць маладых, і маладыя цалуюць ікону. Патом сваты гавараць: “Ці ёсць тут ацец, маці благаславіць этава дзіцяці, у дарогу атправляці”. І втарым разам так, і трэцім разам так. І када выходзяць, маць стаіць на дзвярах у хату, доч кланяецца. На калені становіцца перад мацерру, благадарыць за то, што яна вырасціла яё. І от забірае жаніх і сваты нявесту, содзяць нявесту на каня (летам калёса харашо ўбіралі, а еслі зімой, то сані з бальшым, красівым задком, сена многа, засцілаюць, штоб красіва было), патом ставяць ёлку. Тут эта падружка, каторая первая, це ўжэ не едуць, толькі главная падружка едзет к жаніху с нявестай і свяцілкай, каторая са стараны жаніха, ну, і дружок первы.

Ну, едуць к жэніху. Могуць па дарозе “лавіць зайца”. “Заяц” называлі, када маладыя вот едуць, вязуць нявесту, і эта пачыму-та назвалі “лавіць зайца”. І вот хлопцы (маладыя) сабіраюцца і ловяць, а дружок маладога падганяе быстрэй коней, штоб яны ляцелі на ўсю катушку. Но ўсё раўно маладыя ловяць, і за эта яны спрашываюць бутылку. Могуць, еслі как у нас, зайца паймаць… Я ў адной дзярэўні, а Саша мой з другой (пасёлак), то там на пасёлку, кала яго дома апяць маладзеж сабіраецца “лавіць зайца” і апяць бутылку давай. Паэтаму нада на дарогу браць дзве бутылкі. Када прыяжжаем у дзярэўню к жаніху, страчае сват, наліваюць румку невесце і жаніху, і ўводзяць іх сваты,

садзяць на кут. Ёлку знімаюць (яна для таго толькі, штоб праехаць красіва з ёлкай), абрываюць цвяты нарасхват на ёлкі, а крыж знімаюць і прачуць ілі маць, ілі родственнікі жаніховы. І вот ані знімаюць крэст этат і прачуць ілі ставяць на куце. Патом гуляюць. Дзеляць каравай. Еслі каравай дзеляць у нявесты і жаніха, тада і там пякуць каравай, і там пякуць. Еслі толькі блізка, вот у адной дзярэўні і атсюда забралі нявесту туда, тот каравай у жаніха дзеляць. Парознаму бывает. У то врэмя да святочнага стала рэзалі кабана, гусей, мясное што-та гатовілі, без картошкі тожэ не бывает.

Калі дзялілі каравай, то гаварылі, штобы многа дзіцей імець, штобы не імеў любоўніц, не змяняў жэну. Ва врэмя каравая дарылі падаркі. Нявеста дара свякрухі плацця, свёкру – касцюм ілі брукі, рубашку, залоўкам – шытае што-та, братам – рубашку. Када каравай дзеляць, жаніху і нявесце ложаць дзеньгі. Хто-та рой пчол, кажа, што даруе, хто-та – парасёнка і патом после свадзьбы прыносяць. Шуцілі. Дагулівалі: увечары, курыцу паймаюць і жывую яе на агонь, жыв'ём. Гулялі тры дні свадзьбу.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Гулевіч Вікторыі Францаўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рудня-Нісімкаўская),***
***студэнткамі Прыходзька А. (2005 г.)***

*Ехалі мы борам, барамі,*
*Борам, барамі, цёмнымі лясамі.*
*Бор будзе шумець, падковы ляшчаць,*
*Людзі пачуюць, дзівіцца будуць.*
*Цёшча пачуе, сабірацца будзе.*
*Як зяць на двор – кубачкі на стол.*
*Як зяць з двара – кубачкі з стала.*

* **

*Свашкі пяшком ішлі,*
*Жаніха ў мяшку няслі.*
*Ногі тарчалі,*
*Сабакі гірчалі.*

*Наш малады,*
*Як сыр наліты.*
*Ваша маладая,*
*Як каша надутая.*

* * *

*Стукнула Валечка аб парог,*
*Махнула платочкам напярод.*
*Расступіся, увесь народ!*
*Буду свае мамачкі шукаць.*
*А ўсе радочкі яна абашла,*
*А мамачкі сваёй не знайшла.*
*Галоўка мая ўся ў цвяту,*
*Няма маёй мамкі ў раду.*
*Галоўка мая – макаў цвет,*
*Шла мая мамачка на той свет.*

* * *

*Выдзі, мамачка, паглядзі,*
*Што табе баяры прывезлі:*
*Скрынку пярыны*
*Шчэ й маладую княгіню.*
*Пярыну будзем засцілаць,*
*Княгіню будзем пасылаць.*

* * *

*– Чаго ж ты, Леначка, не плачаш?*
*Ты ж сваю косачку ўтраціш.*
*– Ой, ніхай ён плача, ды ні я,*
*Што бярэ сабе у двор гультая.*

*Скажыце ж вы нам спасіба,*
*Што мы ваша лам'ё прыбралі,*
*Усім дарожаньку далі.*

*Казалі, Колечка красівы,*
*Хадземце, дзевачкі, паглядзім,*
*Ці яму загулы не дадзім.*
*А як глянулі, дык далі.*
*Ззадзі паглядзець, як паніч,*
*Спералзі паглядзець – свіны лыч.*
*Аўсянае лічыка, ясны нос,*
*Чорт яго ведае, дзе ён рос?*
*Ці на сметніцы валяўся,*
*Дзеўцы Марусі спадабаўся.*

* * *

*Прыступаю, мамачка, блізенька,*
*Кланяюся табе нізенька.*
*Коскамі зямельку сцялю,*
*Слёзкамі ножачкі абалью.*

* * *

*На вяселле нас пазвалі,*
*Чаркі гарэлкі не падалі.*
*Калі б мы зналі, не пашлі,*
*Ці б мы сабе работкі не знайшлі?*
*Была б кудзелька, дык пралі б,*
*А каб не было, дык спалі б.*

***Запісана ў в. Шырокае Чачэрскага р-на***
***ад Хранькоавай Валянціны Ігнатаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Хранькоавай Н. (1999 г.)***

У сваты хадзілі радзіцелі жаніха, дзядзька-балагур. Дзеўка давала сватам падаркі. Вешалі сватам рушнікі.

Сабіралі нявесту, пелі песні:

*Стукнула, грукнула на дварэ.*
*Паглядзі-ка, мамачка, ці не па мяне?*
*– Па цябе, дачушка, па цябе.*
*–Ой, мамачка, гатуй кублік мне.*
*– Едзь, мая дачушка, без кубла,*
*Ты ж маёй кудзелькі не скубла.*

*– Скубла, скубла, мамачка, шамацела,*
*За (імя) замуж захацела.*

Трымалі вянец дружкі. Свяцілка (дзіцё 7-10 лет) расплятала нявесце касу.

Встрэчалі маладых радзіцелі, сцялілі рушнік, сыпалі деньгамі, пшаном. Маладыя сыпалі дзецям канфеты.

Садзілі маладых на вывернутую шубу пад абразы.

Каравай для маладых пеклі і неслі замужнія жанчыны. Неслі пад песні:

*Ішоў каравай, сустрэў каравай старасту.*
*– Хто ж цябе, каравай, наліваў?*
*Хто ж цябе, каравай, выпякаў?*
*– Налівалі ж мяне пчолачкі,*
*Выпякалі ўсе замужнія жоначкі.*
*– А хто ж наш каравай выкупе,*
*Бочку мядочку выкаце?*
*– Галоўны сват каравай выкупе,*
*Бочку мядочку выкаце.*

Сват выкупаў каравай, ставіў яго ля маладых. Яны ўдвух бралі нож у платочку і ўдвух дзялілі. Давалі па кавалку радзіцелям, хросным, братам. Усе нешта гаварылі, жадалі, адорвалі маладых:

– Дарую медзі, каб дзеці былі, як мядзведзі.

– Дарую спічкі, каб мужык не заглядаў пад чужыя спаднічкі.

Першы дзень гулялі ў нявесты, другі – у жаніха. У панядзелак – “рэжуць петуха”: рэзалі, варылі петуха і працягвалі гуляць (у жаніха). Яшчэ называлі “лаўкі мыюць”.

В цечэніі недзелі “балы вадзілі” – маладыя ездзілі ў госці па родственнікам, якія іх прыглашалі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Тупіцкай Галіны Мікалаеўны, 1938 г.н.***
***(раней пражывала ў г. Чачэрск),***
***студэнткамі Тупіцкай А., Кузьмянковай А.***

## СВАТЫ

Да бацькоў нявесты прыходзяць хросныя бацькі, малады, дзядзькі. Бяруць кашолку, сала кусок.

– Добры вечар. Прыміце нас, добрыя людзі!

– Прахадзіце.

– Мы прыйшлі за (імя дзяўчыны). Ці сагласна яна выйці замуж за (імя хлопца)? У вас тавар – у нас купец.

Калі дзяўчына не сагласна, то выносіць гарбуз. А калі сагласна, то ўсе садзяцца за стол, знакомяцца.

Пра заручыны малады з маладой дагаварваюцца за нядзелю.

## ЗАРУЧЫНЫ

На заручынах маладой заплятаюць касу, якую яна не расплятае да свадзьбы.

– Ці ёсць ацец і маці, благаславіць свайго дзіцяці касу заплятаці?

Усе:

– Бог благаславіт.

Касу заплятае хлопец (брат нявесты).

На заручынах дружкі жаніха і падружкі нявесты абменьваюцца падаркамі. Бацькі жаніха і нявесты таксама дарылі падаркі. На заручынах ёлкі вілі: ставюць ёлкі, вешаюць лентачкі ўсякія, падружкі нявесты пяюць песні.

Свашкі, як прыязджаюць, засцілаюць вокны і на лаўках танцуюць, і паюць. Сват ім налівае чаркі, і тады яны саскакваюць. Тады ўжо садзяцца за сталы.

Пад завітыя ёлкі нявесту дружок жаніха выкупляе: бярэ гарэлку, канфет, пячэння. А калі нявесту не аддаюць, то стараюцца яе ўкрасць.

Нявесце на свадзьбе расплятаюць касу: “Ці ёсць ацец і маці благаславіці свайго дзіцяці касу расплятаці?” Усе : “Бог благаславіт”. Тады хлопец расплятае, а яму за гэта дзеньгі плоцяць.

Сваты на свадзьбе ўстрэчаюцца так: кусок хлеба з палаценцам бяруць пад паху, а потым мяняюцца. Жаніха і нявесту садзюць на лаўку, на шубу, каб былі багатымі, як гэтая шуба касматая.

## КАРАВАЙ

Упрыгожваюць каравай розачкамі і лісточкамі, завітушкамі із цеста. Нясуць каравай над сталом: “А хто ў нас, а хто ў нас каравай выкупя? А хто нам, а хто нам бочку мядочку выкаця?” Адказваюць: “Жаніх (імя) выкупя”. Жаніх дае дзеньгі. Сват: “Ці ёсць ацец і маці прыйці каравай раздзяляці?” Да маладога: “Разрашы каравай раздзяліці”.

Потым каждаму, хто бярэ каравай, наліваюць чарку, а той кладзе падаркі. Пажаданні на каравай:

Дару каробку шпонак, штоб малады не хадзіў да чужых жонак.

Дару курыцу-нясушку, каб маладая пацалавала свякрушку.

Дару зялёную рошчу, каб малады пацалаваў цёшчу.

За этат кусочак – ешчо разочак, за эту чарачку – ешчо парачку.

Кладу кучку медзі, каб дзеці былі, як мядзведзі.

***Запісана ў г. Чачэрску***
***ад Буланавай Марыі Макараўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Ткачовай А. (2001 г.)***

Вяселле гулялі ўвосень, калі закончылася ўборка ўражая, і да велікага паста, які пачынаўся 28 ноября. У пост свадьбы не гулялі. За

месяц ілі два жэніх прыезджал со своімі роднымі і блізкімі родственнікамі к невесце.

## ЗАРУЧЫНЫ

На заручины (сватанне) первым заходил крёстный отец в дом невесты и просился на ночлег, и если его пускали, то он говорил, что он не один, и в дом заходили вместе с женихом. Все приехавшие с собой брали закуску и выпивку. Самый красноречивый заводил разговор, что у вас есть девушка-красавица, а у нас есть купец молодой, договоримся, может продадите нам свою красавицу, и когда отец невесты говорит, что есть красавица, только что она сама скажет на ваше предложение, и когда в эту комнату входит невеста, тогда сваты, что принесли, выставляют на стол. Все садятся. После первой чарки невеста с женихом идут приглашать близких невесты и заручины гуляют всю ночь. В этот вечер невеста просит разрешения у матери жениха называть её матерью, а жених – у матери невесты называть её мамой.

Если невеста не согласна на брак, то при входе сватов в дом на стол ставили гарбуз или одевала наизнанку куртку, или что-то другое. Это значило, что она не согласна выходить замуж. Свадьбу назначали после заручин через месяц и более, чтобы могли приготовиться. Подруги вышивали простыни, полотенца, которыми во время свадьбы обвешивали образа, картины на стенке.

Невесту подруги наряжали, в косу вплетали очень много разных расцветок лент, до пяток.

Приглашённые невесты гуляли у невесты, а приглашённые жениха – у жениха. Потом жених с дружками ехал за невестой, а невесту к этому часу хавали так, чтобы жених долго искал. За невесту потом платили выкуп. После выкупа садили молодых за стол. Молодые сидели на куту под образами справа, дружок молодого сидел рядом с женихом, а подруга невесты – рядом с невестой, потом все приглашённые.

Погуляв у невесты, делят каравай, выпеченный крёстной матерью невесты. Крёстный отец держит блюдо, на нём лежит полотенце, потом ставят 2 стаканчика и кладут 2 кусочка каравая и приглашают родителей невесты. Те дарят подарки с пожеланиями и выпивают наполненные стаканчики, и берут кусочки каравая. Потом вызывают близких, родственников и друзей. Вместе с подарками были пожелания:

Дарю мешок меди, чтобы дети рождались, как медведи.

Дарю коробку шпонок, чтобы жених не любил других жёнок.

Дарю мешок бураков, чтобы невеста не любила чужих мужиков.

Мать невесты в сундук складывала приданное (одеяло, подушки, простыни, покрывало и вышитые полотенца, икону Божьей матери), и жених забирал невесту на повозках, запряжённых по паре лошадей, украшенных лентами и с колокольчиком. На первой повозке сидели молодые с сундуком и свидетелями, а на остальных родственники и приглашённые. Подъезжая к дому жениха, улицу соседи перегораживали, встречали с песнями и требовали выкуп. Дома молодых мать жениха встречала с иконой, с хлебом-солью. Приглашали за стол первых молодых. Им на скамейку стелили кожух овчиной кверху, чтобы молодые жили в достатке. Молодой косу должен расплести брат невесты (родной или двоюродный).

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Гранавай Ганны Іванаўны, 1941 г.н.*
*(перасяленка з г.Чачэрску ),*
*студэнткай Юрасік Т. (2002 г.)*